АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСКАЙ ССР
Інстытут мовазнаўства імя Якуба Коласа

# ЭТЫМАЛАГІЧНЫ СЛОЎНІК БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

Том 1

А—Б

МІНСК
«НАВУКА І ТЭХНІКА»
1978

В. У. МАРТЫНАЎ: *а — амяга;* А. Я. СУПРУН: *анагдысь—~~аўнула;~~* аўгурын
Г. А. ЦЫХУН: *~~афект~~ —ая;* аўзоц Р. У. КРАЎЧУК: *б—бячэйка*

Р э д а к т а р
доктар філалагічных навук В. У. Мартынаў

Р э ц э н з е н т ы:
член-карэспандэнт АН СССР А. М. Трубачоў,
кандыдат філалагічных навук Л. Ц. Выгонная,
кандыдат філалагічных навук Б. І. Касоўскі

Э 89 **Этымалагічны** слоўнік беларускай мовы, т. 1. А—Б/ [В. У. Мартынаў, А. Я. Супрун, Г. А. Цыхун і інш.; Рэд. В. У. Мартынаў].—Мн.: Навука і тэхніка, 1978.—440 с.

Першы том этымалагічнага слоўніка прысвечаны гісторыка-словаўтваральнаму і лінгвагеаграфічнаму тлумачэнню слоў беларускай літаратурнай мовы і яе дыялектаў на літары А—Б.

**Э $\frac{70105-157}{М316-78}$ 57—76** **4С(Бел)**

## УВОДЗІНЫ

Беларуская лексіка недастаткова прадстаўлена ў параўнальна-гістарычнай лексікалогіі славянскіх моў. Гэта тлумачыцца не яе адносна меншай вывучанасцю (у апошнія гады беларуская лексікаграфія зрабіла рашучы крок наперад). Лексіка кожнай мовы можа паспяхова выкарыстоўвацца ў параўнальных штудыях толькі тады, калі вызначана яе спецыфіка (словаўтваральная, семантычная, лінгвагеаграфічная), калі дастаткова высветлены склад яе іншамоўных элементаў (ад запазычанняў да калек) [1].

Такім чынам, бліжэйшая задача — вызначыць спецыфічны беларускі этымалагічны ландшафт. Трэба сказаць, што гэта задача застаецца нявырашанай для рада славянскіх моў, у тым ліку тых, якія маюць этымалагічныя слоўнікі. Нельга лічыць яе вырашанай нават для рускай мовы [2], нягледзячы на наяўнасць такога ўзорнага слоўніка, як этымалагічны слоўнік Фасмера. Справа ў тым, што большасць этымалагічных слоўнікаў, у тым ліку прысвечаных апісанню жывых моў, арыентуецца на старажытны, прамоўны пласт лексікі, а познія працэсы толькі зрэдку знаходзяць у іх сваё адлюстраванне. Недастаткова, напрыклад, распрацавана ў Фасмера (у адрозненне ад Слаўскага) спецыфіка словаўтварэння. І сам Фасмер у пасляслоўі да слоўніка пісаў: «Калі б мне давялося пачынаць работу зноў, я аддаў бы больш увагі калькам і семасіялагічнаму боку» [3]. Між тым іменна праз словаўтваральныя і семасіялагічныя дэталі найбольш глыбока высвятляецца спецыфічны этымалагічны ландшафт мовы. Калі гэтыя аспекты застаюцца па-за ўвагай, мы фактычна ствараем не этымалагічны слоўнік жывой мовы, а штосьці накшталт гібрыда слоўніка прамовы і гістарычнага слоўніка.

---

[1] Параўн.: В. У. Мартынаў. Беларуская этымалогія. БЛ 1972, 1; В. В. Мартынов. Белорусский этимологический ландшафт. Slawische Wortstudien. Bautzen, 1975; В. У. Мартынаў. Этымалогія і лінгвістычная геаграфія. БЛ, 1976, 9.

[2] Параўн.: V. Kiparsky. On the Stratification of the Russian Vocabulary. «Oxford Slavonic Papers». New Series, vol. IV, 1971, стар. 1—11.

[3] М. Фасмер. Этимологический словарь русского языка, т. I. М., 1964, стар. 14.

На нашу думку, этымалагічны слоўнік жывой народнай мовы з усім багаццем яе дыялектнага разгалінавання павінен вырашаць наступныя задачы.

1. Ён павінен адлюстроўваць словаўтваральныя і семантычныя архаізмы. Для гэтага трэба ўлічыць усе дыялектныя адхіленні ў лексіцы, бо папярэдне невядома, наколькі архаічнымі яны могуць аказацца. Кожная славянская мова змяшчае ў сабе пэўную колькасць лексем, каранёў і словаўтваральных фармантаў, якія ўзыходзяць да розных перыядаў моўнага развіцця (індаеўрапейскага, балта-славянскага, праславянскага). Аднак для этымалагічнага ландшафту дадзенай славянскай мовы істотным з'яўляецца прасторава-часавае размеркаванне гэтых элементаў адносна іншых славянскіх моў. Асабліва цікавыя вузкарэгіянальныя рэліктавыя ўтварэнні тыпу бел. (рэч.) *шума* 'лес'[4] або бел. (слуц.) *хвораст* 'малады лес'. Першае з іх мае вядомыя паўднёваславянскія паралелі, другое — паўночнаславянскія, што гарантуе іх праславянскую старажытнасць. Калі ўлічваць такія лакальна абмежаваныя архаізмы, абсяг праславянскай лексікі ў беларускім слоўніку рэзка павялічыцца, а аналіз вузкарэгіянальных рэліктавых утварэнняў дасць магчымасць выдзеліць у межах беларускай моўнай тэрыторыі зоны лексічнай кансервацыі. Мы ўжо звярталі ўвагу на адну з такіх зон (Усходняе Палессе)[5]. Этымалагічны аналіз беларускай лексікі выяўляе і іншыя архаічныя зоны, у прыватнасці віцебскую, якая шчыльна прылягае да паўднёвапскоўскай, ствараючы з ёй нейкую лакальную моўную еднасць.

Сярод віцебскіх архаізмаў вялікую цікавасць маюць *атока* 'рукаў ракі' і *аканаваць* 'абяцаць, мець намер'. Першае з іх мае поўную адпаведнасць у серб.-харв. *ȍтока* 'рукаў ракі'. Бел. (віц.) *атока* і серб.-харв. *ȍтока,* відавочна, ідэнтыфікуюцца з укр. (закарп.) *отока*[6] 'рачны востраў' (у першым выпадку — 'тое, што абцякае', у другім — 'тое, што абцякаецца'). Другі марфалагічны тып гэтай лексічнай групы зафіксаваны ў рус. *оток* 'рачны востраў', укр. *отік* 'тс', серб.-харв. *ȍток* 'востраў', славен. *otok* 'тс', ст.-польск. *otok* 'тс'[7]. Нарэшце, трэці марфалагічны тып — заходнепалеск. *обыток* 'рачны востраў' і яго анамастычныя паралелі (*обиточная ко-*

---

[4] Р. М. Малько. Бел. шума. БЛ, 1972, 1, стар. 71—72.
[5] Гл.: Лексіка Палесся ў прасторы і часе. Мінск, 1971, стар. 197.
[6] Й. О. Дзендзелівський. Українські назви для 'острова на річці'. Studia Slavica, т. XII, 1966, стар. 104.
[7] Параўн.: M. Jurkowski. Ukraińska terminologia hydrograficzna. Wrocław—Warszawa—Kraków—Gdańsk, 1971, стар. 125.

*са, обыточка*) з *оbь*-прэфіксацыяй. Беларуска-сербскахарвацкая ізалекса дае магчымасць рэканструяваць прасл. *otokъ* 'рачны востраў', супрацьпастаўленае прасл. *ostrovъ* 'востраў' (магчыма, марскі).

Больш спрэчнай, відавочна, з'яўляецца этымалогія бел. (віц.) *аканаваць* 'мець намер'. Мы лічым, што гэта лексема можа быць генетычна суаднесена з серб.-харв. *ка́нити* 'мець намер', балг. *каня* 'тс'. Беларускі і сербскахарвацкі дзеясловы маюць тое ж самае мадальнае значэнне і ўжываюцца з інфінітывам у фразах тоеснай структуры. Параўн. бел. *аканаваў прадаць на праднолог цёлку* і серб.-харв. *što kanite i odlučujete učiniti?*[8] Беларуска-сербскахарвацка-балгарская ізалекса дае магчымасць рэканструяваць прасл. *kaniti/kanovati* 'мець намер', якое, магчыма, суадносіцца з лац. *cōnor* 'задумваць'[9].

Мы вызначаем архаізмы і інавацыі ў адпаведнасці з вядомымі прынцыпамі М. Барталі[10]. Архаізмы, якія прыводзіліся вышэй, былі выяўлены на аснове генетычнай суаднесенасці беларускіх рэгіянальных лексем з паўднёваславянскімі, у першую чаргу сербскахарвацкімі. Наяўнасць разарванай тэрыторыі і адсутнасць міграцыйных сувязей паміж гэтымі перыферыйнымі моўнымі арэаламі з'яўляецца неабходнай папярэдняй умовай для рэканструкцыі праславянскіх архаізмаў. Эфектыўнасць гэтых прынцыпаў можа быць прадэманстравана на прыкладах, важных для вызначэння беларускага этымалагічнага ландшафту. Так, бел. *(а)балонка* і яе славянскія паралелі (укр. *болона,* польск. *błona,* чэш. *blána,* славац. *blana*) параўноўваюцца з лац. *follis* 'пузыр' (і.-е. **bholnis*), хаця кампактная тэрыторыя зніжае вартасць непасрэднага супастаўлення з лацінскімі формамі. Тое самае адносіцца і да ст.-грэч. φόλις 'скура рэптылій'. В. Махэк прапанаваў цікавую гіпотэзу аб генетычнай сувязі разглядаемай лексемы і прасл. *pel(e)na*[11] (рус. *пелена,* балг. *пелена,* серб.-харв. *пелѐна,* славен. *pelenica, plenica,* чэш. *pléna,* славац. *plena* 'абалонка, заслона'). Пры бездакорнасці семантычнага боку даводзіцца дапусціць у гэтым выпадку змяшэнне *p/b*. Лінгва-

---

[8] Прыклады адпаведна: М. І. Каспяровіч. Віцебскі краёвы слоўнік. Віцебск, 1927, стар. 18 і Rječnik hrvatskoga ili srpskoga jezika, d. IV. Zagreb, 1892—1897, стар. 820.

[9] Супраць суаднясення балгарскіх форм і лацінскіх A. Walde. Lateinisches etymologisches Wörterbuch. Bd. I. Heidelberg, 1938, стар. 262.

[10] M. Bartoli. Introduzione alla neolinguistica. Genève, 1925, стар. 6—7. Параўн.: Лексіка Палесся..., стар. 7.

[11] V. Machek. Etymologický slovník jazyka českého. Praha, 1968, стар. 55 і 458.

геаграфія, аднак, сведчыць у карысць такога супастаўлення. Лексемныя варыянты **bolna* і **pelna* знаходзяцца ў арэальным дадатковым размеркаванні: **bolna* — захад і цэнтр (кампактная тэрыторыя), **pelna* — усход і поўдзень (разарваная тэрыторыя). Варыянт, засведчаны на разарванай тэрыторыі, павінен быць больш старажытным, першасным. Слушнасць гэтага сцвярджаюць індаеўрапейскія адпаведнікі: літ. *plẽnė* 'плеўка', лац. *pellis* (<**pelnis*) 'скура' і інш. Як нядаўна давёў Х. Андарсан, у зусім аналагічным плане можа быць разгледжана гісторыя варыянтаў славянскага прэфікса *ot-/od-*. Варыянт *ot-* захаваўся на разарванай тэрыторыі, на крайняй перыферыі славянскага свету (рус. *от-*, балг. *от-*, в.-луж. *wot-*, н.-луж. *wót-*) [12], і іменна ён, як больш старажытны, першасны, мае надзейныя індаеўрапейскія паралелі (літ. *at-*, ст.-інд. *áti-* і інш.). На ўсходзе граніца паміж варыянтамі *ot-* і *od-* (бел. *ад-*) праходзіць па беларускай тэрыторыі. Андарсан тлумачыць гэты феномен уздзеяннем закона Барталі [13].

2. Этымалагічны слоўнік павінен адлюстроўваць усе інавацыі, у тым ліку тэрытарыяльна абмежаваныя. Дакладны этымалагічны аналіз агульнабеларускай і рэгіянальнабеларускай лексікі дазваляе рэканструяваць рад новых праславянізмаў. Аднак праславянскі пласт беларускай, як і кожнай іншай славянскай мовы, параўнальна невялікі. Значна больш лексічных інавацый (тэрытарыяльна шырокіх і вузкіх), інфільтрацый (субстратных і кантактных), запазычанняў новага часу. Таму асноўная задача этымалагічнага слоўніка беларускай мовы — вызначэнне генезісу іменна гэтых пластоў лексікі. Зразумела, усякая інавацыя, якая ахоплівае больш або менш шырокую тэрыторыю, дапускае існаванне нейкага эпіцэнтра распаўсюджання лексемы праз міждыялектную інфільтрацыю, але апошнюю выявіць вельмі цяжка, асабліва тады, калі інавацыя ахоплівае блізкароднасныя дыялекты. Яскравым прыкладам такіх інавацый з'яўляюцца беларуска-ўкраінскія і беларуска-рускія [14].

Як мы ўжо адзначалі, паўночнабеларуская (віцебская) зона аб'ядноўваецца з паўднёвапскоўскай у некаторае прамежкавае адзінства. Віцебскія рэгіяналізмы маюць, як правіла, пскоўскія паралелі, а ў выпадках больш шырокіх беларуска-рускіх інавацый пскоўскія паралелі звычайна бліжэй да

[12] H. Andersen. The Change of *ot to *od a Central Slavic Innovation.— Die Welt der Slaven, Bd. XIV, H.3, 1969, стар. 315.

[13] Там жа, стар. 319.

[14] Гл. адпаведна: Беларуска-ўкраінскія ізалексы. Мінск, 1971 і Беларуска-рускія ізалексы. Мінск, 1973.

беларускага матэрыялу. Так, бел. (віц.) *абаніты* 'распешчаны, свавольны, гарэзлівы' мае надзейны адпаведнік у рус. (пск.) *обанитый* 'свавольны, распешчаны, хітры'. Трэба думаць, *абаніты*<**абабніты;* параўн. рус. *бабнить* 'спавіваць' і рус. (арханг.) *банить* 'тс'. Характэрны беларуска-паўночнарускі паралелізм сустракаецца таксама і ў радзе іншых прыкладаў.

Вельмі цікавыя бел. (мін.) *адлёт* 'лоўкі, смелы' і бел. (маг.) *адлётны конь* 'цудоўны, дзіўны конь'. Паралелі да іх: рус. (пск.) *атлёт* 'бойкі чалавек', (валаг.) *атлётистый* 'удалы' і на больш шырокім арэале рус. *залёт, залётный* (у тым ліку і *кони залётные)* [15]. Этымалогія гэтай лексемы вельмі цяжкая. Польскія дублеты *zalety/zaloty* і *zaletny/zalotny* сведчаць аб змяшэнні дзвюх розных па паходжанню лексічных груп, якія ўзыходзяць да прасл. *lětiti* 'дазваляць, даваць волю' і *letěti* 'ляцець' (бел. маг. *лець* 'можна, дазваляецца' і *лётаць*).

Нарэшце, цікава разгледзець яшчэ адзін прыклад беларуска-рускай лексічнай інавацыі: бел. (маг.) *алесіца* (<**акалесіца)* 'лухта, глупства', *алесіць* 'гаварыць лухту', рус. *околёсица, околёсина* 'лухта, глупства'. Яшчэ Ф. Міклашыч [16] тлумачыў рускае слова як вытворнае ад *колесо (околёсить*—говорить вокруг да около<*околёсить*—объезжать). Зусім аналагічная па сэнсу беларуска-ўкраінская ідыёма: бел. *з'ехаць з глузду* і ўкр. *з'їхати з глузду* [17]. Семантычная паралель: лац. *delīrus* 'вар'ят' (<'той, хто сышоў з баразны'; *līra* 'баразна'). Што датычыць формы бел. *алесіца, алесіць,* то ў гэтым выпадку не выключаны народнаэтымалагічны ўплыў бел. *куралесы* 'небыліца' (рус. *куролесить*)<грэч. Κύριε 'ελέησον 'Пане, змілуйся'.

Тэрытарыяльна больш вузкімі, чым беларуска-ўкраінскія і беларуска-рускія, з'яўляюцца інавацыі агульнабеларускія. Аб іх мы мяркуем па адсутнасці іншаславянскіх і індаеўрапейскіх паралеляў. Усякае argumentum ex silentio не мае дастатковай надзейнасці. І ўсё ж такі мы вымушаны карыстацца гэтай методыкай у тых выпадках (яны складаюць яўную большасць), калі ў словаўтваральным працэсе не ўдзельнічаюць спецыфічныя для дадзенай мовы фарманты.

Такой інавацыяй з'яўляецца, напрыклад, бел. (маг.) *адсачаць* 'адстаць (пра кару дрэва вясной)', (мін.) *адсачыцца*

[15] А. Кошелев. Этимологические заметки. Известия на института за български език, кн. II, 1964, стар. 219—226.

[16] F. Miklosich. Etymologisches Wörterbuch der slavischen Sprachen. Wien, 1886, стар. 124.

[17] Лексіка Палесся..., стар. 14.

'адрадзіцца'. Маецца на ўвазе вясенняе адраджэнне прыроды, параўн. беларускую назву першага вясенняга месяца — *сакавік*. З'яўленне пад карой соку прыводзіць да таго, што кара пачынае адставаць. Іншы прыклад. Усходнебеларускім (магілёўскім і смаленскім) з'яўляецца *азяліцца* 'адурэць ад зелля', *азяляць* 'марочыць каго-небудзь, спакушаць', *азёл* 'мана, вядзьмарства' і г. д. Этымалогія гэтай лексічнай групы празрыстая, словаўтваральныя сродкі звычайныя, але за межамі дадзенага арэала паралеляў для яе не выяўлена.

3. Этымалагічны слоўнік павінен адлюстроўваць усю запазычаную лексіку.

Для беларускай лексікі гэта праблематыка звязана ў першую чаргу з балтыйскімі інфільтрацыямі, сярод якіх мы адрозніваем субстратныя і кантактныя. Да субстратных інфільтрацый розных перыядаў адносяцца беларускія дыялектныя лексемы балтыйскага паходжання ў раёнах, не сумежных з балтыйскай моўнай тэрыторыяй. Частка такіх інфільтрацый пашыраецца на досыць вялікія прасторы і ахоплівае зону распаўсюджання беларускай, украінскай і часткова польскай моў. Некаторыя з іх выглядаюць асобнымі астравамі ў тым ці іншым раёне Беларусі, які зараз ужо не мяжуе з балтамоўным насельніцтвам.

Да ліку першых, як мы лічым, адносіцца бел. *адліга, адлега*, укр. *відлига, відлега*, польск. *odliga, odelga*. Характэрнай асаблівасцю лінгвагеаграфіі беларускага слова з'яўляецца тое, што варыянт *адліга* не сустракаецца ў цэнтральнай зоне (на Міншчыне), дзе яго замяняе *адлега*. Зыходзячы з генетычнай сувязі прасл. *lьga, lьzě* і польск. *zima lga* 'лёгкая зіма', *dziś je lgo* 'сёння не замёрзла', можна меркаваць аб адзіным паходжанні *адліга, адлега* і *лёгкі*[18]. Можна таксама рэканструяваць у якасці зыходнай формы дзеяслоў **ot-lьg-nǫti* (чэш. *odlehnouti*, серб.-харв. *одлáкнути*), дзе ненацікное *-ль-* на беларускай і ўкраінскай моўнай глебе перайшло адпаведна ў *-лі-* і *-ли-*[19]. Аднак лінгвагеаграфія сведчыць у карысць балтыйскага паходжання *адліга/адлега*. Асабліва паказальная польская тэрыторыя[20], дзе пры дамінацыі *odwilż* на краях арэала сустракаюцца таксама *otliga, odliga, odliż* і *odelga*. Іншыя славянскія тэрыторыі не ведаюць гэтага слова. У літоўскай мове знаходзім непасрэдную крыніцу запазычання:

---

[18] J. Zubatý. Studie a články, I, 1. Praha, 1945, стар. 61.

[19] Р. В. Кравчук. Рец. на словарь Рудницкого. Вопросы языкознания, 4, 1968, стар. 131.

[20] W. Kupiszewski. Słownictwo meterologiczne w gwarach i historii języka polskiego. Wrocław, 1969, карта 12.

літ. *atlẽgti* 'адлегчы (пра мароз)' і *àtlėga* 'адліга'. Параўн. бел. (мін. і літаратурн.) *мароз адлёг* і літ. *šaltis atlẽgo.* Тады варыянт *адлега* першасны, а *адліга* ўзнікла на яго аснове. Так, усх.-палес. *адл'егаць* 'вымакаць', а *адліглы* 'вымаклы'. Магчыма, варыянт *адліга* ўзнік пад уплывам дзеяслова *ліць* [21].

У якасці астраўных субстратных інфільтрацый можна прывесці два прыклады: бел. (мін.) *абжаргаць* 'абняць нагамі', *ажыргнуць* 'пераступіць цераз што-небудзь', *адшунуць* 'адбегчы'. Цікава, што для першага з гэтых прыкладаў ёсць паралель з тэрыторыі, сумежнай з балтыйскай: бел. (гродз.) *ажыргаць* 'асядлаць каня' (літ. *žìrgas* 'конь') [22]. Цэнтральнабеларускае *абжаргаць* мае непасрэдную крыніцу ў літ. *apžeřgti, apžargýti* з тым жа значэннем. Крыніцай для лексемы *адшунуць* з'яўляецца балтыйская форма, генетычна тоесная літ. *šáuti, šaunù* 'хутка бегчы'. Гэта інфільтрацыя ў цэнтральнабеларускай зоне старажытная (да падзення дыфтонгаў). Сярод магчымых кантактных інфільтрацый можна назваць наступны прыклад: бел. (маладз.) *абэржа* 'здаровая, мажная жанчына' (літ. *beřžti* 'здаравець, мажнець'), якое нельга змешваць з аманімічным *абэржа* 'прасторны дом' (<польск. *oberża* 'карчма'<франц. *auberge* 'тс').

Найбольш інтэнсіўная кантактная інфільтрацыя назіраецца з боку польскай і рускай моў, прычым з XX ст. першая паступова выцясняецца другой. Польскія запазычанні складаюць значны пласт у беларускай мове. Апрача таго што польская мова была пераносчыкам лексікі, звязанай з культурным уплывам, назіраліся таксама шырокаарэальная і вузкаарэальная інфільтрацыі. Шырокаарэальныя інфільтрацыі ахоплівалі або беларуска-ўкраінскую моўную тэрыторыю, або толькі беларускую.

Вялікую цікавасць маюць вузкаарэальныя інфільтрацыі тыпу: бел. (мін.) *абабэнчыць* 'аб'есціся (пра жывёлу)'< польск. *obębnić się* 'тс' (да *bębien* 'бубен'); бел. (усх.-палеск.) *абарак* 'валік на плузе або на возе'<польск. *bark* 'тс' (польск. *barki* 'плечы'); бел. (полац.) *абэлка* 'абвінавачанне'<польск. *obelga* 'абраза' і інш.

Працэс інфільтрацыі рускай лексікі ў значнай меры ўзмацніўся ў пасляваенны час. Можна меркаваць, што ў матэрыялах беларускага этымалагічнага слоўніка русізмаў значна больш, чым іх будзе зафіксавана ў слоўнікавых артыкулах,

---

[21] V. Swoboda. Some Problems of Byelorussian Vocabulary.— Studies in Slavic Linguistics and Poetics. New York—London, 1968, стар. 246.

[22] V. Urbutis. Darbatinės baltarusių kalbos lituanizmai. Baltistica, I(1), 1969, стар. 59.

але выявіць іх значна цяжэй, чым паланізмы, што тлумачыцца вядомай беларуска-рускай дыялектнай блізкасцю.

4. Этымалагічны слоўнік павінен адлюстроўваць усю экспрэсіўную лексіку, арыгінальную і запазычаную. Гэта задача найбольш складаная, хоць і не самая важная. Узнікненне экспрэсіўнай лексікі суправаджаецца кантамінацыйнымі працэсамі, вылучэннем своеасаблівых словаўтваральных сродкаў, шматступеннай адаптацыяй запазычанняў. Тлумачыцца гэта амаль што поўнай адсутнасцю намінатыўнай функцыі ў лексемах гэтага тыпу. У нейкай меры іх можна параўнаць з анамастычнымі адзінкамі, дзе адсутнасць семантычнай характарыстыкі таксама прыводзіць да шматлікіх фармальных перабудоў, прыпадабненняў і адаптацый. Экспрэсіўную лексіку трэба вывучаць метадам семантычных палёў. Папярэдні разгляд праблемы паказвае, што такіх палёў у ёй вельмі мала і кожнае з іх мае вялікае напаўненне. Такая работа на славянскім матэрыяле ўвогуле і на беларускім у прыватнасці яшчэ не выканана, і аўтарам этымалагічнага слоўніка даводзецца яе выконваць самастойна. Разгледзім канкрэтныя прыклады. Вядома, што экспрэсіўным семантычным полем з вялікім напаўненнем з'яўляецца поле (адсцябаць). Фрагмент гэтага поля ў межах першага тома этымалагічнага слоўніка ўключае такія дзеясловы, як *аджджвічыць, аджджубасіць* і *адчубасіць.* Ужо гэтыя прыклады сведчаць пра немагчымасць і немэтазгоднасць іх паасобнага разгляду. Бел. *аджджвічыць* 'адхвастаць, высцебаць' з'яўляецца фанетычным варыянтам да *цвічыць.* Магчыма, пад уплывам звонкага *д* у прэфіксе *ад-*. *Цвічыць* — запазычанне з польск. *ćwiczyć*, а там у сваю чаргу з нямецкай. Бел. *аджджубасіць* з'яўляецца ўжо кантамінацыйнай формай ад *аджджвічыць* і *аддубасіць.* Пра цесную сувязь другога дзеяслова з першым сведчыць супадзенне іх арэалаў (усходняя Магілёўшчына). Бел. *адчубасіць* (Міншчына) ідзе да *аддубасіць,* якое кантамінавалася з *чуб.* Гэтаму экспрэсіўнаму семантычнаму полю прысвечаны асобны (№ 15) артыкул у «Народнай сінаніміцы» Юрчанкі[23], але з прыведзеных вышэй прыкладаў відаць, наколькі недастаткова сабраны матэрыял па экспрэсіўнай лексіцы (ні першы, ні другі прыклад з Магілёўшчыны не трапіў у слоўнік Юрчанкі). Увогуле сярод збіральнікаў народнай лексікі назіраецца тэндэнцыя ўключаць з экспрэсіўнай лексікі ў слоўнікі толькі «найменш» экспрэсіўныя словы, словы, якія лічацца «ўнармаванымі».

---

[23] Г. Ф. Юрчанка. Народная сінаніміка. Мінск, 1969, стар. 32.

Аналізуючы тры прыклады экспрэсіўных дзеясловаў, мы зафіксавалі адзін паланізм. І не выпадкова. У экспрэсіўнай лексіцы, як гэта ні парадаксальна, шмат іншамоўных пранікненняў. Мы падкрэсліваем: не запазычанняў, звязаных з гаспадарчым і культурным уплывам, а пранікненняў, інфільтрацый ад носьбітаў тых моў, якія знаходзіліся з носьбітамі дадзенай мовы ў працяглых кантактных або субстратных адносінах. Паколькі семантыка ў экспрэсіўнай лексіцы мае толькі другараднае значэнне, яна лёгка адаптуецца ў іншай мове. Стымулам жа да яе пераходу ў мову суседзяў заўсёды з'яўляецца яе адмоўная эмацыянальная афарбоўка (яны гавораць не так, як мы, смешна іх слухаць і г. д.). Цікава з гэтага пункту погляду прааналізаваць фрагмент наступнага экспрэсіўнага семантычнага поля (№ 16 у Юрчанкі) (абстрыгчы). Сярод іншых сінонімаў тут прыводзяцца *аббалваніць* і *абгалаганіць*. Этымалогія першага досыць празрыстая *(балван)*. Другі — гэта таксама паланізм нямецкага паходжання *gałgan* (ням. *Galgen* 'шыбенік, шыбеніца') [24]. У ліку аргументаў на карысць гэтай этымалогіі — выбухное *г* у беларускіх прыкладах. Да таго ж экспрэсіўнага семантычнага поля можна дадаць *абамберыць* 'дрэнна пастрыгчы, як авечку' (Глушчына, Гродзеншчына). Паходжанне гэтага дзеяслова, відаць, з літ. *bámbaras* 'густая воўна' і 'нягоднік'. Калі ў выпадках з паланізмамі мы сустрэліся з кантактнай інфільтрацыяй, дык у выпадках з літуанізмамі наглядаецца кантактна-субстратная інфільтрацыя, паколькі яна ахоплівае вельмі працяглы час ад славянізацыі ўсходніх балтаў (VIII ст.) да нядаўніх кантактаў паміж жыхарамі беларускіх і літоўскіх вёсак. Лексема ж *абамберыць* пранікла на беларускую моўную глебу ці ўзнікла на ёй пад уплывам *bámbaras* пасля падзення насавых.

Яшчэ больш цяжкая праблема — праблема калек у народнай экспрэсіўнай лексіцы. Ясна, што кантактна-субстратны ўплыў праходзіў не толькі ў межах лексічных пранікненняў, інфільтрацый. Ва ўмовах білінгвізму калькаванне не менш распаўсюджана, чым інфільтрацыя, але выявіць калькі значна цяжэй. І ўсё ж, як адзначыў Фасмер, выяўляць і тлумачыць калькі ў этымалагічных слоўніках неабходна. Разгледзім адзін прыклад, які, на нашу думку, можна трактаваць як кальку. Бел. (гродз.) *абертуха* 'вялікі кавалак хлеба', зах.-палеск. *обэртуха* 'тс', усх.-палеск. *обертка, обэртушка, абіртня, абярня* 'скібка хлеба праз усю круглую булку'. Сюды ж

---

[24] F. Sławski. Słownik etymologiczny języka polskiego, t. I. Kraków, 1952—1956, стар. 252—253.

*абэльтух* 'абжора'. Ці не ад *ob-vьr-ti* 'абгарнуць' ('абгарнуць' — 'кругом бохана абрэзаць лусту'). Ва ўсякім разе, з пункту погляду рэгулярнага словаўтварэння, *абертуха* і *абертух* (>*абельтух*)<*аберт-* <**ob-vьrt-*. Семантычная матывацыя, аднак, цяжкая. Таму трэба ўлічваць магчымасць калькіравання. Крыніцай калькі было б тады літ. *gãbalas* 'вялікі кавалак', *gobùs* 'прагны', *gòbti* 'абгортваць, ахопліваць' (параўн. бел. *абвяртаць*=літ. *apgòbti*). Верагоднасць калькавання падмацоўваецца арэалам лексемы. Даследаванне экспрэсіўнай лексікі сведчыць пра значна больш шырокую сферу балтыйскага ўплыву, чым пра гэта можна даведацца нават з апошніх прац і дыскусій у гэтай галіне[25]. І гэта цалкам зразумела, бо экспрэсіўны пласт лексікі часцей за ўсё застаецца па-за ўвагай даследчыкаў.

5. Этымалагічны слоўнік павінен адлюстроўваць усе даступныя даныя аб геаграфічнай стратыфікацыі лексікі.

Сучасная лінгвістычная геаграфія — навуковая галіна, якая ўзнікла на сумежжы лінгвістыкі і геаграфіі. Больш дакладна — яна выкарыстоўвае тэхнічныя магчымасці геаграфіі для фіксацыі прасторавага размеркавання моўных з'яў і ў такім сваім выглядзе, застаючыся цалкам апісальнай, не мае эўрыстычнага значэння. Але лінгвістычная геаграфія можа быць выкарыстана як магутны інструмент для даследавання глота- і этнагенезу, для канкрэтнай этымалагічнай працы. Яе роля тут няспынна расце, але пакуль што яна істотна не палепшыла эўрыстычныя магчымасці этымалогіі. Гэты факт можна растлумачыць наступным чынам. Этымолагі яшчэ не адчулі неабходнасці выкарыстання лінгвагеаграфічных даных для рашэння пэўных задач. Яны карыстаюцца такімі данымі факультатыўна, без дакладна акрэсленых мэт, ствараючы своеасаблівы фактаграфічны арнамент. Між тым лінгвістычная геаграфія не толькі эфектыўна дапамагае вырашаць класічныя задачы этымалогіі нават тады, калі іншыя методыкі даследавання не даюць вынікаў, але таксама стварае магчымасці для пастаноўкі новых задач, не традыцыйных у этымалогіі. Такім чынам, узнікаюць умовы для карэкцыі не толькі ў выніках этымалагічных даследаванняў, але і ў вызначэнні задач этымалогіі, якія прыводзяцца ў адпаведнасць з магчымасцямі лінгвагеаграфічнай методыкі.

Традыцыйна асноўнай мэтай этымалагічнага даследавання лічыцца вызначэнне этымона, г. зн. рэканструкцыя пер-

---

[25] Лексічныя балтызмы ў беларускай мове. Мінск, 1969; V. Urbutis. Dabartinės baltarusių kalbos lituanizmai. «Baltistica», V(1), (2), 1969; Ю. Лаучюте. Лексические балтизмы в славянских языках. ВЯ, 3, 1972.

шаснага значэння лексемы (і першаснай формы, калі яна істотна змянілася). Гэта задача не заўсёды можа быць вырашана дастаткова надзейна, паколькі існуе магчымасць шматразовай дээтымалагізацыі (resp. рээтымалагізацыі лексемы) і розных кантамінацыйных працэсаў. Пошукі этымона абапіраюцца на вопыт параўнальнай семантыкі (так званыя семантычныя паралелі) і, як правіла, ігнаруюць рэальную стратыграфію лексемы ў прасторы і часе, не гаворачы ўжо пра тое, што кожная лексема разглядаецца як адзінка, ізаляваная ад сваёй семантычнай мікрасістэмы. Між тым дакладнае вызначэнне этымона магчыма толькі пасля вырашэння пытання аб прастора-часавых каардынатах адпаведнай лексемы.

Традыцыйныя пошукі этымона заўсёды абапіраюцца на вядомы прынцып: перш чым звярнуцца да іншамоўных крыніц, трэба растлумачыць слова зыходзячы з унутраных сродкаў, г. зн. сродкаў той моўнай глебы, дзе слова зафіксавана. Але аманімічная (resp. паранімічная) варыятыўнасць стварае такія шматлікія магчымасці для «этымалагізацыі», што тым, хто прытрымліваецца такога правіла, да іншамоўных крыніц так і не даводзіцца звярнуцца (нават тады, калі гэтыя крыніцы цалкам надзейныя). Іншая справа — дамінацыя лінгвагеаграфічнага крытэрыю. Прэвентыўныя пошукі ў прасторы (у межах тэарэтычна магчымага арэала) павінны ахоўваць даследчыкаў ад этымалагічных ілюзій.

Аналіз канкрэтных прыкладаў паказаў справядлівасць тэзіса аб прэвентыўным пошуку ў прасторы. Дакладнае вызначэнне этымона сапраўды магчыма толькі пасля вырашэння пытання аб прастора-часавых каардынатах адпаведнай лексемы.

Разгледзім прыклад, у якім выкарыстанне дадзенай методыкі дае істотна новыя вынікі.

Прасл. *volъ* зафіксавана ва ўсіх славянскіх мовах і не мае індаеўрапейскіх паралеляў, таму можна меркаваць аб праславянскай інавацыі. Спробы этымалагізацыі ў традыцыйных межах пошуку этымона даюць наступныя рэзультаты [26]. Згодна з адной версіяй, *volъ* суадносіцца з *velikъ*, згодна з другой — з назвамі колеру, згодна з трэцяй — з польскім *wołać* (sic!) і г. д. Гэтыя версіі, паводле трапнай фармуліроўкі А. М. Трубачова, «носяць неабавязковы характар» [27]. Мы

[26] Гл.: О. Н. Трубачев. Происхождение названий домашних животных в славянских языках. М., 1960, стар. 43—44. Там жа астатняя літаратура.

[27] Там жа.

можам дадаць ад сябе, што магчымасці стварэння такіх версій тут далёка не вычарпаныя. Трубачоў рашуча выказваецца за этымалогію, згодна з якой прасл. *volъ* 'кастрыраваны бык' суадносіцца з рус. *валять* 'кастрыраваць', *валух* 'кастрыраваны баран, кабан', *валушок* 'кастрываваны бычок' і г. д. Семантычная аргументацыя тут бездакорная. Параўн. *skopъ* 'кастрыраваны баран' ад *skopiti* 'кастрыраваць'. Мы таксама за максімальнае павышэнне верагоднасці семантычнай аргументацыі. Версія аб сувязі *volъ* з рус. *валять* 'кастрыраваць' найбольш моцная з існуючых, але лінгвагеаграфічныя крытэрыі рэзка зніжаюць яе верагоднасць. Словы *валять* 'кастрыраваць', *валух, валушок* і інш. выключна рускія. Дзеяслоў *валять* 'кастрыраваць' семантычна паходзіць ад *валять* 'валяць', якое ўжо з'яўляецца праславянскай лексемай (параўн. серб.-харв. *вáљати* 'валяць, катаць' і інш.). Зафіксаваны тут семантычны зрух можна растлумачыць тэхнікай кастрыравання. Гэта зусім не азначае, што тэхніка, адлюстраваная ў рус. *валять* 'кастрыраваць', таксама новая і абмежаваная рускай тэрыторыяй, але гэта, пэўна, азначае тое, што дзеяслоў *валять* 'кастрыраваць' — руская інавацыя, а імёны *валух, валушок* і інш. былі ўтвораны ад гэтага дзеяслова таксама на рускай моўнай глебе і, такім чынам, прамых суадносін з прасл. *volъ* не маюць. Лексема *volъ* — праславянскае новаўтварэнне, і зыходная для яе форма павінна быць таксама праславянскай. Прасл. *volъ* безафіксальнае ўтварэнне з рэгулярнай для імён гэтага тыпу *o*-ступенню апафаніі (тыпу *vezti* — *vozъ*). Праславянскі першасны дзеяслоў **velti* не захаваўся, і ў гэтым няма нічога дзіўнага. Не захавалася абсалютная большасць першасных дзеясловаў у славянскіх мовах (у адрозненне ад балтыйскіх). Прасл. *vezti* (літ. *vèžti*) адзін з нямногіх у спісе славянскіх першасных дзеясловаў. Але мы з дастатковай верагоднасцю можам яго рэканструяваць на аснове прабалт. *velti* (літ. *vélti* 'валяць, катаць, біць, мяць', лат. *vel̃t* 'тс'). Такім чынам, прасл. *velti* 'валяць, катаць, біць, мяць' можа суадносіцца з прасл. *volъ*, як прасл. *vezti* з *vozъ*. Прасл. *volъ* тады азначае 'той, хто нешта валяе, коціць, б'е, мне'. Тут трэба ўлічыць, што валы выкарыстоўваліся старажытнымі славянамі на таку для малацьбы снапоў. Вол цягнуў за сабой цяжкі кавалак дрэва, які выконваў функцыю біча ад цэпа. Параўн. літ. *volẽ* 'драўляная калатушка', лат. *vàle* 'калатушка, біч ад цэпа' (рус. *вал* 'валок', славен. *val* 'каток') [28]. Такім чынам, можна меркаваць, што праславян-

[28] Параўн.: K. B u g a. Rinktiniai raštai, VI. Vilnius, 1959 стар. 645—646.

скія лексемы апафанічнага рада (*velti* — *volъ* — *valъ*) мелі адпаведныя значэнні 'валяць, каціць, біць, мяць, малаціць з дапамогай валоў на таку', 'вол як выканаўца гэтага працэсу' і 'драўляная калатушка, якую цягнуў вол, як прылада'. Тое, што сельскагаспадарчая жывёла можа быць названа па тыпу работы, якую яна выконвае, пацвярджае літоўскі лексічны рад *árti* 'араць' — *arklỹs* 'конь' — *árklas* 'плуг'. І нарэшце, іншае лінгвістычнае пацвярджэнне працэсу малацьбы з дапамогай валоў на таку. Як паказаў І. І. Лучыц-Федарэц, праславянскай лексемай, якая мела значэнне 'месца на двары, дзе малацілі, ток' была лексема *guтьпо*[29]. Згодна з традыцыяй, яна этымалагізуецца як складанае слова *gu-тьпо*, першая частка якога ўзыходзіць да і.-е. *$g^{u}$*ou* агульнаіндаеўрапейскай назвы буйной рагатай жывёлы, а другая — да і.-е. **men* 'мяць, валяць'. Такім чынам, толькі паслядоўнае выкарыстанне лінгвагеаграфічнай методыкі прымусіла нас адмовіцца ад вельмі верагоднай і спакуслівай версіі аб паходжанні прасл. *volъ*.

Мы закранулі пяць, на нашу думку, вельмі важных аспектаў беларускай этымалогіі ў сувязі са складаннем этымалагічнага слоўніка беларускай мовы.

Разгледжаныя аспекты, важныя для этымалогіі кожнай жывой мовы, маюць сваё спецыфічнае значэнне для беларускай этымалогіі. У апошнія часы ўсё больш аргументаў прыводзіцца на карысць асаблівых, больш цесных сувязей паміж беларускай і некаторымі іншымі, сёння не сумежнымі славянскімі мовамі (асабліва балгарскай і славенскай). Фіксацыя і тлумачэнне такіх ізалекс павінны дапамагчы прасачыць дагістарычны лёс славян — моўных папярэднікаў беларусаў. Не меншае значэнне мае фіксацыя і тлумачэнне беларускіх інавацый. Структура спецыфічна беларускага словаўтварэння, яе гістарычныя і лінгвагеаграфічныя паказчыкі не вывучаны, але гэтага і нельга было зрабіць без глыбокай распрацоўкі этымалагічнага матэрыялу. Мы ўжо не гаворым пра семантычныя асаблівасці беларускай мовы, распрацоўка якіх мела б вялікае значэнне для гісторыі матэрыяльнай і духоўнай культуры беларускага народа.

У сувязі з неабходнасцю ўліку гэтых аспектаў пэўную акрэсленасць атрымалі патрабаванні да збору лексічнага матэрыялу. Перш за ўсё аўтары этымалагічнага слоўніка павінны былі ўлічваць абсалютна ўвесь даступны ім матэрыял. Для гэтага апрача апублікаваных слоўнікаў (літаратурнай

---

[29] Лексіка Палесся ў прасторы і часе, стар. 180.

мовы, дыялектных, гістарычных) распісваліся картатэкі тлумачальнага і дыялектных слоўнікаў, рукапісныя слоўнікі і архіўныя матэрыялы, а таксама этнаграфічныя і фальклорныя выданні. Такі поўны ўлік матэрыялу даваў магчымасць (і то далёка не заўсёды) для стратыфікацыі беларускай лексікі ў прасторы і часе.

Пры тлумачэнні спрадвечнай лексікі аўтары не выкарыстоўвалі гістарычны каментарый. Гэта рабілася для таго, каб не дубліраваць гістарычны слоўнік. Даныя з яго браліся толькі для дацыроўкі запазычанняў.

Над слоўнікам працуе калектыў аўтараў: Р. У. Краўчук, І. І. Лучыц-Федарэц, Р. М. Малько, В. У. Мартынаў, А. Я. Міхневіч, А. Я. Супрун, Г. А. Цыхун і В. Дз. Лабко (з 1975 г.). Дапаможную работу ў апошнія чатыры гады выконвала Л. А. Мельнікава.

*В. У. МАРТЫНАЎ*

# СКАРАЧЭННІ

## КРЫНІЦЫ

Абабур. дыс.— М. В. Абабурка. Дыялектная лексіка ў беларускай савецкай мастацкай прозе (канд. дыс.). Мінск, 1971.

Анох.— В. В. Анохина, Н. В. Никончук. Полесская терминология пчеловодства. «Лексика Полесья». М., 1968.

Ант.— Анталогія беларускай народнай песні. Мінск, 1975.

Арх. Бяльк.— Архіў Бялькевіча (Інстытут мовазнаўства АН БССР).

Арх. ГУ — Дыялектныя кантрольныя работы па лексіцы і фразеалогіі студэнтаў-завочнікаў Гомельскага дзяржаўнага універсітэта.

Багд.— А. Богданович. Пережитки древнего миросозерцания у белорусов. Гродно, 1894.

Байк. і Некр.— М. Байкаў і С. Некрашэвіч. Беларуска-расійскі слоўнік. Мінск, 1925.

Бейл.— Д. А. Бейлина. Материалы для полесского ботанического словаря. «Лексика Полесья». М., 1968.

Бел. дыял.— Э. Блінава, Е. Мяцельская. Беларуская дыялекталогія. Мінск, 1969.

Бел. казкі — Беларускія казкі, запісаныя ад Пятра Гулевіча. Склаў П. Ахрыменка. Мінск, 1963.

Бір. Дзярж.— М. В. Бірыла. Слоўнік Дзяржыншчыны (рукапіс).

Бір. дыс.— М. В. Бірыла. Гаворкі Чырвонаслабодскага р-на Бабруйскай вобласці. Дадатак да канд. дыс. (рукапіс). Мінск, 1953.

БРС — Белорусско-русский словарь. М., 1962.

Буз.— П. Бузук. Да характарыстыкі беларускіх дыялектаў. Гутаркі Асіповіцкага раёна (Слоўнік). Запіскі аддзела гуманітарных навук. Працы класа філалогіі, т. 2, кн. 9. М., 1929.

Булг.— Д. Г. Булгаковский. Пинчуки. «Записки Русского географического общества по отделению этнографии», т. XIII, вып. 3. СПб., 1890.

Бяльк.— І. К. Бялькевіч. Краёвы слоўнік усходняй Магілёўшчыны. Мінск, 1970.

Бяс.— П. Бессонов. Белорусские песни с подробными объяснениями их творчества и языка, с очерками народного обряда, обычая и всего быта. М., 1871.

Ванк. дыс.— Л. А. Ванковіч. Лексіка твораў Янкі Купалы 1905—1907 гадоў (канд. дыс.) (рукапіс). Мінск, 1964.

В. В.— В. В. Дер. Загорье Волковыского уезда Гродненской губернии. «Виленский Временник», кн. II. Вильна, 1907.

Вешт.— Г. Ф. Вешторт. Названия пищи в говорах Полесья. «Лексика Полесья». М., 1968.

Вешт. дыс.— Г. Ф. Вештарт. Лінгвагеаграфічная дыферэнцыяцыя Прыпяцкага Палесся (на матэрыяле назваў ежы) (канд. дыс.). Мінск, 1969.

Влад.—Н. Г. Владимирская. Полесская терминология ткачества. «Лексика Полесья». М., 1968.

Выг. дыс.— Л. Ц. Выгонная. Палеская земляробчая лексіка. Дадатак да канд. дыс. (рукапіс). Мінск, 1969.

Вярэн.— В. Л. Веренич, А. А. Кривицкий. Лексика городненских гончаров. «Полесье» (Лингвистика. Археология. Топонимика). М., 1968.

Гарб.— Н. Горбачевский. Словарь древнего актового языка Северо-Западного края и Царства Польского. Вільна, 1874.

Гарэц.— М. Гарэцкі. Беларуска-маскоўскі слоўнік. Вільна, 1921.

Грыг.— И. И. Григорович. Собрание слов литовско-русского (белорусского) наречия по мужицкому выговору, 1838—1840 (рукапіс). ЦДЛА БССР (Мінск).

ДАБМ — Дыялекталагічны атлас беларускай мовы. Мінск, 1963.

Дзіц. фальк.— Дзіцячы фальклор. Мінск, 1972.

Дзмітр.— М. А. Дмитриев. Собрание песен, сказок, обрядов и обычаев Северо-Западного края. Вильна, 1869.

Др.-Падб.— Б. Друцкі-Падбярэзскі. Падручны беларуска-польскі слоўнік. Вільня, 1929.

Дразд.— Я. Драздовіч. Слоўнікавы матэрыял для беларускай этнаграфічнай энцыклапедыі. Піншчына (рукапіс), 1926 (Інстытут мовазнаўства АН БССР).

Дуж.-Душ.— К. Дуж-Душэўскі і інш. Слоўнік геаметрычных і трыганаметрычных тэрмінаў і сказаў. Kaunas, 1923.

Жд.— Матэрыялы для слоўніка мінска-маладзечанскіх гаворак. Мінск, 1970.

Жук.— П. И. Жуков. Рыбы Белоруссии. Минск, 1965.

З нар. сл.— З народнага слоўніка. Мінск, 1975.

Інстр.— Інструкцыя па збіранню матэрыялаў для складання абласных слоўнікаў беларускай мовы, I—III. Мінск, 1959—1966.

Інстр. лекс.— Інструкцыя па збіранню матэрыялаў для складання лексічнага атласа беларускай мовы. Мінск, 1971.

Казкі пра жывёл— Казкі пра жывёл і чарадзейныя казкі. Мінск, 1971.

Кап.— Капанасевич. Отличительные черты говора жителей Минской губернии. Архіў АН СССР. Ленінград.

Касп.— М. І. Каспяровіч. Віцебскі краёвы слоўнік. Віцебск, 1927.

Кіркор — А. Киркор. Белорусское Полесье. «Живописная Россия», 3, 1882.

Кіс.— А. Киселевский. Латинско-русско-белорусский ботанический словарь. Мінск, 1967.

Клім.— Ф. Д. Климчук. Специфическая лексика Дрогичинского Полесья. «Лексика Полесья». М., 1968.

Кліх — E. Klich. Teksty białoruskie z powiatu Nowogródzkiego. Słowniczek. Materiały i prace Komisii językowej Akademii Umiejętności, t. II. Kraków, 1907.

Кольб.— O. Kolberg. Dzieła wszystkie, t. 52. Białoruś-Polesie. Wrocław—Poznań, 1968.

Кос.— М. Н. Косич. Литвины-белорусы Черниговской губ., их быт и песни. «Живая старина», вып. 2—4, 1901.

Краш.— J. I. Kraszewski. Wspomnienia Wołynia, Polesia i Litwy, 1. Wilno, 1840.

Крыв.— А. А. Кривицкий. Из словаря полесских рыболовов. «Полесье» (Лингвистика. Археология. Топонимика). М., 1968.

КСГ — Картатэка слоўніка Гомельшчыны. Гомельскі дзяржаўны універсітэт.

КСП — Картатэка слоўніка Полаччыны (Інстытут мовазнаўства АН БССР).

КСТ — Картатэка слоўніка Тураўшчыны (Інстытут мовазнаўства АН БССР).

КТС — Картатэка тлумачальнага слоўніка сучаснай беларускай мовы (Інстытут мовазнаўства АН БССР).

Куч.— І. М. Кучук. Палескі дыялектны слоўнік. Спецыфічная лексіка гаворак Лельчыцкага р-на (рукапіс).

КЭС — Картатэка этымалагічнага слоўніка (Інстытут мовазнаўства АН БССР).

Мал.— С. Малевич. Белорусские народные песни. СПб., 1907.

Мар. дыс.— В. І. Марозаў. Асаблівасці мовы твораў Ф. Багушэвіча (канд. дыс.). Мінск, 1970.

Марц.— П. Марціновіч. З карэліцкіх гаворак. «Полымя», № 4, 1974.

Маслен.— Л. И. Масленникова. Из полесской терминологии транспорта. «Лексика Полесья». М., 1968.

Мат.— Материалы для изучения белорусских говоров. Под. ред. Е. Ф. Карского. ИОРЯС, т. II, кн. 2, 1897; т. III, кн. 3, 1898; т. IV, кн. 3—4, 1899. Сб. ОРЯС, т. XXV, № 5, 1903; т. XXXII, № 8, 1907; т. XXXVIII, № 1, 1910.

Мат. Гродз.— Лексічныя матэрыялы для абласных слоўнікаў (рукапіс).

Маш.— K. Moszyński. Polesie Wschodnie. Materiały etnograficzne z wschodniej części b. powiatu Mozyrskiego oraz z powiatu Rzeczyckiego. Warszawa, 1928.

Мухл.— Мухлинский. Праздники, забавы, предрассудки и суеверные обряды простого народа в Новогрудском повете Литовско-Гродненской губернии. «Вестник Европы», № 14—16, 1830.

Мядзв.— С. И. Медведский. Белорусский словарь (рукапіс). Толочино, 1910 (Бібліятэка АН СССР. Ленінград, Аддзел рукапісаў).

Нас.— И. Носович. Словарь белорусского наречия. СПб., 1870.

Нас. Доп.— И. И. Носович. Дополнение к белорусскому словарю. Слова, извлеченные из составленного им рукописного собрания белорусских песен и сказок. Сборник ОРЯС, 21, № 6, 1881.

Нас. Сб.— И. И. Носович. Сборник белорусских пословиц. ИОРЯС, т. 12, № 2, 1874.

Некр.— С. Некрашэвіч. Да характарыстыкі беларускіх гаворак Парыцкага раёна (Слоўнік гаворкі). «Запіскі аддзела гуманітарных навук. Працы класа філалогіі», т. 2, кн. 9. Мінск, 1929.

Нік. Заг.— Н. Я. Никифоровский. Простонародные загадки. Витебск, 1898.

Нік. Очерки — Н. Я. Никифоровский. Очерки простонародного житья-бытья Витебской Белоруссии. Витебск, 1895.

Нік. Посл.— Н. Я. Никифоровский. Полупословицы и полупоговорки, употребляемые в Витебской Белоруссии. «Записки Северо-Западного отделения императорского русского географического общества», кн. 3. Вильна, 1912.

Пал.— А. Полевой. О языке населения Новозыбковского уезда Гомельской губернии. Минск, 1926.

Пан. дыс.— К. М. Панюціч. Лексіка сучаснай народнай гаворкі Ушаччыны. Мінск, 1971.

Песні сямі вёсак — Песні сямі вёсак. Традыцыйная народная лірыка Міншчыны. Мінск, 1973.

Прышч. дыс.— А. М. Прышчэпчык. Мікратапанімія Стаўбцоўшчыны. (канд. дыс., рукапіс). Мінск, 1970.

П. С.— П. С. Сведения о белорусских крестьянских постройках, собранные летом 1903 г. в деревнях Молодеченской волости Вилейского уезда Виленской губернии. «Виленский временник», кн. II. Вильна, 1907.

Пятк.— Cz. Pietkiewicz. Polesie Rzeczyckie, cz. I. Kultura materialna. Kraków, 1928; Kultura duchowa Polesia Rzeczyckiego, cz. II. Warszawa, 1938.

Рам.— Е. Р. Романов. Белорусский сборник, т. I, вып. 1—9. Киев—Вильна, 1886—1912.

Раст.— П. А. Расторгуев. Северско-белорусский говор. Исследование в области диалектологии и истории белорусских говоров. Л., 1927.

Растаргуеў, Бранск.— П. А. Расторгуев. Словарь народных говоров Западной Брянщины. Минск, 1974.

Сакал.— А. С. Соколовская. Полесские названия одежды и обуви. «Лексика Полесья». М., 1968.

Серб.— И. А. Сербов. Белорусы-сакуны. Краткий этнографический очерк. СПб., 1915.

Сержп.— А. К. Сержпутовский. Сказки и рассказы белорусов-полешуков. СПб., 1911.

Сержп. Борт.— А. Сержпутовский. Бортничество в Белоруссии. Б. м., 1910.

Сержп. Грам.— А. Сержпутовский. Грамматический очерк белорусского наречия в дер. Чудиново Слуцкого уезда Минской губернии. СПб., 1911.

Сержп. Земл.— А. Сержпутовский. Земледельческие орудия Белорусского Полесья. Материалы по этнографии России, т. I. СПб., 1910.

Смул.— E. Smułkowa. Słownictwo z zakresu uprawy roli w gwarach wschodniej Białostocczyzny na tle wschodniosłowiańskim. Wrocław, 1968.

Сцеп.— Б. Степанец. Крестьянская свадьба в южном Полесье (Этнографический очерк). Записки Северо-Западного отделения императорского русского географического общества, кн. I, 1910, с. 131—196.

Сцяц.— П. Сцяцко. Дыялектны слоўнік (З гаворак Зэльвеншчыны). Мінск, 1970.

Сцяц. Нар.— П. У. Сцяцко. Народная лексіка (Бытавая лексіка гаворак Зэльвеншчыны). Мінск, 1970.

Сцяц. Словаўтв.— П. У. Сцяцко. Народная лексіка і словаўтварэнне. Мінск, 1972.

Сцяшк.— Т. Ф. Сцяшковіч. Гаворкі Ваўкавыскага раёна Гродзенскай вобласці БССР. Гродна. 1960.

Сцяшк. МГ — Т. Ф. Сцяшковіч. Матэрыялы да слоўніка Гродзенскай вобласці. Мінск, 1972.

Тарнацкі, Studia — J. Tarnacki. Studia porównawcze nad geografią wyrazów (Polesie—Mazowsze). Warszawa, 1939.

Тэксты — Teksty gwarowe z Białostocczyzny z komentarzem językowym. Warszawa, 1972.

Федар.— M. Federowski. Lud Białoruski. Materiały do etnografii słowiańskiej zgromadzone w latach 1877—1905, I—VII. Warszawa, 1897—1969.

Федз.—Доўб.— А. В. Федюшин и М. С. Долбик. Птицы Белоруссии. Минск, 1967.

Хрэст. дыял.— Хрэстаматыя па беларускай дыялекталогіі. Мінск, 1962.

Чач.— J. Czeczot. Piosnki wieśniacze z-pod Niemna i Dźwiny. Wilno, 1846.

Чуд.— Н. Чудовский. Материалы для изучения белорусских говоров. Слуцкий говор. «Русский филологический вестник», X, № 3—4, 1894.

Шат.— Н. Шатэрнік. Краёвы слоўнік Чэрвеншчыны. Мінск, 1929.

Шатал.— Л. Ф. Шаталава. Дыялектны слоўнік. Мінск, 1974 (рукапіс).

Шн.— П. В. Шейн. Материалы для изучения быта населения Северо-Западного края, т. 1. СПб., 1890.

Шпіл.— П. Шпилевский. Словарь белорусского наречия (рукапіс). Рукапісны аддзел Бібліятэкі АН СССР, Ленінград.

Шпіл. Моз.— П. М. Шпилевский. Мозырщина (Из путешествия по Западно-Русскому краю). Архив исторических и практических сведений, относящихся до России, кн. 3, отд. 2. СПб., 1859.

Шушк.— Н. Д. Корань, М. С. Шушкевич. Полесская строительная терминология. Лексика Полесья. М., 1968.

Шчарб.— І. М. Шчарбакова. Прадметная сельскагаспадарчая лексіка мінска-маладзечанскіх гаворак. «Вопросы литературы и языка». Мінск, 1968.

ЭШ — Слоўнік Б. Эпімаха-Шыпілы. «Полымя», № 7, 1969, стар. 225—229.

ЭШ, рук.— Слоўнік Б. Эпімаха-Шыпілы (рукапіс). Архіў АН СССР. Ленінград.

Юрч.— Г. Ф. Юрчанка. Дыялектны слоўнік (З гаворак Мсціслаўшчыны). Мінск, 1966.

Юрч. Сін.— Г. Ф. Юрчанка. Народная сінаніміка. Мінск, 1969.

Юрч. Фраз. 1 — Г. Ф. Юрчанка. І коціцца і валіцца. Мінск, 1972.

Юрч. Фраз. 2 — Г. Ф. Юрчанка. І сячэ і паліць. Устойлівыя словазлучэнні ў гаворцы Мсціслаўшчыны. Мінск, 1974.

Ян.— Т. С. Янкова. Слоўнік Лоеўшчыны (рукапіс).

Янк.— Ф. М. Янкоўскі. Дыялектны слоўнік, І—ІІІ. Мінск, 1959—1970.

Янк. БП — Беларускія прыказкі, прымаўкі, фразеалагізмы. Склаў Ф. Янкоўскі. Выд. 2. Мінск, 1962.

Янк. БФ — Ф. Янкоўскі. Беларуская фразеалогія. Фразеалагізмы, іх значэнне, ужыванне. Мінск, 1968.

Янк. Мат.— Матэрыялы для слоўніка народна-дыялектнай мовы. Пад рэд. Ф. М. Янкоўскага. Мінск, 1960.

Янук.— В. С. Януковіч. Дыялектныя назвы ежы ў гаворцы в. Лісавічы Докшыцкага раёна. «Веснік БДУ», серыя IV, 1971.

Яруш.— А. И. Ярушевич. Русско-белорусский словарь (рукапіс). ЦДЛА БССР (Мінск).

Яўс.— Р. Яўсееў. Рукапісныя матэрыялы для слоўніка Бялыніцкага раёна Магілёўскай вобласці (Абарот—Сівун).

Яшкін — І. Я. Яшкін. Беларускія геаграфічныя назвы. Мінск, 1971.

## ЛІТАРАТУРА

Аб нек. асабл.— Аб некаторых асаблівасцях беларускай літаратурнай мовы. Мінск, 1965.

Агіенка, Иноз. элем.— И. И. Огиенко. Иноземные элементы в русском языке. Киев, 1915.

Анышкевіч, Словарь — М. О. Онышкевич. Словарь бойковского диалекта (буква Б). Славянская лексикология и лексикография. М., 1966.

Анышкевіч, Лік.— М. О. Онышкевіч. Бойківські лікувальні рослини (рукапіс).

Аткупшчыкоў, Из истории — Ю. В. Откупщиков. Из истории индоевропейского словообразования. Л., 1967.

Атрэмбскі, Życie wyrazów — J. Otrębski. Życie wyrazów w języku polskim. Poznań, 1948.

Атрэмбскі, Gramatyka — J. Otrębski. Gramatyka języka litewskiego, t. II. Warszawa, 1965.

AfslPh — Archiv für slavische Philologie, I—XLII. Berlin, 1876—1929.

Ашмарын — Н. И. Ашмарин. Словарь чувашского языка, вып. I—XVII. Казань—Чебоксары, 1928—1950.

Бабкін—Шэндзяцоў — А. М. Бабкин, В. В. Шендецов. Словарь иноязычных выражений и слов, употребляющихся в русском языке без перевода, 1—2. М.—Л., 1966.

BB — Beiträge zur Kunde der indogermanischen Sprachen, hgb. Ad. Bezzenberger. Göttingen, 1877—1906.

Бадуэн дэ Куртэнэ, Опыт — И. А. Бодуэн дэ Куртенэ. Опыт фонетики резьянских говоров. Варшава—СПб., 1875.

Бадуэн дэ Куртэнэ, Szkice — J. Baudouin de Courtenay. Szkice językoznawcze. I. Warszawa, 1904.

Бак — C. D. Buck. A dictionary of selected synonymes in the principal Indo-European languages. Chicago, 1949.

Балтийские яз.— Балтийские языки в их взаимодействии со славянскими, финно-угорскими и германскими. Рига, 1973.

Baltistica — Baltistica. Vilnius, 1966 і наст.

Балто-слав. иссл.— Балто-славянские исследования. М., 1974.

Балто-слав. сб.— Балто-славянский сборник. М., 1972.

Бандалетаў, Усл. яз.— В. Д. Бондалетов. Условно-профессиональные языки русских ремесленников и торговцев. Л., 1966.

Баржкоўскі, Лирники — В. Боржковский. Лирники. «Киевская Старина», 1899, сентябрь.

Бартніцка-Дамбкоўска, Nazwy grzyb. — B. Bartnicka-Dąbkowska. Polskie ludowe nazwy grzybów. Wrocław, 1964.

Бауэр, Synt. slav.— J. Bauer. Syntaktica slavica. Vybrané práce slovanské skladby. Brno, 1972.

БЕ — Български език. София, 1951 і наст.

Безлай, Vodna im.— F. Bezlaj. Slovenska vodna imena, I—II. Ljubljana, 1956—1961.

Безлай, Južnosl. leks — F. Bezlaj. Južnoslovanska leksika kot vir informacij za praslovansko dialektologijo. Ljubljana, 1969.

Безлай, Novejše — F. Bezlaj. Novejše zanimivosti iz slovenske leksike, «IV Seminar slovenskega jezika, literature in kulture. Predavanja iz jezika». Ljubljana, 1968.

Безлай, Posk. zv.— F. Bezlaj. Etimološki slovar slovenskega jezika. Poskusni zvezek. Ljubljana, 1963.

Безлай, Eseji — F. Bezlaj. Eseji o slovenskem jeziku. Ljubljana, 1967.

*абазориться (-абазуриться), абазорник (-абазурник;* параўн. рус. *озорник, зазорный, позор).* Магчыма, таксама кантамінацыя *абазориться з опозориться.* Неверагодна Тапароў (Зб. Бернштэйну, 455), які сцвярджае іранскую крыніцу для гэтага слова. Маецца на ўвазе ўзнікшае на аснове ст.-іран. *zūrah* 'несправядлівасць', ст.-перс. *zūrah* 'тс' гіпатэтычнае **aba-zūr* з наступным марфалагічным перараскладам на славянскай моўнай глебе. Супраць іранскай крыніцы таксама лінгвагеаграфія слова. Гл. Мартынаў, БЛ, 1972, 1, 17.

**Абайні'чы** 'непаседлівае дзіця' (Інстр. III). Магчыма, да *бой* (як рус. *разбойничий*). Што датычыць мадэлі словаўтварэння назоўнікаў, параўн. *ляснічы, паляўнічы* і г. д. Параўн. таксама рус. калін. *бойный* 'жывы, лоўкі'.

**Абако'л** 'з абодвух бакоў'. Гл. *кола.*

**Абаку'ліваць** 'падманваць, ашукваць' (Нас., Бяльк.), *абакуліцца* 'памыліцца' (Нас., Яруш.), *абакульнік* 'ашуканец' (Бяльк.), *абакула* 'той, хто ашуквае' (Касп., Яруш.) < **о-бакул-ити* < **бакуля* < **бакаць.* Што датычыць словаўтваральнай мадэлі, параўн. *абдзяжуліць* (гл.). Рус. *бакулить* 'гаварыць, балбатаць', *бакуля, бакуня* 'балбатун', *бакать* 'гаварыць, балбатаць'. Параўн. ст.-польск. *bakać,* чэш. *bakati* 'зваць' (< прасл. *bajati* 'гаварыць'). Інакш Фасмер, 3, 97, які *абакуливать* < *аб* + *акула.* Рус. *окула* 'ашуканец' хутчэй за ўсё памылковая дэкампазіцыя ад *обакулить, бакулить.* Гл. Мартынаў, БЛ, 1972, 1, 17. Гл. *бакулы.*

**Аба'лак** 'пасак мязгі дрэва' (КЭС, лаг. < польск. *obałek* 'дрэва, вырванае бурай' (< *obalić* 'зваліць'). Семантыка, праўда, даволі далёкая.

**Абалва'ніць** 'начыста абстрыгчы', да *балван* (гл.).

**Абало'на,** *абалоніна, бальна, бальніна* 'знешнія вільготныя слаі дрэва, якія знаходзяцца пад карой' (Шат., Сцяшк.) *абалонка, абалонь* 'верхнія слаі драўніны з жывымі яшчэ клеткамі' (Бяльк., Касп., Яруш.), *абалонь* 'тс' (Маш., Янк. I, КЭС), *оболона* 'тс' (КСТ), *абалонь* 'гадавыя кольцы на пні дрэва', *абалоністы* 'зроблены з верхніх слаёў дрэва' (Шат.). Рус. *болонь, заболонь* (=бел. *абалонь),* чэш. *blána, oblana* 'тс'. Іншыя славяне, відаць, гэтага слова не ведаюць. Ці не балтызм? Параўн. літ. *bálnis* 'ачэсанае ад кары дрэва' (~ *bãlnis* 'белы, белая масць'). Семантычная паралель: польск. *biel* 'абалонь'. Укр. *болона,* польск. *błona,* чэш. *blána* і г. д. у значэнні 'тонкая плеўка', мабыць, сюды не адносяцца; гл. *абалонка.* Параўн. *балонь.*

**Абало′нка**$_1$, параўн. укр. *болона* 'тонкая плеўка', польск. *błona*, чэш. *blána*, славац. *blana* 'тс', якія, магчыма, генетычна суадносяцца з лац. *follis* 'пузыр', *folliculus* 'плеўка' < <i.-е. **bholnis* (гл. Покарны, 120), хаця лінгвагеаграфія гэтых слоў супярэчыць непасрэднаму супастаўленню з лацінскімі формамі. Яшчэ менш верагодна з фармальнага і семантычнага боку супастаўленне са ст.-грэч. φολίς 'луска паўзуноў' (гл. Фасмер, 1, 189). Цікавая здагадка аб генетычнай суаднесенасці з прасл. **pelna*, **pelena* (рус. *пелена* і інш. славянскія паралелі) (гл. Махэк$_2$, 55 і 458). Пры бездакорнасці семантычнага боку даводзіцца ў гэтым выпадку дапусціць змяшэнне *p/b*. Лінгвагеаграфія, магчыма, сведчыць у карысць такога збліжэння. Мяркуемыя прасл. *bolna* і *pelna* знаходзяцца арэальна ў дадатковым размеркаванні (*bolna* — захад і цэнтр, *pelna* — усход і поўдзень). Гл. Мартынаў, SlW, 62—63. Параўн. *абалонь*.

**Абало′нка**$_2$ 'шыба ў акне' (Шат., Касп., Сцяшк., Янк. I, Маш.), *оболонечка* 'фортачка' (Булг., Доўн.-Зап.), ст.-бел. *оболонкі* 'плеўкі жывёл, якія ўжываліся як шыбы ў вокнах' з 1494 г. (Нас. гіст., 249), польск. *błona*, чэш. *blána*, славац. *blana* 'тс'. Гл. *абалонка*$_1$.

**Абало′нь** 'лугавое ўзбярэжжа ракі, якое заліваецца ў разводдзе' (Янк. I), *абалонне* 'тс' (Касп., КТС), *абалона* 'тс' (КТС). У тых жа значэннях рус. *болонь*, укр. *болоння*, чэш. *blána*, польск. *błonie*, *błoń*. Параўн. *бель* 'балота' (светлы вір?). Фартунатаў (AfslPh, 4, 579) звязвае з іншасуфіксальнымі рус. *болото*, літ. *báltas* 'белы' і г. д. Больш пераканаўчым было б супастаўленне прасл. **bolnь* з яго фанетычным дублетам **polnь* (<прасл. *pole*), гл. *палон*. (Талстой, Геогр., 74—79). Варыянты **bolnь* і **polnь* знаходзяцца арэальна ў дадатковым размеркаванні (**bolnь* — на большасці паўночнаславянскай тэрыторыі, **polnь* — паўднёваславянскай, што сведчыць у карысць архаічнасці **polnь*). Параўн. *абалонка*$_1$, а таксама *ад* (гл.). Параўн. *балона*$_2$.

**Абамбе′рыць** 'дрэнна пастрыгчы, як авечку' (Янк. Мат., Цыхун, вусн. паведамл.). Ці не з літ. *bámbaras* 'густая воўна, нягоднік'? Дзеяслоў, магчыма, утварыўся ўжо на беларускай глебе ад назоўніка літоўскага паходжання, сляды якога не захаваліся. Гл. Мартынаў, БЛ, 1972, 1, 19. Іншая версія: ад **абалберыць* да польск. *bałwierz* 'цырульнік' (Трубачоў, пісьмова).

**Абамрава′ць** 'аслабець' (Касп.) да *абмерці*.

**Абанеме́нт** (БРС) запазычанне праз рускую мову ў XX ст., Крукоўскі, Уплыў, 78. У рускай мове з франц. *abonnement* у першай палавіне XIX ст., Шанскі, 1, А, 15. Беларускія слоўнікі 20-х гадоў XX ст. фіксуюць разам з канкурэнтным *перадплата*. Гл. Гіст. мовы, 2, 205.

**Абані́ты** 'пешчаны, балаваны' (Касп.), параўн. рус. пск. *абанитый* 'неслух, свавольны, балаваны, хітры'. Мабыць, *абаніты*<**абабніты*. Параўн. рус. *бабнить* 'спавіваць' і рус. арх. *банить* 'тс' (абое да *баба*). Гл. Мартынаў, SlW, 64, і *бабіць*.

**Аба́пал** 'з двух бакоў', ст.-бел. *обаполъ* (Нас. гіст.), *обополный* 'узаемны, сумесны' з 1553 (Булыка, Запазыч.), ст.-рус. *обаполъ*, ст.-польск. *obopol*, чэш. *obopol*, серб.-харв. *obapol* (XVI ст.) да прасл. **oba poly* (Карскі, 2—3, 74, 89). Гл. *абое* і *пала*.

**Абапну́цца** 'акрыцца' (Шат., Янк. I, Арх. ГУ), 'акрыцца (хусткай), завязаць (фартух)', *абапнуць* 'акрыць што-небудзь, чым-небудзь, накінуць што-небудзь на што-небудзь' (Янк. I), *абапінаха* 'вялікая хустка' (ДАБМ) да прасл. **pęti, pьnǫ* 'напяць, напінаць'. Бел. *абапнуць*, магчыма, узнікла пад уплывам літ. *apipìnti, apipìnù* ў тым жа значэнні (літ. *pìnti* генетычна тоеснае прасл. *pęti*). Параўн. *абпянуцца* (Янк.) (гл.).

**Аба́рак** 'валік у плузе або возе' (КСТ)<ст.-польск. *bark* 'тс' (да польск. *barki* 'плечы'). Параўн. *абарак* або *каромыс'ол* 'прыстасаванне для прыпрагання каня' (КТС). Гл. Мартынаў, SlW, 68, і *барак*.

**Абаро́нкі**, *обаронкі* 'перавясла з кручаных дубцоў, якім змацоўваюцца зубы бараны паміж драўлянымі прутамі' (Дзімітр.). Гл. *барана*.

**Абара́нак** (БРС, КТС), польск. *obarzanek, obwarzanek* (да польск. *obwarzony*). Рус. *баранка*<бел. *(а)баранак* (цвёрдае *р*, параўн. польск. *obarzanek*) (гл. Трубачоў, Дополн., 1, 124).

**Абарача́цца** 'бываць у розных мясцінах' (Шат.), 'перакульвацца, абыходзіцца' (Нас.), *абарачывацца* 'тс' (Юрч.), *абарачываць* 'перакульваць, пераварачваць' (Юрч.), *абварачацца, абварачываць*. Гл. *варочаць*.

**Абарлю́хта** 'фрамуга' (Сцяц.); *обэрлюхт* 'верхняя рама акна, якая адчыняецца як фортачка' <польск. *oberluft* 'тс'< <ням. *Oberluft* 'тс' і 'верхняе паветра' (Дарашэўскі, V, 434).

**Абармо́т** 'махляр, прайдзісвет, чалавек, пазбаўлены даверу' (Шат., КЭС, КТС), 'неахайны чалавек' (Яўс.), *абермот*

'нязграбны чалавек' (Кліх), рус. *обормот* 'абадранец'. Магчыма, да *абора-мот* 'той, хто матае аборы (вяроўкі, якімі прымацоўваюцца лапці)', спачатку зняважлівая назва вясковых жыхароў («лапцюжнікаў»). Для падобных назваў параўн. семантыку польск. *gbur* 'грубіян'<ст.-польск. *gbur* 'селянін' і словаўтварэнне ўкр. *ціпов'яз, грічкосій* і г. д. Іншую версію гл. у Трубачова, ВЯ, 1961, 5, 134 (<*барматаць*). Неверагодна ў Гэлтана, ZfslPh, 23, 326—327 (<ням. *Ober* і рус. *мот*). Яшчэ больш праблематычная версія аб венгерскім паходжанні гэтага слова. Гл. Пагарэлаў, RÉS, 30, 102—103. Супраць апошняга Гэлтан, там жа, 325—326 з падрабязнай аргументацыяй.

**Абаро'г**, *абараг* 'чатырохсхільная стрэшка для сена' (Клім.), ст.-бел. *оборогъ* 'стог, сцірта' (Гарб.), *оборогъ* 'сцірта' (Нас. гіст.), *обарогъ, оброгъ* з 1557 (Булыка Запазыч.); укр. *оборіг* 'тс', польск. *bróg* 'стрэшка на чатырох жэрдках для захоўвання сена, збожжа', ст.-чэш. *brah* 'тс'. Згодна з найбольш пашыранай версіяй да *берагчы* (гл.). Параўн. Брукнер, 41; Слаўскі, 1, 44; Фасмер, 3, 106. Аднак лінгвагеаграфія сведчыць хутчэй аб запазычанні з германскай (с.-н.-ням. *barg* 'хлеў на слупах'). Гл. Буга, 3, 758. Менш верагодна генетычная агульнасць з германскім словам.

**Абарса'ць** 'зацягнуць аборы ў лапці' (Шат.), *обарсаць* (КСТ, КЭС), *аббэрсаны* (КТС), магчыма, **об-вьрз-ати* (<прасл. **vьrz-ti* 'вязаць'), параўн. рус. *верзни* 'лапці' і бел. *барсні* 'тс'. Іншую версію гл. у Рудніцкага, 201. Параўн. таксама Краўчук, Бел.-укр. ізал., 37. Гл. *барсні*.

**Аббі'ўкі** 'каласкі, што застаюцца пасля малацьбы' (Нас., Бяльк., Др.-Падб., Гарэц.), ад *аб-біць* 'абмалаціць'.

**Аббо'рыш** 'пласт сена, перабраны граблямі' (Бяльк.)<<*абабраць*. Словаўтварэнне як у *спарыш*.

**Аббро'х** 'чалавек, які з усімі пасварыўся, які любіць сварку' (Мядзв.) да *брахаць* (гл.).

**Абве'стка** 'аб'ява' (БРС). Наватвор пачатку XX ст. (гл. Гіст. лекс., 255), частковая калька з польск. *obwieszczenie* (там жа, 256), *абвясціць* да *весць, ведаць* (гл.).

**Абвіхну'цца** 'памыліцца' (Нас., Бяльк.), *абвіхнуць* 'ашукаць' (Нас., Бяльк.). Гл. *віхаць*.

**Абво'рак** 'абворанае месца' (КСТ) да *абворваць* (гл.).

**Абво'рваць** да *араць* (гл.).

**Абвурга′ніваць** ’абыгрываць’, *абвурганіваціца* ’прайграваць’ (Нас.). Няясна. Ці існуе сувязь з *варган,* ст.-рус. *оръганъ,* польск. *organy,* чэш. *varhany* ’прымітыўны музыкальны інструмент’, гл. Шварц, AfslPh, 40, 290, напрамак запазычання лац.>ням.-бав.>чэш.>ст.-рус. Параўн. пач. *v-* у бел., укр. і літ. адпаведніках. Або да *варганіць* (гл.).

**Абвяржэ′нне** (БРС). Частковая калька з рус. *опровержение.* Уведзена М. Байковым (Гіст. мовы, 2, 217; Гіст. лекс., 282; Баханькоў, Зб. Баркоўскаму, 48).

**Абгаблява′ць** да *габляваць* (гл.).

**Абгайда′машыць** ’абабраць каго-небудзь, абтрэсці’ (Яўс.) да *гайдамак.* Параўн. *адгайдамашыць.*

**Абгалага′ніць** ’абстрыгчы дагала’ (Юрч.), *абкалганіць* ’абстрыгчы’ (Яўс.) ад польск. *gałgan* ’абрэзак’. Выбухное *г* у беларускім слове сведчыць аб яго польскім паходжанні, гл. Слаўскі, 1, 163.

**Абгало′ціць** ’давесці да галечы’ (КТС) да *галота* (гл.).

**Абгамта′цца** (БРС, КТС) да *гамтаць* (гл.).

**Абганашы′ць** ’ашчыпаць дачыста’ (Шат.) да *ганашыць* (гл.).

**Абганя′ць** ’акучваць бульбу сошкай’ да *ганяць, гон.*

**Абганя′цца** ’адмахвацца ад насякомых’, параўн. *агон* ’хвост’ да *гнаць* (гл.).

**Абгасці′цца** ’адпачыць пасля дарогі’ (Нас., Бяльк.) да *госць* (гл.).

**Абгню′сіць** ’абгадзіць, запэцкаць’ (Шпіл.) да *гнюс* (гл.).

**Абго′ртваць,** *обгортваць* ’акучваць’ (Выг. дыс., КСТ). Гл. *гартаць.*

**Абгарня′ць** ’загарнуць’ (Яруш.), *обгорнять* ’акружаць, абдымаць, апранаць’ (Булг.), *абгорнути* ’акружыць’ (Нас. гіст.). Гл. *гарнуць.*

**Абго′цаць** ’аббегчы, абскакаць, абысці’ (Нас., Бяльк.) да гукапераймальнага *гоц-гоц.*

**Абда′ць** ’абкідаць’ (КСТ) да *даць* (гл.).

**Абджо′гаць** ’высцебаць’ (Бяльк.), *абджыгаць* ’тс’ (Бяльк.), ’абкусаць (пра пчол)’ (Бяльк.). Гл. *джогнуць, джгаць.*

**Абдзі′ркі** ’абноскі адзення’ (Бяльк.) да *абдзіраць.* Гл. *драць.*

**Абдзі'ркус** 'той, хто хутка дзярэ адзенне' (Сцяц.). Штучная лацінізаваная форма. Да *абдзіркі* (гл.). Параўн. польск. *obdartus* 'абадранец'.

**Абдзяжу'ліць** 'высцебаць дзягай, раменным пасам' (Бяльк.), *абдзяжуліць*<**абдзяжуля* < **абдзяжыць* (параўн. *абакуліць*). Гл. *дзяга.*

**Абдра'паць** 'абдзерці' (КСТ). Гл. *драпаць.*

**Абдры'паны** 'абарваны' (КТС, БРС), *абдрыпаць, абдрыпацца,* укр. *обдрипаний* 'тс', чэш. *dřipati* 'рваць', *dřip* 'лахман', в.-луж. *dripać* 'разрываць', балг. *дрипи* 'лахманы', *дрипав* 'абарваны', макед. *дрипа, дрипав* 'тс', серб.-харв. *дрйпати* 'рваць', славен. *dripati* 'тс'. Арэал распаўсюджання сведчыць аб праславянскім характары гэтага слова. Параўн. літ. *apdrìbti* 'ападаць, абвісаць (аб плацці)', *drìbti* 'падаць камякамі, жмутамі', гоц. *dreiban* 'гнаць, біць' і інш. Супастаўленне балтыйскіх і германскіх форм гл. у Шпэхта KZ, 68, 41. Гл. таксама Махэк$_2$, 131, у якога няма беларускіх і ўкраінскіх паралеляў; ён лічыць паходжанне гэтых слоў няясным.

**Абдуле'йка** 'фанабэрысты' (Сцяшк.). Магчыма, да *аб-дулейка*<*абдулы* 'апухлы' (Бяльк.). Параўн. *абдувацца* 'пухнуць' (Бяльк.). Суфіксацыя *(-ейка)* характэрна для балтыйскага арэала. Не выключана таксама непасрэднае запазычанне гэтага гродзенскага слова з літоўскага. Параўн. літ. *apdùjelis* 'дурань'.

**Абдыма'ць,** *абдым* пры рус. *обнимать* і ўкр. *обіймати* ўзніклі на аснове паралелізму форм тыпу *ўзнімацьlуздымаць.*

**Абед** 'абед, полудзень', гл. *есці, ежа.* Прасл. *obědъ* (параўн. семантычныя разыходжанні серб.-харв. *ðбјед*, славен. *obèd* 'асноўная, поўная ежа' ад іншых славянскіх — рус. *обед,* польск. *obiad*, чэш. *oběd*, в.-луж. *wobjed*, н.-луж. *hob'ed* 'полудзень'). Пра першаснасць паўднёваславянскай семантыкі сведчыць, апрача лінгвагеаграфіі, адпаведнасць унутранай форме (*ob-ědъ, ob-ědati sę)* і тое, што значэнне 'полудзень' мела сваю лексемную рэпрэзентацыю ў **pol-dьnь*. Гл. Вештарт, Лекс. Палесся, 189—190. Параўн. Сцяц., Нар., 15.

**Абе'дзікі** 'дзіцячая гульня' (Бяльк.). Словаўтварэнне як *бібікі, кепікі* да *абед* (гл.). Семантычная сувязь паміж *абедзікі* і *абед* застаецца няяснай, бо этнаграфічны бок (апісанне гульні) нявысветлены. Сувязь слоў *абедзікі* і *абед* абгрунтоўваецца тым, што «для частавання лялек арганізуюцца так званыя *абедкі*» (Рам., 8, 590).

**Аб'е'кт** (БРС). Запазычанне XX ст. праз рускую мову, дзе з лац. *objectum,* гл. Крукоўскі, Уплыў, 77.

**Аб'ём** (БРС) <рус. *объём.* Запазычанне XX ст.

**Абе'рдзіна** 'род лучыны' (Маш.), 'смольная сасна'. Няясна. Ці не ад *бёрда,* калі ўлічыць, што *(а)бердзіна* — рэгулярна адзіночнае ад множнага. Параўн. славен. *brdína* 'від травы'. Гл. Талстой, Геогр., 248.

**Абе'ртуха** 'вялікі кавалак хлеба' (Сцяц.), *абэртуха* 'тс' (Клім.), *обертка, обэртушка* (КСТ), *абіртня, абярня* 'скібка хлеба праз усю круглую булку' (Янук.). Сюды ж *абельтух* 'абжора'. Ці не ад *ab-vъr-ti* 'абгарнуць' (*абвярнуць* 'кругом бохана абрэзаць лусту', гл. Сцяц., Нар., 28). Ва ўсякім разе, з пункту погляду рэгулярнага словаўтварэння, *абертуха* і *абертух* (>*абельтух*)<*аберт-* **ob-vьrt-*. Семантычная матывацыя, аднак, цяжкая. Таму трэба ўлічваць магчымасць калькавання. Крыніцай калькі было б тады літ. *gãbalas* 'вялікі кавалак', *gobùs* 'прагны' <*góbti* 'абгартаць, ахопліваць' (параўн. бел. *абвяртаць*=літ. *apgóbti),* гл. Фрэнкель, 126—127. Верагоднасць калькавання падмацоўваецца арэалам лексемы.

**Аб'еруч** 'абедзвюма рукамі', укр. *обіруч,* польск. *oburącz* 'тс'. Відаць, арэальнае новаўтварэнне, параўн. серб.-харв. *оберу̏чке* 'тс', утворанага па іншай мадэлі, гл. *абое* і *рука.* Карскі, 2—3, 71, 89.

**Абе'тка** 'абяцанне' (Нас.), рус. *обет,* ст.-рус. і ст.-слав. **обѣтъ,** укр. *обіт,* чэш. *obĕt',* славац. *obet'*< **ob-vĕtъ.* Царкоўнаславянскае паходжанне гэтага слова выклікае сумненні і перш за ўсё ў сувязі са словаўтваральным тыпам лексемы *абет-ка.*

**Абеца'дла** 'азбука' (Нас.) <польск. *abecadło* (Кюнэ, Poln., 39).

**Абе'чак**$_1$ (мн. *абечкі*) 'край рэшата' (Бір. дыс., БРС), 'частка жорнаў, зробленая з дрэва, каб не высыпалася мука' (Сцяшк. МГ), 'вечка, накрыўка' (Сцяц.), *абечка* 'крышка дзежкі, каробкі; таксама ў рэшаце, сіце' (Янк. I) <*аб-веч-ак* (да *vĕko).* Параўн. *абічайка.*

**Абе'чак**$_2$ 'павека' (мін.) <*аб-вечак* (параўн. *па-века).* Гл. *абечак*$_1$.

**Абжа'** 'аглобля ў сасе' (Касп.). Рус. паўн. *обжа, обга,* рус. курск. *вобжа* 'тс', польск. *obdza* 'тс' (Ці не сюды ж польск. *obdza, obza* 'вяроўка, шнур для прывязі жывёлы на

пашы'?), ст.-рус. *обьжа* 'мера зямлі'. Лат. *abža* 'аглобля' з паўн.-бел. ці рускага. Па адной версіі <*o-bъg-ja* 'гнутая' да *бгаць* (гл.) — Патабня, РФВ, 5, 124; Ільінскі, РФВ, 62, 256, па іншай <*ob-jъg-ja* да *іга* (гл.) — Мікала, IF, 26, 295; Далабко, ZfslPh, 3, 129—130; Турска, SFPS, 5, 115. Першая этымалогія выклікае пярэчанні фанетычнага характару. Супраць рэканструкцыі *-bъg-* сведчаць рускія формы *обежь, обежка* і ст.-рус. *обьжа* (Турска, там жа, 114). Другая этымалогія таксама мае свае цяжкасці фанетычнага характару: *-bj-* у *ob-jъg-ja* павінна было даць *bl'* (Далабко, там жа, 129). Заўвага Далабка аб тым, што слова *абжа* як арэальна абмежаванае ўзнікла адносна позна, пасля таго як завяршыўся пераход *bj>bl'*, непрымальная, бо ў тым жа слове рэалізаваўся пераход *gj>ž* (ці, можа, у апошнім выпадку адбылася субстытуцыя?). Варбот (Балто-слав. иссл., 42—48) суадносіць як генетычна тоесныя *абжа* і *абза* (гл.), зыходзячы з прасл. *obьza/obьža* (<*obьzja*) 'луска' (літ. *ìžti* 'лушчыцца', *ìšaiža* 'шалупінне') і верагоднасці семантычнага развіцця ад лыкавай вяроўкі (лыка) і скуранога рэменя (скуры) да часткі драўлянай сельскагаспадарчай прылады. Для прыняцця гэтай этымалогіі даводзіцца прызнаць існаванне шэрага семантычных пераходаў і дэрывацыйных пераўтварэнняў.

**Абжарга'ць** 'абняць нагамі' (КТС, Карскі — Ковенск). Гл. *ажыргаць.*

**Абжо'ра** 'чалавек, што многа есць' (БРС, Бяльк., Касп.), рус. *обжора,* укр. *обжора, ненажера* да *жэрці* (гл.) <*ob-žьra* <*ob-žьr-ti.*

**Абза'** (БРС, Бір. дыс., Касп., Мядзв.), *абзой* (Бір. дыс., Сцяшк., Бяльк.), *абзол* 'апошні знадворны слой дрэва' (Бяльк., Пятк., КСТ). Абзоістая дошка — дошка, якая ідзе за аполкам (калі робяць дошкі з бервяна). Варыянты гэтага слова (*абза, абзой, абзол*), магчыма, гавораць аб запазычанні, але крыніца пакуль што не знойдзена. Наступныя развважанні можна разглядаць толькі як рабочыя гіпотэзы. Найбольш верагодна *абзой* (>*абзол,* як *назой>назол*) <*абзой<эзяць* (словаўтваральна як серб.-харв. *осо̑ј<сjа̏ти*). Гэта версія мае семантычныя цяжкасці. Параўн., аднак, *обзол* 'упадзіны, якія застаюцца пры апілоўванні або часанні няроўнага ствала' (КСТ), «абза ў тым месцы, дзе бярвенні прылягаюць адно да аднаго, але не шчыльна» (Мядзв.), літ. *žiógauti* (<*žióti*) 'пазяхаць, зяваць' і *žiõgris* 'плот з планак (няшчыльна прыгнаных)', гл. Мартынаў, БЛ, 1972, 2. Параўн -

нанне з польск. *obza* ’прывязь жывёлы, якая пасецца’ ў Свободы Зб. Унбегауну, 247, трэба прыняць пад увагу, калі ўлічыць значэнне *obza* ’ліпавая аборка’. Каб прыняць гэта супастаўленне, трэба аддзяліць польск. *obza (obdza)* у значэнні ’вяроўка, аборка’ ад *obdza* ў значэнні ’аглобля ў сасе’, якая да бел. *абжа* (параўн. Турска, SFPS, 5, 112—113). Наўрад ці сюды ж чэш. *obza* ’скура на клубах каля хваста’ (этымалогію гэтага слова гл. Махэк$_2$, 408). З іншых спроб этымалагізавання неабходна адзначыць: рус. *обзельные доски, доски с обзелом, обзолом, обзолком,* да *ob-zelъ, zelъ* (Патабня, Из записок, III, 66) і *obьza*~*літ. ìžti* ’лушчыцца’ (Варбот, Балто-слав. исслед., 47). Параўн. *абжа* (гл.).

**Абздзі′мех** ’няўклюда, нязграбны чалавек’ (Карскі, 2—3, 90). Паводле Карскага, да *абдзі* (загадны лад) і *мех.*

**Абзы′каць** ’аббегаць па пустой справе (пра худога, лёгкага)’ (Юрч., Сін., 25); магчыма, да *бзік.* Параўн. славен. *bzikati* ’бегчы’.

**Абібо′к** ’абібок, гультай’ (БРС, Бір. дыс., Бяльк., КСТ, Мядзв., КЭС), *абібока, абібочына* <**абі-бок*<*а-біваць бакі* (Мядзв.). Польск. *obibok* ’тс’, магчыма, з беларускай.

**Абі′да** ’крыўда’ (русізм?) (Бяльк.), *абідзіць, абіднік* (Бяльк.), *абіднік, абіджанне, абіждацца* (Нас.). Апошняя форма сведчыць таксама аб рускай (царкоўнаславянскай) крыніцы.

**Абілама′ціцца** ’збіцца з панталыку’ (КЭС, лаг.) да *баламут* (гл.).

**Абірхава′ць** ’нашыць на кажух «ірхі»’ (Шат.), *абіршываць* ’абшыць мехам’, *абіршыць* (КЭС), *абіршыванне, абіршыны* (Нас.). Гл. *ірха.*

**Абітурыент** (БРС). Запазычанне XX ст. праз рускую мову (Крукоўскі, Уплыў, 78) (у рускай мове з ням. *Abiturient,* Шанскі, 1, А, 14).

**Абі′ч** ’частка цэпа, якой б’юць па калоссі’ (Кап.), *абічышча* ’цапільна’ (ДАБМ), *абічоўка* (Мат. дыял. канф.), *абіч* <**o-bit-jь.* Магчыма, *а-* — пратэтычнае, а не прэфіксальнае, тады адэкватна *біч* ’бізун’.

**Абіча′йка** ’вобад з лубу ў рэшаце і мельнічным камені’ (Нас., Касп., ДАБМ, Бір. дыс., КЭС, Смул.), *абечайка* ’каркас бубна’ (КСТ), ’абочка з лубу ў рэшаце’, *обечка* ’абічайка ў веку да дзяжы’ (КСТ)<*аб-веч-айка,* гл. *века* (прасл. *věko* ’пакрышка’). Так Краўчук, УМШ, 1960, 6, 61. Яго ж Бел.-

укр. ізал. 39. Параўн. рус. *обечайка*, укр. *обичайка*. Менш надзейна да *віць* (Праабражэнскі, 1, 626).

**Абія'к**, *абіякі* 'абутак на драўлянай падэшве' (Сцяшк., Жд.), відаць, да *а-бій-ак*, гл. *біць*. Параўн., аднак, Чэкман, Baltistica, VIII (2), 1972, 151—152, які бачыць тут кальку з літ. *apmuštìniai, apmuštìnes* 'клумпы, драўляны абутак, абабіты скурай'. Даслоўны пераклад літоўскага слова 'абабітыя'. Гэта версія, відаць, больш верагодная. У яе карысць сведчыць лінгвагеаграфія. Польскі адпаведнік *obijaki, obijańce* толькі на Аўгустоўшчыне.

**Абія'нік**, *obijanik (=szuhaleja)* 'човен, які робіцца з аднаго распаранага дуба і абабіваецца сасной' (Краш.) да *абіць* (гл.).

**Абкарэ'лы** 'закарэлы, закарузлы' (БРС), *абкарэць* 'засохнуць, пакрыцца коркай' (Касп.), 'узбрудзіць і засушыць той бруд' (КЭС, лаг.). Відаць, *абкарэлы* (аб гэтым сведчыць дзеяслоў) — старая дзеепрыметнікавая форма. Першапачаткова *абкарэць* да *кара*.

**Абкіто'ваны** 'замазаны кітам', *абкітаванне* (Нас., Бяльк.), *абкітоўка* (Бяльк.) праз *кітаваць* ад *кіт* (гл.).

**Абкляпа'ць** 'запырскаць граззю' (Бяльк.), *абкляпацца* (Бяльк.). Не мае нічога агульнага з прасл. *klepati* (ст.-слав. **клепати** 'штурхаць', серб.-харв. *клѐпати* 'біць' і г. д.). Больш верагодным уяўляецца балтыйскае паходжанне гэтага слова (**apklimpoti*). Параўн. літ. *klim̃pti, klampóti* 'пэцкаць у гразі' (гл. Мартынаў, БЛ, 1972, 2, 73). Запазычанне адбылося яшчэ да падзення дыфтонгаў і распаўсюдзілася на невялікім славянскім арэале. Параўн. балг. радоп. *оклепя са, клепя* ў тым жа значэнні (Цыхун, БЛ, 1974, 5, 49). Аб магчымасці балгарскіх балтызмаў гл. Трубачоў, Ремесл. терм., 339—340.

**Абко'рваць** 'знімаць кару' да *кара* (гл.), параўн. *абкарэлы*.

**Абла'ва** 'аблава (пры паляванні)' (БРС, Бяльк., Маш., Яруш., Шпіл., КСТ); рус. *облава*, укр. *облава*, ст.-рус. *облава*, польск. *obława*. Агульнавядомае тлумачэнне да *лоў, лавіць* гл. Брандт, РФВ, 23, 94, які супраць тлумачэння Міклашыча, 218—219, с.-в.-ням. *abelauf* 'месца, дзе знаходзіцца затраўлены звер'. Больш верагодна <цюрк. (ст.-цюрк. *avla* Др. Тюрк., 70) (Дабрадомаў, вусн. паведамл.). Гл. таксама *ab abla* 'рабіць аблаву на звяроў' (Др. Тюрк., 3). Параўн. Расянен, 1; Севарцян, 1, 63—64.

**Аблаву'х**, *аблавуха, аблавушка, аблаух* 'шапка з вушамі' (Нас., Бяльк., Маш., Нік. Очерки), *аблушаванка* 'тс' (Сцяшк. МГ) да *аблавухі, аблаухі* (гл.).

**Аблаву'хі**, *аблаухі* 'з вялікімі вушамі' (БРС, Нас., Шат., Янк., Бір. дыс., Бяльк., Мат. Гродз.), рус. *облоухий* да *обылъ* (рус. *облый* 'вялікі, круглы' і інш.) і *ухо* 'вуха'.

**Абла'да** 'улада, здабытак' (БРС, КТС, Сцяшк.) <*аб-улада*. Гл. *улада*.

**Абла'к**, *аблакі*. Гл. *воблака*.

**Абла'м**$_1$ 'футра' (Нас., Гарэц.), *аблям* 'тс' (Бір. дыс.)< польск. *błam* 'адно футра', якое ў сваю чаргу з ням. *Flamme, Flamm* 'тс' (Брукнер, 30). Форма *аблям* сведчыць аб кантамінацыі з *аблямаваць, аблямоўка* (гл.).

**Абла'м**$_2$ 'бруствер' (Гарэц.), 'аблава' (Касп.). Магчыма, да *аблам*$_1$ з семантычным пераходам: *аблямоўка* (на вопратцы) >аблямоўка 'паласа' >*аблямоўка* 'акружэнне, аблава'. Аднак больш верагодна, што гэта калька або запазычанне з балтыйскага. Параўн. літ. *lamatai̇̃* 'пастка, сіло', лат. *lamatas* 'тс'.

**Аблапо'шыць** 'абдурыць' (Бяльк., КТС), *аблапэшыць* 'абкрасці' (Яўс.), *облапошить* (Дабр.) <*лапошыць*<*лапаць*, як рус. *копошить*<*копать*. Неславянская, відаць, дзеяслоўная суфіксацыя. Магчыма, пад уплывам балтыйскай ітэратыўнай суфіксацыі. Параўн. *абгапошыць* (гл.), *аблатошыць* (гл.).

**Абла'савацца** 'аблюбаваць сабе нешта смачнае і мецъ цягу да яго' (КЭС). Гл. *ласы*.

**Аблато'шыць** 'спустошыць, знішчыць' (Сцяшк. МГ), *аблаташыць* 'абламаць, аббіць, абарваць (садавіну)' (Бяльк., КТС), 'абкрасці, павыбіраўшы або пазрываўшы (у садзе, агародзе і інш.)' (Юрч. Сін.), *аблатышыць* 'абарваць' (Арх. ГУ) да *латошыць* (гл.).

**Абла'хаць**$_1$ 'абхадзіць, аббегаць' (Бяльк., Янк. III), 'абшарыць' (Яўс.), 'аббегаць з карыслівымі мэтамі, з мэтай разнюхаць або пажывіцца' (Юрч. Сін.), 'аббегаць' (мядз., Малько, вусн. паведамл.) да *лахаць* (гл.). Ці не звязана (магчыма, праз кантамінацыю) з *обличати* 'тс' (Вярэніч, столін., вусн. паведамл.), параўн. *облыхаць* 'аббегаць' (КТС).

**Абла'хаць**$_2$ 'абгаварыць у выпадковых размовах, недарэчна' (Юрч. Сін.) да *аблахаць*$_1$ з семантычным прыпадабненнем да *аблаяць*.

**Абле′так**, *аблетнік* 'дрэвы, нарыхтаваныя к зіме, якія сохлі ўсё лета' (Шат., Янк. III), *аблет* 'пералетаваны ў кастры (штабелі) лес' (Бяльк.) да *аб лета* 'ўсё лета'. Параўн. «пайшлі дзевачкі ў аблет» (на працягу ўсяго года не выйдуць замуж) (Рам.).

**Аблі′ва** 'вадкасць з крахмалам, якой абліваюць ніткі для кроснаў' (КСТ) да *ліць*.

**Аблі′чча** 'аблічча, твар, воблік' да прасл. *ob-lik-ije*, гл. *лік*. Бел. *аблічча*, укр. *обличча* маюць генетычна тоесныя адпаведнікі ў серб.-харв. *ȍблiчjе* 'знешні від', славен. *obličje* 'аблічча', што сведчыць аб праславянскім характары слова.

**Абло′г**$_1$, аблога 'неапрацаваная зямля, поле, якое не ўзорваецца некалькі год', *аблогаваць* 'зарастаць дзірваном' (Нас.), *аблогам ляжаць* 'хварэць' (КЭС) <*ob-logъ*, гл. *лог, легчы, ляжаць*. Рэканструкцыя на падставе ўкр. *обліг*, польск. *obłóg*, славац. *obl'ah*. Арэал недастатковы для праславянскай рэканструкцыі. Гл. Выгонная, Лекс. Палесся, 43.

**Абло′г**$_2$, *аблуог* 'пчолы перад раеннем' (Сержп.) да *аблажыць*.

**Абло′й** 'шэрань, іней, намаразь' (Касп.) ад *аб-ліць*. Параўн. *абліваха* 'галалёдзіца, дождж пры тэмпературы замярзання вады, слота' (БРС, Шат., Янк. I, КЭС).

**Абло′нь**, *аблона, аблонне* 'роўнае поле, роўная лугавая прастора' (БРС, Нас., Бяльк., Гарэц., КТС), польск. *błoń, błonia, błonie*. Паланізм? Параўн. *абалонь, абалона*, гл., аднак, *лано, улонне*. Магчыма, тут наглядаецца кантамінацыя пералічаных слоў. Параўн. *блонне*.

**Аблу′біца**, *облубица* 'простыя сані' (Шпіл.) да *луб* (гл.).

**Аблу′да**$_1$ 'зман, памылка' (БРС, Яруш., КТС), *аблудны* (КТС), польск. *obłuda* (да *łudzić* 'падманваць').

**Аблу′да**$_2$ 'бадзяга' (драгіч., Лучыц-Федарэц, вусн. паведамл.) да *блудзіць* (гл.).

**Аблу′к** 'суцэльны ліпавы лубок для скрыні і сценак у сялянскіх калёсах, кладзецца таксама і ў сані' (Шат.), рус. *облук* 'край калёсаў, саней', славац. *obluk* 'тс', чэш. *oblouk*, польск. *obłąk*, славен. *oblok* 'дуга', серб.-харв. *ȍблук*, балг. *облък* 'лука' да *ob-lękъ*, гл. *лук, лука*. Фасмер, 3, 103; Махэк$_2$, 405—406.

**Аблуне′ць** 'зрабіцца мляўкім, непаваротлівым' (КЭС, лаг.). Мабыць, да *лунець* (гл.).

**Аблы'баць** 'абкасіць (траву)' (Яўс.). Ці да *лыбаць?*

**Аблы'жны** 'ілжывы, хлуслівы, фальшывы', *аблыжна* (Нас., Касп.), *аблыжнік* 'падхалім' (КЭС), гл. *ілгаць*. Рус. *облыжный,* магчыма, запазычанне з беларускай (аб гэтым сведчыць словаўтваральная і фанетычная структура слова).

**Аблы'таць** 'апутаць' (КТС), *аблытацца* 'звязацца, пасябравацца' (КЭС). Гл. *блытаць.*

**Абля'дры** 'шляя ў хамуце' (БРС, Нас.) <польск. *obladra, oblader* 'тс' <ням. *Oberleder* 'верхняя скура' (Карскі, Белорусы, 162; Кюнэ, Poln. 81).

**Абля'к** 'дробная плотка' (Крыв.). *Абляк* (антрапонім). Параўн. рус. *обляк* 'тоўстае дзіця', польск. *oblak* 'кавалак дрэва, калода, кругляк'. Тады ўсе гэтыя словы паходзяць ад прасл. *obьlъ,* гл. Бірыла БА, 2, 15.

**Аблямава'ць**, *аблямоўка* (БРС, КТС). Гл. *лямаваць.*

**Абляпі'ха** 'Hippophe L.' (Кіс., БРС, КТС) ад *абляпіць.*

**Абля'рвіцца** 'страціць гонар чэснай жанчыны' (Бяльк.). Гл. *лярва.*

**Абмага'ць** 'перамагаць', *абмагчы* 'падужаць, змагчы' (Сцяц.). На магчымасць калькі з літ. *apgalëti* 'тс' (да *galëti* 'магчы') звяртае ўвагу Непакупны Baltistica, VII (1), 1971, 15. Ён бачыць у літ. *apgalëti* і *pérgalėti* (абсалютныя сінонімы, адпаведныя бел. *абмагаць* і *перамагаць*) рэпрэзентантаў дзвюх моўных зон, прычым формы з *ap- (аб-)* цягнуцца да заходняй (прускай), параўн. ст.-прус. *epwarisnan* (він. скл.) 'перамога' і лат. *varet* 'магчы' (там жа, 14).

**Абмаро'чацца** 'згубіць кірунак у незнаёмай мясціне' (КЭСФ) да *марочыць* (гл.).

**Абма'х**, *абмашка* 'памылка' (Нас., Др.-Падб., Гарэц., Бяльк., Юрч., Касп., Яўс.), *абмахівацца* 'памыляцца' (Нас.), *абмахнуцца* 'памыліцца' (Бяльк.). Параўн. *абмахаць, абмахнуць* 'аббегчы, хутка абысці' (Нас., Бяльк.). Параўн. рус. *промах,* а з словаўтваральна-семантычнага боку бел. *абвіхнуцца* 'памыліцца' (гл.). Магчыма, створана на аснове апошняй формы кантамінацыйным шляхам.

**Абмё'рці** 'epilepsia' (КЭС) да *мерці* (гл.)

**Абме'ці** 'аўсяная мякіна' (Янк. I), *абмецце* 'зерне нізкага гатунку' (Янк. I), *абмёты* 'самая дробная салома, якая застаецца пасля малацьбы' (Выг. дыс.), *абмеціца* 'мука з пяском,

якая абмецена навакол мельнічнага каменя' (Нас. Доп., КЭС). Гл. *амёты*.

**Абме'шка** 'чорныя сарты мукі, якія ідуць на корм жывёле' (Бір. дыс.) да *мяшаць*.

**Абмішу'ліць**, *абмішульваць* 'ашукаць, падмануць' (Бяльк.), *абмішуліцца* 'прыкра памыліцца' (Юрч. Сін.). Рус. *мишуля* 'дурань' звязваецца з уласным імем *Міхаіл*. Фасмер (2, 631) аспрэчвае версію Ільінскага (ИОРЯС, 20, 3, 76) аб сувязі *мишуля* з рус. *обмихнуться*, якое, аднак, у сваю чаргу не мае яснай этымалогіі. Калі бел. *абмішуліць* утворана як *абдзяжуліць*, тады яно ўзыходзіць да *аб-міх* кантамінацыйнай формы ад бел. *абмах* 'памылка' і бел. *абвіхнуцца* 'памыліцца' (гл.). Іншая версія можа быць звязана з літ. *mišulỹs* 'блытаніна думак' да *mìšti* 'заблытацца, аканфузіцца', 'страціць розум'. Тады *абмішуліць* балтыйскага паходжання. Як аб гэтым сведчыць фанетыка, запазычанне магло адбыцца толькі пасля падзення рэдукаваных. Гэта версія таксама не надзейная, бо застаецца неўдакладненай непасрэдная крыніца запазычання. Трэцяе рашэнне: рускі дублет *обмишулить/обмишурить* гаворыць аб *л/р* дублетнасці ў гэтых формах. Тады *абмішурыцца*, магчыма, да рус. (зах.) *мишурис*, польск. *miszures* 'слуга на пастаялым двары' (<ідыш *meszores* 'слуга'). Нарэшце, параўн. *абмішуліцца* 'памыліцца' і *абмішэніцца* 'не папасці ў цэль' (Бяльк., Дабр. Этн.). Апошняе магло кантамінавацца з *абакуліць* 'ашукаць'. Магчымасць усіх гэтых версій стварае вялікія цяжкасці на шляху вырашэння пытання. Хутчэй за ўсё ў дадзеным выпадку мелі месца надзвычай складаныя кантамінацыйныя працэсы.

**Абмо'ва** (Нас.) <польск. *obmowa* (Кюнэ, Poln., 81).

**Абнацу'рыць** 'абазначыць, адзначыць', *абнацурэнне* (Шпіл.) да *цур, чур*.

**Абнясла'віць** (БРС, КТС). Параўн. *няслава* 'дурная слава' да *слава* (гл.).

**Абнагаце'ць** 'абяднець, агаліцца' (Гарэц., Др.-Падб.) <*нагата* (гл.). Параўн. ст.-рус. *соромити* і серб.-харв. *срамòтити* (<прасл. *sormota* 'сарамата').

**Абна'дзіцца** 'прызвычаіцца да нечага павабнага' (КЭС). Гл. *надзіць*.

**Абначы'цца** 'заначаваць выпадкова' (Юрч. Сін.), *абначэць* 'тс' (Хрэст. дыял., 27, віц.) да *ноч* (гл.).

**Або'** 'або, ці' <*а-бо*. Гл. таксама *абож* (Нас., Бяльк.,

Касп.), чэш. *abo,* в.-луж. *abo,* н.-луж. *abo,* Буга, РФВ, 70, 101; Мейе, MSL, 20, 91. Згодна з Саднік — Айцэтмюлер, 3, польск. *abo* 'або' <*albo,* в.-луж., н.-луж. *abo* 'або' <*alebo.* Гл. *бо.*

**Або'д** (Касп.), *абод, абоддзе* (Шат., КТС).

**Або'е** (БРС), *абоі* 'абодва' (Шат., Касп., КЭС). Параўн. *абодва.* Адна з дзвюх праславянскіх форм з і.-е. паралелямі: рус. *обое,* ст.-рус. *обои,* ст.-слав. обо, ст.-чэш. *oboj,* літ. *abeji,* лат. *abeji,* ст.-прус. *abbai, abbaien,* гоц. *bai,* ст.-інд. *ubháyam,* Фасмер, 3, 104. Форма, якая адпавядае бел. *абодва,* на славянскім грунце больш пашырана, але мае балта-славянскі інавацыйны характар (гл. *абодва*). *Абоі* — гэта індаеўрапейскі архаізм, які захаваўся толькі ў некаторых славянскіх мовах, у тым ліку старажытнапісьмовых (старaславянскай, старажытнарускай і старажытначэшскай). Той факт, што гэта слова сустракаецца ў гаворках цэнтральнай часткі Беларусі, сведчыць, што яно спрадвечнабеларускае, а не запазычанне з рускай.

**Або'ец** 'клінок, якім замацоўваецца каса на касільне' да *біць.* Пачатковае *а-,* магчыма, не прэфіксальнага, а пратэтычнага характару (**боец*).

**Або'жня** 'пабудова са сценамі для гаспадарчых прылад' (ДАБМ), відаць, аднаго паходжання з *абозня* 'вазоўня, павець для калёсаў' (БРС, Шат.), 'халодная будыніна для саней і іншых прылад; вялікая і няўтульная хата' (ДАБМ, слуц., 23) да *абоз* 'гуж павозак, фурманак' (Бяльк.) (гл.).

**Або'з** 'гуж павозак' (БРС, Бяльк., КТС), укр. *обіз,* рус. *обоз,* чэш. *oboz,* польск. *obóz* да *ob-vozъ,* гл. *вязці.* Арэальна абмежаванае слова, якое можна разглядаць або як запазычанне з адной славянскай мовы ў другую (у чэшскай і польскай з усходнеславянскіх) Махэк₂, 406, і немагчыма гаварыць аб яго праславянскім характары або запазычанні ці кальцы з неславянскіх моў.

**Або'і.** Гл. *абое.*

**Або'йма** 'аб'ём, ахват' (Нас., Гарэц., Др.-Падб., КТС), рус. *обойма* 'тс', укр. *обійми* 'абдыманні' да *ob-jęti, ob(o)-imǫ.* Гл. *мець.*

**Або'ра$_1$** 'тонкая вяровачка, у тым ліку і тая, якой падвязваюцца лапці' (Нас., Бяльк., Касп., Шат.), *оборона* 'вяроўка, якой падвязваюць лапці' (Мядзв.). Рус. *обора,* укр. *обора* 'тс'<**ob-vora.* Бліжэйшыя паралелі: літ. *apývara, apvarė̃* ў тым жа значэнні, якое ад *vérti* 'звязваць', хаця літоўскі дзея-

слоў мае славянскі адпаведнік *vьrěti'* рус. *вереть* 'зачыніць' і інш. Поўнае марфолага-семантычнае супадзенне ўсходнеславянскіх форм з літоўскімі і абмежаваны арэал першых дазваляюць думаць аб іх балтыйскім паходжанні. Параўн., аднак, Траўтман, 351. Арэал *аборы* амаль поўнасцю супадае з арэалам лапцей (гл. Малчанава. Мат. культ., 178).

**Або́ра₂** 'месца на двары, абгароджанае жэрдкамі, дзе летам начуе жывёла; хлеў, вялікі будынак для кароў', рус. *обора* 'агароджа', польск. *obora*, балг. *обор*, макед. *обор* 'абора', серб.-харв. *обо̏ра,* славен. *obor* 'агароджа (для жывёлы)' да *ob-vora (ob-vьrǫ)*. Суадносіцца з папярэднім, але агульна- і праславянскае, што дае падставу меркаваць аб адсутнасці паміж імі непасрэднай генетычнай сувязі.

**Або́рак** 'абворанае кругом месца; невялікі лужок на полі, наўкол якога ралля' (Нас., Бяльк., Юрч., Гарэц., Касп., Прышч. дыс.), *аборачак, абурочак* 'астравок у полі, дзе расцуць дрэвы' (КСТ) <*аб-араць*. Досыць нерэгулярнай здаецца акцэнтуацыйна-словаўтваральная мадэль, нехарактэрная для ўсходнеславянскіх моў. Можна меркаваць, што слова было запазычана з польскай мовы, аднак адпаведнае слова-крыніца не выяўлена.

**Або́рт** (БРС). Запазычанне праз рускую мову ў XX ст. (Крукоўскі, Уплыў, 88), дзе ў другой палавіне XIX ст. з лац. *abortus*. Гл. Шанскі, 1, А, 17.

**Абпяну́цца** 'акрыцца', *абпянуць* (Янк. Мат.). Гл. *абапнуцца.*

**Абраві́та** 'абавязкова, няўхільна' (Бяльк.), 'прама' (Раст.). Трубачоў лічыць няясным (Слав. языкозн., V, 176). Да *абравітар*. Параўн. бел. беластоц. *obrewiter* 'не вагаючыся, без цырымоніі' <лац. *breviter* 'коратка' (Зданцэвіч, Тэксты, 38). Гл. Мартынаў, БЛ, 1972, 2, 74.

**Абра́за** (Нас., Бяльк., Яруш., КЭС), укр. *образа*, польск. *obraza* <*ob-raza* да *raziti.* Параўн. *уразіць, уражліва* і г. д. Магчыма, арэальная інавацыя. Не выключана таксама беларускае і украінскае запазычанне з польскай мовы, дзе захавалася першаснае канкрэтнае значэнне (*obrazać* 'абражаць' і 'пашкоджваць'). Параўн., аднак, ст.-бел. *образити* 'паражаць, ударыць' і 'абражаць' (Нас. Гіст.).

**Абрака́цца** 'абяцаць выканаць якую-небудзь справу ў імя бога, даваць абет' (Шат., Сцяшк., Касп., Арх. ГУ, КЭС), *абрачыся* 'ахвяравацца' (КЭС) да *ob-rekati sę*. Не зусім зразумела словаўтваральная мадэль і, у прыватнасці, зваротны

характар дзеяслова, якія супярэчаць семантыцы. Арэал пашырэння слова сведчыць, магчыма, аб тым, што гэта калька. Верагодным словам-крыніцай з'яўляецца літ. *apžadėtis* 'урачыста абяцаць' пры *žadėtis* 'гаварыць адзін аднаму' (=*rekati sę*).

**Абрамі'зіць** 'ашукаць, абмануць' (КЭС). Гл. *раміз.*

**Абрамяня'ць** 'пачакаць' (Шат.) да **аб-верамяняць* (гл. Мартынаў, БЛ, 1972, 2). Калі гэты дзеяслоў утвораны ад назоўніка *вераме* (Нас.), не характэрнага зараз для беларускага арэала, прэфіксацыю можна вытлумачыць на аснове такіх выразаў, як *аб ноч, аб дзень.* Тады павінна быць *аб вераме* (<*ob vьrmę*). Сляды гэтага праславянскага выразу знаходзім у ст.-польск. *brzemie,* серб.-харв. *брјѐме* 'час' <*ob vьrmę.* Гл. Ільінскі, PF, 11, 193.

**Абрахава'ць** 'падлічыць' (Нас.) <польск. *obrachować* 'тс' (Кюнэ, Poln., 81).

**Абро'вак** 'бок дарогі' (Сцяшк. МГ) да *брыво* (прасл. *brъvь*). Назва *brъvь* у шэрагу моў пераносіцца на паняцце 'край (дарогі)', пачатковае *а-,* відаць, старажытнага паходжання: параўн. славац. *obrv,* серб.-харв. *ȍбрва* 'мяжа', славен. *obrv.* Суфіксацыя, магчыма, гаворыць пра заходнеславянскі (польскі) уплыў.

**Абро'жак,** *аброжка* 'ашыйнік' (БРС, Нас.), польск. *obroża, obróż.* Апошняе да **ob-vorz-ja* (прасл. *verzti* 'вязаць'). Аб польскім паходжанні бел. *аброжак, аброжка* сведчыць агаласоўка, гл. Машынскі, ZNUK, 12, 5, 18.

**Абро'к**$_1$ 'ахвяраванне рэлігійнага парадку' (Бяльк.), 'абяцанне, якое давалі богу, каб перасталі дзеці паміраць' (КСТ), ст.-рус. *обрѡкъ,* чэш. *obrok* 'аброк', балг. *обрак* 'абяцанне', серб.-харв. *ȍброк* 'тэрмін', славен. *obrok* 'тс' <*ob-rokъ*<*rekǫ* 'гавару, абяцаю', Фасмер, 3, 108. Гл. *аброк*$_2$.

**Абро'к**$_2$ 'корм, які бярэцца ў дарогу для каня' (літ. *abrãkas* 'тс' з беларускіх гаворак), чэш. *obrok,* польск. *obrok* 'корм', серб.-харв. *ȍброк* 'паёк, рацыён', славен. *obrok* 'корм' да *аброк*$_1$.

**Абро'ць** 'аброць, вуздэчка (з мачала або вяроўкі)', *абротачка, абротка, абротаць.* Рус. *оброть, укр. оброть,* ст.-рус. *оброть, обрътъ, обрътити* 'надзяваць намордцік', польск. *obretka* 'аброць, кантар'. Да *ob-rъtь* Міклашыч, 285; Развадоўскі, Wybór, 1, 301, гл. *рот.* Корнеў (ВФ ЛГУ, 2, 23—24) робіць

спробу звязаць *аброць* з бел. *брытаць* 'надзець вуздэчку', *брытаніць* 'біць вуздэчкай', рус. пск. *брутать* 'закілзваць'.

**Абру'д** 'ніжняя частка драўлянага посуду (цэбра)' (Шат.). Відаць, да **ob-rǫdъ* (Трубачоў, Слав. языкозн., V, 176), прасл. *rędіti* 'правіць, кіраваць, распараджацца, раіць, упарадкоўваць і г. д.' (ст.-бел. *обрѧжоный* 'зроблены, упарадкаваны'). Ад абстрактных значэнняў гэтага дзеяслова немагчыма перайсці да значэння *абруд*. Аднак у беларускай мове існуе назва цэбра, утвораная ад кораня *ręd* — *ражка* (гл.). Апрача гэтага, адзначана *рад* 'пласт у кубельчыку' (Янк. II). Тады **rędja* (>**ража, ражка*) 'драўляны сасуд з радамі, 'кубел, цэбар', а **obrǫdъ* 'яго апошні перад дном рад'.

**Абруза'ць₁** 'пухнуць, азызнуць' (Нас.), *абрузлы* (Нас.), *абрузглы* (Касп.), *абрюзлы* (Бяльк.). Параўн. рус. *(о)брюзглый, брюзнуть* і *брюхнуть*. Магчыма, звязана з *бруха* (*z/x* як *чахнуць/чэзнуць, пах/паз* і г. д.). Гл. Мартынаў, Слав. акком., 167. Аб праславянскім характары слова *бруха* меркаваць цяжка. Наколькі вядома, слова выключна паўночнаславянскае. Гэты факт стварае дадатковыя цяжкасці, паколькі альтэрнацыі тыпу *чахнуць/чэзнуць* ахопліваюць праславянскую мову.

**Абруза'ць₂** 'спаць', *абрузанне* (Юрч.), відаць, ад *абрузаць₁* (гл.). Параўн. рус. жарг. *припухать* у значэнні 'спаць'.

**Абру'с** 'кусок спецыяльна вытканай тканіны, якой засцілаюць стол', *абрусны* 'ручнік на іконах', укр. *обрус*, рус. *обрус*, чэш. *obrus*, славац. *obrus*, польск. *obrus* 'абрус', балг. *обрус* 'уціральнік', славен. *obrus* 'абрус'; *o-brusъ*: *brъsnǫti*: ц.-слав. **бръснѫти**, славен. *(o)brisati*, серб.-харв. *бри̏сати*, 'уціраць' (Фасмер, 3, 108). Меркаванне аб польскім паходжанні бел. *абрус* (Мядзв.) беспадстаўнае.

**Абру'ч** 'абруч, кольца' (БРС, Нас., Касп.), *абручык* (Нас.), *абручык* 'кольца, якім замацоўваецца каса на касільне' да *obrǫčь*<*rǫka*, гл. укр. *обруч*, ст.-рус. *обручь*, рус. ц.-слав. **обрѫчь**, чэш. *abruč*, польск. *obręcz*, славен. *obrôč*, серб.-харв. *ȍбруч*, балг. *обръч* 'абруч'. Параўн. літ. *apýranke* 'бранзалет', *ìrankis* 'наручнік', Траўтман, 237. Магчыма, яшчэ балта-славянская інавацыя.

**Абры'вак** 'хабар, магарыч' (КЭС) да *рваць*.

**Абры'да**, *абрыдзіць*, гл. *брыдота, брыдкі*. Цікавым з'яўляецца арэал пашырэння гэтага слова. Параўн. укр. *обридний, обрида*, польск. *obrzydzić, obrzydliwy, obrzydny*, усх.-чэш. *obřidlivý*. У той жа час зыходнае слова мае агульнаславянскі

і праславянскі характар. Эпіцэнтр распаўсюджання гэтай групы лексем выявіць цяжка.

**Абры′дзень** 'густая сетка для лоўлі рыбы' (Касп.) <*брэдзень* (параўн. рус. *бредень, брести*). Галосны кораня дысімілізаваўся, пачатковае *а-* мае пратэтычны характар.

**Абрызло′е** (малако) 'малако, якое без пары загусла', *абрызнуць* 'загусцець (аб свежым, салодкім малацэ)' (КЭС), *абрызклы* 'пра напаўкіслае малако' (Некр.). Укр. *брезкле молоко* 'малако, якое толькі пачало кіснуць' (Лысенка Жыт.), *збресклий* (аб малацэ, якое пачынае кіснуць), ст.-рус. *обрьзгнути* 'пракіснуць', польск. *obrzyzgnąć,* чэш. *zabřesknouti* 'тс'. Звычайна ў якасці індаеўрапейскіх паралеляў прыводзяцца ізаляваныя нарв. *brisk* 'горкі смак', *brisken* 'горкі', якія нібы да і.-е. **bhrēi* 'рэзаць' (Покарны, 172).

**Абрыко′с** (БРС). Запазычанне XX ст. праз рускую мову з гал. *abrikoos*, гл. Фасмер, 1, 57; Шанскі, 1, А, 18.

**Абры′нданы** 'абляпаны, запэцканы' (БРС, Сцяц., КТС), *абрындывацца* 'абрывацца махрамі (аб спадніцы)' (Шат.). Магчыма, запазычанне з літ. мовы. Параўн. літ. *brendù, brìsti* 'ісці ўброд праз балота, гразь'.

**Абрыну′цца** 'трапіць', гл. *рынуцца;* параўн. літ. *api-pùlti (pùlti* 'рынуцца'). Магчыма, калька.

**Абрыня′ць** 'напухнуць, азызнуць' (Шн.). Можна рэканструяваць як *obъriněti* <**obъrinъ* 'волат' (гл. Мартынаў, БЛ, 1972, 2), ст.-рус. *объринъ* захавала толькі значэнне 'авар', але ст.-польск. *ob-rzym* 'волат' дало ст.-польск. *obrzmieć* 'напухнуць'. Параўн. таксама чэш. *obr,* славац. *obor,* славен. *ober* 'волат'. У выніку памылковай дэкампазіцыі польск. *obrzmieć>o-brzmieć, na-brzmieć.* Апошняя форма была запазычана ў чэшскую мову з ляш. *nabrnět* 'напухнуць' (Махэк$_2$, 406 і 67). Менш верагодна сувязь *абрыняць* з укр. *брунька* 'почка', чэш. *brnka* 'паслед', якія Трубачоў (Этымалогія, 1964, 3—4) супастаўляе з ст.-інд. *bhrūṇá* 'зародак', лат. *braũna* 'луска'. Апошнія да і.-е. **bhrěu/bhrū̆* 'пухнуць' (Покарны, 169).

**Абры′ць** 'завязаць (хустку)' (Мат. Гродз.) з балт., параўн. літ.*aprìšti* 'завязаць'.

**Абрэ′нджа** 'металічнае кальцо для замацавання ступіцы кола' (Нік. Очерки) <польск. *obręcz* 'абруч'.

**Абсалю′тны** (БРС). Запазычанне XX ст. праз рускую мову (Крукоўскі, Уплыў, 76), дзе з ням. *absolut* на пачатку XIX ст.— Шанскі, 1, А, 20—21.

**Абса′ц** 'абцас' (Нас.). Гл. *абцас.*

**Абсерва′цыя** 'назіранне' <лац. *observatio* праз польскае пасрэдніцтва. Польск. *obserwacja* пранікла ў беларускую мову ў XVI—XVII стст. Не выключаны таксама непасрэдны лацінскі ўплыў. Параўн. ст.-бел. *обсервовати* 'захоўваць, прытрымлівацца' (Булыка, Запазыч.).

**Абста′віны** (БРС) (неалагізм XX ст.), раней *абставы* (Гіст. лекс., 257) пераўтворана па мадэлі *ўводзіны.*

**Абсталява′ць,** *абсталяваны* (БРС, Касп.) <польск. *obstalować,* якое ў сваю чаргу з нямецкага *bestellen;* ням. *be-*> польск. *ob-,* не зусім зразумелая агаласоўка кораня, гл. Брукнер, 512—513.

**Абсмо′рганы** 'абскубены, абарваны'. Гл. *сморгаць, шморгаць.*

**Абсалю′цыя** 'адпушчэнне грахоў' (Нас.), ст.-бел. *абсолюция* з 1647 (Нас. Гіст.) <лац. *absolutio* 'звальненне'. Запазычанне хутчэй за ўсё праз польскае пасрэдніцтва, паколькі звязана з царкоўнай тэрміналогіяй (польск. *absolucja).*

**Абсудо′біцца** 'ўрабіцца, запэцкацца' (Хрэст. дыял.), параўн. рус. *судобіть* 'меціць, прызначаць' да *судьба,* гл. Трубачоў, Дополн., 3, 796. Семантычна няясна.

**Абсупо′німаць** 'абыгрываць' (Нас.) да *супоня, супоніць* (гл.). Відаць, семантычна звязана з *супоніць* 'біць супоняй' і 'біць (наогул)'. Параўн. «Глядзі, як вашага брата супоняць» (Нас.).

**Абсу′рд** (БРС). Слова запазычана праз рускую мову ў XX ст. (Крукоўскі, Уплыў, 76). У рускай з франц. *absurde* (другая палавіна XIX ст.). Гл. Вінаградаў, Очерки, 392.

**Абсу′рыцца** 'апарыцца' (Касп.). Няясна.

**Абуго′ня** 'ўчастак поля, які намячаецца ўзараць' (Юрч.), 'узараная частка гоняў' (Гарэц.). Гл. *гоні* і *бугоня.*

**Абу′за** (БРС, Гарэц., Нас., Бяльк., Касп.) 'лішняя турбота, распуста, брыда, гультай', *абузны* 'непрыемны, прыкры, завадны, што перашкаджае' (Нас., Гарэц., Касп.), *абузніца* 'распусніца, гультайка' (Нас. Сб.) <*ob-vǫza* (параўн. *абвязаць).* **Ст.-рус.** *обузъ* 'завязка', ст.-слав. **обѫзъ** 'тс'. Семантычны зрух у напрамку 'павязка'>'прывязаны груз'>'усё, што гняце' (Баханькоў, Бел. мова, 163; Фасмер, 3, 109). Параўн. в.-луж. *wóbuza,* н.-луж. *hobuza* 'прыкрасць, цяжар' (Махэк, Slavia, 28, 270).

**Абуле'б** 'абы, хоць' (Янк. I) (да *абы лепш?*).

**Абуме'рлы** 'сумны, прыгнечаны' (КТС). Супрун (Веснік БДУ, 1, 2, 68) параўноўвае з балг. *умърлушва се* 'губляць надзею, сумаваць', *омърлушвам се, умъля* 'тс', макед. *омрлушува (се)* 'быць прыгнечаным, заняпалым, апусціцца'. Бернар (RÉS, 41, 91) трактуе гэтыя словы як вытворныя ад прасл. *mьrti* 'паміраць'. Супрун бачыць у беларуска-балгарска-македонскай паралелі праславянскі рэлікт або пазнейшае паралельнае ўтварэнне. Зыходзячы з суфіксальнага разыходжання, хутчэй апошняе.

**Абу'рыны** 'перабітая ў час малацьбы салома' (Арх. ГУ) да *бурыць* (гл.). Што датычыць словаўтварэння, параўн. *амеціны* (гл. *амецце*).

**Абу'рыцца** 'абваліцца' (Арх. ГУ). Гл. *бурыць*.

**Абусо'ка** 'акружэнне пасля высочвання (звера)' (Касп.) <**обосока* да *сачыць* (гл.).

**Абу'х** 'абух', рус. *обух*, укр. *обух*, ст.-рус. *обухъ*, польск. *obuch*, чэш. *obuch*, славац. *obuch*. Згодна з найбольш прынятай версіяй, *ob-ихъ* (ад *уха*) (Юнгм., 2, 807; Праабражэнскі, 1, 632). Згодна з іншай, да *о-вихъ (бухаць)* (Брандт, РФВ, 23, 94). Верагоднай здаецца таксама трэцяя версія <*ob-и-хъ*< *ob-uti* 'надзяваць'; *obuхъ* 'тое, што надзяваюць на тапарышча'.

**Абу'ць**, *абуваць* 'надзець абутак' (БРС, Шат., Касп.), *абувацца* (Бір. дыс., Касп.), *абуцца* да **ob-uti*, рус. *обуть*, укр. *обути*, чэш. *obout*, славац. *obut'*, в.-луж. *wobuć*, н.-луж. *wobuś*, польск. *obuć*, славен. *obúti*, серб.-харв. *ȍбути*, балг. *обуя*. Бліжэйшая паралель: літ. *ap-aũti* 'абувацца', *apaũtas* 'абутак', лат. *aut* 'абуваць', ст.-іран. *aoϑra* 'абутак', лац. *exuō* 'разуваюся' і г. д. Траўтман, 21; Гуер, IF, 46, 343; Фасмер, 3, 109. Дзеяслоў, бясспрэчна, яшчэ праіндаеўрапейскі, але тое, што прэфіксацыя прасл. *ob-uti* супадае з прабалт. *ap-auti*, дае падставу сцвярджаць аб балта-славянскай словаўтваральнай інавацыі.

**Абу'ць у ла'пці** 'абмахляваць' (Шат.), (параўн. *абармот* (гл.) 'махляр' <*аборо-мот*) = 'зрабіць лапцюжнікам', г. зн. чалавекам дурным. Параўн. яшчэ ўкр. *обути (узути) у постоли*.

**Абхі'нуць** 'абхінуць, захіліць'. Гл. *хінуць*.

**Абца'с**, *абсац* (Гарэц., Др.-Падб., Сцяц., Яруш.). Запазычанне праз польск. *obcas* з ням. *Absatz* (Кюнэ, Poln., 82).

У працэсе запазычання ў польскай мове адбылася дыстантная метатэза — нерэгулярная з'ява, якая выклікана камбінаторнымі цяжкасцямі, не тыповымі для славянскай структуры слова *(Absatz>obsac>obcas)*. Магчыма, што слова было непасрэдна запазычана ў беларускую мову, улічваючы распаўсюджанасць нямецкага рамяства ў гарадах Беларусі. Гл. Вольскі, Узв. 3, 9—10, 97.

**Абцугі′** 'клешчы з дрэва', ст.-бел. *абцегі, обцукгъ* (Булыка, Запазыч.)<польск. *obcęgi* (Кюнэ, Poln., 81) <ням. *Hebzange*. Параўн. яўны паланізм *абцэнгі* (Сцяшк. МГ), *обцэнькі* 'тс' (Клім.).

**Абцэ′сам** 'хутка, імкліва' (Сцяшк. МГ) <лац. праз польскае *obcesem*. Гл. польск. *obces, obcesem, obcesowy* (Брукнер, 369). Запазычанне нядаўняе. Да XVIII ст. у польскай мове толькі *obces* <лац. *obsessus* 'шалёны, у якім д'ябал сядзіць'. На карысць польскага пасрэдніцтва тая ж фанетычная адаптацыя *(bc<bs)* і той факт, што значэнне ўзыходзіць да царкоўнай тэрміналогіі.

**Абця′ць** 'абцерабіць, абсячы' (БРС, Шат., Бяльк.). Гл. *цяць*.

**Абчыка′ніць** 'абстрыгчы роўна, нізка' (Юрч.Сін.), кантамінацыя *аббалваніць* і *чыканіць*.

**Абчыкры′жыць** 'абрэзаць, абстрыгчы (коратка)' (Гарэц., Юрч., Др.-Падб.). Гл. *чыкрыжыць*.

**Абчылга′ніць** 'абстрыгчы' (Яшкін, вусн. паведамл., слаўг.). Кантамінацыя *абгалганіць* і *чыкаць*.

**Абчычы′каць** 'абстрыгчы хутка' (Малько, вусн. паведамл., мядз.). Рэдуплікацыя да *чыкаць*.

**Абшаво′ліваць,** *абшаволіць* 'абкрадаць, абшукваць, абманваць' (Нас. Доп.), *абшаваліць* 'тс' (Юрч. Сін.). Да *шаволіць* (гл.) 'шавяліць' (Бірыла, вусн. паведамл.). Параўн. *вышаволіць* 'выкрасці'.

**Абшалё′стаць** 'абабраць (плады), абкрасці' (Сцяц., КТС, Міхневіч, вусн. паведамл.), гукапераймальнае да *шалясцець*.

**Абшалё′хтаць** (КТС). Гл. *абшалёстаць*.

**Абшалупа′шыць** 'вылузаць' (Бяльк.). Гл. *шалупенне, шалупіна*.

**Абша′міць** 'зрабіць што-небудзь употай, хутка' (Бяльк.) да *шамаць* (гл.) 'рабіць шорах, шастаць'.

**Абша′р** 'абшар, прастора' (БРС, Бяльк., Сцяшк. МГ). *Абшар (пшен'іцы)* <польск. *obszar*<ням. *obirschar* (<*überscheeren* 'перарэзаць') 'частка зямлі, якая вылучаецца пасля вымярэння' (XV ст.). З XVII ст. — сучаснае значэнне (Брукнер, 68). Калі гэта так, бел. *абшар*<польск. *obszar* (XVII ст.) (параўн. Мартынаў, SlW, 68).

**Абшарпа′нец** 'абадранец' (Нас., Юрч.), *абшарпанік* (Гарэц.), *абшарпонік* (Др.-Падб.), *абшарпаць, абшарпаны* (Нас., Бяльк.). Гл. *шарпаць.*

**Абша′рхацца** 'знюхацца, сысціся' (Бяльк.) да *шарохацца* 'таўчыся, церціся' (гл.).

**Абшасну′цца** 'спатыкнуцца, абарвацца, упасці звысоку' (Нас., Арх. Бяльк., Юрч., Яруш.) да *абшастаць* (тады *абшаст-нуцца*). Параўн. *абшастацца* 'абарвацца' (Нас.).

**Абша′стаць** 'абабраць, абакрасці' (Бяльк., БРС, Касп.), *абшастаць* 'абрэзаць' (Сцяц.) да *шастаць* (гл.).

**Абшва′біць** 'абакрасці, абыграць' (Нас.), відаць <польск. *oszwabić* 'ашукаць' да *szwab* 'шваб, пагардлівая назва немца'. Параўн., аднак, бел. *шваб, швабіць* (гл.).

**Абшвы′ргаць** 'закідаць (граззю)' (Нас.). Гл. *швыргаць.*

**Абшкума′ціць** 'ускалмаціць, абарваць, абабраць' (Бяльк., Гарэц.). Гл. *шкумаціць.*

**Абшліпа′цца** 'запэцкацца ў гразь' (Бяльк.), параўн. *абшлёпаны* 'запэцканы', *абшлёпацца* 'запэцкацца' (Нас.). Гл. *шлёпаць.*

**Абшлы′ндацца** 'падрацца, знасіцца ўнізе, у падоле' (Бяльк.) да *шлындаць* 'бадзяцца' (гл.).

**Абшма′льцаваць** 'засаліць (адзежу)' (Шат.) ад *шмалец, смалец.*

**Абшмарава′ць** 'абцерці' (Шат.) да *шмараваць* (гл.) 'пэцкаць, шмараваць', параўн. *абшмараваны* 'запэцканы' (Нас.), *абшмараваць* 'запэцкаць' (Касп.). Магчыма, кантамінацыя з *абшморгаць* 'абцерці' (гл.).

**Абшмо′ргаць** 'абцерці' (Шат.) да *шморгаць.*

**Абшмульга′ць** 'абдзерці' (Нас., Бяльк.), *абшмульганы* 'абадраны' (Нас.). Гл. *шмульгаць.*

**Абшмуля′ць.** Гл. *шмуляць.*

**Абшны′парыць** 'абмацаць, абшукаць' (Нас., Касп.). Гл. *шныпар.*

**Абшпа′рыць** ’зняць скуру, біць, хвастаць (пра дождж)’ (Нас.).

**Абшулапа′шыць** ’аблушчыць, аблузаць’ (Бяльк.) ад *шулапаха* да *шулупа* ’шалупінне’ (гл.).

**Абшурапа′ціцца** (гл. *шурпаты*), *абшурпанец,* ’абадранец’ (Янк. II), кантамінацыйнага паходжання да *абшарпанец* і *шурпаты.*

**Абшусну′цца** ’абарвацца, упасці’ (Нас.), кантамінацыйнае ўтварэнне ад *абшаснуцца* (гл.) і *шусць, шустры* (гл.).

**Абшчале′піць** ’абняць моцна, гулліва’ (Юрч. Сін.). Параўн. *абшчапуліць* (гл.) ’тс’, *абшчапіць* (гл.) ’тс’ і *шчэлепы* (кантамінацыйнае ўтварэнне).

**Абшчапі′ць** ’абхапіць рукамі, нарабіць прышчэпак (сад.)’ (Янк. I), *абшчэпкі* ’абдымкі’ (Яўс.) да *шчапіць* (гл.).

**Абшчо′тавацца** ’зрабіць памылку пры падліках’ (Нас.) <рус. *обсчитаться.*

**Абшчэ′пліваць** ’абдымаць моцна’ (Нас.Доп.). Гл. *абшчапіць.*

**Абшчына** (БРС, Яруш.) <рус. *община,* запазычанне новае (XX ст.). Гэта паняцце ў народнай і старабеларускай мове называецца *грамада.* Гл. Крукоўскі, Уплыў, 21—22.

**Абшывалі′ць** ’абабраць, абакрасці, зрабіць хутка справу’, параўн. *абшамыць* (Бяльк.) да *аб-шавяліць.* Параўн. другое значэнне дзеяслова *шаволіць* ’шукаць, рыскаць’. Гл. *шаволіць, абшаволіць.*

**Абшэ′ўка** ’манжэта’ (БРС, Бір. дыс.) да *шыць.*

**Абы′** <*а*+*бы.* Гл. *бы* (<*быць*), укр. *аби,* ст.-рус. *абы,* рус. *абы,* польск. *aby,* кашуб. *aboe,* н.-луж. *abo, aby,* в.-луж. *abo,* славен. *aboj* (параўн. *каб(ы), дабы,* польск. *żeby* і г. д.), параўн. Махэк$_2$, 15; Шанскі, 1, А, 23; Саднік — Айцэтмюлер, 2.

**Абыва′цель** (БРС) <рус. *обыватель.* Нядаўняе і эфемернае запазычанне (Мартынаў, SlW, 69). Польскі ўплыў выключаны па семантычных прычынах. Польск. *obywatel* ’грамадзянін’ дало ст.-бел. *обыватель* (XVI ст.) — Крыўчык, Межрэсп. конф., 14.

**Абыго′нь** (*арацъ у абыгонь*) ’калі ворыва пачынаецца з сярэдзіны загона; калі ворыва робіцца ў сярэдзіне загона’ (Выг. дыс.) <*аб гонь* ’на ўсю даўжыню гоняў’ да *гонь, гоні* (гл.). Параўн. *абугоня.*

**Абыдзе′ннік** ’сувой палатна з нітак ільну, якія былі спрадзеныя за дзень’ (у адпаведнасці з ахвяраваннем цэлых вёсак у час засухі) да *аб дзень*.

**Абы′дзень** ’штодня; за дзень, на працягу дня’ (Бяльк., Гарэц., Грыг.) да *аб дзень*, параўн. *абынач* ’што ночы, на працягу ночы’ (Бяльк.). Адсюль *абыдзенны* (Касп., Нас.). Магчыма, што значэнні гэтага слова ’штодня’ і ’на працягу дня’ адлюстроўваюць два амонімы: *абыдзень* ’на працягу дня’ (гл. *абыдзеннік*) <*аб дзень* і *абыдзень* ’штодня’ з *аб-ін-дзень*. Параўн. укр. *обидень* ’за адзін дзень’, ст.-рус. *обыденыи* ’аднадзенны’. Ільінскі, РФВ, 66, 280; Праабражэнскі, 1, 633; Фасмер, 3, 111. Інакш Карскі, 2—3, 78, згодна з якім у *абыдзень бы* дзеяслоўнага паходжання (3-я асоба аорыста), як у *абыгдзе*.

**Абыйма′ць** ’абдымаць’ (Гарэц.), *абыйманак* ’абдымак’ (Др.-Падб.) <**абімаць*, прасл. *ob-jьmǫ ob-jęti*, параўн. літ. *im̃ti* ’браць’, лац. *emere* ’тс’. Гл. *мець*.

**Абыймо′** ’аб’ём’ (Дуж.-Душ.). Гл. *обойма*.

**Абыйсці′ся:** *обыйс’ц’иса* ’закруціцца, заблытацца (у лесе, напр.)’ (КСТ) да *ісці* (гл.).

**Абык** ’звычай, звычка’ (Нас.), *абыкаць* (Нас.) <*аб-вык*, гл. таксама *абыкласць* ’звычай’ (Нас., Гарэц.), *абыкла* ’звычайна’ (КТС), *абыклы* ’звычайны’ (Нас., Касп., КТС, Яруш.), гл. таксама *абычай* (Шат., Нас., Сержп.). Вельмі архаічная форма. Параўн. серб.-харв. *ȍбика* ’тс’.

**Абы′р** ’вокліч пры адгоне авечак’ (КСТ), суадносіцца з назвай барана. Параўн. укр. *бирь*, рус. *барь*. Германовіч, ИКПИ, 19, 308; Трубачоў, Происх., 76.

**Абы′раць** ’прывыкнуць да дрэнных абставін’ (БРС), *абырацца* (КТС), рус. *обыряться* ’быць бадзёрым, ясным (пра пагоду)’, ці да *аб-вырацъ?* Гл. *вырай* ’паўднёвая, райская краіна’, параўн. Фасмер, 3, 112. Гэта версія, аднак, досыць адвольная з боку семантыкі. Больш верагодна (прынамсі для беларускага слова) *абыраць*<цюрк. *абыр*-’спакой, мір, згода’. Гл. Севарцян, 1, 59—60; Расянен, 2.

**Абысці′ся** (БРС), укр. *обійтися,* рус. *обойтись,* польск. *obejść się* да *ob-id-ti sę*. Семантычны зрух ад канкрэтнага ’абысці перашкоду, перашкода абойдзена’ да ’абысці штонебудзь ідэальнае, што-небудзь ідэальнае абойдзена’.

√ **Абцо′баны** ’абдрыпаны’ (Суднік, вусн. паведамл., полац.), магчыма, да *цопаць* ’шлёпаць’ (гл.).

**Абыто'к** 'востраў' (Др.-Падб.) <*аб-цячы*, параўн. *востраў* і *струя, струмень*. Маецца на ўвазе рачны востраў. Беларускае слова дакладна супадае з рэканструкцыяй Трубачова на аснове анамастычных даных, гл. Трубачоў, Дополн., 3, 101; параўн. Мартынаў, SlW, 61—62.

**Абыча'йлівы** 'зноравам' (Касп.) (да *абычай*) 'той, хто прытрымліваецца сваіх звычак'. Параўн. таксама *абычайлівы* 'далікатны', *абычайнасць* 'далікатнасць, сумленне' (Нас.). Параўн. рус. *норов — норовистый* и *нравственный* (<*нрав* царкоўнаславянскага паходжання) 'той, хто прытрымліваецца звычаеў'.

**Абыя'кавы** да *абы* (гл.), *як* (гл.).

**Абэ'лка** 'скарга, абвінавачанне' (полац., Суднік, вусн. паведамл.) <польск. obełga 'абраза' (Мартынаў, SlW, 68).

**Абэ'лтус** 'ёлупень, аболтус' (КТС) ад **бэльтаць*<польск. *bełtać* 'балбатаць', параўн. рус. *оболтус* да балтаць (гл.).

**Абэ'лтух** 'ёлупень' (КТС). Гл. *абэлтус*.

**Абэ'рак** 'групавы танец' <польск. *oberek*.

**Абэ'ржа**$_1$ 'прасторная хата, вялізная будоўля' (Жд., Цыхун, вусн. памедамл., КТС, Арашонкава, нясвіж., вусн. паведамл.) <польск. *oberża* 'карчма' <франц. *auberge*.

**Абэ'ржа**$_2$ 'здаровая, мажная кабеціна' (Жд.) да літ. *bérž-ti* 'таўсцець, рабіцца моцным'. Можна меркаваць аб запазычанні *абэржа* ў гэтым значэнні з літоўскага (Мартынаў, SlW, 67).

**Аб'яё'даць,** *абаёдаць* 'есці з прагнасцю' (Бяльк.) <**obo-ědati*. Параўн. рэканструкцыю семантыкі прасл. *obědъ* (гл. *абед*) як найбольш поўнага прыёму ежы.

**Аб'я'ва** (БРС), *аб'явіць* — калька з рускай *объявить, объявление*. Параўн. *объяўленьне* (Яруш.).

**Аб'яго'рыць** 'ашукаць' (Бяльк., Юрч. Сін.)<рус. *объегорить* або самастойна ад *Ягор*. Звязана з *Юр'еў* або *Ягораў дзень*. Праабражэнскі, 1, 633; Унбегаун, BSL, 52, 172. Праабражэнскі думае пра кантамінацыю з *обыграть*, спасылаючыся на бел. *аб'яхерыць* 'ашукаць' (Нас.) (гл.).

**Абязве'чыць** 'знявечыць, скалечыць' (БРС, Шат., Гарэц., Сцяшк. МГ, Бір. дыс.), *абязвечыць* (Нас.), *об'езвечить* (КСТ), *абязвечаны* (Нас.) да прасл. *věkъ*, якое мела значэнне 'ўзрост' і 'сіла'. Такім чынам, *-без-вечыць* 'пазбаўляць сілы', таксама як *нявечыць* і *ўвечыць* < *9* (негацыйная част-

ка)+*věčiti* (параўн. Покарны, 1128—1129; Унбегаун, La langue, 173). Гл. *век.*

**Абязлі'чка** (БРС) <рус. *обезличка* (да *лицо*). Новае запазычанне з рускай сацыяльнай тэрміналогіі.

**Абялі'ць** 'зняць кару, каб была відаць белая драўніна' (Шат.). Тлумачэнне не дакладнае. Параўн. *абяліць* 'зняць скуру з забітай жывёлы' (Бяльк., Шн., КЭС). Гл. *бяліць.*

**Абярну'ць** 'паставіць дном угору, паваліць на бок' (БРС, Касп.), *абвярнуцца* (Юрч., Касп., КЭС) да *ob-vьrt-nǫ-ti sę.* Гл. *вярцець.*

**Абярта'я** 'цапільна' (ДАБМ). Магчыма, да *аб-верт-ая* 'тое, што абяртаецца на цэпе'.

**Абярэ'мак** 'ахапак' (БРС, Нас., Арх. ГУ, КТС), *об'еремок* (КСТ) да *bermę<bьrǫ, bьrati.* Укр. *оберемок.* Па тыпу словаўтварэння як *ахапак,* разбіваецца на марфемы: *а-бярэм-ак (*o-berm-ъkъ).* Словаўтваральная інавацыя характэрная для беларускага і ўкраінскага арэала.

**Абясці'ць** 'абвясціць' (Нас.), 'абяцаць' (Шат.) да *ob-věstiti, věstь<*vět-tь.* Параўн. другое значэнне пад уплывам *абяцаць* (гл.).

**Абятні'ца** 'абяцанне, абяцаная рэч' (Нас.) да **ob-vět-nica. Абяцанка* з польскай. Гл. *абяцаць.*

**Аб'яхе'рыць,** *аб'яхерваць* 'ашукаць' (Нас.), *аб'яхервацца* 'ашуквацца' кантамінацыйнае ўтварэнне да *аб'ягорыць* (гл.).

**Абяца'ць,** *абяцанка, абяцанне*; ст.-бел. *обицяти* (Нас. Гіст.), *обецати* з 1489 (Булыка, Запазыч.) <польск. *obiecać* (гл. Пальцаў, Лекс. і грам., 38).

**Абяча'йка** 'край рэшата, крышкі дзежкі, павекі' (Бір. дыс.), *абячаек* 'вобад, які ўтварае краі сіта ці века для дзяжы' (Шат.). Гл. *абечак.*

**Аб'яшэ'ць** 'стаць нахабным' (Арх. ГУ), відаць, з *o-běs-ěti.* Гл. *бес, бешаны.*

**Ава'д** 'авадзень' (Бір. дыс., Нас., Янк. II), *авадзень* (БРС, Шат., Бір. дыс., Арх. Бяльк., Касп.), *авадзье* (Бір. дыс.), *говыдьде* (Клім.). Агульна- і праславянская назва авадня: *ovadъ* або *obvadъ.* Параўн. укр. *овад* (рус. *овод* да *овад* як гіперкарэкцыя), чэш. *ovad,* польск. *owad,* балг. *авад,* бел. *абадзён* (Сцяц.), серб.-харв. *ȍбад* паралельна з *ȍвад,* славен. *obàd.* Ёсць формы без пачатковага *-а*: *вадзень* (гл.). Бліжэй-

шыя паралелі: літ. *úodas* 'камар, мошка', лат. *uôds* 'тс', Міклашыч, 218; Зубаты, Studie, 1, 2, 111. Найбольш верагодна, звязана з і.-е. **ōd-*, **ēd-* 'есці'. Пад гэтым значэннем можна аб'яднаць *авад* і *вадзень*. Параўн. літ. *ēsti* 'есці (аб жывёлах)' і 'паліць, пячы'. Трэба таксама ўлічыць палескае *заедь* у значэнні 'авадні', дзе ўнутраная форма захавана зусім не двухсэнсоўна. Гл. Шульцэ, KZ, 43, 41. З гэтай версіяй мяжуе версія Трубачова, Происх., 71, згодна з якой *ovadъ*<**ov-odos* 'той, хто есць аўцу'. Супраць Махэк$_2$, 432, які суадносіць *ovadъ* з лац. *tabānus* (зыходная славянская форма *obadьnь*).

**Авадзе'нь.** Гл. *авад.*

**Ава'л** (БРС). Новае запазычанне з рускай мовы. Слова гэта распаўсюдзілася па Еўропе ў XVIII—XIX ст. У рускай з франц. *ovale,* якое ўзыходзіць да лац. *ovalis*<*ovum* 'яйцо'.

**Ава'лак** 'прылада, якой прасуюць («качаюць») бялізну' (Янк.) да *valъ, valiti* 'качаць'. Тады *а* пратэтычнае. Лексема *валак* утворана, як рускае *валёк,* толькі іншага акцэнтуацыйнага тыпу. Параўн. літ. *volẽ* 'прылада, якой прасуюць бялізну', лат. *vale* 'тс', якія да літ. *vélti,* лат. *velt* 'качаць'. Зыходныя славянскія і балтыйскія словы генетычна суадносяцца, а вытворныя ад іх *(авалак, валёк, volẽ, vale)* узніклі, мабыць, незалежна адзін ад аднаго.

**Аванга'рд.** Новае запазычанне праз рускую мову з французскай *avant-garde.* Пра польскае пасрэдніцтва гаварыць цяжка, бо мы не сустракаем формы *авангарда* жаночага роду (<*awangarda*<*awangwardja*). Фасмер, 1, 58; Шанскі, 1, А, 23.

**Ава'нс.** Новае запазычанне з рускай мовы (як тэрмін). У рускай мове ў пачатку XIX ст. з французскай *avance (avancer)*, Шанскі, 1, А, 24.

**Аванту'ра** (БРС, Нас., Бяльк., Касп., Гарэц.), *авантурнік* (Бяльк., Касп., КЭС), *авантурыць* (Бяльк.). Словаўтваральныя тыпы і фанетыка сведчаць аб запазычанні з польскай (XVII—XVIII стст.), у польскай мове з франц. *avanture,* якое ў сваю чаргу з с.-лац. *adventura* (<*advenire* 'адбывацца'), а, магчыма, польскае слова непасрэдна з лацінскай мовы. Шанскі, 1, А, 26.

**Аванэ'ля** 'малітва па нябожчыку' (Сцяшк. МГ) да *аванэлія* <польск. *jewangelia.* Параўн. *аванэля* (*awanelja*) (Федар.). Слова грэчаскага паходжання (εὐαγγέλιον 'добрая вестка'). Параўн. Фасмер, ИОРЯС, 12, 2, 232.

**Ава′рыя** (БРС). Запазычанне XX ст. праз рускую мову, дзе ў XVIII ст. з італ. *avaria,* Шанскі, 1, А, 27.

**Ава′т** 'сярэдзіна дня, самая гарачыня летам, калі кароў на пашы кусаюць аваднí' (Янук.) да *авад.* Цікава параўнаць з *вад* у тым жа значэнні (гл.), тым больш, што паралельна да *авадзень* маем таксама *вадзень.* Тое, што *ават* і *(а)вад* непасрэдна звязаны з назвай *авада, авадня,* даказваецца параўнаннем рус. *бзык* 'шаленства жывёлы ад моцнай спякоты і аваднёй' і 'авадзень'.

**Авё′с.** Агульна- і праславянскае слова: рус. *овес,* укр. *овес,* чэш. *oves,* славац. *ovos,* польск. *owies,* в.-луж. *wows,* н.-луж. *hows,* балг. *овес,* серб.-харв. *ȍвас,* славен. *óves.* Бліжэйшая паралель: літ. *avižà* 'авёс', лат. *àuza,* ст.-прус. *wyse* 'тс'. Дублет па звонкасці і глухасці як прасл. *tvьrdъ* ~ літ. *tvìrtas.* Траўтман, 21; Мюленбах — Эндзелін, 1, 231; Цупітца, GG, 31. Параўн. Патабня (РФВ, 5, 122), які суадносіць *авёс* з ст.-інд. *avasám* 'ежа', Педарсан (IF, 5, 42) супастаўляе лац. *avēna* (<**avigsna*) 'авёс' і ст.-грэч. αἰγίλωψ 'аўсюк' (<αϜιγι- <**aviĝa*), Шпэхт (Ursprung, 298) рэканструюе і.-е. *au̯i-/au̯es-*. тады лац. *avēna<avesna.* З апошнім згадзіцца цяжка, бо славянскія і балтыйскія формы сведчаць аб індаеўрапейскіх палатальных гутуральных; гл. Покарны, 88.

**Аве′чка,** *авеччы, авечны, авечнік,* рус. *овечка,* укр. *овечка* да **ovik-ikā <*ovikā;* прасл. *ovьca,* ст.-інд. *avikā́* да *au̯is* (літ. *avìs,* ст.-грэч. ὀίς, лац. *ovis*); гл. Трубачоў, Происх., 69—70; Покарны, 784.

**Аві′дзь** 'вось жа' (Бяльк.) да *відзець* (гл.).

**Аві′н** 'будынак для сушкі снапоў' (ДАБМ, Касп.), *авин, аввинь* (Лысенка, СПГ) 'тс', *овин* 'будоўля для захоўвання і малацьбы снапоў' (Мат. Смал.), *ovin'* 'будынак для сушэння збожжа (паўд.-бел.)' (Смул.). Рус. *овин,* укр. *овин,* ст.-рус. *овинъ.* Нельга гаварыць пра генетычныя суадносіны з літ. *jáuja* 'амбар', лат. *jauja* 'гумно', ст.-іран. *yəvīn* 'збожжавае поле', бо літ. *jáuja* суадносіцца з *javai* 'збожжа', ст.-іран. *yəvīn* з *yava-* 'тс'. Генетычна тоеснай назвы збожжа славянскія мовы не ведаюць: гл. Брукнер, KZ, 45, 307. Арэал слова *авін* абмежаваны (толькі частка ўсходнеславянскіх дыялектаў). Даводзіцца меркаваць аб запазычанні: *авін* <ст.-іран. *yəvīn.* Геаграфія гэтага слова гаворыць таксама ў карысць іранскай крыніцы. Слова пашырылася з тэрыторыі на ўсход ад сярэдняга цячэння Дняпра, дзе, як вядома, існаваў іранскі субстрат. У карысць генетычнай сувязі *авін* з пералічанымі

балтыйскімі і іранскімі словамі выказваюцца Бернекер, 455; Траўтман, 107; Мюленбах — Эндзелін, 2, 97; Фрэнкель, 192; Майргофер, 3, 10. Думка Ільінскага, РФВ, 74, 136; Slavia, 262, пра непасрэдную генетычную сувязь *авін* з і.-е. *au̯ (au̯es?* — параўн. Покарны, 86) 'грэць' неверагодная. Ён, аднак, справядліва аспрэчвае думку Карскага, Белорусы, 133, аб цюркскім паходжанні слова і лічыць, што цюркскае слова (тат. *avyn*) мае рускае паходжанне. Таксама Фасмер, 3, 114.

**Авія́цыя** (БРС). Запазычанне XX ст. праз рускую мову (Крукоўскі, Уплыў, 83), дзе з франц. *aviation* у пачатку XX ст. з структурным змяненнем па тыпу *агітацыя* і інш. Шанскі, 1, А, 29.

**Аво́й,** *авай* 'ай, выражэнне здзіўлення ці абурэння' (Бяльк.), *авэй* (Шат.) <ідыш (Карскі, Белорусы, 172).

**Аво́нтпіцца** 'пудзіцца' (Нас.), гл. *вонтпіцца.* Пачатковае *а-* пратэтычнага характару.

**Аво́сь** 'вось' (Нас., Бяльк.), рус. *авось,* укр. *аво, авось* да *а+(в)осе,* ст.-рус. *осе* 'гэта', Зубаты, Studie, 2, 93. Праабражэнскі, 1, 1.

**Аво́хці** 'гора мне' (БРС, Янк. БП, Нас., Бяльк., Гарэц.) да *а(в)ох ці* выклічнікавага паходжання.

**Аву́нь** 'вон (вокліч для адгону сабакі)' (Бяльк.); *а-* пратэтычнае, *вунь* у значэнні ўказальнага прыслоўя.

**Авур-авур-авур** 'падзыўныя словы для авечак' (Інстр. III), *авуль-вуль-вуль* 'тс' (Дразд.). Калі пачатковае *а-* не мае пратэтычнага характару, магчыма, *ав-* звязана з назвай авечкі. Параўн. *(а)быр.*

**Авы́ць** 'вокліч для адгону парасят' (Бяльк., Мядзв.), параўн. *авыс* 'адгон катоў' (КТС). Няясна.

**Авя́рнік** 'аўчарня' (ДАБМ) да **ovь* (літ. *avìs*) > **ov'ar* > *ov'ar-nikъ.* Лінгвагеаграфія гэтага слова (раён, які мяжуе з паўночна-ўсходняй Літвой) гаворыць у карысць літоўскага ўплыву.

**Авясе́ц** 'каласоўнік Bromus L' (Інстр. II) <**ovьs-ьcь?* да *авёс.* Параўн. *авясец* 'памяншальна да авёс' (Бяльк.).

**Авяру́шкі** 'вясеннія апенькі' (Інстр. II) да *вавярушкі* ад *вавёрка* (параўн. назву грыба: *лісічкі).* Аднак больш верагодна, балтызм, тады з літ. *voveruškà* 'грыб Cantharellus' (Чэкман, вусн. паведамл.). Параўн. *вавярушкі, гавярушкі* (гл.), літ. *voveruškà* ў сваю чаргу ад *voverė̃, vėverìs* 'вавёрка'.

Назва ваверкі балта-славянская (Фрэнкель, 1233—1234), але назва грыба абмежавана вузкім арэалам, а яе суфіксацыя не адпавядае балтыйскай як спрадвечна роднасная (мы б чакалі *-ъšьka: *авярошка, *вавярошка)*. Усё гэта сведчыць у карысць запазычання з літоўскай.

**Ага′** 'так' (Шат., Гарэц., Нас.), *агы* 'тс' (КСТ), укр. *ага,* рус. *ага,* польск. *aha,* чэш. *aha,* славац. *aha,* балг. *аха,* славен. *aha.* Тлумачэнне інтэрвакальнага *г* як другаснага (Шанскі, 1, А, 37) не пераконвае. Больш верагодна *ага*<*а-га.* Тут *а-* мае сваю першасную выклічнікавую функцыю, другі элемент выкарыстоўваецца таксама самастойна. Параўн. *га?* — *ага.* Параўн. таксама чэш. *ano* 'так' (<*a-no*). Няпэўнай здаецца старая сувязь з адпаведнымі формамі іншых еўрапейскіх моў (гл. Слаўскі, 1, 23).

**Агада′ць** 'здабыць, прыпасці' (Сцяшк. МГ), 'набыць, купіць, узяць напавер' (КЭС, лаг.), гл. *гадаць.* Параўн. рус. *загодя* 'загадзя'. Развіццё семантыкі наступнае: 'загадаць, гадаць' — 'загадаць, каб было зроблена'. Прэфіксальны элемент у форме *агадаць* адчуваецца на семантыцы віду *(агадаць — гадаць)*, таму *а-* не пратэтычнае.

**Ага′ззю** 'нахабна' (Касп.) да *агазны* (гл.).

**Ага′зны,** *агазлівы* 'надакучлівы, свавольны' (Касп.), *агазлы* (так гавораць пра рэч, якая няўдала зроблена і выгляду не мае) (КЭС, лаг.). Параўн. славен. *gáziti se* 'выклікаць агіду' (Безлай, ВЯ, 1967, 4, 53). Магчыма, да **gazditi* <**gad-diti* (Трубачоў, Этимология, 1972, 23). Параўн. славенскі дублет *gáziti se/gáditi se* з бел. *гадзіцца* 'адчуваць агіду' і *агазлы.*

**Ага′знуць** 'асіпнуць, ахрыпнуць' (КСТ). Параўн. балг. *газя* 'крычаць, сварыцца'. Ці не да *агазны*? (гл. Трубачоў, Этимология, 1972, 23).

**Аганя′цца,** *аганяць хвастом* 'адмахвацца (ад авадней, сляпнёў і інш.) (КЭС). Гл. *агон.*

**Агапа′ць** 'скакаць' (Арх. ГУ) да *гоп* (гл.).

**Агаро′д** 'гарод', укр. *огород,* рус. *огород,* польск. *ogród* 'сад пладовы' да *гарадзіць* (гл.), *а-* прэфіксальнае. Арэал распаўсюджання гэтага інавацыйнага ўтварэння досыць абмежаваны. Інавацыя мае семантычны характар (параўн. серб.-харв. *оград* 'усё, што агароджана).

**Ага′та** 'прызба' (Сцяшк.), 'уцяпленне хаты на зіму'

Сцяшк. МГ), *агачыць* 'закідаць прызбу' (Сцяшк.), 'уцяпліць хату на зіму' (Сцяшк. МГ) да *гаць, гаціць* (гл.).

**Ага'ткі** 'Antennaria' (БРС). Відавочна, прыпадабненне *акоткі* да антрапоніма *Агата*. Параўн. *акоцце*.

**Ага'ч** 'дровы' (Касп.) да цюрк. *aγač*. Цікава звярнуць увагу на арэал гэтага слова, якое, як здаецца, на іншай беларускай, рускай і ўкраінскай тэрыторыях не сустракаецца. Магчыма, літоўска-татарскага паходжання (Супрун, ТЛЭ, 43—44).

**Ага'шнік** 'матуз ці вяроўка, якая ўшываецца ў штаны замест гузікаў' (Інстр. I, Бяльк.). Гл. *гашнік*.

**Аге'нт.** Новае запазычанне праз рускую мову (гл. Крукоўскі, Уплыў, 78), дзе ў сваю чаргу з ням. *Agent* (XVII ст.) (Шанскі, 1, А, 39). Ст.-бел. *аент* (1666) (Булыка, Запазыч.) з ст.-польск. *ajent* (Фасмер, 1, 60).

**Агі'ба** 'дрыгва' (Касп.). Магчыма, ад *gybati* 'прыгінацца' (агульнаславянскае і праславянскае). Параўн. *гыбець*. Семантычная паралель: прасл. *lǫka* 'прагіб' і 'луг, абалонь'.

**Агі'да,** *агіднуць, агіднік, агідлівы, агідлы,* ст.-бел. *огіда* (1605) (Нас. гіст.), укр. *огида,* польск. *ohyda,* славац. *ohyda,* в.-луж. *wohida* да *гідкі* (гл.). Слова з абмежаваным арэалам. Супрун (Веснік БДУ, 1969, 2, 68—69) мяркуе, што цэнтрам пашырэння слова *агіда* з'яўляецца ўкраніска-беларускі моўны арэал, а польскія і славацкія формы — запазычанні (параўн. Басай-Сяткоўскі, SFPS, 6, 23), аднак верхнялужыцкія формы даводзіцца лічыць спрадвечнымі, утворанымі незалежна, што неверагодна пры адсутнасці паўднёваславянскіх адпаведнасцей і немагчымасці даказаць іх праславянскі характар.

**Агі'ль** 'вокліч для адгону гусей' (КТС). Сюды ж *агыля (агыл'а)* (КСТ). Гл. *гыля, агынь*.

**Агіна'цца** 'ўвільваць' (БРС), 'гультаяваць, туляцца' (Некр.) да *гнуць*. Семантычнае развіццё: 'гнуць' > 'адхіляцца ад прамога шляху'.

**Агіра'чваць** 'паварочваць назад' (Сцяшк. МГ). Няясна. Адна з магчымых версій: кантамінацыя *абарачваць* і *агіль* (гл.). (Міхневіч, БЛ, 1973, 3, 60).

**Агітава'ць** (БРС). Словаўтваральны паланізм XX ст. Гл. Гіст. мовы, 2, 143.

**Агіта'цыя** *агітатар* (БРС). Новае запазычанне праз рус-

кую мову (Крукоўскі, Уплыў, 80). У рускай мове з нямецкай (XIX ст.). Ст.-бел. *агітавацца* 'разглядацца на судзе' (1658) (Булыка, Запазыч.) з іншай семантыкай.

**Аглаба′** 'жардзіна ў азяродзе' (КЭС, лаг.), *аглабіца, аглабіна* 'тс' (КТС). Гл. *аглобля.*

**Аглама′жжацца** 'пазбавіцца памяці і ўвагі' (Нас.), *агламажжаць* 'аглушаць' (Грыг.), *агламажоны.* Магчыма, *-ажж-* <*-ажд-* <*-азд-*. Гл. *агламаздаць.*

**Аглама′здаць,** *агламэздаць* 'абварганіць' (БРС), *агламадзіць* 'з большага ачасаць' (КЭС, лаг.). Магчыма, да *гломазд* 'хлам' (гл.).

**Агла′тка** 'аладка' (Сцяшк.), гл. *аладка. Аглатка* — кантамінацыйнае ўтварэнне з *аладка* і *глытаць* ці *гладкі.*

**Аглаша′ць** 'пераконваць' (Хрэст. дыял., брасл.) да царкоўнаславянскага **глашати, гласъ** 'голас'. Параўн. *аглашэны.*

**Аглашэ′ны** 'някемлівы, прыдуркаваты' (Нас.), рус. *оглашенный* да царкоўнаславянскага. Першапачаткова, *аглашэны* 'пераконаны' (гл. *аглашаць*), а потым экспрэсіўна-іранічнае 'някемлівы' (магчыма, пад уплывам *аглушаны*) (Праабражэнскі, 1, 141).

**Агло′бля,** *аглабня* (КТС), *аглабіна, аглабец* 'верхняя частка драбін' (Бір. дыс.), укр. *оголоблі,* рус. *оглобля, оглобень,* агульнаўсходнеславянскае да *глоба* 'балка'. Параўн. балг. *зглоб,* серб.-харв. *зглȍб* 'частка цела, член', *ȍглобље* 'частка ткацкага стану', чэш. *ohlobně* 'слуп'. Мяркуючы па апошніх дзвюх формах, усходнеславянскае слова — семантычнае новаўтварэнне або новаўтварэнне з больш шырокім арэалам (і тады словаўтваральна-семантычнае). На захадзе гэта слова ў значэнні 'аглобля', магчыма, было выцеснена нямецкім па паходжанню *дышаль.* Гл. Патабня, РФВ, 5, 125; Брандт, РФВ, 22, 121; Ільінскі, РФВ, 62, 256. Бліжэйшыя індаеўрапейскія паралелі: літ. *glóbti* 'ахапіць' і іншыя балтыйскія формы.

**Аглу′зжацца** 'знепрытомнець' (Нас.), *аглуздацца* 'апрытомнець, прыйсці ў сябе' (КТС), *аглуздзелы* (КТС) да *глузд* (гл.).

**Аглу′міцца** 'адурэць' (Нас., Касп., Гарэц.), *аглумляцца* да *глум; а-* прэфіксальны, як аб гэтым можна меркаваць на падставе граматычнага значэння дзеяслова. Семантычнае

развіццё таксама даволі празрыстае 'глуміцца'>'рабіць дурным'.

**Агнё'тка** 'мазоль' (Інстр. II) да *гнесці*. Параўн. *гнетануць* 'прыціснуць, цісkануць' (Бяльк.), *гнянуць* 'цісkануць, душануць' (Янк. III).

**Аго'н** 'хвост', ст.-бел. *окгон* (канец XVI ст.) (Булыка, Запазыч.), ст.-польск. *ogon* 'тс'. Параўн. ст.-бел. *оганка* 'веер', ст.-польск. *oganka* (Булыка, Запазыч.). Унутраная структура слова *агон* (<*o-gonъ* да *ženǫ, gъnati*). Гл. *абганяцца*.

**Аго'нь** 'агонь, касцёр' (БРС, Нас., Янк. I, Касп.), *агонь* 'гарачка' (Янк. Мат.), *огон* : *до огн'а* 'вельмі многа', *на огн'а* 'на чорта', *огн'овы* 'чортавы' (КСТ), агульна- і праславянскае *ognь*: рус. *огонь*, укр. *огонь*, польск. *ogień*, чэш. *oheň*, балг. *огън*, серб.-харв. *ȍгањ*, літ. *ugnis, agnùs* 'вогняны', ст.-інд. *agnis* 'агонь', хец. *agniš*, лац. *ignis* і г. д. <**ugnis*. Сасюр, 7, 93; Мейе, MSL, 8, 236, 315; Педарсан, KZ, 38, 395; Гуер, LF, 66, 459; Лер-Сплавінскі, SSW, 1957, 205; Мартынаў, ЭИРЯ, 2, 55. Не даведзена канчатковая сувязь прасл. *ognь* з серб.-харв. *вйгањ* 'кузня', чэш. *výheň* 'горан' (Ільінскі, РФВ, 74, 133; Левенталь, WuS, 11, 54). Цікава супаставіць з і.-е. **ug-nis*, ст.-грэч. ἁγνίζω 'ачышчаю', памятаючы сакральную ачышчальную ролю агню. Пачатак старагрэчаскага слова (spiritus asper) можна тлумачыць як рэфлексацыю S-mobile.

**Аго'раны** 'з цяжкасцю набыты' (БРС), *агорацъ* 'з цяжкасцю што-небудзь набыць, зрабіць', *агорацца* (КТС) да *гора*. Магчыма, калька з літоўскага *var̃gti* 'пакутаваць, гараваць, цяжка працаваць', *var̃gas* 'гора, пакута, цяжкая праца'. На словаўтваральную структуру не выключаны ўплыў *асіліць*.

**Аго'ўтацца,** *агойтацца* 'звыкнуць, супакоіцца' (БРС, Шат., Бір. дыс., Бяльк., Гарэц., Янк. I), 'прыйсці да памяці' (КЭС, Некр.), 'ачысціцца ад гразі' (Шат., Касп.). Няясна. Зыходная форма павінна быць **гоўтацца* (параўн. укр. *(о)говтатися*). Магчыма, запазычанне. Этымалогіі на славянскай глебе няма і слова мае вельмі звужаны арэал (беларуска-ўкраінская ізалекса?). Тады з балт.: літ. *gul̃ti* 'легчы адпачываць, спаць', *gùlta* 'пасцель, ложа', лат. *gùlta* 'тс'. Бел. **гоўтацца* 'адпачываць' дало *агоўтацца* 'звыкнуць, супакоіцца, прыйсці да памяці'. У гэтым выпадку няясна, як вытлумачыць другое значэнне 'ачысціцца ад гразі'.

**Агры'бяць** 'вельмі пастарэць' (Шат.). Відаць, калька з польск. *zgrzybieć* 'тс'. Апошняе да *grzybieć* 'зморшчыцца як

грыб', *grzyb* 'грыб'. Параўн. ірл. *gerbach* 'складка, маршчына' (Петарсан, Vergl. Wortst., 12).

**Агры'снік** 'кустарнік, агрэст' ад *агрэст* (гл.); *агрыснік* <*агрэснік*<*агрэст-нік*.

**Агрэга'т.** Запазычанне праз рускую мову (Крукоўскі, Уплыў, 83) з французскай (XIX ст.) (Шанскі, 1. A, 42).

**Агрэ'сар,** *агрэсія.* Запазычана праз рускую мову (Крукоўскі, Уплыў, 76) з нямецкай *(агрессор)* і французскай *(агрессия)* (XX ст.). (Шанскі, 1, A, 43).

**Агрэ'ст,** ст.-бел. *агрестъ* (1722) (Булыка, Запазыч.) з польск. *agrest* (Рыхардт, Poln., 29; Кюнэ, Poln., 39), якое з італ. *agresto* (Брандт, РФВ, 18, 19; Брукнер, PF, 7, 172; Фасмер, 1, 61; Саднік—Айцэтмюлер, 1, 13).

**Агрэ'сца** 'многа ўзяць, атрымаць, мець' (Юрч.), *агрэбці, грэбці.* Семантычнае развіццё 'грэбці'>'нагрэбці сабе'; *а* пачатковае адлюстроўвае граматычную семантыку дзеяслова, і таму яго трэба лічыць прэфіксальным.

**Агрэ'х** 'прапушчаная баразна' (БРС, Шат., Гарэц., КЭС) кантамінаваная форма *арэх* (<*араць*) і *агрэх* (<*грэх*) (Выг. дыс.). Словаўтваральная мадэль застаецца няяснай.

**Агу'** 'так' (Касп., Гарэц.). Гукапераймальнае.

**Агу'дзіць** 'асудзіць, абгаварыць, зганіць' (Нас., Гарэц., Бяльк.), *агужываць* 'тс' (Нас.) да *гудзіць* (гл.).

**Агу'льны,** *агулам* 'супольна', *агул* 'гурт' (Нас., Др.-Падб.), 'круг' (Яруш.), ст.-бел. *огуломъ* (1579) (Нас. гіст.), укр. *вогул* 'талака', *огулом* 'агулам', рус. *огул, огулом,* польск. *ogół, ogółem,* ст.-польск. *ogul.* Нельга разглядаць польскія словы як крыніцу ўсходнеславянскіх, паколькі *ó*<*u* (Развадоўскі, Wybór, 1, 300). Няма таксама іншых аргументаў у карысць запазычання насуперак Фартунатаву, BB, 6, 218 і Ягічу, AfslPh, 17, 292. Фартунатаў звязвае з разглядаемай групай слоў ц.-слав. *глота* 'натоўп' (<*gъlota,* параўн. балг. *глота* 'чарада, натоўп', серб.-харв. *глȍта* 'сям'я, галота', славен. *glota* 'мноства') і ст.-інд. *gaṇáḥ* 'натоўп' і *голы* (праз такія формы, як чэш. *zhola* 'поўнасцю'). Не выключана, аднак, сувязь *агул* з прасл. *gъlota* (<*gъl-ota*). Больш верагодным здаецца *агул* да *гуляць* (гл.) (Бернекер, 1, 361). Сумненне тут выключна семантычнага характару. Наступная семантычная паралель, магчыма, пацвярджае сутнасць гэтага супастаўлення. Прасл. *kolo* 'кола' мае па розных дыялектах наступныя найбольш пашыраныя значэнні: 'круг, гурт, грамада, танец', ст.-грэч. *κύκλος* мае тыя ж значэнні. Так, бел. *агул*

'круг, гурт' можна генетычна звязаць з бел. *гуляць* 'іграць, танцаваць (штосьці рабіць калектыўна)'.

**Агулы'м-быза'р** 'бязладдзе' (Арх. Бяльк.). Першая частка да *агул,* другая — цюрк. *bazar.*

**Агу'ндыр** 'сабака (лаянка), сабачы сын' (Бяльк.). Слова запазычана з ідыш *a hund der.* Гл. Вінэр, ЖС, 1, 1895, 58; Карскі, Белорусы, 172. Гл. *цугундыр.*

**Агу'раць** 'надаесці' (Бір. дыс.), *агурэць* 'разленавацца, стаць непаваротлівым' (КЭС, лаг.), *агурыцца* 'абвыкнуцца, апусціцца' (Бір. дыс., Нас.), *агура* 'неслух, непаслухмяны' (Бяльк.), *агурань* 'грубіян, неслух', *агурства* (Нас.), ст.-бел. *огурный* 'непаслухмяны, бестурботны' (Гарб.), *огуритися* 'не слухацца, упірацца' (1557), *огурство* 'ўпартасць' (1554) (Нас. гіст.), рус. *огурь* 'упартасць, ленасць', *огурный* 'упарты, гультай' і інш. (гл. Львоў, Зб. Вінаградаву, 172), укр. *огурний, угурний* 'упарты, непаслухмяны' (гл. Патабня, Из записок, 3, 51). Булахаў (Бел. мова, 46—47) параўноўвае беларускія словы з *велягурісты* (гл.). Супрун, Веснік БДУ, 1, 2, 69— з славац. *ohurny* 'магутны, вялізны, грубы', *ohurit* 'аглушыць, заблытаць', але дапускае і прэфіксальны характар *а-*. Тады супастаўляюцца таксама рус. *гуряться* 'паводзіць сябе нахабна', палаб. **gorniti* 'гаварыць', славац. *hurny* 'магутны, вялізны, грубы', серб.-харв. *гу̏рати* 'штурхаць, пхаць' (гэта супастаўленне зроблена ўпершыню Патабнёй), балг. *гурам* 'хадзіць'. Пералічаныя словы, вельмі далёкія семантычна, трэба размежаваць. Паўднёваславянскія формы звязваюцца з літ. *gūra* 'сутулы чалавек, чалавек, які ходзіць сагнуўшыся', *gūrinti* 'хадзіць сагнуўшыся' (Буга, RR, 1, 441), лат. *gūrât* 'марудна рухацца, ляніцца' (Эндзелін, KZ, 44, 68), лат. *guôrît* 'марудзіць, вагацца', *guoris* 'гультай, лодар'. Апошнія балтыйскія паралелі непасрэдна звязаны з беларускімі і рускімі словамі. Эндзелін таксама супастаўляе латышскія формы, серб.-харв. *гу̏ритисе* 'згібацца' з ст.-грэч. γυρός 'сагнуты, гарбаты', нарв. *kūra* 'згібацца' і г. д. (Параўн. яшчэ Фрэнкель, 177; Ілліч-Світыч, ВЯ, 1961, 4, 96). Што датычыць семантычнага пераходу ад серб.-харв. *гу̏рити се* 'згібацца', балг. *погурен* 'сутулы' да серб.-харв. *гу̏рати* 'штурхаць, пхаць, туліць', балг. *гурам* 'хадзіць', параўн. *сутулы, туліць* і *туляцца.* Польск. *ohurstwo,* відавочна, з беларускага (*г* — фрыкатыўнае), а палаб. **gorniti* да гэтай лексічнай групы не адносіцца. Такім чынам, формы яшчэ індаеўрапейскія (**gau̯/gu-r*). Рэканструкцыя Львова (**agh-*) неверагодная. Супраць апошняй таксама Трубачоў, Дополн., 3, 121.

**Агу'рнік** 'Trifolium arvense L.' (Кіс.), да *агурок* (гл.).

**Агуро'к**, укр. *огурок,* рус. *огурок, огурец,* польск. *ogórek,* славен. *ogurek*<ст.-грэч. ἄγουρος, Фасмер, ИОРЯ, 12, 2, 260; Фасмер, 3, 120.

**Агы'нь** 'вокліч для адгону гусей' (Бяльк.), сюды ж *агыля: агыл'а* (КСТ). Гл. *агіль, гыля.*

**Ад** прасторавае і генетычнае (БРС, Гарэц., Шат.). Агульнаславянскае і праславянскае. Варыянт *od* (у адрозненне ад варыянта *ot*) ва ўсіх славянскіх мовах, апрача балгарскай, рускай, лужыцкіх (на ўсходзе граніца паміж імі праходзіць па беларускай тэрыторыі). Параўн. укр. *від* (<*od*), рус. *от,* чэш. *od,* польск. *od,* в.-луж. *wot,* н.-луж. *wót,* балг. *от,* серб.-харв. *od,* славен. *od.* Бліжэйшыя індаеўрапейскія паралелі: літ. *at-*, лат. *at,* гоц. *id,* ірл. *aith,* ст.-інд. *áti,* ст.-грэч. ἔτι, Траўтман, 16; Ільінскі, РФВ, 57, 507; Развадоўскі, Wybór, 2, 87. Варыянт *od* — славянская інавацыя ў адрозненне ад варыянта *ot,* які захаваўся на перыферыі славянскага свету (гл. Андарсен, WS, 14, 3, 316—317) і мае адпаведнасці ў іншых індаеўрапейскіх мовах. Пераход *ot*>*od-* тлумачыцца або аналогіяй (да *nad-, pod-*) (Бадуэн дэ Куртэнэ, Опыт, 110), або змяшэннем розных па паходжанню *ot- і odъ* (Махэк, Зб. Траўнічку, 183), або камбінаторна-фанетычнымі зменамі (Курашкевіч, SFPS, 4, 22). Найбольш верагодным з'яўляецца апошняе тлумачэнне. Але яно таксама недастатковае, каб зразумець, чаму гэты працэс рэалізаваўся не ва ўсіх славянскіх дыялектах. Спроба Андарсена, там жа, 319, што тлумачыць гэта законам Барталі, здаецца пераканаўчай (гл. Мартынаў, SlW, 63).

**Адалі'ска** (БРС). Новае запазычанне з рускай мовы, дзе з франц. *odalisque,* якое з тур. *odalyk (oda* 'пакой') (Локач, 127).

**Адама'нт** (БРС), ст.-бел. *адамант* 'алмаз' (пач. XVII ст.) (Булыка, Запазыч.). Запазычанне з ст.-слав. **адамантъ,** якое ў сваю чаргу са ст.-грэч. ἀδάμας, -αντος. Фасмер, 1, 61; Шанскі, 1, А, 45.

**Адама'шка** 'шаўковая матэрыя' (БРС, Нас., Гарэц., Байк.), (ст.-бел. *адамашка* (1486) (Нас. гіст.) праз ст.-польск. *adamaszek* (Рыхардт, Poln., 29; Кюнэ, Poln., 39) з лац. *adamascus* (Слоўн. лац., 1, 2, 171). Паходжанне рэаліі з Дамаска (Брукнер, 2).

**Адара'ць** 'засеянае поле ўзараць, каб на гэтым месцы нешта ізноў пасеяць' (КЭС, лаг.). Ці не калька з літ. *atárti*

'ізноў узараць, перааараць'? Раўнаверагодна інавацыя. Гл. *араць*.

**Адаро'бка** 'трубка з ліпавай кары для намотвання нітак для сушкі' (Касп.), 'калі ў нейкай рэчы асяродак выпаражніцца, а бакі стаяць' (КЭС, КТС). Параўн. *адаробак* 'старая бытавая рэч', *адаробачны* 'ўстарэлы' (Яўс.). Гл. *дораб* 'плецены кош'.

**Адбаўля'цца** 'імкнуцца пазбавіцца каго-небудзь' (Нас.), *адбаўляць* 'змяншаць; частаваць' (Нас., Касп.). Гл. *бавіцца*.

**Адбі'так** (БРС, Гарэц., Др.-Падб.). Новае запазычанне з польск. *odbitka*.

**Адбіццё'** 'адлюстраванне', *адбіваць* 'абазначаць' (Яруш.), *адбіванне* (Гарэц.) <польск. *odbicie, odbić*. Параўн. Дубоўка, Узв., 1929, 5.

**Адбі'ты** 'агароджаны' (Жд.), *адбіць* 'адгарадзіць' (БРС) калька з літ. *atmùšti* 'адбіць, аддзяліць, адгарадзіць'. Параўн. літ. *pérmušti* 'перагарадзіць' і бел. *перабіўка* 'перагародка' (Жд.). Літ. *mùšti* азначае не толькі 'біць', але і 'дзяліць на часткі' (гл. Чэкман, Baltistica, VIII (2), 1972, 149).

**Адбі'цца** 'пакрыцца (пра кабылу)' (Сцяц.), польск. (паўдн.-усх.) *odbić się* 'тс' калька з літ. *atsimùšti* 'адбіцца, пакрыцца' (гл. Чэкман, Baltistica, VIII (2), 1972, 149).

**Адбо'й**$_1$ (БРС) <рус. *отбой*. Новае запазычанне.

**Адбо'й**$_2$ 'частка саней' (Масл.) да *біць* (гл.).

**Адбо'й**$_3$ 'удар у адказ' (Шат.). Гл. *біць*.

**Адбо'рнік** 'рубанак для вычаскі фальца' (Інстр. II) да *адбіраць*. Гл. *браць*.

**Адбо'рыш**$_1$ 'мера пры куплі-продажы' (Інстр. III) да *браць* (<*адбор-ыш*). Словаўтваральная мадэль з *-ыш*-суфіксацыяй (як *спарыш*). Гл. *адборыш*$_2$.

**Адбо'рыш**$_2$ 'пласт сена, што збіваецца граблямі, як кладуць у копы ці на воз' (Бяльк.) да *браць* (*ад-бор-ыш*). Параўн. *адборыш*$_1$ і *аборыш*.

**Адбры'зак,** *абрызык* 'самае буйное зерне, якое адскоквае пры веянні' (Бяльк.) да *ад-брызкаць*. Гл. *брызкаць*.

**Адбуксува'ць** 'аддубасіць, пабіць' (Бяльк., Касп.), *адбуксырыць* (Бяльк.). Параўн. лат. *buks* 'бух', *bukanît* 'біць кулаком'. Магчымасць латышскага ўплыву пацвярджаецца фіксацыяй слова ў віцебскім арэале.

**Адбылда́каць** 'паспешна адгаварыць, невыразна адказаць' (Бяльк.) да серыі экспрэсіўных дзеясловаў са значэннем 'невыразна гаварыць'. Магчыма, кантамінацыя *балакаць* з *балдзіць* 'гаварыць' (гл.).

**Адбы́тніца** 'марнатраўніца' (Кліх), магчыма, калька з літоўскага. Параўн. літ. *atbūti* 'адбыць' і 'адняць, пазбавіць'.

**Адваву́ліць** 'адрэзаць ці адламаць вялікі кавалак хлеба ці чаго іншага' (КЭС, лаг.) да *адкавуліць, кавуліць, кавал* (гл.).

**Адва́га** 'мужнасць, смеласць (КЭС, Шат., Нас., Касп., Яруш.), ст.-бел. *одвага* (1674) (Нас. гіст.), укр. *відвага,* рус. *отвага,* польск. *odwaga,* чэш. *odvaha,* славен. *tvegati* ўзыходзяць да лексічнай групы, звязанай сваім паходжаннем з ням. *wagen* 'адважыцца'. Гл. Вайян, RÉS, 22, 10.

**Адвака́т** (БРС, Шат., Нас.). Новае запазычанне з рускай мовы, дзе з ням. *Advokat* (XVII ст.). Ням. *Advokat* паходзіць ад лац. *advocatus* (<*advocare* 'клікаць на дапамогу'), Шанскі, 1, А, 46.

**Адва́л** 'паліца (у плузе), плашка пад лемяшом, што адвальвае першы падрэзаны пласт глебы' (Бяльк.), *атвал* (ДАБМ, Смулк.) 'тс' да *валіць.*

**Адвало́ка** 'аддаленасць, адлегласць' (Гарэц.), *адвалока (zwłoka)* (Др.-Падб.). Інавацыя? Гл. *валачыць, валока.*

**Адва́льваць** 'адкрываць (ключом), слабець (пра мароз)' (Шат.) да *валіць.* Семантычны зрух 'валіць>з цяжкасцю рухаць'.

**Адвара́чнік,** *атварачнік* 'Polygonum bistorta L.' (Кіс.) да *адварочвацца.* Гл. *варочаць.*

**Адва́рніца,** *атварніца* 'паліца ў плузе' (ДАБМ) да *адвалніца.* Гл. *адвал.*

**Адва́хта** 'гаўптвахта' (Гарэц., Др.-Падб.). Няясна. Магчыма, першая частка слова *гауптвахта* (<ням. *Hauptwachte*) дээтымалагізавана (фанетычна: *aupt*>*aut*>*ad*). Элемент *ад-* на месцы *гаупт* сведчыць аб тым, што агульная семантыка слова ўспрымалася як назва працэсу *(ад-вахта<*ад-вахтаваць, адбыць вахту).*

**Адве́нт** 'пост перад калядамі' (Сцяшк. МГ) <лац. *adventus* 'прышэсце Хрыста' (<*advenire* 'прыходзіць').

**Адве′даць,** *атведаць* 'наведаць, праведаць каго-небудзь, пабыць у каго-небудзь блізкага ці знаёмага з мэтай даведацца пра яго жыццё' (Янк. I, Юрч.) <польск. *odwiedzać* 'тс'.

**Адве′дкі,** *атветкі* 'наведванне жанчыны, якая нядаўна нарадзіла дзіця', *адведзіны* (Янк. I—II), *атведкі* 'наведванне (хворага, парадзіхі)' (Юрч., Мядзв.). Словаўтваральная мадэль тыпу *вячоркі*.

**Адві′льваць** 'выкручвацца' (БРС, КЭС), *адвільванне* 'выкручванне' (Бяльк.) да *віліць* (гл.).

**Адвільге′паць** 'адрэзаць вялікі кавалак', *адвільгепаны* 'адрэзаны (кус)' (Яўс.). Кантамінацыйнае ўтварэнне на аснове *адгепаць* і, магчыма, *адвавуліць*.

**Адві′льжэць** 'зрабіцца вільготным' (КЭС, лаг.) <польск. *odwilżeć*.

**Адві′нуцца** 'адвярнуцца, адысці на кароткі час' да *адвіхнуцца*. Гл. *віхаць* і *адвіхнуцца*.

**Адвіхну′цца** 'адкаснуцца' (Бяльк.). Гл. *віхаць*.

**Адво′й,** *атвой* 'месца лоўлі рыбы на вуду' (?) (Сцяшк. МГ), 'паварот ракі' (?). Гл. *вой*.

**Адво′ны** 'пахілы' (Касп.), *адвонаваты* (Касп.), *адвона* да *адхон* (гл.), *адхоны, адхонаваты*.

**Адвячо′рак** 'частка дня' (БРС, Касп., КТС), 'частка дня перад вечарам' (КЭС). Гл. *вечар*.

**Адгадзі′ць** 'аддзякаваць' (БРС, Янк. I), *адгадзіцца* 'тс' (КЭС, лаг.), *адгоджваць* 'адплачваць' (БРС, Янк. I, Янк. БП), *адгоджвацца* 'тс' (КЭС, лаг.). Параўн. рус. *угодить*. Гл. *гадзіць*.

**Адгайдама′шыць** 'моцна адлупцаваць' (Яўс.) да *гайдамак*. Параўн. *абгайдамашыць*.

**Адга′каць** 'адсячы, прайсці немалую адлегласць, прабыць з нагрузкай працяглы час' (Янк. II), *адгакаць* 'прайсці' (Сцяшк.) да *гак* (гл.).

**Адганашыць** 'нарваць' (Шат.) да *ганошыць* (гл.). Параўн. таксама *ганобіць*.

**Адга′ніць** 'адгадаць' (Сцяшк., Сцяшк. МГ) да *гадаць* (гл.). Магчыма, запазычанне з польск. *odgadnąć* з наступным спрашчэннем групы зычных (*dn*>*n*).

**Адго′каць** 'паскакаць уволю' (Бяльк.). Відаць, кантамінацыя *адгопаць* з *гокаць* (гл.).

**Адго′ны** 'маладыя дрэўцы, якія размнажаюцца з пнёў, каранёў' (Інстр. III) да *гнаць*. Параўн. *гонкі* (аб дрэве).

**Адгы′рквацца** 'груба адказваць' (Шат.). Гл. *гыркнуць*.

**Аддаду′рыць** 'адставіць' (Сцяц.), *аддудурыць* 'адтапырыць' (Яўс.), *аддыдурыць* 'адставіць дудкаю (хвост)' (Бяльк.), *аддудырыць* 'адставіць нязграбна, няўклюдна' (Юрч. Сін.), *аддудыраны* 'адтапыраны' (Янк. II), *аттатурыць* 'адтапырыць' (там жа), *аттатураны* 'адтапыраны' (там жа). Тлумачэнне Бялькевіча мае ясныя рысы народнай этымалогіі. Марфалагічна тут біпрэфіксальная форма дзеяслова з разавым дзеяннем *(ад-да-дур-ыць)*. Слова, магчыма, літоўскага паходжання: *atadùrti* 'адыходзіць', *sudùrdyti* 'адставіць з першаснага палажэння'. Наконт літ. *dùrti* 'штурхаць' гл. Фрэнкель, 113.

**Аддратва′ць** 'крэпка пабіць (кнутом)' (Шат.). Магчыма, ад *дратва* 'прасмалены канат', але гэта вельмі прафесійная назва. Калі лічыць, што *ад-дратаваць* паходзіць ад першаснага *драць*, марфалогію дзеяслова цяжка вытлумачыць, не прыняўшы версіі аб кантамінацыйным паходжанні слова на аснове *тратаваць* (<польск. *tratować)* і *драць* (Міхневіч, БЛ, 1973, 3, 60).

**Аддрэ′нчыць** 'аддрукаваць' (Шат.). Відаць, кантамінацыя *дрэнчыць* (<польск. *dręczyć* 'мучыць, дакучаць, ціснуць') і *друкаваць* (<польск. *drukować)*.

**Адду′ла** 'адпачынак' (Нас.), *аддуха* 'тс' (КЭС, лаг.) да *дуць*. Параўн. *ад-дыхнуць* 'адпачыць' (КЭС, лаг.).

**А′джа,** *ад-жа* (Гарэц., Бяльк.), укр. *адже*. Украінскае слова мае дзве этымалагічныя версіі: *адже* да *а-от-же* (УД Зб. 11, 222) і да *а-д-же* (*-д-* скарочаная форма *диви*), параўн. зах.-укр. *аже* (<*а-же*) (Рудніцкі, 1, 42). Версія Рудніцкага вельмі няпэўная. Супадзенне беларускай і ўкраінскай форм вытлумачыць цяжка (Краўчук, вусн. паведамл.).

**Аджгі′р** (БРС), *джгір* (БелСЭ) 'Acerina cernua'. Мабыць, з літ. *ažgỹs, ežgỹs* 'тс'. Гл. *ажгур*.

**Аджджві′чыць** 'выцвічыць, высцебаць' (Арх. Бяльк.). Фанетычны варыянт да *цвічыць*, магчыма, пад уплывам звонкага *д* у прэфіксе *ад-*. Параўн. *аджджубасіць* (Мартынаў, БЛ, 1972, 1, 18).

**Аджджуба'сіць** 'высцебаць', гл. *аддубасіць* (Бяльк.). Гл. таксама *аджджвічыць*. Тут кантамінаваліся формы *аддубасіць* і *аджджвічыць* (Мартынаў, БЛ, 1972, 1, 18).

**Адза'баль,** *адзабылі, адзаль* 'сапраўды' (Касп.), *адзабль, адзабыл* 'праўда (прыслоўе)' (Карскі, 2—3, 71, 73, віц.), *адзабль* 'ці праўда' (Мат. Смал.), параўн. рус. сіб. *забыль* 'праўда, сапраўды', *адзабль, адзабыль, ад-за-бы-ль* да *быць* (гл.). Структура *ад-забыль* эквівалентна *са-праўды* (Мартынаў, Бел.-рус. ізал., 69).

**Адзале'ць** 'памерзнуць, загінуць' (Касп.). Гл. *золкі*.

**Адзеву'ліць** 'здзівіць, абмарочыць, ашукаць' (Нас.), *ададзівуліць* (словаўтваральная мадэль, як у *абакуліць*). Магчыма, кантамінацыя з *дзязуля* 'дзяўчынка'. Гл. *аздзівяліць*.

**Адзе'жа** (Касп., Шат., Гарэц.), *адзежына* (Бяльк., Нас., Шат.), *адзенне* (Бяльк., Нас., Шат., Касп., КСТ). Слова, быццам, толькі ўсходнеславянскае і стараславянскае (*одежда*). Параўн. укр. *одежа,* рус. *одёжа.* Арэал гэтага слова вельмі цікавы, калі ўлічыць бел. *вопратка,* укр. *одяг.* Магчыма, старая ўсходнеславянска-балгарская ізалекса, рэлікты якой слаба захаваліся па ўсёй гэтай тэрыторыі (Фасмер, 3, 121). Форма *адзежа*<**odedja* ад старой рэдуплікаванай асновы дзеяслова *děti* — *dedję* (ст.-слав. **дєждѫ** ~літ. *dedù* 'кладу', ст.-інд. *dádhati* 'кладзе').

**Адзё'р**$_1$ 'прыстасаванне, на якім сушаць віку, гарох і г. д.' (Інстр. II), *адз'ор* 'від вулея, які ставяць на дрэве' (Блін., Мяц., Анох.), *odzior* 'памост, на якім ставяць вулкі-калоды' (Маш., Сержп.), *oz'or* 'памост пад вулеем на дрэве, пад якім тырчаць вострыя спіцы, каб мядзведзь не ўзлез' (КСТ), *одра* (КСТ) «*адзёр-вулей* — ад стараславянскага *одръ* — памост, насілкі для нябожчыка, адсюль і палаткі, памосткі для вулляў, а пасля вулей» (Блінава, Мат. конф. МГПИ, 10), рус. *одёр* 'памост, насілкі для нябожчыка, памосткі для вулляў, памост, каркас воза', ст.-чэш. *odr* 'ложа', чэш. *odr* 'стоўп, каркас', *odry* 'тычкі для вінаграду, будкі для лоўлі птушак', славац. *vôdor* 'памост у гумне', польск. *odra* 'памост пад вулеем', балг. *одр* 'ложа, аканіца', серб.-харв. *ȍдар* 'ложа, насціл', славен. *oder* 'памост, адрына'. Існуе шмат этымалагічных версій (найбольш поўны агляд гл. Махэк, Slavia, 18, 1—2). Ільінскі, ЖМНП, 1904, апрель, 382: *odrъ*<*o-drъ* 'прастор, акружаны дрэвам', інакш Сабалеўскі, ЖМНП, 1904, Март. 180; Брандт, РФВ, 23, 1, 95: *odrъ*<*dьrati;* Бэцэнбергер, BB, 27, 174; Уленбек, PBB, 26, 295; Мерынгер, IF, 18, 256,

звязвалі *odrъ* з ст.-ісл. *jaðar* 'верхняя бэлька ў плоце', ст.-англ. *eodor* 'загон' і іншымі германскімі паралелямі; Шэфталовіц (IF, 33, 141) параўноўвае *odrъ* з ст.-інд. *ádgaḥ* 'сцябло', літ. *uodegà* 'тс'; Махэк (там жа, 85): *odrъ*<*vodrъ*<*vedro, vędnǫti* 'вянуць, сохнуць' (*odrъ* — прыстасаванне для сушкі); Вайян (RÉS, 24, 187) выказвае сумненні наконт этымалогіі Махэка і прапануе параўнанне *odrъ* і лат. *adît* 'плесці' (*odrъ* назва агароджы, параўн. *плот*). Ва ўсіх пералічаных этымалогіях этымон не звязваецца са значэннем, якое захавалася ў беларускіх словах (Усх. Палессе). Між тым літ. *dravìs* 'борць', *drevė̃* 'дупло', лат. *drava, dreve* 'тс', ст.-прус. *drawine* 'вулей' несумненна звязаны з прасл. *dervo* 'дрэва'. Гэты факт, відаць, сведчыць у карысць этымалогіі Ільінскага з мадыфікацыяй Фасмера, 3, 123, які прасл. *odrъ* выводзіць з *o-drъ* 'насціл вакол дрэва'.

**Адзё'р₂** (назва хваробы) (БРС, Янк. I, Шат., Сцяшк. МГ) «адзёр — хвароба (скура хворага робіцца чырвонай, як абдзёртая)» (Блінава, Мат. конф. МГПИ) да *дзерці* (гл.).

**Адзе'цца** 'справіць адзежу', *адзетак* 'адзежа, вопратка' (БРС, КЭС), *адзетак,* магчыма, пад уплывам *абутак* (*абуць: абутак — адзець* : *адзетак*) *да дзець* (гл.). Параўн. *адзежа.*

**Адзі'н**, ст.-рус. *одинъ*, рус. *один,* укр. *один,* чэш. *jeden,* славац. *jeden,* польск. *jeden,* в.-луж. *jedyn,* н.-луж. *jaden,* ст.-слав. ѥдинъ, балг. *един,* макед. *еден,* серб.-харв. *jѐдан,* славен. *eden.* Прасл. *edinъ*<*ed-inъ,* у якім першы кампанент той жа, што і ў рус. *едва* і інш., лац. *ecce* 'вунь' (і.-е. заім. *e-*). Гл. Бругман, IF, 23, 310; Бернекер, 1, 262; Мікала, Ursl. Gr, 3, 56 (параўн., аднак, Пізані, Paideia, 8, 2, 111); або ідэнтычны ст.-інд. *ādiḥ.* Гл. Ван-Вейк, IF, 30, 384, супраць Бернекер, там жа, 263, Гуер, Slavia, 2, 560; другі кампанент параўноўваецца з гоц. *ains,* лац. *ūnus* (<**oinos*) і інш. Гл. Мейе, MSL, 14, 348; Бернекер, там жа, 262. Вайян (WS, 7, 4, 342) выводзіць *jedinъ* з **jedь* — *jinъ,* прычым першы кампанент да с.-балг. *еде кой* 'такі ці такі'.

**Адзіна'ццаць** <прасл. **jedinъ na desete.* Гл. Райхенкрон, Зб. Кашмідэру, 152; Слаўскі, 1, 545; Трубачоў, Дополн., 3, 122; Супрун, Числит., 46—47.

**Адзіне'ц** (пра лася, кабана) (БРС, Гарэц., Касп., Інстр. II), 'адзіны сын у сям'і' (КСТ), ст.-бел. *одинецъ* 'няпарны собаль' (1541) (Нас. гіст.), ст.-рус. *одинецъ,* рус. *одинец* 'дзік або лось', укр. *одинець,* польск. *odyniec* 'стары дзік або зубр' (<укр.) да *адзін.* Гл. Патабня, РФВ, 1, 77.

**Адзя'бнуць** 'памерці ад старасці, застудзіцца' (Бяльк.). Паходжанне першага значэння няясна. Гл. *зябці*.

**Адкаву'ліць** 'адрэзаць вялікі кавалак хлеба' (Шат.) да *адкаваліць* (<*кавал*) пад уплывам экспрэсіўных дзеясловаў на *-уліць*. Гл., напр., *абакуліць*.

**Адказа'ць,** *адказ,* ст.-бел. *отказовати* 'даць адказ' (1481) (Нас. гіст.), *отказъ* 'адказ' (1456) (Нас. гіст.) да *казаць* (гл.).

**Адкамя'чыць** 'крэпка памяць, пабіць каго-небудзь' (Шат.). Гл. *камячыць*.

**Адкапсану'ць** 'адштурхнуць' (Янк. II) <літ. *atkapsëti*. Запазычаны дзеяслоў выкарыстаў таксама суфікс *-ну* для абазначэння разавага дзеяння.

**Адкара'скацца** 'адчапіцца', *адкарастыцца* (КТС, Янк. I), *аткараскацца* (Яруш.), *оттараскатысь* (Клім.) да *караскацца* 'карабкацца, чапляцца' (гл.).

**Адка'рхнуць** 'аддыхнуць', параўн. *прыкархнуць* (Бір. дыс.), *адкархнуцца* 'адхаркнуцца' (Касп.). Гукапераймальнае. Гл. *кархаць*.

**Адка'сывацца,** *адкаснуцца* 'пазбаўляцца, адчапіцца, адвязацца, адстаць' (Юрч.) да *kasati sę* (ст.-слав. **касати сѧ**, балг. *косвам,* рус. *касаться,* укр. *касатися* 'дакранацца'). Аднак для беларускага моўнага арэала дзеяслоў *касацца* не характэрны. Таксама не характэрна для гэтага дзеяслова (там, дзе ён сустракаецца) спалучэнне з прэфіксам *ад-*. Магчыма, *адкаснуцца* да *адкапснуцца* (гл. *адкапснуць*) са спрашчэннем незаканамернага для славянскіх моў гукаспалучэння *-пс-* *(-пс->с)* (Міхневіч, вусн. паведамл.). Тады *адкасывацца, адкаснуцца* трэба разглядаць як балтызмы.

**Адкаса'ць** 'адвярнуць рукавы' (гл. *закасаць)* <польск. *odkasać* 'тс'.

**Адка'шнік** 'Primula veris L.' (Кіс.). Да *кашаль* (гл.).

**Адке'ле** 'адкуль' (Касп.). Параўн. рус. пск. *откеля, откель* і ў іншых рускіх дыялектах з *отколь* пад аналагічным уплывам *отселе* (Бернекер, РФВ, 48, 225). Формы *адселе* на Віцебшчыне няма (замест яе тыпова бел. *адсюль*), таму, трэба думаць, *адкеле* — запазычанне з рус. (Мартынаў, SlW, 69).

**Адкі'дзік** 'мера напрадзеных нітак' (Інстр. III) да *кідаць* (гл.).

**Адкі′нуцца** 'адмовіцца' (Некр.). Магчыма, калька з польск. *odrzucić*, тады зваротная форма пад уплывам *адмовіцца*. Параўн. польск. *zarzut* і бел. *закід*.

**Адкла′дня** 'назва жалезнай часткі плуга, якая адвальвае скібу' (Тарнацкі, Studia), *откладыця* 'тс' (Выг. дыс.) да *адкладваць*. Гл. *класці*.

**Адко′рквацъ** 'адкрыць бутэльку' (БРС) да *корак* (гл.).

**Адкулупі′цца** 'адчапіцца' (Бяльк.) да *кулупаць, клупаць* (гл.).

**Адку′ль** (ст.-бел. *откуль* (1347) (Нас. гіст.) таксама як *адсюль* (гл.), *адтуль* (гл.) узнікла як кантамінаванне двух радоў форм *адколь, адсель, адтоль* і *куды, сюды, туды*. Параўн. прыклады аналагічных працэсаў у Бернекера, РФВ, 48, 3—4, 224—225.

**Адлапэ′шыць** 'адлупцаваць каго-небудзь' (Яўс.). Кантамінацыйнае ўтварэнне (*адлупцаваць* і *аблапошыць*).

**Адле′глы,** *адлегласць,* ст.-бел. *отлеглый* 'адлеглы' (1624) (Нас. гіст.), *отлеглость* 'адлегласць' (1584) (Нас. гіст.) <польск. *odległy, odległość,* дзе, відаць, калька з ням. *abliegend* 'адлеглы' (Мартынаў, SlW, 68).

**Адлё′т** 'лоўкі, смелы' (Бір. дыс., КТС), *адлётны* : *отлетный* (конь) 'выдатны, цудоўны' (Нас.) поўнасцю ідэнтычныя з рус. *залёт, залётный* (у тым ліку *залётные кони*) (аб рускіх формах гл. Кошалёў, БЕ, 1964, 11, 76). Прыпадабненне да *лёт, лётаць*. Гэта відаць з параўнання польск. *załoty, załotny* 'заляцанні, залётнік', семантычна тоесных *zalety*, *zaletny*. Брукнер (644) характарызуе першы тып форм як «памылковы». Чэш. *zálety,* славац. *zálety* 'заляцанні' разам з іх польскімі адпаведнікамі ўзыходзяць да польск. *zalecać się* 'зарэкамендаваць сябе', славац. *zaliečat sa* 'імкнуцца спадабацца'. Цікава супаставіць з гэтымі формамі больш далёкія па сэнсу бел. *залеціць* 'запэўніваць, пераконваць' (гл.) і славен. *zalecati* 'ацэньваць, жадаць' (Безлай, SR, 12, 225—226, Слаўскі, 4, 96). Усе гэтыя словы ўзводзяцца да прасл. *lětь* 'свабода, мажлівасць, магчымасць', гл. *лець* 'можна' і паралелі да яго (Мартынаў, SlW, 64).

**Адле′ўнік** 'гліняны посуд' (Інстр. I, Касп.), *адліўнічак* 'гліняны гаршчочак' (Касп.) да *ліць* (гл.).

**Адле′ць** 'здаўна' (Гарэц., Др.-Падб.) да *лета*. Словаўтваральная мадэль не тыповая. Магчыма, *адлець*<**ад летась*.

**Адлі′** 'каля; а ўсё ж' <*ад-лі*.

**Адлі′віца** 'дошка, што прыбіваецца ніжэй шалёўкі, каб вада з шалёўкі не цякла на сцяну' (КЭС, лаг.) да *адліваць, ліць*. Гл. *адліў*.

**Адлі′га** (Касп., Нас., КТС, БРС, Гарэц., Мат. АС Грод.), *адліг, атліг* (Бяльк.), *отл'ига* (КСТ), *адлега* 'адліга, абляг-чэнне' (Гарэц., Янк. I, Бір., КТС, Бяльк., Касп., Шат., КЭС), *атлега* (Мядзв.), *одлыга* (Клім.). Укр. *відліга, відлега, відліж*, польск. *odliga, odliż, odelga*. Выходзячы з мяркуемай генетычнай сувязі прасл. *lьga, lьzě* (гл. *льга, лёгкі*) і польск. *zima lga* 'лёгкая зіма', *dziś je lgo* 'сёння не замёрзла' (Зубаты, Studie, 1, 1, 61), можна думаць аб адзіным паходжанні слоў *адліга, адлега* і *лёгкі* (гл. Рудніцкі, 415). Але лінгвагеаграфія сведчыць хутчэй на карысць балтыйскага паходжання ці ўплыву. Асабліва паказальная польская тэрыторыя (гл. Купішэўскі, Słown., карта 12), дзе пры дамінацыі *odwilż* на краях арэала сустракаюцца таксама *odliga, otliga, odliż i odelga*. Іншыя славянскія тэрыторыі не ведаюць гэтага слова. Што датычыць балтыйскага арэала, то ў літоўскай мове маем шэраг слоў, магчыма, семантычна кантамінаваных: *atlésti* 'адпускаць' — *ãtlydis, àtlyda* 'адліга', *atlýžti* 'змякчыцца, адыйсці' — *àtlyža* 'адліга', *atlẽgti* 'адпусціць' — *àtlėga* 'адліга'. Усе яны этымалагічна не звязаныя, але ствараюць адзінае семантычнае поле, узмоцненае марфолага-акцэнтуацыйным падабенствам. У якасці непасрэднай крыніцы запазычання можна спаслацца на літ. *atlẽgti* 'адпусціць (аб марозе)' і *àtlėga* 'адліга'. Параўн. *марос атл'ох* (Бір. дыс.) і літ. *šaĩtis atlẽgo*. Тады варыянт *адлега* — першасны, варыянт *адліга* ўзнік на яго аснове. Параўн. усх.-палес. *одл'егаць* 'вымакаць' і *одліглы* 'вымаклы' (КСТ). Магчыма, варыянт *адліга* ўзнік пад уплывам дзеяслова *ліць*. Так, Свобада (Зб. Унбегаўну, 246) параўноўвае *адліга* з *абліваха* (гл.). Генетычная сувязь, аднак, тут выключана (гл. Мартынаў, SlW, 66—67).

**Адлі′таваць** 'адпаяць'. Гл. *літаваць*.

**Адлі′ў** 'стрэшка ўнізе франтона' (Інстр. I), *отливчики* 'пад акном коса прыбітыя дошчачкі для аховы ад атмасферных ападкаў' (П.С., 141) да *ліць* (гл.).

**Адлупцава′ць** 'адсцягаць пугай ці дубцом' (КЭС, КТС), *адлупсаваць* 'тс' (Касп.) да *лупіць, лупцаваць* (гл.).

**Адлюстро′ўваць** (БРС). Неалагізм 20-х гадоў XX ст., створаны Ул. Дубоўкам (Дубоўка, Узв., 1927, 6; Гіст. мовы, 2, 249). Гл. *люстра*.

**Адмага'цца** 'не згаджацца' (КЭС, лаг.), *адмыгацца* 'адмаўляцца', 'як мага адказвацца' (Бяльк.) да *магчы* (гл.). Незвычайная семантыка сведчыць у карысць калькі. Але існуе магчымасць тлумачэння: *адмагацца* : *дамагацца,* як *адмаўляцца* : *дамаўляцца* (Міхневіч, БЛ, 1973, 3, 60). Тады тут адбыўся працэс аналагічнага словаўтварэння.

**Адме'нны** 'выдатны, асаблівы' (БРС, Бяльк.), рус. *отменный* да *мяняць* (гл.). Параўн. польск. *odmienny* і рус. *отличный.* Бел. *адменны,* магчыма, калька з рускага.

**Адме'тны,** *адметна* (БРС, Гарэц., Др.-Падб.) да *меціць* (гл.).

**Адміністра'тар** (БРС), ст.-бел. *администраторъ* 'кіраўнік, загадчык' (1544) (Булыка, Запазыч.) праз польск. *administrator* з лац. *administrator* або непасрэдна з лацінскага.

**Адміра'л** (БРС). Новае запазычанне праз рус. *адмирал* (Крукоўскі, Уплыў, 82) з шведскага. Шанскі, 1, А, 48. Параўн. Фогарашы, SSlav., 4, 63. Інакш Фасмер, 1, 62.

**Адміралце'йства.** Запазычанне з рус. (Гіст. мовы, 2, 142), дзе неалагізм XVIII ст. (Шанскі, 1, А, 49).

**Адмо'ўны** (Нас., Гарэц., БРС, КТС), ст.-бел. *отмовный* (1506) (Нас. гіст.). Магчыма, з ст.-польск. *odmówny* 'тс' (Параўн. Гіст. мовы, 2, 143).

**Адму'лак,** *атмулак* 'частка сахі' (Смулк.) да *муліць* (гл.).

**Адмысло'вы** 'асобы, спецыяльны' (КЭС, БРС, Бір. дыс., Др.-Падб.), *адумысловец* 'спецыяліст' (Гарэц., Др.-Падб.), *адумыслоўнасць* 'спецыяльнасць' (Гарэц.), *адумысля* 'спецыяльна' (Др.-Падб.), *адмыслова* 'добра, прыгожа; асобна' (Бір. дыс.) да *мысль.* Параўн. польск. *umysłowy, umysłowiec.* Беларускае слова ўзнікла як культурнае новаўтварэнне ў 20-я гады XX ст.

**Адмянці'ць** 'крэпка пабіць' (Шат.). Магчыма, польскі ўплыў (Польск. *miąć* 'мяць'×*męczyć* 'мучыць').

**Аднаві'ць,** ст.-бел. *отновити* (1615) (Нас. гіст.), *отновлену быти* (1347) (Нас. гіст.). Гл. *новы.*

**Аднаво'р** 'сяўба ў адну руку' (Сцяшк. МГ), 'адзін раз узаранае поле' (Шат.) <*адна-ор* да *араць* (гл.).

**Адна'дзіць** 'адвучыць ад чаго-небудзь дрэннага' (БРС, Бір. дыс.). Гл. *надзіць.*

**Аднака'шнік** (БРС). Гл. *кашнік.*

**Аднако'лы** 'аднолькавы' (Касп.). Гл. *аднолькавы.*

**Адналі'шнік** 'аднаасобнік' (Юрч.) з рус. *единоличник* з прыпадабненнем да бел. *лішка* (Мартынаў, SlW, 69).

**Адна'руч** (КТС) ад *рука.* Параўн. *аберуч* (гл.).

**Аднару'чка** 'мера напрадзеных нітак' (Нас., Інстр. III) да *аднаруч* (гл.).

**Адниста'йны,** *аднастайна* (Нас., Касп., Яруш., БРС), *одностайный* (Клім.), укр. *одностайний,* польск. *jednostajny.* Паўкалька з польскага. Параўн. *еднастайна* (гл.) (Мартынаў, SlW, 68).

**Аднацё'пка** 'памылка пры снаванні красён' (Бяльк.). Відаць, да *цёпкацца* (гл.).

**Адне'квацца** (БРС, КТС) да *не (ад-не-к-вацца).* Дзеяслоўная экпрэсіўная суфіксацыя на *-к-*. Аднак больш верагодна разглядаць адпаведнае рус. *отнекиваться* як крыніцу беларускага слова (Мартынаў, SlW, 69).

**Адні'ны** 'німфы ў Свіцязі' (Мухл.) праз польск. *undyna* 'німфа' з ням. *Undine* або непасрэдна з ням. Калі гэта так, новае запазычанне з характэрнай перастаноўкай зычных. Існуе таксама магчымасць іншага рашэння: з літ. *vandẽnė* 'німфа' (Скарджус, 265). Апошняе да літ. *vanduõ* 'вада' (гл. Фрэнкель, 1194) (Мартынаў, SlW, 67).

**Адно'йчы** (БРС, КТС) <*адноў+чы.* Параўн. *аднова* (Нас.) 'тс' і рус. *адновча.* Гл. *адзін.*

**Адно'лькавы** (Гарэц., КЭС, Бяльк., КТС, БРС) да *аднаўкавы?* Параўн. *аднаколы* 'аднолькавы' з *аднаковы* (укр. *одинаковий).*

**Адно'ш** 'і, і сапраўды' (Кліх) да *адно ж.*

**Адны'м лё'там** 'хутка, ураз, адным махам' (Бяльк.) да *лётаць* (гл.).

**Адо'зва** (Гарэц.), укр. *відозва* да *зваць* (гл.). Словаўтварэнне як у *перамога.*

**Адо'лець** 'асіліць' (Шат.), *адалець* 'тс' (Яруш.), ст.-рус. *одолѣти,* ст.-чэш. *odolati,* ст.-слав. **одолѣти,** серб.-харв. *одољети,* славен. *odoleti* 'тс' да *дол* (гл.). Не трэба змешваць ся *здолець, здольны* (гл.) (<*доля*). Апошняя група лексем толькі беларуска-ўкраінска-польская (гл. Мартынаў, Лекс. балтызмы, 26). Гэтыя дзве групы традыцыйна ўзводзяць да адной. Бернекер (I, 206) праз рус. *одолить* 'выдзеліць' намага-

ецца іх звязаць, але не пераканаўча. Ст.-бел. *одолѣти* 'задаволіць' (1595) (Нас. гіст.), магчыма, вынік семантычнай кантамінацыі.

**Адо'нак** 'зроблены з колікаў, палак і галля насціл, на якім складаецца (кідаецца) сена ў стог' (Янк. Мат., Бір. дыс., ДАБМ, Шат.), 'астаткі збожжавай або сеннай сцірты' (Нас.), *адзёнак* 'стог сена' (Янк. I, ДАБМ, Некр.), *адзёлак* 'падмосткі пад стог' (ДАБМ), *адонішча* 'падстожка' (Арх. Бяльк.) да *дно* (гл.).

**Адпаве'дны** 'адпаведны, адказны', *адпавядаць* 'адказваць', *адпавядальны,* ст.-бел. *отповедный* 'адказны' (1496) (Нас. гіст.), *отповѣдати* 'адказаць' (1347) (Нас. гіст.). Гл. *ведаць.*

**Адпа'каць** 'справіць пахаванне нябожчыка' (Нас.). Гл. *пакаць.*

**Адпасці'ць** 'адкарміць' (Шат.) да *пост* (гл.). Іранічнае пераасэнсаванне.

**Адпачасава'ць** 'адхвастаць' (Шат.) ад *пачаставаць.* Параўн. *почастка* (гл.) 'частаванне' і 'біццё'.

**Адпачы'нак,** ст.-бел. *отпочинок* (1557) (Нас. гіст.) <польск. *odpoczynek.* (Суфікс *-ынак* пад польскім уплывам — гл. Карскі, 2—3, 36) (Мартынаў, SlW, 68).

**Адпачы'ць,** ст.-бел. *отпочивати* (1547) (Нас. гіст.) да *пакой* (гл.).

**Адпераза'ць** 'зняць пояс' (Гарэц., Касп.), *аперазаць* 'пабіць' (Касп.), *адпяразаць* 'зняць пояс' (Касп.). Гл. *паразаць.*

**Адпе'рыць** 'крэпка пабіць паленам' (Шат.), *атперыць* 'адлупцаваць, пабіць' (Янк. Мат.) <літ. *atpeȓti* 'адбіць'.

**Адпе'таваць** 'пабіць' (Бяльк.), *атпіетуваць* 'цяжка працаваць' (Лыс. СПГ). Гл. *петаваць.*

√ **Адпіна'ць** 'адгарожваць, адвязваць' (БРС, Гарэц.), *адпінацца* 'адмаўляцца' (Нас., Гарэц., Др.-Падб., Касп.) да *пяць* (гл.).

√ **Адпіра'ць** 'занесці або завесіць што-небудзь' (Шат.), гл. *перці.* Магчыма, балтыйскі семантычны ўплыў. Параўн. літ. *atspìrti* 'падпіраць, падстаўляць'.

**Адпіргну'ць** 'адштурхнуць' (Шат.). Відаць, кантамінацыя *перці* (гл.) і *піхаць* (гл.).

**Адплікну'ць** 'адшпіліць, выпрагчы каня' (Янк. I), мабыць, з польскага (параўн. польск. *plik* 'звязка').

**Адпо'ўшчыць** 'надаваць аплявух' (Шат.). Магчыма, да *ад-по-уш-ч-ыць* 'ударыць па вуху'. Не выключана таксама сувязь (кантамінацыя) з *ушчуваць* 'караць' (гл.).

**Адпра'ва** 'царкоўная служба' (Касп., Нас.) да *правіць* (гл.).

**Адпра'ніць** 'крэпка пабіць' (Шат.), гл. *пранууць* 'кінуць'. Відаць, кантамінацыя *пранууць* і *адпражыць* (гл.).

**Адпра'жыць** 'пабіць, аддубасіць' (Бяльк.) да *пражыць* (гл.). Гл. *адпраніць*.

**Адпрата'ць** 'пабіць, адлупцаваць' (Нас., Юрч.) да *пратаць* (гл.). Параўн. таксама рад *адпраніць, адпражыць,* які дэманструе фонасемантычнае прыпадабненне.

**Адпрыччы'ць** 'адвучыць ад дому каго' (Шат.). Гл. *адпрэчыць*.

**Адпрэ'чыць** 'прагнаць' (КЭС), *атпрэчыць* (Янк. Мат.). Магчыма, да *прэч* (гл.). Параўн., аднак, *адпрыччыць* 'адвучыць ад дому каго' (Шат.). Магчыма, абодва словы да *апрыч, апрэч.* Не можа быць выключаны таксама балтыйскі ўплыў. Параўн. літ. *atprásti, atprãtinti* 'адвучыць'.

**Адпэ'ндзіць** 'выправадзіць' (Шат.) <польск. *odpędzić.*

**Адпушы'ць** 'вылаяць, аблаяць' (Юрч.). Гл. *пушыць, пух.*

**Адпя'трыць** 'адсохнуць', гл. *пятры* 'цапкі, столь у асеці з жэрдак, на якую кладуцца снапы для сушкі' (Бяльк.).

**Адрабля'ць,** *адробліваць* 'адчараваць, зняць чары' (Нас., Інстр. III) да *рабіць* (гл.). Семантыка няясная. Неверагодна бачыць тут сляды старажытнага семантычнага пераходу 'чары' — 'дзеянне' (*варажыць* ~ст.-грэч. (*F*) ἐργόν 'дзеянне').

**Адрантве'лы** 'адубелы' (Нас.), *адрантаваць* (Нас., Касп., КЭС) <польск. *odrętwić.*

**Адру'знуць,** *адрузлы* (БРС). Гл. *друзнуць.*

**Адры'на** 'будынак для сена, саломы, хлеў' (Арх. ГУ, Янк. I), 'халодная пабудова, у якой захоўваюцца вазы, сані, сельскагаспадарчы інвентар' (Янк. Мат., Сцяшк., Сцяшк. МГ), *адрынь* (Федар. VI), *адрынец* (Нас.), укр. *одрина,* рус. *одрина* 'тс'. Ці гэтыя словы звязаныя з прасл. *odrъ* 'ложа, памост'? Гл. *адзёр. Адрына* мае звужаны арэал пашырэння. Гэта інавацыя або запазычанне з невядомай крыніцы.

**А'драс** (БРС). Відаць, запазычанне з польск. *adres,* якое з франц. *adresse.* Параўн. Шанскі, 1, А, 49.

**Адсача′ць** 'адстаць (пра кару дрэў вясной)' (Юрч.), *адсычэць* 'тс (калі вясной пад карой на дрэве з'яўляецца сок і лёгка адстае кара ад дрэва)' (КЭС) да *сок* (гл.). Параўн. назву першага вясенняга месяца — *сакавік* (Мартынаў, SlW, 65).

**Адсачы′цца** 'адрадзіцца' (КЭС) да *сок*. Апошні звязваецца з вясеннім адраджэннем. Гл. *адсачаць* і *сок*.

**Адсіка′цца** 'на слушную заўвагу даваць грубы адказ' (КЭС). Гл. *сікацца*.

**Адскё′п** 'раскол' (Нас., Гарэц.), *адскяпіць* 'адкалоць' (Нас., Гарэц., Др.-Падб.), *адкеп* (Др.-Падб.). Гл. *скепаць*.

**Адско′ка** 'адлегласць' (Касп., Нас., Гарэц.). Гл. *скок, скочыць*. Семантычны пераход незвычайны.

**Адстрапалі′ць** 'зрабіць якую-небудзь рэч' (Яўс.) да *страпаліць* (гл.).

**Адсука′цца** 'адкасацца, пазбавіцца' (Юрч.) да *сукаць* 'плясці, звязваць' (гл.).

**Адсцяба′ць** 'пабіць, высцебаць' (Касп.). Гл. *сцябаць*.

**Адсу′ха** 'злосная істота' (Інстр. II). Гл. *сухі* 'нячыстая сіла, якая пасылае сухоты'.

**Адсю′ль,** ст.-бел. *отсюль* (1527) (Нас. гіст.). Гл. *адкуль*.

**Адтараба′ніць** 'адцягнуць, адвезці' (Касп., Шат.). Гл. *тарабаніць*.

**Адтапы′рыць** (губу) (КТС), *адтапырыць* 'адставіць убок' (КЭС). Гл. *тапырыць*.

**Адтату′ркнуць** 'вытаркаць, выпучвацца' (КЭС). Магчыма, балтыйскага паходжання (<**at-turkti*). Параўн. літ. *tùrk-tekti* 'таркаць' або ад *аддадуркнуць* (гл. *аддадурыць*).

**Адтачы′цца** 'адкарміцца, паправіцца' (Яўс.). Відаць, да *тачыць* 'грызці'.

**Адтрыву′шыць** 'набіць' (Юрч.) да *трыбушыць* 'калаціць, трэсці' (Міхневіч, БЛ, 1973, 3, 60).

**Адту′ліна** (КТС, БРС), *адтуліць* 'адкрыць' — *адтуліна* 'дзірка'. Гл. *туліць*.

**Адту′ль,** ст.-бел. *оттуль* (1347) (Нас. гіст.). Гл. *адкуль*.

**Адува′нчык** 'Leontodon taraxacum' (Кіс., Бейл.) да *дуць* (гл.).

**Адука′цыя** (Нас., Яруш., БРС, Гарэц.), *адукаваны* (Нас., БРС, Гарэц.), *адукаванне* (Нас.), *едукацыя* (Шпіл.), *адукаваць* (Шат.), *едукавацьсь* (Шпіл.) <польск. *edukować, edukacja* <лац. *duco, ducere* 'весці'.

**Аду′лаваты** 'сутулаваты, азызлы' (Нас.). Кантамінацыйная форма, гл. *адутлаватасць* і *сутулаваты*. Не выключаны таксама балтыйскі ўплыў. Параўн. літ. *dulėti, dùlti* 'гніць, парахнець', *dùlis, dūlỹs, dùlià* 'стары чалавек, спарахнелае дрэва' (Урбуціс, Baltistica, V (I), 1969, 57).

**Адутлава′тасць** (БРС), *адулават* (Гарэц.), *адулаваты* 'азызлы' (Бяльк., Касп.), рус. *одутлый, одутловатый* ад *дуць* (гл.).

**Адха′кацца** 'аддыхацца' (Юрч.) да *ха-*. Гукаперайма‌льнае слова з экспрэсіўнай дзеяслоўнай *к*-суфіксацыяй (параўн. *букаць* да *бу-* і г. д.), параўн. таксама *адхукаць*.

**Адха′яць,** *адхаіць* 'прывесці да прытомнасці, выратаваць' (Шат., Бір., Нас., Бяльк.), *отхайець* (КСТ), *адхаіць* 'паздаравець' (Яўс.), *адхаіваць* 'ачышчаць ад гразі' (БРС) да *хаіць* (гл.).

**Адхва′стаць** 'адсцябаць, крэпка ўдарыцца' (Шат., Юрч. Сін.). Гл. *хвастаць*.

**Адхіна′ць** 'адхіляць' (Шат., Нас., БРС, Гарэц.), *адхінуцца* 'адхіліцца, адвярнуцца' (Гарэц., Касп., Нас., Мядзв.), 'адлучыцца' (Бір. дыс., КЭС), *атхінуць* 'адхіліць' (Яруш.). Гл. *абхінуць* і *адхіснуць*.

**Адхісну′цца** (БРС) 'адрачыся' (Гарэц., Бяльк.), 'адхіліцца' (Шат.) да *хістаць* (гл.). Магчыма, кантамінацыя з *ахінуцца*. Параўн. *адхінаць*.

**Адхла′н** 'прахалода, адпачынак' (Нас.), *атхлань* 'палёгка' (Яруш.), *адхланне* 'спакой, адпачынак' (Янк. II). Відаць, з *адхолон*, гл. *халонуць*. Параўн. Праабражэнскі, 2, 130. Магчыма, таксама кантамінацыя з *адхлын* 'адпачынак' (гл.).

**Адхла′нь** 'бездань' (Сцяшк. МГ, Федар. 1) <польск. *otchłań* 'тс'.

**Адхлу′п** 'адпачынак, перадышка', *адхлупіць* 'зрабіцца лягчэй' (Яўс.). Параўн. *адхлын* (гл.) у тым жа значэнні, што і *адхлуп*.

**Адхлы′н** 'адпачынак, перадышка' (Юрч. Сін., Яўс.), рус. *отхлянуть, отхленуть* 'адпачыць'. Сюды ж рус. *хлын* 'лодар, гультай' і *хлынь* 'замаруджаны ход каня'. Неверагодна Фас-

мер, 3, 173, рус. *отхлянуть* звязвае з *хлебать*. Супастаўленне Праабражэнскім, 2, 130, рускага слова з бел. *адхлан* (гл.) таксама спрэчнае, абедзве формы ён выводзіць з *холад*. Ільінскі (ИОРЯ, 20, 4, 157) лічыць генетычна роднаснымі рус. *хлын*, *хлынь* і *хлынуть*. Паколькі апошняе звязваецца з укр. *хлюнути*, польск. *chlunąć*, балг. *хлун* і інш., існуе магчымасць для рэканструкцыі **xlunǫti* (**<xlǫnǫti<*xłǫbnǫti/xlębь*). Параўн. бел. *хляба* і *хлюпа* ў значэнні 'дрэннае надвор'е' з бел. *адхлуп* (гл.) і *адхлын* (гл. Мартынаў, Слав. акком., 131; ён жа, Бел.-рус. ізал., 69).

**Ахляпе'сціць** (*атхляпесціць*) 'адчыніць дзверы, вокны (неадабральна)' (Янк. Мат.). Гукапераймальнае (*хляп!*). Аднак суфіксацыя застаецца няяснай.

**Адхо'н** (БРС, Гарэц., Яруш.), *адхоны* 'пахілы, косы' (Нас., Юрч., Гарэц., Яруш.), *адхонавасты* 'пакаты, спадзісты' (Касп.), *адхонаваты* 'пакаты' (Касп., Яруш.). Гл. *хінуць*.

**Адху'каць** 'сагрэць дыханнем' (Шат., Гарэц.), *адхукнуцца* 'аддыхацца' (Касп.). Гукапераймальнае слова. Параўн. *адхакацца* (гл.).

**Адху'таць** 'адкрыць' (Касп.). Гл. *хутаць*.

**Адца'цкаць** 'апрацаваць рэч па-мастацку' (КЭС, лаг.). Гл. *цацка*.

**Адцы'ркаць** 'падаіць' (Нас., Бяльк.). Гл. *цыркаць*.

**Адцы'тнік** 'Sedum acre L.' (Кіс., Інстр. II, Крывіч) <*адсытнік*. Параўн. назву таго ж Sedum acre L. *сытнік* (Крывіч, IV, 1923) да *сыць* (гл.).

**Адця'гнены** 'абстрактны' (БРС). Тэрмін уведзены М. Байковым (гл. Гіст. мовы, 2, 217). Да *цягнуць*, калька з лац. *abstractus*. Параўн. лац. *abstrahere* 'адцягваць'.

**Адця'ць** 'адсячы' (Касп., Нас., Бяльк.), *адцінаць* (Нас., БРС, Гарэц.). Гл. *цяць*.

**Адча'йвацца** (БРС), *адчаіць* (Нас.), *адчай* 'пакута' (Гарэц., Інстр. III, Касп.). Рус. *отчаяться*, укр. *відчай*. Да прасл. *čajati*: рус. *чаять* 'думаць, спадзявацца', ст.-рус. *чаꙗти* 'спадзявацца', серб.-харв. *чајати* 'чакаць, спадзявацца' і інш. Параўн. ст.-інд. *cāyati* 'заўважае, адчувае', гл. Майргофер, 1, 383; Фасмер, 4, 321.

**Адчапі'цца** 'адстаць, адысці' (КЭС, лаг.). Гл. *чапляць*.

**Адчуба'сіць** 'аддубасіць' (Шат.). Кантамінацыя *аддубасіць* (гл.) і *чуб* (гл.) (Мартынаў, БЛ, 1972, 1, 18).

**Адчуплава′ць** ’адсцябаць пугай, бізуном, дубцом’ (КЭС, лаг.). Складаная кантамінацыйная форма. Магчыма, ад *адчубасіць* (гл.) і *адлупцаваць* (гл.).

**Адчура′цца** ’адрачыся’ (КЭС, лаг.) да *чур* (гл.).

**Адчу′хаць** ’адчуліць, ажывіць’ (Нас., Бяльк.). Гл. *чухаць.*

**Адчупрыжыць** ’выставіць (напаказ)’ (Касп.). Відаць, адносіцца да шырока распаўсюджанай у славянскіх мовах экспрэсіўнай кантамінацыйнай групы слоў з агульным значэннем ’казырыцца, задавацца’, параўн. польск. *czupyrzyć się* ’задавацца’, чэш. *čepyřiti,* в.-луж. *šepjerić so,* славен. *čeperiti se* і інш. Гл. *чапурыцца.*

**Адчыкры′жыць** ’адрэзаць, адсячы’ (Бяльк.). Гл. *чыкрыжыць.*

**Адчыні′ць** ’адкрыць’ (Нас., КТС, БРС), *адчыняць* ’расчыняць (дзверы, вокны)’ (Нас). Гл. *чыніць.*

**Адчэпна′я** ’вымушаны выкуп’ (КЭС, лаг.). Гл. *адчапіцца.*

**Адшаба′саваць** ’адсвяткаваць шабас’ (Нас.), *адшабысыць* ’адсвяткаваць (пра яўрэяў)’, ’адлупцаваць’ (Бяльк.). Гл. *шабасаваць.*

**Адша′стаць** ’хутка адрэзаць’ (Касп.). Гл. *абшастаць* і *шастаць.*

**Адштапава′ць** ’пакалаціць, пабіць’ (Шат.). Да *штапаваць.*

**Адшу′нуць** ’адбегчы’ (КТС). Відаць, балтыйскага паходжання. Параўн. літ. *šáuti, šaunù* ’хутка бегчы’, лат. *šaut, šaunù* ’зрабіць хуткі рух’. Усе гэтыя балтыйскія дзеясловы спрадвечна роднасныя з прасл. *sovati, sunǫti* (гл. *сунуць*) (Мартынаў, SlW, 67).

**Адшчы′кнуць** ’адарваць плод’ (Шат., Касп., Нас.). Гл. *шчыкаць.*

**Адшчапе′нец** (БРС) <рус. *отщепенец* (палітычны тэрмін).

**Ады′лі** ’а далей’ (Нас.), ’але’ (Гарэц.), *адлі* ’нарэшце’ (Нас.) да *а-далі.* Гл. *далі.*

**Ады′стар** ’сапраўдны’ *(адыстар бацька)* (Нас., БРС, Кольб., Бір. дыс., Гарэц.), *азістар* ’тс’ (палес., Вярэніч, вусн. паведамл.), *адыхтар* ’тс’ (Шат.). Паводле Насовіча, з лац. *adinstar* (Нас., 3). Існуе магчымасць іншай, хоць менш верагоднай версіі. Апрача *адыстар* (а гэтая форма старэйшая за *адыхтар,* бо сустракаецца на краях беларускай моў-

най тэрыторыі ад Магілёўшчыны да Беласточчыны), у Прыпяцкім Палессі (цэнтральная і заходняя частка) знаходзім *азістар* і *зістар* у тым жа дакладна значэнні. Да гэтай формы добра пасуе славен. *zister* 'сапраўдны', якое не абавязкова зводзіць да *za-iste-že*. Параўн. яшчэ ст.-польск. *ister*, славац. *isterny*. Усе гэтыя лексемы ўзыходзяць да вельмі старажытных прыметнікаў на *-r* (гл. Мейе, Общеслав., 243) ад *istъ* 'сапраўдны' (рус. *истинный*). Параўн. яшчэ ўсходнепалескае *стотны бацька* (<*істотны* 'сапраўдны'). Усе прыметнікі маюць значэнні 'сапраўдны', 'таго ж рода', асабліва адносна сына і бацькі. Тады *адыстар* <**ад-іст-ер* (<*od-ist-erъ*). Копечны (пісьм. паведамл.) звязвае *адыстар/адыхтар* з славац. *chĭa/sĭa* 'як' (<*xъtěti*).

**Ад'я'да** 'надаедлівы' (Сцяц., зэльв.) да *ад'есць*. Параўн. *надаесці* (гл.).

**А'ер** 'Acorus L.' (Кіс., БРС), *аір* 'Carex L. асака' (Інстр. II, Бяльк., Касп.), *айір* (Янк. Мат.), *аг'ер* (Сцяшк.). Усходнеславянскае запазычанне з тур. асман. *ağir*. Гл. Саднік-Айцэтмюлер, 1, 13.

**Аж** да *а* (гл.) і *жа* (гл.).

**Ажагі'** 'зборная, агульная назва ўсіх прылад, неабходных пры печы (вілкі, качарга, чапяла і інш.)', *ожаг* (Бір. дыс.). Гл. *вожаг*.

**Ажажу'рыць** 'выпіць многа вады' (Юрч.) да **жажа* 'прага' (ст.-рус. *жажа* 'тс'). Што датычыць дзеяслоўнай суфіксацыі, параўн. бел. *касавурыць* ад *касаваць* і іншыя прыклады гэтай экспрэсіўнай суфіксацыі.

**А'жба** 'аж-бы, здаецца, пэўна' (Арх. Бяльк.) да *аж-ба* (гл.).

**Аж во'** 'раптам' (Бяльк.). Гл. *аж* і *во*.

**А'жгур** 'Acerina cernua' (Інстр. II, Жук., 381), гл. *аджгір*, Магчыма, з літ. *ãčgaras, ãdžgaras, juodžgoris* 'тс' (параўн. Буга, Rinkt, II, 155, які думае аб тым, што гэтыя літоўскія формы з польск. *jazdź, jazgarz*, гл. LKŽ, IV, 413; Фрэнкель, 1, 118). Калі гэта так, літоўскія формы маглі пранікнуць далей на тэрыторыю Беларусі.

**Ажна'** 'нават, так што' (Бяльк.), *ажно* (БРС, Гарэц., Нас., КЭС, Бяльк., Мал.) да *а-же-но*: Карскі, 2—3, 97. Гл. *аж*.

**А жу'ля, а жу'ля** 'вокліч пры адгоне гусей' (Інстр. III). Няясна. Параўн. *агіль*.

**Ажы′ка** (БРС). Гл. *ажына.*

**Ажы′на** 'Rubus fruticosus' (Бяльк., БРС, Гарэц.), *ажыннік, ажэўнік* (Кіс.) 'Rubus nessensis W. Hall' (гл. *ажэўнік), ажына* 'Rubus nessensis W. Hall, Rubus caesius L.' (Кіс.). Толькі ўсходнеславянскае: рус. *ожина, ежевика,* укр. *ожина* да *ожь* 'вожык'. Гл. Фасмер, 3, 125. Параўн. Шцібер, SOr, 1968, 3, 419—420.

**Ажырга′ць** 'асядлаць (каня)' (Сцяшк. МГ), *абжаргаць* 'абняць нагамі' (Карскі, Мат. Ковенск.), *ажыргнуць* 'пераступіць праз што-небудзь' (КЭС, лаг.). Запазычанне з балтыйскага. Параўн. літ. *žìrgas* 'конь', *apžer̃gti* 'растапырваць'. Гл. Урбуціс, Baltistica, V (I), 1969, 59.

**Ажэ′ўнік** 'Comarum palustre L.' (Кіс.) <**ожь* 'вожык'. Гл. *ажына.*

**Азада′чыць** (БРС) <рус. *озадачить.*

**Аза′ж** 'няўжо' (Бяльк., Гарэц.) да *а-за-ж* (гл.).

**Азале′ць** 'змерзнуць, акалець' (Янк. Мат., Касп., КЭС) да *золкі* (гл.). Гл. таксама *адзалець.*

**Аза′рд** 'запал' (Бяльк.), *азарт* 'тс' (БРС). Першая форма запазычана (XVII ст.) з польскай мовы *(azard, hazard),* у якую яно трапіла з французскай. Другая форма ў беларускую мову папала з рускай у найноўшыя часы. Першакрыніца гэтых слоў араб. *az-zahr* 'косць для гульні' Шанскі, 1, А, 53.

**Аза′сь** 'вокліч для адгону сабак' (Гарэц.). Гл. *зась.*

**А′збука** <рус. *азбука.* Больш старое *абецадла* запазычана з польскай мовы.

**Азгле′ць** 'азябнуць, адубець' (БРС). Няясна. Магчыма, па паходжанню з польск. *oschły* 'чэрствы, халодны'. Параўн. бел. паланізм *осхлы* (гл.). Тады *осхлы*>**асхлець*>*азглець.* Гэта версія мае семантычныя цяжкасці. Значэнне 'халодны' ў польскім слове толькі пераноснае, асноўнае значэнне звязана не з паняццем 'холад', а 'сухмень'. Параўн., аднак, тлумачэнне польск. *oschły* як *oziębły* і наадварот. Іншая версія: *азглець*<*азалець* (гл.) 'змерзнуць, акалець' (Трубачоў, вусн. паведамл.). Магчыма, таксама да *асклець* (гл.).

**Азгры′вы** (Шат.). Гл. *вазгра* і *аскарак.*

**Аздабні′чка** 'дзяўчына, якая доўга прыхарошваецца перад люстэркам' (КЭС, лаг.). Гл. *аздоба.*

**Аздзівя′ліць** 'азадачыць, ударыць, стукнуць, выпіць' (Нас.). Нас., 361, параўноўвае з *адзевуліць* (гл.). Гэтыя словы звязаць цяжка з прычыны цьмянага вакалізму і кантамінацыйнага словаўтварэння. Калі да *дзіва, дзів* (гл.), тады з *адзівуліць.* Параўн. *абакуліць* (гл.).

**Аздо′ба** (БРС, КЭС), ст.-бел. *оздоба* 'тс' (1592) (Нас. гіст.), укр. *оздоба.* Мабыць, запазычанне з польск. *ozdoba.*

**Азе′л** 'марока', *азеліваць* 'марочыць' (Бяльк.), *азяляць* 'марочыць, спакушаць' (Нас.), *азяліцца* 'адурэць, як выпіўшы зелля' (Арх. Бяльк., Нас.), *азяленне* 'ап'яненне' (Гарэц.), *азяліць* 'затлуміць, ап'яніць' (Яўс.), *азяліцца зелле* (Гарэц.). Параўн. *озелить* 'зачараваць зеллем', *озел* 'вядзьмарства' (Дабр.). Беларускае новаўтварэнне ад *зелле* (Мартынаў, SlW, 65). Гл. Фасмер, 3, 125.

**Азіля′ць** 'марочыць, ачмураць' (Бяльк.). Гл. *азел.*

**А′зірк** 'позірк, погляд' (Бяльк.), *азіркам* 'аглядаючыся' (Бяльк.). Гл. *зыркаць.*

**Азла′шчы** 'асабліва, тым больш' (Арх. Бяльк., Гарэц.) <польск. *a zwlaszcza.*

**Азна′йміць** (Др.-Падб., Яруш.), *азнаймавацца* (Нас.), *азнайменне* (Нас.), ст.-бел. *ознаймати* 'паведамляць, аб'яўляць' (1563), *ознаймити(ся)* (1542), *ознайменный* (1517), *ознайменье, ознаймовати(ся)* (Булыка, Запазыч.). Запазычанне з польск. *oznajmić (się)* (Мартынаў, SlW, 68).

**Азно′б** (БРС), *азноба* 'балячка, прастуда, азноб, зайздрасць' (Нас.). Гл. *знабіць.*

**Азо′рнік** 'нахабны, шалапут' (Нас.), *азарнок* (Сержп.), *азарны* (Касп., Нас.) да *а-зор-нік,* гл. рус. *озорник, озорной.* Першапачаткова 'той, хто сочыць за кім-небудзь, падглядвае'. Параўн. рус. *озор* у тым жа значэнні. Няправільна Ільінскі (PF, 11, 199) адносіць да кораня *-ор-* з наступнай дэкампазіцыяй прэфіксаў. Параўн. Фасмер, 3, 126.

**Азукува′ты** 'спрытны, жвавы' (Бяльк.), *азука* 'спрытны' (Нас.), *хлапец-азука* (Нас., Гарэц.) да *зух, зухасць* (гл.). Мартынаў, SlW, 68. Памылкова Карскі, Белорусы, 160.

**Азы′знуць** 'азябнуць' (Гарэц.), *азызлы* 'халодны' (КТС), *озызать* 'азябнуць' (Мат. Смал.). Ці да *азызаць* (гл.)? Магчыма, семантычная кантамінацыя з *азябнуць* (гл.).

**Азыза′ць** (БРС, Бір., Касп., Шат.), *азызнуць* (КЭС), *азызлы* 'апухлы' (Шат., КЭС), *азызнівець* 'апухнуць' (Бір. дыс.)

да *аслізлы* (гл.) 'гладкі'? Семантычна параўн. *гладкі* ў значэнні 'тлусты' і *гладкі* ў значэнні 'аслізлы'.

**Азы'раць** 'надакучыць' (Бір.). Магчыма, ад *азораць*. Гл. *азорнік*.

**Азязю'ліны** 'асалавелы' (Бяльк.), *азязюліцца* да *зязюля*. Як *асалавелы* да *салавей?*

**Азяро'д** 'прыстасаванне для сушкі снапоў' (БРС, Янк. I, Гарэц., Шн. смол., Шат., Касп.), *азярот* (Бір. дыс.), *азяроды* (КЭС); *азярэдзіць* 'утыкаць снапы ў прасла для сушкі' (БРС, Шат., КЭС); *азярэдзіна* 'жэрдка ў азяродзе, высокая нязграбная жывёліна' (Янк. I). Агульнаўсходнеславянскае слова (рус. *озород, зород,* укр. *озород*). Бліжэйшыя паралелі: літ. *žárdas,* лат. *zārds,* ст.-прус. *sardis* 'тс'. Параўн. Коген, Запіскі, II, 9, 84—85, на думку якога *азярод* <**азерод:* і.-е. *g'herdh-* побач з **g'hord-*. Адлюстраванне розных ступеняў аблаўта ў генетычна тоесных словах, якія з'яўляюцца назвамі рэалій гістарычнага перыяду няпэўнае. Больш верагодна Зубаты, Studie, 1, 2, 125, які бачыць тут старое запазычанне з бал. моў (перад метатэзай плаўных). Лінгвагеаграфія слова (цэнтральны раён і ўсходняя частка Усходняга Палесся) сведчыць таксама ў карысць балтыйскай крыніцы. Але яе ўсходнебалтыйскі характар давесці цяжка па прычынах фанетычнага характару (мы б чакалі **ажарод*). Магчыма, аднак, *аз'арод* <**аж'арод,* як *парс'ук*<*парш'ук* (<*paršiúkas*).

**Азяро'** (Касп.). Гл. *возера.*

**Азяры'на** 'шырокае і глыбокае месца на рацэ' (Янк. Мат.). Гл. *возера.*

**Ай** 'ці' (Нас., Бяльк., Гарэц.) да *аль*. Гл. *алі.*

**Аін** 'сцізорык' (Інстр. I, Касп.). Памылкова тлумачыцца ў Каспяровіча як 'нож'. Як відаць з кантэксту, існуе магчымасць іншага тлумачэння: *аін* 'гэта' да *аіна* (<**ажна*).

**Айце'ц** царк. (БРС, Гарэц.), 'родны бацька' (Сцяшк. МГ), ст.-бел. *ойтець, ойцець* 'бацька, духоўнік' (1632) (Булыка, Запазыч.) <польск. *ojciec.* Гл. *айчым, айчына.*

**Айчы'м** (БРС, Мат. АС грод., Сцяшк. МГ). Гл. *айцец.*

**Айчы'на** (БРС, Гарэц.), *айчызна* (Яруш.). Магчыма, польскі ўплыў. Параўн. ст.-бел. *отчизна, отчинный* (Нас. гіст.). Гл. *айцец.*

**Ак** *'да'* (Бяльк.). Гл. *к.*

**Акаві'та** (БРС), *акавітка* (Гарэц., Нас.), *akawiteczka*

(Кольб.). Параўн. укр. *оковита,* чэш. *akvavit,* польск. *okowita.* Запазычанне праз польскую мову. Слаўскі, JP, 34, 134; Рыхардт, Poln., 8, 4; Кюнэ, Poln., 39; Саднік — Айцэтмюлер, 1, 15.

**Акадэ′мія** (БРС), ст.-бел. *академия* (пач. XVII ст.) (Булыка, Запазыч.) праз польск. *akademija* або непасрэдна з лац. *academia* (Фасмер, 1, 65; Шанскі, 1, А, 56—57). Крукоўскі (Уплыў, 78) лічыць гэта слова русізмам.

**Акаё′ман** 'верхалаз' (Бяльк.). Мабыць, недакладнае тлумачэнне да *акаёмы* 'адчайны' (гл. *каяцца).* Параўн. рус. паўн. і ўсх. *окаём* 'нягоднік, неслух, ашуканец'. Гл. таксама *каём* 'шустры, бойкі' (Мартынаў, Бел.-рус. ізал., 69). Іншая версія: (Цыхун, Бел.-рус. ізал., 91) да *оком яти,* рус. *окоёмный* 'скупы'.

**Акажане′ць** 'зачарствець', *акажанелы* 'раўнадушны, чэрствы, абыякавы' (Яўс.). Гл. *кажанець.*

**Акалава′цець** 'змерзці, адубець' (Сцяшк. МГ) да *калавацъ* (гл.).

**Акале′ць** 'моцна змерзнуць, памерці' (БРС, Янк. Мат., Гарэц., Касп.), *акалелы.* Гл. *калець.*

**Акалі′чнасць** (БРС, Нас.), рус. *околичность* 'аколіца' (1520) (Нас. гіст.) <польск. *okoliczność* (Рыхардт, Poln., 84), якое ў сваю чаргу ад *okolica, okoliczny.* Аднак няма фармальных крытэрыяў, каб давесці іменна гэты шлях запазычання. Бел. *акалічнасць* магло таксама паходзіць ад *акалічны, аколіца.* Семантычны зрух *акалічнасць* 'тое, што навокал'> *акалічнасць* мог адбыцца і на беларускай глебе: параўн. ням. *Angelegenheit.* Брукнер, 249.

**Акало′т** 'жытнія снапы, з якіх выбіты зярняты' (КЭС, КТС, Некр.) да *калаціць* (гл.).

**Акампанеме′нт** (БРС). Новае запазычанне праз рус. *аккомпанемент* (Крукоўскі, Уплыў, 84), якое з франц. *accompagnement* (XVIII ст.) (Шанскі, 1, А, 60).

**Аканаваць** 'абяцаць, намеціць (=мець намер)' (Касп.), магчыма, праславянскі архаізм. Тады да прасл. *kaniti*: серб.-харв. *ка̏нити* 'мець намер', балг. *каня,* макед. *кани* 'тс'. Параўн. яшчэ балг. *каня* 'запрашаць, прапанаваць' макед. *кани* 'тс' (Мартынаў, SlW, 62). Бернекер (1, 561) супастаўляе з лац. *cōnor* 'мець намер, намагацца'. Супраць Вальдэ—Гофман, 1,

262. Параўн. таксама Покарны, 564. Скок (2, 34) звязвае з прасл. *konati, konъ* (гл. *канец*). Неверагодна. Гл. *канькаць.*

**Акано′м** (БРС, Гарэц., Касп., Нас.). Запазычана з ням. *Ökonom.*

**Акапа′цца** 'разбагацець', *акапаны* 'заможны', *акапваць* 'аказваць матэрыяльную дапамогу' (Яўс., КТС) да *капаць*. Параўн. *акунуцца.*

**Ака′рак** 'задняя частка галавы' (Інстр. I, Касп.). Гл. *карак.*

**Акара′скацца** 'справіцца з якімі-небудзь справамі, працай' (Янк. Мат.). Няясна. Параўн. *адкараскацца.*

**Акардэо′н** (БРС) <рус. *аккордеон* <франц. *accordeon.* Новае запазычанне з рускай мовы (гл. Крукоўскі, Уплыў, 84). З французскай у рускую мову слова трапіла ў сярэдзіне XIX ст. Франц. *accordeon* <ням. *Akkordeon* (пачатак XIX ст.) (Шанскі, 1, A, 61—62).

**Акарэ′лы** 'брудны, неахайны' (Сцяшк. МГ). Відаць, да *кара* (гл.). Аддзеяслоўнае новаўтварэнне. Ад *акарэць, карэць.*

**Ака′сываць** 'мець перавагу ў чым-небудзь, над кім-небудзь' (Нас.), *акаснуць* 'падужаць' (Бяльк.). Параўн. рус. *косать* 'біць, караць'.

**Акаці′цца.** Гл. *каціцца.*

**Ака′цыя** (БРС) <рус. *акация* <лац. *acacia.* Гл. Шанскі, 1, A, 58.

**Акачу′рыцца** 'памерці, здохнуць' (Нас., Бяльк., Касп.). Гл. *качурыцца.*

**Ака′шыцца** 'размясціцца, прыстроіцца' (Нас., Бяльк.). Гл. *кошаваць.*

**Акварэ′ль.** Новае запазычанне з рус. *скварель* (Крукоўскі, Уплыў, 85), якое з франц. *aquarelle* (XIX ст.) (Шанскі, 1, A, 58).

**Акані′ца** (БРС) , *акеніца* (Нас., Касп.), *акельніца, акерніца* (Касп.), гл. *акно.* Форма *акеніца* запазычана з польск. *okiennica* (Кюнэ, Poln., 82).

**Акзі′мачка** 'печка' (Касп.) <**ак зіме.* Эфемернае новаўтварэнне.

**Акі'даць** 'пакідаць у забыцці' (Нас.), *акідацца* 'зняважаць, нападаць' (Нас.) да *кідаць* (гл.).

**Акі'дацца** 'апрануцца' (Жд.), калька з літ. *apsimèsti* 'тс' (<*apmèsti* 'акідаць') (Чэкман, Baltistica, VIII (2), 1972, 152).

**Акі'лзаць** 'закілзаць' (КЭС, КТС) <польск. *okiełzać* 'тс'. Гл. *закілзаць*.

**Акія'н** (БРС, Шат., КТС), ст.-бел. *окиянъ, океянъ* (кан. XV ст.) (Булыка, Запазыч.), ст.-рус. *океанъ*, ст.-слав. **океанъ** <ст.-грэч. *ὠκεανός* 'тс'. Гл. Фасмер, Этюды, 133.

**Акно'₁** (БРС, Касп.), *вакно* (Нас.), *акно* 'акно, вока' (Дабр.), ст.-рус. *окъно*, рус. *окно*, укр. *вікно*, польск. *okno*, чэш. *okno*, славац. *okno*, в.-луж. *wokno*, н.-луж. *hokno*, серб.-харв. *ȍкно* (RHSJ, 8, 821), макед. *окно*. Хутчэй за ўсё прасл. *okno* — архаічны прыметнік на *-no*, утвораны ад назоўніка *око*. Гл. Мерынгер, IF, 16, 125—126, які прыводзіць іншыя індаеўрапейскія прыклады ўтварэння назвы акна ад назвы вока. Фактычна, калі выключыць няўстойлівыя метафары, толькі ў германскіх і славянскіх мовах *акно* называлася словам, вытворным ад *вока* (Бак., 469—470). Магчыма, прасл. *okno* ўзнікла як калька з гоц. *augadaúrō* (='вочныя дзверы'). Прасл. **okna dvьrь* з наступным спрашчэннем і вызначэннем родавага паказчыка па зыходнаму назоўніку.

**Акно'₂** 'глыбокае месца ў балотных крыніцах, азёрах' (КЭС), *окна сольныя* 'салёныя азёры' (Гарб.), *вокнішча* 'небяспечнае месца ў возеры ці рацэ, што зацягвае ў глыбіню' (Нас.). Рус. арх. *окно* 'глыбокае месца ў возеры', укр. *вікно*, серб.-харв. *ȍкно* 'месца на багнах, якое не зарастае і не замярзае'. Усе гэтыя словы звязаны з прасл. *oko* 'глыбокае месца ў вадзе' (гл. Безлай, SR, 5—8, 140—141; Ісачанка, Зб. Младэнаву, 313). Параўн. славац. *morské oko*, серб.-харв. *ȍко* 'глыбокае месца ў вадзе' і літ. *ãkis, akatẽ* 'возера. палонка'. Гэта яшчэ балта-славянскае слова Махэк₂ (411—412) звязвае з лац. *aqua* 'вада' і іншымі роднаснымі індаеўрапейскімі лексемамі. Не менш верагоднай застаецца сувязь з прасл. *oko* 'вока'. Параўн. арм. *akn* 'дзірка', ст.-грэч. *ὀπή* 'адтуліна' (Пакарны, 775—777).

**Акно'раз** 'кабан-самец' (Касп.). Гл. *кнораз*.

**Ако'ліца,** укр. *околиця*, рус. *околица*, ст.-рус. *околица*, польск. *okolica*, серб.-харв. *ȍколица*. Наяўнасць сербскахар-

вацкіх паралеляў сведчыць на карысць праславянскай архаікі гэтай лексемы.

**Ако′пак** 'месца, дзе стаяла капа сена' (КЭС, лаг.) да *капа* (гл.). Параўн. словаўтварэнне з *ababak*.

**Ако′рак** 'костка з абрэзанага свінога кумпяка' (Сцяшк. МГ) да прасл. *korkъ* 'нага' (балг. *крак* 'нага'), *o-korkъ* 'тое, што вакол нагі'. Параўн. укр. *окорок,* рус. *окорок,* балг. *крак* 'нага', серб.-харв. *кра̑к,* славен. *krak* 'тс', *kraka* 'нага свінні'. Бліжэйшыя індаеўрапейскія паралелі: літ. *kárka* 'плечавая частка (у свінні)', алб. *krah* 'плечавая частка'. Траўтман, 118; Мейер, 203; Бернекер, 1, 571—572; Трубачоў, ZfSl, 4, 1959, 83; Чабэй, SF, 1964, 1, 75. У апошні час даведзены праславянскі характар гэтага слова: серб.-харв. (кайк. і чакаўск.) *okrak* (славенскі прыклад хутчэй адносіцца да кайкаўскай зоны). Гл. Гадравіч, ZfSl, 1, 1956, 655.

**Ако′рд** (БРС). Новае запазычанне з рускай мовы (Крукоўскі, Уплыў, 84). Рус. *аккорд,* магчыма, з франц. *accord* (XVIII ст.) (Фасмер, 1, 66. Параўн. Шанскі, 1, А, 61).

**Ако′т** 'валаскі з каласкоў збожжавых культур' (Шат.). Гл. *акоцце.*

**Ако′та** 'вокліч для адгону катоў' (Дразд.), *а к'от* (КТС), *акыц'* (там жа) да *кот.*

**Ако′цце** 'восці з каласоў ячменю' (Шчарб.), гл. *акот.* Да *коткі* (гл.).

**Акпі′ць** 'асмяяць' (Бяльк.) <польск. *okpić* (Рыхардт, Poln., 85). Гл. *кпіць.*

**Акраба′т** (БРС). Новае запазычанне з рускай мовы (гл. Крукоўскі, Уплыў, 80), дзе з французскай (XVIII ст.). Франц. *acrobate* <ст.-грэч. ἀκροβάτης 'канатаходзец'. Шанскі, 1, А, 65.

**Акраво′к** 'абрэзак' (Бяльк., БРС, Гарэц., Касп., Шат.), *акравак* 'абрэзак ад сукна' (Некр.), *окравок* 'парваная палоска лыка' (Нік.), *акраўка* 'абрэзак' (Янк. I), *акрайіц* (КЭС), *акравень* (Касп.), *окравок* (КТС) да *краіць* (гл.).

**Акрамо′сак** 'шматок крамнай матэрыі' (Бяльк.), 'шмат, абрэзак' (Касп.), *акрамоссе* (Касп.), *акрамёскі* (КЭС, Багд.) да *крамсаць* (гл.).

**Акрамя′** 'апрача' (Касп.), *акром* 'тс' (Нас.) <рус. *окромя* 'тс' (Мартынаў, SlW, 69).

**Акро′мак** 'луста хлеба' (Касп.) да *кром* (гл.).

**Акро′пна** 'жудасна' (Бяльк., Гарэц.), *акропнасць* (Касп.), *акропны* 'моцны, жудасны' (Нас.) <польск. *okropny* 'жудасны'.

**Акру′таць** 'даглядаць жывёлу' (Інстр. III). Відаць, да *круціць* (гл.). Ці, можа, звязана паходжаннем з літ. *krutëti* 'рухацца, працаваць, гаспадарыць' (Міхневіч, вусн. паведамл.).

**Акрыя′ць** 'аджыць, папраўіцца', *оклыгать* 'тс' (Нік.), *акрыяты* 'тс' (Клім.), ст.-бел. *окреять* (1479) (Нас. гіст.). Слова праславянскае. Параўн. укр. *окріяти,* чэш. *okřati,* славац. *okriat',* серб.-харв. *окрјати* (<**okrjati*) (Бернекер, 1, 613). Параўн. таксама Супрун, Веснік БДУ, 1, 2, 70. Гл. *крыяць.*

**Аксамі′т,** ст.-бел. *аксамитъ* (1486) (Нас. гіст.), *аксамитка* 'галаўны ўбор нарачонай' (Касп.), *аксамiткi* 'Tagetes' (БРС, БелСЭ), *аксамiтка* 'Amaranthus' (Кіс., БелСЭ), *аксамит* (Дабр.), укр. *аксамит, оксамит,* ст.-рус. *оксамитъ.* Запазычанне з грэч. ἑξάμιτος (Фасмер, Этюды, 27).

**Аксіё′ма** (БРС). Новае запазычанне з рус. *аксиома* (Крукоўскі, Уплыў, 89), якое з лац. *axiota* (XVIII ст.) (Шанскі, 1, А, 67).

**Аксны′** 'восці ячменю' (Мат. Гродз., Сцяшк. МГ). Параўн. *оксці* 'прылада, якой колюць рыбу ў вадзе, восці' (Сцяшк. МГ), *акснэ, асны, асценцы* 'адросткі пер'яў'. Арашонкава і інш. (Весці АН БССР, 1971, 1, 90) супастаўляюць з літ. *akstìs, ãkstinas* 'шып, асцюк', адзначаючы распаўсюджанасць пералічаных назваў адросткаў пер'яў толькі на паўднёвым захадзе. Усе формы з тыповым балтыйскім устаўным *к* запазычаны з літоўскага (параўн. Фрэнкель, 5—6).

**Акт,** *актавы,* ст.-бел. *актъ* 'акт, дакумент' (1536) (Булыка, Запазыч.). Запазычанне з лац. *actus,* якое да *agere* 'дзейнічаць'. Параўн. Шанскі, 1, А, 67.

**Акто′р,** *акторка, акцёр, актрыса* (БРС). Першыя два словы (ці варыянты) запазычаны з польскай мовы (Карскі, Беларусы, 160). У польскай з лац. *actor.* Трэцяе запазычана з рускай (Крукоўскі, Уплыў, 84), а ў рускай з французскай *acteur* у пачатку XVIII ст. Гл. Шанскі, 1, А, 68.

**Акты′ўны.** Запазычанне 20—30-х гадоў XX ст. з рускай мовы (Гіст. лекс., 272). Рус. *активный* з франц. *actif* (Шанскі, 1, А, 69).

**Аку′бкі** 'сыраежкі, Russula rubra Fr.' (Касп.) да *кубак* (гл.). Параўн. *кубарыкі* (гл.).

**Аку′дны** 'здзеклівы' (Крывіч, VI, 1923) да ***акудзіць*** 'высмяяць, паджартаваць' да прасл. *kuditi* (ст.-рус. *кудити* 'ганьбіць', ст.-слав. **коудити,** балг. *кудя,* серб.-харв. *кўдити,* славен. *kúditi* 'тс', польск. *przekudzić* 'глуміць, нудзіць', параўн. бел. *пракудзіць, пракудлівы,* рус. *прокудить* 'тс' (Бернекер, 1, 639). З індаеўрапейскіх паралеляў найбольш верагодныя ст.-англ. *hūsc,* ст.-в.-ням. *hosc,* ст.-сакс. *hosc* (<**kūd-sko*) 'жарт, здзекі', ст.-інд. *kutsáyati* 'ганьбіць', ст.-грэч. *κυδάξω* 'ганьблю' (Покарны, 595).

**Аку′ла** (БРС). Новае запазычанне з рускай мовы, у рускай з нарвеж. (XVIII ст.) *haccal,* Шанскі, 1, А, 70; Якабсан, SlW, 82—86.

**Акуля′ры** (БРС, Гарэц., Нас., Касп., Шат.). Запазычанне з польск. *okulary* (Карскі, Белорусы, 156; Рыхардт, Poln., 85; Кюнэ, Poln., 82) (параўн. укр. *окуляри);* польская форма на падставе лац. *ocularium* 'шчыліна для вачэй у шлеме' (Брукнер, 378).

**Акуля′цца** 'аддаляцца, уцякаць' (Нас.), *акуляць* 'цурацца, адцурацца' (Нас.) да *куляць* (гл.), параўн. укр. *куліти* 'кульгаць'.

**Акуна′ць** (БРС, КТС). Запазычанне з рускай. Рус. *окунать* на аснове *окунуть* <**о-куп-нуть.*

**Акуну′цца** 'нечага шмат набыць, разбагацець' (КЭС, лаг.) <**а-купнуцца.* Параўн. *акапацца* 'тс'.

**Аку′нь,** укр. *окунь,* рус. *окунь,* чэш. *okoun,* польск. *okuń,* балг. *окун,* серб.-харв. *ȍкун,* славен. *okun.* Да *вока* (Міклашыч, 220; Вондрак, Vergl. Gr., 1, 551). Іншыя версіі менш верагодныя. Гл. *вокунь.*

**Акура′лі** *окурал'і* 'шары' (КСТ) да *акуляры* (гл.).

**Акура′т** (БРС, Бір. дыс., Касп., Шат., Нас.) з польск. *akurat* (Карскі, Белорусы, 150; Кюнэ, Poln., 39). Месца націску ў беларускім слове можна тлумачыць як вынік прыпадабнення да словаспалучэння *як у рад.* Аб гэтым сведчыць кантамінаваная форма *якурат* (гл. Міхневіч, БЛ, 1973, 3, 76). Рус. *аккурат* запазычана праз беларускую мову (XVIII ст.), гл. Шанскі, 1, А, 63.

**Акушэ′нец** 'махляр' (Касп.) да *ашуканец.* Гл. *ашукаць.*

**Акушэ′р.** Новае запазычанне з рус. *акушер* (Крукоўскі,

Уплыў, 88), якое з франц. *accoucheur* (XVIII ст.) (Шанскі, 1, А, 71).

**Акцы́з** (Нас.), *акцызнік* (БРС, Шат., Нас.) запазычана з рускай мовы. Рус. *акциз* <франц. *accise* (XVIII ст.) узыходзіць да лац. *accisum* (да *accidere* 'падсякаць') (Шанскі, 1, А, 71—72).

**А́кцыя** 'прыгода' (Нас., Байк.), ст.-бел. *акция* 'акцыя, дзеянне' (пач. XVII ст.) (Булыка, Запазыч.), польск. *akcja* (Кюнэ, Poln., 39), якое ў сваю чаргу з лац. *actio.*

**Акшу́ль** 'вокліч для адгону жарабят' (Інстр. III) да *акыш,* кантамінаванага з *адсюль.*

**Акы́з** 'вокліч для адгону коз' (Грыг.), *акызя* 'тс' (КЭС, лаг.). Магчыма, кантамінацыя *каза* і *акыш* (гл.). Гл. *кыз.*

**Акы́ч** 'вокліч для адгону курэй' (Дразд.), *акыч(а)* 'вокліч для адгону авечак' (Дразд., Сцяшк., Арх. Бяльк.), *а к'іч* 'тс' (КСТ). Гл. *акыз* і *акыш.*

**Акы́ш** 'вокліч для адгону птушак' (Бяльк., БРС), *акыша* 'адганяць курэй' (КТС). Гл. *кыш.*

**Акэ́шкаць** 'ачысціць' (Шат.), няясна, гл. *кешкацца* 'варушыцца'. Магчыма, запазычанне з балтыйскага. Параўн. літ. *kèkšti, keškù* 'біць, штурхаць' і *kẽgždalas* 'мякіна, высеўкі'. Калі *акэшкаць* азначала 'ачысціць зерне', тады два значэнні беларускіх слоў можна аб'яднаць. Фрэнкель, 236, 234.

**Ала́дка** (БРС, Інстр. I, Гарэц., Касп., КТС, Вешт.), *аладчынка* 'дзежачка, у якой рашчыняюць цеста на аладкі' (Янк. I). Укр. *оладок,* рус. *оладья,* ст.-рус. *оладьѣ* <ст.-грэч. ἐλάδιον <*ἔλαιον 'алей', Фасмер, Этюды, 134.

**Але́**, *алі* 'але, так, толькі' (Нас., Бяльк.) (гл. *алі*), укр. *але,* ст.-рус. *али,* серб.-харв. *а̏ли,* славен. *ali* 'тс'. да *а* (гл.) і *ле* (гл.). Параўн. ст.-польск. *le* 'толькі', чэш. *le* 'але, і', серб.-харв. *ље̏* 'толькі, але' (RHSJ, VI, 234—235). Апошняе, магчыма, яшчэ балта-славянскае: лат. *-le.* Параўн. Траўтман, 153; Мюленбах — Эндзелін, 2, 443; Слаўскі, 1, 24; Саднік — Айцэтмюлер, 1, 2. Параўн. *алі.*

**Алего́рыя,** ст.-бел. *аллигория* (1653), *аллигоричный* (1627) (Булыка, Запазыч.). Недакладна Крукоўскі, Уплыў, 85, якія адносіць гэта слова да новых запазычанняў з рускай мовы. Гл. *алягорыя.*

**Але́й** 'масла з льнянога або канаплянага семя, сланечніку', *алейнік* 'той, хто алей рабіў, хто прадаваў алей' (Янк. I),

*алейніца* 'тс' (Нас.), *алейнік* 'той, хто рабіў алей з канаплянага семя' (Нас.), *алейніца* 'гліняны посуд, у якім трымаюць поснае масла' (Інстр. I, Нас.), *алейня* 'завод, які выпрацоўвае алей' (Янк. I, БРС, Нас., Касп.), *алееньі* 'намаслены' (Нас.), укр. *олій,* рус. *олей,* ст.-рус. *олѣй,* ст.-слав. *олѣи* серб.-харв. *ỳлāј*, славен. *ólej*, чэш. *olej*, славац. *olej*, польск. *olej,* в.-луж. *wolij,* н.-луж. *wolej.* Запазычанне з лац. *oleum.* Форма **олѣи** ўзнікла пад уплывам *lějǫ, liti* 'ліць'. Гл. Фасмер, 3, 134. Версію аб грэчаскім паходжанні абараняў Маргуліс, AfslPh, 41, 171; AfslPh, 42, 123, які не бачыў іншага шляху тлумачэння *ě* ў *-ějь*. Згодна з яго версіяй, грэч. τὸ ἔλαιον праз сандхі перайшло ў *ολαιον, якое дало **олѣи** і інш. Супраць гэтай версіі Фасмер, ZfslPh, 4, 411, які спасылаецца на тое, што форма *ολαιον нідзе не зафіксавана. Апрача гэтага, слова добра вядома заходнеславянскім мовам, што супярэчыць яго грэчаскаму паходжанню (гл. Фасмер, ZfslPh, 5, 3/4, 410).

**Але́нь,** укр. *олінь,* рус. *олень*, ст.-рус. *олень,* ст.-слав. **ѥлєнь,** балг. *елен*, серб.-харв. *jèлен,* славен. *jelen,* чэш. *jelen,* славац. *jeleń*, польск. *jeleń*, в.-луж., н.-луж. *jeleń.* Параўн. літ. *élnis, álnis* 'алень', лат. *alns* 'лань', грэч. ἐλλός 'малады алень', арм. *eln* 'лань' і далей да ст.-в.-ням. *elo* 'буры', гл. Лескін, AfslPh, 3, 110; Брандт, РФВ, 22, 133; Бернекер, 1, 263.

**Алё́с** 'алешнік, балота, пакрытае густым алешнікам і лазой, мокрае месца' (Бяльк., БРС, Гарэц., Касп., Маш., ДАБМ), *альса* 'балотная сенажаць часам з альхой' (Касп.), смален. *алес.* (Дабр.), паўдн.-пск. *алес,* польск. *olśna.* Этымалагічная сувязь з *альха (вольха), альша* не выклікае сумненняў, але захаванне *s* пасля *ь* незразумелае. Лінгвагеаграфія слова дазваляе думаць аб балтыйскай крыніцы. Тады *алёс* <**als* (літ. *al̃ksnis* 'вольха'). Гл. Тапароў—Трубачоў, Лингв. анал., 254, гл. таксама Талстой, Геогр., 160, дзе спасылка на вуснае выказванне Трубачова. Карскі, РФВ, 49, 12, *алёс* лічыць з лат. *aluots* 'крыніца', што фанетычна, семантычна і геаграфічна неверагодна. Параўн. Фасмер, 1, 71.

**Але́сіца** 'лухта, глупства' (Нас.), *алесіць* 'гаварыць прывабна, гаварыць лухту' (Нас.) з *акалесіца.* Параўн. рус. *околёсица* 'лухта, глупства', *околёсная* 'тс', *околёсина* 'след кола пры павароце'. Усё гэта да *калёсы* (Міклашыч, 124). Семантычна параўн. лац. *delīrus* 'вар'ят' (=які сышоў з баразны) да *līra* 'баразна' і бел. *з'ехаць з глузду* (Мартынаў, Лекс. Палесся, 14). Значэнне 'гаварыць прывабна' ў дзеяслова *алесіць*, відаць, пад уплывам *лесціцца* (гл.). Не выключаны таксама ўплыў *куралесы* 'небыліца' (гл.). Нас., 363, перакла-

дае *алесіць* 'куролесить, нести вздор' (Мартынаў, SlW, 65—65).

**Але'шнік** (Янк. Мат., Гарэц., Касп., Шат.), *алешына* (Касп., Шат., Маш., Кіс.), *алешчына* 'вольха' (Янк. I), *алешша* (Бяльк.), *альшана* 'алешнік, альхоўнік' (Сцяц.), *альшына* 'вольха клейкая' (Кіс.) да *вольха* (гл.).

**Алі'** 'ці, або' (Нас.), рус. *али*, ст.-рус. *али*, серб.-харв. *ȁли*, славен. *ali* 'тс' да *а* і *лі* (гл.). Частковая семантычная кантамінацыя з *але* (гл.), якое іншага паходжання. Параўн. Шанскі, 1, А, 75.

**Алі'ва** 'аліўкавае дрэва' (БРС), 'масла з льнянога семя' (Мат. Гродз., Сцяшк., Нас., Шат., Касп.), ст.-бел. *олива* 'драўлянае масла' (1605) (Нас. гіст.), *олива* 'праванскае масла' (кап. XVI ст.) (Булыка, Запазыч.) <італ. *oliva*, якое да лац. *oliva, oleum*. Наглядаецца семантычная кантамінацыя з *алей* (гл.).

**Алі'вэс** 'альяс' (Касп.). Гл. *альяс*.

**Алма'з**, ст.-бел. *алмазъ* (1653) (Булыка, Запазыч.), укр. *алмаз*, рус. *алмаз* <каз.-тат. *алмаз* <араб. *almas* <грэч. ἀδάμας 'нязломны', Унбегаун, 106; Саднік — Айцэтмюлер, 1, 18.

**Аллі'ца** 'лужок на краю сядзібы' (Касп.). Магчыма, дэфармаванае *алея* з прыпадабненнем да назоўнікаў на *-іца*.

**Ало'вак** (БРС, Нас., Касп.), *алавок* (Др.-Падб., Гарэц.) <польск. *ołówek* (Рыхардт, Poln., 85).

**Ало'мка** 'вялікая суконная хустка' (ДАБМ) да *ламаць?*

**Алты'н** 'манета' (Нас.) <тат. *алтын* 'золата, залатая манета', гл. Фасмер, 1, 72; Шанскі, 1, А, 81.

**А'льба** 'белая кашуля ксяндза' (Нас.), ст.-бел. *альба* (1592) (Булыка, Запазыч.) <ст.-польск. *alba* <с.-в.-ням. *albe* <лац. *alba* (Кюнэ, Poln., 40).

**А'льбо'** (БРС, Мал., Гарэц., Нас., Шат., Мядзв.), *альба* (Касп.) 'ці' <польск. *albo* (Мядзв.).

**Альняні'на** 'льняное палатно' (Касп., Гарэц.) ад *лён* (гл.).

**Альта'нка** (БРС, Гарэц., Нас.), *альтана* 'гара, мезанін, балкон' (Нас.) <польск. *altana, altanka* (Кюнэ, Poln., 40) <ням. *Altane* або непасрэдна з італьянскага *altana*.

**Алья′с** (БРС), *альясавы, аліос* 'тс' (Нас.), ст.-бел. *алое, алоес* (кан. XV ст.) (Булыка, Запазыч.) <польск. *aloes* <с.-лац. *aloes*. Гл. *алівэс*.

**Алю′дзець** 'вырасці, зрабіцца больш развітым' (Шат.). Магчыма, з гоц. *liudan* 'расці', бо ў славянскіх і балтыйскіх мовах і.-е. **leu̯dh-* нібы не мае значэння 'рост, расці', толькі 'людзі'. Параўн., аднак, серб.-харв. *љу̂да, љу̂дина* 'штосьці вялізнае, волат, гігант' (бел.-серб. ізалекса?). Нарэшце, не выключана яшчэ адна версія *алюдзець* — *зрабіцца людзьмі* (у сэнсе 'зрабіцца дарослымі') (Мартынаў, БЛ, 1972, 1, 16—17).

**Алю′каць** 'зрабіць каго-небудзь маркотным' (Нас.), *алюканы* 'частай лаянкай даведзены да маркотнага стану' (Нас.). Параўн. рус. *улюлюкать, заулюлюкать* і літ. *lelióti, alióti* 'гнаць з крыкам', лат. *aluties* 'паводзіць сябе па-вар'яцку, крычаць, шумець'. Сувязь анаматапаэтычных беларускіх і рускіх слоў з адпаведнымі літоўскімі і латышскімі акрэсліць цяжка.

**Алю′н** 'галун' (Нас., Касп., Гарэц.) <польск. *ałun, hałun* <ням. *Alaun (alun)*. Гл. *галун*.

**Аляго′рыя,** *алягорыка* 'мудраванне' (Нас.), *алягорык* 'выдумшчык, фантазёр, чалавек, які гаворыць незразумела' (Нас.) да *алегорыя* (гл.).

**Алякну′цца** 'напалохацца' (Нас.), *алякнуць* 'напалохаць' (Нас.). Гл. *лякацца*.

**Аля′пка** 'вадзяны верабей' Cinculus cinclus' (Інстр. II, БелСЭ). Рус. *оляпка, олябка* 'Cinclus aquaticus'. Сабалеўскі (Slavia, V, 3, 439) рэканструюе **el-ęb* на основе мяркуемага ст.-рус. **олѧбь* (параўн. прозвішчы *Олябьев, Алябьев*) і звязвае яго з коранем *el-* у словах *елень, ельць, елзать* (ст.-грэч. ἐλάυνω 'ганю'). Неверагодна. Паводле Гараева, НД, 27, да *ляпаць* (гл.). Супраць Фасмер, 3, 138. Аднак гэта этымалогія, відаць, больш верагодная: рус. *олябыш* 'піражок, пампушка, пышка', якое Сабалеўскі адносіць сюды ж, Даль звязвае з *ляпаць*. Мы мяркуем, што *аляпка* ўзнікла як *аляпаваты* ад дзеяслова *ляпаць* у значэнні 'пляскаць, шлёпаць (па вадзе)'.

**Ама′ль,** *амаль што* (Касп.), *оммаль* 'мала' (Бір. дыс.) да *мала* (гл.).

**Амале′ласць** 'апатыя' (Яруш.) да *ам(д)леласць,* параўн. *амлеваць* (Федар.).

**Ама′мліваць** 'маніць, прываблівадь' (Нас.), *амамлівацца* 'захапляцца лісслівым падманам' (Нас.). Праславянскі архаізм. Параўн. чэш. *mamiti,* славац. *mamiti*, польск. *mamić*, серб.-харв. *ма̏мити,* макед. *мами,* балг. *мамя* 'маніць, прывабліваць'. Прасл. *mamiti* дало праз дысіміляцыю *maniti* (гл. Ван-Вейк, RÉS, 14, 73). Першаснасць формы *mamiti* пацвярджаецца ст.-грэч. μίμος 'мана' (Младэнаў, 288).

**Ама′на** 'падман, прываба' (Нас.), *аманіць* 'падманіць' (Нас.), ст.-бел. *омана* (1608) (Нас. гіст.). Гл. *мана, маніць.*

**Амарко′ціць** 'засмуціць' (Нас.), *амаркочаны* 'засмучаны' (Нас.). Гл. *маркота.*

**Амаро′ка** 'зацямненне' (КЭС) да *морак* (гл.).

**Амарату′ра** 'пенсія' (Сцяц.) <польск. *emerytura.*

**Ама′тар** <польск. *amator,* якое да лац. *amator.*

**Амахну′ць** 'хутка падмануць' (Нас.), *амахнуцца* 'хутка памыліцца' (Нас.). Гл. *абмахнуць.*

**А′мба** 'канец' (Бяльк.) з рус. *амба,* якое з італ. *ambo* 'два нумары латарэйнага квітка' (XIX ст.), Шанскі, 1, А, 89.

**Амба′р** 'месца, дзе захоўваюць збожжа' (Інстр., Сцяшк., Бяльк., Тарнацкі, Studia), ст.-бел. *амбаръ* (пач. XVI ст.) (Булыка, Запазыч.) з татарскай, Корш, AfslPh, 8, 648, параўн. Саднік—Айцэтмюлер, 1, 19.

**Амбара′с** 'непакой' (Др.-Падб., БРС, Гарэц., Бяльк., Нас., Касп., Нас. Сб. посл., Мар. дыс.), *амбарасіцца* 'непакоіцца' (Касп.), *амбарасна* 'непакойна' (Касп.), з франц. *embarras* праз польскае *ambaras* (Кюнэ, Poln., 40).

**Амбі′цыя** 'гордасць' (БРС, Нас., Гарэц.), *амбіт* 'ганарлівец' (Гарэц., Нас.), *амбітны* (Др.-Падб., Нас.) <польск. *ambicja* (Кюнэ, Poln., 40) <лац. *ambitio.*

**Амбо′н** (Гарэц., Нас., Шат.), *амбона* (Байк., Нас., Др.-Падб.), *амбонія* (Яруш.), ст.-бел. *амбонъ* (1489) (Булыка, Запазыч.). Відаць, бел. *амбона* з польск. *ambona* (Кюнэ, Poln., 40), якое з лац. *ambo* (італ. *ambone).* Параўн. ст.-рус. *амъвонъ, амъбонъ* <ст.-грэч. ἄμβων.

**Аме′жнік** 'Oenathe L.' (БРС, Кіс., БелСЭ). Магчыма, да *мяжа* (гл.): амежнік расце на балотах, ці да *(в)омег.*

**Аме′ла** 'Viscum album' (БРС, Сцяшк., Кіс., БелСЭ), *амяла* 'Festuca orientalis' (Кіс., Інстр., Шат.), 'Poa trivialis' (Кіс.), *омела* (КСТ), укр. *омела,* рус. *омела,* чэш. *jmelí,* сла-

вац. *omela,* польск. *jemioła,* н.-луж. *jemjoł,* балг. *имел,* серб.-харв. *ѝмела,* славен. *imela, mela.* Прасл. **omela/ ьmela* ~літ. *ãmalas*, лат. *amals*, Траўтман, 7. Славянскія паралелі звязваюць з *jęti, jьmǫ+ela* (як *bъč-ela* 'пчала') (Брукнер, KZ, 45, 296). Вельмі праблематычна, улічваючы, што балтыйскія прыклады сведчаць аб балта-славянскай інавацыі. Параўн. Хэмп, ЗФЛ, 14, I, 1971, 253—255, які рэканструюе праславянскія формы **omela/ *jemelьje*: адсюль фанетычныя і марфалагічныя варыянты ў жывых славянскіх мовах. Паводле Хэмпа (там жа, стар. 255), прасл. *omelá* (**amēlā*) генетычна звязана з лац. *amārus* 'горкі, едкі, востры'.

**Аме́цце** (БРС), *амеці* 'аўсяная мякіна, дробныя кускі саломы, асцё (Янк., Шат., Некр., Булг., Смул.), *амёты*, *амеціны* 'тс' (Выг. дыс.), рус. *омёт,* макед. *омете* 'дрэнная мука, якую скормліваюць свінням', славен. *ometi* 'мучныя адходы'. Усе гэтыя паралелі даюць падставу для рэканструкцыі прасл. *ometъ,* якое паходзіць ад *mesti* (<*met-ti*), гл. *месці* (Выгонная, Лекс. Палесся, 83).

**Амі́н** (БРС, Гарэц., Шат., Касп.), ст.-рус., ст.-слав. *аминъ* <грэч. *ἀμήν*.

**Амо́віцца** 'памыліцца ў маўленні' (Нас.), *амоўна* 'асуджэнне, памылка ў маўленні' (Нас.). Мабыць, з рус. *обмолвиться, обмолвка* з паралельным уплывам бел. *мова* (гл.).

**Ампэ́т** 'імпэт, сіла' (Бяльк., Касп.), *ампэтым* 'запужваннем, сілай' <польск. *impet* <лац. *impetus.*

**Амуні́цыя** <польск. *amunicja* <лац. *ammunitio.*

**Аму́рдзаны** 'замурзаны, запэцканы' (Бяльк.). Гл. *мурзаць.*

**Аму́т** 'вір' (Касп.) <рус. *омут.* Апошняе да *мутить.*

**Амша́лы** 'пакрыты мохам' (БРС, КТС), *амшанік* 'будынак, куды ставяць вуллі з пчоламі на зіму' (Мат. Гродз., Інстр. I), *амшэннік* 'будынак, пракананапачаны мохам' (Касп.), *амшара* 'імшара' (Гарэц., Др.-Падб., БРС, Бяльк., Касп., Нас., КТС, Яруш.), *амшарына* 'тс' (Шат., Касп.), *амшыць* 'перакладаць мохам' (Нас., Касп.), *амшэнь* 'пограб з надрубленым верхам' (Бяльк.), *омшарник* (Мат. Смал.) да *мох* (гл.).

**Амы́ліваццa** 'часта памыляцца' (Нас.), *омылити* (1583) (Нас., гіст.), *омыляти ся* (1583) (Нас. гіст.), *амылка* 'памылка' (Нас.), *омылка* (1634) (Нас. гіст.), *амыльны* 'памылковы' (Нас.) <польск. *omyłka, mylić* (Брукнер, 350).

**Амя′га** 'стомленасць' (Бяльк., Гарэц., Нас., Касп.), *амягнуць* 'стаміцца' (Бяльк., Гарэц., Шат.), *амяглы* 'стомлены' (Нас., КТС), рус. *омяга, омяглы* 'стомленасць, стомлены'. Гл. *мягнуць.*

**Анагды′сь,** *анáдысь, анагдай, анодысь, анадáсь, анóгды, анадóе* 'пазаўчора, гэтымі днямі' (Яруш., Шпіл., Касп., Жд., Бяльк.). Гэтыя прыслоўі ўтвораны з займеннікавага элемента **он-* (**оно-*) 'той', каранёвага элемента *-(г)д-,* які мае часавае значэнне, элемента канчатка, што цяпер успрымаецца (як, дарэчы, і *-гд-*) як суфіксальны элемент (гл. Шуба, Прыслоўе, 60), часціцы *-сь.* Сюды ж паводле першых дзвюх частак адносіцца і *анагдóвень, анагдóвінь* 'тс' (Касп.), але апошняя частка гэтых прыслоўяў няясная, магчыма, ад займенніка *овъ.*

**Ана′гр.** Ст.-бел. запазычанне з ст.-слав., у якой з грэч. ὀνάγρος; з XI ст. сустракаецца ў формах *онагръ* і *анагръ;* Скарына тлумачыў: *онагри — лоси.* Націск указвае на французскую крыніцу рускага слова > бел. (Крукоўскі, Уплыў, 87).

**Ана′ліз.** Новае запазычанне з рус. (Крукоўскі, Уплыў, 76; Курс суч., 163) *анáлиз,* дзе з франц. ці лац. (на што ўказвае націск), у якіх з грэч. ἀνάλυσις (Фасмер 1, 77; Шанскі 1, А, 99). Польск. дала б форму *аналіза.*

**Анало′й,** *нало′й* царк.; фанетычна змененае ст.-рус. *аналогии* (Сразн., 1, 22) 'пюпітр' з грэч. ἀναλόγι(ον) (аб чым Фасмер, ИОРЯС, 12, 2, 220; Фасмер, 1, 77; Ісачанка, ZfSl, 2, 504, у сувязі з формай *налой* у Герберштейна (1526) пацвярджае этымалогію Фасмера). Слова ў народнай мове перажыло пэўныя семантычныя змены (ад выключна царкоўнай прылады да століка для кніг, нот у хаце, ад століка да ўзвышэння; параўн. Даль, 2, 435; Нас. *налоецъ).*

**Анана′с.** Новае запазычанне з рус., дзе праз ням. ці франц., праз партуг. з тупі (Бразілія) *anana* (Крукоўскі, Уплыў 88; Фасмер, 1, 77; Шанскі, 1, А, 101—102). Пераноснае значэнне 'гатунак яблык' на ўсх.-слав. глебе, магчыма, у выніку ўсячэння: *ананасны яблык — ананас.*

**Ана′фема** царк.; ст.-рус. *анаѳема, анатема* праз ст.-слав. з грэч. ἀνάϑεμα (Фасмер, 1, 77; Рудніцкі, 1, 23). Пераход значэння ад 'праклянцця (царкоўнага)' да 'праклятьі чалавек' (*анахимъ, анахима, анахимика* — Нас. 6) вядомы ўжо Бярындзе, 176. Форма з *-х-* замест грэч. -ϑ- узнікла ў выніку фанетычнай субстытуцыі.

**А'нгел** 'анёл' (КТС), слуц. бабр. *ангал* (Шн., Серб.), *ан-голь* (Машынскі, Uwagi). Як і рус., укр. *áнгел* запазычана яшчэ ў ст.-рус. з ст.-слав. (Шанскі, 1, А, 105—106), дзе з ст.-грэч. ἄγγελος, адкуль і ст.-бел. *аггелъ* (Александрыя). Гл. *анёл.*

**Анге'льскі** 'англійскі' (КТС), дыял. *ангельскае шво* 'двайное шво' (Жд.). Параўн. *Ангельшчына* (Гарэц.). З польск. *angielski* 'англійскі'.

**Анге'рка** 'верхняе адзенне', 'верхняе доўгае жаночае адзенне з даматканага сукна' (Касп.), 'жаночая кароткая вопратка з саматканага сукна' (Жд.), 'кароткая адзежына на ваце' (Бяльк.), 'вопратка' (Бесар.); *ангерка, інгерка* 'жаночае паліто з купленага сукна' (з XIX ст.) (Малчанава, Мат. культ., 158). Рус. смал. *ангéрка* 'кароткае жаночае паліто ці доўгая кофта на ваце' (СРНГ). З польск. *węgierka* 'верхняя шляхецкая вопратка', дыял. *(j)aŋg'erka* 'кафтан ці паліто на ваце'. Параўн. літ. *angérka, ingèrka, ungérka, lingérka, algérka* 'цёплая жаночая вопратка' з польск. (Фрэнкель, 7); семантыка ўказвае на магчымасць (але не неабходнасць) сувязі бел. і літ. слоў.

**Англі'йскі,** *аглійскі* *(Англія — Аглій-а)* (Фасмер, 1, 78).

**Анго'рскі** ў выразах *ангорская кошка, ангорскі трус, ангорская каза; ангóры* 'ангорскія трусы' (Сцяшк. МГ). Рус. *ангорский,* укр. *ангóрський,* польск. *angora* 'парода коз, авечак, трусоў, кошак' і г. д. Крыніца слав. слоў — старая форма назвы сталіцы Турцыі Анкары і вілаета (вобласці) — *Ангора,* адкуль прыметнік; назоўнікі тыпу *ангóры* трэба лічыць другаснымі, вытворнымі ад прыметнікаў. Непасрэднай крыніцай для бел. прыметніка з'яўляюцца, пэўна, руская і польская мовы; назоўнік *ангоры* мог быць утвораны на бел. глебе ад прыметніка ці запазычаны з польск. Гл. Супрун, Зб. Крымскаму, 123.

**Анда** 'адна' (Дзмітр.). Магчыма, памылка друку — перастаноўка *н—д* ці вынік асіміляцыйна-дысіміляцыйных працэсаў: *дн>нн>нд.* Калі значэнне 'вось, нават', магчыма, з літ. *añdai* (гл. Тапароў, Балтийские яз., 44).

**Андава'ць** (Жд.), **анда'ць** (Арх. Бяльк.). *З аддавáць, аддáць* у выніку дысіміляцыі *дд>нд.*

**Андара'к,** паводле ДАБМ, існуюць формы: *ондорак, андрак, андэрак, андзірак, андорак, андърак, аднарак, андара-*

*чак, андарачны,* ст.-бел. *индерак, индерочек* (Мар. дыс.). Рус. зах. (смал., бранск.) *андара́к,* укр. палес. *андарак* (Краўчук, ВЯ, 1968, 4, 121). Польск. (з XVI ст.) *inderak;* літ. *andarõkas, inderõkas.* Этымалогія не высветлена да канца. Рус. і ўкр. *андарак* можна лічыць запазычанымі з бел. Адносна беларускіх форм Міклашыч (Türk. El, 1, 248), Карскі (Белорусы, 175), Юргелевіч (Курс, 137) выказвалі думку пра цюркскае паходжанне; крыніцай тады было б тур. *antars* 'кароткае адзенне, якое носяць пад кафтанам' (Радлаў, Опыт, 1, 237—238); да гэтага слова ўзыходзіць балг. *антерия,* мак. *антериjа,* серб.-харв. *антериjа* і інш. (БЕР, I, 12), адкуль бел. экзатызм *антэрыя,* укр. *антерев.* Але вывесці з цюркскага слова *андарак* нельга па фанетычных і семантычных матывах. Найбольш пашырана версія Даля аб нямецкай крыніцы слова: *Unterrock.* Яе прымаюць Фасмер, 1, 78; Брукнер, 192; Саднік—Айцэтмюлер, 1, 22; Буга, 2, 222; Міклашыч, 3; Рудніцкі 1, 24. Існуе таксама шмат варыянтаў тлумачэння канкрэтнага шляху нямецкага слова ў беларускую мову. Краўчук (Бел.-пол. ізал. 66) лічыць, што крыніцай была ніжненямецкая форма (напр., саксон. *onderrock),* што трапіла ў беларускую праз польск. ці балт. пасрэдніцтва. Пра рэалію гл. яшчэ Малчанава, Мат. культ., 136.

**Андзе́я** 'нудная прамова' (Мядзв.), укр. *андія* 'лухта' (Лысенка СПГ), рус. дыял. *андеи* 'тс' (Растаргуеў, Бранск.). Магчыма, перакручанае *ідэя* (паводле Мядзв.): устаўны *-н-* і перааформлены *ін-* у *ан-* (параўн. *андрына, анцірэс).*

**Андо́ўка** (Серб.). Значэнне не ўказана. Магчыма, *яндойка.* Гл. *яндава.*

**Андрамо́ны** 'рыззё, рызманы' (Нас.), *андрымоніць* (КТС), *адрамоны* (Нас.). Няясна. Магчыма, звязана з *драць* 'зрываць, абрываць' ці *адраць* 'абрабаваць' (ст.-польск. *niewiasta odrana* 'абрабаваная жанчына'); элемент *мон* мог узнікнуць у выніку аналогіі з *лахманы, рызманы, ахламон.*

**А́ндрус** 'брат' (арг. — маг., слуц., Рам. 9, 21). Параўн. рус. афенск. *андрус* 'тс', укр. лірніцк. *андрус, яндрус, вандрус* 'тс', польск. ахвесніцк., прастамоўн. *andrus* 'злодзей, вулічнік, хлопец, кавалер'. З грэч. ἀνήρ, ἄνδρος 'мужчына' праз пасрэдніцтва агульнай усх.-слав. эзатэрычнай мовы афеняў, купцоў (Бандалетаў, Бел.-укр. ізал., 101—102).

**Андры́на** (Янк. I; ДАБМ карта 236, галоўным чынам на поўдзень ад Мінска) з *адрына* (устаўное *н*).

**Андрэ́йка,** *андрэй, андручок, андрэйка-калода, андрэйка-*

*канарэйка, андрэйка-купарэйка, андрэйка-лябёдка* і інш. 'божая кароўка, Cocinella septempunctata' (Шаталава, Веснік БДУ, 1970, 3, 65). Упадабненне імені — другасная з'ява, як і ў шэрагу іншых назваў насякомых, напр.: *хвэдорко, пятрушачка, пэтрык, федарка, федрык, матрунька, пятрок, пэтрычок, пятрук, петрачка, петра, пытро* і інш. Магчыма, назва паралельная да *бэдрык, бэндрык, едрайко, едранец, вэдрык, ведрык, вадрык, відрык,* параўн. польск. *biedronka* і *wiodrunka.* Напярэдадні дня св. Андрэя (29 лістапада) у палякаў моладзь варажыла пра будучага жаніха *(andrzejki),* а ў рускіх з гэтым днём звязаны народныя павер'і аб надвор'і зімой (Даль, 1, 17); цікава адзначыць у сувязі з гэтым наўрад ці выпадковае выкарыстанне адной з назваў божай кароўкі ўкр. *ведрик* або *бедрик* у зімовых каляндарных песнях-шчадроўках. Але зімой, звычайна, *андрэйкі* не лятаюць, таму адзначым, што другі Андрэй святкаваўся 4 ліпеня. Усё гэта дае падставу для пераносу ўласнага імя *Андрэй* на насякомае і семантычных кантамінацый. Гл. *ведрык.*

**Андуля'цыя** 'завіўка' (Сцяц., Сцяшк., Чэрнякевіч, Веснік БДУ, 1971, 3, 75), польск. *ondulacja* 'тс' <франц. *ondulation* 'хваляванне (вады)', з XX ст. 'завіўка' на базе лац. памянш. *undula* да *unda* 'хваля'. Як у сэнсе тэхнічнага тэрміна, так і ў сэнсе 'завіўка' трапіла ў розныя мовы, у тым ліку славянскія. Сюды *андулятар* (БРС), *андулятарны* (КТС). Супрун, Веснік БДУ, 1971, 3, 72.

**Андына'рыя** 'пачасавая плата за працу прадуктамі' (БРС, Мядзв.), *андынара* 'тс' (Жд., Сцяшк.), *ондынарія, ондынарійный* 'звычайны', 'атрымліваемы ў якасці андынарыі' (Нас.). З *ардынарыя* (гл.) у выніку асіміляцыі першага зычнага з наступным, а таксама для *андылярыя, андыралія* ў выніку дысіміляцый іншых зычных. Літ. *andinárija, andinárčikas* <бел. (LKŽ, 1, 135).

**Анё',** *анё'ж, аня'ж, аняго', аняго'ж, аняго'ні, аняго'жчы,* 'няўжо, хіба' (Касп., Бялык.). Гэты рад прыслоўяў утвораны з узмацняльнай часціцы *а-,* прыставачнага элемента *не (ня)* (гл. Шуба, Прыслоўе, 167), займеннікавага элемента *ё, яго* і часціцы *ж* (магчыма, паўторнага *ні*). Утварэнне некаторых з гэтых прыслоўяў патрабуе ўдакладненняў (напрыклад, ці не ўдзельнічае ў іх утварэнні прыметнік *гожы?).*

**Анё'л** замацавалася ў бел. літ. мове, пачынаючы з першых твораў новай беларускай літаратуры, пашырана і ў дыялектах. З польск. *aniol,* запазычанага з ст.-чэш. (Слаўскі, 1, 24), дзе праз лацінскую з грэчаскай (Эрну — Мейе, 32).

**Ані′**, з часціцы *ні* пры дапамозе ўзмацняльнай часціцы *а-*. З *ані-* ўтвораны словы *аніякі, аніяк* і інш.

**Аніга′дкі** 'хоць бы што' (Мар. дыс.) ад *гадка* з прыстаўкай *ні* і ўзмацняльнай часціцай *а* (параўн. *анічуць* і шэраг іншых утварэнняў з *ані-*).

**Ані′кават** 'дурнаваты, прыдуркаваты' (Нас., Гарэц.). Магчыма, ад уласнага імя *Аніка* (параўн. *Аніка-вóін* пра чалавека, які выхваляецца, ад імя героя старажытнарускага падання, які, хвалячыся сваёю непераможнасцю, выклікае на паядынак Смерць і гіне ў баі з ёй (ССРЛЯ)). Грэч. ἀνίκητος 'непераможны'. Далейшае семантычнае развіццё 'хвалько, які гіне'>'прыдуркаваты' цалкам магчыма; параўн. рус. дыял. *аника-смотрóк* — пра непрадбачлівага чалавека, *анúчка* 'кплівая мянушка' (СРНГ). Іншая магчымасць: сувязь з *аніякі*.

**Ані′с** 'Pimpinella anisum; Anisum Gaertn'., *аныш, ганыш* (Кіс.), *гáнус, гэ́нус* (Касп.), *гáнуш, гáнусовый, гáнусовка* (Нас.). Рус. *анúс,* дыял. *гáнус* 'кмен', *анúст* 'тс', *ганы́ш* 'Chaerophyllum bulbosum L.', укр. *аніс,* дыял. *áнис, áниж, áниш, óниж, гáнус, гáниж* 'аніс'. Польск. *anyż* з чэш. *anýz,* дыял. *hanýž, haníž*, ст.-чэш. *anež, anez,* славац. *aníz, onajs, anajs*, в.-луж. *anis*, славен. *jánež*, серб.-харв. *áнис, áниш, áнижевица,* балг., мак. *анасон* 'тс'. Крыніца ўсіх гэтых форм с.-грэч. ἄνισον (раней ἄννησον) невядомага (міжземнаморскага?) паходжання. Грэч.>тур.>балг., мак. (БЕР, 1, 11), магчыма, грэч.>серб.-харв.; грэч.>лац. ці грэч.//лац. *anisum, anesum*> ст.-чэш. *anez;* лац.>с.-в.-ням.>ст.-чэш. *anež,* славен. *janež*, магчыма, польск. *anyż,* серб.-харв. *аниж-*. Бел., укр. *ганыш, аныш* (з XVII ст.) <польск. *anyż* (Рудніцкі, 1, 25). Бел. *аніс* <рус. *анис*. Рус. форма, паводле Фасмера (1, 78), з н.-в.-ням. ці па версіі Гараева з французскай, што малаверагодна. У рускай пісьменнасці слова вядома з 1560 г., што дае магчымасць лічыць яго запазычаным непасрэдна з грэч. (Шанскі, I, 4, 109), але супраць гэтага націск, які супадае з нямецкім. Назва яблыка *аніс, анісаўка* з рускай: *анисовые яблоки* — паволжскі гатунак яблык.

**Анічу′ць** 'ні ў якай меры', з прыслоўя *чуць* пры дапамозе прыстаўкі *ні* і ўзмацняльнай часціцы *а* (Шуба, Прыслоўе, 182).

**Ано′да** 'эфір, які п'юць замест гарэлкі' (гродз., А. П. Цыхун, пісьм. паведамл.). З польск. *anodyna* 'сумесь этылавага спірту і этылавага эфіру, якую ўжываюць як абязбольваючы сродак' (з грэч. ἀνώδυνος 'абязбольваючы'); у польскую мову

слова трапіла праз лац.; з польск., напэўна, у літ. дыял. *apò-dyja* (LKŽ). На карысць польскай крыніцы ўказвае наяўнасць у польскім «піяцкім» жаргоне выразу «па anody iść» («ісці ў аптэку па анадыну для выпіўкі», Тувім, PSP, 39). Супрун, Веснік БДУ, 1971, 3, 72—73.

**Анталя'жы,** *антуляжы, антыляжы,* 'карункі' (КТС, Шат., Сцяц., Жд., Інстр. I), *анталяжыны, анталяжыкі* (КТС) праз польскую (Сцяц. Нар., 143) з франц. *entoilage* 'палатняная падшыўка'. У бел. з пач. XX ст. (Гіст. лекс., 243).

**Анто'наўка** 'гатунак яблык', рус. *антоновка* 'тс', этымалагічна 'яблыка з Антонава'; укр. *антонівка.* У рускіх слоўніках з 1843, з рускай у інш. слав. мовы (Шанскі, 1, А, 119). Патрэбна ўдакладненне месца, адкуль пашырыўся гатунак. Бел. *антон* (КТС) 'антонаўка' ў выніку ўсячэння *антонаўка* па ўзору *аніс — анісаўка.*

**Анты'хрыст** 'супраціўнік Хрыста>бязбожнік>неміласэрны'; *анціхрыст* (Нас.), *анчихрыст* (Рам; Карскі 1, 363); ст.-бел. *антихристъ* (XVI ст. Гіст. мовы 1, 307). Ст.-рус. *антихрьстъ,* ст.-слав. **антихрьстъ.** Агульнаславянскае слова. У розных славянскіх мовах развіты пераносныя лаянкавыя адценні гэтага слова, амаль ва ўсіх народных славянскіх мовах сустракаюцца фанетычныя змены, напр., субстытуцыя *ц/ч* замест *т,* таму нельга катэгарычна сцвярджаць на аснове формы з *анці-* аб яе паходжанні праз рус. мову, а на *анты-* праз польск. Напэўна, тут пераход у народную мову з царкоўнай, у якой з ст.-грэч. 'Αντίχριστος (Шанскі, 1, А, 117).

**Антэцэ'сар** 'папярэднік' (Нас.) паралельна ці праз польск. *antecesor* 'тс' з лац. *antecessor* 'тс' (<*ante* 'перад'+*cedo* 'іду'). Гіст. мовы, 1, 257 (з 1615 г.), Гіст. лекс., 107.

**Ануча.** Рус., укр. *онуча, ануча* (для абварачвання ног), польск., славац. *onuca,* чэш. *onuče,* славен. *onúča, vnúča,* ст.-слав. **оноушта**'сандалія' (Старасл. сл.). Да прасл. **onutja;* корань *-u(t)-* той жа, што ў *абутак* (гл.), параўн. літ. *aũti* 'абуць' суфікс *-ja,* як у *свяча.* Прэфікс *on-* найбольш верагодна з і.-е. **an-* (лац. *an-*, грэч. *ανα-* і г. д.) 'на' (Фасмер, 3, 142) або, што менш верагодна, з і.-е. **on-* 'у' (Мейе, Études, 2, 162), ці *o-* пры ўстаўным *-n-* (гл. Праабражэнскі, 1, 650); паводле Шанскага (КЭСРЯ, 223), утворана ад **onutь* 'абутак' **<onuti* 'абуць', гэтым аўтар імкнуўся паясніць паходжанне *-t-*. Аб прычынах дээтымалагізацыі гл. Булахоўскі, Труды ИРЯ, 1, 173. Колесаў, ЭИРЯ, 5, 43—48: корань **nut-* быццам паясняе семантыку анучы-абутку:' тое, што не нацягваецца, а накручваецца', што, аднак, не зусім ясна ў сувязі з

няяснасцю кораня на славянскай моўнай глебе. Беларуская мова значна пашырыла семантыку слова *ануча* ад 'абутку' на 'рызман, лату', аналагічная тэндэнцыя заўважаецца і ва ўкраінскай; у іншых славянскіх мовах старое значэнне захоўваецца дакладней, хаця нідзе, здаецца, слова цяпер не азначае абутку. На новай семантычнай базе бел. *анучнік* 'гандляр анучамі; той, хто збірае ўтыль' (Бяльк.).

**А́нцік** 'прыгожая дзяўчына, прыгожы хлопец' (Бяльк.). Рус. смал. *а́нтик* 'лясун'. Калі гэтыя ўтварэнні звязаны (семантыка: 'спакуслівы, як лясун'), відаць, іх трэба звязаць з *анціпка* 'д'ябал' (гл.). Іначай—ад рус. *анти́к* 'рэдкі', 'чалавек незвычайны' (ССРЛЯ); 'камея' (Даль); рус. слова <франц. *antique* 'старажытны' <лац. *antiquus* (Шанскі, 1, A, 118); параўн. *антычны* (Супрун, Веснік БДУ, 1971, 3, 73), але няясны перанос націску, як і пры атаясамленні з *анціпка;* параўн. *а́нціць* 'гуляць'.

**Анцілігéнт** 'інтэлігент' (Касп., КТС), народна-размоўнае пераафармленне пачатковага *ін,* вядомае і па іншых словах: *індык*>*андык* (Серб., 77), *інтэ́рас,* рус. *интере́с*>*анцірэ́с* (Мядзв.).

**Анцімо́нія** 'доўгая пустая гутарка' (Бяльк.). Рус. *антимо́ния* (у выразе «разводить антимонию» — весці доўгую непатрэбную гутарку), фіксуецца з сярэдзіны XIX ст., смален. *антимо́ния* 'хітрыкі' (Дабр.). Форма *анцімонія* ўказвае на рус. паходжанне (Шанскі, 1, A, 115). *Антымонія,* магчыма, узнікла ў выніку метатэзы з *антыномія* або ў жаргоне семінарыстаў (Фасмер, 1, 79), або пад уплывам назвы нямецкай секты антыномаў, якія не лічылі патрэбным выкананне рэлігійных загадаў (слова *antynom* у гэтым значэнні вядома польскай мове XVI ст. — Sł. XVI w.). Аб магчымасці польск. пасрэдніцтва для бел. слова (пры метатэзе) БМ, 48. Менш верагодна Зяленін, РФВ, 54, 113: семінарская пераробка слова *антифоны* 'царкоўныя спевы з частымі паўторамі', а тым больш Міхельсон (Рус. мысль, 1, 21) ад *антымоній* — хім. элемент, які, паводле падання, паволі атручваў манахаў нейкага манастыра. Параўн. назву сурмы: *Antymon* у польск. і шэрагу еўрапейскіх моў (с.-лац. *antimonium*, магчыма, з араб. **ithmid*), адкуль і ўсх.-слав. назвы мінералаў *антыманіт* (БелСЭ) і інш.

**Анці́пка**$_1$ 'нячыстая сіла' (Рам. 8, 284). Укр. дыял. *анти́пка* 'д'ябал'. Паводле Рудніцкага, укр. назва чорта з уласнага імя *Антип* як табуістычная замена слова *антихрист*. Супраць Краўчук (ВЯ, 1968, 4, 121), які выводзіць гэту назву ад

уласнага імя Ірада-*Анціпы*. Успенскі (Труды знак., 5, 487) лічыць рус. *антипка* ўтвораным як табуістычнае слова з *Анісіфар*; нельга выключыць, што *анціпка* — памянш. форма ад *анцыпар,* сувязь з якім наўрад ці можна выключыць. Параўн. *анчутка.*

**Анці′пка**$_2$ 'роў, яр, яма' (Рам., 9, 10). Магчыма, перанос з назвы нячыстай сілы *анціпка*$_1$ на месца, дзе яна быццам бы знаходзіцца — яр.

**Анцію′д(а)** 'непаседа, благі чалавек' (Касп.). Узнікла ў выніку кантамінацыі з *Анціхрыст* і *Іуда*, параўн. *Юда.* Магчыма, як табуістычная назва чорта. Рус. дыял *анчиюд* (Пск. сл.) 'анціхрыст'.

**Анцы′пар** 'д'ябал' (Касп.). Магчыма, кантамінацыя *анціхрыст* (гл. *антыхрыст*), *люцыпар (Люцыфер), Анісіфар* (*Онисифоръ* — Успенскі, Труды знак., 5, 487), а магчыма, і назвы зоркі на захадзе *Antifer*, улічваючы, што *Люцыфер* — старая назва Венеры (ССРЛЯ), назва зоркі тлумачыцца як лац. слова паводле ўзору *Люцыфер.*

**Анчу′тка** 'д'ябал' (Мядзв.). Рус. дыял. *анчута* (СРНГ), *анчут*. Табуістычная замена назвы д'ябла *анчыхрыст* у кантамінацыі з уласным імем *Анісіфар* (Успенскі, Труды знак., 5, 487). Версію аб балтыйскім паходжанні слова гл. Тапароў, Baltistica, IX (1), 29 і наст., Талстой, Материалы Всесоюзного симпозиума по вторичным моделирующим системам I (5), Тарту, 1974, 31. Краўчук (вусн. паведамл.) лічыць, што зыходным з'яўляецца форма *анчут*<*анчи-юд* (параўн. пск. *анчию́д;* Пск. сл., 1, 66): *анчи- (анти-)*+*юд* (Иуда). Параўн. *анцію́д(а).*

**Анэ′гды** 'на днях' (Касп.). З польск. *onegdy* (Мар. дыс., 63), утворанага тым жа шляхам, што *анагдысь* і інш. (Брукнер, 379).

**Анэ′ма** 'клісцір', (пераносна) 'пакаранне розгамі' (Нас.). Польск. *enema* 'клісцір'. З грэч. *ἐνίημα* 'уліванне', магчыма, праз польск. пасрэдніцтва. Слушкевіч, Зб. Курыловічу, 283.

**Анялі′сты** 'евангеліст' (Мал.). Кантамінацыя *евангеліст* і *анёл* паводле мадэлі *арганісты* і інш.

**Апаве′даць** 'паведаміць' (Гарэц., Жд.). Рус. *оповéдать,* польск. *opowiadać,* чэш. *opověděti,* славац. *opovedat',* в.-луж. *wopowědać,* н.-луж. *wopowědaś,* серб.-харв. *опдвидети* 'тс'. Ст.-бел. *оповедити* з XVI ст. (Гіст. мовы, 1, 55). Магчыма, агульнаславянскае ўтварэнне з коранем **vĕd-* і дзвюма пры-

стаўкамі *o-+*po-; не выключана, што тут і новаўтварэнні на базе агульнай формы з прыстаўкай *po- (прычым на пашырэнне значэння ў некаторых мовах магла ўплываць пэўная мова, напр., чэшская).

**Апавяда'нне** (літар. тэрмін). Укр. *оповідання,* польск. *opowiadanie.* З польскай; замацавалася на пач. XX ст. (Гіст. мовы, 2, 147). Ст.-бел. *оповеданье* (з XVI ст. — Гіст. мовы, 1, 240) 'аб'ява' ад дзеяслова *апавядаць* (гл.).

**Апавяда'ць.** Ст.-бел. з пач. XVII ст.: *оповѣдати* (Карскі, 1, 440—441; Александрыя); укр. *оповідáти,* польск. *opowiadać,* н.-луж. *wopowědaś.* Пашырэнне ў мовах, якія сутыкаліся з польск., сведчыць аб верагоднасці запазычання з польск.

**Апавяда'чы,** *павяда'чы* 'расказчык' (Гарэц.). Параўн. укр., польск. з суф. *-ач.* Бел. утварэнне ад *апавядаць* своеасабліваe, па ўзору іншых агентыўных назоўнікаў-прыметнікаў *(анялісты, арганісты).*

**Апавясці'ць.** Рус. *оповестúть,* укр. *оповістúти,* балг. *оповестя.* Небясспрэчна сцвярджэнне аб запазычанні бел. *апавясціць* у пач. XX ст. з рус. (Гіст. мовы, 2, 142).

**Апа'д** 'яблыкі і іншая садавіна, якая сама апала', *апáдкі, апáдак* 'тс', 'дождж, снег і інш.'. Рус. дыял. *опад, опадок* (аб садавіне); укр. *опади,* польск. *opad* (аб метэаралагічнай з'яве). Дзеяслоў **opadati* агульнаславянскі, ужываецца ён і ў адносінах да садавіны, але толькі ў беларускай мове замацаваўся аддзеяслоўны назоўнік са значэннем 'апаўшая садавіна' з суфіксам *-ак* (<*-ъкъ) ці ўтвораны бязафіксным спосабам (які выкарыстоўваецца ў польскай і ўкраінскай мовах для абазначэння метэаз'явы).

**Апазо'рваць** 'насміхацца' (Сцяшк.), з рус. *опозоривать* 'ганьбіць, знеслаўляць'.

**Апа'л.** Рус. дыял. *опал* 'апаленае месца', укр. *опал* 'ацяпленне, паліва', польск. *opał* 'тс', чэш., славац. *opal* (спец.) 'акаліна', 'загар', в.-луж. *wopał* 'апёк'. Бязафікснае ўтварэнне ад дзеяслова *апаліць, апальваць.* Пры замацаванні значэння 'паліва' магчымы польскі ўплыў.

**Апала'нт,** *пала'нт* 'гульня, падчас якой удзельнікі спаборнічаюць ва ўменні далей пасланць кароткую палку' (Янк. II). З польск. *palant* 'лапта' <італ. *palla* 'шар, галка', *pallare* 'гуляць у мяч' (Брукнер, 391). Параўн. яшчэ ўкр. *ополоничок* 'дзіцячая гульня'. Гл. Супрун, Веснік БДУ, 1971, 3, 73.

**Апала′ць,** *апаланкі, апалечка, апалічы, апалушкі.* Гл. *палаць.*

**Апало′нік₁,** *пало′нік* ’разліўная лыжка’. Рус. *половник, уполовник,* укр. *ополоник, половник,* абл. *уполовник* ’тс’. Ст.-рус. *половьникъ* ’мера сыпкіх цел’, *уполовьникъ, упольникъ* ’коўш на доўгай ручцы’. Ст.-бел. *ополоник* 1538—1539, *полоник* 1556—1571 (Мар. дыс.), *ополоникъ* (Шакун, Гісторыя, 114). Балг. *половница* ’сасуд 1/2 л’; макед. арх. *половник* ’1/2 вядра, торбы і інш.’, серб.-харв. устар. *полȍвњак* ’мера збожжа каля 25 кг’, славен. *polovník, polovnìca* ’старая мера сыпкіх цел’. Параўн. яшчэ ўкр. *половник* ’засек для паловы’; славац. *polovník* ’сумесь з аўса (жыта) і ячменю’. Абодва прыклады на *упольникъ* у Сразн. аб меранні мора *ўпольнікам. Апалонік, палонік* звязаны са старарускай назвай меры *половьникъ, уполовьникъ;* апошняя цалкам, магчыма, генетычна звязана з паўднёваславянскімі формамі. Далейшыя этымалагічныя хады няпэўныя; магчыма сувязь з *пол* ’1/2’. Улічваючы славен. *pȍl* ’чарпак (для лодкі)’ і ст.-рус. *упольник,* нельга гаварыць аб непасрэднай сувязі з *палова* ’рэшткі пры апрацоўцы зерня’. Фасмер (4, 164) няпэўна (як сам адзначае) параўноўвае *уполовник, упол, уполовьня з палаць* ’веяць’ (гл.), *палоць.*

**Апало′нік₂,** *палóнік* (Нас., БРС). Укр. *ополоник* ’палонік’, рус. дыял. *полоник* ’тс’ (бранск.). Перанос па знешняму падабенству з назвы лыжкі; параўн. балг. *попова лъжичка* ’тс’.

***Апало′нік₃,** *ополóнык* ’перапечка з цеста’ (Вешт., 393). Параўн. *палёшки* ’малыя вараныя ці печаныя перапечкі’ (Вешт., 398). Магчыма, з назвы лыжкі, пры дапамозе якой наліваюць цеста (няпэўна). Параўн. *паляніца, апалька* (гл.).

**Апало′ў** ’скаварада’ (Касп., ЭШ). Роднаснае *ополовьникъ* (>*апалонік* ’лыжка’), з якога, магчыма, у выніку ўсячэння суфікса пры кантамінацыйным уплыве *апаноў(ка)* (гл.).

**Апалька** ’перапечка’ (Сцяшк. МГ), рус. уладз. *палéнка, палúха, паленик* ’тс’, паўдн. *паленица* ’хлеб’; укр. *опалянок, паляниця* ’тс’, польск. дыял. *apalonek, apaloniec* ’печаны хлеб’; чэш. *opelka* ’калач з рэшткі цеста’; славен. *páljenek* ’гатунак кукурузнага пірага’. Няясна. Прасцейшае — звядзенне да кораня *паліць* (Бірыла аб прозвішчы *Апалька* — Бел. антр. 2, 22; Вештарт, Лекс. Палесся, 112—115, Арашонкава і інш., Весці АН БССР, 1969, 4, 127); магчыма, вынік народнаэтымалагізуючых працэсаў; наўрад ці роднасна з літ. *apalus* ’круглы’ (Арашонкава і інш., там жа). Генетычная сувязь адзна-

чаных форм таксама няпэўная: магчыма, гэта паралельныя новатворы.

**Апалю'к** 'ручка касы' (ДАБМ), *палюк, палюх, палец* (ДАБМ, 831). Перанос назвы пальца (параўн. укр. дыял. *палець* 'зубец на шасцярні') па знешняму падабенству ці паралельнае ўтварэнне (параўн. *паля,* укр. дыял. *палюх* 'слуп'). Магчыма, кантамінацыя з *аплік, аплюк* 'гаплік' (не толькі ў вопратцы; форма *аплюк* садзейнічала выкарыстанню формы з пачатковым *а*-), *гаплюк* 'гак да гною' (Смул., 75).

**Апанава'ць.** Прэфіксальна-суфіксальны дзеяслоў ад назоўніка *пан* 'той, хто валодае'; націск указвае на магчымасць самастойнага ўтварэння гэтага дзеяслова, а не запазычання яго з польскай мовы.

**Апана'с,** *пана'с* 'гульня ў жмуркі', 'той, хто жмурыць' (Нас.). Укр. *панас* 'тс'. Сучасная асацыяцыя з уласным імем, магчыма, другасная. Няясна.

**Апано'ўка** 'скаварада, патэльня' (Сцяшк., Сцяц.), *апано́ў* (слуц., Карскі, Мат., IV, 8). Ст.-рус. *паны, пановъ, панъвъ* 'тс' *паница, опаница, панъвица* 'чаша, блюда', ст.-слав. *паница* 'чаша', укр. *пановка, панівка, панва, панова* 'скаварада', чэш. *panev*, польск. *panwia,* луж. *panoj, panej* 'тс'. Старажытнае запазычанне з ст.-в.-ням. *pfanna,* лац. *panna,* гл. Карскі, Gemeinslav., 153. Беларуская суфіксацыя *-к-а* і прыстаўное *а*-. Супрун, Веснік БДУ, 1971, 3, 73.

**Апанта'ны,** раней *апента́ны* (Федар., 6, 558; з XVI ст., Гіст. лекс., 96). З польск. *opętany* 'тс' (Мартынаў — Міхневіч, «Маладосць», 1969, 9, 149; Курс суч., 155). Развіццё значэння праз 'звязаны з д'яблам', адкуль 'шалёны'.

**Апанча',** ст.-рус. *японьчица* (Слова аб палку Ігаравым), ст.-бел. *епанча, апонча, опанча, опонча* (з 1508, Гіст. лекс., 139, 142). Рус. *епанча* (з канца XVI ст., Сразн.); дыял. *опунча* 'неахайны чалавек', укр. дыял. *опанча.* Польск. *oponcza*, балг. *япанджак,* макед. *јапанџак.* Параўн. тур. *yapınca*, крым.-тат. *japynџy* 'плашч, папона' і пад. ад цюрк. *jap-* 'пакрываць' (Расянен). У бел. з крым.-тат. ці тур., магчыма, праз укр. Бел., укр., польск. формы адлюстроўваюць кантамінацыю з *опона* 'пакрывала'. Параўн. бел. дыял. *апоня* 'шырокае, не дастасаванае да фігуры адзенне' і 'чалавек, які носіць такое адзенне' (Янк. III). Літ. *jupančia,* магчыма, не толькі з польскай (Фрэнкель, 198), але і праз беларускую. Гл. Фасмер, 2, 20—21; Кононаў, ИОРЯ, 1966, 226.

**Апара′т**, *апара′ты* 'царкоўныя рэчы, у тым ліку адзенне свяшчэнніка' (Нас.); аднак ужо ў аповесцях XVI—XVII стст. *аппаратъ военныи* (Шакун, Гісторыя, 106). У старабеларускай мове як царкоўны, так і ваенны *апарат* з XVI—XVII стст. з лац. *apparatus* (Курс суч., 172; Гіст. лекс., 111), магчыма (але не абавязкова), праз польскую. Наўрад ці трэба лічыць, што на пачатку XX ст. слова *апарат* было другі раз запазычана ў беларускую мову з рускай (Крукоўскі, Уплыў, 83; Гіст. мовы, 2, 147; Гіст. лекс., 245), хутчэй за ўсё тут можна гаварыць толькі аб пашырэнні значэння ўжо ўжыванага слова; *апарат* 'ваенны парад' (Нас.) кантамінацыя *парад* і *апарат*.

**Апа′рт** 'асобна' (Жд.). У рускай мове як французская цытата *à part* (Бабкін—Шэндзяцоў, 91). З ням. *apart* <франц. *à part* (у ням. з XVII ст.— Пауль, Wörterb.); магчыма, праз польскую. Параўн. Супрун, Веснік БДУ, 1971, 3, 73.

**Апа′рына** (БРС), *апа́ра* 'крынічнае акно' (лід., Яшк.). Укр. *опар* 'палонка', 'акно ў балоце', 'падталы снег'. Дзеяслоў *апарыць* 'падвергнуць уздзеянню пары', вядомы ў слав. мовах, дае шэраг вытворных са значэннем месца: 'месца апёку', 'выгарэлае месца ў лесе' і г. д. Відаць, *апарына* — адзін з такіх вытворных назоўнікаў; уздзеянне пары, магчыма, меркавалася ў сувязі з тым, што над апарынай у халоднае надвор'е відаць пара.

**Апа′чына** 'прыстасаванне для кіравання плытом' (Сцяшк.), *пачы́н(а)* 'вясло' (Бялык.). Ст.-бел., ст.-укр. *опачина* 'вясло' (Сінаніма). Укр. *опачина* 'тс', *(о)пачина* 'вязка галля, ламачча, лазы'. Ст.-польск. *paczyna* 'рулявое вясло', чэш., славац. *opačina* 'вясло', ст.-чэш. дыял. — *opačina* 'руль', 'доўгі брус у задняй частцы воза', 'процівага', паморск. *pâčəna* 'руль', макед. *опачина* 'зваротны бок', серб.-харв. *опа̀чина* 'грубасць, жорсткасць, паскудства', балг. *опачина* 'ўпартасць', славен. *opačina* 'памылка', балг. *опашка* 'хвост', рус. дыял. *опачина* 'хара'. Паводле Міклашыча, Махэка, Бруцкнера, польскія, чэшскія, славацкія словы ўтвораны ад *opak* 'наадварот', а першаснае значэнне іх 'руль' (Брукнер, 380); лепш суаднесці гэтыя формы з дзеясловам тыпу ўкр. *пачити* 'паварачваць'. Значэнне 'вясло' можа быць выведзена з 'руль, рулявое вясло'. Аднак на магчымасць сувязі з ст.-рус. *опашь,* балг. *опашка* 'хвост' указвае фанетыка рус. сіб. *опашня* 'вялікае бакавое вясло на барках'; з чэшскім значэннем 'брус у возе' параўн. рус. дыял. *опашина* 'бервяно паміж стойкамі ў штольні'. Укр. *(о)пачина*

'звязка', згодна з Бялецкім-Насенкам, ад *фашина*, якое з ням. *Faschine*. Гл. *фашына*.

**Апе'ка** (БРС, Яруш.). Рус. *опека,* укр. *опіка,* польск. *opieka,* чэш. *opěka,* устар. *pěče,* славац. *opeka* (<рус., SSJ), балг. *опека*, ст.-бел. *опека* (XVI ст., Гіст. лекс., 94), ст.-рус. *опекание* (1389) 'апека'. Ст.-польск. *opiek* 'тс' з XVI ст. У старарускай мове шырока ўжываўся дзеяслоў *печи ся* 'клапаціцца', таму ўтварэнне *опека* як бессуфіксальнага аддзеяслоўнага назоўніка ад *опекати ся* было цалкам магчымым і няма неабходнасці абавязкова лічыць бел. *апека* запазычаным з польскай, як Гіст. лекс., 94, не зважаючы на адсутнасць у беларускай мове адпаведнага значэння дзеяслова; гэта можа быць і захаваннем старарускага слова. Супраць — адсутнасць фіксацыі формы *опека* ў старарускай, але і ў польскай *opiek,* а не *opieka. Апякýн* (Гіст. мовы, 2, 24) па націску, магчыма, з рускай, а не з польскай, калі гэта таксама не старарускае слова ад дзеяслова *апякаць* з суф. *-ун. Апякáны* (Жд.) 'дагледжаны' з польск. *opiekany* 'тс'.

**Апеля'цыя,** *апеля́ва'ць.* Як і ўкр. *апеляція* запазычана ў XVI ст. праз польскую з лацінскай мовы (Паўтарак, Бел. лекс., 134; Папова, Дасл. бел.-рус., 53; Гіст. мовы, 1, 249, 253; Шакун, Гісторыя, 97; Курс суч., 172; Вясноў, Бел. лекс., 34; Гіст. лекс., 109). Рус. *апелляция* ў Пятроўскую эпоху з польскай (Фасмер, 1, 81), *апеллúровать* у XVIII ст. з ням. (Шанскі, 1, А, 124). Наўрад ці гэты тэрмін быў забыты (як лічыць Шакун, Гісторыя, 300) і з'явіўся як новае слова ў XIX ст. (як лічыць Крукоўскі, Уплыў 76; Гіст. мовы, 2, 107; Гіст. лекс., 233).

**Апе'нты** 'абцягнуты шчыльна (аб адзенні)' (Янк. Мат., 94) з польск. *opięty* 'тс' (з коранем *пяць*$_2$).

**Апераза'ць,** *падперазáць (-цца).* Укр. *оперезати, підперезати (ся),* славен. *prẹzati* 'звязваць' (ці не сюды і значэнне 'быць павінным, глядзець', параўн. *oprẹ́zati* 'чакаць, сачыць'). Рус. дыял. *подпережать* (паўдн., зах.). Сюды ж адносяць серб.-харв. *запре̏зати* 'запрагаць' (калі яно не да іншага кораня' *запрагаць,* на што ўказвае не толькі форма *за̏пре-жем,* але і суфіксацыя; аднак Вук Караджыч не даваў гэтага значэння, а даваў значэнне 'апяразваць', таму, магчыма, у сербскахарвацкай мове адбылася кантамінацыя кораняў *през-* і *преж-/прег-* у гэтым слове). Ст.-бел. *оперезати* (Анічэнка, Праблемы філал., 11). Праслав. дыял. **perzati* — дзеяслоў ад імя **perzъ* ці прыназоўніка **perz-* 'праз'. Назоўнік **perzъ* мог азначаць 'пояс'; рэканструкцыя праславянскай формы можа

адбывацца не толькі на базе беларускай, украінскай, сербскахарвацкай моў, як лічыць Трубачоў, але і славенскай. Міклашыч, 244; Трубачоў, Праспект, 71—72; Слав. языкозн., V, 176, 186. Развіццё значэння ад 'апераза́ць' да 'сцебануць' у беларускай і ўкраінскай мовах цалкам, магчыма, аўтаномна ад іншых славянскіх.

**Апету'шыць** 'ударыць раптам' (КСТ). Ад *петаваць* 'біць' (гл.) пры дапамозе экспрэсіўнага элемента *-ух-* ці праз назоўнік **пятух* 'задзіра'. Магчыма, сюды ж рус. *петушиться* 'станавіцца запальчывым', якое, несумненна, адчула ўплыў *петух* 'певень'; параўн. і значэнне рус. *петух* 'задзіра', каш. *цирʼitošәc* 'забіць' (параўн. Супрун, ZfSl, 16, 779).

**Апіво'ш** 'п'яніца' (Сцяц., Бір. дыс.), *апівоша* (Янк. III), *апівошына* (Абабур.). Польск. арг. *opiwosz, piwosz.* Рус. дыял. *опивоха.* Утворана ад дзеяслова *апіваць* 'часта і многа піць чужое' (Янк. I), ад якога і *апівака* 'той, хто любіць апіваць', пры дапамозе экспрэсіўнага элемента *-ош.* Гэты элемент суадносіцца з суфіксам *-ох(а) (льсьцёх, раскідоха)* (Карскі, 2—3, 37) і суфіксамі на *-ш (збродыш, поганыш)* (там жа, 38).

**Апікула'т** 'скупы' (Касп.). Ад лац. *opitulatus* 'дапамагаючы' (аб тым, што слова было вядома ў Беларусі, сведчыць наяўнасць іншага аддзеяслоўнага імені ад гэтага дзеяслова *opitularium* у старабеларускай актавай мове (Гарб.). Літ. *apìkula* 'лянівыя' магло аказаць уплыў на паяўленне *-к-*, супраць чаго, аднак, семантыка; субстытуцыя *к* замест *т* магла адбывацца ў выніку дысіміляцыі і без такога ўплыву. Супрун, Веснік БДУ, 1971, 3, 73.

**Апі'кур** 'гультай, абібок' (Жд.). Параўн. літ. *apìkula* 'гультаі' (зборны назоўнік); субстытуцыя *р* замест *л* на канцы слова магла адбыцца ў слове, маючым экспрэсіўнае значэнне. Нельга выключыць сувязь з імем грэчаскага філосафа Эпікура (параўн. *эпікурэец*), якое магло адлюстравацца з пачатковым *а-* замест *э-,* як у *адукацыя,* і польскім націскам на перадапошнім складзе. Параўн. яшчэ *пікара* 'гульня тыпу гарадкі' (Янк. Мат.), літ. *apikuras* (Чэкман, вусн. паведамл.).

**Апі'нія** 'рэпутацыя, гонар' (Сцяшк., Сцяц.). З польск. *opinia* 'думка, погляд', 'рэпутацыя' <лац. *opinio* 'думка, рэпутацыя', на што ўказвае абмежаванае пашырэнне слова (толькі на Зах. Беларусі). Параўн. ст.-бел. (пачатак XVII ст.) *опиния* 'думка' (Гіст. лекс., 108), запазычанне праз польскае пасрэдніцтва (Гіст. мовы, 1, 297).

**Апіня'нка**, *апіналка, апінаха, апянальнік, опына* 'хустка' — аддзеяслоўныя назоўнікі ад *апінаць;* параўн. *аппянуць* 'накрыць галаву' (Пал., 28). Гл. *пяць₂*.

**Апіса'ць** 'ссячы шкуру пісягамі' (Жд.). Пэўна, не проста пераноснае ўжыванне дзеяслова, але кантамінацыя з **апісяжыць, *апісажыць* <*пісяжыць*<*пісяг/пісаг* (Янк. I); *пісяг* 'доўгі крывавы след'.

**А'пка** 'пятля для кручка' (Жд.). З польск. *haftka* 'кручок з пяцелькаю' праз этапы *гафтка* (гл.) >*(г)аптка.* Параўн. *гафтачка, гаптачка, гапачка.* Польскае слова сустракаецца і без пачатковага *h* ужо ў старапольскай мове. Супрун, Веснік БДУ, 1971, 3, 73.

**Аплаві'тна** 'багата', у выразе *сытна і аплавітна* (КТС). Польск. *obfity* <ст.-польск. *opływity* 'багаты, шчодры'. Параўн. серб.-харв. *òплавити* 'заліць, затапіць, навадніць'. Пэўна, ад значэння такога тыпу — **оплавитный* 'такі, што залівае, навадняе, робіць, што ўсяго ў дастатку'. Параўн. укр. *опливати* 'мець у дастатку'. Цікава, што ў старабеларускай і стараўкраінскай мовах ужывалася запазычанае з старапольскай ужо трансфармаванае *обфитый, обфитость, обфитовать* (Бярында, 147). Для тлумачэння семантыкі трэба ўлічваць яшчэ рус. дыял. *оплавить сноп* 'абмалаціць', тое ж, што і *обить сноп* (Даль), ад чаго *обилие* 'багацце' пры чэш. *obilí* 'збожжа'. Для этымалогіі польскага слова гл. Брукнер, 370.

**Аплаві'чнік** 'сушаніца балотная (багнавая) Gnophalium ulginosum' (Крывіч, 4, 1923). Утворана ад кораня лексемы *плаў* 'багна' (Талстой, Геогр., 171 і наст.) пры дапамозе прэфікса *о-*, які ўказваў на тое, што расліна гэта расце каля багны; суфікс сведчыць аб магчымасці прамежкавай формы тыпу **плавіца.* Параўн. таксама *поплавіца* 'трава, якая расце ў вадзе' (Талстой, Геогр., 172).

**Апла'вы** 'жаночая хвароба, трывалы і цяжкі крывацёк' (Нас.). Множны лік ад *аплав(а),* утворанага, пэўна, ад *аплываць* 'цячы' (напрыклад, аб свечцы). Славянскія паралелі невядомы, аднак гэта зусім не азначае, што слова не было вядома іншым славянам. На назву такой сур'ёзнай і да таго ж саромнай хваробы магло накладацца табу: параўн. адсутнасць назвы для крывацёку ў класіфікацыі рускіх народных назваў хвароб Мяркулавай (Этимология, 1967, 159), што зусім не азначае адсутнасці такой назвы ў мове. Па мадэлі словаўтварэння — слова старажытнае, магчыма нават прасла-

вянскае. Параўн. польск. *upławy* 'выдзяленні з жаночых палавых органаў'. Параўн. Супрун, БЛ, 1, 68.

***Апла'тва**, *опла́тва* 'абчасанае бервяно ў апошнім вянцы зруба над бэлькамі' (Шушк.). Польск. *opłatwa* 'тс', укр. *платва* 'верхняя бэлька ў зрубе', славац. *platva* 'плоскі кавалак матэрыялу, якім што-небудзь закрываюць'. Зважаючы на ўкраінскую і славацкую формы, можна дапусціць другаснасць пачатковага *о-* як фанетычнай пратэзы, хаця гэта і не неабходна. Ад дзеяслова *(а)плаціць* з суф. *-тва* (параўн. *малітва)*; роднасна слову *плот* 'агароджа', *плыт*. Іншая магчымасць: ад дзеяслова **пластаць* 'дзяліць на пласты (плахі)', на што ўказвае чэш. *plastva* 'пласт', давала б тлумачэнне слова як больш старажытнага. Узаемаадносіны беларускага, украінскага, польскага, славацкага слоў няясныя: тут магчыма захаванне старога агульнага слова, а таксама адлюстраванне ўзаемных уплываў.

**Апле'нь**, *оплéнь* м. і ж. р., *оплени, опленка, плень, воплень, оплин* 'частка воза', якая стаіць на восях і на якую ставіцца драбіна, выкарыстоўваецца як паваротны механізм; частка паміж дзвюма палавінамі санак' (Маслен.). Рус. дыял. *оплени, аплени* '?' укр. *оплін, оплінь, опління, оплені, оплена*; у Жэляхоўскага апрача значэння *оплін* 'падушка ў возе' даецца 'падушка на канапе'. Славац. *oplen* 'частка воза (і вагона)', чэш. *oplín,* серб.-харв. *ȍплен,* славен. *oplèn* 'частка воза' (дыял. *óplen*), балг. дыял. *оплéн* 'тс'; параўн. польск. дыял. *oklenie* 'пэўная частка саней'. Праславянскае слова няяснага ўтварэння. Махэк$_2$ (416) рэканструюе праслав. **oplětnъ* і параўноўвае з грэчаскай назвай часткі кола πλήμνη, функцыянальна падобнай да апленя. Магчыма, трэба параўнаць з **oblъ,* ад якога чэш. *oblina* 'круглая частка чагосьці'. Іншая версія: **oplenъ*<**o-plet-nъ* (Трубачоў, пісьм. паведамл.). Гл. яшчэ запазычанае з славянскага (MESz, 1, 777) вянг. *eplény* з блізкім да славянскага значэннем.

**Аплё'т** 'пляцень' (П.С., 146). Аддзеяслоўны бязафіксны назоўнік ад *аплятаць*. Гл. *плесці*.

**Аплі'к**. Гл. *гаплік*.

**Апліка'цыя** 'ўзор, малюнак, створаны шляхам наклейвання ці прышывання рознакаляровых кавалачкаў паперы, матэрыі і інш.' (БРС); 'навучэнне пісарскай справе', *аплікант* 'практыкант пры адвакаце ці землямеры', *аплікавацца* (Нас., Гарэц.). Крыніца: лац. *applicatio* 'прыяднанне'. З лацінскай у старапольскую мову са значэннем 'дастасаванне, перадача',

*aplikować* 'перадаваць, прысвойваць'. Ст.-бел. *aplikacya* ў значэнні 'вучэнне' і 'прымяненне, дастасаванне' (Гарб.). Ст.-укр. *апплѣковати* 'прыкладаць' з XVII ст. Гэта значэнне як устарэлае фіксуецца ў сучаснай польскай мове; развіццём яго тлумачыцца і 'практычнае навучанне', а таксама слова *aplikant*. Таму бел. *аплікацыя* ў другім значэнні (цяпер устар.) можна лічыць засвоеным праз польскую мову ці паралельна з польскай. Параўн. для рускай сцвярджэнне Шанскага, 1, А, 131, аб запазычанні рус. *аппликация* ў старых значэннях з польскай у Пятроўскую эпоху. Сучаснае літаратурнае значэнне, магчыма, запазычана з рускай (Крукоўскі, Уплыў, 76), дзе яно фіксуецца з XIX ст. (ССРЛЯ); у такім значэнні слова фіксуецца ў Дарашэўскага з прыкладамі сярэдзіны XX ст.

**Аплэ́вух** 'непаваротлівы, неахайны чалавек' (Жд.). Прыведзены як прыклад сказ: «Аплэвух гэты, апусціў крылля, смаркачэ вечна блішчаць на вусах» указвае на імавернасць утварэння ад *пляваць* агентыўным суфіксам *-ух* (параўн. *пастух*), які, аднак, звычайна нясе націск. Адсутнасць націску можа тлумачыцца аналогіяй з *нéслух*. Параўн. рус. *оплёвыш, оплеванец* 'зняважаны чалавек' (Даль). Цвёрдасць *л* — вынік экспрэсіі значэння слова. Значэнне 'непаваротлівы' (прыклад яго не пацвярджае, але і не пярэчыць яму) можа весці да параўнання з літ. *ãplamis* 'непаваротлівы чалавек', аднак і ў гэтым выпадку адбыліся беларуская словаўтваральная апрацоўка і значная фанетычная змена, выкліканыя, магчыма, народнаэтымалагічным асэнсаваннем слова, якое мае экспрэсіўнае значэнне. Параўн. яшчэ *аблавухі*.

**Апляву́ха** (БРС), *аплявýх* (Федар., 6, 64), *аплявýшына* (Клышка, Пол., 1969, 2, 251), *плявýха* (Бяльк.). Рус. *оплеýха* (у слоўніках з 1731 г.), *оплеýшина, оплеýшить*. Першаснае значэнне, магчыма, не 'ўдар', а дзеянне ці вынік аплявання— выраза знявагі да чалавека; утворана, як *заціраць* — *заціруха*, ад *апляваць*. Параўн. у рус. слоўніку першай палавіны XVIII ст.: *оплевати* «слинами заплевати, чином уничтожити, презрити» (Рукоп. лексикон, 242). Таму *-в-* не ўстаўное, як лічыў Карскі, прымаючы этымалогію Міклашыча, 71, аб паходжанні слова ад *вуха*. Сабалеўскі (Лекции, 142) больш дакладна ўказвае на выпадзенне *-в-* у рускай літаратурнай мове. Тлумачэнне слова ад *апляваць* праз звычай пляваць на руку перад тым як ударыць, якое прымае Фасмер, 3, 145, спасылаючыся на Брандта РФВ, 25, 33 наст., непатрэбна. Праабражэнскі (1, 653) зводзіць слова да *пляваць* і *бляваць* (даючы дыял. *облеуха*) без удакладнення семантычнага ходу ўтварэння слова, указваючы, што сувязь з *вуха* — другасная. Фор-

мы тыпу *поўха, поўшына* (Бяльк.) указваюць на магчымасць народнаэтымалагічнай сувязі са словам *вуха.*

**Аплята′ць₁.** Гл. *плесці.*

**Аплята′ць₂** ’прагна есці’. Рус. *уплетáть* і *оплетáть,* укр. *оплітати* ’тс’. Магчыма, звязана з народным выкарыстаннем аплеценых гаршкоў, параўн. *аплятанік* ’гліняны гаршчок, аплецены дротам’ (Інстр., I), *аплятаць гаршчок* ’закончыць яго’ (У. А. Міцкевіч, вусн. паведамл.). Магчыма, звязана з *плоць* ’цела’, параўн. рус. сіб. *плетево* ’стан, талія чалавека’>**оплетати* ’набываць плоць, стан’?

**Апо′весць.** Укр. *оповість,* польск. *opowieść* (*powieść* ужываецца ў знач. ’раман’). Замацавалася да Кастрычніцкай рэвалюцыі (Красней, Веснік БДУ, 1969, 1, 61) пад польскім уплывам.

**Апока₁** ’гатунак вапняка’, ’рама для ліцейнай формы’ (БРС). Рус., укр. *опока* ’тс’, польск. *opoka* ’скала, камень, камяністы грунт; фундамент’, чэш., славац. *opuka* ’вапняк’, славен. * op̂oka* ’вапняк, камяністая глеба’, ц.-слав. *опока* ’скала, камень’; гэта значэнне адзначаецца ў старабеларускім помніку XV ст. (Карскі, Труды, 313), зафіксавана ва ўкраінскай мове ў XIX ст. Першаснае значэнне ’вапняк’, хаця зарэгістравана яно на ўсходнеславянскай тэрыторыі толькі ў XVI ст. (Сразн ), ад гэтага значэння, паводле матэрыялу, *апокай* стала называцца ліцейная форма (рэгіструецца ва ўсходнеславянскіх мовах з XVII ст.), а пазней — рама для ліцейнай формы. Іншае разгалінаванне значэння ’вапняк’>’скала з вапняка (крэйды)’>’скала’>’камень’>’камяністы грунт’, ’фундамент’. Пашырэнне значэння ’скала’ ў старабеларускай і ўкраінскай, магчыма, адбылося шляхам запазычання з польскай ці царкоўнаславянскай. Этымалогія — перагаласоўка *e/o* да дзеяслоўнага кораня **pek-* (параўн. *пяку, пячора),* прынятая Міклашычам, 235, і Бернекерам IF, 13, 214, выклікае сумненні з боку семантыкі (Праабражэнскі, 1, 653). Чэш. форма з *u* замест *o* тлумачыцца кантамінацыяй з коранем **puk* ’трэскацца’ ў сувязі з тым, што апокавыя пароды часта трэскаюцца на пласты; у сувязі з гэтым Махэк₂ (416) лічыў чэшскую форму першаснай, а *-o-* ў іншых мовах паясняў вынікам асіміляцыі з першым *o;* апошняе малаверагодна. Прымаючы семантычны бок тлумачэння Махэка, Супрун (Веснік БДУ, 1970, 2, 83—84) звязвае корань слова *апока* з беларускім дзеясловам *покацца* ’трэскацца, расколвацца, расшчапляцца’ (гл.), звязаным, магчыма, з выклічнікам *пок* гукапераймальнага характару. Корань *пок-* адвечна быў варыянтам

кораня *пук-* з блізкім значэннем (гл. *апука₂*) ці быў пазней ім выцеснены.

**Апо'ка₂** 'цяжкі прадмет, напр. бервяно' (Крывіцкі ў Бяльк.), *апо́чча, апо́чына* 'палена, што кепска колецца'. Гэта далейшае развіццё значэння *апока₁*: 'скала'>'камень'>'цяжкі камень'>'цяжкі прадмет'. Праз выраз *ляжаць апокай* гэта значэнне пераносіцца і на чалавека: *апока* 'абібок, гультай, лодар' (Касп., Юрч., Бяльк., Серб., Мядзв.), *апочына* 'гультаішча' (Бялык.). Супрун, Веснік БДУ, 1970, 2, 84.

**Апо'ка₃** 'аб'ядала, п'яніца' (Нас.). Рус. смал. *опока* 'тс' (Дабр.). Параўн. *покала* 'абжора' (Нас.). Утворана ад дзеяслова *по́каць* 'жэрці' (Нас.) паводле мадэлі, блізкай да той, што ляжыць у аснове слова *аб'ядала;* магчыма, усечана з **апокала* пад уплывам *апока* 'гультай', кантамінацыя з якім, напэўна, адбывалася (гл. *апока₂*). Супрун, Веснік БДУ, 1970, 2, 84.

**Апо'лак,** *апо'л* (Сцяшк.), *абапалак* (Інстр. II) 'крайняя дошка з бервяна'. Рус. дыял. *ополок, обаполок* 'тс', укр. *обаполок, обапіл* 'тс', рус., укр. *ополок, обаполок* маюць таксама значэнне 'частка скуры на жываце' і 'ўскраіна'. Польск. *opołek* 'гарбыль'. *Аполак* утворана ад *полъ* 'бок, край' з прэфіксальным *о-* (>*а-*) і суфіксам *-ъкъ* (>*-ак*), як *акраек;* параўн. *абочына.* Агульнае значэнне 'тое, што з краю' (параўн. чэш. *opolí*) канкрэтызуецца па-рознаму ў розных выпадках, у прыватнасці 'дошка з краю бервяна'. Не выключана, што польскае з беларускай.

**Апо'лец** 'кавалак сала' (Сцяц., Сцяшк.). Геаграфія ўказвае на магчымасць, а фанетыка (*е* замест усх.-слав. *а*)—на верагоднасць таго, што гэта запазычанне з польск. *połeć* 'кавалак сала' з пратэтычным *а-*. Усх.-слав.: бел. *полць* 'палавіна гусі, качкі; палоска сала, выразаная ўздоўж' (Нас.), *польць, пульць* 'вялікі кавалак сала' (Вешт.), *полаць* 'кавалак сала', рус., укр. *полоть,* бел. *палаток,* рус., укр. *полоток* 'палавіна (частка) вэнджанай (соленай) тушы гусі і інш.' Але наогул галосны ў слове *полць, полаць* не зусім ясны. У *аполец -ец* у выніку дээтымалагізацыі ўсведамляецца як суфікс. Сцяц. (Нар., 65) бачыць тут прэфіксальна-суфіксальнае ўтварэнне: *а-пол-ец* па тыпу *азадак.* Больш падыходзячым быў бы тып *акраец;* пры такой этымалогіі няясна, што такое **пол* у тушы (*аполец* азначала б 'тое, што з боку — *полу'), таму гэта версія здаецца менш верагоднай, чым тлумачэнне слова як запазычанага.

**Апо́на** 'завеса, пакрыццё' (Гарэц., Др.-Падб.). Рус. устар., укр. *опона* 'тс'. Польск. устар., чэш., славац., славен. *opona* 'тс', серб.-харв. *опо̀на* 'перапонка'; *опона* 'завеса' вядома ўжо ў ст.-слав., а таксама ў старарускіх помніках з XII ст. і помніках старабеларускай мовы (Гіст. мовы, 1, 156) у блізкім значэнні. Праславянскае ўтварэнне ад кораня, прадстаўленага ў словах *пяць*$_2$ (гл.), *апінаць*. Нельга прыняць тэзіс аб запазычанні з гоц. *fana* 'сцяг', што прапанаваў Гірт, PBB, 23, 336, супраць чаго Фасмер, 3, 146; наўрад ці апраўдана думка Мейе (Études, 255) аб калькіраваным характары славянскага ўтварэння: прэфікс *о-* не адпавядае тым элементам, з якіх быццам адбывалася калькіраванне (грэч. *καταπέσμα* ці гоц. *faurhah*), а ўтварэнні з іншымі прэфіксамі і тым жа коранем (*попона, запон(ък)а, перепон(ък)а* і пад.) паказваюць, што гэта мадэль была прадуктыўнай у славянскіх мовах. Іншую літаратуру прыводзіць Праабражэнскі. Недакладна Голуб—Копечны аб выключна чэшскім характары слова. Як праславянскае разглядае Брукнер. Зэльв. *апона* 'пакрышка' (веласіпедная і г. д.) (Сцяц.) з польскай. Глуск. *апоня* 'шырокае, не дастасаванае да стану адзенне' (Янк. III) — адгалінаванне разглядаемага слова; магчыма, тут адбылася катамінацыя з *апанча* (гл.), таксама як у значэнні *апоня* 'чалавек, які носіць шырокае адзенне' (там жа), трэба ўлічваць магчымасць кантамінацыі з народным *апонец*<*японец* (КТС). *Апон* 'кашара' (ДАБМ, 784), магчыма, трэба разумець як 'месца, якое апінаецца' (г. зн. абмяжоўваецца); ст.-рус., ст.-бел. *прѣпона,* бел. *перапона* таксама абазначаюць месца. Параўн. Супрун, БЛ, 1, 69.

**Апо́рак** 'стары бот з адрэзанай халявай' (БРС). Значэнне 'нікчэмны чалавек', зафіксаванае ў Дукоры (Жд.),— перанос асноўнага, пашыранага паўсюдна; параўн. 'зношаны абутак' (Янк. Мат.), 'абутак з лыка' (Інстр. I). Рус. *опорок* 'стары зношаны абутак', 'распораты з бакоў стары бот', 'ніз вопраткі, падкладка, футра, з якога спораты верх', *опорыш* 'апорак', а таксама 'халява, спаратая з бота'; укр. дыял. *опорки* 'апоркі'. Славен. *opȏrek* 'аборка; ануча на боце, да якой прымацоўваецца спражка ці шнурок',— хутчэй за ўсё аўтаномная паралельная форма. Ад *апароць* (<*опороти*) 'распароць' з суфіксам *-ак (-ъкъ)*: 'апораты бот' (Сцяц., Нар., 153—154).

**Апо́стал** 'паслядоўнік пэўнага вучэння (першапачаткова адзін з 12 вучняў Хрыста)'; 'кніга, якая ўключае пэўную частку Новага завету'. З першых пісьмовых помнікаў усходнеславянскіх і наогул славянскіх моў. Ва ўсходнеславянскіх

са ст.-слав. *апостолъ* 'пасланнік божы', 'кніга' (Шанскі, 1, А, 129) <грэч. *ἀπόστολος* 'тс' (Фасмер, 1, 81; Фасмер, Этюды, 33), якое ўтворана ад *ἀποστέλλω* 'пасылаць'. З грэчаскай у лацінскую і іншыя мовы хрысціянскіх народаў.

**Апо'сталы** *жарт.* 'пра абутак, звычайна завялікі, не зусім прыдатны дляноскі' (Сцяц.), *апасталы* 'плецены абутак са скуры' (Інстр. III), *апа́стал* 'скураны лапаць' (Касп.). З *пасталы* (гл.) з пратэтычным *а-*. Зэльвенская форма з націскам на другім складзе пад уздзеяннем *апостал* (гл.), на што можа ўказваць і жартаўлівы характар пераасэнсавання.

**Апо'ўзіна** 'прыстасаванне з вітых галінак ці жэрдак для ўтрымання сена ці саломы на стагу, возе, страсе' (Чабярук, Працы, ІМ, 7, 136, 138; Янк. I; Мат. Гродз.), *апоўзліна* (Янк. Мат.), *апоўзнік, апоўзняк* (Шушк.), пэўна сюды ж *опоўзнік* 'маладыя дрэўцы' (<'галінкі, якія выкарыстоўваюцца як апоўзіны') (Арх. ГУ). Малчанава (Мат. культ., 44) піша: «каб такую страху не раскідаў вецер, ...накладвалі 12—15 пар «апоўзнікаў» — зрубленых пад корань тонкіх доўгіх бярозак, звязаных верхавінамі папарна». Укр. жытом. *оповзина* 'апоўзіна'. Хаця цяпер для папярэджання апаўзання ўжываюцца «тычкі», а не апоўзіны, назва *апоўзіна*, напэўна, адлюстроўвае недыферэнцыраванне гэтай прылады для папярэджання апаўзання саломы ці сена ўніз.

**Апо'ўзлы** 'аблезлы' (Янк. БП, 467, Касп., Янк. I, Янк. Мат.); у выразе *жаба апоўзлая* (варыянт — *жаба аблезлая* — Янкоўскі, докт. дыс., 1, 188) указвае на нікчэмнасць чалавека. *Апоўзлік* 'нязграбны, нікчэмны, слабы, закажанелы чалавек' (Мядзв., Інстр. III, Янк. Мат., Касп.), 'нязграбнае, непаслухмянае дзіця' (Мядзв., Янк. Мат., Сцяц.); *апо́ўзіна* 'неахайны чалавек' (Сцяшк., Янк. II). Параўн. ст.-рус. *опълзти* 'апляшывець'. Выключна беларускія пераносныя значэнні даюць уяўленне аб жабе пасля ліңькі (параўн. рус. *выползина, выползок* 'скурка жывёлы пасля ліңькі'; *выползень* 'насякомае, якое выпаўзла з лічынкі', 'цёмны чалавек, які з'явіўся невядома адкуль') ці аб абвіслым, азызлым, лысым чалавеку (параўн. рус. *оползень* 'аблезлае футра', славен. *opolzniti* 'аблысець'). Нельга цалкам адкінуць і магчымасць іншага семантычнага развіцця, зафіксаванага ў чэш. *oplzlý* 'слізкі', адкуль 'бессаромны'.

**Апо'шні**. Выключна беларускае слова (Гіст. мовы, 2, 137). З *опо́сльний,* утворанага ад прыслоўя *апо́сле* (Нас.), *апослі* (Бяльк.) 'пасля', адзначаемага ўжо ў 1478 г. (Карскі, 1, 135), *опошле* 'тс' (1562 — Карскі, Труды, 206); параўн. *апаследний*

(Карскі, 1, 261), рус. дыял. *опоследний* (СРНГ, 1, 265). Словы не супастаўляецца з укр. *опішний* 'лянівы, марудны' (Краўчук, Бел. лекс., 85).

**Апраба'цыя**$_1$ 'адабрэнне' (БРС, Нас.), *апрабаваць*. Рус. *апробация, апробировать,* укр. *апробація, апробувати,* польск. *aprobata, aprobacja* і інш. У рускай з польскай у пачатку XVIII ст. (Шанскі, 1, А, 132). Ст.-бел. *апробация* (Вясноў, Бел. лекс., 34), *апробовати* (Гіст. лекс., 111), ст.-укр. *апробация* з пач. XVII ст. (Цімчанка) запазычана з лацінскай, магчыма, праз польскае пасрэдніцтва (у польскай з лац. *approbatio* ў сярэдзіне XVI ст.). Лац. з *ad-probo* (*probo* 'выпрабоўваць; адабраць'); *probus* 'добры, дабраякасны, чэсны, сціплы' <**pro-bho-s*).

**Апраба'цыя**$_2$ 'праверка'. Этымалагічна тое ж самае, што і *апрабацыя*$_1$, але семантычна захоўвае сувязь з *проба, прабаваць*. Магчыма, што гэта значэнне — пазнейшае, калі яно звязваецца з *апрабаваць* (рус. *опрóбовать*), а не *апробúровать*, як *апрабацыя*$_1$.

**Апра'ва** 'рамка, аклад абраза; пераплёт кніжкі'. Рус. *оправа* 'рамка, аклад', укр. *оправа* 'пераплёт; рамка, аклад', польск. *oprawa* 'пераплёт, рамка'. Да *апраўляць* 'апрацоўваць, прыводзіць у адпаведны выгляд', адкуль і 'ўстаўляць у аправу'. Значэнні 'рамка' і 'аправа абраза' адносна новыя з больш старога *аправа* 'рамка'. Ст.-бел. *оправа* 'паправа, наладка' (магчыма, з чэшскай, сустракаецца ў Скарыны, хаця вядома і ў старапольскай); 'дакумент на права карыстання маёмасцю' і 'маёмасць, запісаная на чыёсьці імя' (Юрэвіч—Яновіч, Бел. мова, 97), звязана са старапольскім значэннем дзеяслова *oprawić* 'забяспечыць', ст.-бел. *оправити* 'ўзнагародзіць' (Гарб.). Семантычны пераход у дзеяслове, магчыма, такі: 'паправіць, прывесці ў адпаведны выгляд, зрабіць аправу' і 'паправіць (матэрыяльнае становішча), запісаць маёмасць, узнагародзіць'.

**Апраме'тная** 'пекла', *апрамéтны* 'пякельны, сапраўдны' (БРС), *вопрамець* 'хутка' (Бяльк.); рус. *опрометный* 'легкадумны', *опрометью* 'хутка, шпарка', *опрометывать* 'не папасці ў цэль, кінуць няўдала', *опрометнуться* 'кінуцца, пабегчы', смален. *вопрымя* 'хутка' (Дабр.), укр. *промітний* 'спрытны'. Бернекер (2, 40) высунуў думку пра сувязь рус. *опрометью* з *метать,* як прымае Фасмер (3, 146) і з пэўнымі ўдакладненнямі Шанскі (КЭСРЯ, 234). Бел. семантыка, аднак, патрабуе далейшых удакладненняў для *апраметны, апраметная*. Магчыма, з **окромѣшная*<*кромѣшная*; у выніку дээтымалагізацыі.

*Тьма кромѣшьная* 'знешняя цемра' (адзначаецца ўжо ў Астраміравым евангеллі (1056)), 'месца пакарання нягоднага раба, пекла'.

**Апрана́ць**$_1$, *апранацца, апрануць, апрануцца, апранаха,* магчыма, сюды ж уласнае імя *Апраніч* (ад **апрана* 'адзенне' — Бірыла, Бел. антр., 2, 22). Рус. дыял. *опрянать(ся), опрянуть(ся)* 'адзець, накрыць'. Ст.-бел. (XV ст.) *опрянути* 'асядлаць' (Карскі, Труды, 313). Ад **ob-prę̨t-nǫti, *prę̨tati* 'хаваць' (гл. *апратаць*). Трубачоў, пісьм. паведамл. У тлумачэнні Супруна (Веснік БДУ, 1971, 2, 62—64) памылковае сумяшчэнне *апранаць*$_1$ і *апранаць*$_2$.

**Апрана́ць**$_2$, *апрануць, опрянуць, опрянуцца* 'моцна ўдарыць, ударыцца' (Касп., Нас.). Ад зафіксаванага ў Насовіча *пpaнуць (прянуць)* 'ударыць' (гл.). Супрун (Веснік БДУ, 1971, 2, 62—64) памылкова сумяшчае з *апранаць*$_2$ слова *апранаць*$_1$, якое мае іншае тлумачэнне (гл.).

**Апрандава́ць** 'паважаць' (гродз., А. П. Цыхун, пісьм. паведамл.). З польск. *aprendować* 'прызнаваць' (Вечаркевіч, Słownik) < франц. *apprendre* 'пазнаваць'.

**Апраста́ць** 'звольніць', 'зрабіць пустым'. Гл. *прастаць*.

**Апрата́ць** (БРС), *апра́тваць* (Сцяц.), *апря́тывыць, -цца* (Бяльк.), *апра́та́цца* (Сцяшк.); *апра́таць, -ацца, -ваць* 'агледзець, памыць (дзіця, сябе, хворага, нябожчыка)' (Янк. II); *апратка* (Яруш., Гарэц., Др.-Падб., Сцяшк., Жд.), *опратка* (Клім.), *вопратка* (БРС). Рус. дыял. *опрятывать(ся)* 'прыбіраць, прыводзіць у парадак; памыць, вычасаць, апрануць; пахаваць нябожчыка, абмыць, адзець яго', рус. *опрятный* 'ахайны' (аб яго паходжанні Булахоўскі, Труды ИРЯ, 1, 180—181; Львоў, РР, 1968, 3, 66), укр. *опрятувати, опратувати, прятати, опратати* 'прыбраць; апрануцца ў прыгожае адзенне'; *прятати* 'ўбіраць, хаваць нябожчыка'; *апратний* 'ёмкі' (Паламарчук, ЛБ, 6), польск. *oprzątać* 'убіраць, у прыватнасці наглядаць за дамашняй жывёлай', *sprzątać* 'прыбіраць, убіраць', славац. *spratat'* 'убіраць, хаваць; есці', *spratný* 'ёмкі; уступчывы (пра чалавека)', балг. *опретвам* 'пачынаю працу, рыхтуюся да працы', *запретвам* 'пачынаю працу, закасваю рукавы', серб.-харв. *за̀претати* 'засыпаць вуголле попелам', магчыма (паводле Праабражэнскага, Фасмера), славен. *spréten* 'спрытны, лоўкі', ст.-бел. *опрятка* (Анічэнка, Праблемы філал., 11), *опратали* 'абмылі' (1562, Карскі, Труды, 206). Ст.-рус. *опрятати* 'ўбраць, укрыць; падрыхтаваць нябожчыка да пахавання', *опрятатися* 'прыбраць сябе, падрыхтавацца да

смерці', ст.-слав. **пратати** 'ўціскаць, стрымліваць'. *Апратаць* ад **pręt(ati)* 'хаваць' *(//*prǫt-)* з развіццём значэнняў: 'пакрываць'>'апранаць'>'чапурыцца' ці 'хаваць непатрэбныя рэчы'>'убіраць'>'мыць'; 'хаваць нябожчыка'>'рыхтаваць да пахавання'>'мыць'. Гэтыя значэнні ў сваім развіцці перакрыжоўваліся. Беларуская мова найбольш развіла ў словах *вопратка (апратка), апратаць* значэнні 'адзець', што дае пэўную падставу для сцвярджэння аб «уласнабеларускім» характары згаданых слоў (адпаведныя рускія і ўкраінскія факты пашыраны найбольш на тэрыторыі, блізкай да Беларусі). Супрун, Веснік БДУ, 1971, 2, 62—64. Гл. *апранаць*$_1$.

**Апрача'**, *апро́ч* 'акрамя', *апро́ч* 'асобна' (Янк. Мат., Янк. I, Яруш.), *апры́ч* 'апрача' (Касп.), *апрі́ч* 'апрача, асобна' (Бяльк., Яруш.), *опричёнки* (Мядзв.), *апрічо́ннік, апрічо́ння* 'асобніна, прыгатаванае асобна' (Бяльк.). Ст.-рус. *опрочь, опроче* 'апрача; асобна', *опричь* 'апрача', адкуль у старабеларускую мову ўжо ў XV ст. (Карскі, 1, 69). Рус. *опри́чь* 'апрача', дыял. *опричи́, опро́чь, опрочи́*, укр. *опрі́ч, опрі́че*, дыял. *опро́че* 'апрача', 'асобна'. Польск. *oprócz, prócz* 'апрача', памор. *proč* 'тс', ст.-польск. *oprócz* 'без', 'акрамя'. Магчыма, славен. *opríčen*, 'сучасны', *pròč* 'прэч'. Формы з карэнным *о/а* і *і/ы* маюць, напэўна, рознае паходжанне, прычым першасна *апроч, апрача* азначала 'акрамя, апрача', *апрыч* і пад. 'асобна'; пазней адбылася кантамінацыя значэнняў, у выніку чаго цяпер абодва гэтыя значэнні ёсць у абедзвюх формах. *Апроч, апрача* — роднасныя з рус. *прочий* 'іншы', *прочь* 'прэч' і пад., якія Фасмер (3, 386) слушна выводзіць з кораня **prok-* услед за Міклашычам, Младэнавым, Брукнерам, Праабражэнскім. Ст.-слав. *прокъ* азначала 'астатак', а *прочей* тлумачылася як параўнальная форма да прыметніка *прокъ, прокыи* 'лішні'. *а*-трэба лічыць хутчэй за ўсё пратэзай. Заходнеславянскія формы з *-е-* (польск. *precz*>бел. *прэч*) тлумачаць як рэфлекс форм з *-ъ-* (адкуль і *-о-* ў рус. *прочь*) (Голуб — Копечны, 298). Формы *апрыч* і пад., магчыма, роднасныя з чэш. *pryč* 'прэч'; тлумачэнне вакалізму як звязанага з *ъ, о, а* тут сустракаецца з пэўнымі цяжкасцямі (гл. Праабражэнскі, 1, 654; Брукнер, 437). Старажытнарускія формы *опришь, опрись, оприсьнъ* (побач з *опричьнъ*), укр. *опришок* 'разбойнік' (<'чужы', 'асобны'?) указваюць на магчымасць трактаваць *ч* як замену былога *ш* ці *с*, якія ў сваю чаргу звязаны з *х*; і.-е. коранем слова магло б быць **preus* (Покарны, 809—810, 845), параўн. *прыскаць, прышч* ('тое, што выскачыла з-пад скуры'); для значэння 'разбойнік' параўн. *выскачка* 'той, хто выскаквае з агульнай групы', для значэння 'асобна' — 'тое,

што выскаквае з адзінай групы'. Гэта гіпотэза паходжання нявытлумачанага слова патрабуе, аднак, пэўных удакладненняў у сувязі з ст.-бел. *опришный* (XV ст., Карскі, Труды, 313), *опришне* (XV ст., Карскі, 1, 389), *опричьный* 'асобны, спецыяльны, уласны' (1562, Карскі, Труды, 206). Параўн. Хрэст. гіст., 1, 483; Гіст. мовы, 1, 107, 196. Булахаў (Працы ІМ, 7, 142) няўпэўнена сцвярджае, што ў такіх прыкладах *шн* на месцы *чьн* фанетычна. Але Карскі (1, 389) адзначаў, што ў старажытных помніках такая з'ява вельмі рэдкая, а прыклады даў толькі са словам *опришный, опришне*; Гіст. лекс., 92, адносіць *опришный* да паланізмаў, запазычаных у XV ст., аднак у польскай мове таго часу такое слова не адзначаецца.

**Апруда**$_1$ 'гультай, абжора' (Касп.). Няясна. Параўн. літ. *aprūdìjęs* 'іржавы'.

**Апруда**$_2$ 'смерць', віц. (П. В. Садоўскі, вусн. паведамл.). У выразе *хай цябе апруда* 'каб ты здох'. Параўн. *апрудзіцца, апруцянець.*

**Апру'дзіцца** 'цяжка захварэць, акалець' (Касп.), рус. арх. *опру́дить* 'пазбавіць жыцця (безасаб.)'; *прудить(ся)* 'мачыцца ў пасцель'; арл., *прудиться* 'грэцца каля агню і абіраць насякомых', укр. *прудити(ся)* 'выганяць, давіць насякомых з адзення'. Толькі першае рускае значэнне супадае з беларускім; іншыя, магчыма, абазначаюць дзеянні, звязаныя з хваробай, старэннем, яны, напэўна, звязаны этымалагічна з *прудить(ся)* 'хутка цячы'<'гнаць', што вынікла з *прудить* 'рабіць запруду'; параўн., аднак, *пудзіць.* Калі б не арханг. *опрудить,* магчыма, трэба было б параўнаць беларускае слова з літ. *aprūdýti* 'ржавець'. Параўн. яшчэ *апрындзіцца.* Гл. *апруда*$_2$.

**Апру'ды** 'паз у ніжняй частцы бочкі, у які ўстаўляюць дно' (Інстр. I). Гл. *абруд.*

***Апру'к,** *опру́к* (ДАБМ, 886). Гл. *вяпрук.*

**Апруцяне'ць** 'адубець, скарчанець' (БРС), 'здохнуць, памерці' (Янк. Мат., Інстр. III), *апруця́ць, опруцяне́ць* (Янк. Мат.) Выключна беларускае. Утворана па прэфіксальна-суфіксальнай мадэлі ад прыметніка са значэннем 'стаць такім (цвёрдым), як прут', параўн. *адубець, акалець; ледзянець, дзеравянець.* Магчыма, эвфемістычная метатэза з *атрупянець.*

**Апры'кнуць** 'надакучыць' (Бяльк.). *Апрыклы, апрыкліцца* (Яруш., Гарэц.) у сувязі з формай прошлага часу. З *о-прык-ну-ць.* Гл. *прыкры.*

**Апры'ндзіцца** 'здохнуць' (Жд.). Магчыма, экспрэсіўны варыянт *апрэгчыся,* прычым паяўленне *-н-* можа тлумачыцца і наяўнасцю гіпатэтычнага польскага адпаведніка з насавым галосным. Параўн. яшчэ літ. *aprìmti* 'супакоіцца', лат. *aprèmdêt, aprèmdinat* 'супакоіць, ахаладзіць'; гэты ж дзеяслоў выступае ў форме *aprindinât.* З другога боку, ці не трэба тут параўнаць з рус. *прунда* 'чалавек, які хварэе нетрыманнем мачы', пры *прудить(ся)* 'мачыцца ў пасцель', тады *апрындзіцца* непасрэдна можна звязаць з *апрудзіцца* (гл.).

**Апры'склівы** *(априскливый)* 'запальчывы, капрызны, упарты' (Яруш., Нас.); *апры́сак* 'упарты, капрызны' (Гарэц., Нас.); *апры́скліва* (Др.-Падб., Гарэц.), *апры́склівасць* 'запальчывасць' (Яруш.). Рус. дыял. зах. *опрыснуть* 'ускіпець' (пераноснае), *опрыскливый* 'запальчывы,' укр. *оприскливый* 'тс', з *оприском* 'запальчыва', польск. *opryskliwy* 'запальчывы'. Для ўзнікнення пераноснага значэння дзеяслова (суф. *-лів-* звычайна далучаецца да дзеяслоўных асноў) важна польск. *pryskać* 'ламацца, разлятацца, лопацца на дробныя кавалкі' і перан. 'лопнуць' (аб надзеі, настроі і г. д.), адкуль недалёка і да 'лопнуць' (аб спакоі, цярпенні), 'ускіпець'. Наяўнасць заходнерускага дзеяслова *опрыснуть,* беларускіх, украінскіх бяссуфіксных назоўнікаў робіць непатрэбным, хаця і не выключае дапушчэнне аб запазычанні з польскай мовы. Словы маглі ўтварыцца на захадзе ўсходнеславянскай тэрыторыі.

**Апрэ'гчыся** 'здохнуць' (БРС), 'згарэць ад віна, прагі, жадання' (Гарэц.), 'абапіцца' (Бяльк.), *апрэжца* 'апрэгчыся' (Бяльк.), *апрагчыся* 'набракнуць ад збытку спажытага' (Др.-Падб.), *апрага́цца* 'рабіць нешта з прагаю: спаць, есці, піць' (Касп.), *опрегаець* 'паліць, мучыць' (Нас.), *опрегацьца, опрёгся* 'знясільвацца, згараць ад прагі; згараць ад гарэлкі' (Нас.), *апрогліца* 'ненаедлівасць' (Бір. дыс.). Укр. *опрягтися* 'памерці, здохнуць', *опряга* 'смерць', *опрягнути* 'акружыць', *пружати* 'мучыць', рус. кастр. *опрягать* 'жарыць', паўн. *опруживать* 'апракінуць', *опружеть* 'стаць цвёрдым', ст.-рус. *опрягнути* 'налегчы, наперці з усіх бакоў'. Розныя значэнні беларускіх слоў, магчыма, тлумачацца як вынік кантамінацыі шэрагу кораняў: *праг-а* 'жаданне' (адкуль: 'рабіць з прагаю, набракнуць ад збытку, абапіцца'), *праг-* (з *пряг-/пряж-*) 'жарыць' (адкуль: 'згараць ад гарэлкі, прагі; паліць') і *праг-* (з *пряг-/пруг-/пряж-*) 'станавіцца пругкім, цвёрдым', адкуль 'здохнуць' (параўн. *акалець* 'стаць як кол', *апруцянець* і пад.).

**Апрэ́ль**, *апры́ль* 'красавік'. Ст.-слав., ст.-рус. *априль* з ст.-грэч. ἀπρίλιος<лац. *aprilis* (Фасмер, 1, 82), ст.-бел. *априль* (Александрыя, 123) працягвае гэту форму грэчаскага паходжання (Гіст. лекс., 122), а не з'яўляецца лацінізмам, як лічыць Вясноў (Бел. лекс., 36), польск. *apryl(is)* рэдка (двойчы) зафіксавана ў XVI ст. (Sł. XVI), наўрад ці ст.-бел. адсюль. *Апрэль* у Дуніна-Марцінкевіча — русізм (Шакун, Гісторыя, 215), магчыма, з рускай і *апрэль* у «Нашай ніве» 1909 (Гіст. мовы, 2, 139). Рускае *е* замест *и* з 1405 (Шанскі, 1, А, 132) Сабалеўскі тлумачыць як вынік спачатку графічнага абазначэння *ѣ* замест *и*, а потым прачытання яго (Лекции, 85). Такое ж паходжанне, улічваючы цесныя ўкраінска-беларускія пісьмова-моўныя сувязі, мае і ст.-бел. *апрель* (Гіст. лекс., 122), *апрелевый* (Булахаў, Працы ІМ, 7, 147).

**Апрэ́снік**, *опрíснок* 'праснак' (КТС, Інстр. I, Лекс. Палесся, 115—116), *оприснячок* 'рытуальны хлябец, які выпякаецца ў час пахавання нябожчыка' (Клім.). Рус. *опре́сно́к* 'праснак', 'маца', *опресноки* 'яўрэйская пасха', укр. *опрíснок* 'праснак', *опрíсноки* 'пасха'. Польск. *oprzasnek* 'праснак', славац. *opresek* 'тс', славен. *oprệsnik* 'тс'. У чэш., польск. без *о-*: *přesník, przaśnik* 'праснак', 'маца'. Ст.-слав. *опрѣснъкъ,* ст.-рус. *опрѣснъкъ, -окъ* 'праснак, маца, каталіцкая прасвіра' (Сразн.), ст.-бел., ст.-укр. *опрѣснокъ* 'безквасие' (Бярында). Суфіксальна-прэфіксальнае ўтварэнне ад *прэсн-ы;* беларускі суфікс *-ік,* магчыма, у выніку словатворчай перапрацоўкі ст.-рус. з суфіксам *-ъкъ,* як і ў славенскай, ці ў выніку кантамінацыі дзвюх форм: *опрѣснъкъ* і *прѣсникъ* (адкуль чэшскія, польскія формы).

**Апсі́к**, *псік* 'вокліч для адгону катоў' (РБС, Касп., Бесар., Нас.), *псíкаць* (Нас.). Рус. дыял. (зах.) *псик,* укр. дыял. (лемк.) *псик,* польск. *a psik* 'вокліч для адгону катоў; гукапераймальнае пра чыханне', разм. *apsik, dać apsik* 'даць па носе' (Вечаркевіч), славен. *psîk* 'шыпенне'. Літ. дыял. *apsìk* 'вокліч для адгону катоў'. Пашырэнне ў асноўным на польскай і беларускай тэрыторыі робіць малаверагодным дапушчэнне Бесар., 40, аб паходжанні *апсік* з цюркскай назвы кошкі *пшик (бышык, пышык, мышык).* Няма пэўнасці і ў этымалогіі, якую прыводзіць Германовіч, Междометия, 63, аб сувязі слоў *апсік, псік* з назвай сабакі *пёс (*pьsъ),* таму што гэты вокліч ужываецца па наяўных даных толькі для адгону катоў. Магчыма, трэба тлумачыць як гукапераймальнае слова, якое перадае гук, які быццам вымаўляе кошка для выражэння незадаволення; на гукапераймальны характар указвае фікса-

цыя гукакомплексу прынамсі ў двух выпадках (славенскім і польскім) у яўна гукапераймальным значэнні.

**Апсо′м** ’знянацку, хутка’ (Юрч.), *аптэ́сам* ’тс’ (Касп.). З польск. *obcesem, obsesem* ’нахабна, знянацку’, ад *obces, obses* з лац. (сярэдневяковага) *obsessus* ’апантаны’ (Дарашэўскі, 415); слова вядома ў старапольскай мове да XVIII ст. толькі ў форме тыпу *obses*. Беларускія формы ўзніклі ў выніку гукавых змен: *апсом* як творны склон слова **обс<*обсс <*обсъс<*ӧбсас*; *аптэсам* з *абцэсам,* магчыма, у выніку субстытуцыі (*т* на месцы *ц*); у абодвух выпадках *б* перад глухім давала *п*. Гл. *абцэсам.*

**Аптэ′ка.** Дыял. *гапты́ка*. Ст.-бел. *аптыка* (Булыка, Запазыч.), *аптека, аптекаръ, аптекарка* (Гіст. лекс., 154—155). Рус. *аптека* (з XVII ст.; таксама ў форме *оптека, абтыка; аптекарь* с 1583 — Шанскі, 1, А, 133. У XIX ст. фіксуецца таксама *апотека)*. Укр. *аптека,* дыял. *аптика* з XVI ст.; *аптекаръ* з XVII ст. Першыя аптэкі на тэрыторыі Беларусі ў Пінску (1561) і Брэсце (1566) (БелСЭ, 1, 399). Рус.-ц.-слав. *апотека* (XIV ці XV ст.) ’свіран’ (Міклашыч, Lex. palaeosl). Польск. *apteka,* дыял. *aptyka, haptyka* (з XV ст. *apoteka,* з XVI ст. *apteka)*. Беларускае слова з польскай (а не з рускай, як лічыў Крукоўскі, Уплыў, 88), дзе *apoteka* з чэшскай (Рэчак, Bohemizmy, 31) ці непасрэдна з лацінскай (Клеменсевіч, 145), а *apteka* з нямецкай (н.-ням. *aptek,* балт.-ням. *aptheke* (Саднік — Айцэтмюлер, 1, 23). Крыніцай нямецкага і чэшскага, а магчыма, і польскага слова была лацінская мова, у якой у сярэднія вякі ўжо было вядома спецыялізаванае значэнне ’магазін лякарстваў’. Лац. *apotheca* і рус.-ц.-слав. *апотека* з грэч. ἀποϑήκη ’склад, свіран’. У бел. дыял. *гаптыка г* можа быць і беларускай з’явай, а *ы* хутчэй за ўсё з польскай, дзе, магчыма, з чэшскай, а магчыма, і на ўласнай глебе.

**Апу′дзіла** ’пудзіла’ (Янк. I). Сюды ж *апу́дала* ’чалавек неахайнага выгляду, сонны, непаваротлівы’ (Куч.), а таксама *опу́дына* ’шырокае не па памеры адзенне’ (Клім.). Укр. *опудало* ’пудзіла’. Утвораны ад дзеяслова *пудзіць* (гл.), як і *пудзіла* з пратэтычным ці прэфіксальным *а-*.

**Апу′ка**$_1$ ’самаробны мяч і гульня з ім’ (БелСЭ, ЭШ), *апока* (Грыг., 241). Рус. зах. смал., бранск. *опука, апука* ’тс’, укр. *опука* ’мяч’, ’выпуклая часціна, напрыклад, у бочкі’. Утворана ад дзеяслова **опукати* ’станавіцца выпуклым, надувацца’ па ўзору *аплата, асада* і г. д. Параўн. укр. *опук*

’выпукласць’, *опукий* ’выпуклы’, бел. *выпуклы, пучыць* і г. д. Супрун, Веснік БДУ, 1970, 1, 82—83.

**Апу′ка₂** ’лісце жыта на пэўным этапе развіцця’ (запіс Л. Ц. Выгоннай — аршан., Г. Ф. Вештарт — мядз.). Рус. смал. *апук* ’тс’. Для ўтварэння гэтага слова важны дзеяслоў *распукнуцца* (слуц., староб., кап.— вусн. паведамл. П. П. Шубы) пра вішні, яблыні і г. д., калі лопнулі покаўкі і хутка з’явяцца кветкі. *Апука* — пераход ад этапа пер’я, калі расліна тоненькая, да красавання, калі расліна ператвараецца ў *пук,* г. зн. у больш выпуклую форму; таму, як і *апука*₁, гэта слова ўтворана, пэўна, ад дзеяслова **опукати,* які меў яшчэ і такое адценне значэння, якое давала яму магчымасць характарызаваць расліну.

**Апу′ліцца** ’стаяць (сядзець) у стане нерухомасці, абыякавасці і безжыццёвасці, нагадваючы хворую курыцу’ (Янк. II), *апуліць* ’аслабець’ (Гайдукевіч, Працы IM, 6, 58). Балг., мак. *опули* ’вытрашчыць (вочы)’, *опулено* ’пільна’ (глядзець), чэш. *pouliti*, славац. *púlit’*, ’вытрашчаць (вочы)’, укр. *випулити* ’вытрашчыць’. Параўн. бел. *пуля́ты* ’такі, што мае вялікія вытрашчаныя вочы’ (Янк. Мат., 79). Праслав. **puliti,* відаць, азначала ’высоўвацца, выпірацца, вытрашчацца’ і звязана з і.-е. коранем **pu-*, **pou-*, **peu-*, **phu-* ’набухаць, надувацца, уздувацца’ (Покарны, 847), які быў пашыраны дэтэрмінатывам **-l-*. Бернекер, 1, 100; Махэк₂, 62, 76, 341; Фасмер, 1, 240; Супрун, Веснік БДУ, 1974, 2, 20—25.

**Апунды′рыцца** ’ўздуцца (пра жывот)’ (Касп.). Напэўна, звязана з *пуза,* рус. дыял. *пуздро* ’жывот’, укр. *пуздратий* ’тоўсты, з вялікім жыватом’, *пуздракуватий* ’азызлы’ з заменай у групе *здр з* на *н* і ўстаўным *ы* па ўзору *пузыр.*

**Апуска′ць.** Гл. *пускаць.*

**Апу′склівы** ’неахайны’ (БРС), пэўна, тут дэрывацыя ад дзеяслова *апускацца* ў пераносным значэнні, адсюль і словы *апушчэ́льнік* ’нядбайны гаспадар’, *апушчэ́нец* ’нядбайны гаспадар, гультай’ (Бяльк.), ’неахайны, лодар’ (Юрч.), *апу́шчанік* ’тс’. (Сцяц.).

**Апу′ха** ’аблямоўка кажуха’ (БРС), ’дошкі, якія прымацоўваюцца на краях саламянай страхі’ (Інстр. I, Мат. Гродз., Бірыла, Бел. антр., 2, 22). Рус. зах. *опуха*, рус., укр. *опушка,* польск. *opucha* ’футравая аблямоўка’. Рус. значэнне ’край лесу’, як і бел. ’дошкі на краю страхі’, трэба лічыць пераносным ад ’аблямоўка адзення’. Агульнапрынятае тлумачэнне рус. *опушка* ад ст.-рус. *опушити* ’аблямаваць’ (суч.

бел. *апушыць*), звязанага з *пухъ* (Булахоўскі, Труды ИРЯ, 1, 159; Фасмер, 3, 147). Ст.-бел. *опуха* ўтворана, пэўна, у сувязі з гэтым жа дзеясловам (параўн. ст.-рус. *просуха, прогрѣха, потѣха, утѣха*). *Апушына* 'дошка з краю страхі' <*апух+ина.*

**Апу́цак**, *спо́цак* 'тоўсценькі чалавечак' (Гарэц., Др.-Падб.). Гл. *пуцок.*

**Апушы́ць**₁ 'падвергнуць уздзеянню трунка': «Мяне піва апушы́ла» (Федар., 6, 21); магчыма, сюды ж *апаха́ць* 'дрыхнуць' (Грыг.; У Грыгаровіча сустракаецца замена *у* на *а, о*). Рус. дыял. *пухнуць* 'дрыхнуць', польск. *puszyć* (галаву трункам) (Тувім, Słownik). Няясна. Магчыма, значэнне 'спаць' узнікла ў выніку пераносу гукапераймальнага *пухкаць* 'дыхаць' (параўн. балг. *пу́хам* 'дышу'), а магчыма, такое значэнне звязана з ацёкамі, апуханнем у выніку сну. Гл. *пушыць.*

**Апу́шыць**₂, *опу́шываты* 'сядзець на вуллі' — дзеянне, звязанае з раеннем пчол (Анох.). Славен. *pušiti* 'рыхтавацца да раення'. Няясна. Магчыма, звязана з *апушыць*₁. Гл. *пушыць, пух.*

**Апшы́т** 'выгнанне' (Гарэц.) 'адстаўка' (Нас., Шпіл.), 'дрэнны атэстат' (Нас.). Рус. *абшит* 'адстаўка' з Пятроўскай эпохі з ням. *Abschied*, магчыма, праз польск. *abszyt* (Шанскі, 1, А, 23; Фасмер, 1, 58), укр. *абшит.* Ст.-польск. *abszyt* 'адстаўка', *abszytować* 'адпраўляцца ў адстаўку'. Беларускае слова з польскай, на што ўказваюць словы *апшитовать, апшитованый,* фіксуемыя Насовічам, якія не адзначаюцца ў рускай мове, але вядомыя польскай.

**Апыну́цца** 'аказацца ў пэўным месцы, папасці ў пэўнае становішча'; *апыніцца* (Яруш., Мядзв., Сцяшк.), *апыняцца* (Др.-Падб.). Укр. *опинитися,* дыял. рус. (паўдн., зах.) *опынуться* 'тс'. Параўн. *спыніцца, прыпынак, перапынак,* укр. *перепинок, спинитися, зупинка* 'прыстанак' і інш. Дзеяслоў утвораны з прыстаўкай *о-* і коранем **pin-* (гл. *пяць*₂). Фанетыка ўказвае на магчымасць запазычання слоў з гэтым коранем з украінскай мовы, хаця нельга выключыць узнікнення *ы* ў выніку альтэрнацыі галосных (мала тыповай). *-у-* ўзнікла ў выніку народнаэтымалагічнага разумення суфікса *-ну-*.

**Апыта́ць** 'даведацца, знайсці' (Касп.). Гл. *пытаць.*

**Апы́хтарыць** 'знайсці' (Янк. Мат., 133). Няясна.

**Апялю́ха** 'шырокая трэска' (БРС, абл.). Параўн. укр. *пелюстка* 'капусны ліст', а таксама 'шырокі зубец, што знаходзіцца па баках тонкіх зубоў у прадзільным грэбні' і *пелёхати* 'рваць нешта ў вялікай колькасці'. Магчыма, пачаткова

*пелюха* (суч. укр. 'пялюшка' побач з *пелюшка* 'тс') азначала тонкі слой чагосьці, што здымаецца з якога-небудзь прадмета, напр. ліст з капусты, у тым ліку і шырокую трэску, якая аддзяляецца ад дрэва. Гл. *пялюшка*.

**Апя'рыць** 'пабіць' (Янк. Мат., 94). Гл. *перыць*.

**Апя'ць** 'зноў' (гродз., Афанасьеў, № 134). Рус. *опять*, укр. *оп'ять*, чэш. *opět*, славац. *opät'* 'зноў', серб.-харв. *ȍпет* 'назад'. Ст.-рус. *опять* 'зноў', ст.-бел. *опять* (Гіст. мовы, 55, 127). Агульнаславянскае слова, утворанае з прэфіксальным *o(b)*- і коранем *pęt-* у прыметнікавай форме (Фасмер, 3, 147; КЭСРЯ; Булахоўскі, Труды ИРЯ 1, 199; Траўтман, 214).

**Апяша'лы** 'лянівы, аслаблены' (Нас.), *апе́шыный* 'разгублены' (Бяльк.). Укр. дыял. зах. *опішилий* 'лянівы, павольны'. Польск. *opieszały* 'лянівы, марудны, які не любіць спяшацца'. Параўн. рус. *опешить* 'астацца без каня', 'разгубіцца', укр. уст. *опішити* 'астацца без каня', укр. зах. *опішіти* 'зрабіцца павольным, марудным' («Кінь опішів»). Ст.-рус. *опѣшити* 'зрабіць пешым; аставіць без крыл', *опѣшати* 'стаць пешым (без каня)'. Параўн. яшчэ чэш. уст. *opěšalý* 'хто стаў без каня', *opěšati* 'астацца без каня', ст.-чэш. *opěšalý*. Серб.-харв. уст. *opješati* 'стаміцца', славен. *pȇšati* 'стамляцца', *pȇh* 'стамленне'. Найбольш пашырана ўяўленне аб тым, што рус. *опешить* і падобныя ўтварэнні этымалагічна тлумачацца значэннем 'стаць пешым' (Праабражэнскі, 2; Булахоўскі, Труды ИРЯ, 1, 191; Фасмер, 3, 144). Прыводзячы ў дадатак да адзначаных ужо фактаў ст.-польск. *pieszeć* і ст.-чэш. *pěšěti* 'стаць слабым', а таксама ст.-рус. *припѣшати* 'зрабіць пешым, падрэзаць крылы', Безлай (Južnoslav. leks., 9—10) параўноўвае гэту групу слоў з літ. *paikė́ti*, лат. (*iz-*)*paikt* 'дурнець', узводзячы корань да і.-е. **poik-* (што ў сваю чаргу параўноўваецца з коранем слоў *псаваць* і інш.). На нашу думку, тут магчыма кантамінацыя двух слоў: слова, якое ўзнікла пазней і першасна азначала 'стаць пешым', і другое, больш ранняе, якое суадносіцца, магчыма, з тым коранем, аб якім піша Безлай, або ўваходзіць у іншую сям'ю слоў. Хаця *спех, спяшацца* звычайна ўзводзіцца да групы *спець*, магчыма, суадносіны *спешна* — 'марудна' (*апяшала*), *паспяхова* — 'няўдала' (*апяшала*) не выпадковыя.

**Ар** 'мера плошчы 100 *кв м*'. Запазычана праз рус. *ар* (Крукоўскі, Уплыў, 82) з франц. *are* ад лац. *area* 'плошча'.

**Ара'б** 'асоба арабскай нацыянальнасці' (БРС). Паводле Фасмера, 1, 82, Саднік—Айцэтмюлера, 1, 25, з французскай ці

нямецкай мовы. Вядома ў старабеларускай мове з пачатку XVI ст. *арабьский,* канца XVI ст. *араб.* Магчыма, усходняе (праз цюркскія) паходжанне слова ва ўсходнеславянскіх мовах, гл. *арап.* Супрун, Зб. Крымскаму, 124.

**Арабе́й.** Гл. *верабей.*

**Арабі́на.** Гл. *рабіна.*

**Арабо́к.** Гл. *рабчык, ораб.*

**Ара́ва** 'мноства людзей (жывёл)' (Інстр. III; Сцяшк., Бяльк.). Рус. *орава, арава* 'тс', укр. *орава, арава* 'тс'. Конанаў (ИОРЯ, 1966, 3, 228), абвяргаючы цюркскае паходжанне, дапускаў угра-фінскае, комі-зыранскае, але ніякіх дакладных пацверджанняў крыніцы няма. Фасмер, 3, 147 (услед за Патабнёй паводле Гараева), звязвае з *реветь.* КЭСРЯ, Трубачоў (Фасмер, 3, 147) за Унбегаунам, BSL, 52, 173, і Міклашычам звязваюць гэта слова з *ора-ть* 'крычаць'. Пераканаўчае рашэнне дае Варбот (РР, 3, 1974, 100—103), якая звязвае слова з кашуб. *orava* 'талака падчас ворыва' і ўзводзіць слова да *араць* (гл.).

**Ара́к.** Гл. *рак.*

**Ара́ла** 'кол з дротам' («Полымя», 1971, 10, 39); *ра́лы* 'раздвоены ствол дрэва' (Янк. Мат.). Верагодна, пераасэнсаванае слова **орало* 'саха' ад *араць* (гл.) з суфіксам *-ло.*

**Арама́т.** Рус., укр. *аро́мат.* Ст.-бел. *ароматъ, ароматы* (у друк. кн. XVII ст., Гіст. мовы, 1, 298), ст.-рус. *ароматъ* з ст.-слав. (толькі мн. л.!), *ароматы* <грэч. *ἄρωμα,* мн. л. *ἀρώματα,* родны скл. мн. л. *ἀρωμάτων.* Старaславянская форма адлюстроўвае грэч. мн. л. Паколькі ўжо ў Лексісе Зізанія *арома́ты,* націск, магчыма, выводзіць з грэч. ускосных форм, а не з франц. Параўн. Шанскі, 1, А, 146. Аб грэчаскай крыніцы бел. *арамат* гл. Булахаў, Курс суч., 163; Юргелевіч, Курс, 127; Гіст. лекс., 122.

**Ара́нжавы.** Рус. *оранжевый,* укр. *оранжевий.* Беларускае з рускай, дзе ў XVIII ст. утворана на базе франц. *orange* 'апельсін' (магчыма, паводле Фасмера, 3, 148, з ням. *Orange*) >*оранж* (1715); *аранжарэя* (з рус. *оранжерея,* Крукоўскі, Уплыў, 78). Франц., ням. словы канчаткова ўзыходзяць да перс. *näräng* (магчыма, з санскр.). Локач, 125.

**Ара́п** 'негр', 'ашуканец' (БРС). Рус., укр. *арап.* Ст.-бел. прыклады з канца XVI ст., таксама *арапин, арапчик.* Найбольш верагодна ўсходнеславянскае слова з цюркскай, дзе слова вядома ў значэнні 'негр'. Беларускае запазычана з ту-

рэцкай ці крымска-татарскай мовы, магчыма, праз украінскую (менш верагодна—праз рускую). Праабражэнскі (1, 7), Шанскі (1, А, 134) лічаць запазычаным з грэчаскай, аднак з грэчаскай запазычана з *-в-* на месцы β *аравиискъ, аравлянинъ* (ст.-слав., ст.-бел. у Александрыі). Саднік—Айцэтмюлер (1, 24) пішуць пра падвойнае (з захаду і ўсходу) запазычанне. Развіццё значэння 'ашуканец' вядома ў раманскіх мовах, а таксама ў цюркскіх (Дзмітрыеў, Строй, 492); не выключана, але малаверагодна самастойнае развіццё гэтага значэння на ўсходнеславянскай глебе. Супрун, Зб. Крымскаму, 124—125.

**Ара'пнік** (БРС), *гарапнік* (Нас.), *аграпнік* (Шн.). Рус. *ара́пник,* дыял. *ара́пальник, ара́польник, ара́пельник, ара́пленник,* укр. *ара́пник, гара́пник, арапі́й, гарапі́й, гара́па,* польск. *harap, harapnik* 'арапнік', *harap* 'вокліч для сабак, у прыватнасці для адгону іх ад забітай жывёліны', ст.-польск. *harap* 'паляванне', чэш. *harapník.* Усходнеславянскія словы імаверна запазычаны з польскай. У польскай мове этымалагізуецца традыцыйна ад ням. выклічніка *herab* 'далоў', 'тут' (гэта прынята Брукнерам, 168). Аднак Слаўскі (1, 402—403) цалкам абгрунтавана выказаў думку аб тым, што гэта не адпавядала б старому значэнню слова 'паляванне, дабыча'. Больш верагодна ён выводзіць слова ад тур. *harap* (з араб. *harap*) 'знішчэнне, спусташэнне', адкуль і серб.-харв. дыял. *харап* 'рабунак, спусташэнне'. Суфікс *-нік* звычайна выкарыстоўваецца для ўтварэння назваў прадметаў (Слаўскі, 1, 402—403). Наяўнасць ст.-бел. (Нас. Гіст.) і ст.-укр. *гарап* мабыць у значэнні 'разбой' дае магчымасць паставіць пытанне аб тым, што польскае *harap,* калі яно сапраўды цюркскага паходжання, магло прыйсці ў польскую мову з усходнеславянскіх.

***Ара'сіна,** *арясина* 'доўгая жэрдка', 'нізкарослы, але нязграбны малады чалавек' (Нас.). Рус. паўн. *орясина, рясина, арясина* 'жэрдка', 'высокі хлопец', 'поўха, удар' (параўн. *ряснуть* 'ударыць'), сувязь 'жэрдкі' з 'ударам' магчымая, але не пэўная. Дзеяслоў вядомы і ў разанскіх гаворках. Каліма, Ostseefin., 211, лічыў запазычаннем з карэльск. *roaša,* фін. *raasu* 'прут', Фасмер (3, 539) пісаў пра магчымасць паходжання ад **ręds-* (як *раска* — гл.). Ці выпадковая блізкасць рус. *ряснуть* — *хряснуть* і ці нельга вывесці ад *ряснуть, рясина, орясина* — няясна.

**Ара'тар** 'прамоўца' (БРС), *араце́я* 'прамова' (Шпіл.). Фіксуецца ўжо ў XVII ст. (Гіст. мовы, 1, 298; Гіст. лекс., 107, 110: *ораторъ, орація).* Польск. *orator* фіксуецца з гэтага ж

часу; рус. *оратор* — з XVIII ст. Беларускае слова з лац. *orator, oratio* 'тс' (Юргелевіч, Курс, 118). Фасмер, 3, 148. Параўн. Курс суч., 170.

**Арату'нак** 'ратунак'. Гл. *ратаваць*.

**Ара'ты.** Тыпова беларускае пераўтварэнне ст.-бел. *ратай, оратай*, адлюстроўваючых праслав. **ortajь* (<**or(ti)+(t)-ajь*) па ўзору *памагаты, прыганяты. Ратай, аратай* — архаізмы (Шадурскі, дыс., 261), якія адзначаюцца і ў дыялектах (Смул., 160—161). Форма *ратай,* як і літ. *artójas,* адносіцца да агульнага балта-славянскага фонду (Траўтман, 13; Фрэнкель, 17; Смулкова, Лекс. балтызмы, 37). Меркаванні Мартынава (Лекс. балтызмы, 24) аб магчымасці запазычанага характару гэтага слова з балт. выклікаюць пярэчанні.

**Арахма'ны.** Гл. *рахманы.*

**Ара'ць**, дыял. формы: *гараць, ораты, орати, гораты* пашыраны ва ўсіх гаворках Беларусі, за выключэннем паўночнавіцебскіх, усходнемагілёўскіх і гомельскіх (Арашонкава—Мурашка, Бел. мова, 107). Рус. дыял. *орать,* укр. *орати,* польск. *orać,* чэш. *orati*, славац. *orat'*, в.-луж. *worać*, н.-луж. *woraś* (палаб. *vårona* 'воранае'), балг. *орá,* серб.-харв. *ọрати,* славен. *oráti.* Ст.-слав. *орати.* Літ. *árti,* лат. *ar̃t,* лац. *arare,* грэч. ἀρόω і г. д. І.-е. **ar(ə)-* 'араць' (Покарны, 62—63), паводле Шпехта (KZ, 68, 42²), звязана з **erə-* 'раздзяляць' (першасна 'раздзяляць зямлю'). Фасмер, 3, 148, дзе іншая літаратура. Ад *араць* утвораны шэраг назоўнікаў, што абазначаюць працэс, тэрыторыю, час: *аралля, аральба, араллё, араво, орыва, ворыва, арання, арацьба, араннік, аратар, аратнік, аратняк, аральбіт, арач, арэц, аратай* і інш.

**Араша'ць₁** 'абвадняць'. Дзеяслоў утвораны з прэфікса *а- (о-)* і кораня *раш-* (**рос-*), запазычаны з рускай ці паралельна з рускім *орошать.* Для знач. параўн. польск. *orosić* 'пакрыць расой'. Гл. *раса.*

**Араша'ць₂,** *рашаць* (гл.).

**Арба'₁** (БРС). Рус. *арбá, арабá,* укр. *гарбá,* рэдка *арбá* 'павозка', *арабá, гарабá* 'цыганскі, малдаўскі ці татарскі воз', польск. *arba,* чэш. *arba* (экзатызмы). Заходнеславянскія формы запазычаны праз рускую мову. Крыніца рускага слова, напэўна, татарская (Дзмітрыеў, Строй, 521); экзатычнае значэнне ўказвае на крымска-татарскую і азербайджанскую магчымыя крыніцы запазычання слова. Параўн. Фасмер, 1, 83; Шанскі, 1, А, 135. Гараеў, 5, слушна звярнуў увагу на наяў-

насць слова не толькі ў цюркскіх, але і ў іншых каўказскіх мовах, напрыклад у асецінскай, што садзейнічала пранікненню слова ў рускую мову. Бел. *арба* мае цюркскую крыніцу, але не без падстаў Крукоўскі (Уплыў, 74) адзначаў ролю рускай мовы ў перадачы слова да беларускай.

**А′рба₂** 'старажытная прылада' (Касп.). Параўн. *арфа₂* 'веялка' (гл.). Субстытуцыя *б—ф* цераз *п (арпа);* нельга выключыць, што бел. *арба* <літ. дыял. *árba* 'арфа (веялка)' (LKŽ), хаця літоўская форма зарэгістравана на паўночным захадзе.

**Арба′₃.** Назоўнік ад дзеяслова *араць* (з суф. *-ба).*

**Арбі′та.** Новае запазычанне з лац. *orbita,* мяркуючы па націску, праз польскую, а магчыма, і праз рускую, дзе з сярэдзіны XVIII ст. (з польскай, лацінскай ці, зважаючы на форму *орбит,* з французскай, Фасмер, 3, 149; Куціна, Формиров, 138; Біржакава, 383).

**Арбі′тр,** ст.-бел. *арбитеръ* (Гарб.), ст.-укр. *арбитеръ* з XVII ст., ст.-польск. *arbiter* з XVI ст. Рус. *арбитр* (з Пятроўскай эпохі) з франц. *arbitre*<лац. (Шанскі, 1, А, 135). Старабеларускае з лац. *arbiter,* магчыма, праз польскую мову. Калі сучаснае слова не лічыць працягам ст.-бел. (параўн. спартыўнае словаўжыванне), *арбітр* трэба тлумачыць як новае запазычанне з рускай (Крукоўскі, Уплыў, 80).

**Арбо′н** 'аўтобус' (Сцяшк.). Літ. *arbonas* 'тс' (Baltistica, 9, 221). Паходзіць ад назвы швейцарскага горада Арбон, дзе выраблялася машыны гэтага тыпу (MKL, 1, 133).

**Аргама′к** 'парода рослых скакавых коней' (БРС). Рус., укр. *аргамак* 'тс', ст.-бел. *ограмак, громакъ* (Гіст. мовы, 1, 139). Польск. *rumak*<*hromak*<*ohromak* (з XVI ст. — Брукнер, 468). Запазычанне з цюрк. *аргамак, аргымак, арыгмак* і да т. пад. (гл. Севарцян, 171). Конанаў (ИОРЯ, 1966, 229) указвае на персідскую крыніцу цюркскага. Рускае слова можа быць з кожнага з трох арэалаў: Каўказ, Крым, Усход (у Даля — трухменскія і кабардзінскія аргамакі). Беларускае хутчэй з крымска-татарскай, турэцкай, магчыма, праз украінскую ці паралельна. Польскае з украінскай ці беларускай. Калі ст.-бел. толькі *ограмак,* нельга выключыць паўторнае запазычанне праз рускую мову (Крукоўскі, Уплыў, 74). Супрун, Зб. Крымскаму, 125—126; Фасмер, 1, 84; Трубачоў, Происх., 57.

**Аргама′ка** 'гультай, п'яніца', *аргама́чыць* 'буяніць, п'янстваваць' (Нас.). Рус. *аргамак* 'няўклюда'. Пераноснае ўжы-

ванне — ад *аргамак* 'конь' (гл.) падобнае да пераноснага *огір, вогір, жарабец.*

**Арга'н** (БРС), *аргáны* (Нас., Касп.). Рус., укр. *орган.* Ст.-слав. **оръганъ** з грэч. ὄ γανον (Саднік—Айцэтмюлер, HdWb, 77). Ст.-рус. *органъ, органи* (XI—XVI ст.), пазней тлумачыцца ў Бярынды, 225, таму можна лічыць, што ст.-бел. *арганы* (Шакун, Гісторыя, 106) працяг ст.-рус. *органы,* а сучаснае беларускае — працяг старабеларускага. Аб форме *варган* гл. *варганіць.*

**Аргані'сты** 'арганіст, касцельны рэгент' (Нас., Сцяшк.). Тыпова беларускае пераўтварэнне па ад'ектыўнаму ўзору запазычанага праз польск. *арганіста* (Нас.) (гл.Ірачак., Зб. Траўнічку, 312) ці замацаванага ў сувязі з рускай мовай *арганіст* (Нас., БРС). Аб гэтым пісаў Фогарашы, Beiträge, 31—32, хаця храналогія і стылістычная характарыстыка ў яго недакладныя: такія пераўтварэнні характэрныя для вуснай размоўнай мовы яшчэ ў XIX ст. Параўн. таксама аб слове *арганісты* як тыповым беларускім утварэнні (Мартынаў, Лекс. балтызмы, 25). Але ўкр. таксама *органістый* (Железняк, Мовознавство, 1975, 2, 51).

**Арганізава'ць,** *арганізм.* Гл. *óрган.*

**Аргіня** 'вяргіня' (Сцяшк.). Гл. *вяргіня.*

**Аргуме'нт** 'довад' (БРС). Рус., укр. *аргумент,* польск. (з XVI ст.) *argument.* Ст.-бел. *аркгументъ* (XVII ст. — Гіст. мовы, 1, 298; Гіст. лекс., 108), ст.-укр. *аргументъ* (канец XVI ст.) з лацінскай, магчыма, праз польскую, як і рускае, зафіксаванае ў мове Курбскага ў XVI ст. (Шанскі, 1, А, 137) з націскам на другім складзе. Націск на апошнім складзе ў беларускай мове ў выніку ўздзеяння рускай мовы ці формы множнага ліку польскай *(argumenty)* замацаваўся ўжо ў XIX ст. (Нас.); Насовіч прыводзіць і бытавое значэнне *аргументы* 'хабар', што дае падставы меркаваць аб адсутнасці перапынку ва ўжыванні слова і робіць непатрэбным дапушчэнне аб паўторным запазычанні слова з рускай (Крукоўскі, Уплыў, 76; Гіст. лекс., 233), дзе сучасны націск замацаваўся ў канцы XVIII ст. (Шанскі; менш дакладна — Фасмер, 1, 84).

**Арда'** 'татарскае войска', 'саюз плямён, дзяржава ў старажытных усходніх народаў', 'шумны, неарганізаваны тлум' (БРС), 'дружына жаніха, што едзе за нявестай' (таксама *ірда* — Нікольскі, 55), *арду тварыць* 'суматоха, дзіцячыя гульні' (Нас. Сб.; Янкоўскі, докт. дыс., 1, 333). Старажытнарускае (з 1307) працягваецца ў старабеларускай, дзе такса-

ма *горта* 'арда' (Булыка., Запазыч., 228). Рус., укр. *ордá* ў розных значэннях. Канчатковая крыніца цюрк. *ordu (ortu)* 'лагер, стан войска, рэзідэнцыя хана' ўжо ў старажытнацюркскіх мовах (Др.-тюрк.), вядома ў многіх цюркскіх мовах. Усходнеславянскае слова з цюркскай; ст.-бел. *горта* (1691) праз польскую з нямецкай (параўн. Брукнер, 381). Фасмер, 3, 150; БМ, 43, Курс суч. 161. *Ірда,* магчыма, з украінскай. Думка Бугі, 2, 507 (параўн. таксама Жучкевіч, Топон., 159), пра паходжанне бел. *арда* 'шум, беспарадак' з літ. *ardà* 'спрэчка' малаверагодна: аналагічныя значэнні вядомы і ў іншых славянскіх мовах. Супрун, Зб. Крымскаму, 126—127.

**Ардына́рыя** 'пачасавая плата натурай' (БРС), параўн. больш асвоеную форму *андынарыя* (гл.). З польск. *ordynaria* 'тс' <лац. *ordinarius* (мн. л. *ordinaria*) 'звычайны, адпаведны да пэўнага парадку'. З гэтага ж лацінскага слова *ардына́рны* 'звычайны, просты' (магчыма, праз польскую мову). Фасмер, 3, 156.

**Ар'ерга́рд** 'частка войска ззаду асноўных сіл' (БРС). З рус. *арьергард* (Крукоўскі, Уплыў, 82), якое ў Пятроўскую эпоху запазычана з франц. *arrière-garde* (Шанскі, 1, А, 157; Фасмер, 1, 92). На французскую крыніцу беларускага слова ўказвалі БМ, 43—44; Юргелевіч, 130.

**Аржа́** 'іржа на металах і балотным месцы' (Нас., Касп.), *аржа́венне, аржа́вінне, аржа́вень* 'балота' (Нас., Мядзв., Касп., Гарэц.), *аржа́веники* 'балотныя бесы' (Нік., Очерки, 80), *аржа́ўка* 'пакрытая ржой рыба' (Нас.), 'заліўны луг' (Жд.), *аржаве́ць* 'іржавець' (Др.-Падб., Гарэц.). Гл. *іржа.*

**Аржаны́.** Яшчэ Чачот адзначаў адсутнасць у беларускай мове кантынуантаў слова **ръжь* пры наяўнасці прыметніка *аржаны* паралельна з *жытні;* праўда, у рукапісным слоўніку Грыгаровіча 1851 г. адзначана *аржа* 'жыта' (Яшкін, 14). Слова *аржаны* фіксуецца ў старабеларускай мове (Булахаў, Працы IM, 7, 143), яго прыводзіць ужо Насовіч, яно шырока ўжываецца (Карскі, 1, 260), як і іншыя словы, утвораныя ад яго асновы: *аржанішча, аржонне* 'ржышча', таксама: *аржышча, (а)ржэўнік;* параўн. назвы раслін: *аржаніца* (і *аржэвіна* — Сцяшк.); *аржаніна* 'жытні хлеб' (Касп.); *аржануха* 'гарэлка' (Нас.), 'зад' (Мядзв.). Утворана з пратэтычным *а-* (*іржышча* — з пратэтычным *і-*) і суф. *-ан-* ад агульнаслав. **rъžь* 'жыта'.

**Аржы́ська,** *іржы́ска, ржы́ска* 'зжатае поле жыта' (ДАБМ к. 270; Смул., 176; Смулкова, SOr, 1969, 1, 71). З польск. *rżyś-*

*ko* 'тс' (улічваючы геаграфічнае пашырэнне на Захадзе і суфіксацыю).

**А'рка** (БРС). Позняе запазычанне з рускай (Крукоўскі, Уплыў, 85 , дзе з італ. *arco,* якое працягвае лац. *arcus* (Шанскі, 1, А, 143).

**Арка'н,** *арканіць.* Рус. *аркан* 'тс' з XVII ст. (У астраханскіх дакументах — Шанскі, 1, А, 143), дыял. 'вяроўка', укр. *аркан* 'ласо' ў пісьм. з XVIII ст., польск. *arkan* 'тс' з XVII ст. Крыніцай усходнеславянскіх слоў з'яўляецца цюрк. *аркан* 'вяроўка', вядомае ў паўночна-каўказскіх цюркскіх мовах, казанска- і крымскататарскіх мовах (Радлаў, Опыт, 1, 288). Першыя маглі быць крыніцай рускага слова, апошняя — украінскага. У беларускай праз рускую (на магчымасць гэтага ўказвае Крукоўскі, Уплыў, 71—74) ці ўкраінскую. Бернекер, 30; Локач, 102; Праабражэнскі, 1, 8; Фасмер, 1, 86; Саднік — Айцэтмюлер, 1, 28; Дзмітрыеў, Строй, 566; Краўчук, ВЯ, 1968, 4, 122.

**Арке'стр.** З рус. *оркестр* (Крукоўскі, Уплыў, 84), дзе ў XVIII ст. з заходнееўрапейскіх моў, магчыма, франц. *orchestre* (улічваючы французскае вымаўленне *ch* як *к* у гэтым слове насуперак Фасмеру, 3, 153; параўн. Праабражэнскі, 1, 658) ці з ням. *Orchester.* Польск. *orkiestra* (з іт.) дало бел. дыял. форму *аркестра.* Канчатковая крыніца — грэч.

**А'ркуш₁** 'ліст паперы, шкла, бляхі' (БРС), *аркгушъ, аргушъ* (Нас.). Укр. *аркуш,* рус. дыял. *аркуш,* польск. *arkusz* 'тс'. Ст.-бел., ст.-укр. *аркушъ* з XVI ст., як і польскае. Канчатковая крыніца лац. *arcus* 'дуга', адкуль — 'сагнуты ліст' (Вясноў, Бел. лекс., 35) праз польскую ў беларускую. Памылкова сцвярджэнне, быццам *аркуш* увайшло ў беларускую мову ў пачатку XX ст. (Гіст. лекс., 259) не толькі таму, што слова ўстойліва адзначаецца ў старабеларускай мове і дыялектах, але і таму, што яно фіксуецца ў слоўніках XIX ст. (Шпіл., Мядзв.); ніякіх падстаў для паўторнага запазычання гэтага слова не было.

**А'ркуш₂** 'пасхальны артас', г. зн. 'пасвячоны хлеб' (Мядзв.). Укр. дыял. *аркуш* 'тс'. Форма *аркуш* вынікла як скажэнне *артус* (гл.), магчыма, не без уплыву *аркуш₁*. Гл. *артус.*

**Арля'к** 'гатунак папараці, Pteridium aquilinum'. Рус., укр. *орляк.* Назвы папараці і ў іншых народаў звязваюцца з паняццем птушак, крылляў: параўн. лацінскую назву, славац. *kapraď orličí,* чэш. *křídlatěnec* (Махэк, Jmena rostl., 33), та-

му, магчыма, гэта не пераклад лацінскай назвы, а самастойнае ўтварэнне паводле знешняга выгляду лісця, якое нагадвае крылле птушкі; не выключана таксама калька.

**Арля′нка** 'гульня, у ходзе якой падкідваецца манета і выйграе той, каму манета выпадае гербам' (БРС). Рус., укр. *орля́нка.* Паралельна з інш. усходнеславянскімі мовамі ўтворана на базе значэння *арол* 'герб на манеце' (першапачаткова з малюнкам арла).

**Арма′та** (Нас., Гіст. лекс.). Гл. *гармата.*

**А′рмія.** Рус. *армия* (з 1705; *армея* з 1704), укр. *армія,* польск. *armia* (з XVII ст.). Саднік—Айцэтмюлер, 1, 29. Вытворныя сведчаць аб аснове з *-е-*: *армейскі, армеец.* Ст.-бел., ст.-укр. *армея* (Бярында), таму наўрад ці патрэбна лічыць зноў запазычаным у XIX ст., як Гіст. лекс., 245, ці нават XX ст., як Гіст. мовы, 2, 148, хаця, магчыма, рускі ўплыў у гэты час садзейнічаў замацаванню слова. Краўчук (ВЯ, 1968, 4, 122) прапануе для ўкраінскай, паводле Агіенка, Иноз. элем. 70 (які аб гэтым гаварыў для рускай мовы), польскае пасрэдніцтва. Паўтарак (Бел. лекс., 135) прапануе шлях: заходнееўрапейскія мовы>польская>руская>украінская і беларуская. Паводле Шанскага, 1, А, 145, рускае з нямецкай; Фасмер, 1, 87 — з нямецкай ці французскай, Брукнер (7) лічыць польскае з нямецкай. Беларуская і ўкраінская маглі быць, як і польская, пасрэднікамі для рускага слова, нельга выключыць украінскую мову як магчымую крыніцу пераходу *е>і* (Саднік — Айцэтмюлер, там жа).

**Армо′шкі** 'вусікі на сцябле гарбуза' (Сцяшк.). Няясна.

**Армя′к** 'даўгаполая вопратка з тоўстага сукна' (БРС, Касп., Бяльк.; карту рэаліі гл. Малчанава, Мат. культ., 153), дыял. *гармя́к.* Рус. *армя́к,* укр. *арм'я́к.* Ст.-польск. *giermak.* Ст.-бел. з 1574 *ермяк, ормяк, кгермак* (Булыка, Запазыч.). Сучаснае беларускае з XIX ст. (Гіст. мовы, 2, 26), улічваючы пашырэнне на паўночным усходзе, з рускай. Рускае (у XVI ст. *ормяк, ормячек*), магчыма, з тат. *әрмак*: Фасмер, 1, 88. Старабеларускае, стараўкраінскае, старапольскае (адкуль *кгермак* у старабеларускай) запазычаны без рускага пасрэдніцтва. У цюркскіх слова паходзіць ад кораня *öр* 'віць, плясці, вязаць', адкуль *öрмäк* 'гатунак сукна' (Радлаў, Опыт, 1, 801, Др. Тюрк.). Супрун, Зб. Крымскаму, 127—128.

**Арна′мент.** Рус., укр. *орна́мент,* польск. *ornament.* Ужо ў ст.-бел. *орнаментъ* з лацінскай (Гіст. лекс., 108), магчыма, праз польскую мову, таму няма неабходнасці дапускаць паў-

торнае запазычанне ў XX ст. (як Гіст. мовы, 2, 144; Гіст. лекс., 252 і 261). Украінскае, рускае, як і беларускае, верагодна, праз польскую; у рускай з пач. XVIII ст. (Фасмер, 3, 153).

**Арнау'тка** 'гатунак пшаніцы, Triticum durum'. Рус. *арнаўтка,* укр. *арнаўтка, арнавўтка* 'тс', польск. *arnautka* 'тс', 'грэчка', рус. *grâu arnăút* 'тс', тур. *arnaut darısı* 'гатунак проса'. Беларускае з рускай; у рускай з турэцкай ці ўкраінскай (<малд.<тур. — Краўчук, ВЯ, 1968, 4, 122 па Раговічу (1873)). Першаснае значэнне слова *арнаут* 'албанец' (<тур. *arna(v)ut* <грэч. ἀρναβίτης<ἀρβανίτης), адкуль 'албанскі гатунак збожжа'. У рускіх гаворках захоўваецца і *арнаут* 'басурман'. У Мінску (канец 1960-х гадоў) нейкі час бытавала назва хлеба *арнаўт (кіеўскі арнаут)*<укр. *арнаут.* Фасмер, 1, 88.

**Аро'л,** дыял. *гарóл* (Кліх). Рус. *орёл,* укр. *орéл,* польск. *orzeł,* чэш. *ořel.,* славац. *orol,* в.-луж. *worjol,* н.-луж. *jerjeł,* балг., макед. *орел,* серб.-харв. *ȍрао,* славен. *órel,* ст.-слав., ст.-рус. *орьлъ.* Праслав. **orьlъ* роднаснае балтыйскаму (напр., літ. *erẽlis,* дыял. усх. *arẽlis*), германскаму (ням. *Aar* і інш.), ст.-грэч. ὄρνις 'птушка'. Гэтыя формы адлюстроўваюць і.-е. **er-/*or-* (Покарны, 325—326; Траутман, 13). Славянскія і балтыйскія формы маюць суфіксальнае *-l-* (магчыма, чаргуемае з *-n-,* Мейе, Études, 418), што ўваходзіць у суф. *-ьлъ* (у павелічальным значэнні; Фасмер, 3, 151), параўн. праслав. **kozьlъ.* Вытворныя: *арлюк, арляня/арлянё; арлан* (Інстр., II, БелСЭ) 'птушка Haliaeetus' (Булахоўскі, ВСЯ, Льв., 1, 171).

**Аро'ў** *(oróй)* 'astur palumbarius' (Маш., 18). Паходжанне няяснае.

**Арсена'л.** Рус., укр. *арсенáл.* Беларускае слова з рускай (Крукоўскі, Уплыў, 82), дзе ў канцы XVII ст. з італ. (Шанскі, 1, А, 146) <арабск. Не зусім дакладна сцвярджэнне аб французскай крыніцы беларускага слова (Курс. суч., 166; БелСЭ, 1, 455).

**Арта'й,** 'араты' (Сцяшк., Жд.). З літ. *artójas* (Мартынаў, Лекс. балтызмы, 17; параўн. думку Атрэмбскага пра аналагічнае паходжанне ўкр. *ортай,* Фрэнкель, 17).

**А'ртус** 'пасвячоны пасхальны хлеб' (Рам.). Рус. *артос,* дыял. *артус,* укр. *артус* 'тс'. Ст.-рус. *артусъ* з XII ст. з грэч. ἄρτος 'хлеб', уласна 'прыгатаванае' ад ἀρτύω 'рыхтую' (Фасмер, 1, 89). Параўн. *аркуш$_2$.*

**Арты'кул** 'невялікае сачыненне, частка дакумента; тып вырабу' (БРС, КТС, Касп., Нас.). У старабеларускай пісьменнасці ўжо з 1388 г. у форме *артыкулъ* 'частка дакумента' з лац. *articulus* (Гіст. мовы, 1, 53; Гіст. лекс., 110; Вясноў, Бел. лекс., 35), магчыма, праз польскую (Крапівін, Бел. лекс., 88; Гіст. лекс., 90), супраць чаго фіксацыя слова ў польскай мове з XVI ст. У «Нашай ніве» пачынаецца паслядоўнае ўжыванне слова ў значэнні 'невялікае сачыненне' (Шакун, Гісторыя, 300), магчыма, пад польскім уплывам. Першаснае лацінскае значэнне *articulus* 'частка' (ад *artus* 'член') дало магчымасць развіць значэнне 'тавар' (ням. *Artikel,* польск. *artykuł),* адкуль, напэўна, і рускае, беларускае 'тып тавару' (Шанскі тлумачыць рус. *артикул* 'тып тавару' як семантычнае ўтварэнне на базе значэння 'параграф' у XX ст. — 1, А, 148, аднак гэта не вельмі пераканаўча, таму што ў рускай значэнне 'параграф' у той час не было пашырана: ужо Даль адзначаў яго як архаічнае).

**Артыле'рыя.** У XIX ст. (Гіст. лекс., 245) ці пач. XX ст. (Гіст. мовы, 2, 148) з рус. (Крукоўскі, Уплыў, 82; Курс. суч., 166), дзе з 1695 (Шанскі, 1, А, 149—150; Фасмер, 1, 89). Яшчэ Тацішчаў лічыў, што гэта слова з польскай ці лацінскай (Вінаградаў, Очерки, 58). Магчыма, што слова было вядома ў беларускай і раней XIX ст.; у польскай мове яно з'явілася не раней XVII ст., як і ў нямецкай. Крыніцай польскага слова магло быць франц. *artillerie* (SWO). На іншыя магчымыя крыніцы рускага і польскага слоў указвае Біржакава, 102, у сувязі з рознымі фанетычнымі варыянтамі рускага слова ў канцы XVII — пачатку XVIII ст.

**Арты'ст.** У XIX ст. з польск. *artysta* — бел. *артыста* 'мастак' (Нас.), адкуль такія словы, як *артызм* (Гіст. мовы, 2, 240). Пад рускім уплывам у XX ст. усякаецца *-а* на канцы слова і замацоўваецца сучаснае значэнне. Рус. *артист* (з XVIII ст. — Шанскі, 1, А, 150) з франц. *artiste* (Будагаў, История слов в истории общества, 77).

**Артэ'па,** *артэпель* 'топкае месца' (Касп.). Няясна. Фанетыка (*тэ*) быццам бы ўказвае на запазычанне, але ў пскоўскіх гаворках адзначана *артéп* 'канава' (?), *артёпина* 'балота', *артéпь.* Таму, магчыма, трэба звязаць з рус. дыял. *вертеп* 'вялікі яр з непраходным лесам, кустаўём', 'варонка, у якую ўваходзіць балотная вада', *вертепижина* 'калдобіна', укр. прыкарп. *вертеп* 'шчыліна паміж гарамі; яма; балка', *вартеп, гартопе, гертоба* (Клепікава, Карпат. диал. оном., 52—93, дзе гл. агляд этымалогій і літаратуры пра *вертеп*), ст.-слав.

*вѫртъпъ* 'пячора', балг. *вѫртоп* 'вадаварот', да якіх адносіцца і прыведзенае Яшкіным слаўг. *вярцеп* 'вялікі роў, які зарос кустамі' (аб рус. *вертеп* гл. арт. Уладзімірская, ЭИРЯ, 6, 28—40). Гл. *вярцеп*.

**Арубе'ль.** Гл. *рубель*.

**Ару'д**$_1$ 'засек', *гару́д* (Гіст. мовы, 2, 59), *ару́да* (Яруш.). Рус. зах. *ару́д* 'тс', польск. вільн. *(h)orud* 'тс'. Ст.-бел. *орудъ* (Гіст. лекс., 148). Беларускае (як і польскае) з літ. *arúodas* (Грынблат, Белор., 152; Кіпарскі, Лекс. балт., 14; Аткупшчыкоў, Лекс. балт., 32; Курс суч., 159 — у форме *аруда;* Гіст. лекс., 148; Урбуціс, Baltistica, V (I), 1969, 47—48). Карскі (Труды, 391) адзін з першых высунуў думку пра літоўскае паходжанне бел. *аруд,* лічыў беларускае слова рэдкім, без пратэтычных *в* або *г* і з неславянскім коранем. Адзначым, што ў не так ужо рэдкага беларускага слова ёсць і форма з пачатковым *г-,* а таксама, што ў старабеларускай на пачатку пісалі *о-;* этымалогію літоўскага слова нельга лічыць бездакорнай. Параўн. рус. *орудница* 'кладоўка зброі' (ці не *орудий?*). Гл. Супрун, Балтийские яз., 42.

**Ару'д**$_2$ 'парушальнік грамадскіх правіл паводзін' (КЭС, брэсц.). Магчыма, бязафіксны назоўнік ад дзеяслова *арудаваць,* параўн. укр. дыял. *оруда* 'праца, кіраўніцтва' (застар.), 'клопат', *орудар* 'верхавод', ці не сюды ж прозвішча Арудко (Бірыла, Бел. антр., 242). Параўн. смал. *áред* 'шум, непарадак', магчыма, звязанае з *áред* 'стары чалавек, чорт', сувязь *аруд* са словам *аред* няпэўная (адрозненні ў фанетыцы).

**Ару'на.** Гл. *рунь*.

**А'рфа**$_1$ 'музыкальны інструмент', сустракаецца ўжо ў XVI ст. (Шакун, Гісторыя, 106), у Бярынды, 12, 28: *бряцало* і *гусль — гарфа, арфиста — гудецъ* у Лексісе Зізанія: *арфа.* Паводле Шанскага, 1, А, 150, рус. *арфа* з XVII ст. з польск. *arfa,* паводле Фасмера, 1, 90, з нямецкай, як і польскае (гл. яшчэ Маргаран, ЭИРЯ, 6, 91; Шанскі, ЭИРЯ, 4, 182). Ст.-бел. *арфа, арфиста* з польскай мовы, магчыма, што рус. *арфа, арфиста (арфист* — пазнейшае пераафармленне) таго ж паходжання. У польск. *arfa, harfa* з ням. (агульна-германскага) *Harfe* (раней *Harpfe*) (Слаўскі, 1, 406). Сучасная літаратурная форма *арфа* замацавалася, магчыма, пад рускім уплывам (Крукоўскі, Уплыў, 84), дзе ў адрозненне, напр., ад польскай і ўкраінскай форма з пачатковым *г-,* здаецца, не вядома. *Арфіст* з рускай, напэўна ў XX ст.

**А'рфа**$_2$ 'веялка', *арфава́ць, арфава́льшчык* (БРС, Яруш.),

у дыялектах распаўсюджаны формы з субстытуцыямі *ф*: *арпа, арпаваць* (Касп., Жд.), *арха, архаваць* (Касп., Янк. I, Сцяц., Арх. Бяльк.), *гархаваць* (Выгонная, Лекс. Палесся, 82); асобна гл. *арба*$_2$. Паводле Слаўскага, 1, 406, у польскай мове XVII ст. *harfa* 'прылада для ачышчэння збожжа' з нямецкай, дзе *Getreideharfe* 'веялка'. З польскай у беларускую, з польскай ці беларускай у літ. *ar̃pas, árpa, ár̃ba* (LKŽ).

**Арфагра'фія.** Пад рускім уплывам гэта форма замацавана ў 1933 (Шакун, Гісторыя, 292). Да гэтага ў практыцы выкарыстоўваўся тэрмін у польскім афармленні: *ортографія* (Красней, Лекс. і грам., 19). У канцы XVI — пачатку XVII ст. ст.-бел. *орѳографія* (Зізаній). Недакладна КЭСРЯ, 302, аб французскім паходжанні рус. *орфография* ў XVIII ст. Фасмер (3, 154 без даты) указвае на грэчаскую крыніцу (ὀρθογραφία 'правільнае пісьмо') пры ўздзеянні лацінскага націску.

**Арха'нгел** (БРС), *архáний* (Мядзв.). З старaславянскай у старарускую, адкуль перайшло ў старабеларускую (Гіст. лекс., 121). У стараславянскай з грэчаскай ἀρχάγγελος 'старшы анёл' (Фасмер, 1, 90).

**Архалу'к** 'лёгкі кафтан' (Грыг.). З рускай, дзе ў пач. XIX ст. з цюркскай; па фанетычных матывах, паводле Дзмітрыева, Строй, 522,— з азербайджанскай. Шанскі, 1, А, 152; Фасмер, 1, 90.

**Арха'равец.** З рускай мовы, дзе ўтворана ад прозвішча маскоўскага генерал-губернатара пач. XIX ст. *Архарава*, слова пачаткова азначала 'паліцэйскі', а потым перайшло на шалапутнага чалавека. Фасмер, 1, 90; Шанскі, 1, А, 152; у апошнім указваецца на рускую крыніцу беларускага слова.

**А'рхі-** ўзмацняльны прэфікс, першапачаткова ў грэчаскіх словах са значэннем 'старшы, галоўны'; параўн. яшчэ ст.-рус., пазней ст.-бел. *архидиаконъ, архиепископъ, архимандритъ, архистратигъ, архисинагогъ* (Гіст. лекс., 121; Гіст. мовы, 1, 307; Працы IM, 7, 144, 147, 224, дзе даюцца і вытворныя), частка з якіх пазней выпала (Шакун, Гісторыя, 277). На беларускай глебе ўтвораны гібрыдныя словы тыпу *архідурны, архіразумны, архімільянер*. Гіст. мовы, 1, 134, 229; Фасмер, 1, 90.

**Архіра'сты.** Слова зафіксавана ў песні (Вілен. губ.) Карскім, РФВ, XXI, 259: «Адзин на булану, други на каштану, трэйци на мышитым, сам *архирасты*». Верагодна, лакальнае, а магчыма, і эпізадычнае запазычанне з літ. *arklaraištis*

'прывязаны да каня вяроўкай'. Гл. Супрун, Балтийские яз., 40—42.

**Архірэ'й** 'старшы свяшчэннік (іерэй)'. Ст.-рус. *архиерей* з ст.-слав. *архиереи* <грэч. *ἀρχιερεύς* 'тс'. Фасмер, 1, 91.

**Архітэ'ктар.** Слова адзначаецца ўжо ў Бярынды (побач з формай *архитектон*), але ў XIX ст. больш звычайнай была форма *архітэкт* (Нас.), таму можна меркаваць, што сучасная форма замацавалася пад уздзеяннем рускай мовы (<зах.-еўрап.). Форма *архітэ́кт* праз польскую з лацінскай мовы, дзе з грэчаскай.

**Архітэкту'ра.** Слова ёсць у Бярынды, Ф. Пракаповіча (Труды Воронеж. ГУ, 83, 127), дзе яно з лацінскага (магчыма, праз польскую) *architectura.* Рус. *архитектура,* паводле Шанскага, 1, А, 156, з заходнерускай, таму няма патрэбы лічыць беларускае слова запазычаным з рускай, як Крукоўскі, Уплыў, 76, хаця рускія суадносіны *архитектура — зодчество,* магчыма, уплываюць на суадносіны *архітэктура — дойлідства* ў беларускай (Юрэвіч, «Полымя», 1969, 2, 244).

**Архі'ў.** Запазычана з рус. *архив* (Крукоўскі, Уплыў, 78; Гіст. лекс., 260; Гіст. мовы, 2, 144: у пач. XX ст.), якое з ням. *Archiv* (Фасмер, 1, 90).

**Арца'бы** 'шашкі' (Нас.). Гл. *варцабы.*

**Арцабніца,** *арцабо́вая пасцілка* (Бір. дыс.). Назва пасцілкі па знешняму выгляду нагадвае шахматную (шашачную) дошку: у клетку; параўн. у Насовіча *арца́бніца* 'шашачніца са скрынкай'.

**Арце'ль.** З рус. *артель,* дыял. *артиль*<цюрк. Невёрагодна думка Равінскага — Корша, а потым Фасмера, 1, 89, пра італьянскую крыніцу рускага слова. Слова *артельный* засведчана ў помніках сярэдзіны XVII ст. (Порахава, Лексика Сиб. летописей, 163, аднак даціроўка Порахавай з XVI ст. не падмацавана). Няяснай застаецца цюркская крыніца слова. Малаверагодна думка Міклашыча, Türk. El., 2, 137, які звязваў слова з цюрк. *ортак* 'агульны', *орталык* 'таварыства' і іншымі аднакаранёвымі. Дзмітрыеў, а за ім Трубачоў бачаць крыніцу ў тат.-башк. *артил* 'рэзерв' (Дзмітрыеў, Строй, 563; Трубачоў, Дополн., 1, 89). Трэба ўлічыць яшчэ і магчымасць сувязі рус. *артель* з цюрк. дзеяслоўным коранем *ерт-, äрт-* 'весці за сабой' (Радлаў, Опыт, 1, 790), пашыраным станавым суфіксам *-іл*: *артіл* 'быць вядзёным', ці 'тыя, хто за

кімсь ідзе, світа, суправаджаючыя'. З рускай запазычана слова *артель* у іншыя славянскія мовы.

**Арцімо'с**, *арцімо́н, арцімус, анцюх, анціл* 'блін' (Рам.). Словы аргатычнага характару, хутчэй за ўсё — скажэнні *артос, артус* (гл. апошняе), магчыма, з семінарскіх арго.

**Арцукі'** 'бульба адвараная' (Сцяшк.). З ням. дыял. *êrtšok* 'бульба', магчыма, праз літ. *ẽrčiukas* 'тс' (слова ўжывалася ў XIX ст. — LKŽ). У нямецкім слове, напэўна, адлюстравалася ўзаемадзеянне з *Artischocke* 'артышок', якое дало другую частку, і *Erde* 'зямля', адкуль першая частка. Арашонкава і інш., Весці АН БССР, 1972, 1, 83.

**А'рцы-** 'звыш-'. Прэфіксальны элемент. З польск. *arcy-*, у якой праз лацінскую з грэчаскай, якая дала *архі-* (гл.). Брукнер, 6. Побач з выкарыстаннем прэфікса ў запазычаных словах *(арцыбіскуп)* можна прывесці і ўласна беларускія ўтварэнні з ім: *арцыплут* (Нас.).

**Арча'к** 'лука, драўляны каркас сядла', 'прыпрэжаны конь', 'прыпрэжка' (Нас.), *арчако́вы* 'прыпражны' (Нас.). Рус. *арча́к* 'лука, драўляны каркас сядла', укр. *а́рчик* 'сядло', *орчико́вий* 'прыпражны', польск. *jarczak* 'лёгкае сядло' (з XVI ст.). Ва ўсходнеславянскіх мовах з XVI ст.: ст.-бел. *ерчакъ, орчаки, ярчакъ* 'сядло', 'драўляны каркас сядла', рус. *ерчакъ* (1557), укр. форма *арчакъ* (пач. XVIII ст.). Агульна прынята этымалогія з цюркскіх моў. Прыводзяць тат. *arčak* 'лука' (без крыніцы). Параўн. Міклашыч, Türk. El., Дад., 2, 75, 134. Дакладней форма *ингырчак* у Сразн., 1, 31. Параўн. тат. *ынгырчак* 'падсядзёлак' і інш. аналагічныя цюркскія формы (Радлаў, Опыт., 1, 1358). Да гэтай формы прыводзіць польскае слова Заянчкоўскі, Stud. orient. Аб цюркскім паходжанні беларускага слова пісалі Бірыла (у сувязі з прозвішчам *Арчакоў;* Бел. антр., 24), Вярхоў (З жыцця, 67). Насуперак Фасмеру, 3, 155, нельга адкідваць рэальную сувязь, якая існавала паміж словамі *арчак* і *ворчык (орчик)* (гл.); магчыма, што вынікам гэтай сувязі з'яўляюцца значэнні 'прыпрэжаны' (параўн. *орчиковый конь* — Маслен., 178), укр. *а́рчик* (Краўчук, ВЯ, 1968, 4, 122—123); іншая справа, што гэта сувязь мела народнаэтымалагічны характар.

**Арша'ўка** 'гатунак бульбы' (Янк. I). Гл. *варшаўка.*

**Аршэ'нец** 'нязлосная лаянка да блізкага чалавека' (тураў., Выгонная, вусн. паведамл.). Няясна, магчыма, ад літ. *aršùs* 'суровы; благі', 'горшы' (LKŽ, Фрэнкель, 16—17) і яго паходных *(ar̃šiai, aršýn)*, але супраць геаграфія.

**Аршы'н.** Ст.-бел. *аршинъ*. Рус. *аршин* з 1489 у помніках зносін з Польска-Літоўскай дзяржавай (Унбегаун, La langue russe, 166), ст.-укр. *аршин* гл. Рогаль (З історії, 182). Крыніца беларускага слова — цюркская з іранскай (Вольскі, «Узвышша», 1929, 6, 114; Юргелевіч, Курс, 137; Курс суч., 161). Параўн. Фасмер, 1, 92; Саднік—Айцэтмюлер, 1, 30; Конанаў, ИОРЯ, 1966, 229. Дзмітрыеў (Строй, 522—523) лічыць непасрэднай крыніцай рус. *аршин* татарскае (казанска-татарскае) слова. Бел. *аршын*, верагодна, з крымска-татарскай, у якой з турэцкай, магчыма, праз украінскае пасрэдніцтва; тур. *arşın* 'тс' <іран. *арш* 'локаць' (Локач, 10). Нельга цалкам выключыць і беларускае запазычанне з рускай.

**Арыгіна'л** 'твор ці дакумент у першапачатковай форме', 'своеасаблівы чалавек'. Першае значэнне зафіксавана яшчэ ў 1599 г. Жураўскі, Працы ІМ, 7, 215 (у форме *орііналъ*), Гіст. лекс., 110: *оригиналъ*, Гіст. мовы, 1, 258; *ориииналъ* (іншыя формы—Булыка, Запазыч.); Гарб. фіксуе *originarii, originales* у значэнні 'асобы, што паводле нараджэння належаць да пэўнага стану', што ў пэўным сэнсе можа лічыцца папярэднім да сучаснага другога значэння. У станаўленні сучаснай семантычнай структуры слова, у прыватнасці ва ўзнікненні друкарскага значэння слова 'крыніца (машынапіс), па якой набіраецца тэкст', адыграла ролю руская мова (Крукоўскі, Уплыў, 78; Гіст. мовы, 2, 146; Гіст. лекс., 252), для якой адпаведную ролю, верагодна, адыгралі нямецкая і французская мовы. Крыніца беларускага і рускага слоў — лац. *originalis* 'арыгінальны, першапачатковы'. Для старабеларускага слова, магчыма, не трэба абавязкова знаходзіць мову-перадатчык; для рускай такой лічаць польскую ці нямецкую (Фасмер, 3, 152).

**Арыента'льны.** З 1599 (Жураўскі, Працы ІМ, 7, 214; Гіст. лекс., 113) з лац. *orientalis* 'тс' ад *Oriens* 'усход'. Сучаснае літаратурнае беларускае слова, магчыма, паўторна запазычана праз рус. *ориентальный*, дзе з 1705 *орьентальный* праз польскую (Фасмер, 3, 152). Параўн. *арыгінал, арыентацыя*.

**Арыента'цыя.** У сучаснай форме замацавалася пад рускім уплывам; раней зафіксавана форма *оръентацыя*, якая адлюстроўвае, магчыма, польскі ўплыў (Яруш.). Крыніцай слова, аформленага на славянскі лад, з'яўляецца франц. *orientation* 'тс'.

**Ары'к** 'абвадняльная канава ў Сярэдняй Азіі'. З рускай (Крукоўскі, Уплыў, 74), дзе ў XIX ст. з цюркскай, хутчэй за інш. — з узб. *арик̦* 'арык; баразна', аб чым Дзмітрыеў, Строй,

510, 523; Супрун, Этимология, 1967, 96. Пра цюркскае паходжанне беларускага слова пісалі Булахаў, Курс суч., 161; Юргелевіч, Курс, 137.

**Арыфме́тыка.** Сучасная форма з 1933 г. (Шакун, Гісторыя, 292) пад рускім уплывам. Ст.-бел. *аритметика* з 1517 (Гіст. лекс., 125, 213; Гіст. мовы, 1, 146; Хрэст. гіст., 1, 107) (у польскай з 1564). Старабеларускае слова хутчэй з лац. *arithmetika* 'тс'. Але ўжо ў Бярынды *ариθметика.* Гэта форма, адлюстраваная і ў сучаснай рус. *арифметика,*— запазычанне з грэч. ἀριθμητική 'тс' праз стараславянскую. На грэч. першакрыніцу беларускага слова ўказвалі Курс суч., 163; Юргелевіч, Курс, 128.

**А́рышт** (БРС), *а́рэшт* выгук — 'хопіць!', *арэ́шт* 'затрыманне, забарона' (Нас.). *Арыштава́ць* (БРС), *арэштава́ць* (Нас.), ст.-бел. *арештовати* (XVI ст.— Гіст. мовы, 1, 250). З польскай, дзе ў XVI ст. праз нямецкую ці чэшскую або непасрэдна з сярэдневяковай лацінскай *arrestum* (Брукнер, 6) ад *arrestare* 'затрымаць' (Курс суч., 164). Пра няўстойлівасць форм з *с/ш* у *арестъ, арештъ* пісаў Булыка (Весці АН БССР, 1970, 6, 118). Пераход *е>ы* адбыўся ў складзе, не падмацаваным націскам.

**Арышта́нт.** З рус. *ареста́нт,* дастасаванага да бел. *а́рышт.* Параўн. таксама дыял. формы *рашта́нт, рышта́нт, (а)рыштанец, раштанцюга, раштанскі* (ЭШ, Янк. III) з фанетычным усячэннем пачатковага *а-,* вядомыя і ў рускіх гаворках. Рус. *арестант* з французскай (Шанскі, 1, А, 140) ці нямецкай (Фасмер, 1, 85), адзначаецца ў 1704 (значэнне 'затрыманы', а не 'той, хто затрымлівае', у нямецкай пашыраецца ў XVIII ст., Клюге, 42).

**А́рыя.** З рус. *а́рия* <іт. *aria;* у рускай мове з пачатку XVIII ст. (Фасмер, 1, 86). На італьянскую крыніцу беларускага слова ўказваў Булахаў, Курс суч., 170, на рускае пасрэдніцтва — Крукоўскі, Уплыў, 84; Маргаран, ЭИРЯ, 6, 91; Біржакава, 343.

**Арэ́далы,** *рэ́далі* (Касп.), *рэ́даль* (міёр., Хр. дыял., 335) 'вялікі воз для сена'. З літ. *rẽdelė* 'драбіны на возе' ці лат. *redele(s)* 'драбіны, скрыня на возе', *redeļi* 'драбіны на возе, краты', параўн. лат. *redelnieki* 'воз' (Мюленбах — Эндзелін, 3, 501). Параўн. эст. *redel* 'драбіны (не толькі на возе), краты'. Лат. і ліг. словы Эндзелін і Фрэнкель (712) лічаць запазычанымі з н.-ням. *Reddel,* якое Фрэнкель лічыць утвораным у выніку метатэзы з н.-ням. *ledder* 'драбіны'. Па-

водле Bігета (Sitzungsber. d. gel. estn. Ges., 1927, 273), эстонскае слова належыць да фіна-угорскай лексікі і мае паралелі ў іншых фіна-угорскіх мовах; гэту думку Эндзелін прывёў у дадатках да свайго слоўніка, што падтрымлівае П. Арыстэ (вусна на канферэнцыі ў гонар 100-годдзя Я. Эндзеліна, Рыга, люты, 1973). Параўн. у рускіх гаворках Эстоніі *редель* 'драбіны; прылада для сушкі сена', пск. *редели* 'яслі'. Гл. Супрун, Балтийские яз., 39—40.

**Арэле́зіць** 'абразіць' (Бяльк.). Няясна. Магчыма, памылка перапісвання: *а(б)рэмізіць?*

**Арэ́лі** 'гушкалка' (РБС, Гарэц., Касп., Рам., Кос.), 'гушкалка на вісячых вяроўках' (Нас.), 'гушкалка з вяровак' (Яруш., Мядзв.), *рэ́лі* (Рам., Бяльк., Палявы). Я. Камароўскі (Бел. лекс., 62) лічыць *арэлі* правінцыялізмам. Згодна з Рапановічам («Полымя», 1968, 10, 237; Лекс. і грам., 28—29), *арэлі* ўжываецца шэрагам пісьменнікаў з розных раёнаў. Чэрнякевіч адзначыў прыметнік *арэльскія* (гвазды) 'вялікія гвазды, якія выкарыстоўваюцца для забіўкі плытоў' (рукап. рэферат БДУ, 1969) у Брэсц. вобл. Аднак у цэлым слова *арэлі/рэлі* пашырана на ўсходзе Беларусі. Магчыма, сюды ж трэба аднесці *рэ́лкі* 'жэрдкі, якія замацоўваюцца на бэльках у асеці ў якасці каласнікоў' (Малчанава, Мат. культ., 38). Рус. *арели* 'гушкалка шыбеніца', *рели* 'поручні, казлы, агароджа на слупах, жэрдка, тонкае доўгае бервяно, сошкі на невадзе' (Даль; СРНГ; Пск. сл.; Кардашэўскі, УЗ МОПИ, 88, 36—37; 48, 89—90). У рус. акад. слоўніку 1794—1822 гг.: *рель* 'два слупы з перакладзінай для павешання злачынцаў'. Укр. паўн.-усх. *орель, ореля, орелі, релі* 'гушкалка'; паўднёварускае, усходнебеларускае, паўночна-ўсходнеўкраінскае *арэлі* 'гушкалка', паўночнарускае 'шыбеніца', спарадычна сустракаюцца іншыя значэнні, звязаныя з паняццем жэрдкі, шаста, бэлькі, большай часткай папярэчнай. Старажытнейшая фіксацыя слова *(а)рэль* у «Уставе (Ярослава князя) о мостѣхъ» (Філін, Происх., 546). Існуючыя этымалогіі слова *рель* у рускай мове непераканаўчыя. Думка Юрэвіча («Полымя», 1969, 2, 242) пра літ. *óras* 'паветра' ці *orel̃vis* 'паветраплавальнік' як крыніцу бел. *арэлі*, калі ўлічыць яго геаграфічнае пашырэнне, значэнне і форму, не можа быць прынята. Нельга лічыць слова і ўласнабеларускім (яно значна пашырана ў рускай мове, параўн. Курс суч., 147). Рэканструкцыя славянскай праформы выклікае, як адзначыў Фасмер, цяжкасці (няясна таксама, ці трэба звязваць перакладзіну з *рель* 'заліўны луг', што, на наш погляд, наўрад ці пажадана на сучасным этапе вывучэння). Так, адсутнасць ва ўкраінскай *і*

на месцы *е* не дае магчымасці пагадзіцца з Зубатым I, 2, 113, і рэканструяваць **rělja*, роднаснае з літ. *rẽkles* 'прыстасаванне для сушкі' і пад. Цікавая спроба Торбьёрнсона, 1, 11, рэканструяваць **rьdlь*, роднаснае з літ. *ar̃das* 'жэрдка', мн. *ar̃dai* 'каласнікі', якая сустрэла крытыку Міккалы Balt., 46: незразумелай будзе тады геаграфія славянскага слова. Гл. яшчэ іншыя малаверагодныя этымалогіі, якія крытыкуе Фасмер, 3, 466. Зважаючы на геаграфію, нельга выключыць запазычаны характар, хаця наўрад ці можна прыняць гіпотэзу пра англійскую крыніцу *reel* 'матавіла', калі ўлічыць час з'яўлення слова і значэнне. Больш верагоднай можна лічыць версію Груненталя, KZ, 63, 122, пра ням. *Riegel* 'перакладзіна, засаўка' як крыніцу слова (параўн. першасную рэгістрацыю слова з *и*, а не *е*; для неадлюстравання *g* параўн. вядомы подпіс *ана рѣина;* сярэдненямецкія значэнні ў асноўным адпавядаюць рускаму развіццю). Супрун, Бел.-рус. ізал. Гл. *рэлкі, рэя.*

**Арэ́нда,** у XIX ст. часта *арандар* 'гаспадар гасцініцы, шынкар'. Гэта значэнне з'явілася з *рандá* 'карчма' (XIX ст. — Шакун, Тр. БГУ, 1958, 114) у выніку пераасэнсавання *арэнда*: корчмы даваліся ў арэнду. Параўн. таксама дыял. *рэнда* 'арэндная плата' (Бяльк.) і пад. У старабеларускіх помніках з XVI ст. *аренда, арендаръ* (Гіст. мовы, 1, 249, 255), *арендовати* (Гіст. лекс., 111). Укр. з XVI ст. *аренда,* цяпер *оренда,* рус. з XVII ст. *аренда* 'тс'. Польск. з XVI ст. *arenda* і *arendarz.* З с.-вяк. лац. *arrenda* 'гадавая плата' магчыма, але неабавязкова праз польскую, бо ў польскай з'яўляецца адначасова з бел. Вясноў, Бел. лекс., 35; Булахаў, Курс. суч., 164; Паўтарак, Бел. лекс., 135. Рускае праз польскую (Фасмер, 1, 85) ці праз беларускую, украінскую.

***Арэ́ннік,** *оре́нник* 'аер' (Бейл.). Магчыма, фанетычна-словаўтваральны варыянт слова *аер, ернік* (Выгонная, Тэз. малад. вуч., 27), *арэй, ірны корань* (Кіс.), напр., з *аернік* у выніку метатэзы. Гл. *аер.* Параўн. літ. дыял. *arìlas, arìlis* 'аер' пры літар. *ãjeras.*

**Арэ́птам** 'раптоўна, нахабна, нястрымна' (Янк. Мат.). Магчыма, у выніку кантамінацыі *раптам* з рус. *ретйвый* ці літ. *rẽpti* 'хапаць' або ў выніку нерэгулярных фанетычных змен. Пачатковае *а-* пратэтычнае.

**Арэ́х₁,** *opíx, горíx* 'выпадкова не ўзараны ўчастак зямлі' (Выг. дыс., 6) з *огрэх* 'тс', у выніку выпадзення *г.*

**Арэ́х₂,** *гарэ́х.* Рус. *орех,* укр. *горіх, оріх,* польск. *orzech,* чэш. *ořech,* славац. *orech,* с.-луж. *worjech,* палаб. *vrex,* славен.

*ôreh,* серб.-харв. *ȍрах,* мак. *орев,* балг. *орех* (значэнне ў асноўным супадае з беларускім, апрача сербскахарвацкага, македонскага, балгарскага, дзе гэта слова абазначае толькі 'грэцкі арэх — Juglans'); ц.-слав. ст.-рус. *орѣхъ* (Сразн.). Параўн. літ. *riešas, riešutas* (з памянш. *-ut-*), лат. *riẽksts* 'тс', ст.-пруск. *buccareisis* 'Buchecker'; праводзяць паралелі таксама з грэч. ἄρυα, алб. *arë* 'арэх' (гл. Фасмер, 3, 151—152; Фрэнкель, 731, і літаратуру, якая там прыводзіцца), прычым часта імкнуцца тлумачыць яго як не і.-е. вандроўнае слова (Махэк$_2$, 418). Малаверагодна тлумачэнне Ільінскага ад дзеяслова *rěšiti* (ИОРЯС, 20, 4, 153), Голуб—Копечны (257) суадносяць слова *арэх* з балта-слав. **rēks-* 'лупіць' (?) — прасл. **o-rěši-ti(?)*. Ці не трэба звязаць *арэх*, літ. *riešas*, з літ. *riešas* 'сустаў (рукі, нагі)', якое звязваецца з і.-е. **u̯reik'ŏ-* 'тое, што верціцца' (Фрэнкель, 731).

**Арэ'хаўка** 'птушка Nucifraga caryocatactes'. Назва па сувязі з выкарыстаннем арэхаў у ежу і іх хаваннем у зямлю (Бел.СЭ). Параўн. паралельную рускую назву: *кедровка*. Булахоўскі, ВСЯ 1, 1948, 164.

**Арэ'хва** 'жалезнае колца для замацавання касы' (Выг., дыс., 6), *арэ́хаўка* 'тс' (ДАБМ, 832). Гл. *рэхва*.

**Ас** 'лётчык вышэйшага класа; у апошні час наогул спецыяліст вышэйшага класа'. З рус. *ас* (Крукоўскі, Уплыў, 82), дзе з 1910 (Успенскі, ЯиМ, 6—7, 198) з франц. *as,* якое ў значэнні 'добры салдат, лепшы спартсмен' фіксуецца з XX ст.; лац. *assis* няяснага паходжання абазначала адзінку вагі і грашовую адзінку, у французскай з XII ст. азначала грашовую адзінку, адзінку на касцях, а потым на картах (на выкарыстанне *ас* як картачнага тэрміна ў беларускай мове ўказваў Карскі Чарнышову, Избр. тр., 2, 444), адкуль і перайшло ў спартыўнае і вайсковае арго.

**Аса'** (БРС), *асва* (Гарэц., Нас., Др.-Падб., Яруш., Мядзв., Касп., Жд., Янк., БФ), *асіны* (БРС, Яруш.), *асвінае* (Жд.), *асаед-асвейнік* (Інстр. II). Рус., укр., балг. *оса,* польск., славац., чэш. дыял., славен. *osa,* серб.-харв. *ȍса,* чэш. *vosa,* в.-луж. *wosa,* палаб. *vàsă.* Ст.-рус., ст.-бел. *оса,* рус. дыял. *осва* 'тс'. Літ. *vapsà, vapsvà,* лат. *wapsene,* прус. *wobse,* ням. *Wespe,* лац. *vespa* (з метатэзай). Словы ўзыходзяць да і.-е. **u̯obhsā* 'тс', якое лічаць роднасным з коранем **u̯ebh-* 'ткаць'. На агульнаславянскі характар беларускага слова ўказваў Булахаў, Курс суч., 144. Для этымалогіі гл. Фасмер, 3, 156; Траўтман, 342; Покарны, 117 а. Пачатковае *v* страчана ў сувязі з разуменнем яго як прыстаўнога ці па аналогіі з

**ostr-*; выпадзенне *-р-* (Аткупшчыкоў, Из истории, 63) адносна ранняе, але так ці іначай звязана з тэндэнцыяй узыходзячай гучнасці. Беларускія, рускія і літоўскія формы з канчатковым *-va* старажытныя (Фрэнкель, 1196—1197), паводле Герда (Брян, гов., 1, 55), адлюстроўваюць стары суфікс; калі ўлічыць паралелі ўкр. *мурашва, мушва,* можна пагадзіцца з Атрэмбскім, 2, 89, у тым, што першапачаткова *асва* і пад. былі зборнымі назоўнікамі, параўн., аднак, *вутва* 'качка' (КСТ).

**Асаблі'вы.** Рус. устар. *особливый,* укр. *особливий,* ст.-бел. *особливый* (Булахаў, Працы IM, 7, 151); Бярында прыводзіў *особлйвый* як тлумачэнне для *особный.* Польск. (з 1428) *osobliwy,* чэш., славац. устар. *osoblivý,* в.-луж. *wosobliwy.* Утворана з суф. *-лів-* ад праслав. (зафіксаванага ў стараславянскай) **osobь* 'асобна' (гл. *асоба);* гэты суфікс найбольш пашыраны ва ўсходнеславянскіх мовах, хаця сустракаецца і ва ўсіх славянскіх мовах; няма пераканаўчых падстаў сцвярджаць запазычанасць беларускай формы з польскай ці рускай або наадварот.

**Асаве'ц₁** 'асінавы лес' (Прышч., Яшкін), *асавок* 'маладыя асіны на расчышчаным месцы, групкі дрэў сярод поля, каля дарогі' (Жучкевіч, Топон., 108). Ад *аса* 'асіна' (гл. *асіна*) праз прыметнік *асовы* 'асінавы' з дапамогай суфіксаў *-ец, -ок.* Параўн. тапонім *Асінец.*

**Асаве'ц₂** 'ссунутая зямля па беразе, па касагоры' (Яшкін), Грынблат (Весці АН БССР, 1965, 4) звязвае мясцовыя назвы тыпу *Асавец* і пад. з дзеясловам *совацъ (асоўвацца).* Частка гэтых назваў звязваецца з *аса* 'асіна', што датычыць іншых, то трэба ўлічыць яшчэ ўкр. *осовн, осовня, осовна* 'схіл гары, павернуты да сонца' (Марусенка, Полесье, 239), якія, аднак, можна супаставіць з *асоння* 'тс'. Ст.-рус. *осовьць* азначае 'звычайная дарога' (магчыма, але не абавязкова, па яру, па берагу, які асоўваецца, ці ўзгорку); балг. *осое,* серб.-харв. *осој* 'ценявы бок', мак. *осој* 'вільготнае месца, дзе не грэе сонца', славен. *osoje, osovie* 'ценявы бок, халадок'. Паўднёваславянскія словы адлюстроўваюць праслав. корань **soį-,* што захаваўся таксама ў выглядзе **sě-* ў рус. *сень,* бел. *засень.* Так ці іначай наўрад ці тут можна выключыць шматразовыя народнаэтымалагічныя змены (параўн. укр. *осоння* пры *сонце, сонечко),* у тым ліку сувязі з *сонцам,* а потым з *асоўваннем.* Магчыма, што *асавец* першапачаткова азначала проста 'халадок', а потым стала выкарыстоўвацца і як назва асінні-

ку, і як назва дарогі, і як назва ценявога боку гары і наогул узгорка.

**Асаве́ць.** Гл. *савець.*

**Асаві́к** 'грыб падасінавік, Leccinum (Boletus) aurantiacum, Leccinum testaceo-scabrum = Boletus rufescens'. Ад *аса* 'асіна' (гл. *асіна*) праз прыметнік *асовы* з дапамогай суф. *-ік* паводле месца, дзе расце.

**Аса́да**$_1$ 'рама, аснова акна, воза, сельскагаспадарчых прылад; драўляная частка сякеры', 'паліца каля акна', 'матэрыял для рам' (Янк. II). Укр. *осада* 'ложа ў ружжа', 'аснова воза', 'частка (аснова) млына'. Аддзеяслоўны назоўнік ад слова *асадзіць* 'змясціць нешта на месца' (параўн. рус. у Даля *асаживать токарные колодочки* 'ўстаўляць іх у калодкі, ручкі').

**Аса́да**$_2$ 'аблога', стар. 'сядзіба, пасяленне, умацаванае месца' (Нас., Гарб.), дыял. 'насаджэнні вакол сядзібы, саду' (Янк. II). Рус. *осада* (ваен.), укр. *асада* 'сядзіба', ст.-рус. *осада* 'аблога; абарона ўмацаванага месца, пасяленне'. Польск. *osada* 'пасяленне, сядзіба, асада, калонія, група людзей', чэш. *osada* 'пасяленне, калонія, група людзей', славац. *osada* 'пасяленне, калонія', в.-луж. *wosada* 'абшчына, калонія'. Паўночнаславянскае бязафікснае ўтварэнне ад дзеяслова *асаджвацца* 'сяліцца', адкуль развіццё іншых значэнняў, у тым ліку ваеннага.

**Аса́дка** 'ручка для пяра' (Гарэц., Др.-Падб., КТС). Утворана як памяншальнае з суфіксам *-к-* ад *асада*$_1$ 'частка прылады, якая насаджваецца на іншую частку,— у дадзеным выпадку *асадка* «асаджвалася» на пяро. Параўн. польск. *obsadka* 'тс'.

**Асака́**$_1$ 'расліна Carex L.' (БРС, Гарэц., Яруш.), *осо́ка* (Бесар.), палес. *осока* 'аер, Acorus' Caramus (Бейл.), маг. *ска́* 'Carex L.' (Юрч., Гарэц.). Рус., укр. *осока* 'Carex', польск. *osoka* 'Stratiotes aloides' (балотная расліна, як і *аер* ці *асака*), ранейшы цытаваны прыклад (XIX ст.) у Дарашэўскага — з Мінскай губерні, таму, магчыма, польскае з беларускай. Няясна. Параўноўваюць з літ. *ãšakà,* лат. *asaka* 'рыбная костка' (Мюленбах—Эндзелін, 1, 142; Фрэнкель, 18; Буга, Rinkt., 2, 295), а далей узводзяць да і.-е. кораня **ăk'-* (гл. *востры*) (Міклашыч, 227). Міклашыч (290) звязваў і з коранем **sek-* (гл. *сячы*), што вядзе да параўнанняў з ням. *Säge* 'піла', англа.-сакс. *secg* 'асака, трыснёг' (гл. Фасмер, 3, 163, і ўказ. там літаратуру). Магілёўская форма без *а-* можа тлумачыцца ці непасрэдна ад кораня *sek-,* ці як вынік усячэння

пачатковага *а-* (Зубаты, Studie, II, 2, 108, лічыў, што гэта *а-* ўспрымалася як прэфікс, але ў гэтым няма неабходнасці: *а-* магло ўспрымацца і як пратэтычнае).

**Асака′₂** ў выразе «*асакою* лезці (скакаць) у вочы» (з варыянтамі: *ас(в)ою,* сляпіцаю) 'назойліва прыставаць, невыносна дакучаць' (Янк., БП, 396; Янк., БФ, 57). Магчыма, кантамінацыя слоў *аса* і *асака,* падмацаваная беларускімі экспрэсіўнымі ўтварэннямі на *-ка.*

**Асалаве′ць.** Гл. *салавець.*

**Асалапе′ць.** Гл. *салапець* (параўн. Супрун, Веснік БДУ, 1970, 3, 58; Мартынаў, Бел.-укр. ізал., 49).

**Асамбле′я.** З франц. *assamblée* 'сход' праз рус. *ассамблея,* дзе з Пятроўскай эпохі (1696): Курс суч., 166; Крукоўскі, Уплыў, 78. Параўн. Шанскі, 1, А, 169; Маргаран, ЭИРЯ, 6, 92.

**Аса′місты** 'паважны' (Яруш., Нас.). З *асаністы* ў выніку народнай этымалогіі пад уплывам слова *сам*: параўн. сінанімічнае *самавіты.* Рус. *осанистый* ад *осаниться* 'прыняць паважны, мажны выгляд' ад значэння 'атрымаць сан' (гл. *сан*). Параўн. *осамицьца* (Нас.) ад *осаниться.*

**Аса′нна**—малітвенны выгук. Сустракаецца ў канцы XVI ст. (Гіст. мовы, 1, 223; Жураўскі, Працы ІМ, 7, 218—219, 224). Ст.-рус. з XIII ст. Таму слова трэба лічыць працягам старарускага, а не вынікам пазнейшага рускага ўплыву (як Крукоўскі, Уплыў, 74) з ст.-слав. *осанна* <грэч. ὡσαννά<ст.-яўр. *hōšanā* 'дапамажы ж' (Фасмер, 3, 156).

**Аса′н.** Гл. *васан, васпан.*

**Асве′р** 'вага ў студні, рычаг для падымання бярвення' (ДАБМ, карты, 242—244, тэкст, 807—810), *ацьвер, асвір, асверына, асвера, асверг, асверх, свира, свиршня, свирэня, перасвир, перасверт* (!), *свирэць.* Рус. пск., калін. *асвер, освер.* Ці не сюды ўкр. *свірка* 'вяроўка, якой замацоўваецца пуга да пугаўя'? Лат. *svèrt* 'важыць, падважыць', літ. *sver̃ti* 'важыць, балансаваць', *svãras* 'вага', лат. *svīra, sviris, svērts, svìrts, svir̃kstenis, svirstene,* літ. *svirksnìs, svar̃tis, svar̃stis* 'асвер'. Фрэнкель (949), Фасмер (3, 156—157), Трубачоў (Слав. языкозн., V, 173) лічаць слова роднасным балтыйскім словам. Міклашыч (331) лічыў роднасным балтыйскім мовам слова *освиреть* (форма *асвер* у яго слоўніку адсутнічае); Эндзелін (Мюленбах — Эндзелін, 3, 1154) таксама звязваў рус. *освер* з балтыйскім словам. Краўчук, Цыхун (Лекс. балтыз-

мы, 15, 51), Урбуціс (Baltistica, 5, 1969, 151), Лаучутэ (Kalbotyra, 22, 2, 78), зважаючы на пашырэнне слова на тэрыторыях, сумежных з Літвой і Латвіяй, шэраг форм, блізкіх да балтыйскіх, адсутнасць у славянскім слове ўнутранай матываванасці лічаць *асвер* і роднасныя ўтварэнні запазычанымі з балтыйскай. З гэтым трэба пагадзіцца, прычым крыніцай шэрагу форм была, відаць, латышская мова. Пачатковае *а-* можа тлумачыцца як фанетычная пратэза (ці як захаванае ад утвараючага дзеяслова прэфіксальнае). Корань узыходзіць да і.-е. **(s)u̯er-* 'падвешваць, падважваць; цяжкі' (Покарны, 1150; Траўтман, 296). Гл. *свер*.

**Асве́та** (БРС, Гарэц., Яруш.). Параўн. *асве́тны, асве́тнасць* (Гарэц.), *асветнік, асветніцкі*. Укр. *освіта*, польск. *oświata*, чэш. *osvěta*. У сярэдзіне XIX ст. (Гіст. лекс., 240; Гіст. мовы, 2, 107) з польскай, дзе, магчыма, з чэшскай. Гл. *святло*.

**Асво́іць.** Рус. *освоить*, укр. *освоїти*, польск. *oswoić*, чэш. *osvojiti si*, славац. *osvojit' si*, славен. *osvojíti*, серб.-харв. *осво̀јити*, макед. *освои*, балг. *усвоя* 'тс'. Ст.-рус. *освоити* з XV ст. Агульнаславянскае ўтварэнне ад займенніка **svojь* з прыстаўкай *о-* і дзеяслоўным суфіксам *-i-ti*.

**Асво́йтвацца.** Славен. *osvojȉtev* 'прысваенне, асваенне, заваяванне' ўказвае на магчымасць утварэння гэтага спецыфічна беларускага дзеяслова ад назоўніка **освоитва*, утворанага ад *освоити* (гл. *асвоіць*), паводле мадэлі *битва, ловитва*, прадуктыўнай у стараруская мове. Закончаны від паўстаў у выніку разумення *в* як паказчыка імперфектыўнасці. Супрун, Веснік БДУ, 1972, 2, 67.

***Асвяну́ць**, *освыну́ты* 'сустрэць світанне' (Клім.). Рус. *освенуть, рассвенуть* 'развіднецца', укр. *освінути* 'развіднецца, сустрэць світанне, выздаравець', *свінути(ся)* 'развіднецца', славац. *osvitnut'*, серб.-харв. *осва̀нути* 'сустрэць світанне', славац. *svitnut'*, серб.-харв. *сва̀нути*, славен. *sveniti* 'развіднецца'. Ст.-рус. (ц.-слав.) *освьнути* 'сустрэць світанне', *свьнути* 'развіднецца' ст.-слав. *(о)свитати* 'тс'. Параўн. літ. *šviñsti, švintù* 'развіднецца' і іншыя і.-е. адпаведнікі. У славянскіх мовах форма *асвянуць* роднасная *свет* (з чаргаваннем галоснага), у якой група *-тн-* упрасцілася ў *н* (гл. *свет*). Зважаючы на пашырэнне і даўнасць, можна лічыць гэта слова архаічным праславянскім утварэннем. Міклашыч, 332—333; Праабражэнскі, 2, 264; Брукнер, 538; Фрэнкель, 1046; Траўтман, 310—311; Покарны, 629; Супрун, Веснік БДУ, 1972, 3.

**Асе́к** 'загароджаны выган' (Прышч). Рус. *осек* 'агароджанае месца', 'пасека', *осѣкъ* і *осѣка* 'засека, абсечанае

месца ў лесе, агароджа, агароджаны выган, завал у лесе, участак з пасекай, умацаванае месца' (Даль), укр. паўдн.-зах. *осік* 'лес на ўзгорку' польск. *osiek* 'нізкае месца, якое раней было пад лугам', славен. *osèk* 'загон (для жывёлы), зруб (калодзежа), ачышчаная (ад лесу?) гара, адліў' (таксама *osêka*), серб.-харв. *ȍсек* 'адхон, круча, зніжэнне вады, адліў', *ȍсека* 'адліў'. Значэнне 'загароджаны выган' адлюстроўвае сувязь з дзеясловам *сячы* (гл. Каткоў, Зб. Васілёнку, 139), менш верагодна — з тым значэннем, якое атрымала развіццё ў сербскахарвацкай і польскай мовах, улічваючы заліўныя сенажаці. Старарускае значэнне *осѣкъ* 'загародка ў лесе, асобны ўчастак у лесе, умацаванне з дрэў у лесе' ўказвае на большую імавернасць першага. Сербскахарвацкае значэнне Махэк₂ (536) тлумачыў сувяззю з коранем **sęk-* (гл. *прасякацца*). Параўн. таксама Скок, Rad, 272, 8—15, 90.

**Асекура́цыя** 'паручыцельства', *асекуратар* 'паручыцель доўгу' (Нас.: *ужываецца сярэднімі класамі*). Гарб. прыводзіць лац. *assecuratio*. Ст.-бел. *ассекурация* (Вясноў, Бел. лекс., 35; Гіст. лекс., 109). Ст.-укр. *ассекурація, ассекуруватu(ся)* з XVII—XVIII ст., захоўваецца і ў сучаснай мове. У беларускую праз польскую з лацінскай мовы. Няма патрэбы лічыць, што гэта запазычанне адбывалася двойчы, як Гіст. лекс., 237.

**Асё́л**. Рус. *осёл*, укр. *осел*, польск. *osioł*, серб.-луж. *wosoł*, чэш. *osel*, славац. *osol*, балг. *осел*, серб.-харв. *осао*, славен. *ôsel*. Палаб. *asål* з с.-н.-ням. *esel* (Лер-Сплавінскі—Палянскі, 20). Ст.-слав., ст.-рус. *осьлъ*, ст.-бел. *оселъ*. Праслав. запазычанне з герм. (гоцк.) *asilus* <лац. *asinus*, зближанае з утварэннямі на *-ьlъ* тыпу **kozьlъ, *orьlъ*. Кіпарскі, Gemeinslav., 208; Стэндар-Петарсан, Slav.-germ., 133, 369, 534; Брух; зб. Крэчмеру, 12; Мартынаў, Лекс. взаим., 98—99, дзе гл. іншую літаратуру. Лац. *asinus* і грэч. ὄνος праз фракійска-ілірыйскае пасрэдніцтва з неўдакладненай малаазіяцкай мовы (Вальдэ—Гофман, 1, 73); Траўтман, 14, дапускаў балта-славянскі характар слова (параўн. літ. *ãsilas*), аднак балтыйскія словы маглі быць запазычаны самастойна (Фасмер, 3, 157) ці з усходнеславянскіх моў (Фрэнкель, KZ, 63, 204), Буга (Rinkt., 3, 763—764) указвае на беларускую мову як крыніцу літоўскага слова. Думка Мейе, Études, 186; Сабалеўскага, ЖМНП, 1911, 5, 163, пра лац. *asellus* як крыніцу славянскага слова не сустракае падтрымкі. Беларускі фразеалагізм *асёл маляваны*, паводле Янкоўскага, БФ, 57, пайшоў ад вандроўных цыркаў.

**Асе́ліна** 'сядзіба, двор, хата' (Бяльк.). Назоўнік з суфіксам *-іна,* які ўжываецца для ўтварэння назваў месц ад назоўнікавых ці прыметнікавых асноў: *яміна, цаліна* або слоў са значэннем выніку дзеяння: *выбоіна.* У першым выпадку трэба дапусціць незафіксаванае прамежкавае **аселя* (укр. *оселя),* ад якога *аселіна;* у другім — магчыма назоўнік разглядаць як аддзеяслоўны, ад дзеяслова *асяліць, асяліцца.* Гл. *сяло.*

**Асе́ліца** 'навакольле; луг, поле, гароды каля вёскі', *осэлиця* 'выкапаны на мяжы дзірван' (пруж., Выг. дыс.), *асёлак* 'тс' (Шат.). Польск. дыял. *osielica* 'луг каля сядзібы', з беларускай. Карскі (1, 334) адзначае *оселица* ў помніку 1532, Булахаў, Працы ІМ, 7, 141, *оселичный* — у Мінскіх актах 1582—1590. Чачот справядліва лічыў слова беларускім ідыяматычным. Карскі (2—3, 33) выдзяляў марфемы *о-сел-и-ца.* Шлях утварэння прэфіксальна-суфіксальны ад кораня *сел-* (гл. сяло), тая ж мадэль, што *аколіца*: 'месца каля (о-) сялібы'.

**Асе́лішча** 'сяліба' (БРС, абл., КТС). Суфіксальнае ўтварэнне ад дзеяслова *асяліць, асяліцца;* суф. *-ішча<ище* ў значэнні месца дзеяння (Карскі, 2—3, 39). Гл. *сяло.*

**Асёлка** 'радуга' (Касп.), *осело́к* (ДАБМ, 902). Укр. *оселка* 'тс'. Безумоўна звязана з *вясёлка,* укр. *веселка* 'тс'. Аднак вакалізм пачатку ў паўднёвабеларускай і ўкраінскай формах сведчыць аб тым, што простым усячэннем пачатковага *в-* форму гэту вытлумачыць нельга. Магчыма, *асёлка* 'радуга' кантамінацыйна звязана з *асялок* 'прылада для вастрэння' (ад якой адлятаюць іскры, як, магчыма, маланкі, ва ўяўленні нашых продкаў, ад радугі). Магчыма, кантамінацыя тут адбывалася з *ósілкі* '(паўкруглая) ручка вядра'. Нельга выключыць і тое, што форма *асёлка* адлюстроўвае неабходнасць лічыць сучасную сувязь *вясёлка — вясёлы* пазнейшай, магчыма, народнаэтымалагічнай, а старажытную назву радугі звязваць з словамі тыпу ст.-іран. *asman* 'неба'. Трэба, нарэшце, указаць на магчымую сувязь *асёлкі* 'радугі' з *асілкамі* (гл.) або праз іскры, звязаныя з уяўленнямі пра каменную прыроду асілкаў (параўн. іх рэбры), або праз вобраз змяі (з якой звязана і радуга і асілкі). Няясна.

**Асе́лы,** *асе́ласць.* Рус. *оседлый, оседлость,* укр. *осілий, осілість, осідлий,* польск. *osiadły, osiadłość* 'тс', славац. *osadlost'* 'група будоў у гаспадарцы селяніна'. Утворана ад дзеяслова *асесці* 'пастаянна пасяліцца' (гл. Яруш., 200), які з прыстаўкай **о-* ад *сесці. Оселость* зарэгістраваў ужо ў Ста-

туце 1588 г. Карскі, 1, 352, адзначаючы фанетычную заканамернасць выпадзення тут *-д-*.

**Асе́тр,** *асяцёр* 'від рыбы Acipenser' (БРС), *асётр* (Жук., 99). Рус. *осётр, осётер, осетёр,* укр. *осетёр, осе́тр,* польск. *jesiotr,* паморск. *i̯asotär, i̯esotär,* в.-луж. *jasotr,* н.-луж. *jesotr,* чэш., славац. *jesetr,* балг., макед. *есетра,* серб.-харв. *jѐсетра,* славен. *jesèter,* ст.-рус. *осетръ.* Зважаючы на выкарыстанне ў дапаўненні да Смален. граматы 1150 г. (XVI ст.) слова *осетръ,* няма патрэбы лічыць бел. *асетр* запазычаным з рускай мовы, як Крукоўскі, Уплыў, 71—73. Ст.-прус. *ešketras* 'асетр', ст.-літ. *ešketras* 'кіт', літ. *erškẽtas* і пад. 'асетр' пераўтворана пад уплывам *erškė̃tis* 'цёран, калючка' (Фрэнкель, 122—123), літ. *asẽtras* з беларускай (Скарджус, Slav, 34; Фрэнкель, 122). Этымалогія не зусім ясная. Найбольш верагодна, хаця, як лічыць Фасмер, не даказана сувязь з і.-е. коранем **ak̑-,* праслав. **ostrъ* 'вастры' (Лёвенталь, ВВ, 55, 317; Гараеў, Доп., 1, 31; Развадоўскі, Wybór, 2, 338; Ільінскі, Slavia, 2, 256 і наст.; Машынскі, JP, 37, 299), з гэтым звязана і сцвярджэнне пра роднасць кораня слоў *асетр* і *акунь* (Буга, 1, 328; Брукнер, 26; Бернштэйн, Очерк, 153), якое выклікала засцярогі ў Ваяна, RÉS, 41, 168. Сувязь назвы асятра са словам *вострьі* праз шыпы, якімі пакрыта рыба. Недастаткова высветлена сувязь з нямецкай назвай асятра *Stör,* франц. *esturgeon.* Неверагодна супастаўленне Бецэнбергера (ВВ, 27, 163) з грэчаскай назвай дробнай рыбы *ἴχταρ*, а таксама супастаўленне Траўтмана (Altpreuß., 331) з лац. *excetra* 'змяя', на што ўказвалі ў першым выпадку Бернекер, 1, 265; Фасмер, 3, 158, у другім — Вальдэ—Гофман, 1, 426; Фасмер, там жа. Махэк$_2$ (223) адносіў слова да «праеўрапейскіх».

**Асе́ць,** *осець, восець, сець.* Геаграфічнае пашырэнне слова і яго фанетычных варыянтаў гл. у ДАБМ, к. 233. Пра пабудову *асеці* гл. Малчанава, Мат. культ., 38—40. Рус. *осеть, асеть* адзначаецца, паводле Даля, на захадзе, дакладней: смал., пск., бранск., укр. чарніг. *óсить,* польск. усх. *osieć.* У беларускіх помніках з 1579 (Карскі, 1, 293). Геаграфія слова быццам бы ўказвае на латышскую мову як крыніцу гэтага слова. Таму трэба ўказаць лат. *sẽrt* 'класці зерне ў сушню', *sę̄rt* 'класці зерне ў сушню', *sęrs* 'зерне, пакладзенае для сушкі', а таксама *sę̃ta* 'мужыцкі дом', 'дом наогул', 'двор', *sę̃tas māja* 'будынак у двары', *sẽtiena* 'частка двара' (Мюленбах—Эндзелін, 3, 820, 931, 833). Спробы этымалагічнага тлумачэння слова пакуль што не далі выніку. Нельга прыняць тлумачэнне Брукнера, 383, які параўноўваў слова з ц.-слав. *сетьн-* 'апошні' ці *посѣтити* 'наведаць'; Фасмер (3, 159) слушна адкідвае

спробы этымалогій Петарсана, 64—65, які імкнуўся звязаць *асецъ* з лац. *sitis* 'прага', *siccus* 'сухі' (Вальдэ—Гофман, 2, 548, іначай), ст.-інд. *kṣāyati* 'спальвае, абжыгае', грэч. ξηρός 'сухі'. Той факт, што, паводле Мацкевіч, Працы ІМ, 2, 149, *асецъ* 'частка току, дзе сушаць снапы' (магчыма, гэта значэнне пазней не пацверджана, бо ў ДАБМ адсутнічае), не дазваляе цалкам адкінуць магчымасць сувязі з рус. *осек* (зафіксаваным яшчэ Сразнеўскім) 'загароджанае месца, выган, агарод, агароджа'. Аднак найбольш верагодна сувязь беларускага слова з латышскімі, што патрабуе далейшага ўдакладнення. Гл. Коген, Запіскі, 2, 9, 91.

**Асе'чка**₁ 'выстрал, які не адбыўся'. Рус. *осе́чка,* укр. *осічка.* Аддзеяслоўны назоўнік ад дзеяслова *асячыся, асекчыся*: у сувязі з выкарыстаннем крэменю ў затворы зброі, калі высечаны агонь не трапляў на месца. Не выключана, што беларускае слова (як і ўкраінскае) запазычана з рускай мовы.

**А'сечка**₂ 'ласкавы адказ на кліч' (Нас.). Рус. (дан.) *асечка* 'ласкавае перапытанне' (параўн. *ась, асе, асё, аси, асенька, асетка, асечка, аська*). Утворана з памяншальным суфіксам *-(е)чк-* ад *ась, асе,* якое, паводле Даля 1, 27; Фасмера 1, 95, з *а-се* (гл. *ась*).

**Асігна'цыя**. У Гарб. адзначана *assignatio* ў розных значэннях: 'распараджэнне, квітанцыя, прызначэнне'. Рус. *ассигнация* (у канцы XVII ст. з польскай — Вінаградаў, Очерки, 51; Шанскі, 1, А, 161), укр. *асигнація,* паводле Паўтарака, як і беларускае, з польскай, дзе з заходнееўрапейскіх (Бел. лекс., 153), польск. *asygnacja* мае крыніцай лац. *assignatio.* Слова *asygnować* сустракаецца ў польскай з XVI ст.; цалкам верагодна, што бел. *асігнаваць* сапраўды з польскай, калі гэта слова сустракалася ў старабеларускай, што, аднак, невядома. *Асигнация* ў стараўкраінскай вядома з канца XVIII ст. у кантэксце, які ўказвае на рускую крыніцу запазычання (рускія асігнацыі былі ў хаду з 1796 да 1843 г.). Да XVII ст. *asygnacja* не засведчана і ў польскіх слоўніках. Таму можна дапускаць, што *асігнацыя* запазычана з рускай мовы ў канцы XVIII — пачатку XIX ст.

**Асі'лак** 'міфалагічная істота, волат; чалавек вялікай фізічнай сілы'. Рус. сіб. *осилок* 'сілач', польск. *osiłek* 'тс' (паводле Карловіча «з Літвы»). Пра міфалагічных *асілкаў* гл. Л. Бараг, Беларуская казка, Мн., 1969, 71—91. Можна лічыць слушным аднясенне слова *асілак* да ўласнабеларускай лексікі (Курс суч., 147). Этымалагічна няясна. Сувязь з дзеясловам *асіліць* (параўн. ст.-польск. *usiłca* 'гвалціцель, грабіцель')

няпэўная насуперак «відавочнасці» па прычыне няяснасці ў гэтым выпадку словаўтваральнага тыпу (словы на *-ак* з *-ъкъ* ці *-окъ,* якія ўтвораны ад дзеясловаў, не абазначаюць звычайна жывыя істоты, хаця параўн. некаторыя агентыўныя словы ст.-рус. *съвѣдъкъ,* рус. *подпи́лок, напилок; ездо́к, едо́к, седо́к* маюць іншы націск, а *парабак, падростак* — іншае словаўтварэнне). Іванаў — Тапароў (Бел. лекс., 59) звязваюць *асілак* з *асла* 'камень' і ўсёй індаеўрапейскай групай слоў тыпу ст.-ісл. *hamarr* 'молат', ст.-іранск. *asman* 'неба', ст.-інд. *aśman* 'камень', што патрабуе ўдакладненняў. Мартынаў — Міхневіч («Маладосць», 1970, 7, 149) высоўваюць гіпотэзу пра сувязь слова *асілак* з балг. *осил* 'асцюк', гоцк. *ahs* 'колас', лічачы такое семантычнае развіццё паралельным бел. *волат* і *валотка,* ням. *Riese* 'волат' і *Reis* 'парастак', што выклікае пярэчанні, бо ў гэтым выпадку недастаткова тлумачыцца частка *-іл-,* а памяншальная семантыка *-ъкъ* ці *-окъ* таксама патрабуе тлумачэнняў у сувязі з семантыкай 'волат'. Застаецца няясным пры гэтым, як тлумачыць выпадзенне элемента *-t-* (параўн. *-ц-* у *асцюк*).

**Асіміля́цыя** 'зліццё, засваенне, прыпадабненне'. З канца XIX — пачатку XX ст. з рускай (Крукоўскі, Уплыў, 76) ці польскай (*асіміляваць* — з польскай: Гіст. мовы, 2, 143); у рускай з другой палавіны XIX ст. з нямецкай ці французскай (Шанскі, 1, А, 162, указвае на нямецкую мову як непасрэдную крыніцу запазычання). Юргелевіч (Курс, 129) указвае на лацінскую першакрыніцу беларускага слова.

**Асі́на** 'Populus tremula', *ясеннічак* 'тс' (Кіс.), *асо́ва* 'дрэва (асіна?), у дупле якога жывуць пчолы' (Сцяшк.); *осоўка, осиноўка* 'лодка, выдаўбаная з ствала асіны' (Бейл.); *асовы* 'асінавы' (Бейл., Федароўскі, 6, 25). Гл. яшчэ *асавец, асавік.* Рус., укр. *оси́на,* укр. *осика,* польск. *osina, osika,* дыял. *osa,* чэш., славац. *osika,* в.-луж. *wosa, wosyca,* н.-луж. *wosyca,* славен. *osíka, jesíka, jasíka,* серб.-харв. *jа̀сика* (у тапонімах таксама з *je-*), балг. *осика, ясика,* макед. *јасика,* ст.-рус. *осина.* Праслав. **osa<*opsa* роднаснае літ. *ẽpušė, ãpušė,* лат. *apse,* ст.-прус. *abse* 'тс', а таксама германскім словам тыпу ням. *Espe* 'тс' (ст.-в.-ням. *aspa*). Іншыя індаеўрапейскія паралелі (напр., з грэч. *ἄσπρις* 'бясплодны дуб') выклікаюць сумненні. Няясныя сувязі з цюрк. (Радлаў, Опыт) *апсак* 'асіна', якое некаторыя лінгвісты лічаць запазычаным з іранскай (Хоопс, Reallex., 1, 132) ці армянскай (Педарсан, KZ, 39, 462). Іншыя лінгвісты (Мейе, RS, 2, 70; Махэк, Jména rostl., 132; Скок, 2, 759) лічаць слова протаеўрапейскім. Апрача літаратуры, указанай тут і ў Фасмера, 3, 159, гл. яшчэ Покарны, 55 (**apsā*);

Фрэнкель, 14; Махэк2, 418. На агульнаславянскі характар бел. *асіна* ўказваў Булахаў, Курс суч., 144; гэта правільна адносна кораня, суфікс усходнеславянскі і польскі.

***Асі′раць**, *осырыць* 'кінуць' (КСТ). Параўн. ст.-рус. *осирѣние* 'сіроцтва' (Сразн.). Відаць, стараруські назоўнік утвораны ад дзеяслова, які не зафіксаваны ў Сразнеўскага, але адзначаецца ў Столінскім раёне. Дзеяслоў утвораны ад прыметніка *сирыи* 'сірата, сіроцкі, асірацелы', відаць, спачатку без прэфікса: **сирѣти,* а потым з прэфіксальным *о-: осирѣти.*

**Асістэ′нт** 'памочнік прафесара, урача; малодшы выкладчык у ВНУ' (БРС), 'пастаянны размоўца, удзельнік цырымоніі', *асістэ́нцыя* 'прысутнасць пры знатнай асобе, пастаяннае дагляданне, заляцанне' (Нас.). Сучаснае значэнне ўсталявалася, верагодна, пад рускім уплывам (Крукоўскі, Уплыў, 76). Значэнні, зафіксаваныя ў Насовіча, указваюць на польскую крыніцу запазычання (польск. *asystent* 'памочнік прафесара; памочнік, практыкант урача; член світы, якая ўдзельнічае ва ўрачыстасці; кавалер'). Ст.-укр. *ассистенция* з XVII ст., *ассистентъ* з XVIII ст., што ўказвае не толькі на магчымую даціроўку беларускага, але і на польскую крыніцу запазычання. Польскае з лац. *assistent* 'суправаджаючы'; у рускай мове з пачатку XVIII ст. праз нямецкую (Шанскі, 1, А, 163; Фасмер, 1, 94, указваюць на нямецкую крыніцу, паводле Смірнова, 49) ці польскую — Біржакава, Очерки, 344.

**Аскаба′лак** 'абыякава ці выпадкова адсечаны невялікі кавалак дрэва', *аскабо́лак* (Янк. II), *осокоба́лок* (Лун.), *аскабёл* (Бяльк); ад гэтага пераносныя значэнні пра чалавека (БРС), вялікую лусту хлеба (Бір. дыс.). Утворана паводле таго ж тыпу, што *абломак, асушак, атопкі* ад дзеяслова **аскабаліць* (**оскобълити*) і *аскабёл* — ад яго варыянта **аскабеліць* (**оскобьлити*). Гэтыя дзеясловы, паралельныя да рус. *оскоблить,* маюць другасныя (устаўныя) *ъ, ь;* яны ўтвораны ад назвы прылады *скобля* (магчыма, спачатку ўтвораны бяспрэфіксны дзеяслоў *скоблити),* што ўзыходзіць да і.-е. **(s)kobh-* (Покарны, 930—931) і суфіксальнага *-l-* (Трубачоў, Ремесл. терм., 156). Супрун, Рэгіян. асабл. (Гомель) 68—69.

**Аскаве′нь** 'торбачка для выціскання сыру' (Сцяшк.), *оскови́к* 'тс' (Вешт.). Пераасэнсаванне і звязаная з гэтым дээтымалагізацыя, а потым страта пачатковага *в-* ад слоў *васкавень, васкавік* 'торбачка для адціскання воску' (Анох.); у форме *васкавік* 'торбачка ці хустачка для адціскання сыру' таксама фіксуецца (жытк., лельч., мазыр., нараўл., — Вешт.; хойн., брагін.). Гл. яшчэ **аскадавец.*

*__Аскада'вец__, *оскадáвэц* 'торбачка для выціскання сыру' (Вешт.). Пераасэнсаванае, дээтымалагізаванае і ў выніку гэтага страціўшае пачатковае *в-* *воскодавьць* 'торбачка, у якой адціскаюць (давяць) воск', параўн. *воскодавник* 'салодкая вада, што застаецца пасля прэсавання воску' (Анох.).

**Аска'рак** 'цвёрды засушаны агрызак хлеба' (кліч., вусн. паведамл. Выхоты). Утворана паводле мадэлі *а-* +корань назоўніка +*-ак* (*о-*+корань+*-ъкъ*), як і *апёнак* са значэннем 'тое, што знаходзіцца побач з прадметам, пазначаемым каранем'. Корань *-скар-* адцягнуты, напэўна, ад *скарынка* (гл.), дзе, аднак, адлюстроўвае корань *скор-* і *а* пад націскам павінна было ператварыцца ў *о*, але дээтымалагізацыя кораня ў *скарынка* і падобных утварэннях прывяла да ўспрыняцця кораня з *а-* незалежна ад націску. Параўн. яшчэ *аскор*.

**Аске'пак**, *аскёпак* 'асколак, шчэпка, трэска'. Параўн. яшчэ *атськёпык* 'адшчэпак' (Бяльк.). Рус. дыял. паўдн. *оскепок* 'аскепак', укр. *оскипище* 'ручка грабляў'. Ст.-рус. *оскѣпъ* 'кап'ё'. Паводле значэння, рускае і беларускае словы тлумачацца як суфіксальныя ўтварэнні ад дзеяслова, засведчанага ў Даля: *оскепать* 'ашчапаць'; параўн. *абрывак, адломак.* Іншае магчымае тлумачэнне: памяншальнае ад *аскеп* (ст.-рус. *оскѣпъ*) семантычна менш верагодна. Дзеяслоў *оскѣпати* (>назоўнік *оскѣпъ*) утвораны ад дзеяслова *скѣпати*>*скяпаць* (гл.). Захаванне ў націскным складзе ў бел. *аскепак е* (пры пераходзе яго ў *ё* ў некаторых магілёўскіх гаворках) можна лічыць як сведчанне ў карысць гіпотэзы Якабсона (IJSLP, 1/2, 270) пра тое, што *ск* захоўвалася тут перад *оі*, з якога ўтварыўся *ѣ*. *Аскепак* і *шчэпка* словы аднакарэнныя. Малаверагодная думка Даля (IV, 195), падтрыманая Когенам (Запіскі, 1, 236—237) і Сцяцком (Нар. 27), пра роднаснасць *аскепак* і *скіба* 'луста', якое запазычана праз польскую з нямецкай мовы. Семантычна *скіба, скібка* не ўжываюцца, калі справа ідзе пра дрэва, фанетычна кепска тлумачыцца *б* і не найлепшым чынам *і*. Гл. *скіба.*

**Аске'т**. Новае запазычанне з рускай (Крукоўскі, Уплыў, 76), дзе *аскет* (гэта форма з сярэдзіны XIX ст., з канца XVII — *аскит*) усталявалася пад нямецкім уплывам (ням. Asket), у той час як *аскит* (як і нямецкае слова) з грэч. ἀσκητής пачаткова 'чалавек, які практыкуецца'. На грэчаскую першакрыніцу беларускага слова ўказваў Булахаў, Курс суч., 163. Польск. *asceta* адлюстроўвае іншую галіну пашырэння слова ў Еўропе праз лацінскую мову.

**Аскірза'цца** 'агрызацца'. Укр. *оскірятися* 'выскаліцца,

ашчэрыцца', *ошкірятися, вйшкіряти(ся);* рус. разм. *оскйриться.* Відавочна, таго ж кораня, што *ашчэрыцца, шчэрыць* (гл.). Махэк$_2$, 627 (пад *štiřiti*), прыводзіць ст.-чэш. *oškeřiti se,* дыял. чэш. *škeřit se,* мар. *vyskeřák* (назва птушкі). Узыходзіць да і.-е. **(s)kēr-* 'раздзяляць, рэзаць' (Покарны, 938); параўн. літ. *skìrti* 'раздзяляць, раз'ядноўваць', *skir̃sti* 'трэскацца (аб скуры, зямлі)'. Захаванне *-ск-* перад *-і-,* магчыма, тлумачыцца ўплывам слоў тыпу *скаліцца, склабіць.* Элемент *-з-* дадаваўся да кораня, які дээтымалагізаваўся, аддзяліўшыся ад варыянта *-шчэр-,* магчыма, у выніку кантамінацыі з *агрызацца.* На іншую магчымасць тлумачэння *-з-* указвае рус. дыял. паўн. *карзать, корзать* 'абрэзваць галлё', славен. *křzati* 'рэзаць дрэнным нажом', серб.-харв. *кр̏зати* 'сточваць' (гл. Фасмер, 2, 199); параўн. таксама рус. дыял. *карзубый, карзун* 'чалавек без пярэдніх зубоў', якое ўзводзяць да **kъrnozǫbъ,* але нельга выключыць сувязь (магчыма, другасную) паміж *аскірзацца* і *карзун,* а, магчыма, таксама бел. прозвішчамі *Карзон, Корзун, Карзей, Кірзей;* параўн. яшчэ *скаруза* 'ўпарты', *скарузіцца* 'ўпірацца, капрызіць' (Касп.), рус. *скоросый* 'запальчывы, няўжыўчывы'. Аб корані гл. Райзензон, Проблемы лексикологии, 1973, 145—152. Для тлумачэння славянскіх форм з *-ск-, -шк-* як запазычаных з балтыйскай няма семантычнай падставы; пашырэнне на чэшскай тэрыторыі таксама супраць гэтага.

**Аскі'тэр** (Непакупны, Мовознавство, 1969, 3, 19). Гл. *скітэр, а-* мае пратэтычны характар.

**Аскле'ць** 'азябнуць'. Утворана з цыркумфіксам *о-+ě-ti* ад кораня *скл* (варыянт *шкл-о*<*stьkl-*) са значэннем, суадносным з шэрагам іншых слоў, што азначаюць 'азябнуць' праз указанне на ператварэнне ў цвёрды, ломкі стан: *адубець, акачанець, апруцянець* і г. д. Параўн. *азглець* (гл.).

**Асклі'злы** 'слізкі' (КТС). Генетычна — дзеепрыметнік ад дзеяслова **осклизти,* параўн. *слізнуць* у Насовіча. Пачатковае *а-* мае прэфіксальны ці пратэтычны характар. Пра корань гл. *слізкі.*

**Аско'ла** 'вісус; чалавек, што ўсюды паспявае' (Бяльк.); параўн. рус. смал. *асколок* 'дзёрзкі, нахабны чалавек', укр. *дивитись оскілками* 'глядзець са злобай', польск. *oskoła* 'бярозавы сок' (Брукнер). Гэта слова можна тлумачыць як семантычнае развіццё першаснага *аскола* таго ж паходжання, што і рус. *оскол,* бел. *асколак,* якія маглі мець значэнне тыпу 'стрэмка'. Яны развіваліся тым жа шляхам, што і рус. *заноза.*

Іншае тлумачэнне: скажэнне слова *раскол* 'забойца, разбойнік; буян, нахабнік' (Бяльк., Шат.), што адлюстроўвала ўяўленне аб *раскольніках* як адшчапенцах, кепскіх людзях, якое пашыралася царквой; у гэтым выпадку ўкр. прыклад, дарэчы, патрабуючы ўдакладнення, наўрад ці звязаны з бел. *аскола,* рус. *асколок.* Сувязь тлумачэння з польск. *oskoła,* відаць, ад уяўлення пра «ліпучасць» соку.

**Аско'лак.** Рус. *оско́лок,* укр. *оско́лок, оскíлок* 'тс', славен. *oskâłek* 'стрэмка', чэш. *oskolek* з рускай мовы. Ст.-рус. *осколъ* 'скала'. Фасмер (3, 160) указвае на сувязь з *щель, скала, колоть,* г. зн. на належнасць да і.-е. **(s)kel-/(s)kol-;* такую ж сувязь канстатуе і Аткупшчыкоў (Из истории, 114). Шанскі (КЭСРЯ, 315) удакладняе словаўтварэнне *осколить* 'ашчыпаць, абцясаць'>*оскол,* ад якога памяншальнае *осколок* (формы *осколить, оскол* фіксуе Даль), прычым у *осколить* «корань той самы, што ў *колоть*» (КЭСРЯ), відавочна, *осколить* азначала 'абкалоць'.

**Аско'ма,** *аско́м* (Сцяц.). Рус. *оско́ма, оскомина,* укр. *оскома* 'тс', польск. *oskoma* 'тс' і 'апетыт на нешта', чэш. стар. *oskomina* 'тс', балг. *(о)скомина,* мак. *оскомина,* серб.-харв. *ско̀мина* 'тс', славен. *oskomina* 'тс' і 'апетыт'. Бяссуфікснае ўтварэнне ад дзеяслова **oskomiti* (параўн. маг. *аско́міцца* 'надакучаць', Бяльк.), у якім корань **-skom-* паралельны да *шчаміць<*skem-iti, шчымець.* Індаеўрапейскі корань няпэўны. Параўнанне з літ. *skónis* 'смак' і санскр. *kāmaḥ* 'жаданне' няпэўнае, таксама як з **sken-* 'расколваць'. Гл. *шчаміць.*

**Аско'р** 'ачыстка ствала ад кары' (Сцяшк.). Бязафіксны назоўнік ад дзеяслова **аскарыць, *аскараць,* што павінен быў азначаць 'ачышчаць ад кары'; блізкі дзеяслоў вядомы ў польскай *oskórować* 'здымаць скуру; забяспечваць скураным пакрыццём', аднак генетычна зразумела толькі другое значэнне, якое надаецца пры ўтварэнні дзеясловаў паводле мадэлі *о-*+корань назоўніка+*-ити* са значэннем 'прыдаць тое, што выражана назоўнікавым коранем' (параўн. *аснасціць, ашкліць).* Для першага значэння больш характэрна выкарыстанне прэфікса *-ад* (параўн. і польск. *odskórzanie* 'здыманне скуры'). Пры замацаванні зафіксаванай дыялектнай формы з *а-,* а не *ад-,* магчыма, мела значэнне наяўнасць элемента *-с-,* які ўспрымаўся не як частка кораня (што атаясамліваўся з *кара, кор-,* а не з *скор-*), а як прэфіксальны элемент з-*(с-).*

**Аскра'к** 'чалавек, у якога заўсёды беспарадак пад носам' (Янк. Мат.). Укр. *оскря́к, вíскряк, вíзгряк* 'сапля, сапляк'. У сучаснай мове разумеецца як утварэнне з суфіксам *-ак,* які

ўтварае назвы асоб. Тады зыходным трэба лічыць *возкрі* 'соплі' (Бяльк.). Гл. *возгры,* якое мае шмат паралеляў у славянскіх мовах; не выключана, што *скрак* — каранёвы элемент: **(s)krek* 'студзяністая субстанцыя, напр. жабурынне'. Супрун, Бел.-укр. ізал., 71—73; Вярэніч, Бел.-укр. ізал. 10—11; Шцех, Scando-Slavica, 11, 251—254; іншую літаратуру гл. да артыкула *возгры.*

**Аскро́так** 'асколак, трэска' (Гарэц., Юрч.), *аскрётак* (Бяльк., дадатак рэд.), *аскрётык* (Юрч.). Утворана з суфіксам *-ак* ад дзеяслова **аскрэсць* (Юрч. *скрэсць,* Нас. *скрэсцьца)* паводле мадэлі *абрубак, агрызак* і г. д., параўн. *паскрэбкі* з *б,* што адпавядае літаратурнай форме дзеяслова. Формы з цвёрдым *р* свядома ўтвораны ад мяккаэравых форм па літаратурнаму ўзору. Параўн. *ашкрётык* (Бяльк.) з экспрэсіўнай зменай *ск* на *шк.*

**Аскялё́пак** (Касп., Янк. II), *аскалёпак* (Янк. Мат., Бір.), *осколёпокъ* (Нас.), *асыкалёпык* (Бяльк.), *ашкалёпак* (Касп., КТС), *аскалёбак* (Янк. Мат.) 'кавалак дрэва, адсечаны абыякава ці выпадкова, трэска, асколак посуду'; *аскалёпак* 'дурны чалавек' (КЭС, шкл., бярэз.). Рус. *осколупок* 'асколак', укр. *оскалок* 'кавалак дрэва', славен. *oskalek* 'стрэмка, трэска'. Слова, безумоўна, звязана з і.-е. **(s)kel-/*(s)kol-* 'рэзаць, ударыць', які сустракаецца і з дэтэрмінатывам *-p-* ці *-b-* (Покарны, 923—926), аднак яго этымалогія ў беларускай мове выклікае значныя цяжкасці ў сувязі з тым, што рускі адпаведнік (магчыма, народнаэтымалагічна) звязаны хутчэй з *колупать,* а ўкраінскія і славенскія не маюць *-р-*. Польск. *osklepek* 'частка кветкі; ракавіна', калі і роднаснае слова, то не непасрэдна (у сувязі з семантыкай, дарэчы, прадстаўленай і ў іншых індаеўрапейскіх мовах). Гэта робіць *аскялёпак* адзіным славянскім прадстаўніком індаеўрапейскай асновы **(s)kelp-, *(s)kolp-* ці **(s)kolbh-*. Пра чалавека — пераносна (параўн. *аскабалак).*

**Асла́** *асялок* (БРС, Сцяшк.), *асёлак* (Сцяшк., Бір. дыс., Выг. дыс., Смул.), *усёлак* 'мянташка' (Выг. дыс.). Рус. *осла, осёлок,* укр. *осла, оселок,* польск. *osła, osełka,* палаб. *våslă,* н.-луж. *woslica,* славац. *osla,* славен. *ósla,* ст.-слав., ст.-рус. *осла* 'тс', в.-луж. *wósła* 'граўвакка (мінерал тыпу пясчаніку)'. У рускай, славацкай яшчэ 'закаліна ў хлебе', у славенскай 'зацвярдзенне залоз', у польскай дыял. 'брусок featuring рознага рэчыва', напр. масла. Параўн. чэш. дыял. мянушка *Osla.* Паводле Фасмера, 3, 157, сюды ж балг. *осил* 'восць', што наўрад ці правамерна без прамежкавых фактаў; Трубачоў

(Зб. Курыловічу, 332) лічыць літ. *aslà* 'земл. падлога, мянташка' запазычаным з польскай ці іншых славянскіх моў. Не выклікае сумненняў, што прасл. **osla* ўтворана ад і.-е. кораня **ăк'-;* звычайна пры гэтым звяртаюць увагу на яго значэнне 'востры' і супастаўляюць з арм. *asełn* 'ігла', грэч. *ἀκόνη* 'асялок' (Мейе, Études, 419) ці англ. *ail* 'асялок'. Аднак наяўнасць верхнялужыцкага значэння дае магчымасць лічыць, што першаснае значэнне тут не 'вастрэнне', а 'камень', што звязвае слова з ст.-інд. *áśman* 'камень, неба' і пад. Нельга выключыць, што ў словах *асёлак, аселіца* 'лугавіна на прысядзібным участку', *аселіна* 'неаранае поле, пакінутае для пашы' адлюстраваліся нейкія старыя сувязі з **os(ь)la* 'камень>глеба' (Міклашыч,— па Безлаю, Vodna im., 2, 65). Зыходнае значэнне 'камень' дае больш магчымасцей для тлумачэння значэнняў 'закаліна ў хлебе', 'зацвярдзенне' і іншых значэнняў слова *асла* і вытворных побач з 'мянташка'. Нельга быць пэўным у правамернасці сувязі значэнняў 'востры' і 'камень' у індаеўрапейскіх мовах, магчыма, тут аманімія кораняў; у карысць адзінства кораня сведчыць хец. *aku* 'востры камень' (Іванаў, Общеинд., 45), але санскрыцкае значэнне 'камень' і 'неба' сведчыць хутчэй пра іншыя семантычныя адносіны. Параўн. *асялок, асёлка, асілак, вострьі.*

**А'слі** 'ці, хіба' (Нас., Гарэц.), рус. смал., пск. *асли* 'тс', макед. *асли* 'сапраўды', балг. *аслъ* 'тс', серб.-харв. *асли* 'тс'. Паўднёваславянскія словы лічаць запазычанымі з турэцкай, дзе з арабскай (БЕР, 1, 18; Скок, 1, 66), што не выклікае сумненняў адносна прыметнікавага ўжывання. Беларускае і рускае словы з *а-сь-ли,* дзе *а* — часціца, тая ж, што ў *але, або; сь* — указальны займеннік; *ли* — пытальная часціца. Параўн. *áсечка* (<*ась*), рус. *ась,* чэш. *asi,* польск. *atoli* (параўн. *ат* з *атъ*).

**Асло'н** 'прадаўгаватая пераносная лаўка' (Нікольскі, Происхожд., 237). Утворана ва ўсходнеславянскіх мовах (рус. дыял. *ослон,* укр. *ослін*) паводле прыметы 'тое, да чаго можна прыхіліцца' (блізкія формы зафіксаваны ў серб.-харв. і мак. *ослон* 'падтрымка, тое, на што можна абаперціся'). Супрун, Бел.-укр., ізал., 68—71. Гл. *услон.*

**Асло'на** 'ахова' (Яруш.). Улічваючы рэдкасць ужывання слова, хутчэй з польск. *osłona* 'тс', чым непасрэдна ад *асланяць* (Нас.: *ослонянь*), *асланіць.* Гл. *засланяць.*

**Аслянец:** «Аслянцы старцы, Чаго вы спазьнились» (Рам.). Магчыма, ад назвы в. *Аслянка* на Мсціслаўшчыне ці памылка замест *асляпцы.*

**Асляпе́нь** 'сляпень' (Янк. Мат., Жд.). *А*- мае пратэтычны характар. Гл. *сляпень*.

**Асмалі́ць** 'абпаліць' (Яруш.). Пачаткова 'пакрыць смалой', а потым, у сувязі з тым што пры гэтым дрэва часта трымаюць на адкрытым агні, пераносна на іншыя прадметы — напр. парсюка ці гусь. Пераход вядомы і ў іншых славянскіх мовах. Адсюль: *асма́лак* 'галавешка', *асмалёнкі* 'бульба з прыгаркай' (Сцяц.); *асмалёнак* 'пра смуглага чорнавалосага чалавека' (Сцяц.) адлюстроўвае яшчэ сувязь з чорным колерам смалы і абсмаленых прадметаў. Магчыма, што ва ўзнікненні слоў *асмалёнкі* і *асмалёнак* ёсць сувязь з коранем *смаг-* (параўн. *смажыць*), а сувязь з *смала* — вынік пазнейшай народнай этымалогіі.

**Асмё́так** 'атопак; бясформенны кавалак' (Бяльк.), 'атопак' (Пал.). Гл. *ашмётак.*

**Асмо́л** 'смалістая драўніна хвойных парод' (БРС), 'пень, які выкопваюць для вырабу смалы' (Інстр. III). Рус. *осмол* 'смалістая драўніна', укр. дыял. *осмів* 'трухлявы пень'; рус. і ўкр. *осмол* таксама дзеянне па дзеяслову *осмолить.* Польск. *osmoł* 'жывіца, што цячэ са скалечанага месца на пню', 'асмальванне'. Яшчэ *ўсмал* 'амярцвелая частка ствала, налітая смалой' (Янк. I), укр. *усмол* 'тс' (Ніканчук, Бел.-укр. ізал., 63). Утворана, магчыма, ад дзеяслова *асмаліцца* 'наліцца смалой', бо інакш прэфіксальна-бяссуфікснае ўтварэнне цяжка растлумачыць. Сюды ж памяншальнае *асмолкі* 'смалістыя трэскі' (Інстр. I).

**Асмо́лак** 'тоўстая жэрдка, да якой прымацоўваюцца кроквы' (Жд.). Кандэнсавана з *асмоленая жэрдка, асмолены друк, шост.*

**Асмо́ржыны** 'адыходы пры апрацоўцы льну мяліцай' (Сцяшк.). Прэфіксальна-суфіксальнае ўтварэнне ад *сморгаць* 'абрываць лісты, галоўкі з ільну' (Бяльк., Сцяшк.).

**Асму́скваць,** *асму́зкваць* 'абрываць зярняты аўса, захапіўшы паміж пальцамі адно ці колькі каліваў' (Янк. I). Магчыма, звязана з укр. *мускати 'прыгладжваць'*, польск. *muskać* 'дакранацца, гладзіць, датыкацца' *o(b)muskać* 'далікатна ацірацца'; балг. *мушкам* 'даторквацца, націскаць, басці, калоць'. Брукнер (348) лічыў *muskać* выключна польскім, Младэнаў (Годишник, XIII—XIV, 1917—1918, 91—92) узводзіў яго да і.-е. **(s)meu̯-* 'дакрануўшыся, прывесці ў рух' (Покарны, 743, дае без *s*-), параўн. лац. *movere* 'рушыць' (Вальдэ—Гофман, 2, 116), магчыма, літ. *mùšti* 'ўдарыць', *mušnóti* 'ціха

абстукаць'. Улічваючы, што націскны *ы* ў дадзенай беларускай гаворцы пераходзіць у *у* (ДАБМ, к. 39), можна дапусціць сувязь з *смыкаць* (гл.), але пры гэтым няясна другое *-с-* (*-з-* у запісе Янкоўскага). Супрун, Веснік БДУ, 1973, 2, 66.

**Асна́ч** 'плытагон, сплаўшчык', *асна́к* (Янк. БП) 'тс'. Рус., укр. *оснач,* ст.-рус. *осначь* 'тс'; рус. арханг. таксама пераносна 'легкадумны чалавек'. З *остьнъ* 'вастрыё', 'бусак' (>*асон,* гл.)+суфікс *-ачь* (*остьнъ* мае той жа корань **ak'-,* што *востры,* гл.) ці *-акъ* (Супрун, Веснік БДУ, 1971, 1, 72—73). Думка Даля пра паходжанне ад *снасть, оснастка,* а таксама думка Мацэнауэра, 12, 173 (гл. таксама Міклашыч, 4; Бернекер, 32; Фасмер, 3, 162), пра паходжанне ад гоц. *asneis* 'падзёншчык' неперaканаўчыя.

**Асно́ва**. Першапачаткова 'ніткі, што ідуць уздоўж тканіны'. Рус., укр., балг., макед. *основа,* серб.-харв. *основ,* польск. *osnowa,* чэш., славац., славен. *osnova,* ст.-рус. *основа.* Праслав. **o(b)snova* (Трубачоў, Ремесл. терм., 113) утворана як бяссуфіксны назоўнік ад прэфіксальнага дзеяслова **o(b)snovati* (*аснаваць*), які ад *снаваць* (гл.). Гл. таксама Праабражэнскі, 1, 663; Фасмер, 3, 162; БМ 61, 1, 3; Булахоўскі, Тр. ИРЯ, 1, 173. Недакладна адносіць утварэнне слова да XIX—XX стст. (Гіст. лекс., 248).

**Асну́ты** 'ахоплены сном' (Сцяшк.). Сувязь са *сном,* відаць, другасная, народнаэтымалагічная; хутчэй тут дзеепрыметнікавае ўтварэнне ад дзеяслова **аснуць* з коранем **snu-/snov-* (гл. *снаваць*). Польск. *osnuć* 'снуючы нітку, абкружыць ёй', адкуль 'ахутаць'. Магчыма, у сувязі з абмежаваным пашырэннем слова трэба лічыць яго польскім запазычаннем.

**Асняк,** *аснік* 'асіннік' (Бір. дыс., Інстр. III). Гэтыя зборныя назвы, як і прыметнік *асовы* 'асінавы', утвораны ад **osa* 'асіна' (параўн. *дуб — дубняк* і г. д.); такія формы, магчыма, сведчаць пра доўгае захаванне ў беларускіх гаворках бяссуфікснай формы **аса* (гл. *асіна*).

**Асо́ба** (БРС, Нас., Яруш.). Рус., укр., балг. *особа,* серб.-харв. *о̏соба,* польск., чэш., славац., славен. *osoba,* в.-луж., н.-луж. *wosoba.* У старабеларускай са значэннем 'форма, сукупнасць рыс, твар' (Гіст. мовы, 1, 219). У ст.-рус., ст.-слав. толькі *особь,* ст.-рус. *особѣ* 'особна'. Літ. *asabà* 'асоба' з польскай ці беларускай (Фрэнкель, 18). У польск. *osoba* з XV ст. Звычайна лічаць, што назоўнік утвораны з прыслоўнага выразу *о собѣ* 'особна' (Фасмер, 3, 162). Гэта, аднак, незвычайны шлях утварэння назоўнікаў. Хутчэй трэба лічыць утвораным

з вядомага ўжо ў стараславянскіх помніках дзеяслова *особити (сѧ)* 'жыць асобна' як бяссуфіксны назоўнік. Рускае слова, вядомае з пачатку XVIII ст., Вінаградаў, Очерк, 32; Фасмер лічыць запазычаным з польскай, а Шанскі, КЭСРЯ, 315,— агульнаславянскім. Улічваючы час фіксацыі рускага слова (прыкладна на стагоддзе пазней, чым у заходнерускіх помніках), магчыма, трэба пагадзіцца з Вінаградавым і інш. Позняя фіксацыя і старабеларускія значэнні гавораць у карысць таго, што беларускае слова трэба лічыць запазычаным з польскай, дзе пашырана, магчыма, пад чэшскім уплывам. Дзеяслоў **osobiti* ўтвораны непасрэдна ад прыслоўнага выразу **o sobě* ці, хутчэй, ад праславянскага прыметніка **osobъ,* што захаваўся ў выглядзе *асобы,* утворанага ад **o sobě*; адсюль і *асобны* (**osobьnъ*); ад *асоба* 'персона' — *асабовы, асабісты* (магчыма, на польскай глебе).

**Асо'ва** 'зрух' (Бяльк.). Ад *асоўваць*. Гл. *саваць.*

**Асо'ка** 'выследжванне звера' (Інстр. III). Ад *сачыць* (гл.). Сюды ж *асочка, асочаны.*

**Асо'н** 'востры кій, якім падганяюць валоў' (Кароцічы Столінск., вусн. паведамл. Г. А. Цыхуна). З *остьнъ>остн> осн* з «узноўленым» беглым галосным *о* паміж *с* і *н.* Параўн. таксама *асно* 'тс' (Сержп., Земл., 61), *осниско* (Шн.), *асновік* 'вяроўка' (Арх. ГУ), *осён, осны* (Маслен.). Гл. *асцень* і *восці.*

**Асо'т** 'расліна Sonchus L.', назва дастасоўваецца і да іншых раслін (Cirsium arvense, Chondrilla junces), *ацот* 'тс' (Бяльк.). Рус., укр. *осот,* польск., чэш. *oset* (чэш. дыял. таксама *voset, (v)osti, vôst, octak*), балг. *осът,* славен. *osát.* Да і.-е. **ak'-* 'востры', прадстаўленага між іншым у грэч. *ἄκανος* 'чартапалох', літ. *ãšatas* 'конскі волас' (Мейе, Études, 299). Гл. *востры.*

**Асо'харніца** 'хвоя звычайная, Pinus silvestris L.' (мін.— Кіс., 98). Няясна. Відаць, звязана з *саха* ў значэнні 'дрэва з сучкамі': параўн. польск. дыял., чэш., славац., в.-луж. *sochor* 'шост, жэрдка', магчыма (супраць Махэк, Slavia, 28, 1959, 274), рус. *сохирь* 'дрэва з развілкай'; тады *сохарны* 'такі, што мае сучкі', назоўнік утвараецца з суфіксам *-іца; а-,* магчыма, пратэтычнае.

**Аспада'р** 'гаспадар' (Шн.). Жураўскі (Праблемы філал., 43) і Булахаў (Працы ІМ, 2, 61) адзначалі старабеларускія варыянты *господаръ, осподаръ, сподаръ;* ст.-бел. *осподаръ* ужо ў грамаце 1386 г. *Г-* страчвалася фанетычна ў пачатку

слова перад галосным (Карскі, 1, 371—372), магчыма, у выніку асэнсавання яго як пратэтычнага. Гл. *гаспадар*.

**Аспа'ласць** 'санлівасць, вяласць, неахайнасць' (Нас., Др.-Падб., Гарэц.), *аспала, аспалы* (Нас.). Укр. *оспалий, оспалість*, польск. *ospały, ospałość*, чэш. *ospalý, ospalost*, славац. *ospalý, ospalost'*, паморск. *u̯ospałï* 'санлівы, вялы', 'санлівасць, вяласць'. Ст.-бел. *оспалый* 'санлівы, вялы' (з 1593— Булыка, Запазыч., 231, дзе таксама: *оспалость, оспальство, оспальца, оспале;* параўн. Гіст. лекс., 96). Унутраная форма слова ясная: *аспаласць* і інш. утворана ад *аспалы*, якое ў сваю чаргу — дзеепрыметнік ад дзеяслова **аспаць*. Паколькі, аднак, такі дзеяслоў у беларускай мове не фіксуецца, не без падстаў *оспалый* разглядаецца як паланізм. Але і ў польскай мове не зафіксаваны такі дзеяслоў. Між тым у старачэшскай ён быў вядомы (пач. XV ст.). Таму, магчыма, што крыніцай дзеепрыметніка для польскай была чэшская мова, адкуль слова магло трапіць у беларускую непасрэдна або праз польскае ці ўкраінскае пасрэдніцтва. Назоўнік утварыўся на беларускай глебе ці быў таксама запазычаны.

**Аспе'кт.** З рус. *аспéкт* (Крукоўскі, Уплыў, 76), дзе з 1718 (Біржакава, 344) пачаткова ў астранамічным значэнні з лац. *aspectus* 'погляд' непасрэдна ці праз французскую мову (Шанскі, 1, А, 159) або нямецкую.

**А'спід** 'змяя, злосны чалавек' (БРС, Нас., Бяльк., Касп.), *áспида* 'змяя, злосная жанчына', *аспіднік* 'злосны мужчына', *аспідзёнак* 'змяёныш' (Нас.). Рус., укр. *аспид* 'тс' (укр. 'змяя' — *аспід*), серб.-харв. *аспида* 'тс', балг. *аспид(а)* 'змяя', ст.-бел. *аспідъ* 'тс'; ст.-рус., ст.-слав. *аспида, аспидъ* 'тс'. Беларускае слова працягвае старарускае, пашыраючы, як і іншыя ўсходнеславянскія мовы, яго значэнне; старарускае з старaславянскай (Шанскі, 1, А, 160), якое з ст.-грэч. ἀσπίς, -ιδος, н.-грэч. ἀσπίδα (Фасмер, 1, 93; Саднік — Айцэтмюлер, 1, 33; Скок, 1, 66). На грэчаскае паходжанне старабеларускага ўказвалася ў Гіст. лекс., 122.

**Аспіра'нт.** З рус. *аспирант* (Крукоўскі, Уплыў, 78) у савецкі час; рускае слова ў другой палавіне XIX ст. з франц. *aspirant* непасрэдна (Шанскі, 1, А, 160) ці праз нямецкую (што лепш паясняе канчатковае *-т*), дзе з французскай у XVIII ст.

**Аспіры'н** 'ацэтылсаліцылавая кіслата'. З нямецкай праз рускую ці польскую (на захадзе Беларусі ў форме *аспірына*). У нямецкай з канца XIX ст. Гл. Шанскі, 1, А, 161.

**Аспо′жка**, *аспажа́* 'свята, звязанае з асенняй сяўбой' (Інстр. II, Сцяшк.), раней — 'ражаство Багародзіцы'. Ад *госпожа, госпоженька* (гл. у Нас. *госпоженька* 'барынька', 'жонка свяшчэнніка') і, відаць, **Госпожка* 'Багародзіца'. Адсюль, як правільна тлумачыў Даль, 1, 27, 1, 386, назва свята, што па сугучнасці з формамі ад дзеяслова *жаць — дажынкі* і г. д. пераносіцца і на іншыя асеннія святы. «*Першая аспажа бывае ў серпні, другая — у верасні*» (Сцяшк.). Пра страту пачатковага *г-* гл. *аспадар.*

**Астабры′днуць** 'апрыкраць' (Сцяшк.). Эмацыянальнае ўтварэнне ад *абрыднуць* (гл.); параўн. рус. *осточертеть*, укр. *остобісіти* (паводле Фасмера, 3, 164 — з выразаў *сто чертей, сто бісів*) і ўкр. *остогидіти, остопранцювати.*

**Аста′віць** 'пакінуць'. (Яруш., КТС). Слова вядомае ў старaславянскіх тэкстах *(оставити)* было значна пашырана ў стараруcкай, адзначаецца не толькі ў рускай, але і ва ўкраінскай мове, таму думка пра ўжыванне слова як вынік рускага ўплыву ў Купалы (Ванковіч дыс.) патрабуе абгрунтавання. Утворана з прэфіксальнага *о-+ставити.*

**Астадо′ліцца** 'супакоіцца, сцішыць бег' (Янк. I). Відаць, звязана з *стадола* 'будынак для вазоў на заезным двары' (Бяльк.) і асабліва 'вялікі двор для жывёлы, хлеў' (Нас.). Дзеяслоў, відаць, азначаў 'стаць, як у стадолі', прычым пачаткова ўжываўся для жывёлы і толькі пазней для людзей. Паралелі ў іншых славянскіх мовах невядомыя. Магчыма, што ў слове адлюстроўваюцца некаторыя кантамінацыі з *астанавіцца* 'спыніцца' і г. д.

**Астало′п** 'дурань, тупіца, невук' (БРС, Нас., Бяльк., Касп., Бір. дыс.). Рус. *остоло́п* 'тс'. Параўн. яшчэ *стаяць асталопам* 'стаяць аслупянеўшы' (Нас., Бяльк.), *асталопіна* (Нас., Бяльк., Касп.). Ужо Даль слушна звязваў гэта слова з *стоўб/стоўп* 'слуп', што прынялі Міклашыч, 321; Гараеў, 242. Пісаў пра гэта слова Сабалеўскі (РФВ, 64, 124; ЖМНП, 1897, № 7). Праабражэнскі (1, 665), Шахматаў (Очерк, 281) паяснялі другім паўнагалоссем рускую форму, а Карскі (1, 257) — беларускую, прыводзячы і бел. *столап.* Неадназначна рашаецца пытанне пра паходжанне *а-,* а разам з тым і пра канкрэтную этымалогію слова. Праабражэнскі, Шанскі, (КЭСРЯ, 316) лічаць, што зыходнай была дзеяслоўная форма *остол(о)пѣти* 'аслупець', адкуль бяссуфіксны назоўнік *асталоп.* Булахоўскі (Тр. ИРЯ, 1, 160) убачыў тут кантамінацыю *стол(о)п* і *олух.* Улічваючы наяўнасць у смаленскіх гаворках (Мат. Смал.) слова *остолоп* 'драўляны слуп у ёўні', трэба,

відаць, пагадзіцца з Фасмерам, 3, 165, які тлумачыў *асталоп* 'дурань' як пераноснае ўжыванне слова, што азначала 'слуп', і параўноўваў яго з *полено, дубина, чурбан.* У карысць такога тлумачэння сведчыць, відаць, і выраз *асталопам,* дзе творны склон тлумачыцца як параўнальны *(як асталоп). А-* ў гэтым выпадку пратэтычнае, або прэфіксальнае (параўн. рус. *остолпие* 'капітэль', ст.-рус. *остълпление* 'каланада'). Гл. *стоўб.*

**Асталява'цца** 'абсталявацца, прызвычаіцца' (Гарэц., Др.-Падб., Янк. Мат., Жд.). Утворана з прэфіксам *а-* і суфіксам *-ява-* на базе прыметніка *сталы* 'пастаянны' (гл.).

**Астанаві'цца** 'спыніцца' (Яруш.), рус. *остановиться.* Ужыта, відаць, пад рускім уплывам, але наяўнасць слоў *станавіць* 'ставіць', *станавіцца* (БРС) дапускае, што бел. *астанавіцца* паралельнае ўтварэнне з прэфіксам *а-* ад згаданага дзеяслова. *Астаноўка* (Яруш.) хутчэй за ўсё з рус. *остановка.*

**Аста'нкі** 'прах' (БРС), 'памінкі па нябожчыку' (Бяльк.). Рус., укр. *останки* 'прах', ст.-слав. **останъкъ** 'астатак', балг., макед. *останка* (звычайна ў множным ліку) 'астатак; прах'; серб.-харв. *о̏станак,* славен. *ostânek* 'астатак', ст.-рус. *останъкъ* 'астатак, спадчына'. Геаграфія і семантыка сведчаць пра магчымасць пашырэння пад стараславянскім уплывам (КЭСРЯ, 315); менш верагодна паралельнае паўднёва-ўсходнеславянскае ўтварэнне. Утворана ад дзеепрыметніка **останъ* (КЭСРЯ), які да *остати* (гл. *астацца*). Адсюль жа і *астанне* 'астатак' (Яруш.).

**Аста'ркаваты.** Рус. *остарковáтый,* укр. *остáркуватий* 'тс'. Прыметнік з *-ават-ы* ўтвораны, відаць, у асобных славянскіх мовах, аб чым сведчыць розны націск і розныя афармленні суфікса, на базе назоўніка *остаръкъ,* зафіксаванага ў рускіх гаворках (Вінаградаў, Очерки, 207). Назоўнік утвораны з дзеяслова *остареть,* які з прэфіксам *о-* ўтвораны ад *старѣти* < *старъ.* Гл. *стары.*

**Астаро'нак** 'бакавая частка гумна, дзе ляжаць снапы, падрыхтаваныя да абмалоту' (Сцяшк.). Звязана з *старана* 'пазуха ў гумне, дзе складваюцца снапы' (Нас., Сцяшк.); утворана, відаць, з інтэрфіксам *а—-ак* (параўн. *азадак* і пад.).

**Аста'цца.** Праслав. *ostati sę* — зваротная форма да **o-stati, o-staviti,* утворанага з прэфіксальным *о-* ад дзеяслова **stati* (>стаць). Ад гэтага дзеяслова ўтвораны дзеепрыметнік *остатъ,* адкуль *астатак (остатъкъ)* (КЭСРЯ, 316) і *астача (*остатја).* Параўн. *падаць, падатак, падача.* Дзеепрыметнік

даў аснову і для ўтварэння з суфіксам *-ьн-* прыметніка *остатьнии*>*астатні* 'апошні' (Булахаў, Працы ІМ, 7, 142; Анічэнка, Праблемы філал., 9). Ад *остатъкъ* утворана *остаточьныи* (Карскі, Труды, 372; Булахаў, Працы ІМ, 7, 141) і *астаткавы* (*остатък-ов-ъ*); ст.-бел. *остатечный* 'апошні' — з польскай (Гіст. лекс., 96), дзе *ъ*>*е*. Ад гэтага ж дзеяслова ўтворана было *осталь* 'тое, што засталося' (Даль; гл. КЭСРЯ, 315), адкуль *астальцы* 'астатак' (Касп.), ст.-рус. *остальць* 'той, што застаўся'.

**Астачарце́ць** 'абрыднуць' (КТС). Відаць, з рус. *осточертеть* 'надаесці як сто чарцей', утворанага з цыркумфіксам *о—-еть* (Фасмер, 3, 164; КЭСРЯ, 316).

**Асташы́** 'рыжыя боты' (Шн.). Рус. смал., пск. *осташи́* 'тс'. Паводле назвы месца вырабу — *Осташков* Калінінск. вобл. (Даль), утворанай ад уласнага імя *Осташка*. Баханькоў, Бел.-рус. ізал., 13—15.

**Астожжа** 'месца, дзе быў стог' (Бяльк.), рус. *остожье* 'лужок прыкладна на стог сена, пляцень вакол стага, падсцілка пад стог', серб.-харв. *о̀стожје* 'шост, што служыць асновай для стага, стог'. Сюды ж, відаць, *астэжа* 'падмосткі пад стог' (стол., ДАБМ, 878). Утворана, відаць, з цыркумфіксам *о—-ije* ад слова *стог*. Звычайна, словы з *о-* мелі значэнне наваколля, таму не выключана, што першаснае значэнне імення: 'нейкая загарадка вакол (магчыма, будучага) стага'. Гл. *стог*.

**Асто́пкі** 'стары, стаптаны абутак' (Жд.). Укр. дыял. *остопки*. Гл. *атопак* 'тс'; *-с-* устаўлена як вынік кантамінацыі з *стаптаць*.

***Асто́ркнуць**, *осто́ркнуты* 'спыніцца, пасяліцца, знайсці дах' (Клімч.). Няясна. Магчыма, да *таркаць* 'штурхаць, дакранацца', але семантычна незразумела. Можа да польск. *usterknąć* 'спатыкнуцца, спаткаць нейкія цяжкасці'?

**Асто́яцца** 'ўтрымацца на нагах; адстаяцца (пра вадкасць)' (БРС, Сцяц.). Укр. стар. *остоятися* 'тс'. Магчыма, з ст.-рус. *отстоятися;* націск указвае на пазнейшы, хутчэй польскі ўплыў (параўн. польск. *ostoja* 'аснова', а таксама *астоя* 'база', Шакун, Гісторыя, 313). Сувязь з *стаяць* (гл.) безумоўная, але гісторыя гэтага ўтварэння няясная.

**А́стра** 'садова-дэкаратыўная расліна Aster L.' (БРС). Рус., балг. *астра*, укр. *айстра, гайстра*, польск. *aster*, чэш., славац., славен. *astra*. З рускай (Крукоўскі, Уплыў, 88), дзе з канца XVIII ст. (Шанскі, 1, А, 166). Рускае слова лічаць запазыча-

ным з ням. *Aster* ці франц. *aster* (Фасмер, 1, 94), што, аднак, не тлумачыць рускія формы. Хутчэй трэба лічыць непасрэдным запазычаннем з лацінскай, дзе *astrum, aster* мае ў множным ліку форму *astra*, якая і была запазычана. Лацінскае з грэч. ἀστήρ 'зорка'; назва кветкі паводле яе формы ўжо ў грэчаскай.

**Астраго́н** 'расліна Artemisia dracunculus L.; палын-эстрагон'. Пачатковы ненаціскны галосны вымаўляўся як *-а*, што вяло да народнаэтымалагічнай сувязі з *вострьі*. На самой справе *эстрагон* з французскай праз рускую (дзе фіксуецца з 1864) ці польскую; франц. *estragon* 'тс' з 1564 <арабск. Паколькі з эстрагону рабілі воцат, гэта назва была перанесена і на воцат, які народнаэтымалагічна звязваўся з якасцю 'востры': у Насовіча *острого́нъ* 'моцны вінны воцат'. Народнаэтымалагічнае асэнсаванне *эстрагону* адзначана і ва ўкр. *острогін* 'палын-эстрагон'.

**Астрако́ліна** 'кол у плоце' (Сцяшк.). З **астракол* ('востры'+'кол', параўн. рус. *острокол*, укр. *острокіл*, польск. *ostrokół*) +*-іна*, як *дравіна, жалезіна*.

**Астрамок** 'невялікі воз (сена)' (Гарэц., Касп.), *астро́мак* 'невялікі воз сена, ахапак сена' (Нас., Гарэц.). Рус. дыял. *остро́мок, острёмок, остра́мок* 'тс', *остра́мок* 'доўгі шост у стагу сена', укр. *острямок, настрямок* 'невялікі воз сена', ст.-рус. *острамок* 'ахапак сена' (1537). Параўн. *настра́мак, стромак* 'невялікі воз сена' (Нас.). Фасмер (3, 166) звязвае з чэш. *strom* 'ствол, дрэва', лічыць, што *астромак* 'сена вакол «строма», г. зн. шаста'. Таксама Безлай, Eseji, 118. Праабражэнскі, 2, 396: да *стромкі* 'такі, што імкнецца ўверх',— г. зн. да *стремиться*. Сувязь з *стромка* адзначаў ужо Насовіч. Параўн. яшчэ дыял. *настраміць* 'накалоць', укр. *(у)стромити* 'ўваткнуць, усунуць'. Выклікае цяжкасці тлумачэнне розных галосных пад націскам. Няясна. Гл. *стромка*.

***Астраму́с.** Гл. *астранос*.

**Астрано́мія.** Ст.-рус., ст.-слав. *астрономиꙗ*. Зыходнае слова — грэч. ἀστρονομία ('зорка'+'закон'). Непасрэдна з грэчаскай запазычана форма з націскам на перадапошнім складзе (Бярында: *астрономи́я)*; націск на *-но-* ўказвае на лацінскую ці польскую крыніцу для сучасных беларускай, рускай, украінскай форм слова (Краўчук, ВЯ, 1968, 4, 123; Булыка, Запазыч., 32). Недакладна Юргелевіч, 128; наўрад ці праз рускую, як у Крукоўскага, Уплыў, 90. *Астрано́м* можна лічыць непасрэдным працягам старарускай формы

(XIII ст.) (Шанскі, 1, А, 167), таму думка Фасмера, 1, 94, пра запазычанне ў XVIII ст. недакладная; старaруская з грэчаскай. Паводле Булыкі, ст.-бел. *астрономъ* праз польскую з нямецкай. *Астралóгія* — з грэчаскай (аднак тыя ж заўвагі пра націск, што і пра *астраномія)*, гл. Фасмер, Этюды, 37. Пра словы *астрономия, астрология* ў старабеларускай гл. Гіст. мовы, 1, 146, 284; Гіст. лекс., 126, 219. *Астралóм* 'астраном' (Касп.) скажэнне, магчыма, у выніку кантамінацыі *астраном* і *астралог.*

***Астрано'с,** *остронóс* 'ёрш Acerina acerina Guld'. (Крыв.) Складанае слова з *остр-* (гл. *вострьі*) і *-нос* (гл.). Аналагічнае слова, але для абазначэння іншай рыбы падае Даль. У форме *остромыс* (мазыр.) другая частка, відаць, *мыс* 'морда' (Вярэніч, Бел.-рус. ізал., 27); *остромýс* мае *у* замест *ы* ў сувязі з вядомым на гэтай тэрыторыі пераходам *ы*>*у.*

***Астрапянець,** *остропынúти* 'аслупець' (Клім.). Відаць, звязана з *строп, страпілы,* укр. *стропина* 'розныя віды бярвенняў, слупоў'; іншая магчымасць — сувязь з укр. *стропúтися* 'сайсці са шляху, з розуму'. Але хутчэй *остропынити* «стаць як стропына», як *аслупець* «стаць як слуп».

**Астро'ва** 'лесвіца пры стойле', 'нятоўстая елка з сучкамі па 10—15 *см* даўжынёй' (Янк. I), *астрóўка* 'тс' (Янк. II), *астрóўка, астрóўкі* 'прыстасаванне ў выглядзе піраміды з сукаватых яловых жэрдак і калоў для сушкі сена, вікі, гароху, ільну і г. д.' (Грынблат, Белор., 110; Касп.; Хрэст. дыял., 22, 30; Інстр. II); паводле ДАБМ, к. 234, пашырана на паўночны ўсход ад лініі Орша—Полацк; *астраўё, астравіны* (ДАБМ, 789, 790; Малчанава, Мат. культ. 38, фота на стар. 39). Словы са значэннямі, якія можна звесці да 'сукаваты, нятоўсты кавалак дрэва', сустракаюцца і на іншых тэрыторыях, напр. у Палессі *острывэц* (стол.), *остpувля* (маларыц.) 'ссечанае маладое дрэва з сукамі, па якому залазяць на дрэва да вулля' (Анох.). Аналагічныя значэнні маюць словы і ў іншых славянскіх мовах: рус. дыял. *острóвье, óстровь, островúна, островник;* укр. дыял. *острова, острів, остров'яниця, острева,* польск. *ostrew, ostrewka,* чэш. *ostrev* (малюнак гл. у Махэка), славац. *ostrva,* славен. *ostȓv(a),* серб.-харв. *ȍстрва.* Не ведаем балг., мак., с.-луж. адпаведнікаў. Ад кораня **ostr-* (гл. *вострьі)* з суфіксальным *-ъv-* (параўн. *дрэва, плява* і пад.); да гэтага кораня слова адносілі Міклашыч, 227; Даль, 1, 706; Брукнер, 386; Скок 2, 575. Па Махэку$_2$, 420, з **ostrъbъ,* што патрабуе ўдакладненняў. Гл. *астрога.*

**Астро'г,** *вастрóг.* Рус. *острóг* 'частакол, умацаваны гара-

док, турма', укр. *остріг* 'пляцень з крышай', 'турма', польск. *ostróg* 'частакол, умацаванае месца, замак,' 'турма ў царскай Pacii' (гэта значэнне, відаць, з усходнеславянскіх моў), чэш., славац. *ostroh* 'адгор'е, мыс' (параўн. рус. *отрог,* рус. дыял. *острог* 'мыс'), славен. *ostròg* 'умацаванае месца'. Ст.-слав., ст.-рус., ст.-бел. *острогъ* 'частакол, умацаванае месца'. Міклашыч (293), Гараеў (243), Мікала (IF, 6, 350), Зубаты (Studie, 1, 2, 171) адносілі да кораня слова *сцерагчы,* што фанетычна недакладна; Махэк$_2$ (420) выводзіць з *ostožiti* (гл. *астожжа)* з пазнейшай кантамінацыяй з *востры.* Мейе (Etudes, 354). Праабражэнскі (1, 666—667), Фасмер (3, 166) (дзе гл. іншую літаратуру) звязваюць з **ostr-*. Суфікс *-g-* яшчэ ў *вярыга* і інш. Па Фасмеру першапачатковае значэнне 'вострае', адкуль можна вывесці і 'мыс', і 'гару', і інш. Аднак больш верагодна дапушчэнне Праабражэнскага пра тое, што першапачаткова размова ішла пра плот з вострымі коллямі. Гл. *астрога.* Тады чэш., славац. і рус. паралелі не трэба атаясамліваць з гэтым словам.

**Астро́га** 'зрубленае дрэва з абрэзанымі не да канца галінамі (сукамі)' (Маш.), якое выкарыстоўваецца як 'лесвіца' (Сержп.), 'барана' (Сержп., Земл.), 'прыстасаванне для сушкі снапоў' — *астрагі* (ДАБМ); сюды ж, відаць, і *стражы́на* 'прыстасаванне для сушкі' (ДАБМ) са стратай пачатковага *а-*. Такое ж значэнне мае балг. дыял. *острог, острук* 'дрэва з сукамі каля кашары, на якое вешаюць торбы, вёдры і г. д.', 'жэрдка, вакол якой складваюць стог'. Блізкія значэнні зафіксаваны ў славенскай і сербскахарвацкай: 'жэрдка для стага', 'кол для прывязвання вінаграднай лазы'. Бел. *остро́жка* 'шпора' (Нас. Доп.), *острожки* 'шыпы на падковах' (Булг.). У іншых славянскіх мовах слова мае значэнне 'шпоры': рус., укр. *острога,* польск. *ostroga,* чэш., славац. *ostroha,* в.-луж. *wótroha,* памор. *u̯ostróga,* палаб. *våstrügă,* славен. *ostróga,* серб.-харв. *ȍстрога* 'шпора', рус. таксама 'восці'. Згодна з Міклашычам, 227; Далем, 2, 706; Брукнерам, 386; Фасмерам, 3, 166; Скокам; 2,573, утворана ад кораня **ostr-* з суфіксальным *-g-* (Мейе, Études, 354). Іначай Махэк$_2$, 420—421: да **ostrožiti*>**ostrog,* што менш верагодна. Гл. *астрова.*

**Астро́ў** 'востраў' (Касп.), гл. *востраў.* Ад гэтага ж слова і *астравок* 'невялікі ўчастак апрацаванага поля' (Выг. дыс., 7), *астравінка* (Яшкін).

**Астрые́** 'вастрыё' (Сцяшк.), *астры́ць* 'вастрыць' (Яруш.), *астры́ня* 'вастрыня' (Бяльк.). Гл. *востры.*

**Астры́жанак** 'маладое сукаватае дрэва, бервяно' (Нас.: *астри́женокъ).* Значэнне 'стрыжань дрэва, які застаецца пас-

ля ашчыпання лучыны'. Насовіч *острі́женокъ* звязвае з *стры́жань* (гл.), але, магчыма, тлумачыць і як 'астрыжаная частка дрэва', тады слова звязваецца з *астрыгчы, стрыгчы* і тлумачыцца як утворанае з суфіксам *-ак* ад дзеепрыметніка *астрыжаны.*

**Астры′жань** 'стрыжань' (Нас.). *А-* мае пратэтычны характар перад спалучэннем зычных у *стрыжань* (гл.). Адсюль і *астрыжо́нак* 'асяродак у хвоі, нарыве' (Янк. Мат., Сцяшк., Др.-Падб.); для націску трэба ўлічыць *стрыжэ́нь* 'галоўны корань дрэва' (Сцяшк.). Параўн. зафіксаванае Насовічам *астры́жанак* 'стрыжань дрэва, які застаецца пасля ашчыпання лучыны' *(остриженокъ)* ці 'маладое сукаватае дрэва ці бервяно' *(астриженокъ).* Магчыма, аднак, і іншае паясненне некаторых значэнняў слова *астрыжанак* (гл.).

**Астрыжо′нак** 'коратка астрыжаны хлопец ці дзяўчына' (Сцяц.). Нармальнае для беларускай мовы ўтварэнне *астры́жанак.* Таму тут, відаць, асновай было слова *астрыжо́ны,* якое суадносіцца з дзеясловам *астрыгчы,* але, магчыма, было запазычана з польск. *ostrzyżony* (з узнаўленнем *р* на месцы *ш*).

**Астры′ца** 'гарыца; расліна Sagina L.' (Кіс., Інстр. II). Названа так (паводле вузкіх лісцяў, з шыпом у канцы) ад кораня **ostr-* (гл. востры) з суфіксам *-ica.* Ад гэтага ж кораня, але з суфіксам *-ушка* ўтворана *аструшка* 'сінюха; расліна Polemonium L.' (Кіс.). Назвы раслін з коранем **ostr-* сустракаюцца і ў іншых славянскіх мовах, у тым ліку з суфіксам *-ica* (рус. *острица,* укр. *острищя* 'Asperugo' і г. д., гл. Махэк, Jména rostl., паказчыкі).

**Астрэ′шыць,** *остре́шить* 'пакрыць хату саломай' (Шушк.). Дзеяслоў утвораны цыркумфіксам *о-—-ити* ад *стреха* 'страха' (гл. *страха*). Адсюль і *острешнык* (Клім.) 'саламяны снопік, які ідзе ў ніжні рад для пакрыцця страхі': *стреха—острешие — острешьный — острешник.*

**Астэ′кл** 'зусім дурны' (мсцісл., вусн. паведамл. А. А. Крывіцкага). Рус. ярасл. *остеклё́л* 'ашалеў', укр. зах. *остеклий* 'злосны, шалёны', польск. *wściekły* 'шалёны'. Нерэгулярнасць беларускай фанетыкі можа сведчыць пра нейкія кантамінацыі ці іншамоўныя (паводле А. Я. Міхневіча, вусн. паведамл. — ідыш) уплывы. Аднак наяўнасць адпаведнікаў на зусім розных рускіх і ўкраінскіх арэалах можа ўказваць на захаванне ў беларускай мове старажытнага слова, што абазначала шалёнага. Польскае слова звязана з коранем *ciek-*

'цячы'; пра семантычнае развіццё Гуер, LF, LVII, 522—528; Слаўскі, 1, 99; Брукнер, 61. З гэтым жа коранем, відаць, звязаны і ўсходнеславянскія словы. Семантыка развівалася ці паводле ст.-рус. *течи* 'хутка бегчы', ці паводле *течи* 'бегчы (пра вадкасць)' у сувязі з тым, што ў шалёных жывёл цячэ сліна.

*Асу'га, *осу́га* 'пот' (тураў., Выг.), 'іней, шэрань'. Укр. дыял. *осуга, суга́* 'налёт, іржа на вадзе ў балоце, высыпка на губах', 'слой вадкасці на іншай вадкасці, від плесні', *восу́га* 'пара на шыбцы', *осу́жка* 'вяршкі', славац. *osuhel', osuhlina* 'шэрань', дыял. *osuha* 'шэрань; сыры туман', чэш. (мар.) *osuhel* 'імгла зімой, шэрань, іней', *osuhlý* 'шурпаты, маркотны, непрыемны'. Верагодна, утварэнне з суфіксальным *-га* ад дзеяслова **osuti* 'абсыпаць': параўн. ст.-слав. і ст.-рус. *соути* 'сыпаць', польск. і ст.-польск. *osuć,* серб.-харв. *о̏сути,* славен. *osúti* 'абсыпаць' (прасл. **osupti*); параўн. таксама чэш. *osutina* 'высыпка на целе'. Мацэнауэр (LF, 12, 175) хацеў вывесці ад нейкага кораня *соуг-*, аднак не давёў свайго намеру да канца; Зубаты (Studie, I, 1, 167—170) намагаўся звязаць чэшскія словы з праслав. **o-sǫg-lъ,* што мела суадносіцца з **osęgti* 'дасягнуць'; Махэк$_2$ (421) прапануе сувязь з польск. у Карловіча *osęgly* 'дажджлівы', якое ён выводзіць з **osędly*< <*oszędly* ад кораня *szedy* 'сівы'. Гэтыя этымалагічныя прапановы малапераканаўчыя; украінскія і беларускія факты ў іх не ўлічаны. Ці сюды пакінутае Скокам без тлумачэння серб.-харв. *осуга* 'стужка', няясна. Параўн. н.-луж. *wósuch* 'струп, парша'.

**Асу'шак** 'сухая скарынка' (БРС), *асу́шчык* 'тс' (Клім.), *осух* 'першы кусок хлеба, адрэзаны ад бохана' (Шатал.), *асу́х* 'сухі кавалак хлеба' (Лекс. Палесся). Укр. *осу́шок* 'тс'. Хаця беларускія гаворкі, як паказвае Вештарт, Лекс. Палесся, 121, ведаюць значэнне 'сухая скарынка', іншаславянскія паралелі паказваюць, што гэта, магчыма, 'асобы рытуальны хлябец'. Так, у в.-луж. *wosušk,* польск. *osuch, osuszek,* дзе гэта 'спецыяльны гатунак хлеба на каляды', блізкае значэнне і ў славац. *osúch, osúšok;* магчыма, таму ёсць і спецыяльныя адценні значэння ў беларускай мове. Але можна дапусціць і паралельнае ўтварэнне беларускага і ўкраінскага слоў. Структура беларускага слова ўказана правільна ў Сцяц., Нар., 29: *о-+сух+-ькъ*>*асушак.* Гл. *ашушак.*

**Асфа'льт.** У сучасным значэнні, відаць, праз рускую (Крукоўскі, Уплыў, 83) ці польскую мову (у пачатку XX ст.) з нямецкай (дзе з французскай) або з французскай, дзе праз ла-

цінскую з грэчаскай (Фасмер, 1, 194—195; Шанскі, 1, А, 167—168). Але ў перакладзе Флавія сустракаем ст.-рус. *асфальтъ* (XII ст.). Традыцыя ўжывання слова ў рускай мове, відаць, не перарывалася, таму, магчыма, што дакладней лічыць сучаснае рускае працягам гэтага слова па паходжанню з грэч. *ἄσφαλτος*. Але ў беларускай мове традыцыя ўжывання слова, відаць, была перапынена.

**Асца′** 'лішай' (Бяльк., Нас., Гарэц., Др.-Падб.), 'выдзяленне сліны' (Янк. I; Арашонкава і інш., Весці АН БССР, 1969, 4, 128); *ісца́* (Нас., Бяльк.). Рус. дыял. *восца́* 'моцнае імкненне да чаго-небудзь', 'надта жвавы чалавек', *восса́, вася́, асса́,* 'хвароба скуры'. Малаверагодная думка Арашонкавай і інш. пра сувязь з лац. *ascit* 'вадзянка' (?); недаказана таксама іх думка пра сувязь з літ. *aščiagaliai* 'абсыпкі'. Фасмер (1, 358), Мяркулава (Этимология, 1970, 156—157) выказвалі думку пра этымон **osьca<*obsьca,* утворанага ад дзеяслова **obsьcati.* Ці сюды форма ст.-рус. *вошьца* 'апукліна' (XVI ст.)? Этымалагічная сувязь з дзеясловам семантычна не беззаганная. Таму магчымы і іншыя тлумачэнні: з **ostьca* (як рус. *дверца, ленца*) ад **ostь* (гл. *восці*) (па свербу, выкліканаму, напрыклад, стрэмкай), ці з **osъpьca* (параўн. *воспа, vospica* ў некаторых славянскіх мовах). Няясна. Гл. яшчэ *ісца.*

**Асцень** 'шчацінка на коласе злака' (Нас., Серб.). Укр. *остень* 'восці'. Форма, утвораная ад *остьньць,* якое ўтвараецца з субстантываванага *остьнъ* 'прадмет, што мае вастрыё' (восці, асцюкі, маладое пер'е ў птушак і г. д.). *Остьнъ* адлюстравалася ў форме *асон* (гл.) з выпадзеннем *-т-* паміж зычнымі і ў форме *асцён* 'пуга з вастрыём для падгону валоў' (Бяльк. Арх.). Праслав. **ostьnъ* адлюстравана ў старарускай, старабеларускай (у Скарыны—Булыка, Весці АН БССР, 1970, 4, 124), старапольскай, польскай, палабскай *(vist'ăn),* чэшскай, славацкай, славенскай, сербскахарвацкай, македонскай, балгарскай мовах. Утворана з суфіксам *-n-* ад **ostь* (гл. *восці*). Ад **ostь* утвораны таксама зборны назоўнік *асцё* (параўн. укр. дыял. *остє*) пры дапамозе суфікса *-j-e, асцюк* (рус., укр. *остюк*) з суфіксам *-ук, асцюлька* і г. д. Ад *остьнъ* і *остенчик* 'ражон' (Булг.).

***Асце′рбаць,** *остэ́рбаты* 'выжыць, акрыяць' (Клім.). Укр. *остербати, остербнути* 'тс', рус. *стербнуть* (стар.) 'цвярдзець, чарсцвець, церпнуць', *устрабляти, устрабити* (царк.) 'лячыць', польск. *postrobić* 'узмацніць', дыял. *ostróbka* 'ліхаманка', чэш. *ustrabit' se* 'асвяжыцца', ст.-чэш. *ostrabiti* 'ўзмацніць', славац. *strabit' sa* 'лячыць' і інш. Ст.-рус. *устоpобитися* 'выздаравець',

*устрабити (ся)* 'вылечыцца', *устрабие, устраба* 'вылячэнне', *устробитися* 'выздаравець'; ст.-слав. **устрабити** 'вылечыць'. Ці не ў выніку кантамінацыі з гэтым словам в.-луж. *strowy* 'здаровы'? Слова лічаць праславянскім (**storb-/*stьrb-*), роднасным з і.-е. **ster-*; параўн. грэч. *στέρφος* 'цвёрдая скура', літ. *tar̃pti* 'ўзмацняцца, выздараўліваць' (думка Махэка, Recherches, 39, параўн. Фрэнкель, 1063), магчыма, ням. *sterben* (Траўтман, 284) і інш. Гл. Фасмер, 3, 756.

**Асця′га** 'ўпартасць пры дасягненні недасягальнага жадання, крыклівасць' (Гарэц.). Утворана як бязафіксны назоўнік ад дзеяслова *асцягваца* 'ўпарта дабівацца чагосьці' (Касп.), які ўтвараецца з прэфіксам *а-(о-)* ад *сцягваца*, утворанага ад *цягнуць* (гл.).

**Асцяжа′рак** 'хмызняк, салома' (Выг. дыс.). Утворана з цыркумфіксам *з-—-ак* (<*о-—-ъкъ*) ад *сцяжар* (гл.), *стежар* (Выг.). Гл. *стажар'е*.

**Асцяро′б** 'расчышчанае месца пасярод лесу' (Касп.). Бязафіксны назоўнік ад **асцерабіць* 'прачысціць лес'. Гл. *церабіць* у гэтым значэнні.

**Асцяро′га.** Бязафіксны назоўнік ад дзеяслова *асцерагáць* 'папярэджваць пра небяспеку', утворанага з прыстаўкай *а-* (<*о-*) ад *сцерагчы* (гл.). Адсюль з суфіксам *-ьн-* утварыўся прыметнік *асцярожны,* ад якога назоўнік *асцярожнасць.* Форма *острожность* у XVII ст. (Гіст. мовы, 1, 295) пад польскім уплывам. *Остеречи(ся)* ужо ў старарускай мове.

***Асы′ты,** *осы́та, осы́тэ* 'злёгку гнілы' (хвоя, дрэва) (Клім.). Параўн. укр. *сита сосна* 'сасна са смалой'. Да кораня *сыт-* (гл. *сыты*) са значэннем 'насычаны'. Параўн. таксама *осэ́тня порá* 'дастатковы час' (Клім.) пры ўкр. *оситня пора* 'дастаткова даўні', зноў да гэтага кораня са значэннем 'сытны'='дастатковы'.

**Ась** 'выгук водгуку' (Касп.). Рус. *ась,* чэш. *asi. Ась* з часціцы *а-* і займенніка *сь (се).* Праабражэнскі, 1, 1; Фасмер, 1, 95; Трубачоў, Зб. Васіленку, 335. Параўн. *асечка, аслі, ат.*

**Асьмі′на.** Праслав. **osmina* ад **osmь* 'восем' (гл. *восем*) з суфіксам **-ina,* які ўжываўся для ўтварэння назваў дробаў.

**Асю** 'выгук для адгону свіней' (Клім.). Варыянт *ацю* (гл.).

***Асю′рбаваты,** *осю́рбуватый* 'сутулы, гарбаты' (Клім.). Няясна.

**Асяга́ць** 'аперажаць' (Нас.) Гл. *дасягаць*.

**Асякаць, -цца** 'абрэзваць (на слове)' (Гарэц.), 'раптоўна перарываць' (Др.-Падб.), *асе́кацца* (КТС), *асыка́цца* (Бір. дыс.; Гайдукевіч, Працы ІМ, 5, 54) 'агрызацца, рэзка адказваць'. Утворана ад дзеяслова *сячы* (гл.).

***Асяле́нец,** *осылэнець, оселе́нец, оселэнец* 'селядзец' (Клім., Вештарт, дыс.). Рус. дыял. паўдн. *аселедец, оселедня, оселёдка,* укр. *оселедець* 'селядзец'. Пачатковае *а-* магло б быць прыстаўным, але *-н-* указвае на магчымасць утварэння ад *сьльдь* праз прыметнік *сьльдьн-ыи, о-сьльдьн-ьць* (параўн. *акраец* і пад.). Гл. *селядзец*.

**Асяло́к** 'змаршчок' (Інстр. II); *вясёлка* ўказваецца як варыянт назвы побач. Асноўнае выкарыстанне назвы *вясёлка* не для абазначэння змаршчка (Morchella), а як назва грыба Phallus impudicus *(вясёлка, сраматнік),* але, зважаючы на тое, што і ў іншых мовах ёсць такія пераносы назваў (ням. *Morchel* 'змаршчок' і *Stinkmorchel* 'вясёлка, сраматнік'), і тут можа ісці размова аб пераносе. Калі першапачаткова *вясёлка* — назва змаршчка, магчыма, звязана з тым, што гэта першы вясенні грыб (параўн. *вяселік* 'жаваранак'), калі ж першапачаткова гэта назва сраматніка, магчыма, у ёй адлюстраваліся адносіны да непрыстойнасці знешняга выгляду гэтага грыба. Калі ўлічыць цяжкасць фанетычнага тлумачэння *асялок* з *вясёлка,* трэба дапусціць тую ці іншую сувязь *асялок* 'змаршчок' з *асялком* 'тачыльным каменем', магчыма, па знешняму выгляду (асабліва калі гэта назва не змаршчка, а сраматніка); нельга выключаць і сувязь з *асілкамі,* якія, паводле пэўных паданняў, уходзілі ў зямлю. Гл. *вясёлка, асілак, асла.*

**Асяні́на** 'асенні збор для царквы' (Нас., Янк. I). Ст.-рус. *осенина* 'тс' з XII ст. (Філін, Происх., 599—600). Ад *восень* (гл.) з суфіксам *-іна,* як і ў іншых назвах падаткаў, а таксама свят. Ад гэтага ж кораня *асянчук* 'народжанае восенню цяля, ягня і інш'. (Сцяц.) з суфіксам *-чук,* які выкарыстоўваецца наогул для пазначэння сына ці ўнука.

**Асяні́ць** 'нечакана ўзнікнуць (пра думку)'. Магчыма, з старaславянскай праз стараpускую ці рускую. Старaславянскае слова ўтворана ад *сѣнь* 'цень' (гл. *сенцы*) са значэннем 'пакрыць ценню', 'прыкрыць, захаваць'>'сайсці звыш'.

**Асяро́ддзе.** Утворана прэфіксальна-суфіксальным шляхам ад кораня, прадстаўленага ў слове *сярэдзіна* (гл.); **o-serd-ьje*. Пазней утвараецца і слова *асяродак* 'цэнтр, стры-

жань' таксама з цыркумфіксам, аднак у гэтым выпадку прэфікс фактычна ўтрачвае значэнне; магчыма, першапачатковае значэнне слова *асяродак* было такое ж, як і *асяроддзе,* што тлумачыць прэфіксальнае *а-*. Тады *асяродак* 'тое, што знаходзіцца вакол сярэдзіны' >'тое, што знаходзіцца ў сярэдзіне'. Аналагічныя словы і значэнні ва ўкраінскай мове.

***Асяча'ць,** *осѣчáць* 'апутваць сецямі, браць уладу, ачароўваць' (Нас.). Магчыма, як лічыў Насовіч, сапраўды ад *сецъ* з першапачатковым значэннем 'акружаць сецццю', але, магчыма, роднаснае рус. *посетить, посещать,* якое ўзводзяць да *сѣтъ* 'госць' (Фасмер, 3, 338), ці вытворнага ад яго дзеяслова *сѣтити* (КЭСРЯ, 357).

**Ат,** выгук 'усё роўна, няхай'. Рус., укр. *ат,* польск. *at,* ст.-рус. *атъ*, ст.-бел. *атъ* (Гіст. мовы, 1, 171). Згодна з думкай Бернекера, 1, 21, з спалучэння злучніка *а* і займенніка *тъ*; таксама ўтварылася, відаць, *ато;* параўн. *ась* — тым жа шляхам, але з займеннікам *сь*. Рудніцкі, 1, 38; Краўчук, ВЯ, 1968, 4, 123. Іначай: са спалучэння *а*+*ti* (адкуль чэш. *at'*, ст.-польск. *ać*), дзе *ti*>*ть* — часціца (Шахматаў, AfSlPh, 7, 65; Саднік—Айцэтмюлер, 1, 4), аднак пераход у *тъ* растлумачыць цяжка, таму гэта этымалогія здаецца менш верагоднай.

**Атабары'цца** 'пасяліцца'. Рус. *отабориться* 'стаць лагерам', укр. *отаборитися* 'стаць лагерам, абозам, размясціцца', польск. *otaborzyć się* 'акружыць лагер абозам'. Утворана з прэфіксам *о-* і дзеяслоўным суфіксам ад *табар* (<*табор*) 'лагер' з першасным значэннем 'стаць лагерам' (ст.-бел. *отаборити,* Гіст. лекс., 157).

**Ата'ва** 'маладая трава, якая вырасла на месцы скошанай у той жа год'. Рус., укр., балг. *отава,* серб.-харв. *ȍтава,* польск. *otawa,* чэш., славац., славен. *otava,* в.-луж. *wotawa* 'тс'. Праслав. **otava* выводзяць звычайна ад дзеяслова **otyti* 'растлусцець, вырасці' (ад **tyti),* адкуль (з аблаўтам) **otaviti* 'заставіць расці' і далей — **otava* (як *слава* пры *слыць, забава* пры *забыць)*. Параўн. ст.-чэш. *otaviti sě* 'акрыяць', сучаснае чэш. *zotaviti* 'асвяжыць, даць сілу'. Іначай Махэк, 345: **ot-aviti sę* 'зноў з'явіцца', што семантычна лепш супастаўляецца з чэш. *otavče* 'асенняе куранё' і ўказанымі значэннямі, аднак сустракаецца з пэўнымі фанетычнымі цяжкасцямі і патрабуе ўдакладненняў у рэканструкцыі семантыкі прэфікса **ot-* (па балтыйскаму ўзору). Махэк$_2$ (422) прызнаў гэту этымалогію памылковай. Голуб—Копечны лічаць асноўным *ot-* 'зноў', а *-ava* суфіксальным. Параўнанне з літ. *atólas* 'атава' і іншымі балтыйскімі формамі, зробленае Міклашы-

чам і падтрыманае Траўтманам, 16, выклікала пярэчанні Эндзеліна (Мюленбах—Эндзелін, 1, 149), які тлумачыў балтыйскае слова іначай (параўн. Фрэнкель, 22). Вывядзенне слова з цюрк. *от* 'трава' (Міклашыч, 228; Дзмітрыеў, Строй, 541; Курс суч., 161) выклікае пярэчанні. Супрун, Зб. Крымскаму, 128—129.

**Атайбава́цца** 'абжыцца' (Сцяшк.). Няясна. Магчыма, звязана з *тайба* 'тайна, сакрэт' (Нас.), аднак семантычныя сувязі ў такім выпадку не празрыстыя. Параўн. укр. *утамуватися,* польск. *otamować się* 'спыніцца, супакоіцца' ад *тама* 'плаціна'.

**Ата́ка.** Рус., укр. *атака.* У беларускай з рускай (Крукоўскі, Уплыў, 72; Курс суч., 166) у канцы XIX — пачатку XX ст. (Гіст. лекс., 246), дзе з нямецкай ці непасрэдна з французскай (Фасмер, 1, 95; Шанскі, 1, А, 169) з канца XVII ст. (Асманаліеў, ЭИРЯ, 6, 102—103). Польскае пасрэдніцтва для рускага слова (Біржакава, Очерки, 344) няпэўна: у польскай іншае граматычнае афармленне — *atak.*

**Атакава́ць.** З рус. *атакова́ть* (з 1705 г., Біржакава, Очерки, 344), дзе калька франц. *attaquer,* магчыма, праз польск. *atakować.* Фасмер, 1, 95; Шанскі, 1, А, 169.

**Аталапане́ць** 'адрантвець ад здзіўлення ці перапалоху' (Бір. дыс.). Няясна. Параўн. прозвішчы *Талапа, Талапіла* (Бір., Бел. антр., 2, 407); укр. *талапати* 'плюхаць (у ваду), муціць ваду, пэцкаць', *талапнути=телепнути* 'ўдарыць'. Тады *аталапанець* 'стаць аталапаным, г. зн. ударaным, абпэцканым, плюхнутым (у ваду)'. Нельга выключыць і сувязі з *целяпень* (гл.) з семантычным ходам: 'стаць целяпнём'.

**Атале́к** 'пакой, адбой' (Касп.). Па Трубачову (Слав. языкозн., 5, 176), *аталек* разам з ст.-слав. *отълѣкъ* і рус. дыял. *отле́читься* 'астацца' ўзыходзіць да праслав. **ot(ъ)lěkъ*, адкуль стары рускі тэрмін бортніцтва *о́лек.* Пра гэты корань гл. яшчэ Бернекер, 1, 710; Фасмер, 2, 477; 3, 134, 171; Праабражэнскі, 1, 486—487, з літаратурай. Слова **otlěkъ* роднаснае літ. *ãtlaikas* 'астатак' (Траўтман, 155; Фрэнкель, 331) і словам іншых індаеўрапейскіх моў (і.-е. **leik*ᵘ — Покарны, 669).

**А́там.** Інтэрнацыянальнае слова. У беларускай мове з пачатку XX ст. (Гіст. лекс., 252) праз рускую (Крукоўскі, Уплыў, 89), дзе з пач. XVIII ст. Канчатковая крыніца грэч. ἄτομος 'непадзельны', адкуль у лацінскую і заходнееўрапейскія мовы; першы зафіксаваны рускі прыклад — у перакладзе

з лацінскай. Наяўнасць рускай і ўкраінскай калек *несекомое* (Біржакава, Очерки, 157) указвае на магчымасць грэчаскай мовы як першакрыніцы запазычання для ўсходнеславянскіх моў.

**Атама́н** 'выбарны начальнік у казацкіх войсках або паселішчах у дарэвалюцыйнай Расіі', 'важак, завадатар' (БРС), *ата́ман* (Нас.). Рус. *атама́н,* дыял. *(в)ата́ма́н,* укр. *атама́н, ота́ма́н.* Магчыма, што ўкраінская форма з *а-* замацавана пад рускім уплывам, а польская *ataman* з рускай ці беларускай, а не з украінскай. Руская і ўкраінская мовы ведаюць значэнне слова 'рыбацкі, пастухоў староста'. Ст.-рус. *ватаманъ, вотамманъ, отоманъ* 'чалавек, які працуе на судне' з 1294 г., пазней — *атаман* 'начальнік казачай дружыны' (XVII ст.); польск. (да XVI ст.) *wataman* 'аканом'. Ст.-бел. з 2-й палавіны XV ст. *оутамонъ, втамон, отаманы, атаманъ* у знач. 'рыбацкі завадатар' (1577), 'аканом' (1497), 'чыноўнік па збору падаткаў, падпарадкаваны татарскім баскакам' (XVI ст.). Ст.-укр. *ватаманъ* (1422) 'староста', з XVI ст. *атаманъ* са значэннямі, блізкімі да старабеларускай. Этымалогія слова высветлена не да канца. Ранейшыя прапановы ўзводзіць яго, як і польск.>укр. *гетьман,* з ням. *Hauptmann*<*heubtmann* (Міклашыч, 5; Бернекер, 1, 378; Гараеў, 7) запярэчваюцца ў сувязі з фанетычнымі цяжкасцямі. Не прымаецца таксама этымалогія Гараева, 438, з тур. (?) *ата* 'бацька'+*туман* '10000 (войска)' у сувязі з нерэальнасцю такога спалучэння ў турэцкай. Найбольш верагоднай лічыцца этымалогія Т. Корзана, падтрыманая і абгрунтаваная Брукнерам, KZ, 48, 172, а потым больш дакладна Дзмітрыевым, Строй, 523: крым.-тат. *отаман*>*одаман* 'старшы пастух, пастухоў бацька' (*-ман* павелічальны суфікс), адкуль *атаман, отаман* (Брукнер, 8; Фасмер, 1, 95; Саднік — Айцэтмюлер, 1, 36; Шанскі, 1, А, 169—170; Курс суч., 161). Гэта этымалогія, аднак, не тлумачыць ст.-рус. наўг. *ватаманъ* 'працуючы на суднах' па гістарычных, геаграфічных, фанетычных прычынах, таму Фасмер выдзяляе *ватаман* у асобны артыкул, хаця і не тлумачыць яго; Саднік—Айцэтмюлер лічацца з магчымасцю старога цюркскага запазычання; Праабражэнскі (1, 9—10) спачувальна прыводзіць думку Сразнеўскага (1, 231) пра сувязь *ватаманъ* з *ватага.* Старое цюркскае запазычанне магчыма (параўн. чув. *утаман* побач з *атаман*, якое Ашмарын (2, 133) лічыў запазычаннем з рускай; параўн. Ягораў, 278). Нельга выключыць і *ватаманъ* 'працуючы на судне' з германскага (параўн. с.-в.-ням. *Waʒʒermann* 'марак, лодачнік, шкіпер', англ. *waterman* 'лодачнік, вясляр' і г. д.). Ст.-польск., ст.-бел.,

ст.-укр. *ватаман* 'чыноўнік, аканом' магло ўзнікнуць пад уплывам іншых слоў (параўн. ст.-польск. *watman),* напр. *Amtmann.* Гэта не выключае і кантамінацыі з *одаман* 'старшы пастух' і з *оттоман* 'турак'. Сучасныя беларускія значэнні замацаваліся пад рускім уплывам. Пра цюркскае паходжанне слова гл. Дабрадомаў, РР, 1972, 5, 110—114.

**Ата́ра** 'вялікі гурт авечак'. Рус., укр. *ота́ра* 'тс'. У данскіх помніках пачатку XVII ст. — 'зямельнае ўгоддзе, паша', укр. палес. 'загарадзь для адпачынку жывёлы, кашара'. З цюрк. *отар* 'паша', 'гурт авечак' у рускую і ўкраінскую мовы, адкуль у беларускую. Паводле Дзмітрыева (Строй, 524, 541), крыніцай маглі быць як крымскія, так і паўночнакаўказскія цюркскія мовы; адсутнасць слова ў заходніх і паўднёвых славянскіх мовах, у закарпацкіх украінскіх гаворках сведчыць хутчэй аб каўказскім арэале. Цюркскае слова этымалагізуецца ад *от-* 'трава'. Нельга выключыць магчымасці запазычання з казанска-татарскага *утар* 'пастаўнік', на што ўказвалі Гараеў, 449; Фасмер, 3, 169, але пашырэнне слова ва ўкраінскай мове ператварае каўказскую этымалогію ў больш верагодную.

**Атарапе́ць.** Рус. *оторопе́ть,* укр. *оторопíти* 'тс', *оторопи́ти* 'здзівіць, зрабіць аслупянелым', ст.-рус. *оторопъ* 'спалох'. Тлумачэнне Шанскага (КЭСРЯ, 318), відаць, дакладна прадстаўляе словаўтваральную гісторыю слова ад **тороп* 'спех'. У сувязі з гэтым надзвычай важна, што ў беларускай мове засведчана *торап* 'спалох, страх' (Нас.: *то́ропъ),* адкуль і *тарапíцца* 'пужацца' (пра коней). Ад гэтага *торап* пры дапамозе цыркумфікса **о—-ець* і ўтвораны дзеяслоў *атарапець.*

**Ата́рыца** 'частка панскай зямлі, засеяная парабкам для сябе' (Нас., Чач., Гарэц.), 'асабістая даходная праца' (Мядзв.), 'ралля, прыгатаваная пад пасеў' (КЭС). У блізкім значэнні слова выкарыстоўваецца ў «Рускай праўдзе» (Сразн.): *отарица.* Спрэчна. Карскі (Труды, 391) лічыць запазычаннем з літ. *ãtaras* 'баразна з краю нівы'. Карскі супраць сувязі з дзеясловам *араць,* таму што ў гэтым выпадку чакалася б **аторыца* (параўн. *атор(а)).* Урбуціс (Baltistica V (1), 1969, 48) лічыць, што бел. *атарыца* ўтворана ад *атара* (гл.) 'гурт авечак' і 'зямельнае ўгоддзе'. Значэнне *атарыца* 'пасаг', у тым ліку 'жывёла, што даецца як пасаг' (Мат. дыял. канф., 77), укр. дыял. палес. *атарица* 'пасаг' указвае на магчымасць іменна такога (ад *атара*) паходжання слова.

**Атачы́ць** 'акружыць' (Гарэц.). У рускай пашырана на захадзе, укр. *оточити,* польск. *otoczyć* 'тс', чэш. *otočiti,* славац.

*otočit'* 'акружыць, павярнуць, пакрыць, абвязаць', славен. *otočati* 'акружаць'. Дзеяслоў *точити* засведчаны ў ст.-рус. у значэнні 'гнаць, ездзіць', аналагічныя значэнні вядомыя сучаснай чэшскай і славацкай мовам, дзе таксама дзеяслоў *točiti* ўказвае на вакольны, кругавы рух, паварот. Гэта значэнне і было, відаць, першасным для пашыранага цяпер у шэрагу славянскіх моў значэння слова *атачыць* 'акружыць'. Улічваючы адзінкавасць беларускага прыкладу, можна меркаваць пра яго запазычаны (відаць, з польскай) характар.

**Аташэ′** 'спецыяліст-кансультант пры пасольстве'. Новае (XX ст.) запазычанне з рускай (Крукоўскі, Уплыў, 78), дзе з франц. *attaché* (Курс суч., 166) у сярэдзіне XIX ст. (Шанскі, 1, А, 173).

**Атаяса′міць** 'прызнаць такім жа, аднолькавым'. Складаны дзеяслоў, утвораны са спалучэння *той самы* пры дапамозе цыркумфікса *а—-іць*.

**Атваро′г** 'тварог' (Жд., Кліх), 'скіслае малако' (Інстр. I). Паводле Карскага 1, 261, *а-* — прыстаўное да *тварог* (гл.).

***Атверніцкая:** «отвéрницкое наречие» (Рам.). Рус. *отверница* 'іншасказ'. Паводле Раманава, 9, 4: «гаворка называецца атверніцкай таму, што прататыпам яе тут была звычайная мова, але з «адварачваннем» складоў, г. зн. з перастаноўкай складоў, устаўкай паміж імі часціц». Параўн. яшчэ ў Даля *отвертчивый* 'хто ўмее адвярцецца'. Нельга быць упэўненым, што этымалогія Раманава не адлюстраванне народнай этымалогіі. Пры наяўнасці ў жаргонах значных гукавых змен цалкам магчыма ўбачыць у *атверніцкі* змену польск. *ochwieśnicki* (адкуль, паводле Арапава — РР, 1968, 4, 117; Этимология, 1964, 120,— рус. *офеня, офенский*). Гл. *ахвес*.

**Атво′ная** 'пакатая, спадзістая (пра страху)' (Інстр. II). Рус. дыял. *отвон(н)ый* 'знешні', 'пакаты, спадзісты'. Для значэння 'знешні' слова этымалагізуецца лёгка, з тым самым *вон-*, што ў *вон-кавы:* з *от+вън-ьн-ыи*. Далейшае — перанос значэння на 'спадзісты' звязаны, відаць, са стратай унутранай формы.

**Атла′ндзер,** *атла′ндзір* 'бестурботны, вісус, гультай' (Бяльк., Юрч.). Няясна. Можа ад *атлант* 'статуя, што падпірае частку будынка' (паводле ст.-грэч. міфалагічнага гіганта *Атланта,* які падпіраў Зямлю)?

**Атла′с**[1] 'гатунак тканіны' (БРС). Агульнаеўрапейскае слова ўсходняга паходжання. У старарускай мове з 1453 (Шан-

скі, 1, А, 171); у ст.-бел. з 1511 у форме *отласъ* (Булыка, Запазыч., 33), з 1555—*атлас*. Ст.-укр. *гатласъ* у 1627 (*атласъ* з XVIII ст.), даўнейшыя старарускія прыклады ў Сразнеўскага ў форме *отласъ* (XVI ст.). Ст.-польск. *hatłas* (Sł. staropolski). Канчатковая крыніца араб. *атлас* 'гладкі' (корань *т-л-с*). Паводле Шанскага, у рускай мове з цюрк. *атлас* (з арабскай) не пазней XV ст. Паводле Фасмера, 1, 96 (які не ведаў выпадку ўжывання слова ў XV ст.), у рускай з польскай ці нямецкай, якія ўзыходзяць да арабскай. Улічваючы гандлёвыя зносіны з Усходам, заходняе пасрэдніцтва для рускай мовы не неабходна. У беларускую мову слова магло трапіць як праз рускую, так і праз польскую.

**А́тлас₂** 'збор карт'. Інтэрнацыяналізм; у беларускай мове з рускай, дзе з пачатку XVIII ст. з ням. *Atlas* (Шанскі, 1, А, 171) ці з галандскай або лацінскай. Гэта назва ўзыходзіць да назвы працы Меркатара Atlas (Дуісбург, 1595), папулярнай у той час і перавыдадзенай у скарочаным выглядзе некалькі разоў у першай палавіне XVII ст. Фасмер, 1, 96; Махэк₂, 39.

**Атле́т** 'спартсмен, чалавек моцнага целаскладу і вялікай фізічнай сілы'. Рус., укр. *атлет* 'спартсмен, цыркавы артыст', польск. *atleta* 'спартсмен, сілач', чэш., славац. *atlet* і г. д. У беларускай мове з рускай, дзе з нямецкай ці французскай (Фасмер, 1, 36), дзе з лацінскай (<ст.-грэч. ἀθλητής 'удзельнік спаборніцтва, барэц'). У рускай слова з XVIII ст. У народных гаворках пашырана *атлёт* 'дужы, моцны чалавек', якое адлюстроўвае, відаць, кантамінацыю з *адлёт* (гл.); вандроўныя цыркі маглі спрыяць і засваенню слова *атлет* у форме *атлёт*, вядомай і рускім дыялектам у значэнні 'зух'. На грэчаскую крыніцу *атлет* указваў Булахаў, Курс суч., 163; параўн. Шанскі, 1, А, 171; Краўчук, ВЯ, 1968, 4, 123.

**Атмасфе́ра.** Новае (відаць, пачатку XX ст.) запазычанне інтэрнацыянальнага тэрміна з рускай мовы (Крукоўскі, Уплыў, 90), у якой з 1718 (Біржакава, Очерки, 344) з лацінскай ці французскай, дзе ўтворана ад грэчаскіх слоў ἀτμός 'па́ра' і σφαῖρα 'шар'. Пераноснае значэнне 'навакольная абстаноўка' ў рускай мове з 40-х гадоў XIX ст. Шанскі, 1, А, 172.

***Атме́нь,** *отме́нь* 'расліна падлеснік Sanicula europaea L.' (Бейл.). Укр. дыял. *отьмен* 'кмен Carum Carvi L.' Sanicula належыць да парасонавых, як і *кмен* (рус. *тмин*), таму пачатковае *а-* можна тлумачыць як пратэтычны гук, а слова ў цэлым — пераносам назвы расліны па знешняму падабенству. Гл. *кмен, цмен.*

**Атну'ць** 'бесперапынна, раз за разам' (Сцяц.). Ст.-слав. **отънѫдь** 'зусім, галоўным чынам'. Паводле Міклашыча, 217, падтрыманага Ван Вейкам, IF, 30, 386—388, з *otъ+nǫd-ь,* дзе корань супастаўляецца з рус. *нужно, нужна* і пад. Рус. форма *отнюдь,* якую Шанскі (КЭСРЯ, 318) лічыць запазычанай з старaславянскай, магла б тлумачыцца мяккаснай асіміляцыяй. Аднак Мейе (Études, 158 і наст.) прапануе іншае тлумачэнне. Першаснай формай тады лічыцца **otьnǫdь*, і корань (*-ьn-*) супастаўляецца з *адзін, іншы* і г. д. Гэта быццам бы лепш тлумачыць рускае мяккае *н,* а таму прымаецца Фасмерам, 3, 172. Нельга выключыць, што тут маем супадзенне двух слоў: старaславянскае і беларускае ўказваюць на значэнне 'заўсёды' і могуць этымалагізавацца паводле Міклашыча, а руская форма са значэннем 'ні ў якім разе' можа мець паходжанне з кораня *in* згодна з меркаваннямі Мейе і інш.

**Ато'** злучнік 'калі не, то' (Нас., Касп.), 'таму што' (Шат.), 'неадкладна, толькі што' (Бір. дыс.). Рус., укр. *ато́* з блізкімі значэннямі. З злучніка *а*+займеннік *то;* параўн. *ат.* Бернекер, 1, 21; Рудніцкі, 1, 40; Саднік—Айцэтмюлер, 1, 5. З дадаткам часціцы ўтворана *атож* (Касп.).

**Ато'жылак** 'парастак'; у іншым словаўтваральным афармленні: *атожалля* (Янк. Мат.); *атожылле* (КТС); *атожилка* (Яруш.). З літ. *atãžala* 'парастак' (часцей *atžalà*, не выключана і **atóžala).* Формы з *-ы-* замест *-а-* ў ненаціскной пазіцыі адлюстроўваюць народнаэтымалагічнае атаясамленне з коранем *жыць,* словам *жыла,* адкуль і значэнне 'адгалінаванне геалагічнай жылы', паралельнае рус. *отжилок.* Літоўскае слова добра тлумачыцца з прэфіксальнага *at-* *(ata-, ato-)* і карэннага *žãlias* 'зялёны'.

**Ато'ка** 'рукаў ракі' (Касп., Яшкін), 'востраў' (Яшкін. дыс.), ст.-бел. *отокъ* 'тс'. Рус. дыял. *ото́к* 'тс', *ото́ка* 'нізіна; сажалка', польск. *otok* 'востраў' (Нітшэ, 198, 298), ст.-польск. *otok* 'рака', 'луг, абкружаны вадой', *otoka* 'частка лесу з пасекай'. Серб.-харв. *ȍток* 'востраў', *ȍтока* 'рукаў ракі' (Шутц, Geogr., 69, 71, 80), балг. дыял. *оток* 'ручай' (ZfslPh, 9, 37), славен. *otȍk* 'востраў'. Ст.-слав. *отокъ* 'тс', ст.-рус. *отокъ* 'востраў', 'мыс', 'край'. Абодва сучасныя беларускія значэнні да праслав. **tek-/tok-,* але ў значэнні 'рукаў ракі', відаць, з прэфіксам *otъ-* *(*otъtok-a),* а ў значэнні востраў з прэфіксам *o(b)-,* у першым выпадку — 'тое, што адцякае' (параўн. *пратока, прытока*), а ў другім — 'тое, што абкружае' (параўн. *атачыць*). Думка Блесэ, SB, V, 8, пра запазычанне з балтыйскай гэтага слова (параўн. літ. дыял. *ãttaka(s),* лат. *attaka* 'рукаў

ракі, востраў') выклікае абгрунтаваныя сумненні Урбуціса, Baltistica, V (1), 1969, 48; улічваючы пашырэнне славянскіх слоў, тут хутчэй балтыйскае запазычанне з беларускай. Мартынаў (SlW, 61—62) лічыць, што абодва значэнні *атока* вынікалі на аднолькавай фармальнай базе: **o(b)-tok-a*, толькі ў адным выпадку гэтым словам абазначалася 'тое, што абцякае', а ў другім — 'тое, вакол чаго абцякае' (тое, што абцякаецца). Ён таксама лічыць, што бел.—серб.-харв. ізалекса дазваляе лічыць праслав. *otokъ* абазначэннем рачнога вострава ў процілегласць да **ostrovъ* 'востраў наогул' (параўн., аднак, у Бярынды: *отокъ морскій*: отнога, лиман, або островъ, выспа).

**Ато́нне** 'астатак, падонкі' (Касп.). Рус. дыял. *ото́нок, ото́ночка* 'тонкая абалонка, шкарлупіна'. Няясна. Відаць, ад кораня *тон-(тонкі)* праз дзеяслоў, зафіксаваны ў Даля *отонить* 'зрабіць тонкім' (з **otonьnьje*). Магчыма, кантамінацыя з *адонне* (гл.).

**Ато́пак** 'стары стаптаны абутак' (Нас., Інстр. I, Мядзв., Касп., Янк. I, Бяльк., Юрч., Янк. Мат.), *ато́пкі* 'абноскі' (БРС). Другое значэнне, відаць, пашырэнне першага. Рус. *отопок, отоптыш* 'тс'. Утворана ў рускай і беларускай мовах ад дзеяслова *а(б)таптаць* пры дапамозе суфікса *-ак(-ок)*, як і *растопак* 'атопак' (Касп.) ад дзеяслова *растоптваць*.

**Ато́р** 'вузкі загон, узараны ўроскідку, пры другім поўным загоне', 'частка загона, узараная асобна' (Сцяшк., Сцяц., Лекс. Палесся, 51, 54 з картай). У блізкіх значэннях зафіксавана на ўсходнім Палессі *атора, аторка* (Лекс. Палесся, 54), *аторак, аторыч* (Выг. дыс.). Утворана, магчыма, як аддзеяслоўны назоўнік ад дзеяслова **атараць* з коранем **or-* і прэфіксам **ot-*. Лекс. Палесся, 54; параўн. *адор, адорак* 'вузкая градка бульбы' (Шчарб.), якія маюць адпаведнікі ў іншых славянскіх мовах. Параўн., аднак, літ. *atarà, ãtaras* 'канец нівы, папярочная баразна', лат. *atara* 'тс', *atar̂t* 'паварочваць плуг', што робіць магчымым таксама запазычанне з балтыйскай на гродзенска-палескім арэале.

**Ато́ра** 'амецце', 'дробная салома' (Нас., Гарэц., Касп., Юрч., Серб., ЭШ, Бяльк., Інстр. лекс.). У Насовіча і Бялькевіча таксама *ато́ря, ато́рьря, ато́рка, ото́рье* 'тс'; *аторніца* 'лубка ў якой носяць атору'. Рус. дыял. (паўднёвае, заходняе) *отора, оторье* 'тс', бранск. *атора, аторя, оторье;* укр. дыял. сум. *атора.* Рус. смал. *оторница* 'лубка для саломы, сена'. Паводле Праабражэнскага, 2, 136, якога падтрымлівае Фасмер, 3, 172, звязана з коранем **ter/tor,* прадстаўленым у дзея-

слове *церці;* дакладней Даль, 2, 743, які змяшчаў *отора, оторя* ў артыкул *оторять, оторить* 'абмалаціць, раздрабніць шляхам трэння'; гэта і сапраўды аддзеясловны назоўнік ад згаданага дзеяслова (не адзначанага ў беларускіх слоўніках).

**Ато́рва** 'вісус, гультай' (Нас., Гарэц., Бяльк., Юрч.). Рус. маск. *оторва, оторвиголова* 'тс'. Параўн. *сарвігалава*; рус. *сорванец, сорвиголова,* укр. *урвиголова, урвитель, зірвиголова.* Паралелі *шыбенік* 'нягоднік' (<'павешаны'), укр. *шибеник* 'гультай', польск. *wisus,* магчыма, рус. *повеса* з аналагічным пераасэнсаваннем даюць магчымасць прыняць як дапушчальнае этымалагічнае тлумачэнне Насовіча, 377: «нібы сарваўся з шыбеніцы». Магчыма і іначай: параўн. рус. *сорваться с цепи,* бел. дыял. *сарвілайшчына* 'беднасць з-за ляноты'; рус. *хоть голову оторви* і інш. Так ці інакш *аторва, сарвігалава* адлюстроўваюць корань дзеяслова *рв-аць* (гл.), у дадзеным выпадку з прэфіксам *ато-* (**otъ-*); утворана слова як бязафіксны назоўнік ад дзеяслова.

**Ато́са** (БРС), *ато́с* (Шат.), *от'о́са* (Маслен.), *ато́снік* 'канец атосы' (Маслен., Бяльк.), *ато́ска, атосіна* (Нас., Бяльк.), *заот'осник, наот'осник, приот'осник* (Маслен.). Рус. дыял. паўд.-зах. *отоса, отос, атос, атосы, атоса,* укр. *отеса, отісонька,* польск. *ociosy, otos(a), odos.* Ст.-бел. *отосе* (1643). Паходжанне спрэчнае. Паводле Даля — з спалучэння *от оси;* Сцяц. (Словаўтв., 177) лічыць прэфіксальным, у карысць чаго *падосак* 'дэталь воза' (Касп.), польск. форма *odos* і шэраг іншых польскіх прэфіксальных назваў дэталей воза: *nadośka, naośnik, zaośnik, podośnik.* Супраць формы тыпу *ацёса* і пад. Таму нельга выключыць, што гэта народная этымалогія. Насовіч (Сб., 377), Атрэмбскі (SOc., 19, 457), Фрэнкель (756), Лаўчутэ (Kalbotyra, XXII (2), 83) і інш. (агляд—Урбуціс, Baltistica, V (1), 1969, 84) лічаць запазычаннямі з літ. *atãsaja, atãseja,* лат. *atsèja.* Яблонскіс (296) уключыў слова *атоса* ў спіс «прапушчаных і няясных слоў». Супрун (Лекс. балтызмы, 43), Урбуціс (Baltistica, V (2), 1969, 161) далучаюць *атоса* да праблематычных балтызмаў. У сувязі са спробамі этымалагізацыі слова на славянскім грунце трэба ўлічыць яшчэ *натоснік* (Мядзв.) 'тое ж, што атоснік' — 'канец атосы'; *стос(а)* 'частка воза', укр. бойк. *затоса* 'атоса' (Кміт па вусн. павед. Краўчука), што можа звязаць слова з коранем **tos-, *tъs-,* а таксама словы тыпу рус. *потесь* 'гатунак вясла', ст.-рус. *потесъ* 'зарубка', што можа звязаць з коранем **tes-(цясаць).*

**Аточыны** 'нутраное сала', 'ператоплены тлушч' (Лекс. Па-

лесся, 134, 136; слонім, Арх. Бяльк.). Укр. *оточини* 'кішачны тлушч', 'зерне ці мука, што застаецца пасля прасявання праз рэшата', рус. *оточа, оточка* 'агрызкі, смецце, што нагрызлі мышы'. Славац. дыял. *otoky, otočky* 'нутраное сала', славен. *obtòč* 'клаака' (ці сюды?). З суф. **-iny* (мн. л.) ад дзеяслова **otočiti;* верагодна, паводле Вештарт, Лекс. Палесся, 136, першасна 'кішачнае сала', г. зн. 'тое сала, што аточвае, акружае кішкі'. Аднак і 'percaтопленае сала', хаця менш пашыраная назва, можа тлумачыцца ў сувязі са значэннем 'абцякаць', нельга выключыць і сувязі з назвай клаакі, якая звязваецца з дзеясловам **odtočiti* 'зліваць'. Параўн. *тачыць* 'ліць'.

**Атра′д.** Рус. *отря́д* 'тс'. Замацавалася ў час першай сусветнай вайны (Гіст. мовы, 2, 246), з рускай (у слоўніках з канца XVIII ст.), дзе ад дзеяслова *отрядити,* вядомага яшчэ ў старарускай, утворанага ад кораня **rędъ-* (КЭСРЯ, 319). Параўн. *урад.*

**Атразьні′** 'гатунак ботаў' (Касп., ЭШ). Няясна. Націск не дае магчымасці параўнаць з рус. дыял. *отрадный* 'парадны'; магчыма, ад кораня **rěz- (адразаць),* але няма ні фармальнага, ні семантычнага падмацавання гэтаму.

**Атра′ма,** *тра́ма* 'бэлька ў хаце, што падтрымлівае іншыя бэлькі' (БРС, ЭШ, Касп.), *атраміна* (Касп.); *трам, трамо́к, отра́ма* (Шушк.); *атран* (КЭС). Пра рэалію — *трам* гл. Малчанава, Мат. культ., 95. З XVII ст. *трамъ* (Булыка, Запазыч.). Укр. *трам* 'бэлька, вага', *отрамувати* 'абчасаць, зрабіць бэльку чатырохграннай', *трям, трямок* 'бэлька; частка ткацкага станка'. Польск. (з XVI ст.) — *tram,* чэш. (і ст.-чэш.), славац. *trám,* в.-луж., н.-луж. *trama* (і н.-луж. *tram'*), славен. *trȃm(e)* 'тс'. Брукнер (574, 575), Махэк$_2$ (649) абгрунтавана лічаць запазычаннем з ням. *Tram,* ст.-в.-ням. *trame* ў заходнія славянскія мовы (і славенскую); беларускае і ўкраінскае з заходнеславянскіх, для беларускай верагодная крыніца — польская. *А-* мае пратэтычны характар. Цяжка згадзіцца з меркаваннем Цыхуна (Лекс. балтызмы, 50) пра запазычанне з літ. *atramà* 'падпора, устой', паколькі семантыка літоўскага слова супадае з беларускай, а незафіксаваная ў літоўскай форма без *а-* пашырана ў беларускай мове больш, чым з *а-;* націск у літоўскай таксама адрозніваецца ад беларускага, які супадае з польскім. Агульнасць польскай, беларускай і літоўскай форм можа азначаць (насуперак Цыхуну) і пашырэнне польскай формы, прадстаўленай хаця і без пратэзы ва ўсіх заходнеславянскіх мовах.

**Атра′мант** 'чарніла' (БРС: устар., Нас., Шпіл., Касп., Шн.

і інш.). Укр. *атрамéнт,* польск., славац. *atrament* 'тс'. Фіксуецца з 1710 (Булыка, Запазыч.); з лац. *atramentum* (Вясноў, Праблемы філал., 30); паводле Булыкі — праз польскую. У новы час на ўжыванне беларускага слова ўплывала польская мова: у савецкі час гэты дублет паступова знікае (Шакун, Гісторыя, 285).

***Атра′ха,** *атряха* 'неахайны чалавек' (Бяльк., Юрч.), *атряшына* 'тс' (Юрч.). Рус. дыял. *отряха, адтряха* 'тс', *отряха* 'той, хто атрахаецца', укр. абл. *отряха* 'пястун', *отрях* 'неахайны чалавек'. Параўн. рус. *неряха* 'тс'. Утворана з суфіксам *-ха* ад дзеяслова з коранем **ręd- (*otręditi sę?)* ці бязафіксным спосабам ад дзеяслова **otręsti, *otręxati sę;* у апошнім выпадку не звязана з рус. *неряха.*

**Атрача′** 'дзіця' (Нас.). Рус. *отрочá,* балг. *отрóче,* славен. *otročè,* ст.-слав. **отрочѧ**, ст.-рус. *отроча* 'тс'. Утворана ад назоўніка *отрокъ* (гл. *отрак*) з суфіксам, які ўжываўся для ўтварэння назваў малых істот *-ę.* Магчыма, што беларускае слова працягвае стараруcкую форму, запазычаную з стараславянскай.

**Атро′дзя** 'нашчадак, нашчадкі' (Нас.). Рус. *отродье,* ст.-рус. *отродие, отродъ,* укр. *відродок,* славен. *odrôdek* 'тс'. Утворана ад кораня *-rod-* конфіксам **ot-—-ьje* ці ад дзеяслова *отродити* суфіксам *-ие.*

**Атру′б** 'участак зямлі' (Ант.). Гл. *водруб.*

**Атру′бам** 'адным чынам' (Жд.). Прыслоўе ўтворана ад аддзеяслоўнага назоўніка *атруб* (*атрубіць* 'адсячы' — Нас., 379), суадносіцца з творным склонам гэтага назоўніка.

**Атруда** (у выразе «атруда ўзяла») 'цяжкая хвароба' (Панюціч, дыс.). Да кораня *труд* (гл. *трудзіць);* утворана, відаць, як бязафіксны назоўнік ад дзеяслова **отрудити* (параўн. ст.-рус. *отрудоватити* 'захварэць').

**Атруі′ць** 'атруціць' (Нас., Булг.). Рус. паўдн. *отруить,* укр. *отруïти* 'тс', *труïти* 'атручваць', польск. *otruć, truć, truję,* чэш. дыял. *trouti, truji.* Ст.-бел. *отруити* (Булыка, Запазыч.). Улічваючы пашырэнне і наяўнасць у беларускай мове толькі прэфіксальнага варыянта, з польскай (Гіст. мовы, 1, 97). У польскай мове слова роднаснае з *trawa.* Гл. *трава.*

**Атрупяне′ць** 'вельмі спалохацца, страціць самавалоданне' (Янк. Мат.). Утворана паводле мадэлі *о-—-(ян)ецъ* ці непасрэдна ад назоўніка *труп,* ці ад прыметніка *трупяны* 'такі, як труп'. Параўн. *адубець, апруцянець.*

**Атру́скі** 'астаткі сена, зярнят, мукі' (БРС, Нас., Касп.). Славац. *otrusky* 'тс'. Утворана з суфіксам *-к-* (фіксуецца ў мн. л.) ад дзеяслова *атрусаць, атрусіць* (Нас.), які суадносіцца з ст.-рус. *ѡтрясати* і мае прэфікс *о-* і корань *трус/тряс/трях* (гл. *трахаць, трусіць,* Нас.). Параўн. *апалаць — апалкі, ападаць — ападкі.*

**Атру́та.** Рус. дыял. *отру́та, атру́та,* укр. *отру́та* 'тс'. Рускае дыялектнае, відаць, з беларускай, украінскай. Ст.-бел. *отрута* (Анічэнка, Праблемы філал., 11). Утворана як аддзеяслоўны бязафіксны назоўнік ад дзеяслова *атруціць* (гл.).

**Атру́ціць.** Утворана з прэфіксам *а- (о-)* ад дзеяслова *труціць* (гл.).

**Атрэ́п'е** 'адыходы пры трапанні льну' (БРС), 'парванае адзенне' (Інстр. I); *отрэпы, отрэпыны* (Влад.), *атрэпкі* 'адыходы льну' (Янк. I). Рус. *отрепье* 'адыходы льну; парванае адзенне'. Утворана з суф. *-ие* (*-ьје*) ад дзеяслова *атрапаць,* утворанага з прэфіксам *а- (о-)* ці *ад- (otъ-)* ад *трапаць* (гл.). У іншых варыянтах выкарыстаны іншыя суфіксы: нулявы, *-ін(ы), -ък(і).*

**Ату́**$_1$ 'вазьмі' (паляўнічы выгук) (БРС), *ату-ату* (Нас.). Рус. *ату,* укр. *ату, атю* 'тс'. Зафіксаваны ў рускіх слоўніках з 1789 г. Паводле Фасмера, 1, 96; Шанскага, 1, А, 174, з франц. *à tout* (тады беларускае, украінскае з рускай). Згодна з Праабражэнскім, 1, 10, гукапераймальнае. Магчыма (як у Рудніцкага, 41), складанае з *а-ту* (параўн. *ат, ась, ату*$_2$). Няясна.

**Ату́**$_2$ 'выгук прыкрасці' (Нас.). Рус. дыял. *ату, атю* (пск., смал.). Верагодна, з *а-* і займеннікавага *ту* (параўн. *ату*$_1$; *ат, ась, ацю*).

**Ату́га** 'цяжкія акалічнасці' (Нас., Гарэц.). Укр. *отуга* 'тс', рус. дыял. *отуга* 'дзеянне па дзеяслову *отужать* 'рабіць тужэй'. Параўн. ст.-рус. *отътуга* 'палягчэнне'. Бязафіксная форма аддзеяслоўнага назоўніка з чаргаваннем *у—я* (<*ǫ—ę*) ад дзеяслова, роднаснага *абцяжваць* (**otęžati;* ст.-слав. **отѧжати** 'абцяжваць'). Параўн. *туга, натуга.*

**Атудзе́нчыць** 'аддзякаваць' (Касп.). З польск. дыял. *odwdzięczyć* 'тс', часткова пераафармленага фанетычна ў пачатку слова. Параўн. *дзенчыць, дзякаваць* (гл.).

**Атуме́ка** 'намёк' (Касп., ЭШ). Рус. дыял. *отумеком* 'іншым чынам'. Магчыма, да кораня *мек-*: *кумекаць, мекаць, намёк;* з прэфіксамі *ат-* і *у-* ўтвораны дзеяслоў, ад якога бя-

зафіксны назоўнік. Параўн. рус. *мекать, невдомек, смекалка* і інш. Гл. *мекаць*.

***Ату'шаны**, *отýшаный* 'уцеплены' (Клім.). Дзеепрыметнік ад дзеяслова **атушыць* 'уцяпліць', звязанага з захаваным ва ўкраінскай мове *тушкувáти* 'шчыльна закрываць, укутваць'; параўн. *тушыць* 'гатаваць ежу ў закрытым посудзе' (Нас.). Гл. *тушыць*.

**Аты'лы** 'тоўсты' (Нас.). З польск. *otyły* 'тс', утворанага як аддзеясловны прыметнік (ці дзеепрыметнік) з суфіксам *ł* ад дзеяслова *otyć* 'патаўсцець'. Корань **ty-* прадстаўлены таксама ў дзеяслове *утыць* (Нас.). Гл. *тыл*.

**Атыма'лка** 'ануча, якой бяруць гаршкі з загнетка' (>'ануча наогул') (Касп., Янк. Мат.), *атымáч* 'тс' (Жд.), *атымачка* 'тс' (Інстр. I). Рус. абл. *атымалка, отнималка.* Утворана з суфіксам *-лк-а* ці (у варыянтах) *-ч, -ч-к-а* ад дзеяслоўнай асновы *атыма-ць* з прэфіксам **ot-* і коранем *-im-*. Гл. *аднімаць, мець*.

**Атэі'зм.** Паводле Крукоўскага, Уплыў, 81, праз рускую. У рус. *атеизм* з XVIII ст. (*аθеисм* — 1722), Біржакава, 344. Паводле Біржакавай, з лац. *atheismus*<грэч. ἄϑεον, ἀϑεία непасрэдна і праз укр. *атеизм* (Цімчанка — XVI ст.); наяўнасць слова ў стараўкраінскай мове стварае магчымасць яго наяўнасці ў старабеларускай, аднак у адрозненне ад *атэіст* (гл.) слова, відаць, не замацавалася і ў сучасную беларускую мову трапіла праз рускую. Улічваючы прыведзеныя Біржакавай матэрыялы, франц. *athéisme,* на якое як на крыніцу ўказвае Шанскі, I, А, 170, магло садзейнічаць замацаванню слова.

**Атэі'ст** (БРС), *атэіста* (Нас.), *атеисты* з 1597, Гіст. мовы, 1, 307; Гіст. лекс., 220. Рус. *атеист* 1726, *аθеист* 1718 (Біржакава, Очерки, 344; Фогарашы, Beiträge, 34). *Атэіст* Булыка выводзіць з ням. *Atheist, афеист* — з ст.-грэч ἀϑεία. Паводле Краўчука, ВЯ, 1968, 4, 123, украінскае з захаду (праз польскую). Рус. *атеист,* паводле Смірнова, цытаванага Фасмерам, 1, 95, з ням. *Atheist*; паводле Нардстэта (у якога слова ўпершыню трапляе ў слоўнік), цытаванага Шанскім, 1, А, 170, з франц. *athéiste*; паводле Біржакавай, Очерки, 344, з ням. *Atheist* <грэч. ἄϑεος непасрэдна і праз украінскую. У старапольскай мове не зафіксавана, таксама як і ў грэчаскай; таму думка пра лацінска-нямецкую крыніцу, верагодна (звычайна на грэчаскай базе), з папраўкай на тое, што ў рускай не толькі праз украінскую, але і праз беларускую. Французскае слова магло толькі садзейнічаць замацаванню слова ў рускай.

Пакольқі ў беларускай мове фіксуецца ў канцы XVI, XVIII, XIX стст., верагодна, што сучаснае слова працягвае старабеларускую традыцыю. Форма ў Насовіча, відаць, адлюстроўвае звычайную для слоў на *-іст-а* мадэль польскага паходжання. Гл. *атэізм.*

**Атэ′ль** 'гасцініца' (БРС). Рус. *отель,* укр. *готель.* З рускай (Крукоўскі, Уплыў, 79). Рус. з франц. *hôtel* (Фасмер, 3, 170).

**Атэлье′**. З рус. *ательé,* запазычанага ў канцы XIX ст. з франц. *atelier* 'майстэрня', Шанскі (1, 170. Курс суч., 167) выводзіць беларускае праз рускую з французскай; Крукоўскі (Уплыў 78) указвае на рускае пасрэдніцтва. Трэба ўлічыць яшчэ польск. *atelier.*

**Атэста′т** лацінскага паходжання *(attestatum)* праз ням. *Attestat* і рус. *аттестáт,* дзе слова фіксуецца з 1729 (Біржакава, Очерки, 344; Шанскі, 1, А, 173).

**Атэста′цыя.** Ст.-бел. *атестация* з 1627 (Гіст. мовы, 1, 257). Рус. *аттестация* з 1719, укр. *атестація* з 1668. З лац. *attestatio* праз польск. *atestacja* (Булыка, Запазыч.); такое ж паходжанне рускага слова (Шанскі, 1, А, 174). Паводле Крукоўскага, Уплыў, 78, сучаснае беларускае слова — праз рускую, што не выключана, паколькі не засведчаны працяг старабеларускага слова ў пісьменнасці; аднак слова магло падтрымлівацца польскай дзелавой мовай.

**Атэ′ўнік** 'кацялок' (Касп.). Няясна.

**Ат'яжо′жынне** 'адмаўленне, аднекванне' (Бяльк.). Аддзеяслоўны назоўнік з суфіксам *-нне* ад дзеяслова **ат'яжожыць (-вацца),* утворанага з прэфіксам *ат-/ад-.* Беспрэфіксальная форма прадстаўлена ў рускіх гаворках: *язать(ся)* 'абяцаць'. *Язать* Фасмер (4, 549) звязвае з *(в)яз-а-ть* як зваротнае ўтварэнне ад *об(в)язать(ся)*; семантычна пераход ад 'абавязацельства' да 'адмовы' ад яго (выражанай прэфіксам *ат-*) цалкам магчымы. Не зусім ясная ў гэтым выпадку фанетыка рускіх адпаведнікаў: *язжить, яжжить* 'бурчаць, лаяць', *ягать* 'крычаць'. Фасмер параўноўвае гэтыя словы з *яга* (гл.). Асобнасць фіксацыі беларускага слова не дае магчымасці больш ясна тлумачыць яго паходжанне.

**Аўгу′р** (БРС). Кніжнае запазычанне з рус. *авгур* (Крукоўскі, Уплыў, 76), што ў сваю чаргу з лац. *augur* (ад *avis* 'птушка' і *gur* <*gurgulio* — 'горла'), першапачаткова 'той, хто гадае на птушках', гл. Шанскі, 1,А, 27.

**Аўгуры́на** 'прывязка ў цэпе' (ДАБМ, камент., 829). Да *угары́на* 'тс' з прыстаўным *а* (параўн. з іншай пратэзай: *вугары́на,* гл.) і папярэднім прыпадабненнем галосных у пераднаціскных складах.

**Аўдо́д,** *аўдо́т* 'удод' (Бяльк., Арх. ГУ), *оўдо́д* 'удод, някемлівы чалавек' (КСТ), укр. *овдод, овдот,* рус. смал. *авдот, авдотька* 'ўдод'; апошняе, на думку Фасмера, 1, 59, народнаэтымалагічнае збліжэнне з уласным імем *Авдотья.* Ад *удод* (гл.) з прыстаўным *а-* *(о-)* як у *аўто́ры* (з *уто́ры), аўто́к* (з *уто́к)* і г. д.

**Аўдо́тка**$_1$ 'дробная рыбка' (Бяльк.), 'невялікая азёрная рыбка' (Нас., Грыг.), 'від рыбы Nemachilus barbatulus, радзей іншыя віды дробных рыб' (Жук. 192, 194, 196, 327, 397; назва вядома ў басейнах Дняпра і Сожа), укр. *авдотка, авдотька,* рус. *авдотка* (Ліндберг — Герд, Словарь, 204; басейн Дзясны). Да *аўдод, удод* (гл.), параўн. таксама ўкр. *удотка,* рус. *удотка* 'тс'; магчыма, другаснае збліжэнне з уласным імем *Аўдоцця* (разм. *Аўдотка*), самым частым жаночым імем у Расіі XVIII—XIX ст.ст., параўн. Ніканаў, Этимология 1970, 138, а таксама сведчанне, што сялянак, якія прыходзілі ў Смаленск на свята, называлі *«авдотками»* (Дабр.). Пад уплывам іншых размоўных форм уласнага імя *Аўдоцця* — бел. *вайдзюшка* (Куч.), укр. *авдошка, авдюшка, евдотка, евдошка, євдюшка,* рус. *авдюшка, евдотка, евдюшка,* параўн. Пізані, Paideia, 8 (1953), 2, 111; Трубачоў, Дополн., 1, 6. Ледэр, Fischn., 120, у адносінах да пералічаных усходнеславянскіх форм дапускае малаверагодную з боку фанетыкі і семантыкі магчымасць змяшэння на базе народнай этымалогіі дзвюх груп назваў, што паходзяць ад *удод* і ад рус. *вдох* (параўн. асабліва рус. *евдошка* 'Umbra krameri', для якой характэрна глытанне паветра з паверхні вады). Аснова збліжэння з *удод, аўдод* — стракатасць афарбоўкі; з уласным імем — шматлікасць.

**Аўдо́тка**$_2$ 'птушка Burhinus aedicnemus' (БелСЭ). Гукапераймальная назва, параўн. Мензбір, Птицы, 1, 231—232; у беларускай літаратурнай мове, магчыма, з рус. *авдотка,* параўн. беларускія народныя назвы гэтай птушкі *кулік, палявы кулік, стрэпет* (Федз.—Доўб., Птицы, 94).

**Аўду́лькі** 'агаткі, Antennaria Gaertn.' (маг., Кіс.), рус. *авдульки* 'тс'. Збліжана з уласным імем *Аўдуля, Аўдулька,* памянш. ад *Аўдоцця;* першапачаткова, магчыма, ад *аўдод* 'удод' (бо кветка мае чубок) ці ад дзеяслова *абдуць,* параўн. іншую назву гэтай расліны — *пух* (Кіс., 15).

**Аўды́тар** (КТС), ст.-бел. *авдитор* (1670) 'член царкоўнага суда' (Булыка, Запазыч.), 'старшы вучань у класе, які выслухоўвае ўрокі таварышаў' (Грыг.). Запазычана праз польск. *audytor* або непасрэдна з лац. *auditor* 'слухач, суддзя, што вядзе допыт', магчыма, паўторнае запазычанне ў беларускую літаратурную мову з рус. *аудитор*. Параўн. Рыхардт, Poln., 31.

**Аўдыто́рыя.** Новае запазычанне праз рус. мову (Крукоўскі, Уплыў, 76), дзе з лац. *auditorium*, перарobленага па ўзору слоў на *-ия* (пач. XIX ст.), гл. Шанскі, 1, А, 175.

***Аўёх**, *оўёх*, *ов'ёх* 'цыкута, Cicuta virosa.' (КСТ, Куч.). Гл. *вех*, *вяха* 'тс', да фанетыкі параўн. рус. пск. *ёх* 'тс' і ўкр. палес. *ов'юн 'уюн'* (Лысенка СПГ) з *в'юн*.

**Аўжо́**, *аўжо́ж* 'ужо, ну ўжо, а вось' (Нас., Касп.), укр. *авже*, *авжеж*, рус. смал. *авжо*. З *а* (злучнік) і *ўжо*, параўн. Карскі, 2—3, 97; Рудніцкі, 1, 6.

**Аўла́н** 'улан' (Бірыла, Бел. антр., 2, 26). Ад *улан* з прыстаўным *а*, параўн. з іншай пратэзай: *вулан*.

**Аўлу́с** 'незаконна адаранае поле, дармавая маёмасць' (слаўг., Яшкін). Да *улу́с* 'тс' з пратэтычным *а*.

**Аўра́л** (БРС). Новае запазычанне праз рускую мову (Крукоўскі, Уплыў, 82) з англ. *overall* 'усеагульны', гл. Шанскі, 1, А, 30, або гал. *overal* 'усюды, паўсюдна', гл. Фасмер, 1, 59.

**Аўра́н** 'расліна Gratiola officinalis' (Нас., Кіс.), укр. *авран*, рус. *авран*. Запазычанне, у якасці крыніцы ўказваюць ням. *Aurin*, якое з лац. *aurum* 'золата' (Сл. ин. слов. М., 1954, IV выд.), або франц. *auron(n)e* 'рута, Ruta graveolens'; 'палын, Artemisia abronatum'; 'чарнобыль, Artemisia vulgaris' (Сл. ин. слов, СПб., 1894).

**Аўра́ць** 'складваць гарох, віку для прасушкі' (Касп.). Утворана шляхам дэкампазіцыі з *уваўра́ць*, дзеяслова закончанага трывання да *уві́ра́ць* 'вешаць на астраўкі гарох для прасушкі' (беш., Крывіцкі, вусн. паведамл.), параўн. віц. *падві́раць* (незакончанае трыванне) 'тс', дзе выступае той жа корань *-вір-* (*-ўр-*) і рус. пск. *вирать* 'піхаць', балг. *вра*, *въвирам* 'піхаць, засоўваць', ст.-слав. *въврѣти* 'ўсунуць'; адсюль зыходная семантыка дзеяслова 'напіхваць, натыкаць'.

***Аўрач**, *овра́ч* 'кій, якім заганяюць рыбу ў сетку', рэч. (Браім, Весці АН БССР, 1973, 1). Аддзеяслоўнае ўтварэнне з суфіксам *-ач*, характэрным для назваў прылад дзеяння па-

водле значэння дзеяслова; магчыма, ад незафіксаванага **овраць,* вытворнага з коранем *-ver-,* для асноў з якім у славянскіх мовах характэрна значэнне 'піхаць, соўгаць' (гл. Фасмер, 1, 293), а таксама 'кій, рычаг, з дапамогай якога штонебудзь паварочваюць, прыводзяць у рух', параўн. укр. *вирло* 'асноўны шост рыбалоўнай прылады, пры дапамозе якога яе падымаюць і апускаюць', 'дышаль манежа', 'доўгі рычаг, якім паварочваюць ветраны млын' (гл. Куркіна, Этимология 1970, 101). Параўн. *аўраць.* З семантычнага боку магчымы ўплыў літ. *varýti, vãro* 'гнаць, выганяць'.

**Аўстэ′рыя** 'заезны двор, гасцініца' (у Беларусі ў XVI—XVIII стст.) (Нас., Бяльк., Бесар., БелСЭ). З польск. *austerja* 'тс', запазычанага з італ. *osteria* (Кюнэ, Poln., 42). Параўн. Рыхардт, Poln., 31.

**Аўсю′к** 'аўсюк, Avena fatua '(Шат.), *аўсюг* 'аўсюк, аўсяніца і інш. падобныя расліны' (маг., Кіс.), рус. *овсюг,* укр. *овсюг, вівсюк,* з іншай суфіксацыяй чэш. *ovsik, ovsiha,* серб.-харв. *овсӣк(а).* Да *авёс* (гл.).

**Аўся′нка$_1$** 'рыбка Leucaspius delineatus, вярхоўка' (Жук., 214), укр. *вівсянка,* рус. *овсянка,* польск. *owsianka,* славац. *ovsianka,* чэш. *ovesnice, ovesnička.* Ад *авёс* 'дробныя рыбкі', параўн. укр. *овес,* рус. *овес,* польск. *owies* 'тс', названыя так з-за падабенства да рассыпанага па паверхні вады аўса, параўн. іншыя назвы — *вярхоўка, маляўка* (гл. Ледэр, Fischn., 69; Усачова, Этимология 1971, 181; Брукнер, 388).

**Аўся′нка$_2$** 'птушка Emberiza' (Бяльк., БелСЭ), укр. *вівсянка,* рус. *овсянка,* балг. *овесáрка.* Ад *авёс,* параўн. іншыя назвы малых птушак — *прасянка, канаплянка,* што звязана са спосабам харчавання (гл. Федз.— Доўб., Птицы, 384).

**Аўся′нка$_3$** 'каша з аўсяных круп' (БРС, Бяльк., КЭС, лаг., Сцяшк., Вешт.), укр. *вівсянка,* рус. *овсянка,* польск. *owsianka.* Сцяжэнне атрыбутыўнай канструкцыі, параўн. *аўсяная каша* (Сцяшк.).

**Аўтама′т** (БРС). Запазычана з рускай мовы (Крукоўскі, Уплыў, 83), дзе з франц. *automate* (грэч. αὐτόματος) 'які дзейнічае сам', гл. Шанскі, 1, А, 33.

**А′ўтар** (БРС), ст.-бел. *авторъ* з 1596 (Булыка, Запазыч.). Запазычана праз польскую мову або непасрэдна з лац. *auctor* (Гіст. лекс., 104, 107). Параўн. таксама Рудніцкі, 1, 7; Фасмер, 1, 60; Шанскі, 1, А, 35—36; Собік, Poln.-rus., 168, і інш.

**Аўта′р** 'алтар' (Федар., Яруш.). Запазычана вусным шля-

хам з польск. *ołtarz*, параўн. перадачу *ł* праз *ў*, а таксама польскія дыялектныя формы з націскам на апошнім складзе *ołtárz, ołtárz, outárz*. У польскай мове праз чэшскую з лац. *oltāre* або ст.-в-ням. *altâri*, гл. Рэчак, 44; Басай і Сяткоўскі, SFPS, 11, 18 (з літаратурай).

**Аўтарэ'ня** 'імя каровы, што нарадзілася ў аўторак' (КЭС, лаг.), *аўтурэня* 'тс' (Рам.). Ад *аўторак*, табуістычная назва, параўн.: «Для таго, каб ведзьмы не адбіралі малако ў кароў, ім даюцца мянушкі... па днях тыдня, у якія яны ацяліліся...» (Рам., 8, 180). Адносна суфіксацыі ўласных імён на *-еня (-эня)* гл. Бірыла, Бел. антр. назвы, 44—46, а таксама Лаўчутэ (Лекс. балтызмы, 20), якая лічыць суфіксацыю на *-еня* ў беларускай мове літоўскага паходжання.

**Аўто'бус** (БРС). Новае запазычанне праз рускую мову (Крукоўскі, Уплыў, 78) з ням. *Autobus*, якое з франц. *autobus*; утворана з *auto* 'аўтамабіль' і суфіксальнага элемента *-bus* (адсечаная канцавая частка з *omnibus* 'экіпаж для ўсіх'), гл. Шанскі, 1, А, 31, дзе насуперак Фасмеру, 1, 60, адмаўляецца па гістарычных прычынах польскае пасрэдніцтва. Пра элемент *-бус* гл. таксама Лапіна, РР, 1968, 5, 110—111; Брагіна, Неологизмы в рус. яз., М., 1973, 188—190.

**Аўто'к** 'уток' (Баранавых, КТС). Гл. *уток*, адносна фанетыкі параўн. *аўдод*.

**Аўто'рак** 'другі дзень тыдня' (БРС, Нас., Яруш., Бяльк., Касп., Гарэц., Серб., Грыг.), *уторак, вайторак* (Рам.), *гайторак* (Сцяшк.), *аўторнік* (Нас.), параўн. укр. *вівторок*, рус. *вторник*, дыял. *авторок, авторник*, польск. *wtorek*, славац. *utorok*, чэш. *úterek, úterý*, славен. *vtórǝk*, серб.-харв. *ўторак, ўто̄рнӣк*, макед. *вторник*, балг. *вто̀рник*, ст.-слав. **въторьникъ, въторъкъ.** Ад *vъtor* 'другі', параўн. *дру́гадзень* 'аўторак' (Гарэц.), апошняе, магчыма, калька з літ. *antrãdienis*, лат. *otrdiena* 'тс'; прыстаўному *а-* можа папярэднічаць пратэза *в* або *г*, параўн. Карскі, 1, 261; форма *ўторак*, відаць, у выніку адпадзення прыстаўнога *а*, характэрнай з'явы ў паўночна-ўсходніх гаворках.

**Аўто'ры** 'выраз у ніжняй частцы бочкі, у які ўстаўляецца дно' (лельч., Арх. ГУ). Гл. *уторы*, адносна фанетыкі параўн. *аўдод, аўторак* і інш.

**Аўтэ'нтык** (БРС, Нас., Яруш.), ст.-бел. *автентикъ* (з 1344? Нас. гіст.; 1644, Булыка, Запазыч.), *автентичный* (з 1333? Нас. гіст.). Праз польск. *autentyk, autentyczny* або непасрэдна з лац. *authenticus* (грэч. αὐθεντικός 'які мае самастойную вар-

тасць'). Для бел. *аўтэнтычны* малаверагодна, насуперак Крукоўскаму, Уплыў, 76, паўторнае запазычанне з рус. *аутентичный.*

**Аўца'** 'авечка' (Яруш., Сержп., Бяльк., Сцяшк.), *гаўца* (Сцяшк.), укр. *вівця,* рус. *овца*, польск. *owca,* славац. *ovca,* чэш. *ovce,* в.-луж. *wowca,* н.-луж. *wejca,* славен. *óvca,* серб.-харв. * óвца*, макед. *овца*, балг. *овцá.* Прасл. *ovьca* з *ovьkā* ўтворана пры дапамозе памяншальнага канчатка *-ikā* ад пашыранай асновы на *-i-*, параўн. ст.-інд. *avikā́* і *ávis*, літ. *avìs*, лат. *avs,* грэч. *ὄϊς*, лац. *ovis,* ірл. *ói,* ст.-в.-ням. *ou* 'тс', гл. Фасмер, 3, 116; Трубачоў, Происх., 69—70. Параўн. *авечка.*

**Аўча'р** 'пастух', (БРС, Бяльк., КЭС, лаг.), *гаўчар* (Сцяшк)., ст.-бел. *овчаръ,* укр. *вівчарь,* рус. *овчар,* польск. *owczarz,* чэш. дыял. *ovčiř,* славен. *ovčar,* серб.-харв. *ȍвча̄р,* макед. *овчар*, балг. *овчар.* Прасл. *ovьčar* ад *ovьka* 'авечка', адносна словаўтварэння гл. Мейе, Études, 213.

**Аўчуга'н** 'аўчарка, сабака,які вартуе авечак' (Нас.). Экспрэсіўнае ўтварэнне ад *аўца* па тыпу *ваўчуган* 'вялізны воўк', *зладзюган* 'злодзей', якім адпавядаюць формы на *-уга* (*-юга*): *ваўчуга, зладзюга*, параўн. Карскі, 2—3, 33. Адсутнасць або незафіксаванасць зыходнай формы **аўчуга,* магчыма, указвае на сувязь (частковая калька?) з літ. *avìganis* 'аўчар', 'аўчарка' (Атрэмбскі, Gramatyka, 193, 212).

**Аўчы'на** 'выраблёная авечая шкура', рус. *овчина,* польск. *owczyna,* серб.-харв. *ȍвчина* 'вялікая аўца' і 'аўчына'. Ад *ovьka,* параўн. літ. *avikiena* (Траўтман, 20, адносна ўтварэнняў такога тыпу гл. Атрэмбскі, Gramatyka, 9—10). Гл. Фасмер, 3, 116; Трубачоў, Происх., 69 і наст.

**Аўша'к** 'аконны ці дзвярны вушак' (Касп.). Гл. *вушак,* адносна фанетыкі параўн. *аўдод, аўторы* і інш.

***Аўшу'ла,** *оўшула* 'слуп з пазамі', *оўшулок* (Шушк., 159), укр. *авшула, овшула* 'тс' (Лысенка СПГ). Гл. *ушула, вушула,* адносна фанетыкі параўн. *аўдод, аўшак* і інш.

**Афе'кт** 'моцнае хваляванне; запальчывасць і злосць', ст.-бел. *афектъ, аффектъ* 'моцнае жаданне, страсць' (канец XVI — пачатак XVII ст., Нас. гіст.; Булыка, Запазыч.). Запазычана праз польскую мову або непасрэдна з лац. *affectus* 'прыхільнасць, пачуццё, любоў', гл. Гіст. лекс., 108; Булыка, Запазыч., 34; параўн., аднак, Краўчук, ВЯ, 4, 1968, 123, дзе адмаўляецца насуперак Рудніцкаму, 1, 41, непасрэднае запазычанне ўкр. *афéкт* з лацінскай па акцэнталагічных пры-

чынах — наяўнасці ў Бярынды слова з двума націскамі: *а́фект* і *афе́кт.* Магчыма, паўторнае запазычанне ў беларускую літаратурную мову з рускай (Крукоўскі, Уплыў, 76), пра што сведчыць сучасная семантыка слова.

**Афіцы′на,** *ахвіцы́на* 'флігель пры панскім доме для служачых асоб' (Нас. Доп.). Запазычана з польск. *oficyna* 'флігель пры палацы для дваровай службы', што ў сваю чаргу з лац. *officīna* 'майстэрня'.

**Афіцыя′нт** (БРС). Запазычана з рус. *официант* у другой палавіне XIX ст. (гл. Крукоўскі, Уплыў, 79; Гіст. лекс., 243); у рус. мове з франц. *officiant* (суфіксальнае ўтварэнне ад *officier* 'служыць, прыслужваць' <лац. *officiare* ад *officium* 'служба, пасада'), параўн. КЭСРЯ, 320.

**Афіцэ′р,** дыял. *ахвіцэ́р.* Ст.-бел. *офицеръ* (з першай палавіны XVII ст., гл. Булыка, Запазыч.) адпавядае графічна ням. *Officier,* што з франц. *officier* ад лац. *officiārius* 'афіцыйная асоба, службовец', параўн. *officium* 'служба'. Можна дапусціць непасрэднае запазычанне з нямецкай мовы (Гіст. лекс., 114) або праз польскае пасрэдніцтва, дзе былі вядомы абедзве формы — *oficer* і *oficyer,* параўн. Рыхардт, Poln., 84; Фасмер, 3, 174; форма *афіцэр* замацавалася ў літаратурнай мове пад уплывам рус. *офицер,* гл. Баханькоў, БЛ, 1972, 2, 44—45; Крукоўскі, Уплыў, 82.

**Афі′ша** (БРС). Запазычана з рус. *афиша,* якое з франц. *affiche* 'тс'; гл. Фасмер, 1, 97; Шанскі, 1, А, 177; Рудніцкі, 1, 42.

**Афро′нт,** у запісах Федароўскага: «Тры афронты качароў, дзевіць вецей лебядзей» (VI, 105), па семантыцы не можа ўзыходзіць да польск. *afront* (франц. *afront*) 'зняважа, паклёп'. Відаць, скажонае *акрэнт* 'карабель', польск. *okręt,* параўн. іншыя запісы той жа песні ў Федароўскага: «Дзевяць віцін лебядзей, тры акрэнты качэрэй» (VII, 254).

**Афэ′рдала** 'замораны, худы конь', 'апушчаны, забіты чалавек' (шарк., Цыхун, вусн. паведамл.). З яўр. (ідыш) *a férdele* 'конік'. Гл. таксама іншыя формы з няясным значэннем: *фэрдала, нафэрдала* (астрав., Жарт. песні, Мн., 1974, 611), якія могуць сведчыць у карысць сувязі з дыял. *фэйдаць, фэндаць* 'абрабляць, паскудзіць', польск. *faidać* 'тс'; параўн. таксама балг. дыял. *офрден* 'зношаны, стары', у аснове якіх ляжыць, магчыма, супольнае запазычанне з невядомай крыніцы.

**Афэ́рма,** *ахвэ́рма, ахэ́рма* 'неахайная жанчына, апушчаны чалавек' (Цых.), *оферма, офэрма* (КСТ), укр. *оферма, воферма* 'нязгрэба, няздара', польск. *oferma.* Запазычанне. У якасці крыніцы для польскага слова прыводзяць ням. *ohne Forme* (Дарашэўскі), што з семантычнага боку, здаецца, знаходзіць пацверджанне ў беларускіх гаворках, параўн. значэнне слоў *хорма* 'нікчэмны мужчына', 'форма' і *нехорматны* 'неахайны, неакуратны' (КСТ), аднак з фармальнага боку выклікае пэўныя цяжкасці з-за няяснасці шляхоў адаптацыі (пасрэдніцтва мовы ідыш?).

**Афя́ра.** Гл. *ахвяра.*

**Ах** выклічнік для выражэння гневу, радасці, здзіўлення; укр. *ах,* рус. *ах,* польск. *ach,* чэш. *ach,* славац. *ach,* н.-луж. *ach,* славен. *ah,* серб.-харв. *ȁh,* макед. *ах,* балг. *ах.* Адносіцца да т. зв. «першасных» слоў, вядомых і іншым індаеўрапейскім мовам, параўн. лац. *āh,* ням. *ach,* франц. *ah,* ст.-інд. *āḥ,* гл. Зубаты, Studie, 1, 163; Слаўскі, 1, 23; вытворныя *ахкаць,* укр. *ахкати,* славац. *achkat',* балг. *а́хкам* ад *ах (ach)* пры дапамозе спецыяльнага дзеяслоўнага суфікса *-к-,* параўн. Махэк$_2$, 34; адносна беларускіх дзеясловаў на *-ка-* гл. Васілеўскі, Лінгв. зб., 49—57.

**Аха́бак** 'бярэмя, вязка' (Бір.. Дзярж.). Хутчэй за ўсё *ахапак* (гл.) з азванчэннем *п* у інтэрвакальным становішчы, параўн. у тым жа арэале (Міншчына) *драбакаваць* 'баранаваць вясной зямлю, узараную на зіму' (Жд., з *драпакаваць), стаган* 'шклянка' і інш.; аднак магчыма і самастойнае аддзеяслоўнае ўтварэнне тыпу рус. *охабка* ад *охабить* 'абхапіць', *хабить* 'хапаць, захопліваць, прысвойваць', гл. Фасмер, 3, 175; пра існаванне ў старабеларускай мове адпаведнага дзеяслова, магчыма, сведчыць цытата з аканнем *«ахабивъ»* (XV ст.), якую прыводзіць Карскі, 1, 136; параўн. таксама ст.-польск. *ochabić* 'абхапіць' ад гукапераймальнага выклічніка *хаb-,* гл. Бернекер, 381.

**Ахадзі́ць** 'ударыць кіем, агрэць' (КСП), *ахажываць* 'біць', 'мыць' (міёр., Крыўко, вусн. паведамл.). Экспрэсіўнае ўтварэнне ад *хадзіць* (каля чаго-небудзь ці каго-небудзь) 'даглядаць', параўн. *ахаджваць* 'апрацоўваць, даглядаць' (Сцяшк.) і народны выраз-пагрозу: «Кій па табе будзе хадзіць!»

**Аха́лак** 'кароткая тоўстая палка' (Касп.), 'бясформенны кусок (хлеба)' (полац., Суднік, вусн. паведамл.), рус. *охалок* 'кароткая палка даўжынёў каля аршына' (арл., КСРНГ). Ня-

ясна. Па каранёвай частцы *-хал-* яны могуць быць з найбольшай верагоднасцю аднесены да групы слоў са значэннем 'непатрэбнае, малакаштоўнае, непрыгоднае', параўн. *халусце* 'хлам', *халь* 'дрэнь, старызна', рус. *хал, халовщина* 'танна купленае, дзяшоўка' і інш., адносна якіх гл. Фасмер, 4, 216 і наст. Трубачоў (ZfSl, 4, 1959, 84) звязвае гэту групу слоў з рус. *холудина, хлуд,* а Львоў (ЭИРЯ, 1, 32) узводзіць рускія словы да **xl-ǫd-, *xal-ǫd-.*

**Аха'лкам** 'не пераважоўваючы, вялікімі кускамі (есці)': «свіньні ядуць ахалкам» (глыб., Цыхун, вусн. паведамл.). Відаць, да *хаўкнуць* 'хутка, прагна праглынуць', параўн. рус. *ха́лко* 'хутка, спяшаючыся'. Параўн. таксама *аха́лак* (гл.).

**Ахало'на** 'прахалода, ахаладжэнне' (лід., Крывіч, 12, 111). Разам з *ахалонуць* 'астыць' (КТС), укр. *охолонути,* рус. маск. *охолонуть,* польск. *ochłonąć* 'стаць халодным' і 'прыйсці да сябе' (апошняе з XVIII ст., раней *ochłodnąć*) ад **o-xold-nǫ-ti*, параўн. *халодны;* звычайна *ахалода* 'прахалода, ахаладжэнне', *ахаладзець* 'стаць халодным' (Яруш.), *ахаладаць* 'астыць' (Янк. III), *ахалодаць* (Сцяшк., Сцяц.) ад *халадзець, халадаць*, гл. *холад.* Аб прадуктыўнасці словаўтваральнай мадэлі ў старабеларускай мове гл. Суф. словообраз. сущ. в вост.-слав. яз. XV—XVII вв. М., 1974, 193; адносна дзеясловаў на *-ну-* гл. Трубачоў, Проспект, 16; Эндзелін, РФВ, 18 (1912), 370—372; Сігалаў, Вестник ЛГУ, 20 (1961), 89; Штурм, ZfSl, 8 (1963), 496 і інш.

**Ахамо'лак** 'жмут сена' (міёр., Крыўко, вусн. паведамл.), *агамолак* 'вялікі кусок хлеба ці чаго іншага' (полац., Лучыц-Федарэц, вусн. паведамл.). Да *гамола, гамолка* 'камяк', *х* на месцы *г*, магчыма, пад уплывам *хамлак* 'жмут сена, саломы', вядомага на той жа тэрыторыі.

**Ахамяну'цца** 'спахапіцца, апрытомнець, зарыентавацца' (Гарэц., Др.-Падб., КТС), укр. *охаменутися,* рус. *охомянуться.* Гл. *схамянуцца, хамянуцца.*

**Аха'пак** (БРС, Касп., Бяльк., Янк. Мат., Янк. I, КСТ) і *ахо́пак* (Жд., КСП), *ахапка* (Бяльк., Сцяшк.), *ахапень* (Янк. Мат.). Ад *ахапіць,* гл. *хапаць;* параўн. *ахабак;* адносна спарадычнага пераходу *а* ў *о* гл. Карскі, 1, 99.

**Ахара'так** 'аб'едак' (Касп.), *ахряткі* 'аб'едкі' (гарадоц., Яшкін, вусн. паведамл.), рус. алан. *охоратки* 'рэшткі ежы, якія кідаюць жывёле', магчыма, сюды ж і *охорат* 'чалавек,

худы на выгляд' пск., цвяр., асташ. (КСРНГ). Няясна, магчыма, да незафіксаванага **харатаць*. Паводле Трубачова (пісьм.), да *аскротак* (гл.).

**Аха́яць₁** 'ачысціць, прывесці ў належны выгляд' (Касп., Бір. Дзярж., Сцяц.), 'прыбраць'; *ахаіць,* 'ачысціць, выпратаць' (Др.-Падб., КЭС, лаг.), *ахайваць* 'мыць, прыбіраць, ачышчаць' (Сцяц.), *ахаяцца* 'памыцца, прыбрацца' (Сцяшк.), *ахайлівы* 'які захоўвае чысціню' (Др.-Падб.), *ахайны* 'акуратны' (БРС, Сцяшк., КЭС, лаг.), *ахайнасць* (БРС, Гарэц.), укр. *ахаяти, охаювати, охайний, охайність,* рус. дыял. *охаять,* польск. дыял. *ochaić, ochajny, ochajność* (з укр., Варш. сл.). Ад *хаяць* 'чысціць, даглядаць'.

**Аха́яць₂** 'абгаварыць, зняважыць' (КТС). Ад *хаяць* 'лаяць, зневажаць'.

***Ахвары́цца** '?', параўн. у Дуніна-Марцінкевіча: «Пад каньмі аж зямля стоніць//«Ахварысь, падзі!» — крычыць...» Няясна. Магчыма, сапсаванае пры рэдагаванні: *ахварысь* нагадвае польск. *foryś* (*forytarz*)<ням. *Vorreiter* (Брукнер, 126) 'фарэйтар', якое магло б пры адаптацыі даць *хворысь* або *хварысь* (з пераносам націску) 'фарэйтар'; тады прыведзены вышэй сказ трэба было б чытаць: «Пад каньмі аж зямля стоніць//А хварысь «Падзі!» крычыць...» Параўн. укр. палес. *хворищь* 'служка, якога саджалі вярхом на каня ў запрэжанай чацвёрцы коней' (Лысенка СПГ).

**Ахва́т** 'хвароба жывёлы, часцей за ўсё коней, ад празмернага кармлення ці паення' (КТС), *óхват* (Клім.), *ахват* 'хвароба ад натугі' (КЭС, лаг.), *охват* 'хвароба рук, калі іх гарачымі апускаюць у халодную ваду' (КСТ), *ахвацíцца* 'захварэць, выпіўшы халоднай вады, калі ўвагрэешся' (Сцяц.), укр. *охват* 'хвароба: ламота ў паясніцы', польск. *ochwat* 'захворванне коней ад няправільнага кармлення ці празмернай працы', 'хвароба рук ад цяжкай працы ці ад удару', *ochwacić* (ręce albo konia) 'стаміць, зрабіць няздольным да працы', *ochwacić się* 'ўжыць што-небудзь празмерна, перасыціцца чым-небудзь', славац. *ochvat* 'захворванне жывёлы ад прагнасці', славац. і чэш. мар. *ochvátiti se* 'захварэць, прагна з'еўшы што-небудзь' (пра жывёлу), ст.-чэш. *ochvátiti sě* 'стаміцца, загнацца, узмыліцца'. Да *хватаць* 'спяшацца', параўн. *хват, хваткі* 'хуткі, лоўкі', рус. дыял. *охватывать* 'многа, прагна есці', 'хутка рабіць працу', укр. *хвата́тися* 'спяшацца', чэш. *chvátati,* славац. *chvátat',* в.-луж. *chwatać,* н.-луж. *chwataś*, гл. Махэк₂, 210, паводле якога не звязана з *xytiti* 'спя-

шацца' і *xvátati* 'хапаць' насуперак Брукнеру, 274; Фасмеру, 4, 239; Слаўскаму, 1, 93. Параўн. *падхваціць* (гл.).

**Ахве́с** (аргат.) 'бог, абраз' (Рам.), вядома таксама ў формах *ахвэс, яхвес, охвіс, охвесь, ахвесь, хвесь* і *фес* у сацыяльных дыялектах на тэрыторыі Беларусі, Украіны і Польшчы, параўн. Бандалетаў, Бел.-укр. ізал. ,101. Згодна з Арапавым (Этимология 1964, 125 і наст.), запазычана з мовы ідыш, дзе ад ст.-яўр. *Jahveh,* што ўяўляе традыцыйнае чытанне найбольш ужывальнага імені іудзейскага бога *JHWH;* ад *ахвес* адна з назваў тайных моў — *ахвесніцкая,* параўн. польск. *język ochweśnicki,* а таксама, магчыма, назва гандляроў-разносчыкаў у Расіі *офени.* Адносна апошняй гл. Фасмер, 3, 174; Кіпарскі, ВЯ, 1956, 5, 135. Інакш Раманаў, 9, 5 (з грэчаскай), Бандалетаў, ЭИРЯ, 7, 1972, 38.

**Ахво́сце**$_1$ (БРС), рус. *охвостье, ухвостье.* Ад *хвост* 'тое, што застаецца ззаду' (пры веянні), параўн. славен. *hvost* 'тс', балг. *опашка* 'хвост' і 'збожжа, што падае пры веянні адразу за лепшым', гл. Лекс. Палесся, 58 і наст.

**Ахво́сце**$_2$ 'месца за ўзгоркам і паваротам ракі' (рэч., Яшкін). Параўн. рус. *ухвостье* 'доўгае, вузкае заканчэнне вострава, задні канец прадмета, выток ракі', паводле Фасмера, 4, 178, ад *хвост* (вострава).

**Ахво́та** (БРС, Бяльк., Гарэц., Мал., Касп., Сержп., КЭС, лаг., Яруш.), *ахвочы* 'шчыры, хто робіць з ахвотай' (БРС, Касп., Гарэц., Бяльк., КЭС, лаг., Яруш.), *ахвоціцца* 'мець ахвоту' (КЭС, лаг.), *охвоча* 'без прымусу' (КЭС, лаг.), *ахвотна* (БРС, Касп., Гарэц., Бяльк., КЭС, лаг.), *охвотно* 'весела, прыемна' (КСТ), *ахвотнік* 'дабраволец' (БРС, КЭС, лаг.), ст.-бел. *ѡхвотно* (XV ст.), *ѽхвочий, ѽхвочь* (XVI ст., Карскі, 1, 339), укр. *охвота* 'жаданне, задавальненне', *охвітно* 'прыемна, з задавальненнем', рус. *охвота* 'жаданне', 'паляванне' (выключна паўночна-заходняе), ст.-рус. *охвота, охвочии, охвотьнъ* 'вясёлы, жвавы'. Нельга разглядаць асобна ад *ахота,* з якім *ахвота* мае паралельнае ўжыванне на большай частцы беларускага моўнага арэалу; паводле Брукнера, KZ, 45, 25, назоўнік ад **ochvy:* параўн. палаб. *våxvě* 'здаровы, вясёлы' (з *oxvъ-jь*), в.-луж. *wochwy* 'тс', палаб. *våxötně* (з *oxvotьnъjь*), «па tüjǫ våxötǫ» «за тваё здароўе» (тост) <**oxvotǫ* гл. Шыдлоўска-Цэглёва, SOc, 27 (1968), 266; гл. таксама Махэк$_2$, 411, які ўслед за Брукнерам зблíжае з ст.-чэш. *ochviti sě* 'разгуляцца, распаліцца, аддацца чаму-небудзь', тады *ахота*<*ахвота* з выпадзеннем *в,* параўн. Бернекер, 398, адносна фанетычных умоў гэтай з'явы гл. Ільінскі, AfSlPh, 29, 168 і наст.; Ат-

рэмбскі (*Życie wyrazów*, 320) тлумачыць выпадзенне *w* у польск. *ochwota* і развіццё значэння ад 'жвавасць, вясёласць' да 'жаданне' ўплывам *chocieć* насуперак Брукнеру, які адмаўляе такую сувязь; інакш Якабсон, Word, 2, 615: рус. *охвота*<*охота* ў выніку характэрнай дыялектнай з'явы пераходу *охо*>*охво*, паралельнай да *ого (оүо)*>*ово;* згодна Карскаму 1, 339, *ахвота* з *ахота* ў выніку народнаэтымалагічнага збліжэння з *хватаць*. Паводле Шутца, WSl, 8, 346, рус. *охвота* і *охота* ўзыходзяць да кораня **xu̯-o-t* (адлюстроўвае нармальную ступень чаргавання асноў, што ўзнікла на базе ступені з рэдукцыяй, першапачаткова **xŏut-*: **xūt-*: **xut-*>чэш. *hut'* 'радасць', прасл. *xytiti*, серб.-харв. *htjěti*<**xъtěti),* які супрацьпастаўляецца кораню **xu̯-ō-t* з падаўжэннем галоснага, параўн. прасл. *xvatъ*, рус. *хватить* 'схапіць', гл. таксама Куркіна, Этимология 1971, 77. Параўн. *расхвaціцца* 'зрабіць з ахвотай' (Юрч., Фраз., 2).

**Ахвя́ра** (БРС, Грыг., Мядзв., Гарэц., Касп.), *афяра* (Нас., Касп., Мал., Сцяшк.), 'рэлігійны зарок; дар у царкву, касцёл' (Нік., Очерки, 152), *афяры* 'рэчы, якія давалі ў царкву' (Арх. ГУ), *ахвярнік* 'асоба, якая ходзіць па вёсках і збірае грошы на рэлігійныя патрэбы' (КЭС, лаг.), *ахвяраваць* (БРС, Гарэц., Бяльк., Грыг.), *афяраваць* (Сцяшк.), 'даць зарок' (Мал.), ст.-бел. з канца XV ст. *офяра* і *офера* (Гіст. мовы, 1, 198, 218), з першай палавіны XV ст. *ѡферовати* 'ахвяраваць, даваць зарок' (Нас. гіст.; Гіст. мовы, 1, 52), укр. *охвіра, офіра, охвірувати.* Запазычана з польск. *ofiara* (ст.-польск. *ofiera*), *ofiarować,* гл. Цвяткоў, Запіскі, 1, 53; Гіст. мовы, 1, 181, дзез чэш. *oféra,* ст.-чэш. *offěra, offerovati* ад лац. *offere* 'запрапанаваць, прынесці ў дар', параўн. Шцібэр, RÉS, 39, 8; Махэк$_2$, 410. Кюнэ, Poln., 82; Басай і Сяткоўскі (SEPS, 11 (1972), 14) дапускаюць для чэшскага слова нямецкае пасрэдніцтва (с.-в.-ням. *opfer*).

**Ахеле́й** 'крываўнік' (Кіс.). З лац. назвы расліны *Achillea,* літаральна 'Ахілесаў, які належыць Ахілу' (згодна паданню, грэчаскі герой Ахіл вылечыў гэтай раслінай раненага ім сына Геракла—Тэлефа), параўн. Гусяцінская, УЗ МГПИИЯ 58, 190.

**Ахі́біцца** 'сагнуцца' (Мурашка, КТС). Да *хібіцца* 'хістацца, гнуцца'.

**Ахі́лак** 'кволае дзіця' (полац., Лучыц-Федарэц, вусн. паведамл.), *охілок* 'слабы чалавек' (петрык., Цыхун, вусн. паведамл.). Ад *хілы* 'слабы, пахілы', відаць, пад уплывам *асілак* 'волат, магутны чалавек'.

***Ахі'лкі,** *охілкі* 'шафран Гейфеля, Crocus Heuffelianus Herb.' (Бейл.). Ад *хілы* 'схілены, пахілы', *хіліць* 'пахіляць', *ахіляць* 'закрываць', параўн. іншыя назвы: *бабін сон, сон, соннік,* характэрныя для раслін, якія на ноч ці на дождж схіляюцца ці «засынаюць».

**Ахіля'ць** 'ахінаць, ухутваць', *ахіляцца* 'ахінацца, укручвацца' (Сцяц.). Ад *хіліць* 'згібаць'; супадзенне значэнняў і тэрытарыяльнае суседства з польск. *ochylać* 'атуляць, укрываць, абараняць', магчыма, сведчыць пра ўплыў, параўн. таксама кобр. *охылянка* 'вялікая хустка ахінаць плечы' (Бел. дыял., 145), дзе спалучэнне *хы* можа разглядацца як дыялектная з'ява ці прыкмета запазычанасці слова.

**Ахіна'ць** (БРС, Нас., Яруш., Гарэц., Бяльк., Сцяшк.). Разам з польск. *ochynąć* 'накінуць, апрануць у што-небудзь', ад *хінаць, хінуць (chynąć)* 'згібаць, сагнуць', развіццё семантыкі як у *ахіляць* (гл.).

**Ахіне'я** 'бязглуздзіца, выдумка', укр. *ахінея,* рус. *ахинея.* Звычайна лічыцца т. зв. семінарысцкім словам, узнікшым на базе спалучэнняў тыпу «афинейские плетения», «ахинейская премудрость» 'сумбурная, цяжкая для зразумення прамова' ад грэч. ἀθήνατος 'афінскі' (з Афін), гл. Фасмер, 1, 97; Рудніцкі, 1, 43; паводле Шанскага, 1, А, 180, беларускае і ўкраінскае словы з рус. *ахинея.* Згодна з Вінаградавым (РР, н. с., 3 (1928), 28—46), ад *хинить* 'лаяць, ганьбіць', *хинь* 'бязглуздзіца, глупства' з адлюстраваннем на пісьме акання, што сведчыць пра паўднёварускае паходжанне слова (аднак пры гэтым не ўлічваецца, што зыходныя словы вядомы пераважна на паўночнай тэрыторыі). Па семантыцы бліжэй да царкоўнаславянскага (серб.) *хынити* 'хлусіць', серб.-харв. *хи̏нити* 'прытварыцца, быць няшчырым, хлусіць', якія фанетычна адпавядаюць польск. *chynąć,* бел. *хінуць* 'сагнуць', параўн. прастамоўн. *загнуць, загібаць,* 'выдумляць, гаварыць бязглуздзіцу', а таксама мсцісл. *пускаць хінню* 'марнатравіць' (Юрч. Фраз. 2).

**Ахла** 'крываўнік' (Кіс.). Скажоная лацінская назва расліны Achillea millefolium L. Гл. *ахелей.*

**Ахламо'н** 'неарганізаваны, неакуратны, зацюканы чалавек' (Юрч., Фраз. 2), *вахламон* 'неахайны чалавек', *вахламоня* 'неахайная жанчына', *вахламондзія* 'тс' (Яўс.); слова вядома на большай частцы Беларусі са значэннямі 'чалавек, недалёкі ў разумовых адносінах', 'чалавек без пачуцця ўласнай годнасці', 'дрэнна выхаваны, некультурны чалавек', 'неаку-

ратны, неахайны чалавек', 'неахайна адзеты чалавек', 'няўклюда' і інш. Рус. *охламон* 'дурань і гультай', рус. дыял. *охламон* 'вялікі чалавек, у якога не ўсё ў парадку'. Няясна. Найбольш натуральнай здаецца сувязь з *хлам* 'старызна, дрэнь' (Нас.), якое, паводле Бірылы, Бел. антр., 2 (пад Ахламёнак), можа выступаць у форме *ахлам*, параўн. таксама рус. дыял. *хлам* 'лахманы, старызна', *хламунина* 'старая, зношаная адзежына'; параўн. таксама серб.-харв. *hlamina* 'зношаны абутак, уступкі' (Скок, 1, 671); тады першапачаткова *ахламон* 'неахайна адзеты чалавек' з экспрэсіўнай суфіксацыяй як у *разявон* 'разява', пры гэтым магчымы ўплыў кантамінаваных форм тыпу рус. пск. *ахломотья* 'лахманы'. Аднак, прымаючы пад увагу аддзеяслоўны характар форм тыпу *разявон*, можна дапусціць утварэнне *ахламон* ад *хламаць*, *хламнуць* (ад гукапераймальнага *хлам!*), параўн. *хламаць* 'есці' (пра свіней; рэдка абразліва — пра чалавека, КСТ), экспр. 'есці' (Сержп., Грам., 61), *хламнуць* 'праглынуць' (Бел. фраз., 62), суфіксацыя *ахламон* як у *матон* 'круцель, махляр, дзялок' (Яўс., ад *матаць*); тады *ахламон* 'некультурны чалавек, мужык', параўн. *хамула* 'некультурны чалавек' ад *хамаць* 'прагна і гучна есці', рус. дыял. *охряпок* 'дзеравеншчына, няўклюда' ад *хряпать* 'есці многа'. Жаргонны характар слова дазваляе лічыць верагодным таксама дапушчэнне Супруна (вусн. паведамл.) аб сувязі з грэч. ὄχλος 'чэрнь, натоўп' (да ст.-грэч. ὀχλο-μανέω 'імкнуцца да папулярнасці'?), аднак пры гэтым узнікаюць пэўныя фармальныя цяжкасці. Параўн. з іншай суфіксацыяй *ахлама́н* 'неацёсаны, тупы чалавек' (Цых.). Гл. Цыхун, БЛ, 8 (1975), 58—59.

**Ахла́пак** 'вялікі кавалак чаго-небудзь ядомага (напрыклад, мяса)' (Мядзв.), *охлапок* 'абрэзак' (Клім.), *охлапы* 'дрэннае мяса, адыходы пры разбіранні тушы' (КСТ), *охляпы* 'кускі няякаснага мяса на баках' (лельч., Шур, вусн. паведамл.). Польск. *ochłapy* 'рэшткі мяса, кавалкі дрэннага мяса', 'кішкі, зрэзкі мяса' (з беларускай тэрыторыі і суседніх польскіх, гл. Карл., 3, 382), *ochłapek* 'тс' тлумачаць ад *chłapać* 'жэрці' (Брукнер, 373), якое разам з *chlapać* 'біць па чым-небудзь вадкім', 'хлябтаць' гукапераймальнага паходжання, гл. Слаўскі, 1, 65; відаць, нельга адрываць ад *ахлопак* (гл.), параўн. *ахлапісты снег* і *снегавыя ахлопкі* (КТС), *хлопак* 'касмык, шкумат' у Насовіча; развіццё значэння ад 'мяккі, бясформенны' да 'слабы, дрэнны', гл. у *хлапаваты* 'мяккаснежны і буйнаслаісты', *хлапіна* 'сасновае дрэва з буйнымі і мяккімі слаямі' (Нас.), параўн. славен. *ohlapen* 'друзлы, абвіслы'.

**Ахло′пак** ’ахапак сена’ (полац., Крывіцкі, вусн. паведамл., Лучыц-Федарэц, вусн. паведамл.), *ахлопкі* ’камякі’ (пра снег, КСП). Ад *хлоп* ’шматок, бясформенны кавалак’, гл. таксама *ахлапак;* да фанетыкі параўн. *ахапак* і *ахопак.*

**Ахлу′дзець** ’астыць, адубець, стаць цвёрдым’ (КЭС, лаг.), *охлу́дыты* ’акачанець, астыць’ (Клім.). Ад *хлуд, хлу́дзіна* ’кій, дубец’, як *адубець* ’страціць гнуткасць (ад холаду)’ ад *дуб, акалець* ад *кол* і г. д., пры гэтым, аднак, цяжка вытлумачыць адрозненні ў націску; драг. *хлуд* ’акачаненне, здранцвенне; цурбан (у праклёнах)’ (Клім.) можа сведчыць пра другасную сувязь з *хлуд* ’кій’, параўн. рус. *хлу́да* ’немач, слабасць’, зблiжанае Махэкам$_2$, 200, з чэш. *chlouditi* ’марыць (холадам)’, ст.-чэш. *chlúditi* ’слабець’; тады ад незафіксаванага **хлудзіць*<**chlǫditi* ’пазбаўляць сілы’; параўн. Ілліч-Світыч, ВЯ, 1961, 4, 94. Ці не сюды польск. *ochłódnąć* (на думку Брукнера, 180 «пазнейшае») замест *ochłodnąć* ці *ochłonąć* ’астыць, прыйсці да сябе пасля хвалявання’, для якога акрамя ўздзеяння формы *chłód* ’холад’ можна дапусціць уплыў бел. *ахлудзець?*

**Ахлу′п** ’суцэльнае бервяно, якое кладзецца над вокнамі, дзвярамі’ (Інстр. лекс.), *ахлупавата* ’не крута’, *ахлупны* ’ахопліваючы, верхні’ (Касп.), рус. *о́хлуп, о́хлупь* ’вільчык, верхняя частка страхі’, *о́хлупень* ’тс’. Звязана з гукапераймальным *хлопаць* ’стукаць, ляскаць, выдаваць адрывістыя гукі’ чаргаваннем галоснага асновы, якая мае значэнне ’выдаваць шум, закрываючы ці адкрываючы адтуліну’, параўн. *захлупіцца* ’задыхнуцца (ад раптоўнага недахопу паветра)’, рус. бранск. *адхлупнуть* ’адклеіцца, адстаць’, балг. *захлупвам* ’закрываць накрыўкай, пераварочваць уверх дном’, *захлупак, похлупак* ’накрыўка’ (адносна апошніх гл. Мірчаў, БЕ, 10, 2—3, 218—220); з захаваннем галоснага *о* рус. *захлопнуть* ’рэзка закрыць’, *захлопка* ’затычка’, славац. *chlopňa* ’накрыўка’; Махэк$_2$ (287) выводзіць рус. *охлупень* ад **xlupěti* ’вісець, падаць’, што ўзыходзіць да гукапераймальнага **xlup* — для абазначэння розных рухаў, галоўным чынам раптоўных, нечаканых (там жа, 200 і наст.). Неверагодна перш за ўсё па лінгвагеаграфічных прычынах адносна рускага слова Фасмер, 3, 176 (з *о-* і *хлупь* ’хвост’, ’гузка ў птушак’). Параўн. *ашлап.*

**Ахлы′сцік** ’ашуканец, асоба без пачуцця чалавечай годнасці’ (КЭС, лаг.), ’падлетак, несамастойны чалавек’ (глыб., полац., Цыхун, вусн. паведамл.). Ад *ахлыстаць* ’пабіць’, гл.

*хлыстаць,* параўн. польск. *ochlast* 'ілгун', ад *ochlastać* (Варш. сл., 545). Гл. *хлысцік.*

**Ахля'біна** '?' (Інстр. лекс.), *охлябіна* 'ўвогнутае месца' (КСТ). Відаць, да *хляба* 'ўпадзіна, пахвіна ў жывёлы'. Параўн. *ахляць.*

**Ахля'ць** 'аслабець і апусціць рукі, апусціцца, здацца' (Янк. II), 'аслабець; занепасці' (Ян.), *охляб* 'занепаў, аслабеў' (Бесар.), параўн. «стаў худы і больш ахлялы» (КТС), *схліялы* 'кволы, слабы; стары', *схліяць* 'аслабець, састарыцца' (Яўс.), укр. *охляcти* і *охлянути* 'схуднець, аслабець, страціць сілы'; апошняе разам з ц.-слав. (рус.) *охладание* 'абыякавасць', *ахланѧти* 'аслабець' з **xlęd-nǫ-ti* 'страціць сілы', параўн. *хлянуты* 'страціць сілы, схуднець' (Клім.), што звязана чаргаваннем галосных кораня з **xlǫditi* 'пазбаўляць сілы', параўн. чэш. *chlouditi* 'тс', гл. Бернекер, 388 і наст.; Скок, 1, 672; Ілліч-Світыч, ВЯ, 1961, 4, 94, насуперак Фасмеру, 4, 246. Для некаторых форм і значэнняў магчымы ўплыў утварэнняў з **xlęb-,* параўн. *хляблы* 'худы, слабы' (Нік., Очерки), укр. *охляб(ну)ти* 'аслабнуць' (пра сувязь частак у чым-небудзь) і інш.

**Ахмістры'ня** 'эканомка; жанчына ў панскім двары, якая распараджалася хатняй гаспадаркай і мела ключы ад прадуктаў' (БРС, Нас., Мядзв. мін., Шн., Бяльк.), *ахмістрына* 'жанчына, якая любіць распараджацца' (КСТ), ст.-бел. *охмистрина* 'эканомка, ключніца' (з XVII ст., Нас. гіст.). Утворана ад ст.-бел. *охмистръ* 'дваровы; чалавек, які загадваў службай пры двары' (з XV ст., Нас. гіст.), запазычанага праз польск. *ochmistrz* 'тс' з ням. *Hofmeister,* па тыпу *княгіня* (ад *князь*) або субстантывацыяй прыналежнага прыметніка *охмистрина,* як *бандарына* (ад *бондар),* параўн. ст.-бел. *охмистровая,* гл. Паўленка, Веснік БДУ, 1974, 1, 47; Булыка, Запазыч., 233; згодна Кюнэ, Poln., 82, бел. *ахмістрыня* з польск. *ochmistrzyni* 'тс'.

**Ахмуры'ць** 'падмануць, ашукаць' (Юрч., Сін., 31), рус. *охмурить.* Да *хмура//хмара,* параўн. польск. *ochmurzyć (ochmurzać)* 'пакрыць хмарамі; зрабіць панурым, атуманіць, напусціць туману; ашукаць'; магчыма, жаргонная пераробка пачатку слова, параўн. арг. *шмурыць* з *дурыць, шмурак* з *дурак.* Гл. *ахмурэць.*

**Ахмурэ'ць** 'стаць невясёлым' (Касп., КСТ), 'аслабець' (Касп.), *ахмырэць* 'зрабіцца панурым' (КСП), *зхмарэ́ць* 'тс' (Грыг.). Да *хмура // хмара,* параўн. рус. *охмарить* 'надуцца,

зазлаваць', *хмура* 'пахмурны чалавек', *хмыра* 'тс', *хмуры* 'пакрыты хмарамі; пануры, невясёлы (пра чалавека)'.

**Ахмы́лка** 'памылка' (Шат.), *ахмыляцца* 'памыляцца' (Шат.). Ад *абмылка, абмыляцца* 'тс' з распадабненнем губных, магчыма, пад уплывам іншых слоў тыпу рус. маск. *хмы́лом* 'хутка, паспешна'. Гл. *мыляць, памылка.*

**Ахо́ва** (БРС, Яруш.), 'захаванне ўкрывальніцтва' (Гарэц.), *ахоўваць, ахоўнік, ахавайца* 'ахоўнік' (Яруш.). Ад *хаваць* (гл.).

**Ахо́рац** 'дуля, фіга' (Касп., ЭШ рук.). Няясна. Магчыма, сюды ж рус. *охора́т* 'чалавек, худы на выгляд', пск., цвяр., асташ. (КСРНГ).

**Ахо́та** 'ахвота, жаданне' (Цыхун, Бел. фраз., 101), 'ахвота', 'паляванне' (Бяльк., Юрч., Ян, КСТ), *ахочы* 'ахвочы' (КТС), ст.-бел. *охотный, ѡхочи'*, укр. *охота* 'ахвота, весялосць', *охочий* 'ахвотны, згодны', рус. *охота* 'ахвота; паляванне', *охотный, охочий* 'ахвочы', польск. *ochota* 'ахвота; радасць, весялосць', *ochoczy* 'ахвотны, вясёлы' (з усходнеславянскіх моў, Грабец, Elementy, 102), славац. *ochota*, чэш. *ochota*. Звычайна звязваюць з **xotěti* 'хацець', параўн. Бернекер, 399; Фасмер, 3, 176 (з літар.); нельга адрываць ад *ахвота* 'жаданне', фармальныя разыходжанні з якім тлумачацца фанетычна (гл. Ільінскі, AfSlPh 29, 168 і наст., параўн. таксама паралельныя палескія формы *хвотно // хотно* 'весела', *хвойка//хойка* 'хвошч', *хвіст//хіст* 'тычка' (КСТ); Якабсон, Word, 2, 615 (рус. *охвота<охота*), або ўплывам іншых слоў, параўн. Карскі, 1, 339 *(хватаць)*. Значэнне 'паляванне', відаць, пад уплывам рус. *охота,* табуістычнага ўтварэння ад *хотеть,* гл. Зяленін, Табу, 1, 125 і наст.; Трубачоў, Дополн., 3, 176; іншы прынцып намінацыі ў беларускіх (часткова рускіх) назвах: *паляванне* ад *поле, палешня* (Касп.) ад *лес,* арэал распаўсюджання якіх Непакупны (Baltistica, III (1), 1967, 79) акрэслівае як прымыкаючы да балтыйскай і фінскай тэрыторый.

**Ахо́хам** 'гасцінец, хабар' (КЭС, лаг.). Магчыма, запазычанне з мовы ідыш, параўн. *a chochem* 'мудрасць, хітрасць' (з ст.-яўр. *chochmas).*

**Ахра́к** 'сліна, макрота (пры кашлі)' (КЭС, лаг., Шат.), рус. *охрак,* ст.-слав. **охракъ**. Ад *хракаць* 'харкаць, выплёўваць', параўн. *хракі.*

**Ахра́на** 'варта' (Бяльк.), *ахранка, ахраннік* (БРС). Запазычана з рус. *охрана, охранка, охранник* (адносна апошніх

двух гл. Крукоўскі, Уплыў, 48), што ў сваю чаргу ад ц.-слав. *хранити,* параўн. адпаведныя ўсходнеславянскія формы *ахарона* (укр. *охорона,* рус. *охорона)* 'ахова', *хараніць* (укр. *хоронити,* рус. *хоронить*) 'хаваць', якія ўзыходзяць да прасл. **xorna*, **xorniti*. Рус. няпоўнагалосныя формы разглядаюцца як «неаславянізмы», узнікшыя пад польскім уплывам, Кохман, зб. Бархудараву, 194.

**Ахра'пак** (БРС, Касп., КЭС, лаг.), *ахрапка* (Яўс.), *ахрап'е* 'бацвінне' (БРС, Касп.), 'трава, лісты бручкі і інш. для свіней' (Янк. Мат.). З *а-* і *храпа, храпка, храп'е* 'бацвінне', што звязана, відаць, з *храпаць* 'ламаць з трэскам' (Нас.).

**Аху'хцінацямненькі** выкл. 'уздых аблягчэння пасля фізічнай нагрузкі' (полац., Садоўскі, вусн. паведамл.). Складанае ўтварэнне, у якім можна вылучыць наступныя элементы: *а-хух-ці-на-ця-мненькі,* дзе *а* прыстаўное; *хух* адпавядае выкл. 'ах, ох ' (КСП); *ці* па паходжанню асабовы энклітычны займеннік дав. скл. адз. л. 2-й асобы; *на* няяснага паходжання, магчыма, узмацняльная часціца тыпу рус. *-на* ў *эвона* 'вось', звязаная з займеннікам **onъ*, Фасмер, 4, 513; *ця* па паходжанню асабовы энклітычны займеннік він. скл. адз. л. 2-й асобы, параўн. *áхця мне* выкл. 'гора мне!' (дзісн., Рам. 8, 519); *мненькі* займеннік *мне* з экспрэсіўнай суфіксацыяй, характэрнай для такога тыпу выклічнікаў, параўн. *авохцінькі, ахці мненюшкі, аціңькі* (ад *аці* 'дзякую', гл.), «спешчаныя» формы тыпу *спатанькі* (ад *спаць*) і інш., гл. Карскі, 2—3, 64, пры гэтым магчыма народнаэтымалагічнае збліжэнне канца слова і *цёмны, цёмна,* параўн. запісы *а вой цямней* выкл. 'выказванне незадавальнення', якія Клопава (Лінгв. зб., 143) выводзіць з *авохці мне* і пад.

**Ахца'к** '?' параўн. у Чорнага: «Не ўспеў яшчэ ад астрога ачухацца за першую жонку, як ужо другую бярэ. От ахцак!» (КТС). Улічваючы геаграфію слова, магчыма, запазычанне з мовы беларускіх татар, параўн. цюрк. *ахсах* і пад. формы са значэннем адмоўнай характарыстыкі чалавека, або вытворнае ад *хацець*, параўн. *chcutlivy* 'ахвочы' (Арх. Федар.).

**Ахці,** *ахці мне* выкл., абазначае журбу, здзіўленне (Нас.), *áхця мне* 'гора мне' (дзісн., Рам.), *áхці мненюшкі* (Карскі, 2—3, 85), ст.-бел. (з XV ст.) *ахци* 'на жаль' (Карскі, там жа), рус. *áхти, áхте* 'ах', *ахтú* 'ах, вельмі', *áхти мне* 'ах'. Складанае слова' выкл. *ах+ці, ця* энклітычная форма асабовага займенніка 2-й асобы адз. л. у дав. або він. склоне, параўн. Карскі, 2—3, 98, 192; Фасмер, 1, 97; Шанскі, 1, А, 180.

**Ахэ′лік** 'кухталь' (Яўс.). Фанетыка сведчыць пра запазычанне; магчымыя крыніцы ў аргатычных словах, параўн. ням. арг. *Cheilek* 'пай з крадзенага, грошы', ідыш *chajlik* 'доля, пай' з ст.-яўр. *cheluka* 'пай', сляды пераасэнсавання ў выразе *даць у хэйлік* 'даць у каршэнь' (слаўг., Яшкін, вусн. паведамл.).

**Ац,** *атс* 'выгук, якім паварочвалі валоў направа' (КСТ), польск. *ać, at, ot, otsie, odś,* славац. *hot,* чэш. *hot,* в.-луж. *hót,* н.-луж. *hot.* Згодна з народнай этымалогіяй, з *ад сябе (от себе),* польск. *od siebie* 'направа', як *ксо (к собе)* 'налева' (КСТ), параўн. таксама ўкр. *цобе* 'направа', *цоб* 'налева', якія, згодна з Патабнёй, Из записок, 2 (1888), 79, з *д' себе* 'ад сябе, управа', *к соб* 'к сабе, улева', *acsabé* 'направа' (Пятк.).

**Ацемянжа′ць** 'рабіць заклапочаным, гнясці (разумова)', *ацемянжацца* 'рабіцца заклапочаным' (Нас.). Ад *цемянжыць* 'прыгнятаць' з польск. *ciemiężyć.*

**Аце′п** 'выклічнік для адгону сабакі' (Нас.). Меркаванні Насовіча пра сувязь з рус. *цепь* 'ланцуг' (пагроза ланцугом: «А на цепь!») здаюцца малаверагоднымі. Магчыма, звязана з укр. *аціба* 'выгук для адгону сабак', якое Краўчук (ВЯ, 1968, 4, 124) суадносіць з рум. *tibă* 'тс' і іншымі адгоннымі выгукамі тыпу *а псік,* што дазваляе раздзяліць слова на *а* і *ціба* насуперак Рудніцкаму, 1, 43, *(а!-ці!-ба!);* параўн. таксама балг. *тúба,* макед. *чиба* 'тс', далейшая гісторыя якіх застаецца няяснай. Менш верагодна ад **цéпаць* 'біць', параўн. польск. *ciepać,* рус. *тепú.*

**Аце′слівы** (БРС, Касп., КЭС, лаг., Сцяшк., Янк. Мат.; Бір. дыс.), *ацеслíўка* 'тоўстая, гультаяватая жанчына' (Янк., Мат.). З *а-цест-лівы* да *цеста* (гл.), параўн. *цеслівы* 'трохі недапечаны' (Нас.), *цеслявы* 'тс' (Нас., Сб.).

**Аце′ц** 'бацька, татка' (Бяльк., Шн., Хрэст. дыял., Яшкін, Бел. мова, 145), 'бацька; зварот дзяцей да бацькі' (Ян.), *оцец (ociéc)* (Маш.), *ацецкі*: «людзі чэсныя, сыны ацецкія» (з песні, Рам. 8, 163), ст.-бел. *отецъ* (часам «отец рожоный» 'родны бацька' ў адрозненне ад «отца духовного», параўн. Булахаў, З жыцця, 6), укр. *отець,* рус. *отец,* польск. *ojciec,* славац., чэш. *otec,* в.-луж. *wótc, wócec,* н.-луж. *wóść,* славен. *oče,* серб.-харв. *ȍтац,* р. скл. *ȍца,* макед. *отец* (уст.), балг. *оте́ц* (уст.), ст.-слав. *отьць.* Прасл. *otьcь* з *otьkъ,* вытворнага ад *otъ* 'бацька', якое ўзнаўляецца на падставе ст.-рус., ц.-слав. *отьнь* 'бацькаў, бацькоўскі' і рускіх дыялектных форм, параўн. *отька, атёк, áтка* 'бацька' (гл. Шарапава,

УЗ МОПИ, 193, 323 і наст.); грэч. *ἄττα* 'бацька', лац. *atta,* гоц. *atta,* алб. *at*, ірл. *aite* 'апякун, выхавацель', хец. *attaš* 'бацька' і інш. Паходзіць з дзіцячай мовы, як і іншыя тэрміны роднасці, параўн. *маці.* Гл. Фасмер, 3, 170; Трубачоў, История терм., 25 і наст. Сучаснай беларускай літаратурнай мове слова невядома, аднак сустракаецца ў народных песнях; у дыялектнай мове — русізм або царкоўнаславянізм, параўн. Яшкін, Бел. мова, 145. Гл. *айцец.*

**А'ці** выклічнік, абазначае ўдзячнасць (Нас., КСТ), 'добры дзень, дзякую' (Гарэц.), ***акьці, аціньці, ацічку*** памянш. ад *аці*, дзіцячае слова 'дзякую' (Касп., Гарэц., Бяльк., КСП), ***ацкі, аценькі*** 'дзіцячае слова, дзіцячы паклон; удзячнасць' (Нас.), ***аця*** 'ўдзячнасць' (Нас.), ***аціць,*** 1 ас. адз. л. *ачу* 'дзякаваць, вітаць' (Гарэц.), дзіцячае 'кланяцца; дзякаваць' (Нас.), ***ацю*** 'дзякую', ***пааціць*** (Карскі, Белорусы, 144), рус. ***аття*** 'дзякую', ***атить*** 'маліцца' (рус. гаворкі на тэрыторыі Літвы), польск. *aciu* 'дзякую' (у дзіцячай мове) з т. зв. «пальшчызны крэсовай» і ўсходніх раёнаў Польшчы, *aczować* 'віншаваць, калядаваць' з XVII ст. (Брукнер, 2), літ. *ãčiū, ačiúoti* 'дзякую, дзякаваць'. Этымалогія няясная. Няма падстаў адносіць беларускае слова да паланізмаў, гэтаму пярэчыць геаграфія слова на польскай тэрыторыі; Зданцэвіч (LP, 8, 1960, 335) лічыць літуанізмам у польскіх гаворках на беларускай аснове; Буга (Rinkt., 3, 306), выказвае сумненні адносна паходжання слова. З беларускай мовы выводзяць слова Фрэнкель, 1, і складальнікі акадэмічнага слоўніка літоўскай мовы (LKŽ 1, 1). Урбуціс (Baltistica, V (1), 1969, 48 і наст.), адзначаючы больш шырокае ў параўнанні з іншымі мовамі ўжыванне слова ў літоўскай мове, у прыватнасці — у мове дарослых (на думку Брукнера, 2, пазнейшае), для беларускага слова дапускае магчымасць запазычання з літоўскай мовы, чаму, аднак, пярэчыць геаграфія слова на рускай тэрыторыі (перм., Даль). Апошняе Фасмер (1, 96) звязвае з комі *at't'i* 'дзякуй' (загадная форма ад *at'ni* 'дзякаваць'), дапускаючы магчымасць запазычання рускага слова, аднак гэтаму пярэчыць шырокая ўжывальнасць слова на беларускай тэрыторыі. Усё сведчыць пра тое, што гэта спецыфічнае ўтварэнне дзіцячай мовы, паходжанне якога, як і іншых т. зв. дзіцячых слоў, застаецца няясным.

**Аціля'кавацца** 'надта марудзіць, абыякава адносіцца да справы' (Янк. Мат.), ***ацялякаваць, ацялякавацца*** 'марудзіць' (КСП), ***аціягавацца*** 'марудзіць, нядбайна адносіцца да працы' (КЭС, лаг.), ***ацялягвацца*** 'рабіць нешта павольна' (мядз.,

Цыхун, вусн. паведамл.), *аціляка* 'марудная, павольная ў справе асоба' (міёр., Крыўко, вусн. паведамл.). Магчыма, запазычанне з літоўскай мовы, параўн. *atsilìkti, atsiliẽkti* 'адстаць, адставаць', зваротны прыставачны дзеяслоў ад *lìkti, liẽka* 'аставацца, астацца', крыніцай запазычання магла быць форма 3-й ас. адз. л. *atsiliẽka* (адносна апошняй формы гл. Атрэмбскі, Gramatyka, 209), параўн. *аціляка,* з пазнейшым расшырэннем адыменнай дзеяслоўнай асновы суфіксам *-ва-,* параўн. *прастарэка* 'балбатун' — *прастарэкаваць* 'гаварыць лухту, балбатаць', варыянтнасць у корані слова тлумачыцца фанетычна: *а* замест *і* ў выніку прыпадабнення складоў, *г* замест *к* як вынік азванчэння ў інтэрвакальным становішчы, параўн. дыял. *стагáн* 'шклянка' і інш. У карысць такой версіі сведчаць і лінгвагеаграфічныя даныя, аднак яны не пярэчаць і іншай версіі: *ацялякавацца* ад *целекаваты,* у сваю чаргу ўтворанага ад вядомага з гаворак на беларуска-літоўскім паграніччы і паўночна-ўсходніх польскіх гаворак *цяляк* (*cielak*) 'цяля; дурнаваты, няразвіты хлопец', раней таксама 'пастух цялят; гультай, разява'. Больш праблематычнай здаецца сувязь з полац. *цюлёгаць* 'квэцаць, рабіць абы-як' (Садоўскі, вусн. паведамл.), польск. *ciulać* 'марудна і абы-як рабіць'.

**Аціна́ць** 'абрубваць' (Нас.). Да *цяць, тну* (гл.).

**Аці́ра** 'мякіна' (Рам.), 'буйнейшыя адходы пры ачыстцы збожжа' (Мат. Гродз.), 'дробнае пацёртае сена' (Юрч.), *аціры* 'дробная саломка, якая застаецца пасля абмалоту збажыны' (парыц., Янк. Мат., Янк. II, БРС), рус. смал. *атиря* 'мякіна', параўн. польск. *ocierki* 'часцінкі пры аціранні', славац. *oteriny,* чэш. *otěřiny* 'пацяруха', *otěrky* 'збожжа з абабітага снапа'. Ад *ціраць, церці,* якое магло мець значэнне 'аббіваць, малаціць', параўн. *аціраць* 'малаціць проса' (Юрч.), чэш. *otírati* 'аббіваць', *otěrek* 'ababіты, абмалочаны сноп', гл. Фасмер, 1, 358; Махэк$_2$, 659. Параўн. *вотрыны.*

**Аціра́цца** (экспр.) 'хадзіць без справы, гультайнічаць' (КТС), рус. разм. *отираться.* Ад *аціраць, церці,* параўн. *аціраць бакі* 'марнатравіць час' (Юрч. Фраз., I), *церціся* 'губляцца, прападаць, хадзіць без справы па суседзях' (Шат.), *церці час* 'дарэмна губляць час' (Шат.); апошняе адпавядае рус. *терять время* і, магчыма, тлумачыць паходжанне рус. *терять* 'губляць' ад *церці (тереть),* сувязь якіх устанаўлівае Фасмер, 4, 50.

**Аці́ца** 'падзёнка' (Цых.). Гл. *яціца.*

**Ацмакта́ць** 'абсмактаць' (Нас.). Ад *цмактаць* 'ссаць, смактаць'.

**Ацмыга́ць** 'аббегаць' (Нас.). Ад *цмыгаць* 'бегаць, шнырыць', параўн. *цмыг!* выкл. 'шмык!', *цмы́га* 'хітраваты, пранырлівы чалавек' (Нас., КСП).

**Ацо́ўкнуць** 'пачаць кіснуць, быць нясвежым (пра малако)' (Сцяц.), *ацоўкнуць, сцоўкнуць* (слонім., Арх. Бяльк.), *ацоўклае* 'якое пачало кіснуць, але яшчэ не скісла (малако)' (Сцяц., Арх. Бяльк.), *цоўклое* і *цаўклое* (малако) (КСТ). Хутчэй за ўсё рэгіянальны наватвор ад *соўкнуць* 'сунуць, стукнуць, піхнуць' (семантыка, звязаная з 'біць, стукаць, піхаць, сунуцца', тыповая для назваў пракіслага малака, параўн. *осовуватэ* 'абрызглае (пра малако)' (драг., Вешт., дыс., магчыма, ад *совацъ*); да фанетыкі параўн. *цок* 'сок', *цыроп* 'сіроп' (Сцяшк.). Менш верагодна ад *цоўт (цовт)* 'від печыва' (Сцеп., 169); адпаведныя яму словы ў іншых славянскіх мовах могуць мець значэнне 'грудка, камяк', параўн. укр. *цовта* 'груда',чэш. *calta masla* (на сценках посуду); пра іх паходжанне гл. Махэк$_2$, 80; Брукнер, 55, і асабліва Хінцэ, ZfSl, 8, 733; тады *ацоўклае*<*ацоўтлае* 'малако, якое зрабілася камячкамі'.

**Ацу́пак** 'абрубак, палена; маларослы таўсцячок, целяпень' (Грыг.), 'таўсцячок' (Нас.), *ацопак* 'цяльпук' (Ян.), укр. *оцупок, оцупалок* 'абрубак, бервяно, палена', рус. дан. *оцупок* 'абрубак, калода', польск. *ocupek* 'невялікі кавалак дрэва або чаго іншага, тоўсты і плоскі або круглы; чалавек такой формы' (з украінскай). Ад гукапераймальнага *цуп* або *цоп,* што перадаюць рэзкае падзенне або раптоўны ўдар; да семантыкі параўн. *целяпе́нь* 'круглы абрубак; непаваротлівы, няспрытны чалавек' ад гукапераймальнага *цялеп//цялёп,* што адлюстроўвае падзенне, матлянне.

***Ацупе́ць,** *оцупе́ць, оцу́пнуць* 'ахаладаць; змерзнуць, стаць цвёрдым (ад холаду)' (КСТ), *оцуплы* перан. 'мёртвы (пра чалавека)' (там жа), укр. *оцу́пити* 'зацвярдзець'. Да *цупкі* 'цвёрды' або *цупаць, цупнуць* 'схапіць', параўн. *схапіцца* 'застыць' (пра што-небудзь вадкае).

**Ацура́цца** 'адмовіцца, адрачыся' (Бяльк., Ян.), *оцура́цца* 'тс' (КСТ). Ад *цур, цура́цца* (гл.).

**Ацы́ля** 'вокліч для адгону коней' (КЭС, лаг.). З *а* (прыстаўнога) і *цыля* (гл.), варыянт *ксыля.*

**Ацэхава́ць** 'пазначыць, зрабіць метку, знак на чым-небудзь' (КСТ), ст.-бел. *оцеховати* з XVI ст. 'абазначыць' (Веснік БДУ, 1, 1972, 64), параўн. польск. *ocechować.* Ад *цэхаваць* 'значыць', параўн. *цэшка* (гл.).

**Ацю′** 'вокліч для адгону свінні' (КСТ), 'сабакі' (полац., Садоўскі, вусн. паведамл.), укр. *ацю* 'вокліч для адгону свіней', польск. *a ciu* 'тс'. З *a* прыстаўнога (пры дапамозе якога часта ад падзыўных слоў утвараюцца адгонныя) і *цю* 'падзыўное слова для свінні', гл. дзіцячыя *цюця, цюцька* 'сабака', *дзюдзя* 'свіння', параўн. Германовіч, Междометия, 59; Рудніцкі, 1, 43, Машынскі, Kultura I, 133.

**Ацягі** 'мяккія адходы пры апрацоўцы льну' (Інстр. лекс.), *ацягіны* 'жмуты, зробленыя з атрэп'я лёну' (Сцяшк.). Ад *цягаць,* параўн. *атропы* ад *трапаць, смычаны* ад *смыкаць* і іншыя ўтварэнні ад дзеясловаў, характарызуючых апрацоўку льну.

**Ацяро′бкі** 'абрэзкі ад гародніны' (КЭС, лаг., КСП), укр. *отеребини* 'непатрэбныя рэшткі', польск. *otrzebki* 'абрэзкі ад гародніны', серб.-харв. *ȍтребине* 'непатрэбныя рэшткі'. Ад *церабіць* 'абрэзваць, ачышчаць'.

**Ацяʹцца** 'згубіць жаданне есці' (Сцяц.). Да *цяць, тну* з развіццём значэння ад 'рэзаць, біць' да 'рэзка мяняць стан або паводзіны', параўн. *зацяць, уцяць* 'раптоўна змоўкнуць, схаваўшыся і прыслухоўваючыся' (Мядзв.), *зацін* 'прымус', *зацінлівы* 'наравісты' (Гарэц., Сцяц.), *затнуцца* 'занатурыцца' (Сцяц.), *зацяты* 'ўпарты'; магчыма, што на семантыку гэтых слоў аказалі ўплыў даўнія ўяўленні аб умяшанні звышнатуральных сіл (чым і тлумачылася рэзкая змена паводзін ці стану), параўн. безасабовыя формы дзеяслова *зацяло́* (гаварыць) (Арх. Бяльк.), *цяло́* 'схапіла, узяло' (Нас.) і асабліва архаічнае палескае *зацінаць* 'загаворваць хатнюю жывёлу, якая згубілася ў лесе; заткнуўшы нож у дрэва, чараваць', параўн. таксама *засека* 'чараўніцтва з мэтай, каб жывёла, якая адбілася ад статка, стаяла на адным месцы'. Дзеепрыметнік *ацяты* 'абрэзаны' і 'наравісты' адпавядае польск. *ocięty* 'зацяты, упарты, свавольны, шалёны', *ociętny* 'тс' (апошняе Брукнер (374) звязвае з архаічным *ocokaty* 'заўзяты' няяснага паходжання), параўн. таксама ст.-польск. *o(b)cięt(y)* 'той, каму адрэзалі якую-небудзь частку цела, часцей за ўсё галаву' (Крупянка, Formacje, 70); наяўнасць балг. дыял. *о́тет* 'які цяжка згаджаецца', 'непаслухмяны, своеасаблівы', параўн. таксама выраз «ега́ си про́клет и о́тет» (каб ты быў пракляты і ?), дазваляе паставіць пытанне аб праславянскім архаізме *o-tętъ* 'зацяты, наравісты' (ад *o-tęti*). Параўн. таксама *ацяць*.

**Аця′ць** 'узяць' (слуц., Абабурка, Лінгв. дасл., 4), *ацяты* 'агорнуты' (Абабурка, там жа). З *от-яти,* ст.-слав. **отѧти**

'адняць, забраць', *уяць* 'узяць, убавіць' (Нас.) і іншыя прыставачныя ўтварэнні ад прасл. *jęti*. Сюды ж, магчыма, узнікшае шляхам дэкампазіцыі *цяло́* 'схапіла, узяло' ад *цяць* (*от-яти*>*о-тяти*), як *няць* 'схапіць', ст.-рус. *няти* 'ўзяць' (з *vъn-ęti*, *sъn-ęti*, гл. Ваян, RÉS, 22, 11; Слаўскі, 1, 536), параўн. *зацяло* (гаварыць) і *заняло* (мову), *зацяты* і *заўзяты*. Гл. *ацяцца*.

**Ач**₁ 'глядзі, бач' (Нас.), укр. *ач*. Відаць, звязана з каранёвай часткай дзеяслова **ačiti*, што выводзіцца на падставе *бачыць*<*ob-ačiti*; паводле Фрэнкеля, 1, літ. *ač* 'тс' вынік плюралізацыі да *àčte*, што звязана з *бачыць* і *вока* (літ. *akìs*), параўн. узнікшае пад літоўскім уплывам *ачкаваць* 'заглядаць на чужое' (Сцяшк.). Можна разглядаць як алегра-форму да *бач* 'глядзі', параўн. *лянь*, *ля* 'паглядзі', 'пабач, вось' (ад *глянь*, *паглянь*), рус. *ишь*, *вишь*.

**Ач**₂ злучнік 'бо', 'хоць, калі' (ц.-слав. *аще*) (Нас.), 'хіба, хоць, калі' (Гарэц.), *а́чай* (Нас., Гарэц.), *ач-бы* 'хаця б' (Нас.), ст.-бел. *ачь* злучнік 'таму што, паколькі' (фіксацыя з 1347), умоўны (ц.-слав. *аще*) 'калі' (1347), уступальны 'хоць' (1347), 'зрэшты' (1495), *ачь-бы* ўмоўны злучнік (ц.-слав. *аще бы*) 'калі б' (1492) (Нас. Гіст.), *аче* з XVI ст. (Карскі, 1, 386), ст.-укр. *ач, ачь, аче* 'тс', ст.-рус. *аче, ачи* 'калі' (рус. *если*), 'ці', ст.-польск. *acz* 'хоць, калі' (рус. *если*), 'хіба', ст.-чэш. *ač, ače* 'калі' (рус. *если*), 'хоць', в.-луж. *hač* 'калі, чым' (у параўнанні), н.-луж. *ac* 'ці', згодна з Трубачовым, УЗ МОПИ, 1969, 334, 341, сюды ж і балг. дыял. *а че* 'пасля, а затым'. Прасл. *ače* (паводле Трубачова, *a če*) тлумачыць з *a* і *če*, дзе другая частка самастойна выступае толькі ў сучасным балг. *че* злучнік 'што, бо', параўн. таксама *макар че* 'хаця', роднасная лац. *que*, грэч. τε, ст.-інд. *ca* і інш., параўн. Фасмер, 1, 98; Слаўскі, 1, 23; Рудніцкі, 1, 43; першую частку *a* суадносяць з лац. *at* 'але, з другога боку', *ad* 'пры, каля, к' на аснове структурнага падабенства ўсяго спалучэння з лац. *atque, adque* 'з другога боку, звыш таго', Трубачоў (гл. вышэй адзначаную працу), Голуб—Копечны, 59. Для ўсходнеславянскіх моў праблему складае раздзяленне форм і значэнняў розных па паходжанню, якія супалі ў адной форме. Старарускі злучнік *аче (ачи)*, які ўводзіць дадаты сказ умовы, і адпаведныя беларускія і ўкраінскія формы адносяць разам з ц.-слав. *аще*, ст.-слав. **аште**, ст.-серб. *аће*, польск. *jacy* 'толькі' да прасл. *atje* або *akte, atke*, параўн. Саднік—Айцэтмюлер, 1, 21 і 25; Фасмер, 1, 99; Слаўскі, 1, 483; поўны агляд версій гл. Фальк, SOc 27, 1968, 63—65; гл. спецыяльна Шавялоў, Prehistory, 191, які выводзіць указаныя формы і асабліва ст.-

рус. *ашти* з *āt-kᵘi* з наступнай метатэзай *tk>kt,* што дае *tj* перад *i*. Адносна развіцця значэння параўн. Бауэр, Slavia, 26, 1957, 157—179. Булыка (Запазыч., 34) ст.-бел. *ачъ* 'хоць' (пачатак XV ст.) лічыць запазычаннем са ст.-польск. *acz*.

**Ачаво'к,** *очевóк* 'ручка касы' (ДАБМ, камент., 831). Ад *чавіць* 'сціскаць, гнясці', *о-чавок* 'тое, што сціскае (кассё)', або 'тое, што цісне, муляе (руку)', параўн. блізкую тэрытарыяльна назву *мулец* 'тс'. Незвычайны націск на суфіксе, відаць, пад уплывам *лучок, пупок* 'тс'.

**Ачалаве'чыць** 'ажаніць' (Ядус.), *ачалавечыцца* 'ажаніцца, стаць мужам' (Нас.), *очоловічыты* (палес., Цыхун, вусн. паведамл.). Гэта беларускае слова разам з чэш. мар. *očlověčit,* славац. *učlověčit'* з'яўляецца семантычнай інавацыяй, звязанай з арэалам *чалавек* 'муж', цэнтр якога знаходзіцца на беларуска-ўкраінскай тэрыторыі.

**Ачамярэ'ць** (БРС, Бір. дыс., Шат.) 'адурэць' (Шат.), *ачамера* 'дакучлівы чалавек' (Шат.), 'дурань' (Цыхун, вусн. паведамл.), укр. *очемеріти* 'адурэць'. Да *чэмер, чамярыца* 'расліна Veratum album', якой уласцівы атрутныя якасці; пад назвай «горкае зелле» выкарыстоўвалася ў народнай медыцыне. Адносна семантыкі параўн. фразеалагізм «абрыд, як горкае зелле», а таксама *чамярá* (пра малых, надакучлівых дзяцей, КСП).

**Ачамрэ'ць** 'адчуць слабасць, страціць прытомнасць', 'учадзець, адурэць' (КСТ). Гл. *чамрэць* 'слабець', параўн. *ачмурэць*.

**Ача'пацца** 'абвешацца чым-небудзь, многа надзець на сябе (міёр., Крыўко, вусн. паведамл.). Ад *чапаць* 'чапляць'.

**Ачапа'цца** 'ачуняць, паправіцца' (Шат.), укр. чарніг. *очапатися* 'апрытомнець'. Ад *чапаць* 'павольна хадзіць'; да семантыкі параўн. *выхадзіцца* 'акрыяць пасля хваробы, выздаравець', прэфіксацыя, магчыма, пад уплывам *ачуняць*.

***Ачапі'ць,** *очэпіць* 'павесіць, начапіць, надзець' (КСТ). Да *чапіць, чапаць* (гл.).

**Ачапі'ць** 'акружыць' (КТС). Ад *чэп* 'ланцуг', як рус. *оцепить* ад *цепь*.

***Ачарану'ць,** *очэрэнýць* 'абкружыць, абступіць' (КСТ). Ад *чарэн (чэрэн)* 'мноства, вялікая колькасць чаго-небудзь (часцей за ўсё пра грыбы, калі яны растуць радамі або кругамі)', параўн. *ашарэ́ніць*.

**Ачаро′мкі** 'вокладкі' (мазыр., ЭШ рук.). Ад *чарон, чаранок* 'ручка (у тым ліку нажа)', параўн. *чаро́нкі* 'пласцінкі ў сцізорыку ці іншага нажа, зробленыя з дрэва або косці' (Мядзв.); *а* прыстаўное (магчыма, пад уплывам *акладкі, вокладкі*), *мк* на месцы *нк,* як у *пастромкі*<*пастронкі*.

**Ачаро′т** 'чарот' (гом. Кіс., ЭШ, Ян., Федар.), 'зараснік трыснягу' (слаўг., Яшкін), *о́чэрэт* (Бесар.), *очару͡од* 'трыснёг' (Федар.), укр. *очерет*, рус. *очерёт, о́черет*, польск. дыял. *oczeret* (з усходнеславянскіх моў). Да *чарот,* гл. Фасмер, 3, 178. Трубачоў (Рем. терм., 247) і Мяркулава (Очерки, 48) узнаўляюць для праславянскага стану два варыянты слова *čert* і *o(b)čert* (да і.-е. **ker-*, у якім супалі дзве зыходныя асновы са значэннямі 'рэзаць' і 'плясці'). Карскі (1, 160) тлумачыць варыянтнасць *чарот* // *ачарот* як *ладкі* // *аладкі, гарод* // *агарод* і да т. п.

**Ача′хнуць** (БРС, докш., Янк. Мат., КЭС, лаг.), 'змізарнець, пагоршаць' (Сцяшк.). Ад *ча́хнуць* (гл.).

**Ача′цца** 'апынуцца' (мін., Песні сямі вёсак, 461). Звязана чаргаваннем галосных асновы з *ачынацца* 'апынацца', з якім утварае пару па трыванні. Гл. *ачнуцца, ачхнацца.*

***Ачка′ты,** *очка́ты* 'пра чалавека з вялікімі вачыма' (КСТ). Ад *очко́* (*вочко́, гочко́*) 'вока, вочка' (Клім., Шур, вусн. паведамл.), суфіксацыя як у *насаты, губаты* і да т. п.

**Ачко′,** *очко́* 'ляток у калодзе для пчол' (КСТ), 'ячэйка ў сетцы' (КСТ), 'адзінка ўліку ў розных гульнях', 'картачная гульня' (БРС), укр. *очко, вочко,* рус. *очко,* польск. *oczko.* Памяншальная форма ад *око* 'вока', з якім асацыіраваліся дзірачкі ці кропкі на розных прадметах; страта сувязі з 'вока', акрамя пераноснага ўжывання, звязана з фармальным разыходжаннем (змена націску, параўн. сучаснае *во́чка* памяншальнае да *во́ка* ў большасці беларускіх гаворак, гл. *ачкаты* і інш.), параўн. Булахоўскі, Труды ИРЯ 1, 1949, 153.

**Ачку′р** 'вяровачка, якой падвязвалі нагавіцы' (Нас.), *ачкурнік* 'мужык, лапцюжнік' (Нас., Бяльк., Яруш.), укр. *очкур,* рус. *очкур,* польск. *oczkur*. Гл. *учкур.*

***Ачмара,** *очма́ра* (экспр.) 'брудны чалавек' (стол., Цыхун, вусн. паведамл.). Ад *чмарыць* 'вэндзіць, смажыць'.

**Ачмурэ′ць** (БРС, Бяльк., Яўс.), *ашмурэць* (Юрч.), *ачмуры́ць* 'адурачыць' (Касп.), *ачмураць* (БРС). Ад *чмурэць* 'дурэць, чадзець', *чмуры́ць* 'дурыць'. Гл. *чмур.*

**Ачмуці′ць** 'адурманіць, абыйсці хітрасцямі, ашукаць' (Гарэц., Касп.). Да *чмуціць* 'дурыць'. Гл. *чмута.*

**Ачну′цца** (БРС, Яруш., Бяльк.), 'адгукнуцца, адазвацца; паказацца, праявіцца' (Ян.), *ачынуцца* 'апынуцца, з'явіцца дзе-небудзь нечакана' (Нас.), укр. *очнутися* 'апрытомнець, прачнуцца', рус. *очнуться* (і *очкнуться,* гл. КСРНГ), польск. *acknąć się* 'прачнуцца', славац. *ocitnút' sa,* чэш. *oc(i)tnouti se* 'апынуцца, аб'явіцца'. Звязана чаргаваннем галосных з *ачуціцца;* найбольш прымальная этымалогія Махэка, Studie, 41, згодна з якой з прасл. *ot-jьtnǫti se,* што адпавядае літ. *atjùsti, atjuntù* ад *jùsti, juntù* 'адчуць', параўн. Фасмер, 3, 179. Брукнер (374) польскую форму тлумачыць пазнейшай устаўкай *к,* што, відаць, адносіцца і да рус. дыял. *очкнуться, очхнуться,* бел. *ачхнуцца, ачхнуць* 'заехаць куды-небудзь, зайсці' (Яўс.) і інш.

**Ачо′мацца** 'апрытомнець (пасля цяжкай хваробы, ап'янення)'; 'апомніцца, апрытомнець' (КТС, Цыхун, вусн. паведамл.), *ачомкацца* 'тс' (Ян., Казкі пра жывёл, 128). Няясна. Параўн. драг. *рошчовматыся* (Клімчук, вусн. паведамл.) і ўкр. *очуматися* 'тс'; серб.-харв. *ча̏мати* 'жыць, заставацца'.

**Ачуме′ць** (БРС, Шат., Бяльк., КСТ), *очуманéць, ачуміць,* 'ачмуціць' (Юрч. Фраз. 2), рус. *очуметь* 'здурнець, згубіць прытомнасць; разгубіцца'. Няясна. Звязваюць з славен. *čum, čuma* 'дрымота', *čumẹ́ti* 'драмаць; сядзець на кукішках', серб.-харв. *čȕmijati, čȕmijâm* 'звянуць', чэш. *čuměti* 'выступаць, выдавацца' і 'доўга чакаць', што ўзыходзяць да асновы *čum-,* адносна якой выказваецца меркаванне пра яе роднасць з асновай *(s)kum-,* гл. Куркіна, Этимология 1971, 62; пра сербскахарвацкае слова гл. Скок, 1, 341 (да *čuma* 'чума'); чэш. *čuměti* 'глядзець з цікавасцю, глядзець дурнем; нерухома, чакаючы нечага, сядзець' Махэк₂ (108) адносіць да гукаперайманьных утварэнняў. Параўн. таксама балг. *чумéя, чамéя* 'вянуць, сохнуць'.

**Ачуня′ць** (БРС, Гарэц., Касп., Чач., КЭС, лаг., Клім.) 'апамятацца, апрытомнець; акрыяць' (Янк. II), 'апрытомнець, выздаравець' (Сцяшк.), *ачунець, ачуняць* 'ачухацца' (Яруш.), *ачуняць, ачуньваць* і *вычуняць* 'паздаравець, выздаравець' (Шат.), рус. смал. *очунять,* паўд.-рус. *очунеть* 'выздаравець, апрытомнець, ачнуцца', паўн.-рус. *оцюнеть.* Сюды бранск. *ачýнеть, вы́чунеть* 'паздаравець, апрытомнець, ачнуцца', укр. *ви́чуняти.* Звязваюць з рус. *чваниться, чванный,* гл. Патабня, РФВ, 3, 171; сумненні да гэтага выказвае Фасмер, 4, 321, 383 — адмаўляе сувязь з рус. *чунеть* 'прыходзіць у бес-

прытомны стан' па семантычных прычынах; параўн. рус. *очунѣти* 'здурнець', якое звязваюць з *очюнóй* 'дурны', *очунь* 'дрэнна, вельмі', гл. Львоў, ДСИЯ, 10, 1956, 68 і наст.; згодна з іншай версіяй (Львоў, Этимология, 1965, 194 і наст.), рус. *очунь* ад дзеяслова *очути*; паводле Трубачова, Этимология 1971, 83, кароткая форма прыметніка, звязаная з в.-луж. *cuni* 'мяккі, пяшчотны', 'тонкі', славін. *cą̃nï, cënï* 'прыгожы', што дае падставы рэканструяваць прасл. *ot-junъjь* з пазнейшай дэкампазіцыяй *o-tjunъjь*; развіццём значэння ад 'малады' да 'мацнейшы, лепшы' можна вытлумачыць як рус. *очунь, очень* 'вельмі', так і, магчыма, рус. *очунять*, бел. *ачуняць*. Тады *чуняць* 'адчуваць сябе лепей' (Нас.) і вытворныя *вычуняць, атчуняць* 'пазбавіцца цяжкай хваробы' (Нас.), *пачунець* 'акрыяць' (Пан., дыс.) трэба лічыць другаснымі ўтварэннямі.

**Ачу'хацца** 'апомніцца' (Касп.), 'аправіцца пасля цяжкай хваробы' (Бір. Дзярж.), 'апрытомнець' (Шат., КЭС, лаг.), 'абжыцца крыху пасля нягод' (Юрч. Сін.), рус. *очухаться* 'апрытомнець, паправіцца, выздаравець'. Да этымалогіі параўн. *вычухаць* 'перанесці хваробу, недамаганне' (Шат.), рус. *очухать* 'адчуць', *учухать*, якія разам з *чухаць* 'адчуваць, нюхаць' узыходзяць да *čuti* 'чуць', параўн. Фасмер, 4, 388; Слаўскі, 1, 108; Махэк$_2$, 102.

**Ачу'ціць** 'прывесці ў прытомнасць, ажывіць' (КСП, Сцяц., Сцяшк.), *ачýніцца* 'апрытомнець' (Янк. I), укр. *очýтити* 'прывесці ў прытомнасць', рус. тул. *ачю́тытца* 'апрытомнець', польск. *ocucić* 'прывесці ў прытомнасць', ц.-слав. *ощутити* 'адчуць', ст.-слав. **оштоутити** 'пазнаць, адчуць'. Звязана чаргаваннем галосных з *ачнуцца;* прасл. *ot-jutiti (sę)*, шляхам дэкампазіцыі ўспрынятае як *o-tjutiti (sę);* адпавядае літ. *atjaũsti* 'спачуваць' ад *jaũsti*, *jaučiù* 'адчуваць', гл. Махэк, Studie, 41. Няроднаснае да *чуць, чую,* бо ў апошнім *ч-* мае праславянскі характар, а не з *tj-*, гл. Фасмер, 3, 179; Слаўскі, 1, 108. Формы з націскам на канцы развілі значэнне 'апынуцца', параўн. *ачуціцца* 'аказацца, апынуцца', укр. *очутúтися*, рус. *очутúться*.

**Ачуча'ць** 'прыводзіць у стан свядомасці пасля амярцвення' (Нас.), *ачучáцца, ачýчывацца* 'прыходзіць у прытомнасць' (Нас.), рус. смал. *очучáть*, ц.-слав. *ощущать* 'адчуваць' з ст.-слав. **оштоуштати,** польск. *ocucać* 'прыводзіць у прытомнасць'. Гл. *ачуціць*, параўн. Фасмер, 3, 180; Праабражэнскі, 1, 673 і наст.

**Ачхна'цца** 'апынацца', *ачхнаць* 'быць, знаходзіцца', *ачхнанне* 'месца знаходжання', *ачхнуць* 'заехаць куды-не-

будзь, зайсці' (Яўс.). Ітэратыўны дзеяслоў ад *ачнуцца* (гл.) з устаўным *х,* магчыма, пад уплывам блізкіх па значэнню слоў тыпу *ачўхацца,* параўн. *ачынацца* 'апынацца' (Гарэц.), 'трапляць, пападаць' (Юрч.) і *ачынуцца* 'апынуцца, стаць, з'явіцца нечакана'; незваротныя формы пазнейшыя, узніклі як парныя да адпаведных зваротных з канкрэтызацыяй значэння.

**Ачыві'сты** 'відавочны, яўны, навочны' (Нас.), *ачывіста* 'відавочна; асабіста' (Нас.), ст.-бел. *очевистый* 'яўны, ясны, відавочны, сапраўдны' (Хрэст. гіст., 1), *очевисто* 'асабіста, відавочна' з канца XV ст., *очивисто* з сярэдзіны XV ст., *очевисте* 'відавочна, адкрыта, яўна' з канца XVII ст. (Нас. гіст.), *ѡчоувисте* з XV ст. (Карскі, Труды, 313). Запазычана з польск. *oczywisty, oczywiście,* утвораных ад складанага слова **oczywiść* (як рус. *зависть, ненависть, -wiść* ад *widzieć*, гл. Брукнер, 377); слова было вядомае, на думку Брукнера, 614, усходнім і паўднёвым славянам з другой часткай *-věst,* параўн. балг. *очивесен* 'відавочны', чаму пярэчыць бел. дыял. форма *невістны* 'невідомы'. Формы прыслоўяў на *-о(-а)* у выніку асіміляцыі ў беларускай мове.

**Ачы'грыць** 'паздаравець', *ачыгрыцца* 'адхадзіцца, паздаравець' (Яўс.). Няясна; магчыма, звязана з *чыгра* 'наравісты чалавек' (лельч., Шур, вусн. паведамл.) і ўласным імем *Чыгрын, Чыгрынаў.*

**Ачы'так** 'расходнік, Sedum' (мін., Кіс.), *очыток* (Бесар.), укр. *очиток*, рус. *очиток.* Згодна з Мяркулавай, Очерки, 109, укр. і рус. формы з *очисток* (у сувязі з яго лекавымі, ачышчальнымі якасцямі), аднак пры гэтым цяжка вытлумачыць выпадзенне *-с-;* параўн. іншыя назвы расліны *адцытнік, сытнік* (захад Беларусі, гл. Кісялеўскі, Аб нек. асабл., 28), да семантыкі гл. польск. дыял. *odczynić* 'вылечыць', *odczyna* 'нейкая расліна' (Карловіч); геаграфія слова не дазваляе звязаць яго з *чыты* 'цвярозы' (Касп.).

**Ачэ'п**$_1$ (БРС, Шат.), 'бервяно, што кладзецца на апошні вянок зруба', 'бервяно, якое кладзецца над дзвярыма або вокнамі' (Сцяшк.), 'бэлька на хаце' (свісл., дзятл., Весці АН БССР, 1969, 4, 126), *ачэпа* 'тс' (ваўк., В. В.), *учэпа* 'тс' (Шушк.), *ачэп* 'узор вугла з вертыкальнымі зарубкамі' (КЭС, лаг.), параўн. польск. *oczap, ocap, ocepa* 'бервяно над дзвярыма ў хаце; бэлька ўздоўж сцяны, якая злучае (oczepia) слупы апоры'. Ад *ачапіць* 'пакласці зверху, ахапіць', гл. *чапаць;* геаграфія назвы на польскай тэрыторыі (Мазоўша, Люблiншчына) сведчыць аб яе запазычанасці, параўн. ука-

занні на архаічнасць канструкцыі на беларускай тэрыторыі, гл. Бел. нар. жыллё, 44.

**Ачэ'п₂** 'жэрдка' (Арх. ГУ), укр. *очепа* 'крук, бусак, якім прыцягваюць плыт да берага', рус. *очап* 'калодзежны журавель; жэрдка для падвешвання калыскі'. Гл. *очап;* параўн. Фасмер, 3, 177.

***Ачэ'пка**, *очыпка* 'чэпчык' (Шпіл., Моз.), *очыпочка* 'каптур, чэпчык' (стол., Дзіц. фальк., 596), укр. *очіпок* 'галаўны ўбор замужняй жанчыны накшталт чэпчыка', рус. *очёпок, очи́пок* 'від жаночай шапачкі', польск. *oczepek* 'від жаночай шапачкі, ужыванай пры ачэпінах', чэш. *očepek* 'шапачка, дэталь у цэпе'. Утворана ад *ачапіць (очэпіць)* 'надзець, накласці зверху, павесіць', гл. *чапа́ць;* адносіны да польск. і чэш. слоў застаюцца няяснымі; параўн. Фасмер, 3, 178, які выводзіць рус. і ўкр. формы ад *чепец.*

**Ачэ'піны** 'вясельны абрад надзявання чапца на галаву нявесты' (ваўк., пруж., Федар.), укр. *очепини.* Запазычана з польск. *oczepiny* ад *o(b)czepić* 'надзець чапец' (у XVII—XX ст., Крупянка, Formacje, 99) з больш ранняга *czepić,* параўн. чэш. *čepiti* 'надзяваць чапец нявесце', якія лічаць вытворнымі ад *czepiec, czepek,* гл. Брукнер, 74; Слаўскі, 1, 116, аднак наяўнасць бел. *ачапіць* 'надзець наверх, палажыць' і словаўтваральнай мадэлі тыпу *заручыны* (ад *заручыць), агледзіны* (ад *аглядзець*), *запоіны* (ад *запіваць*) дае падставы дапускаць самастойнае аддзеяслоўнае ўтварэнне, параўн. адназоўнікавую форму *ачэпканне* 'тс' (брэсц., Раманюк, «Маладосць» 1975, 3, 158) ад *ачэпка* 'чапец'.

**Ашаву'рак** 'непаваротлівае і нецямкое дзіця' (КЭС, лаг.), 'абармот, непаслухмяны (пра дзяцей)' (нясвіж., Цыхун, вусн. паведамл.). Няясна, магчыма, ад *ша́ваць* 'слаба варушыць, шамацець', параўн. *ашамётак,* з экспрэсіўным нарашчэннем *-ур-* (пераходная ступень *(а)шава* — *(а)шавура* як рус. *кожа* і *кожура*, параўн. таксама прозвішча *Ша(в)ура).* Менш верагодна па фанетычных і семантычных прычынах сувязь з рус. маск. *ошвырок* 'аполак, абрэзак', укр. *о́шварь,* польск. *oszwar* 'тс', параўн. *аполак* 'непатрэбны чалавек', ці польск. гіст. *abszaur* 'таможанны чыноўнік, які калісьці па вёсках шукаў тытуню, прывезенага кантрабандай' (з ням. *Abschauer,* Карл.). Параўн. *ашвурак.*

**Ашака'** 'высеўкі, рэшткі пры прасейванні мукі' (астрав., Цыхун, вусн. паведамл.), *ашакі* 'асцюкі з каласоў' (Сцяшк.). З літ. *ašakà* 'асцюк', параўн. Урбуціс, Baltistica V (1), 1969,

49, дзе брасл. *ашакі* 'ячменнае шалупінне' тлумачыцца ўслед за Вяржбоўскім з літ. *ãšakos* 'шалупінне ад зярнят', параўн. таксама Лекс. балтызмы 52. Гл. *шакіны, шаколіны.*

**Ашаламе́ць** 'адурэць' (Касп.), 'аслупянець, страціць розум ад нечаканасці' (палес., Цыхун, вусн. паведамл.), 'збянтэжыцца, згубіць кірунак і развагу' (КЭС, лаг.), *ошоломонець* 'адурэць' (КСТ), *ашаламýніцца* (Шпіл.), укр. *ошалемоніти* 'ашалець', рус. *ошелометь* 'адурэць, ашалець, страціць прытомнасць'. Ад *шóлам* 'шум', гл. *ашаламіць;* да семантыкі параўн. устойлівыя выразы «шум и шаль в голове» (Шн., 2, 552), «на третье (поле) конь ступая, шум голоўку обнимая» (Шн., I, 334); суфіксальнае нарашчэнне *-ан- (-он-)* мае ўзмацняльны характар.

**Ашалам́іць** 'аглушыць, адурыць, здзівіць' (БРС, Нас., Грыг.), *ашыламіць* (Бяльк.) 'збіць з толку, збянтэжыць' (Сцяшк.), *ашаламуціць* 'адурыць словамі ці ўдарам' (Чач., Шат.), укр. *ошоломити* 'аглушыць, увесці ў зман', рус. *ошеломить* 'аглушыць моцным ударам, здзівіць', польск. *oszołomić* 'адурыць, пазбавіць розуму' (з усходнеславянскіх моў, гл. Брукнер, 170). Насуперак агульнапрынятай этымалогіі, што ўзыходзіць да Даля, згодна з якой рус. *ошеломить* ад *шелом* 'шалом' (Праабражэнскі, 1, 674; Фасмер, 3, 179 і інш.), ад *шолам* 'шум', гл. Супрун, Зб. Аванесаву, 244 і наст., дзе прыводзіцца семантычная, словаўтваральная, акцэнталагічная і гістарычная аргументацыя; параўн. таксама *шаламіць* 'шумець моцна, раздражняць, нерваваць' і выраз «не шаламі галаву» (Янк. Мат.), якому семантычна адпавядаюць балг. *ошумоглавя,* макед. *ошумоглави* 'аглушыць ударам; ашаламіць'.

**Ашалапу́цець** 'страціць (на некаторы час) здольнасць рэагаваць у выніку моцнай стомленасці або ў сувязі з нечаканым здарэннем' (Янк. I), *ашылапець* 'аслупянець, скамянець' (Бяльк.). Да *шолап* выкл. 'шась!', параўн. *шалóпаць* 'разумець, разбірацца', першаснае 'корпацца, шастаць', *шалапут* 'разгублены, узрушаны, няўважлівы чалавек', параўн. драг. *ошолоп* 'асталоп, дурань' (Клім.), укр. *шолопати* 'шастаць, корпацца' (Карпат. диал. оном., 474), *шалопокіти* 'выдаваць глухі гук, шастаць'. Гл. *ашалапуціць.*

**Ашалапу́ціць** 'ашукаць' (Касп.), укр. *ошалопутити* 'адурачыць, падмануць'. Ад *шалапут* (гл.), параўн. *ашалапуцець.*

**Ашале́ць** (БРС, Нас., Грынч., Сцяшк., Бяльк., Яруш., Касп., Шат.), укр., *ошаліти,* рус. *ошалеть,* польск. *oszaleć,* чэш.-мар. *ošalit'.* Гл. *шалець, шаль.*

**Ашальмава́ць** 'абакрасці, ababраць пры дапамозе ашуканства' (Шат.). Да *шальмаваць, шэльма* (гл.).

**Ашамёлак** 'нерухавае дзіця, адзетае ў рыззё не свайго памеру' (КЭС, лаг.). Утворана па прадуктыўнай мадэлі ад дзеяслова з коранем *шам- (шамял-)*, параўн. выкл. *шамялях!, шамяля́хнуць* 'перакуліць, паваліць'. Гл. *ашамётак*.

**Ашамётак** 'нерухавае дзіця, адзетае ў рыззё не свайго памеру' (КЭС, лаг.). Ад *шамятаць* 'выдаваць прыглушаныя гукі; ціха есці; рваць што-небудзь на дробныя кавалачкі і інш.', параўн. рус. *шеметать* 'праводзіць час без справы'.

**Ашамо́так** 'мяккі качан капусты' (Жд.). Ад *шаматаць* 'шалясцець', што ўзыходзіць да гукапераймальнага *шам*! (пра невыразны глухі гук).

**Ашара́шыць** 'здзівіць; ударыць; перан. выпіць' (Яўс.), рус. *ошарашить* 'моцна спалохаць; здзівіць; моцна з размаху ўдарыць'. Ад *шарахаць, шарахнуць* 'біць, цяць', выкл. *шарах*!, сюды, магчыма, і асіп. *шарэш* 'страх, дрыжыкі' (Буз.).

***Ашарэ́ніць,** *ошэрэ́ніць* 'абступіць кругом, акружыць натоўпам' (КСТ). Ад *шарэн, чарэн* 'шэраг, множства (звычайна пра грыбы)'; магчыма, звязваецца ў свядомасці з *шар* 'рад', *шарэнак* 'шарэнга'. Параўн. *ачаранць*.

**Ашахавацца** '?', параўн. з нар. песні «ашахуюцца да рахуюцца: которому святому напярод быць?» (барыс., Шн., 1, 138). Хутчэй за ўсё скажонае *шыкавацца* 'станавіцца ў парадак па чынах', параўн. «яны шикуюцца, да рахуюцца: которому святу напередъ пойци» (Нас., Бел. песни, 82).

**Ашашке́рыцца** 'стаяць (сядзець) у стане нерухомасці, абыякавасці і безжыццёвасці, нагадваючы хворую на гняздзе курыцу' (карэліц., Янк. II). Хутчэй за ўсё звязана з *шашэрыцца* 'натапырвацца', *шушэрыцца* 'настаўляць поўсць, пер'е; насцярожвацца' (КСП), да апошняга параўн. рус. *ошушурить* 'ашчацініцца, ускалмаціцца, надуцца'; маючы на ўвазе тлумачэнне слова, можна дапускаць сувязь (другасную) з *шашок, шашко* 'тхор', параўн. сведчанне Пяткевіча аб тым, што тхор ачмурае курэй такім паганым духам, што ўсе куры, пачадзеўшы, падаюць да долу (Пятк., 2, 74).

**Ашва́к** 'вушак, шула ў сцяне', *ашванык* (палес., Лучыц-Федарэц., Бел.-укр. ізал., 44), *ошвак* 'шула ў сцяне' (Тарнацкі, Studia), 'бакавы слуп, да якога прымацоўваецца рама акна' (Шушк.). Няясна; магчыма, *з айшак (ойшак)* 'вушак' (гл.), зближанае з *шыць,* параўн. ст.-бел. *ошва* 'абшыўка,

аблямоўка' (Нас. гіст., 1494); гл. таксама палес. *ошва (ošφa)* 'брус, які ляжыць на бэльках столі пад крокваміʼ (Тарнацкі, Studia), што нагадвае літ. *ašvà* 'кабыла', параўн. шматлікія другасныя значэнні слав. *kobyla* (тэхнічныя прыстасаванні, будаўнічыя дэталі і інш.): Слаўскі, 2, 305—306, а таксама Яшкін, Рэгіян. асабл., 84—85.

**Ашва'ліна** 'кусок сала' (навагр., Балто-слав. сб., 385). Няясна. Грынавецкене і інш. (там жа) зблiжаюць з літ. *švalái* '?', параўн. чэш.-мар. *svalina* 'вялікі кусок', якое разам з валаш. *švalek* 'камяк, галушка' Махэк$_2$, (630) лічыць утвораным ад *valiti,* што мае шэраг экспрэсіўных значэнняў, у тым ліку 'рэзаць', параўн. «адваліць лусту». Магчыма, збліжана з *шва́ля* 'брус, калода' (ням. *Schwelle* 'брус, парог').

***Ашву'рак,** *ошву́рок* 'кароткая яровачка' (КСТ). Відаць, ад *шворка* 'абрывак вяроўкі' з пераходам *о>у* пад націскам у выніку лабіялізацыі; не выключана таксама магчымасць з **о-швырок* (ад *швырацьʼ* 'кідаць', параўн. рус. *ошвырок* 'асколак, кусок палена') і тыповым для гэтай зоны пераходам *ы>у* пасля зубных пад націскам (*кобула, ву* 'вы' і інш.).

***Ашкабу'рак,** *ошкабу́рок* 'абносак, зношаны абутак' (КСТ). Звязана з *шкабуртина* 'шматок, кусок чаго-небудзь' (палес., Лысенка СПГ), *шкабурацінка* 'скарынка хлеба' (лельч., Вешт. дыс.). Гл. *шкабурацінка.*

**Ашкалёпак** 'асколак' (Касп.). Гл. *аскалёпак,* параўн. варыянты з *ск/шк*: *скура/шкура, скабы/шкабы, скурат/шкурат, скрабаць/шкрабаць* і інш.

**Ашкарупе'ць** 'пакрыцца скарынкай, шкурай' (Янк. III), *ошкору́пiць* 'абадраць кару' (столін., Цыхун, вусн. паведамл.). Гл. *шкарупець* 'засыхаць, пакрывацца шкарлупінай', *шкарупа* 'кара'.

**Ашкі'ль,** *ашкіля* 'вокліч для адгону авечак' (гродз., Цыхун, вусн. паведамл.), 'вокліч для адгону жарабят і авечак' (бераст., Супрун, Лекс. балтызмы, 44). Аналагічна да *ашкір* з *а* і *шкіля* — у залежнасці ад інтанацыі падзыўное ці адгоннае слова для авечак.

**Ашкі'р** 'вокліч пры адгоне авечак' (Нас., Гарэц., Янк. I, рагач., Арх. ГУ), *а шкір!* 'адгон авечак (клічуць *шкіра-шкіра!*) (быx. Рам. 8, 55), *ашкіра* (Касп.,), *ашкыра* (докш., Янк. Мат., КЭС, лаг.), «ачкірэ ў поле» 'вокліч, якім гоняць авечак' (Чач.), рус. смал. *ашкырь.* Найбольш верагодна з *а* (узмацняльная часціца) і *шкіра, шкыра* 'авечка', 'падзыўное слова для авечак' (у залежнасці ад інтанацыі можа ўжывац-

ца і як адгоннае), аналагічна да *аюсь, юсь* і пад.; Карскі (2—3, 86) лічыць слова гукапераймальным; Супрун (Лекс. балтызмы, 44—45) прыводзіць літоўскія формы, распаўсюджаныя на прылягаючай тэрыторыі' *aškìr, aškìre* і інш. і спрабуе звязаць іх з літ. *atskírti* 'адлучаць', лат. *atškirt* 'тс'. Спецыяльна гл. Машынскі, Kultura I, 134.

**Ашкротак** 'адломак, чарапок' (Бяльк.), 'старая, непрыгодная рэч' (жлобін., Цыхун, вусн. паведамл.). Гл. *аскротак.*

**Ашла́н,** мн. *ашланы́* 'бервяно, якое кладзецца ў апошнім вянку зруба' (Сцяшк.). Няясна. Магчыма, звязана з *ашлап.*

**Ашлап** 'верхняе бервяно ў зрубе, якое кладуць на бэлькі' (карэліц., Весці АН БССР, 1969, 4, 126), *ошлап* (стол., Шушк.), *ошлапа* 'бервяно, якое кладзецца пад вокнамі (КСТ), *ашлапны* 'ахопліваючы, верхні' (Касп.). Наяўнасць навагр. *атла́б* 'выемка ў ніжнім бервяне для шчыльнага прылягання з верхнім' (Сцяшк.) робіць магчымым супастаўленне з літ. *ùžlapas* 'закрыты' (параўн. Арашонкава і інш., Весці АН БССР, 1969, 4, 126), якое ўтварае пару з *ãtlapas* 'адкрыты,' аднак цэлае гняздо слоў з больш шырокім значэннем, гл. *ашлапіць,* прымушае прыняць славянскае паходжанне ці, ва ўсякім разе, лічыць цалкам магчымым такое паходжанне слова або поўную фармальную і семантычную яго адаптацыю, параўн. укр. палес. *нашлапа* 'тс' (Лысенка СПГ), рус. смал. *шлапник* 'папярочная бэлька, на якой трымаецца столь'. Цікавую паралель дае *ахлуп* і *ачэп* 'тс' (гл.).

**Ашла́піць** 'абхапіцца нагамі і рукамі' (КЭС, лаг.), 'абняць' (Яўс.), 'расстаўляць ногі пры яздзе па дарозе над невялікімі лужынамі (пра каня)' (Шат.), *абшлапіць* (Куч.), *ошлапіць* 'абцягнуць, абціснуць, абкласці шчыльна (пра адзенне)' і 'палажыць бэльку над вокнамі' (КСТ). Ад *шлапаць, шлапнуць* 'наступіць наверх; прыціснуць, ахапіўшы з бакоў', да семантыкі параўн. польск. *okroczyć* 'абхапіць, акружыць', *okrakiem* 'з расстаўленымі нагамі' (ад *krok*).

**Ашла́пка** 'ахапак' (барыс., Шн.), *ашлапкі* 'абхопліванне рукамі і нагамі' (КЭС, лаг.) і *ашлапы* 'абдымкі (калі лезуць на дрэва)' (КСП), 'абдымкі' (Яўс.). Ад *ашлапіць* (гл.) як *ахапка* ад *ахапіць.*

**Ашлёпак** 'стаптаны абутак' (Бяльк.), рус. *ошлёпок.* Ад *шлёпаць,* як *астопак* ад *стаптаць.*

**Ашля́хнуць** 'супакоіцца, прызвычаіцца?' (Брыль, Вітрыжы, Мн., 1972, 194). Няясна, параўн. гродз. *шляхнуць* 'прапасці, змарнець'.

**Ашля′хціць** 'пабіць, правучыць' (Касп.). Відаць, утворана ад дзеяслова тыпу рус. *шляхтить, шляхтовать* 'ацёсваць шляхтай (цяслярскай сякерай)' (з н.-ням. *slichten* 'стругаць', гл. Фасмер, 4, 457), польск. *szlachtować* 'біць, рэзаць жывёлу на мяса; забіваць' ці непасрэдна з ням. *schlachten*.

***Ашмалак**, *ошмáлок* 'абгарэлы кусок ці канец, край чагонебудзь' (Клім.). Ад *шмалыты* 'абпальваць, смаліць' (там жа) як *асмалак* ад *смаліць*.

**Ашмётак** 'стаптаны лапаць; бясформенны кавалак гразі' (Бяльк.), рус. бранск. *асьмётак* (Растаргуеў, Бранск.). Хутчэй за ўсё ад *шмётка, ашмётка* 'анучка, якой змятаюць са стала' (ад *сметать*, этымалогія Насовіча), параўн. *ашмоцце*.

**Ашмо′цце** 'ашмёткі, рыззё' (БРС, КСП). Гл. *шмоцце* 'лахманы', *шмотка* 'брудная ануча'.

**Ашмурава′ць** 'сваволіць; дурэць; прыкідвацца кім-небудзь' (Юрч.). Да *ашмурэць* (гл.).

**Ашмурэ′ць** 'ачумець, здурнець; рабіць недазволенае, дазваляць сабе ўчынкі дурнога' (Гарэц., Бяльк., Юрч.). Да *ачмурэць* (гл.), фанетыка адлюстроўвае спарадычны пераход *чм* у *шм*, параўн. *чмель//шмель*, ці ўплыў аргат. *шмурак* 'дурак'.

**Ашо′мак** 'мяккі качан капусты' стаўб. (Жд.), 'непрабітны чалавек' (капыл., Цыхун, вусн. паведамл.), *ошýмок* 'аб'едак, агрызак' (КСТ). Ад *шамаць* 'шалясцець', 'ціха есці' як *ашамотак* (гл.) ад *шаматаць; о(ў)* на месцы *а* пад націскам у выніку аналогіі да слоў з заканамерным чаргаваннем *о/а*, параўн. *астопак* і *стаптаць, охопак* і *ахапак* ад *хапіць, хапáць;* відаць, выпадковае падабенства да крым.-тат. *ašamak* 'есці'.

**Ашо′рстак** 'жэрдка ў гумне, прымацаваная паміж сохамі на ўзроўні сцен; ашорстак быў раней таксама ў хатах' (лях., Янк. Мат.), 'жэрдка ў хаце, на якую вешалі адзенне' (Сержп., ЭШ рук.). Ад *шост* з устаўным *р*, параўн. *шóрстак* (Касп.), *шóстак* 'тс' (П. С.), відаць, пад уплывам *шорсткі* і пад.; *а* прыстаўное, як у *ахлеў (хлеў), афіранка* і пад.

**Ашо′сцік** 'пярэдняя пляцоўка перад вусцем печы' (Касп.), рус. пск. *ашосток* (Тр. прибалт. диал. конф. 1968 г., Тарту, 1970, 182). З *а-шосцік* 'месца, якое знаходзіцца каля шастка (стаяка на прыпечку, які падтрымлівае казырок печы)'.

**Ашпа′рыць** 'апарыць, абварыць парай ці варам' (Яруш..

Касп., Шат., Бяльк.), укр. *ошпарити,* рус. *ошпарить.* Да *шпарыць* 'абварваць'.

**Ашпэ'ціць,** *ашпэ́чываць* 'зганіць, збрыдзіць' (Нас.), *ошпэтаты* 'пераўзыйсці, абставіць' (Клім.), ст.-бел. *ошпетити* 'зганіць' з 1690 г. (Нас. гіст.), укр. *ошпетити.* Запазычана з польск. *oszpecić* 'зрабіць брыдкім, зганіць; забрудзіць' ці самастойна ўтворана ад *шпэціць* 'ганіць, псаваць, брыдзіць'.

**Аштыга'ць** 'біць, муштраваць' (Сцяц.). Ад *штых* 'вастрыё, завостраная палка', параўн. *выштыхаць* 'пабіць' (КСТ), з азванчэннем *х* у інтэрвакальным становішчы.

**Ашты'рыцца** 'апынуцца' (Шат.). Ад *штырыць* 'штурхнуць' (Шат.), семантычна як *апынуцца,* параўн. *пыняць* 'паганяць', *шпыняць* 'падганяць, штурхаць уперад'.

**Ашу'га** 'галавакружэнне, павышаны ціск' (гродз., Цыхун, вусн. паведамл.). Хутчэй за ўсё ад *шугаць* 'гойдаць, калыхаць', што адлюстроўвае стан хворага чалавека; не звязана з балг. *шу́га,* серб.-харв. *шӳга* 'кароста' (з тур. *šuga,* гл. Младэнаў, 695).

**Ашугну'ць** 'абступіць, абкружыць, агарнуць' (КЭС, лаг.). Ад *шугаць, шугнуць* 'паляцець з шумам', сюды ж, магчыма, *шунуць* 'наляцець, наскочыць' (Жд.).

***Ашу'драны,** *ошу́драны* 'многа, але дрэнна апрануты' (лельч., Цыхун, вусн. паведамл.), укр. жытом, *ошу́драні* 'выліналы' (пра птушак) (Ніканчук, Бел.-укр. ізал., 61). Відаць, звязана з *шудравы* 'не гладкі, шурпаты'.

**Ашука'ць** 'абмануць, абдурыць' (Нас., Яруш., Грыг., Шпіл., Бесар., Нік., Очерки, Касп., Шат, КЭС, лаг.), 'пакрыўдзіць у якой-небудзь справе; незаўважальна для іншага карыстацца яго сродкамі' (Мядзв.), *ашока́ць* 'ашукаць, узяць верх над кім-небудзь' (Ян.), *абшукаць* 'абшукаць вакол; абмануць' (Шат.), *ашукацца* 'памыліцца' (Грыг., Яруш., КЭС, лаг.), *ашуканец* 'махляр, манюка' (Яруш., КЭС, лаг.), ст.-бел. *ошукати, ошуковати* 'абмануць' (1599 г., Нас. гіст.), укр. *ошукати,* польск. *oszukać* 'свядома ўвесці ў зман каго-небудзь для ўласнай карысці' (у такім значэнні з XIV ст., Крупянка, Formacje, 130). Ад *шукаць* (гл.), з першапачатковай семантыкай як у *ашустаць* 'абмануць, абхітрыць', пры *шустаць* 'дзейнічаць хутка і з шумам; шастаць; напіраць', інакш Мікуцкі, ИОРЯС, 4, 1855, 411: з гіпатэтычнага *ошудкаць,* якое звязвае з славац. *šudit'* 'абманваць' (прасл. *šuditi,* Махэк$_2$, 607), параўн. Фасмер, 3, 180; Кюнэ, Poln., 82; Гіст. мовы, 2, 69 (з польск., дзе калька з ням. *versuchen); ашука* 'падман;

памылка' (Нас., Касп.) — другаснае ўтварэнне ад *ашукаць*, параўн. таксама *абшукацца* 'агледзецца, уладкавацца, упарадкавацца' (Ян.).

**Ашу'рак,** *ашўркі* 'старыя, нягодныя рэчы' (Бяльк.), рус. смал. *ошурки* 'рвань, анучы', *ошурок* 'засохлы кусок хлеба'. Ад *шура́ць* 'кідаць, шпурляць'.

**Ашу'стаць** 'ababраць' (Жд.), 'абмануць, абхітрыць' (Шат.), *абшустаць* (маладз., Янк. Мат.), рус. *ошустать*, польск. *oszustać* 'ашукаць'. Ад *шустаць* 'дзейнічаць хутка і з шумам; шастаць', значэнне неабавязкова пад уплывам семантыкі польскага слова (згодна з Брукнерам, 385, позняй, узнікшай на базе вядомага ў XVII ст. *szustać* 'мяняць, абменьваць'), параўн. *абшастаць, абшалёхаць* і іншыя экспрэсіўныя ўтварэнні з шырокай семантыкай (у тым ліку 'ababраць'), *шуснуць* 'абсунуцца, упасці ўніз' і 'хутка, не разглядаючы, памяняцца на рэчы' (Бяльк.). Параўн. Фасмер, 3, 180 (звязвае ўслед за Міклашычам з *шутить*). Гл. *ошуст*.

***Ашу'шак,** *ошўшокъ* 'кусок хлеба' (Серб.), *ошушэк* (зах.-палес., Вешт., 393). Ад *асушак* (шляхам прыпадабнення *с* да *ш*), гл. Лекс. Палесся, 121; да фанетыкі і семантыкі параўн. балг. *шўшка* 'крышка, малая колькасць чаго-небудзь'; згодна з Младэнавым, 696, з *сўшка* (ад *сух* 'сухі').

**Ашу'шкацца** 'надзець на сябе многа адзежын' (Нас., Чач., КЭС, лаг.), *ошушкацца* (КСТ), *абшушкацца* 'цёпла адзецца' (КСП), *ушушкацца* (Бір. Дзярж.), *нашушкацца* (таўбц., жыт., петрык., брагін., Цыхун, вусн. паведамл.). Ад *шушкацца* 'цёпла апранацца, укрывацца', што звязана з *шушкацца* 'капацца, шастаць; паволі і ціха што-небудзь рабіць', да семантыкі параўн. *копша* 'занадта цёпла адзеты чалавек; той, хто капаецца, павольна працуе', параўн. варыянты з *х* і *ст* у корані: *нашухацца* 'адзецца цёпла і многа' (КСТ) і *нашуштацца (нашустацца)* ад *шухацца, шустацца* (па тэрміналогіі Махэка — «*ch-*» і «*st*-intensivum», параўн. чэш. *ošoust, ošusta* 'абарванец' і славац. *ošuchaný* 'абарваны', гл. Махэк₂, 619, 629), што можна разглядаць як вынік кантамінацыі.

**Ашу'шкаць** 'абмануць, абхітрыць' (Шат.). Ад *шушкаць* 'шастаць, корпацца' пад уплывам *ашустаць* (гл.); цікавая паралель балг. *ошушкам* 'ababраць да ніткі; з'есці ўсё да крошкі' (ад *шушка* 'крышка').

**Ашчабо'лак** 'асколак палена' (Шат.). Ад *шчабло* 'трэска, лучына', што ўзыходзіць да праслав. *ščebati* 'шчапаць, ад-

шчыпваць', роднаснага *skobiti* (параўн. Варбот, Этимология, 1971, 3—4), параўн. *аскаболак.*

**Ашчаве́ць**$_1$ 'звянуць, аслабнуць' (Байк. і Некр.). Няясна, магчыма, да *ашчавець*$_2$, параўн. прастамоўнае *скіснуць* 'страціць настрой, здацца' або да *шчавы* 'пусты', параўн. рус. *щавый* 'пусты; пульхны' (з *тъщавъ* ад *тъщъ,* параўн. *тощий* 'пусты, слабы', гл. Фасмер, 4, 495).

***Ашчавець**$_2$, *ошчавіты* 'пракіснуць' (Клім.). Ад *шчавы* 'пракіслы', параўн. *шчавэ молоко* 'пракіслае малако' (Вешт. 390).

**Ашчаджа́ць** 'эканоміць, адкладаць у запас' (КЭС, лаг.), *ашчадны* 'беражлівы' (БРС, Гарэц.), *ашчэдны* (Касп., КЭС, лаг.), укр. *ощажати, ощадний,* польск. *oszczędzać, oszczędny, oszczędać,* чэш. дыял. *oščadat' se* 'скупіцца'. Да прасл. *ščediti,* параўн. *шчадзіць* 'берагчы', *шчадны* 'беражлівы, эканомны'; цэнтральнаславянскі арэал сведчыць, магчыма, пра інавацыю з цэнтрам хутчэй за ўсё на польскай тэрыторыі.

**Ашчалача́ць** 'пусціць ваду з сябе (пра кісель, кашу)' (КСП). Ад *шчолак* 'вадкае ў страве'.

**Ашчало́пак** 'выбоіна, няроўнасць' (Касп.). Да прасл. *ščьlpъ* (рэканструкцыя Махэка$_2$, 105) ці *ščьlbъ* (рэканструкцыя Трубачова, Проспект, 85) параўн. укр. *шчовб, щолопок* 'вяршыня гары', чэш. *člupek* 'вяршыня гары; бугарок; ямка, у якую сцякае вада'.

**Ашчапе́нец** 'вельмі скупы чалавек' (Шат.). Ад *ашчапіць* (гл.).

**Ашчапі́ць** 'абхапіць рукамі' (Янк. I, КСП), *абшчапіць* (Янк. I, жыт.; Арх. ГУ), *ашчапіцца* 'абхапіцца абедзвюма рукамі' (КЭС, лаг.), *абшчапіцца* 'абняцца' (Бяльк.). Да *шчапіць, шчапляць* 'злучаць, звязваць'.

**Ашчапе́рыцца** 'ашчэрыцца' (Бяльк.), *ошчэперыцца* (Куч.). Узыходзіць да праслав. *ščep-,* параўн. *шчапаць* 'калоць, раздзяляць на дзве палавіны', з экспрэсіўным нарашчэннем *-ер-,* гл. *ашчаперыць*$_1$; да семантыкі параўн. серб.-харв. *raščepati* 'раскрыць, разявіць рот' з *raz-čepati* адпаведна да *раз-шчапіць.*

**Ашчапе́рыць**$_1$ (БРС, Янк. I), *ошчоперыць* 'абхапіць рукой, каб сышліся пальцы' (КСТ), *абшчаперыць* 'моцна абхапіць за шыю абедзвюма рукамі' (Ян.). Да *(š)čeper-,* параўн. *шчыпер* 'расткі цыбулі' і пад.

**Ашчапе́рыць**$_2$ (экспр.) 'стукнуць' («нечым напаследак па карку ашчаперыла», А. Дзятлаў, ЛіМ, 1971 г.). Відаць, ад *перыць* 'біць' пад уплывам *ашчаперыць*$_1$ ці непасрэдна ад яго, параўн. рус. *хватить* 'стукнуць'.

**Ашчапяну́цца** *(ашчыпянуцца)* 'схамянуцца, апамятацца' (Бяльк.). Ад *шчапянуцца (шчыпянуцца, шчупянуцца)* 'спахапіцца, прыпомніць'. Гл. *шчапянуцца.*

**Ашчарэ́піць** (БРС, Шат., Янк. Мат., Бір. Дзярж.), *абшчарэпіць* 'моцна абхапіць за шыю абедзвюма рукамі', *ашчарэпам* 'ухапіўшыся абедзвюма рукамі' (КЭС, лаг.). Ад *ашчаперыць* (гл.) з метатэзай у канцы слова *(рэпі — перы).*

**Ашчу́рыцца** 'пралупіць вочы' (Гіст. мовы, 2, 59). Ад *шчурыцца* 'прыжмурваць вочы'.

**Ашчыкіта́ць** 'абарваць, абшчыпаць' (Федар.), 'абглыдаць, абкляваць (пра птушку)' (Мал.), *ошчокотаць* (КСТ), таксама *абшыкітаць* (Федар.), рус. *ощекотать* («птицы ощекотали все ягоды»), *ошакта́ть* («куры весь веничик ошактали», пск.). Ад *шчыка́ць* 'рваць, шчыпаць, скубці (пра расліны)' з экспрэсіўным нарашчэннем *-іт- (-от-),* параўн. *шчыкітушка* 'пра птушку, якая зрывае, шчыплючы' (гл. Турская ў Федар., 7, 252), *шчыкіта́* '?' (рыфмуецца з *Мікіта* ў нар. песні), адносна фанетыкі параўн. *скрыгітаць* і *скрыгат.*

**Ашчы́ў** 'агарод, дзе расце гародніна' (Кап.). Па этымалогіі складальніка рукапіснага слоўніка скарочана з *авашчыў (овощивъ),* параўн. ст.-бел. *овощовый огородъ* (1556 г., гл. Весці АН БССР, 1975, 3, 116) і маг. *вашчэвінь* 'агарод ці сад перад хатай' (з *авашчэвень,* Крывіцкі, вусн. паведамл.), што сведчыць пра ўжыванне ў народнай мове старaславянізма **овощь.** Гл. сучаснае *вашчэўе* 'гародніна' (Касп.).

**Ашчэ́** 'яшчэ' (Кліх, Шат., Сцяшк., Жд., Тэксты, 144), рус. дыял. *ощо,* пск. *още,* балг. *о́ще,* макед. *уште.* Тэарэтычна можа ўзыходзіць да прасл. *ošče,* параўн. ст.-рус. *още* (побач з *ešče*, *ješče*, *jьŝče*, *išče*, гл. Слаўскі, 1, 368 з літар.), аднак ужо Карскі (1, 304; 2—3, 66) дапускаў пазнейшае паходжанне беларускага слова з *ješče* са стратай пачатковага *j,* параўн. вядомае ў гэтым арэале адпадзенне *j, в* і *г* у пачатку слова: *акрас* 'якраз', *ачай* (<*ячай*) 'адтуліна ў верхнім камені жорнаў', *авёрка* 'вавёрка', *ашчына* 'вашчына', *алстук* 'гальштук' (Сцяц. Нар.), *аром* 'ярмо' (слуц., Рэгіян. асабл., 54), рус. пск. *ащерица* 'яшчарка' і пад. Гл. *яшчэ.*

***Ашчэ́па,** *о(ш)чэпа* 'бервяно, якое ляжыць на бэльках столі пад крокваміʼ (Тарнацкі, Studia), *ошчэп* (Куч.), укр. *ощіп, ощепина* 'кожнае з чатырох бярвенняў, пакладзеных

зверху на сцены і звязаных у вуглах'; на «ощепинах» трымаецца столь і страха, палес. *ощепи* 'змацаваныя ў форме чатырохвугольніка драўляныя бэлькі, якія кладуцца на шулы' (Лысенка СПГ). Да *ашчапіць, шчапіць* 'звязаць, злучыць', параўн. *шчэпы* 'моцная чатырохвугольная рамка, якая сцягвае пры дапамозе клінкоў691 ствалы дрэў «прысад», дзе будзе стаяць на адры вулей' (Сержп.).

**Ашчэ'пак** 'асколак' (КТС), рус. *ощепок* 'рэшткі палена для лучыны', харв. *ošterak* 'стружка', славен. *ščéрәk* 'асколак'. Да прасл. *ščеръ*, параўн. *шчапаць* 'калоць, расшчапляць'.

**Ашчэ'рыць** 'выскаліць зубы' (Касп., Бяльк.), *ашчэрыцца* (Яруш., Гарэц.), *ашчырáцца* 'шчэрыць зубы; злавацца (пра чалавека)' (Нас.), рус. дыял. *ощерить(ся)* 'моцна зазлавацца', польск. *oszczerzyć się* 'вышчарыцца', ст.-польск. *oszczerzać się* 'насміхацца'; сюды ж, нягледзячы на цяжкасці пры тлумачэнні пачатку слова, Фасмер (4, 504) услед за Міклашычам, 299, адносіць балг. *оцéря* (зъби), *оцáрвам*. Да прасл. *ščeriti*, параўн. без змякчэння *оскéрваца* 'нашатырвацца (пра сабаку)' (Куч.), гл. *шчэрыць* 'выстаўляць, вышчараць'.

**Ашыба'ць₁** 'уводзіць у зман, прымушаць памыліцца' (Нас.), *ашыб* 'удар ненарокам' (Нас.), *ашыбнуцца* 'памыліцца' (Юрч.), рус. *ошибаться* 'памыляцца', славац. *ošibat' (někoho)* 'увесці ў зман, падмануць (каго-небудзь)'. Ад *шыбаць* (прасл. *šibati*) 'кідаць, піхаць', першапачаткова 'не пацэліць, збіць з мэты', гл. Брукнер, KZ, 43, 326; Праабражэнскі, 1, 674; Махэк₂, 607; Фасмер, 3, 179 (выказвае сумненні адносна магчымай сувязі з польск. *chyba* 'памылка', чэш. *chyba*, параўн. польск. дыял. *ochyba*).

***Ашыбаць₂**, *ошыбáць, ошыбнýць* 'ахапіць, акрапіць?' параўн. «А ўпадзі маценцы на белыя ножкі // Ошыбнуць цебе дробныя слёзкі» (з вясельнай песні, запісанай Федароўскім на ўсход ад Пружан), укр. *ошибати*: «страх ошибае» 'робіцца страшна', славац. *ošinulo ho* 'яго хапіў удар, разбіў параліч' (з *ošibnulo*, гл. Махэк₂, 607). Да *шыбаць* (прасл. *šibati*) 'біць, піхаць'.

**Ашы'йна** 'не вельмі, неабавязкова' (Шат.). Няясна; параўн. блізкае па семантыцы чэш. *ošivati se* 'адмахвацца', ц.-слав. *ошити сѧ* 'abstinere, адказвацца' (якія Махэк₂, 607, узводзіць да праслав. *šibati*) і серб.-харв. *ошиjати* 'перавярнуць, завярнуць'.

**Ая'** выклічнік, у іран. значэнні 'баюся я цябе' (Крывіцкі, вусн. паведамл.), параўн. укр. *ая* 'так', адносна якога Краўчук, ВЯ, 1968, 4, 120, 124: з *а як жа*.

# Б

**Ба**$_1$ выклічнік, які выказвае здзіўленне (Бяльк.). Рус. *ба,* укр. *ба,* балг. *ба,* серб.-харв. *ба* 'тс'. Першасны выклічнік, вядомы і ў іншых мовах (параўн. ням. *ba,* франц. *bah,* тур. *ba*). Гл. Бернекер, 36; Праабражэнскі, 1, 10; Фасмер, 1, 99; БЕР, 1, 22. Параўн. *ба*$_2$. Памылкова Макарушка, Словар, 4 (запазычанне з тур. мовы).

**Ба**$_2$ злучнік, гл. КЭС. Магчыма, захаваўся ў бел. са значэннем 'каб, калі б' (Нас.: «Ба, калі б гэта спраўдзілася»). Укр. *ба,* польск. *ba,* чэш. *ba,* славац. *ba* 'нават'. Слав. *ba*, роднаснае літ. *bà,* лат. *ba,* ст.-грэч. φή, ст.-іран. *bā,* гоц. *ba.* Іншая аблаутная форма гэтага злучніка — слав. *bo* 'таму што' (гл.). Бернекер, 36; Траўтман, 22 і наст.; Фасмер, 1, 99; Махэк$_2$, 39; Слаўскі, 1, 24; параўн. таксама Развадоўскі, RO, 1, 102. Да праформы *(*bo : *bō)* і ўжывання злучніка гл. Шавялоў, Prehistory, 117. Брукнер (9) дапускае магчымасць ідэнтычнасці паходжання *ba*$_1$ і *ba*$_2$.

**-ба** суфікс, вядомы ва ўсіх слав. мовах. Праслав. *-ьba* (суфікс, які ўтвараў nomina actionis ад дзеясловаў на *-iti-*, *-ěti)*: параўн. бел. *варажба, ганьба, служба, хадзьба* і г. д. Гл. Мейе, Études, II, 271—275; Остэн-Закен, IF, 26, 307—324; Вондрак, Vergl. Gr., I, 604—605; Атрэмбскі, LP, 3, 170—173. Пытанне аб паходжанні *-ьba* (іменны ці дзеяслоўны суфікс) спрэчнае. Пра *-ба* ў бел. мове падрабязна гл. Вярхоў, Бел. лінгв. зб., 164—173.

**Баб-**. Аснова, ад якой, магчыма, утвораны назвы розных круглых і тоўстых прадметаў (гл. *баба* і *бабка)*. Паходжанне асновы дакладна невядомае. Шмат якія даследчыкі лічаць, што *bab-* тая ж аснова, што і ў *baba* 'жанчына', і ўжываецца метафарычна ('жанчына'→'круглы прадмет'). Параўн. асабліва Шулан, SSlav., 5, 153—165. Іншыя думаюць, што для абазначэння круглых прадметаў служыла асобая прасл. аснова *bab-* (‖*bob-*‖*bǫb-*). Гэту ідэю выказвае Попавіч, ЈФ, 19, 159—171 (параўн. яшчэ Мяркулава, Очерки, 36—37).

**Ба'ба**$_1$ 'старая жанчына; бабка, бабуля; павітуха; жанчына наогул'. Рус., укр. *ба́ба,* польск. *baba,* чэш. *baba, bába,* балг. *ба́ба*, серб.-харв. *ба̏ба* і г. д. Прасл. *baba*. Параўн. літ. *bóba* 'старая', лат. *bãba,* с.-в.-ням. *bābe, bōbe* 'старая', *buobe* 'хлопчык', італ. *babbo* 'бацька' і г. д. Мабыць, усе гэтыя словы па паходжанню з дзіцячай мовы. Гл. Праабражэнскі, 1, 10; Бернекер, 36; Траўтман, 23; Фасмер, 1, 99; Фрэнкель, 52; Махэк$_2$, 39—40; БЕР, 1, 22—23. Параўн. таксама Мейе, Études, II, 247. Некалькі інакш Бадуэн дэ Куртэнэ, Szkice, I, 435 і наст. Да фаналогіі падобных тэрмінаў дзіцячай мовы гл. Якабсон, Writings, I, 538—544. Неверагодна Траймер, які лічыць *baba* словам каўказскага паходжання (аб гэтым гл. Фасмер, ZfslPh, 26, 60).

Відаць, прасл. *baba* 'бабуля' замяніла больш старое (з і.-е. сувязямі) прасл. *ova* 'тс' (параўн. в.-луж. *wowka*). Гл. Шустэр-Шэўц, Сл. фил. Отгов., I, 67; ZfSl, 6, 574.

Амаль усе лічаць, што ад *baba, babъka* метафарай утвораныя назвы розных прадметаў (гл. Шулан, SSlav., 5, 153—165; падрабязней гл. ніжэй пры паасобных словах). Але гэта не бясспрэчна (так Попавіч, ЈФ, 19, 159—171, рэканструюе самастойную аснову *bab-*||*bob-*||*bǫb-*).

**Ба'ба**$_2$ 'прылада, цурбан для забівання свай у зямлю' (Нас., Касп., Бяльк., Гарэц., Інстр. I). Відавочна, старая метафара *баба*$_1$ (гл.): назвы для цяжкіх і тоўстых прадметаў часта ўтвараюцца ад гэтага слова. Падрабязна гл. Шулан, SSlav., 5, 153—165. Параўн. і рус. *ба́ба,* укр. *ба́ба,* польск. *baba* 'калода, цурбан для забівання свай'. Гл. яшчэ Брукнер, 9; Шанскі, 1, Б, 4.

**Ба'ба**$_3$ 'саха, развіліна калодзежнага жураўля' (Тарн., ДАБМ, 808, Сцяшк. МГ, Сцяшк., Сцяц.). Відавочна, старая метафара да *баба*$_1$ (гл.). Аб матывацыі называння гл. Шулан, SSlav., 5, 153—165. Рус. *ба́ба* 'тс'.

**Ба'ба**$_4$ 'назва ежы' (Бесар.), 'бабка, яда, прыгатаваная з дранай бульбы' (Бяльк.). Рус. *ба́ба* 'від куліча', укр. *ба́ба* 'від печыва', польск. *baba,* чэш. *bába*. Слова не вельмі яснага паходжання. Відаць, ва ўсх.-слав. мовах гэта паланізм (гл. Шанскі, 1, Б, 4). У зах.-слав. мовах яго паходжанне таксама няяснае. Некаторыя лічаць, што гэта метафара да *баба*$_1$ (Брукнер, 9), параўн. Шулан, SSlav., 5, 153—165. Па версіі Махэка$_2$, 40, слав. слова запазычана з ням. *Babe, Bäbe* (з гэтым пагаджаецца Шанскі, 1, Б, 4), але Крэчмер, Wortgeogr., 353, Пауль, Wörterb., 65 і іншыя (гл. Махэк$_2$, 40) выводзяць ням. слова з слав. моў. З іншага боку, Попавіч (ЈФ, 19, 159—

171, гл. асабліва стар. 168) хоча бачыць тут аснову *bab-* (гл. *баб-*), не звязаную з *baba* 'жанчына'.

**Ба́ба**$_5$ 'нарыхтаваная гліна, шчыльна збітая ў горку прамавугольнай формы' (Вярэн.). Параўн. і ўкр. *ба́ба* 'вялікі шарападобны камяк ганчарнай гліны'. Мусіць, метафара да *ба́ба*$_1$ (гл.). Аб матывацыі гл. Шулан, SSlav., 153—165.

**Ба́ба**$_6$ 'гатунак грушы; бэра' (Сцяц.). Параўн. укр. *ба́ба*, польск. *baby* 'гатунак грушы'. Як і многія падобныя назвы, ад *баба*$_1$ (гл.) па знешняму падабенству грушы да тоўстай жанчыны. Але параўн. і магчымасць паходжання ад прасл. асновы *bab-* (гл. пад *ба́ба*$_1$).

**Ба́ба**$_7$ 'расліна адуванчык Taraxacum officinale' (палес., КЭС). Параўн. таксама яе іншыя назвы ва ўкр. мове: *бабакуль, кульбаба, бабка, бабки* (Макавецкі, Sł. botan., 366), серб.-харв. *баба марта* (Сіманавіч, 461). Аб матывацыі назвы можна толькі здагадвацца. Хутчэй за ўсё меліся на ўвазе лячэбныя ўласцівасці расліны (у сувязі з «бабамі-знахаркамі»; падрабязней гл. *ба́бка* 'трыпутнік'). Не выключаецца, што назва адлюстроўвае шарападобны выгляд расліны пасля цвіцення. Ва ўсякім выпадку сувязь з *ба́ба* 'жанчына, баба' бясспрэчная. Параўн. і ням. назвы для Taraxacum off.: *Alte Weiberteu, Großmutter Nachtfunzla* (Марцэль, Pflanzennam., 5 (2), 178, 5 (4), 611). Гл. Краўчук, БЛ, 1974, 6; 65.

**Ба́ба**$_8$ 'дрыгва, багністае месца на балоце' (палес., КЭС). Цёмнае слова. Можна толькі выказаць некалькі думак. Магчыма, ад *ба́ба* 'старая жанчына'. Параўн. укр. дыял. *ба́бка* (або *ста́рка*) 'плеўка на малацэ'. Гэта значыць, *баба* першапачаткова азначала такое месца на балоце, якое было прыкрыта «плеўкай» (травой і г. д.), але было вельмі небяспечнае. Другая магчымасць: можа ёсць сувязь з укр. дыял. *ба́бло* 'балота, дрыгва' (форма *ба́бло* магла ўспрымацца як павелічальная, і з яе ўзнікла *баба),* гл. Краўчук, БЛ, 1974 (6), 66. Іначай Талстой, Геогр., 186, які зыходзіць са значэння 'бугарок' і параўноўвае *баба* 'дрыгва' з укр. *ба́ба* 'гурба снегу'.

**Ба́ба**$_9$ 'птушка-баба, няясыць' (Нас., Бяльк.). Параўн. рус., укр. *ба́ба* 'пелікан' (у іншых славян таксама сустракаецца ў назвах птушак, напр., польск. *baba* 'сойка'). Ад *ба́ба*$_1$ 'жанчына, бабуля' (па знешняму выгляду птушкі, якая вельмі падобная на старую бабку, гл. Флінт, Птицы, табл. 12).

**Ба́ба**$_{10}$ *(каменная баба;* археалагічны помнік). Рус. *ба́ба,*

укр. *баба,* польск. *baba* і г. д. 'тс'. Мабыць, да *баба*₁ (па знешняму падабенству). Брукнер, 9; Фасмер, 1, 99—100. Параўн. таксама Шанскі, 1, Б, 4—5. Іншыя думаюць (гл. Фрыдрых, Зб. Буазаку, I, 383), што гэта запазычанне з цюркскіх моў (цюрк. *baba* 'статуя'<*baba* 'бацька').

**Баба′** 'нятоўстая і невялікая калода, на якую кладуць бервяно на санях; прылада для забівання паляў' (Шат.), 'саха ў студні з жураўлём' (ДАБМ, 808). Наўрад ці ёсць сувязь з укр. дыял. (бесараб.) *баба́* 'слуп' (<рум. *babá* 'бітэнг; слуп, паля' <тур.). Хутчэй за ўсё націск на апошнім складзе развіўся пад уплывам марфалагічных фактараў (магчыма, на аснове формы мн. ліку тыпу *бабы́*) і, магчыма, для семантычнай дыферэнцыяцыі. Параўн. у тым жа раёне *ба́ба, ба́бы* 'тс' (ДАБМ, 808).

**Ба′ба-рыба** 'падкаменшчык' (Інстр. II). Так і ў іншых мовах: рус. *ба́ба* 'Cottus gabio', укр. *ба́ба, бабе́ць,* польск. *baba* і г. д. Шмат якія галавастыя рыбы маюць назву ад асновы *баб-*: або звязаную з *ба́ба*₁ (гл.), або ж іншага паходжання (Безлай, Posk. zv., 8, лічыць, што *bab-* у назвах рыб вельмі старажытная аснова, якая выпадкова супала з *baba* 'жанчына').

**Бабаду′р** 'куралеснік, які спакушае жанчын сваімі размовамі' (Нас.). Укр. *бабоду́р* 'залётнік, лавелас'. Складанае слова: першая частка да *баба* 'жанчына', другая *дуры́ць* або *дурэ́ць*. Цікава, што семантычна ідэнтычнае ўтварэнне ёсць і ў ням. мове: *Weibernarr* 'лавелас' (<*Weib* 'жанчына', *Narr* 'дурань').

**Бабайкі′** 'вёслы' (калінк., Цыхун, вусн. паведамл.). Рус. дыял. *баба́йка,* укр. *баба́йка.* Этымалогія слова няясная; параўноўваюць з рус. *баба́шка* 'паплавок на вудачцы' (ад *баба* 'дошка'); так Праабражэнскі, 1, 10; Фасмер, 1, 100; Рудніцкі, 46. Здаецца, аднак, што гэта дняструоўска-дунайска-чарнаморскі тэрмін, які ўзнік у румынска-ўкраінскім асяроддзі, а адтуль (у якасці рачнога тэрміна) быў запазычаны ў рус. і бел. мовы (меркаванні аб гэтым—Краўчук, ВЯ, 1968, № 4, 124).

**Ба′бак** 'ахапак ільну, вынесенага з сушні за адзін раз для апрацоўкі' (Мат. АС, Шкл.), *ба́бык, аба́бак* 'малая ўкладка снапоў на полі' (ДАБМ, 877). Мабыць, таго ж паходжання, што і *аба́бак* (гл.) 'мэндлік'. Але гэта не зусім яснае ўтварэнне. Хутчэй за ўсё назва *аба́бак* 'мэндлік' была перанесена на 'ахапак ільну' (а *аба́бак* 'мэндлік', мабыць, аддзеяслоўнае

ўтварэнне: *ababіцца* 'стаць падобным да бабы', параўн. *баба* ў значэнні 'круглыя, вялікія прадметы'; да марфалогіі параўн. Мяркулава, Очерки, 176—177).

**Бабак,** *бабака* 'дурань, безгаловы' (Інстр. лекс.). Напэўна, метафарычнае ўжыванне слова *бабак* 'байбак, бабак'. Параўн. рус. *байба́к* 'байбак, непаваротлівы, лянівы і дурны чалавек'.

**Баба́хаць,** *баба́х!* Утварэнні, вядомыя ў многіх слав. мовах. Параўн. рус. *баба́х, баба́хать,* укр. *баба́х, баба́хати,* польск. *babach.* Гукапераймальнае ўтварэнне з рэдуплікацыяй (параўн. *бах!*, *бахаць*). Гл. Шанскі, 1, Б, 5.

**Бабачка** 'матыль' (Інстр. II). Рус. *ба́бочка,* укр. (бойк.) *ба́бочка* 'тс'. Памяншальная форма ад *ба́бка* (гл.), якая абазначала і розных насякомых. У аснове называння ляжыць уяўленне, што душа памершага (продка, бабулі) працягвае сваё існаванне ў выглядзе матыля. Як семантычную паралель параўн. рус. дыял. *ду́шичка* 'матыль' (ад *душа́*), новагрэч. *ψυχάρι* 'матыль' (<*ψυχή* 'душа'), лац. *animula, animulus* 'начны матыль' (<*anima* 'душа'). Патабня, К истории, 4, 78; РФВ, 7, 69; Праабражэнскі, 1, 10; Фасмер, 1, 100. Але Махэк (Studie, 118 і наст.) лічыць, што справа ідзе аб уяўленні пра «бабу-чарадзейку» (з гэтым згаджаецца Важны, O jménech, 86, гл. таксама Лапацін, Этимология, 1963, 288, дзе прыводзяцца новыя семантычныя аргументы). Не пераконвае Ёль, Elem., 99 (слав. *baba* 'матыль' — гэта народнаэтымалагічнае пераўтварэнне першапачатковай элементарнай «вобразнай» асновы тыпу *pepe-,* якая маецца ў розных мовах; крытыку гл. Важны, O jménech, 86).

**Бабек польны** 'расліна Oenothera biennis L., асліннік двухгадовы' (Кіс.). Паходжанне назвы няяснае. Магчыма, запазычанне. Але не выключаецца сувязь з *баб-* 'круглы прадмет' (гл.): кветкі цэлы дзень закрытыя і нагадваюць бутоны (параўн. Махэк, Jména rostl., 150).

**Ба́бець** 'маршчыніцца, карабаціцца (пра грушы, бульбу)' (Сцяц.), *ба́біцца* 'старыцца, маршчыніцца (пра твар)' (Гарэц.). Вытворнае ад *ба́ба*₁ (гл.). Параўн. таксама *бабчыцца* (<*бабка*). Параўн. укр. *бабіти* 'зморшчвацца', чэш. *babčeti* 'зморшчвацца (пра яблыкі)'. Попавіч (ЈФ, 19, 168) бачыць тут утварэнне ад прасл. *bab-* ( *bob-*||*bǫb-;* гл. пад *баб-).*

**Бабёла** 'пуп, частка жывата ў абсягу пупа' (Некр.). Паколькі ненаціскное *a* можа адлюстроўваць розныя гукі, то можна думаць пра сувязь з праслав. *bab-*, *bob-, bǫb-* — асно-

вы для абазначэння розных прадметаў, у прыватнасці круглых (аб гэтай аснове гл. Попавіч, ЈФ, 19, 169—171). Аднак найбольш верагодным здаецца паходжанне ад *bǫb-* (параўн. Бернекер, 78—79), што азначае 'штосьці круглае, надутае'. Тады бел. слова да праформы *bǫb-elъ, bǫb-elь* (параўн. *bǫbъl'ь,* Бернекер, 78; польск. формы *bąbel, bąbol,* Слаўскі, 1, 29). Аснова *bǫb-* вельмі разгалінаваная (гл. Бернекер, 78—79; Фрэнкель, 33) і вядома амаль ва ўсіх і.-е. мовах. Да семантыкі параўн. *пуп* (слав. *pǫpъ,* глухі варыянт да *bǫb-,* таксама ў розных значэннях). Параўн. літ. *bámba* 'пуп', *bam̃balas* 'таўстун', нарв. *bembel* 'пуп' (Фрэнкель, там жа).

Суфіксальная відазмена *bǫbelъ* >бел. *бабёла* як у *жывёла* (параўн. ст.-польск. *żywioł,* ст.-чэш. *živel, živěl* 'animal').

**Бабёр** 'бабёр, бабровае футра', *бабрáк* 'бабёр' (Шат.). Рус. *бобр, бобёр,* укр. *бобéр, бiбр,* польск. *bóbr,* чэш. *bobr,* балг. *бóбър, бъбър, бéбер,* ст.-серб. *bobr* і г. д. Прасл. *bobrъ, bebrъ, bьbrъ* 'бабёр'. Роднаснае літ. *bebrùs, bẽbras, bãbras,* лат. *bębrs,* ст.-прус. *bebrus,* ст.-в.-ням. *bibar,* лац. *fiber,* ст.-іран. *bawra-* 'тс'. і г. д. І.-е. **bhe-bhru-* 'карычневы' (рэдуплікаваная форма), параўн. ст.-інд. *babhrúṣ* 'карычневы'. Гл. Бернекер, 47; Траўтман, 28—29; Фасмер, 1, 180—181; Слаўскі, 1, 40; Фрэнкель, 38; БЕР, 1, 60; Махэк$_2$, 59 і інш.

**Бабзды́р** 'бабнік' (Нас., Бяльк.). Сувязь з *бáба* 'жанчына' бясспрэчная, але ўтварэнне не вельмі зразумелае. Параўн. *бабзнó* 'баязлівец', 'натоўп жанчын' і ўкр. *бабздéля* 'старая, смярдзючая баба'. Аснова *бабзд-,* да якой далучыўся суф. *-ыр,* магла ўтварыцца гаплалогіяй.

**Бабзно́** 'баязлівец', 'натоўп жанчын' (Нас.). Мабыць, з **бабздно* (параўн. *бабзды́р)* да пейаратыўнай асновы *бабзд-* 'баба', якая ёсць і ва ўкр. мове (*бабздéля* 'старая, смярдзючая баба').

**Бабі́зна$_1$** 'спадчына ад бабулі' (Нас., Гарэц., Др.-Падб.). Укр. *бабúзна,* польск. *babizna* 'тс'. Утварэнне ад *бáба$_1$* (гл.) суфіксам *-izna* (параўн. *otьčizna*), які выступаў з абстрактным значэннем, што часта канкрэтызавалася (і тады націск пераходзіў на першы склад суфікса *-izna*). Утварэнне *babizna$_1$,* як бачым, ёсць толькі ў некаторых слав. мовах.

**Бабі́зна$_2$** 'вялікі баязлівец', 'высакарослая жанчына' (Нас.). Суф. *-izna* утвараў абстрактныя і калектыўныя назоўнікі, што часта канкрэтызаваліся, а ў некаторых мовах атрымлівалі і пейаратыўнае значэнне (параўн. і ст.-польск. *męż-czyzna* — калектыўны назоўнік, які пазней стаў азначаць

адну асобу; Брукнер, 327). Бел. слову дакладна адпавядаюць: чэш. *babizna* 'агідная, брыдкая, злосная баба, старая жанчына', славац. *babizňa, babizeň* 'старая або агідная жанчына, баба'. Аб пейаратыўнай функцыі *-izna* гл. Оберпфальцэр, Rod, 157.

**Ба́бік₁** 'вабік для курапатак' (Маш.). Вытворнае ад дзеяслова *ба́біць* 'вабіць' (гл.).

**Ба́бік₂** 'шпакоўня' (Сцяшк. МГ). Па паходжанню, мабыць, ідэнтычнае *ба́бік₁* (гл.):* 'домік для прываблівання птушак'. Аднак не выключаецца і сувязь з дзеясловам *ба́біць* 'цешыць, няньчыць, цацкацца'.

**Ба́бін мур** 'расліна Lycopodium annotinum L., Lycopodium clavatum L., дзераза гадавая, дзераза звычайная' (Кіс.), *бабій мур* (Нас.). Запазычанне з польск. *babimór* 'Lycopodium clav. L.' і г. д. (іншая яго назва *morzybaba*). Махэк (Jména rostl., 247) лічыць, што польская назва расліны адлюстроўвае лячэбныя і магічныя яе ўласцівасці (магчыма, звязаныя з лячэннем жаночых хвароб).

**Бабін сон** 'расліна Crocus Heuffelianus Herb., шафран Гейфеля' (Бейл.). Іншыя назвы: *сон, соннік.* Бясспрэчна, гэта назва не першапачатковая, а перанесеная з іншай расліны. *Сон,* акрамя 'Crocus', азначае 'Pulsatilla pratensis' (таксама *сон-трава, сончык,* гл. Кіс.). Параўн. укр. *сон, сончик* 'Pulsatilla', рус. *сон, сон-дрема* 'Pulsatilla' (таксама *сончик, самсончики*). Параўн. яшчэ назвы для Anemone: *сасо́нік* (Шат.), *сон-трава* (Бяльк.), укр. *сон* (Макавецкі, Sł. botan.). Як відаць, назвы тыпу *сон* ужываюцца для абазначэння аж трох раслін (Anemone, Crocus, Pulsatilla). Для Anemone параўн. яшчэ польск. *sasanki, sesenki, sasenki, sesanki,* чэш. *sasanka,* балг. дыял. *сасан(к)а, съсън, сънкотка, сън-сън-котка,* для Pulsatilla — серб.-харв. *саса*, чэш.-мар. *sis*, *sisi*, *sesi*, *sosi* (гл. Махэк, Jména rostl., 47).

Паводле народнага павер'я, жывёлы і людзі, палізаўшы корань Pulsatilla, засынаюць (гл. Нейштадт, Определитель, 257). Магчыма, адсюль і назва. Але можна думаць і пра іншую матывацыю. Расліны роду Anemone ў час дажджу і ноччу закрываюць кветкі, якія звешваюцца ўніз (нібы спяць). Але не выключаецца, што ўсе гэтыя здагадкі не маюць сэнсу. Можна таксама думаць, што мы тут маем нейкую старажытную назву невядомага паходжання, толькі адаптаваную, трансфармаваную з ад'ідэацыяй да ўсх.-слав. слова *сон* (параўн. прыведзеныя: бел. *сончык, сасонік,* рус. *сончик, самсон-*

*чики,* чэш. *sasanka, sisi, sesi, sosi,* польск. *sesenki, sasenki* і г. д., серб.-харв. *са́са*, балг. *сасан(к)а*, *съсън*, *съсънка* і г. д.). Гл. Краўчук, БЛ, 1974, 6, 66—67.

**Бабін цвет** 'расліна Plantago major L., трыпутнік вялікі' (Кіс.). Паколькі іншыя назвы расліны *бабка* (гл.) звязваюцца з прасл. абазначэннем жанчыны — *baba, babъka (ба́бка* 'лекі баб-знахарак'), то і гэты выраз, відаць, такога ж паходжання (*бабін цвет* 'кветка, цвет бабы-знахаркі'). Параўн. чэш. *babí list* (Махэк, Jména rostl., 218). Гл. Краўчук, БЛ, 1974, 6, 67.

**Бабі́на** 'касета'. Рус. *бобина,* укр. *бобіна.* Новае запазычанне з франц. *bobine* 'шпулька'.

**Бабіна душыца** 'расліна Origanum, Origanum vulgare, мацярдушка' (Нас., Кіс.), таксама *душанка, мацярдушка, мацержанка, мацеранка* і г. д. (Кіс.). Рус. *душица, ду́шка, материнка* і г. д., укр. *душиця, душинка, духовий цвіт, душниця, материнка, материска* (гл. Макавецкі, Sł. botan., 250). Падобныя назвы і ў іншых славян (параўн. серб.-харв. *бабина дубчица, боља душица;* Сіманавіч, 329). Вельмі часта Origanum мае аднолькавыя назвы з Thymus 'чабор'. Параўн. для апошняга бел. *мацярдушка, мацержанка,* укр. *материдушка, материна душка, материнка* і г. д. (Макавецкі, Sł. botan). Да бел. назваў для Origanum вельмі падобныя серб.-харв. і балг. назвы для Thymus: серб.-харв. *душичка, мајчина душица, материнка* і асабліва для Thymus serpyllum: *бабина душа, бабина душица, бабља душа (душица), бабја душа (душица), бакина душица* і г. д. (Сіманавіч, 467—468), балг. *бабина душица* (БЕР, 1, 23). Параўн. таксама (для Thymus) чэш. *mateřídouška, mateří dúška,* славац. *materina dúška,* ст.-польск. *macierza duszka* (Махэк, Jména rostl.,202). Новатны (SP (Brno), 13 (A12), 35—36) спасылаецца на лац. (VII ст.) *matris animula* «Thymus» і лічыць, што назвы тыпу *mateřídouška* — пераклад з лац. У аснове назвы ляжыць уяўленне (вядомае з фальклору) пра душу памерлай маці, якая вяртаецца да дзяцей у выглядзе кветкі. Можна меркаваць, што і бел. назва для Origanum такога ж паходжання («душа бабулі»).

Не вельмі пераконвае думка Даля і Мяркулавай, Очерки, 139—140, што назвы тыпу *душица, душка* і г. д. — вытворнае ад *дух, душистый* («пахучая расліна»). Здаецца, што гэта пазнейшая ад'ідэацыя. Гл. Краўчук, БЛ, 1974, 6, 66.

**Бабіна лета.** Рус. *бабье лето,* укр. *бабине літо, бабське літо,* польск. *babie lato,* чэш. *babí léto,* ням. *Altweibersommer*

і г. д. Назва шырока вядома ў еўрапейскіх мовах. Здаецца, што яна асноўваецца на ўяўленні аб познім каханні старых жанчын, удоў. Гл. Леман, Altweib.; Пауль, Wörterb., 19; Клюге, 18 (там і шмат ням. дыял. форм, якія раскрываюць этымалогію); Махэк$_2$, 40; Галынська — Баранова, Ukr. nazwy, 61 (Качэрган, Мовознавство, 1971, 2, 87, як і Я. Галавацкі, непераканаўча лічыць, што назва адносіцца да дамашняй працы жанчын пасля жніва). З неіндаеўрапейскіх моў можна прывесці тур. *gelin havası* 'цёплае, яснае надвор'е' (дзе *gelin* 'нявеста, маладая', 'нявестка').

**Бабі'нец** 'царкоўны цвінтар', 'бабінец' (БРС, Нас., Гарэц., Бесар.). Укр. *бабúнець* 'бабінец, месца, дзе збіраюцца старыя жанчыны' (рус. *бабинéц,* мабыць, запазычана з укр. мовы, але адкуль такі націск?). Вытворнае ад *бáба*$_1$ (суфікс *-иньць).* Першапачаткова — 'месца, дзе збіраюцца бабы'. Параўн. таксама польск. *babiniec,* чэш. *babinec.* Можна ставіць пытанне і аб запазычанні з зах.-слав. моў, дзе суфікс *-іпьсь* у nom. loci вельмі прадуктыўны.

**Бабі'ны** 'вячэра на хрэсьбінах, на якой ядуць кашу *бабіну курыцу*' (Нас., Бяльк.), *бабінкі* 'пачастунак, гулянка, якая спраўляецца бацькамі з выпадку нараджэння дзіцяці' (Шат., Янк. Мат.). Утварэнне ад *бáба* 'баба-павітуха'. Параўн. рус. *бабúны* 'тс', укр. *бабúни* 'другі дзень каляд'. Этнаграфічны каментарый гл. СРНГ, 2, 20, і Даль.

**Ба'біцца** 'рабіцца жанчынападобным' (Гарэц., Др.-Падб.); 'жаніцца' (Касп., Др.-Падб.). Рус. *бáбиться,* укр. *бáбитися.* Вытворнае (на ўсх.-слав. глебе) ад *бáба* 'жанчына'.

**Ба'біць$_1$** 'бабіць, прымаць дзіця ў парадзіх' (Нас., Бяльк., Касп., Шат., Гарэц., Бір. Дзярж., Др.-Падб., БРС), 'рэзаць пупавіну' (Жд.). Прасл. *babiti* 'тс' (вытворнае ад *baba,* гл. *бáба*$_1$): рус. *бáбить,* укр. *бáбити,* польск. *babić,* чэш. *babiti,* серб.-харв. *бȁбити* і г. д.

**Ба'біць$_2$** 'цацкацца, насіцца' (Юрч.), *бáбыть* (палес., Лысенка ССП) 'цешыць, няньчыць'. Семантычнае развіццё *бáбіць*$_1$ (гл.).

**Ба'біць$_3$** 'вабіць (птушак)' (Маш.). Паходжанне гэтага слова не зусім яснае. Агульнаслав. паляўнічы тэрмін быў *vabiti* 'вабіць голасам' (гл. Махэк$_2$, 673). Таму можна думаць, што палес. *бáбіць* з'яўляецца: 1) або фанетычнай трансфармацыяй *vabiti* (асіміляцыя *v—b>b—b*); 2) або перараскладам прэфіксальнага дзеяслова *ob-abiti<ob-vabiti.* Не выключаецца, аднак, сувязь з *бáбіць* 'цешыць, няньчыцца,

цацкацца' (гл.). Цікава, што палес. *бáбіць, бáбік* (гл.) мае дакладную паралель у зах.-слав. мовах: польск. *wabić, wabik,* славац. *vábiti, vabik* 'вабік для прываблівання птушак'.

**Ба'біч** 'падобны да бабы мужчына' (Бяльк.), 'дзіця жанчыны, якая ўжо бабіла, была бабкаю-павітухаю' (Бяльк., Янк. III, Шат., Жд.). Утварэнне суфіксам *-іч* (усх.-слав. *-ičь* <прасл. *-itįь*) ад *бáба* 'баба', 'баба-павітуха'. Параўн. падобныя назвы: рус. *бáбич* 'бабнік', укр. *бáбич* 'лавелас, бабнік', 'самец страказы'.

**Ба'бка$_1$** ' бабуля, старая жанчына'. Рус., укр. *бáбка,* польск. *babka,* чэш. *babka, bábka,* балг. *бáбка* і г. д. Прасл. *babъka,* памяншальнае ад *baba* (гл. *бáба$_1$*), якое, відаць, ужывалася і як самастойнае слова і дало шмат вытворных (гл. ніжэй). Паралельна існавала і прасл. *babica,* якое захавалася ў паўдн.-слав. мовах (серб.-харв. *бȁбица)* і як рэлікты ва ўсх.-слав. (укр. *бáбиця,* рус. *бáбица*); у зах.-слав. мовах *babica* здаўна страціла памяншальнасць (ст.-чэш. *babice* толькі 'павітуха'; польск. *babica* таксама з іншым значэннем; з другаснымі значэннямі *babica* ёсць ва ўсіх слав. мовах). Аб гісторыі слав. тыпаў памяншальных на *-ъka* і *-ica* гл. Бошкавіч, Развитак, 78 і далей.

**Ба'бка$_2$** 'парадзіха, што ляжыць у пасцелі' (Шн.). Бясспрэчна, ёсць сувязь з *бáба, бáбка* 'жанчына, бабуля, павітуха'. У аснове называння, напэўна, нейкая табуістычная забарона.

**Ба'бка$_3$** 'расліна Plantago L., трыпутнік' (Нас., Бяльк., Кіс.; ужо ў Бярынды, 134: *трóскотъ... подорóжникъ, ѧзичокъ, бáбка*). Укр. *бáбка,* рус. *бáбка* (Кохман, Kontakty, 61, лічыць, што ў рус. мове *бáбка* 'Plantago' распаўсюдзілася праз бел.-укр. пісьмовую мову, параўн. слабае пашырэнне гэтага слова ў рус. гаворках, гл. СРНГ, 2, 21), польск. *babka,* чэш. *babka,* славац. *babka* (гл. Грэгар, SSlav., 5, 139). Слав. *babъka, baba* 'Plantago'. Анышкевіч (Лік.) знаходзіць сувязь з **baba* 'жанчына': або па форме лісця расліны або па яе лячэбных уласцівасцях (параўн. *baba* 'знахарка'; апошнюю версію падтрымліваюць таксама Махэк, Jména rostl., 218, і Будзішэўска, Słown., 241). Параўн. *бабін* цвет.

**Ба'бка$_4$** 'грыб Boletus scaber, падбярозавік' (Касп., Шат., Інстр. II). Укр. *бáбка* (у палес. валын. гаворках, таксама ст.-укр., гл. Шыла, Праці, XI, 199), рус. *бáбка* (смал., гл. Мяркулава, Очерки, 177), польск. *babka, babianka.* Грыб названы так таму, што хутка старэе, робіцца мяккім (гл. Шыла, Пра-

ці, XI, 296; аналагічна Мяркулава, Очерки, 177, якая да гэтага прымае бел. і ўкр. уплыў на рус. мову). Параўн. таксама Махэк$_2$, 40.

**Ба'бка$_5$** 'сталёвая падстаўка, абушок, на якім клепюць касу' (Нас., Касп., Шат., Бяльк., параўн. таксама Жд.). Рус. *ба́бка,* укр. *ба́бка* 'тс' (ёсць і ў іншых слав. мовах, параўн., напр., чэш. *babka,* польск. *babka* 'тс'). Паводле Шулана, SSlav., 5, 159, славянскае ўтварэнне ад **baba, *babъka* 'жанчына, бабуля' (паводле падабенства да фігуры тоўстай бабы).

**Ба'бка$_6$** 'чыгунная балванка для забівання паляў' (Бяльк.). Таго ж паходжання, што і *ба́ба* 'прылада забіваць палі' (да *baba, babъka* 'жанчына', гл. Шулан, SSlav., 5, 153—165, або асобай прасл. асновы **bab-*, гл. пад *баб-*).

**Ба'бка$_7$** 'прылада гнуць дугі або палазы' (Бяльк.). Як і іншыя назвы прылад і прадметаў, магчыма, да *babъka* 'баба, старая жанчына' (параўн. іншыя назоўнікі на *ба́ба, ба́бка*). Аб магчымай матывацыі падрабязна гл. Шулан, SSlav., 5, 153—165. Параўн. і Махэк$_2$, 39—40; Брукнер, 9.

**Ба'бка$_8$** 'матыль, мятлік' (Дразд.), 'лятаючыя насякомыя' (Маш.). Рус. *ба́бка* 'матыль (таксама і іншыя насякомыя)', укр. *бабки* 'матылі'. Для абазначэння насякомых гэта слова сустракаецца ў розных слав. мовах (падрабязна гл. Важны, O jménech, 86—87). Адносна магчымай матывацыі гл. *ба́бачка.* Але не выключаецца, што тут была і іншая матывацыя (параўн. пад *ба́бка* 'страказа').

**Ба'бка$_9$** 'страказа' (Шат., Бяльк., Жд., Інстр. II, Інстр. лекс.). Укр. *бабка* 'страказа'. У іншых слав. мовах *babъka* азначае розных насякомых (гл. пад *ба́бачка, ба́бка* 'матыль'). *Ба́бка* 'страказа' наўрад ці мае тую ж матывацыю, што і *ба́бачка, ба́бка* 'матыль'. Хутчэй за ўсё па форме (страказа мае тоненькае тулава і вялікую галаву з вялікімі вачамі) ад *ба́ба* 'жанчына' ці асновы *баб-* (гл.). Будзішэўска (Słown., 315) памылкова сцвярджае, што слова *ба́бка* 'страказа' ў бел. мове няма.

**Ба'бка$_{10}$** 'косць нагі, сустаў (у жывёл)'. Ёсць і ў іншых слав. мовах: рус. *бабка,* укр. *бабка* 'тс'. Да *ба́ба$_1$* (гл.) або да асобай прасл. асновы *bab-* (гл. Попавіч, JФ, 19, 159—171). Аб сувязі з *ба́ба, ба́бка* 'жанчына' падрабязна гл. Шулан, SSlav., 5, 153—165. Параўн. таксама Шанскі, 1, Б, 5.

**Ба'бка$_{11}$** 'карэнны зуб' (Бяльк.). Мабыць, новаўтварэнне на абмежаванай тэрыторыі (ёсць яшчэ ў рус. мове: *ба́бка*

'карэнны задні зуб', зах. і паўд.). Для матывацыі параўн. *ба́бка* 'костка нагі, сустаў', 'невялікае кавадла'. Назва, напэўна, дадзена па форме зуба.

**Ба'бка**$_{12}$ 'куліч, баба' (БРС), 'салодкі пшанічны хлеб, які мае форму куліча' (Сцяц., Нар.). Таго ж паходжання, што і *ба́ба* 'від ежы' (гл.). Утварэнне, відаць, ад прасл. *babъka,* якое выступала паралельна да *baba.*

**Ба'бка**$_{13}$ 'род ежы з дранай бульбы' (БРС, Шат., Касп., Сцяшк., Лысенка ССП, Малчанава, Мат. культ., Сцяц., Нар.). Таго ж паходжання, што і *ба́ба, ба́бка* 'від ежы'. Сцяц. (Нар., 34) лічыць, што бульбяная страва атрымала сваю назву ад хлебнага вырабу на аснове агульнасці формы.

**Ба'бка**$_{14}$ 'ўкладка з 5, 10 або 15 снапоў' (Нас., Касп., Шат., Бяльк., Лысенка ССП, Выг. дыс., ДАБМ, 874). Рус. *ба́ба, ба́бка* 'тс'. Магчыма, да *ба́ба, ба́бка* 'жанчына' (метафарычна «вялікія, круглыя прадметы»). Аб матывацыі падрабязна гл. Шулан, SSlav., 5, 153—165. Аднак не выключаецца, што ёсць сувязь з *(а)ба́бак* 'ахапак ільну, мэндлік', г. зн. аддзеяслоўнае паходжанне слова (гл. *ба́бак).*

**Ба'бка**$_{15}$ 'вузенькі раменьчык, які звязвае дзве асноўныя часткі цэпа' (палес., Выг. дыс.). Утварэнне, не вельмі зразумелае з семантычнага боку. Аднак, бясспрэчна, ёсць сувязь з назвамі розных прадметаў, утвораных ад *ба́ба, ба́бка* 'старая жанчына' або ад асновы *баб-* (гл.). Хутчэй за ўсё назва, перанесеная па функцыі з нейкага іншага прадмета. Можа, спачатку 'пяцелька' ('круглае')? Параўн. рус. *ба́бка* 'пяцелька, засцёжка'.

**Ба'бка**$_{16}$ 'частка прыпеку, куды выграбаюць попел, вуголле' (Інстр. I). Сувязь з *ба́бка,* што азначае розныя прадметы, бясспрэчна, але семантычная матывацыя застаецца няяснай. Падобныя назвы ёсць і ў іншых славян. Параўн. рус. *ба́бка* 'месца на прыпеку рускай печы, куды выграбаюць гарачае вуголле', *бабу́рка* 'тс', польск. *babica, babka* 'частка печы', *baba* 'адтуліна ў прыпечку для вугалля'.

**Ба'бка**$_{17}$ 'расліна Polygonum bistorta L., драсён змяіны' (Кіс.), іншая яго назва *багародзічнік.* Параўн. таксама *гарчак баб'і* 'Polygonum hydropiper L.' (Кіс.). Матывацыя назвы няясная. Магчыма, ад пірамідальнай формы.

**Ба'бка**$_{18}$ 'ёрш, Acerina cernua' (Маш.). Параўн. іншыя назвы рыб: *баба-рыба, бабу́р, бабура, бабурка.* Здаецца, на ярша назва была перанесеная з іншай, галавастай рыбы (пад-

каменшчыка?). Аб матывах перанясення гл. думку А. А. Крывіцкага (пад *бабу́р*).

**Ба′бкі**$_1$ (мн.) 'расліна Acorus calamus L., аер' (Бейл). Матывацыя гэтай назвы (расліну завезлі ў Еўропу дзесьці ў XV ст.) застаецца не зусім зразумелай, але, бясспрэчна, ёсць сувязь з *ба́ба* 'жанчына, бабуля'. Аб гэтым сведчаць серб.-харв. *бабjи штапи* 'Acorus calamus' (таксама *бабад, бабан*, гл. Сіманавіч, 9). Магчыма, мелася на ўвазе тое, што расліна ўжывалася як лякарства супраць пэўных хвароб (параўн. Махэк, Jména rostl., 300—301; лячылі звычайна бабы-знахаркі, параўн. *ба́бка* 'Plantago').

**Ба′бкі**$_2$ (мн.) 'расліна Trifolium repens L., канюшына паўзучая' (Бейл.). Да *ба́бка* (круглы прадмет). Матывацыя назвы: круглыя галоўкі кветак расліны. Параўн. укр. (для Trifolium): ***воpiшина, opiшина, opiшок, пупчики, головашки, iванова голова, яблучка, попки*** (з іншай перадачай той жа матывацыі).

**Ба′бкі**$_3$ 'расліна Oxalis acetosella L., кісліца звычайная' (Бейл.). Мабыць, назва ўзята ад расліны *ба́бкі* 'Trifolium' (гл.). Oxalis, як і Trifolium, мае тры лісцікі. Параўн. таксама іншыя назвы Oxalis: бел. *заячча канюшына*, чэш. *kyselý dětel, zaječi dětel*, славац. *zajačia d'atelinka* і г. д. (з яснай сувяззю з *канюшына, dětel* 'Trifolium'). Параўн. таксама *бабо́к, бабо́ўнік, бо́бік*.

**Бабкі**$_4$ 'частка самапралкі — стойкі, паміж якімі кола' (Влад.). Мабыць, таго ж паходжання, што і *ба́ба* 'саха, жэрдка калодзежнага жураўля' (гл.).

**Бабок,** *бабоўнік, бобік* 'расліна Menyanthes trifoliata L., бабок трохлістывы' (Шат., Кіс.); рус. *бобки́, бобо́вник* 'канюшына', *бобовник* 'канюшына, Trifolium', 'бабок, Menyanthes', 'капытнік балотны, Calla palustris', аналагічныя назвы ў польск. і ўкр. мовах (параўн. Мяркулава, Очерки, 36). Ад *bobъ* 'боб; штосьці круглае'. Першапачаткова назва адносілася да канюшыны, потым была перанесена на *бабо́к* (тры лісцікі, як у канюшыны) і *капытнік* (гл. Мяркулава, Очерки, 36—37). Такім чынам, сюды належаць і *бабо́ўнік* 'капытнік балотны, Calla palustris L.' (Кіс., Інстр. II), 'Veronica beccabunga L.' (Кіс.). Бел. слова *бабоўнік* 'Trifolium' (Нас.) Кюнэ (Poln., 45) лічыць запазычаннем з польск. *bobownik*.

**Бабро́ўнік,** *бобрык* 'расліна бабок трохлістывы, Menyanthes trifoliata L.' (Кіс.). Іншыя яе назвы: *бабок, бабоўнік, бобік* і г. д. (ад *bobъ*, гл. *бабо́к*). Укр. *бо́брок* 'Menyanthes'. За-

пазычанне з польск. *bobrek, bobrownik* 'тс' (ад дыял. *bober, bóber* 'боб'). Гл. Мяркулава, Очерки, 36.

**Бабскі клятбён,** *бабская клятба* 'грыб на асіне' (Бяльк.). Назва, бясспрэчна, звязана з нейкімі забабонамі, чарадзействам баб (параўн. і чарадзейскае значэнне асіны ў народных павер'ях).

**Бабур** 'малады акунь' (Маш.), *бабура, бабурка* 'галавастая рыбка' (Інстр. лекс.). Параўн. рус. *бабýра* 'Cottus gabio, падкаменшчык', *бабýрка* 'асобны від дробнай рыбы'. Параўн. іншыя назвы: бел. *бáба* (рыба) 'падкаменшчык', *бáбка* 'ёрш' (падобныя назвы і ў іншых славянскіх мовах). Утварэнне (суф. *-ура*) ад асновы *баб-* (для абазначэння круглых прадметаў) або ад *бáба*$_1$ (гл.). Гэта аснова часта выступае ў назвах галавастых рыб. Безлай (Posk. zv., 8) лічыць, што *bab-* — вельмі старая аснова, якая выпадкова супала з *baba* 'жанчына'. Адносна назваў рыб, для якіх галавастасць не характэрна, А. А. Крывіцкі (вусн. паведамл.) лічыць, што першапачаткова тэрмін мог быць перанесены на іншых рыб па колеру і г. д.

**Бабура,** *бабурка* 'макрыца, сараканожка' (Нас., Інстр. II, Інстр. лекс.). Да *бáба*$_1$? Тады маем справу з табуістычнай назвай. Непрыемныя жывёлы, насякомыя часта носяць назвы, утвораныя ад *бáба* (магчыма, у значэнні 'чарадзейка'). Параўн. укр. *бабин пес, бабин вовк* 'касматая гусеніца'. Але не выключаецца, што *бабýра* — вытворнае ад вядомай слав. асновы *bab- (bǫb-, bob-;* аб гэтым Попавіч, ЈФ, 19, 159—171; параўн. таксама Мяркулава, Очерки, 36—37), якая служыць для абазначэння круглых прадметаў. Дакладная адпаведнасць бел. слову — серб.-харв. *бàбура* 'макрыца', але, напэўна, гэта незалежныя ўтварэнні. Параўн. таксама рус. назвы насякомых: *бабýра* 'матыль', *бабýрка* 'матыль, страказа; дробныя насякомыя' (другую этымалагічную версію, здаецца, падтрымлівае існаванне рус. *бабýрка* 'бутон кветкі; пупышка' і г. д.).

**Бабура,** *бабурка* 'матыль' (Інстр. лекс.). Параўн. і *бáбка* 'матыль; страказа'. У рус. мове: *бабýра* 'матыль', *бабýрка* 'страказа; матыль'. Паходжанне няяснае. Або да *бáба* 'жанчына, бабуля' (суф. *-ура,* гл. *бáбка, бáбачка* 'матыль', там аб матывацыі) або да слав. асновы **bab-* (гл. *бабýр* 'малады акунь'). Паколькі справа ідзе аб аснове, якая звычайна выказвае паняцце круглага, галавастага, можна меркаваць, што першапачаткова *бабýра* азначала страказу (вялікая галава,

тонкае тулава), а потым была перанесена на іншых лятаючых насякомых (матыля).

**Бабура,** *бабурка* 'расліна' (Інстр. лекс.) (якая?). Параўн. рус. *бабу́р, бабу́ра* 'від грыба', *бабу́рка* 'бутон кветкі; пупышка' (да назвы і словаўтварэння гл. Мяркулава, Очерки, 180). Бясспрэчна, да вядомай асновы *баб-,* але семантычная матывацыя няясная; аб гэтым гл. Мяркулава, там жа.

**Бабу́хнуць,** *бабу́х!* (Шат., Бяльк.). Гукаперайма́льнае, як і *бабах!, бах!,* укр. *бабу́х!* і г. д. (з тыповым паўтарэннем элементаў выгуку). Аднак праславянскім з'яўляецца толькі другі элемент слова *-бух,* які маецца амаль ва ўсіх слав. мовах як самастойная адзінка (гл. *бух!*).

**Бабухі́** 'вантробы, трыбухі' (Гарэц.). Мабыць, гукаперайма́льнае, як і слав. *bebech-* 'тс' (укр. *бе́бехи* 'вантробы', *бебе́хнути* 'падаць (з шумам),' польск. *bebechy* 'вантробы', параўн. і ўкр. *бабешки* 'трыбухі жывёлы'). Форма *бабухі* вельмі падобная да ўкр. лемк. *бабуха́тий* 'пузаты, брухаты'. Параўн. Ільінскі, РФВ, 62, 237; Слаўскі, 29; Рудніцкі, 95. Гл. яшчэ *бэ́бахі.*

**Бабу́шкі** 'галкі з цеста' (Бяльк.). Рус. дыял. *бабу́шка* 'белая булка; грудка ў цесце'. Як і іншыя словы падобнага тыпу (і форма, і семантыка), няяснага паходжання. Ёсць думка (Попавіч, JФ, 19, 168), што ў аснове ляжыць прасл. *bab-* || *bob-* || *bǫb-* 'круглы прадмет'.

**Бабчыха** 'бабка-знахарка, што лечыць травамі', 'адзінокая беззямельная жанчына, што жыве ў чужых людзей' (Бяльк.). Вытворнае (суф. *-іха*) ад дзеяслова (параўн. рус. дыял. *ба́бчить* 'займацца знахарствам') або непасрэдна ад *ба́ба, ба́бка* 'баба-знахарка'.

**Ба́бчыцца** 'зморшчвацца; скручвацца ў вузлы; старэць; поркацца, марудзіць' (Нас., Бяльк., Гарэц., Юрч.). Рус. *ба́бчиться* 'перапутвацца, збівацца (аб сцяблах)'. Параўн. чэш. *babčeti* 'зморшчвацца (пра яблыкі)'. Утварэнне ад *ба́бка.* Гэта — дакладная паралель утварэнням ад *ба́ба*: *ба́бець, ба́біцца* (гл.).

**Бабы́ль** 'беззямельны, адзінокі чалавек' (БРС, Касп., Шат., Бяльк.). Рус. *бобы́ль* 'беззямельны селянін, падзёншчык'. Укр. (ст.) *боби́ль* (з рус. мовы, гл. Рудніцкі, 155). Паходжанне слова няяснае. Няпэўна Мікала, Berühr., 89: запаз. з сканд. **ƀuabóli* 'здольшчык', а таксама Мікала, Ält. Bezieh., 50 (экспрэсіўнае слова, параўн. швед. *bobbe,* англ. *bob* 'цяльпук' і г. д.). Не лепш і Фасмер, 1, 181, які прапануе звярнуць

увагу на рум. *bobîlcă* 'від танца', *bobîlnic* 'настурка'. Супраць рум. версіі сведчыць іменна адсутнасць гэтага слова (калі не лічыць запазычання з рус.) ва ўкр. мове. Параўн. яшчэ Шанскі, 1, Б, 147—148.

**Бабыр** 'каленік (рыба)' (Інстр. II, 57). Параўн. укр. *бобúрь* 'Acerina rossica Pall., ёрш', рус. *бобы́рь* 'Acerina rossica', 'Cyprinus gobio', *бобы́ль* 'Acerina rossica Pall'. Галавастыя рыбы часта носяць назвы, утвораныя ад асновы *bob-*, *bab-* (аб аснове гл. Попавіч, ЈФ, 19, 159—171), якая ў некаторых выпадках супадае з *ба́ба* (параўн. Безлай, Posk. zv.). Гл. яшчэ *ба́ба-ры́ба, бабу́р*.

**Ба́вал** 'буйвал, тур, дзікі вол, Bubalus' (Нас.). Укр. (зах. дыял.) *ба́віл* (ст.-укр. *баволíй*, прымет.). Запазычанне з польск. *bawół* 'тс' (аб паходжанні польск. слова гл. Брукнер, 18; Слаўскі, 1, 28; Махэк$_2$, 78; Кюнэ, Poln., 44).

**Ба́ваўна** 'бавоўна' (Гарэц.), 'баваўняная папера, вата' (Нас.). Ст.-бел. *баволна* 'баваўняная папера' (Нас., Гіст. лекс., 115; націск быў на першым складзе, параўн. Бярында, 12: *бума́га: ба́волна, папѣръ, а́лбо всѧкая мѧккота*). Ва ўкр. слоўніках (старых) з такім жа націскам: *ба́вовна, ба́волна, ба́вуна, ба́вина, ба́вна, ба́вовник, ба́вільник*. Параўн. і паўд.-рус. *ба́вольник*. Гэта сведчыць аб першапачатковым запазычанні з чэш. *bavlna* (<ням. *Baumwolle*), а не з польск. *bawełna*. Падрабязней гл. Краўчук, УМШ, 10, 60. Параўн. таксама *баво́ўна, бавэл, бавэлна*. Гл. яшчэ Рудніцкі, 47. Аб чэшскім уплыве на ўсх.-слав. мовы ў XIV—XV стст. гл. Мацурэк, Зб. Вольману, 42—63.

Сюды ж і гаплалагічнае *ба́ўна* (<*ба́ваўна*) 'вата' (Гарэц.).

**Ба́віцца**₁ 'бавіцца, марудзіць, затрымлівацца; забаўляцца', сюды ж *ба́віць* (Шат., Касп., Бяльк., Нас., Выг. дыс.), *баві́цца* 'праводзіць час без справы' (Бір. Дзярж.). Ст.-бел. *бавити* 'затрымліваць', 'марудзіць' (Нас. гіст.; параўн. Бярында, 101: *продо́лжую, ба́влю*). Прасл. *baviti* (ст.-рус. *бавити*, рус. *ба́вить*, укр. *ба́вити* 'забаўляць', польск. *bawić*, чэш. *baviti*, балг. *ба́вя* 'забаўляю' і г. д.) — стары каўзатыў да *byti* (гл. *быць*). Гл. Траўтман, 40—42; Фасмер, 1, 101, 260; Слаўскі, 1, 28; Бернекер, 46—47. Прасл. *byti*: *baviti*, магчыма, першапачаткова земляробскі тэрмін, параўн. Гірт, Gram., I, 82. Адносна вакалізма ў **baviti* параўн. Курыловіч, L'apophonie, 325.

Сюды *ба́ўны* 'марудны' (Гарэц.), *ба́ўна* 'марудна' (Др.-

Падб., Гарэц.). Параўн. і ўкр. (букавін.) *бáвно* 'паволі', якое, аднак, Жылко (Нариси, 234) лічыць старым усх.-слав. прыслоўем.

**Ба'віцца₂** 'займацца чым-небудзь' (Нас.). Гэта значэнне ўжо ў ст.-бел. мове (гл. Нас. гіст.; Бярында, 17, 21, 33, 59 і наст.). Ст.-польск. *bawić* 'займацца чым-небудзь', серб.-харв. *бȁвити се* 'тс'. Відаць, у беларускай мове гэта запазычанне з польскай.

**Баво'ўна** (у Касп.: 'бавоўна, вата'). Укр. *бавóвна*. Запазычанне з польск. *bawełna* (а гэта не з ням., як лічылі раней, а з чэш. *bavlna,* гл. Клеменсевіч, II, 145) з заменай *-eł* на *-ol* (паводле ўсх.-слав. фанетыкі або пад уплывам слова *воўна* 'шэрсць'). Цімчанка, 45, 47; Шалудзька, Нім., 21; Бернекер, 46; Фасмер, 1, 101; Слаўскі, 1, 28; Махэк₂, 48; Рыхардт, Poln., 34; Кюнэ, Poln., 44.

**Ба'вэл** 'бавоўняная або шарсцяная пража' (Влад.). Трансфармацыя (дзякуючы націску на першым складзе) слова **бáвэлна* (параўн. *бáваўна*). Параўн. і трансфармаваныя ўкр. *бáвуна, бáвина, бáвна.* Гл. *бавэ́лна.*

**Бавэ'лна** 'бавоўняная папера, вата, бавоўна, тканіна' (Нас., Мал.), 'шарсцяныя ніткі' (Касп.; Карскі, Труды, 476, дарэмна сумняваецца ў гэтым значэнні слова, прапануючы 'баваўняныя ніткі', параўн. *бáвэл*). Укр. дыял. *бавéлна.* Непасрэднае запазычанне з польск. *bawełna* 'тс', з захаваннем польскай фанетыкі. Параўн. *бáваўна, бавóўна.*

**Багабо'йлівасць** (Гарэц., Др.-Падб.). Рус. *богобоязненность, богобоязненный,* укр. *богобíйнiсть, богобíйний, богобоязлúвий, богобоязний,* польск. *bogobojność, bogobojny,* чэш. (ст.-чэш.) *bohobojenstvie, bohobojný* і г. д. Відавочна, агульная калька кніжнага паходжання (у старых помніках ст.-слав. мовы падобных слоў няма, гл. Старасл. сл. і Саднік — Айцэтмюлер, Handwört. і Сразн.). Параўн. у Бярынды: *б(о)гобоѧзнéнное: б(о)гобóйное, б(о)габоѧчее;* Син. славенорос.: *богобойный; богобойность...— богобоязнение.* Параўн. і ням. *Gottesfurcht* 'богабойлівасць', с.-в.-ням. прыметнік *gotvorhtec,* грэч. φόβος Θεοῦ (гл. Клюге, 265—266), лац. *deum timens* і г. д. Выраз біблейскага паходжання.

**Багаві'нне** 'водарасці, ціна' (БРС, Гарэц.), 'водарасці; глей, мул; топкае балота, дрыгва' (Інстр. лекс.). Рус. курск. *баговúнье* 'рачныя і балотныя расліны', укр. *баговúння, баговíння* 'від водарасцей'. Вытворнае ад *bagъva* 'балота, багна', укр. *багвá* 'тс' (праформа *bagy,* род. скл. *bagъve;* параўн. і

назву рэчкі *Багва*, гл. Развадоўскі, Studia, 239 і наст.; Фасмер, 1, 102, але думка Развадоўскага (там жа) аб герм. паходжанні **bagy* вельмі няпэўная), суф. *-іньје*. Праформай можа быць і *bagov-іньје* (старая *ŭ*-аснова тыпу *bagŭ*; *bagov-*, параўн. Развадоўскі, Studia, 240).

**Багаві'ца** 'багіня, бажаство' (Касп.), 'багіня; нейкая хвароба' (Др.-Падб.), 'багіня(?) або назва нейкай хваробы' (Гарэц.: «Багавіца цябе ведае!»). Вытворнае ад прыметніка *богавы* 'божы'. Як назва хваробы, гэта табуістычнае (эўфемічнае) утварэнне: хваробы часта называюць «божымі» (параўн. рус. *бóжья* 'хвароба', гл. Фасмер, 1, 184; чэш. *božec*, ням. *Gewalt Gottes* 'эпілепсія', параўн. БЕР, 1, 61).

**Бага'ж.** Рус. *багáж*, укр. *багáж*. Запазычанне з франц. *bagage* або ням. *Bagage* (<франц.). Франц. *bagage*<*bague* <ст.-ісл. *baggi* 'клунак'. Гл. Фасмер, 1, 101; Даза, 68; Клюге, 44. Параўн. таксама Шанскі, 1, Б, 6.

**Багамо'л₁**, *багамаленне, багамолле*. Рус. *богомóл, богомóлье*, укр. *богоміл* і г. д. Відавочна, агульная калька кніжна-царкоўнага паходжання адносна новага часу (гэтых слоў няма ў Садніка—Айцэтмюлера, Handwört.; Старасл. сл.; у Бярынды). *Багамолле* 'яўрэйскае малітоўнае ўбранне', (насмешл.) 'адзенне' (Шат.)—гэта метафара. Параўн. укр. дыял. *багамéл* 'кій' (мабыць, ад *богомол*, гл. Манжура).

**Багамо'л₂** 'насякомае'. Рус. *богомóл, богомóлка* 'тс'. Да *багамóл₁* па знешняму падабенству. Параўн. у Даля: «насекомое Mantis, сидящее недвижимо в чинном положении и внезапно выкидывающее необыкновенной длины клешни, для поимки добычи». Параўн. ням. *Gottesanbeterin* 'тс'.

**Багародзічнік** 'расліна Polygonum bistorta L., драсён змяіны' (Кіс.). Параўн. рус. *богорóдичник, богорóдка* 'тс', ст.-чэш. *Svaté Maři košile*, славац. *Panny Marie zelina* 'Polygonum' (Махэк, Jména rostl., 87). Па народнай легендзе, чырвоны колер кветкі расліны — гэта кроў багародзіцы (Махэк, там жа).

**Багасло'ў**, *багаслóўе*, рус. *богослóв, богослóвие*, укр. *богослóв, богослів'я* і г. д. З ц.-слав. мовы (**богословъ, богословие**), дзе гэта калька з грэч. θεολόγος, θεολογία, да θεός 'бог', λόγος 'слова, вучэнне'. Так і ў іншых слав. мовах. Падрабязней гл. Шанскі, 1, Б, 150—151.

**Бага'тка** 'адуванчык лячэбны, Taraxacum officinale Web.' (да геаграфіі гл. Кіс., 128), 'назва расліны' (Янк. Мат., 94:

*«Багаткамі на Купалля абразы аптыкаяць»).* Мабыць, вытворнае ад *багаты* (кветка мае вялікую колькасць пялёсткаў). Аднак не выключаецца, што ў аснове назвы ляжыць уяўленне аб лячэбных або магічных (культавых) уласцівасцях расліны. Другая, «купальская», расліна, якую азначае *багатка* — гэта тое ж самае, што і рус. *богатка, богатница* 'Conyza; Erigeron', укр. *богатинка, богатниця,* на якой гадаюць аб багацці (адсюль і назва, гл. СРНГ, 3, 44—45). Параўн. і польск. *bogatka* (XV ст., гл. Брукнер, 34). Паколькі *багатка* 'Erigeron' мае і іншую назву: рус. *пушки,* бел. *пушкі* (Кіс., 50), то магчыма, што на адуванчык проста перанеслі назву багаткі (па падабенству).

**Бага′ты,** рус. *богатый,* укр. *багатий, богатий,* польск. *bogaty,* чэш. *bohatý,* ст.-слав. **богатъ,** балг. *богат,* серб.-харв. *бо̏гат* і г. д. Прасл. *bogatъ*, суфікс. утварэнне ад **bogъ* 'бог; доля, маёмасць, багацце' (гл. *бог*). Бернекер, 67; Траўтман, 23; Брукнер, 33—34; Фасмер, 1, 98—99; Махэк$_2$, 59; Слаўскі, 1, 38. Сюды ж прысл. *багата* 'шмат, многа', рус. *богато*, укр. *багато.*

**Багаты′р**$_1$ 'багацей' (Нас., Касп., Шат., Янк. 1), *багатырь* 'тс' (Бяльк.). Рус. *богатырь,* укр. *багатир, багатирь.* Паводле Фасмера, 1, 183, другаснае ўтварэнне ад *багаты (bogatъ)*: пад уплывам *багатыр*$_2$ (гл.) 'герой, асілак'? Але можна думаць і пра першаснасць утварэння: *багаты*+суф. *-(т)ырь* (параўн. рус. *пуст-ырь,* дыял. *нем-тырь* 'нямы' і г. д.). Таксама наўрад ці правільна Бернекер, 66, які лічыць, што *багатыр* 'багацей'— гэта *багатыр* 'герой' (з пераасэнсаваннем пад уплывам слова *багаты).*

**Багаты′р**$_2$ 'волат, герой' (Бел. казкі). Рус. *богатырь,* укр. *багатир, богатир* 'тс'. Запазычанне з ст.-цюрк. **baγatur* (параўн. і ст.-рус. форму *богатур),* якое пад уплывам слав. *bogatъ* змянілася ў *богатырь.* Адносна паходжання цюрк. слова ёсць розныя думкі. Бернекер, 66; Фасмер, 1, 183; Шанскі, 1, Б, 149 (там і іншая літ-ра). Слова ўжо было ў ст.-бел. мове *(богатыр,* гл. Гіст. лекс., 138).

[**Бага′цце**] 'агонь, вогнішча, касцёр'. Існаванне гэтага слова ў бел. мове вельмі праблематычнае. Фасмер, 1, 101—102; Трубачоў, Проспект, 39, не ўказваюць крыніцу. Вядомыя слоўнікі бел. мовы (уключаючы і дыялектныя) яго не знаюць. Рус. дыял. *багать, багатье,* укр. *багаття* 'вогнішча'. Паходжанне слова спрэчнае. Звычайна збліжаюць з грэч. φώγω 'пяку, смажу', ст.-в.-ням. *bahhan* (ням. *backen)* 'пячы' і г. д.

Гл. Бернекер, 38; Фасмер, 1, 101—102; Трубачоў, Проспект, 39. Але *багацце* з яго марфалагічнай структурай не здаецца старым словам. Больш верагодная сувязь з *багáты;* матывацыя тут вылучалася розная: 1) Патабня, ЖСт., 1891, 111, 117 (міфалагічнае ўяўленне агню золатам, багаццем); гл. Зяленін, Табу, 2, 59 і наст.; Гаверс, Tabu, 65 (першапачаткова *багацця*<**bogatъ* 'багаты'; Фасмер (ZfslPh, 20, 454) лічыць гэта народнай этымалогіяй); 2) Ільінскі (ИОРЯС, 23, 128) лічыў, што назва (<*багацця*<**bogatъ* 'багаты') узнікла ў прымітыўным быту, калі вогнішча часта было сапраўдным багаццем. Не пераконвае Корж, ЗНТШ, 6, 117—118, які ўкр. *багáття* параўноўвае з серб.-харв. *бòжиħ* 'пень, які запальваюць на каляды' і выводзіць ад *бог (Дажь-богъ)*.

**Бага́ч**, *богáч* 'агонь' (палес., Маш.), 'агонь, вогнішча, касцёр (палес., вусн. паведамл. Краўчука: *разложы́ багачу́ погріцца*), агонь, што дабываецца крэсівам' (палес., вусн. паведамл. Краўчука). Слова амаль што знікла. Укр. *багáч, богáч* 'агонь, вогнішча, касцёр'. Бясспрэчна, звязана з укр. *багáття* 'агонь' (гл. Маш., 159). Народная этымалогія тлумачыць назву *багач* тым, што агонь можа зрабіць *багата* шкоды, унясе *багата* маёмасці (гл. Маш., там жа; таксама ўласныя запісы.— Р. К.). Патабня (ЖСт, 1891, 111, 117) лічыць, што ў аснове назвы ляжыць міфалагічнае ўяўленне агню багацеем, і параўноўвае з гэтым уяўленне ў Рыгведзе Агні-домаўладыкі валадаром багаццяў. Сюды ж *багáч, багáтнік* 'свята 8.IX' (Шат., Інстр. II).

**Багда́й**, *бадáй* (Нас., Касп., Шат., Бяльк., Др.-Падб., Гарэц., Булг., Бесар.). Рус. *богдáй, бодáй*, укр. *богдáй, бодáй*, польск. *bodaj*, чэш. *bodejt', bohdejt, bo(h)dejž*. Усё з *бог дай* 'дай бог' (формы тыпу *бадáй* скарачэннем, гл. Слаўскі, 1, 38). Брукнер, 34; Слаўскі, 1, 38; Махэк$_2$, 59; Фасмер, 1, 183. Зяленін (Табу, 2, 98 і наст.) лічыў гэты выраз табуістычным. Параўн. яшчэ Кісялёў, Частицы, 118—119.

**Багда́н** 'пазашлюбнае дзіця, падкідыш' (Касп., Нас.). Азначае ўласна 'дадзены богам'. Параўн. рус. *богданёнок, богданыч, богодáненок, богодáнное дитя, богодáнный* 'тс'.

**Баге́ма**. Рус. *богéма*, укр. *богéма*. Запазычанне з франц. *bohème* 'тс' (першапачаткова мела значэнне 'цыганшчына', далей 'цыганскі спосаб жыцця'), якое паходзіць ад *Bohême* 'Багемія, Чэхія (цыгане з'явіліся ў Еўропе іменна з Чэхіі; першыя звесткі пра іх былі ў ст.-чэш. Хронікі Даліміла XIV ст.). Параўн. Махэк$_2$, 59; Шанскі, 1, Б, 150.

**Баге′т.** Рус. *багéт,* укр. *багéт.* Запазычанне з франц. *baguette* 'тс' (<італ. *bacchetta*). Падрабязней гл. Фасмер, 1, 102; Шанскі, 1, Б, 6.

**Багі′** 'абразы' (Інстр. II). Рус. *бог, бóги, богá,* укр. *біг* 'тс'. Метафарычнае ўжыванне слова *бог* (гл.), вядомае ва ўсх.-слав. мовах.

**Багі′ня.** Рус. *богúня,* укр. *богúня,* польск. *bogini,* чэш. *bohyně,* ст.-слав. **богꙑни**, серб.-харв. *бо̏гиња* і г. д. Прасл. *bogyńi,* утварэнне архаічным суфіксам *-yńi* ад *bogъ* (гл.). Параўн. Слаўскі, 1, 39. Да словаўтварэння гл. Зубаты, AfslPh, 25, 355—365; Мейе, Études, 457—458; Ваян, RÉS, 24, 181—184; Ляскоўскі, JP, 42, 1962, 171—187. Параўн. таксама Крэя, JP, 50, 1970, № 1, 25—33.

**Багла′й** 'гультай, абібок, лежабок, непаваротлівы чалавек' (Нас., Бяльк., Інстр. лекс., Др.-Падб., параўн. Гарэц.). Рус. дыял. *баглáй* 'гультай, дармаед', укр. *баглáй, баглíй.* Фасмер (1, 102) лічыць, што выходзіць трэба з **баглáй* 'кавалак дрэва' (адносна семантыкі параўн. *дуб* 'дрэва; дурны чалавек'), і параўноўвае гэта слова з *багóр,* рус. *багáй, багáн* 'жардзіна з кручком; доўгая жардзіна' і г. д. Але ўся гэта група слоў не мае надзейнай этымалогіі. Анышкевіч (Словарь, 64) параўноўвае з серб.-харв. *ба̏гља* 'звязак сена, саломы', рум. *a se bâhlí* 'псавацца, гнісці'. Няясна.

**Ба′глы** 'губы' (бел. арго; Рам., IX). Як і большасць аргатычных слоў, цёмнага паходжання. Можна параўноўваць з укр. арго: *баглáйка* 'губа' (Гнацюк, Лірн., 9), *балáйка* 'тс' (Баржкоўскі, Лирн., 704). Паколькі сустракаецца семантычнае хістанне 'губы∼грыбы' (параўн. значэнне прасл. *gǫba, gribъ, vr̥g(a)* у паасобных слав. мовах), то можна меркаваць, што выходным з'яўляецца слова са значэннем 'грыбы' (ва ўкр. арго ёсць *баглаї* 'грыбы', але пра яго паходжанне сказаць штосьці пэўнае вельмі цяжка).

**Ба′гма** 'багна' (Касп., Бяльк., Яшкін). Відавочна, нейкая дыялектная змена (фанетычная ці марфалагічная?) першапачатковага *бáгна* (гл.).

**Ба′гна**$_1$ (ж.) 'топкае балоцістае месца' (Нас., Касп., Бяльк.), *бáгна, бэ́гна* (Шат.), *багнó, багóн, багóнне.* Укр. *багнó,* рус. дыял. (зах., паўд.) *багнó,* польск. *bagno,* чэш., славац. *bahno,* славац. *bahurina* 'лужына', в.-луж. *bahno,* н.-луж. *bagno* 'багна', *bagan* 'балота каля крыніцы', *bagi* (мн.) 'балота, балотная зямля'. У паўд.-слав. мовах гэтага слова няма. Аб пашырэнні слова ў бел. і слав. мовах гл. Талстой, Геогр.,

154—157; Яшкін. Прасл. *bagno* або *bagъno* (гл. Бернекер, 38; Лорэнц, Pomor., I, 13). Бясспрэчнай этымалогіі няма. Магчыма, роднаснае ст.-н.-ням. *bah* (ням. *Bach*) 'ручай', ст.-ісл. *bekkr,* ірл. *búal* 'вада' (**bhoglā*). Бернекер, 38; Праабражэнскі, 1, 11; Фасмер, 1, 102 (супраць Цупіца, Gutturale, 160; Брукнер, KZ, 48, 207; іначай Фік-Торп, 3, 257; параўн. да гэтага Бернекер, 55). Ван-Вейк, IF, 24, 231—232 (таксама Бенвяніст, Индоевр., 36; Слаўскі, 1, 25), выстаўляе і.-е. гетэраклітычнае **bhaghro-*: **bhaghno-,* параўноўваючы з гал. *bagger* 'твань'. Трубачоў, Серболуж. сб., 159—160 (параўноўваючы з ст.-в.-ням. *bah*), зыходзіць з прасл. *bagъ* (параўн. н.-луж. *bagi*) з вытворнымі *bagnъ, bagno* і запярэчвае гетэраклітычную аснову *-r/n-* тыпу. Брукнер, 11; Младэнаў, РФВ, 68, 377 (да гэтага схіляецца і Фрэнкель, 689), знаходзяць сувязь з *bagrъ* («багровае балота»); параўн. і ўкр. *багри́на* 'багна, багатае крыніцамі месца'. Буга (РФВ, 70, 100) параўноўвае з літ. *bojus* 'багністае месца'. Машынскі (Uwagi) знаходзіць сувязь з назвай расліны *багу́н* (*багно́, баго́н*, гл.); Талстой (Геогр., 158) гаворыць аб сінкрэтычнасці значэння: *'багна, зарослая багуном'. Матл (гл. Махэк$_2$, 42) думае пра роднаснасць з грэч. σφάγνον 'мох'. Неверагодна Махэк$_2$, 42: роднаснасць з лац. *stāgnum* 'багна' (з «вертыкальнай» заменай гукаў *st-b*). Насуперак Голубу—Копечнаму, 63, няма сувязі з літ. *bognas* (гэта запазычанне з усх.-слав. моў, гл. Буга, Rinkt., III, 46).

Этымалогія застаецца адкрытай. Неабгрунтована Львоў, ЭИРЯ, IV, 67—68; Агіенка, Иноз. элем. 71; Кюнэ, Poln., 42, аб запаз. бел., укр. *ба́гна, багно́* з польск. мовы.

**Ба́гна**$_2$ 'вадаварот у рацэ' (віцеб.), *ба́гня* 'глыбокае месца ў рацэ' (Талстой, Геогр., 156). Семантычнае вытворнае ад *ба́гна* 'балота' (гл.), што адлюстроўвае пераход тэрміна з сферы балотных тэрмінаў у сферу водных. Падрабязней гл. Талстой (там жа).

**Ба́гна** 'бруд, гразь (на дарозе, на вуліцы)' (Янк. Мат.; карэліц.). Мяркуючы па выбухному *г*, запазычанне з польск. *bagno* (параўн. спрадвечна бел. *ба́гна, багно́*).

**Багне́т** 'штык' (Нас.). Укр. *багне́т, багні́т, ба́гнет*, рус. (старое) *багинет,* таксама *баянет* (XVII ст., гл. Фогарашы, SSlav., 4, 64). Запазычанне з польск. *bagnet* 'тс' (<ням. *Bajonett* або непасрэдна з франц. *bayonnette, baïonnette,* ад назвы мясцовасці *Bayonne* ў паўднёвай Францыі, дзе выраблялі штыкі). Брукнер, 10—11; Махэк$_2$, 42; Рыхардт, Poln., 32; Кюнэ, Poln., 42; Клюге, 45.

**Багно'ўка** 'расліна Empetrum nigrum L.', таксама *багнаўка* (Кіс.). Ад *багна* (гл.). Па месцу бытавання расліны (сустракаецца на сфагнавых балотах і ў сасновых лясах).

**Багня'₁** 'ягня, баранчык' (Нас.). Параўн. ст.-укр. *багня* (XVII ст.) 'тс', чэш. *bahnice* 'аўца, што хутка дасць патомства', славац. *bahniatko* 'ягня' і г. д. Да геаграфіі слова параўн. Машынскі, JP, 11, 142—145. Утварэнне на аснове слав. **bagniti sę* || *(j)agniti sę* 'ягніцца, цяліцца' (форма з *b-* узнікла прэфіксальнай дэкампазіцыяй: *ob-agniti sę*→*o-bagniti sę*→*bagniti sę*: польск. *bagnić się*, чэш. *bahniti se*, балг. *бáгни се* і г. д., гл. Ільінскі, PF, 11, 184; Машынскі, JP, 11, 145—147; Лорэнц, Pomor., I, 13; Лер-Сплавінскі, O pochodzeniu, 159 і наст.; Махэк₂, 221; Брукнер, 197; Бернекер, 24). А ўсё-такі ці не запазычанне гэта ў бел. і ўкр. мовах з зах.-слав. моў?

**Багня'₂** 'пушыстая пупышка на вярбе' (Нас.). Параўн. *бáгнята* ў Бярынды, 189: «*Вáïе: прýтье финíково, рóзки дактѷлу, або полмóвого дéрева, з квѣтом лозá, бáгнѧта, шутки*». Укр. *багня́, багнíтка* 'каташок, коцік на дрэве', польск. *bagniątko* 'тс' і г. д. Да *багня́₁* (коцікі на дрэве, асабліва пушыстыя, часта носяць назву *ягня,* параўн. яшчэ ўкр. *бáзька* 'аўца; коцік на дрэве'; слав. *(j)agnędъ*: чэш. *jehněd* 'тс'; Бернекер, 25). Параўн. Махэк₂, 221; Бернекер, 25; Брукнер, 197; Ільінскі, PF, 11, 184.

**Баго'н** 'высокае месца' (мінск. абл.; Талстой, Геогр., 155). Талстой (там жа, 155—156) лічыць, што тут вынік семантычнага працэсу развіцця па прынцыпу «верх»↔«ніз», г. зн. «багна»→«ўзгорак». Гл. яшчэ (Талстой, там жа, 98—103, 161) рад падобных семантычных паралелей на прыкладзе іншых тэрмінаў.

**Баго'р.** (Бяльк.). Рус. *багóр*, укр. *багóр.* Вельмі няяснае слова. Насуперак Фасмеру, 1, 102, відаць, усё-такі не славянскае. Але адкуль? Нічога не дае параўнанне (Гараеў, 8; Ільінскі, ИОРЯС, 24, I, 121) з рус. *багáй, багáн* 'шост' і ст.-англ. *becca* 'кірка', с.-в.-ням. *bicke* (Ільінскі, там жа; Фасмер, 1, 102, параўн. і Ван-Вейк, IF, 24, 232). Шмат версій пра запазычанне (Мікала, Berühr., 80; Мацэнаўэр, Cizí sl., 100; параўн. і Карловіч, Wyrazy obce, 21; Праабражэнскі, I, 11; агляд гл. Фасмер, 1, 102). Праеўрапейскім лічыць гэта слова Махэк₁, 22, але яго параўнанне з ням. *Felge* не пераконвае. Насуперак Бернекеру, 38, Праабражэнскаму, 1, 11, Фасмеру, 1, 102, Махэку₁, 22 і Шанскаму, 1, Б, 7, іншага паходжання ўкр. *бáгор*, славац. *bahor* і г. д. 'частка вобада кола' (усё

гэта з славац. мовы, дзе *bahor*<*běhor* да *běgъ*, *běgati*, параўн. Краўчук, Бел.-укр. ізал., 39).

**Баго́с** 'нязграбны чалавек высокага росту' (Грыг.). Напэўна, запазычанне. Параўн. укр. *бе́гас* 'бяспутны, нягоднік', *би́гасень* 'дурань, дубіна', польск. *bigas*, чэш. *bigas* (Брукнер, 27, бачыць першакрыніцу ў ням. *Bicke* 'кірка', а Махэк₂, 54, у венг. *bibasz* 'дурны').

**Багоўка** 'божая кароўка' (Інстр. лекс.). Вытворнае ад *бог* (гл.). Божую кароўку ў многіх мовах называюць «божай жывёлінай». Параўн. бел. *божая кароўка,* рус. *божья коровка,* укр. *божа коровичка,* польск. *boża krówka*, ням. *Herrgottsschäfchen, Herrgottskühlein, Gotteskälblein,* рум. *vaca-domnului* (насякомае Lygaeus equestris, падобнае да божай кароўкі), фін. *jumalanlehmä* і г. д. Параўн. Фасмер, 1, 184.

**Ба́гра** 'пурпурная фарба'. Гл. *багро́вы.*

**Багра́к** 'няроўнасць, шурпатасць', *баграковáтый* 'кручкаваты' (палес., Клім.). Цёмнае слова. Хутчэй за ўсё да *бугóр* 'няроўнасць' з дыялектнай зменай ненаціскнога *у*>*а*.

**Багро́вы** (ст.-бел. *багровый,* параўн. Бярында, 239: *багровая фарба;* у яго ж *багрян* 'баграны', 228; *багряни́ца,* 217), *ба́гра* 'пурпурная фарба' (Нас.), *багравíзна* 'пляма ад удару на целе', *ба́гравіць* 'крывавіць, пачырваніць' (Нас.). Рус. *ба́гор, багр* 'пурпурны колер', укр. *ба́гор,* ст.-слав. **багрити, багръ**, балг. *ба́гря* 'фарбую чырвоным' і г. д. У зах.-слав. мовах гэтага слова няма. Паходжанне няяснае. Магчыма, роднаснае з грэч. φώγω 'пяку, смажу, абпальваю', ст.-в.-ням. *bahhan* 'пячы', Фасмер, 1, 103. Няпэўным з'яўляецца параўнанне Младэнава, 39, РФВ, 68, 373 з гал. *baggaert* 'твань', слав. *bag(ъ)no* і балг. *божу́р* 'мак'. Неабгрунтавана Праабражэнскі, I, 11 (<гоц. *fagrs,* ст.-в.-ням. *fagar* 'прыгожы'; супраць Фасмер, 1, 103). Локач (107) лічыць запазычаннем з араб. *mağra* 'прыродная чырвоная фарба'. Не пераконвае Львоў, ЭИРЯ, IV, 66—71: <*ba-gъr (ba-* ўзмацняльная частка, *gъr* — да *gorěti)*. БЕР, 1, 24—25: <i.-e. **bhōgh-ro- (*bhāgh-ro-)* 'тапіць, мачыць' (параўн. грэч. βάπτω 'патапляю, таплю, акунаю', βαπτός 'ярка пафарбаваны, яркага колеру'); Лапацін (Исслед. ист. лекс., 250—252) дадае і іншыя паралелі. Менгес (UAJb, 31, 177—178) стаіць за цюрк. крыніцу (яго падтрымлівае Трубачоў, Серболуж. сб., 160).

Пашырэнне слова ва ўкр. дыялектах (параўн. назвы для кароў і валоў: *багрíй, ба́гря;* для сліў: *багру́ля* і г. д.; для раслін: *багри́на, багрове́ць)* робіць няпэўнай думку аб запа-

зычанні наогул гэтага слова з паўд.-слав. моў (так Цімчанка, 48; КЭСРЯ, 26).

**Багу'к,** *богу́к, бэгу́к* 'нашпігаваны свіны страўнік' (палес., Вешт.). Бясспрэчна, запазычанне. Параўн. укр. *богу́н* 'страўнік жывёлы', *божо́к, бог* 'свіны страўнік (як яда)', польск. (ст.) *boch* 'тулава вала', чэш. (ст.) *boch* 'тулава жывёліны'. З ст.-в.-ням. *bache* 'шынка; частка тушы'. Гл. Міклашыч, 16; Бернекер, 67; Брукнер, 33; Махэк$_2$, 59; Развадоўскі, RS, II, 108.

**Багу'н$_1$,** таксама *багно́, баго́н, баган, бахун, багульнік, бугу́н, баго́ннік* (гл. Кіс., Талстой, Геогр., 155). Рус. *багу́н, багу́нник, багу́льник,* укр. *багно́, багу́н, баго́н, багу́льник* і г. д. (Макавецкі, Sł. botan., 205), польск. *bagno.* Вытворнае ад **bag(ъ)no* 'багна' (гл.). Брукнер, 11; Фасмер, 1, 103; Слаўскі, 1, 25; параўн. яшчэ Мяркулава, ЭИРЯ, III, 16—17; Якобсон, Word, 7, 189; Машынскі, Uwagi; Талстой, Геогр. Але Абаеў (Зб. Фальку, 1—4) на аснове рэдкай рус. формы *вагульник* хоча бачыць сувязь з ням. *wachol* (у *Wacholder* 'ядловец') і асец. *waγyly* 'шыпшына'. Няпэўная думка (Машынскі, Pierw., 214) пра сувязь з **bagnę* (гл. *багня́*$_{1,2}$): у час цвіцення багун нагадвае воўну ягнят. Няправільна Сабалеўскі, AfslPh, 33, 477, ЖМНП, 1911, май, 162, пра роднасць з грэч. φηγός 'дуб', дар. φᾱγός, лац. *fāgus* 'тс' (акрамя семантыкі, тут і фанетычныя перашкоды: у грэч. і лац. словах і.-е. **-ĝ-,* якое б дало слав. **-z-*). Гл. таксама Шанскі, 1, Б, 8—9 (дзе прыводзяцца некаторыя новыя меркаванні). Параўн. *бахун.*

**Багун$_2$** 'расліна Cynoglossum officinale L., касталом лекавы' (Кіс.). Мабыць, назва перанесена з *багу́н*$_1$ 'Ledum palustre', таму што Cynoglossum, як і Ledum, мае вельмі непрыемны пах. Не выключаецца, што ёсць сувязь і з *ба́гна* 'балота' (бо расліна расце ў пясчаных месцах і на берагах рэчак).

**Бада'й.** Гл. *багда́й.*

**Бада'к** 'асот; вазон — сталетнік' (Сцяц.). Ад **бодак* да **bod-* 'калоць'. Параўн. *бадзяк* і ўкр. назвы для асота (Cirsium arvense): *бодак, бодяк, будяк* і г. д. Гл. Мяркулава, Очерки, 94—95.

**Бадан** 'расліна Bergenia Moench., бада́н' (Кіс.). Рус. *бада́н.* Бясспрэчна, запазычанне. Даль пад *бада́н* прыводзіць Saxifraga crassifolia і Dictamnus Fraxinella. Сапраўды, ва ўкр. мове Dictamnus называецца *бадьян.* Паводле Даля, *бада́н* — гэта скажонае *бадьян.* Да сямейства Saxifragaceae адносяцца між іншым Saxifraga, Bergenia. Магчыма, што

адбыўся перанос назвы з адной расліны (бадьян) на іншыя (бо ўсе яны лячэбныя).

**Бада′ць**$_1$, *бадану́ць* (Нас.), *бадлівы* (Шат.), *баду́н* 'бадлівы' (Нас.), *бадзючы* 'калючы; бадлівы' (Нас., Касп.), *басці, баду́* (Шат., БРС, КЭС, лаг.), *басціся* (Касп., Яруш.). Рус. *бода́ть* (ст.-рус. *бости*), укр. *бости́*, польск. *bóść, bodać*, чэш. *bůsti, bodati*, ст.-слав. **бости**, балг. *бода́*, серб.-харв. *бо̀сти, ба̏дати*. Прасл. *bosti, bodǫ* і ітэратыў *bodati, badati* (*bosti* адлюстроўваецца ў бел. мове ў *басці, баду́*, гл. Гарэц., Др.-Падб.). Параўноўваюць з літ. *bèsti, bedù*, лат. *badīt, badu* 'рыць, капаць', лац. *fodio* 'капаю, рыю', літ. *badýti, badaũ* 'калю'. І.-е. **bhed*-: **bhod*-. Бернекер, 66; Траўтман, 29; Фасмер, 1, 183; Фрэнкель, 41.

**Бада′ць**$_2$ 'дапытвацца, дамагацца' (Сцяшк.), 'меркаваць, разважаць; дамагацца, дапытвацца, вывучаць, даследаваць' (Інстр. лекс.). Ст.-бел. *бадати* 'вывучаць' (Гіст. лекс., 96; Булыка, Запазыч.; параўн. Бярында, 20, 50, 51). Ст.-укр. *бадатися* 'дапытвацца, дашуквацца'. Запазычанне з польск. *badać* 'тс' (гл. Цімчанка, 49; Жураўскі, Гіст. лекс., 196). Паходжанне польск. дзеяслова няяснае: 1) з **ob-ada-ti* да і.-е. **od*- 'нюхаць', Бернекер, 24; Ваян, RÉS, 19, 300; Махэк$_2$, 41; параўн. таксама Развадоўскі, RS, 1, 254; 2) ітэратыў да прасл. **bosti* 'калоць', Брукнер, 10; Слаўскі, 1, 25; асабліва Слаўскі, RS, 23 (1), 153. Неверагодна Штрэкель, AfslPh, 12, 452: <італ. *badare* 'звяртаць увагу'. Аддзеяслоўнае *бада́нне* 'разважанне; угадванне' (Нас.) таксама з польск. *badanie*, гл. Кюнэ, Poln., 42.

**Бадзе′йка** 'маленькая ражка' (Касп.). Рус. *бадья́*, укр. *баддя́, бадя́*. Запазычанне з цюрк. моў (параўн. каз.-тат. *badia, badiä*, тур. *badya* 'вялікая пасудзіна для вады; карыта' <перс. *bādye*). Бернекер, 37; Локач, 14; Фасмер, 1, 104.

**Бадзёры** (БРС). Беларускае пераўтварэнне слав. *bъdrъ*. Гэта форма пранікла і ва ўкр. мову (*бадьо́рий*). Гл. Булахоўскі, Питання, 165 (але Ляпуноў, НЗбЛен., III, 1—2, крыніцай укр. слова лічыць паўд.-рус. гаворкі). Параўн. яшчэ бел. *бо́дзер* 'храбры, бойкі' (Нас.).

**Бадзі′ла** 'рог каровы; той, хто бадаецца' (Касп.). Беларускае ўтварэнне суфіксам *-*(i)dlo* (што служыў для ўтварэння *nom. instrumenti* ў слав. мовах) ад дзеяслова *бада́ць, басці* (праўда, трэба было б чакаць **бадала*<**boda-dlo*). Магчыма, такога ж паходжання і балг. *бодúло* 'назва расліны' (калі не з **bodylь*).

**Бадзісто'ўка** 'хустачка з батысту' (Жд.), *бадзіставы* 'батыставы' (Шат.). З *бацістоўка, бацістaвы* (гл. *батыст*) з дыялектным азванчэннем інтэрвакальнага *-ц->-дз-*.

**Бадзыго'н₁** 'ежа з дранай бульбы, запечанай у чыгуне' (Вешт.). Параўн. укр. (валын.) *бадзьоні* 'тс' (Казачук, Бел.-укр. ізал., 32), *бадзі* 'від ежы з дранай бульбы, мукі, алею або сала, якая запякаецца і падаецца цёплай' (Яварніцкі, Словник). Слова няяснае. Магчыма, запазычанне (адкуль?). Параўн. укр. *бандз* 'бульба', *будз* 'высушаны тварог', *бундз* 'авечы тварог; вялікі кусок авечага сыру' (якое, відаць, мае рум. сувязі; да рум. слова *bulz* 'кусок мамалыгі з брынзай', параўн. Губшмід, Schläuche, 25—27).

**Бадзыго'н₂** 'штосьці груваcткае, вялізнае' (Клім.). Можна меркаваць, што гэта метафарычнае ўжыванне *бадзыгóн₁* (гл.): 'ежа, бабка, запечаная ў чыгуне (ежа няпэўнай формы, вялікая бабка)'→'штосьці няпэўнае, вялікае' (параўн. розныя значэнні слоў *бáба, бáбка*, якія азначаюць і 'ежу з бульбы').

**Бадзюлі** 'расліна Carduus crispus L., чартапалох кучаравы' (Кіс.). Бясспрэчна, утварэнне ад **bod-* 'калоць' (гл. *бадáць*) з суфіксам **-ul'a*, але ў бел. яшчэ экспрэсіўнае памякчэнне (**bodul'a>бадзюля*). Параўн. іншыя назвы чартапалоху: *будзяк, калючка* і г. д. Параўн. таксама (з іншым суфіксам) *бадзю́ка* 'бадлівая скаціна; калючая галоўка ў расліны' (Нас.).

**Бадзю'лька₁** 'калючка, востры шып у расліны — агрэсту, ружы' (Бяльк.); 'калючка ў вожыка; іголка ў расліны, шып' (Нас.); 'матавіла для наматвання нітак; калючка' (Касп.). Таго ж паходжання, што і назва чартапалоху — *бадзюлі* (<**bodati, *bosti* 'калоць'). Матавіла атрымала сваю назву па форме (шыпападобныя канцы).

**Бадзю'лька₂**, *бадзюлёк* 'што-небудзь маленькае' (Бір. Дзярж.). Назва, бясспрэчна, другаснага паходжання. Першапачаткова, напэўна, тое ж самае, што і *бадзю́лька₁* 'калючка; матавіла', потым 'маленькая калючка, маленькае матавіла і г. д.' >'што-небудзь маленькае'.

**Бадзя'га₁** 'вадзяная расліна, бадзяга' (Касп., Бяльк.), *бадзя́жнік* (Нас.). Рус. *бадя́га, бодя́га*, укр. *бадя́га* 'рачная губка, Spongilla'. Да **bosti, *bodati* 'калоць' (гл. пад *бадáць*). Першапачаткова 'калючая, пякучая расліна' (параўн. уласцівасць бадзягі выклікаць на целе апёкі).

**Бадзя'га₂** 'расліна Cirsium oleraceum Scop., бадзяк агародны' (Кіс.). Утварэнне суфіксам *-яга* ад **bod-* 'калоць' (гл.

*бада́ць*), такое ж самае, што і *бадзя́га* 'губка, бадзяга'. Параўн. іншыя назвы бадзяку, чартапалоху і асоту: *бадзяк, бадак, будзяк* і г. д.

**Бадзя'га₃** 'выдаўбаная калода для вадапою' (Гарэц.), 'карыта з выдаўбанага пня ля калодзежа' (Др.-Падб.). Відаць, вытворнае (суф. *-яга*) ад **баддзя* (параўн. *бадзе́йка*, гл.). Адносна семантыкі параўн. укр. дыял. *бадя́* 'драўлянае вядро ля калодзежа; калодзежны журавель'.

**Бадзя'к** 'расліна Cirsium, бадзяк палявы, агародны' (Бяльк.; гл. таксама Кіс.), *будзя́к* 'чартапалох, Carduus crispis L.' (Кіс.). Укр. *бодак, бодляк, бодлак* 'Cirsium', *бодак, будяк, бодяк* 'Carduus', рус. *будяк*. Параўн. чэш. *bodlák*, славац. *bodliak* 'Carduus', славен. *bodak* 'Carduus', ст.-польск. *bodłak, bodak, bodziak* 'тс'. Усё гэта незалежныя слав. утварэнні ад дзеяслова **bosti*, **bodati* 'калоць'. Гл. Махэк, Jména rostl., 255 (рус. формы, як лічыць Мяркулава, Очерки, 94—95, запазычаны з укр.). Параўн. і Слаўскі, 1, 38. Гл. яшчэ *бада́к*.

**Бадзякі** 'ежа з палявога маладога асоту; яго сякуць і вараць з квасам' (Шн. 3, Малчанава, Мат. культ.). Да *бадзя́к* 'Cirsium' (расліна Cirsium называецца і *бадзяком* і *асотам*). Наўрад ці можна думаць пра сувязь з іншай назвай ежы — *бадзыго́н* (гл.), укр. *бадзьоні, бадзі*.

**Бадзя'цца** 'бадзяцца, цягацца, валачыцца; валяцца' (Шат., Касп., Нас., Янк. Мат., Бір. Дзярж., Гарэц., Бяльк.), 'валяцца' (Жд.: *бадзялася скошаная трава*). Слова няяснага паходжання. Параўн. рус. дыял. (зах.) *бодя́ться* 'тс', польск. дыял. *badziać się, bodziać się* 'бадзяцца' (Карловіч: z Litwy). Даль выказвае (з запытаннем) не вельмі пэўную думку аб паходжанні ад *бода́ть* 'калоць, біць рагамі'. Магчыма, што гэта дзеяслоў экспрэсіўнага паходжання. Не выключаецца, што ёсць сувязь з *бадзя́ць* 'неахайна адносіцца, насіць (адзенне, абутак); пэцкаць' (гл.), укр. гуц. *ба́дити (абба́дити)* 'знайсці' (**baditi*<**ob-vaditi* да **vada* 'перашкода'; першапачаткова 'знайсці, перамагаючы перашкоды'→'шукаць, хадзіць шукаючы'→'бадзяцца'). Параўн. і палес. *бада́ццэ* 'пераадольваць цяжкасці; перабівацца' (Лысенка ССП). Тады ў *бадзя́цца* — экспрэсіўная палатальнасць (замест *бада́цца*). Наўрад ці ёсць сувязь з польск. *badać się* 'дапытвацца, дашуквацца'. Сюды ж *бадзя́га* 'валацуга' (Касп., Нас., Бяльк.).

**Бадзя'ць** 'пэцкаць, валачыць' (Др.-Падб.), 'неахайна адносіцца, насіць (адзенне, абутак)' (Янк. Мат.). Не вельмі яснае слова. Можна выказаць дагадку аб сувязі з *бадзя́цца*,

*бадáццэ* (гл.), дакладней, аб паходжанні гэтых дзеясловаў ад агульнай асновы *бад-* (<*обад-*<*об-вад-*; **vaditi* 'перашкаджаць'→'рабіць дрэнна, псаваць').

**Бадзя́чы** 'распусны' (Сцяшк. МГ). Бясспрэчна, да *бадзя́цца* 'бадзяцца, цягацца, валачыцца' (гл.). Стары дзеепрыметнік.

**Бадля́** 'рагатая жывёла' (ДАБМ), *быдлё* 'рагатая жывёліна' (Бяльк.). Укр. *бидля́* 'маладая жывёліна'. З польск. *bydlę* 'тс' (параўн. *bydło* 'жывёла'). У бел. *бадля́* дыялектная фанетычная змена (ненаціскное *ы*>*а*) або ўплыў дзеяслова *бадáць* 'калоць, біць рагамі'.

**Бадры́цца**$_1$ 'бадзёрыцца' (Шат.). Рэлікт на бел. тэрыторыі прасл. *bъdrъ* (гл. пад *бóдры*) 'бадзёры', вядомага ў паўд. і ўсх. славян. Замест *бодр-* у бел. мове шырока распаўсюдзілася новая форма — *бадзёр* (гл. пад *бадзёры*).

**Бадры́цца**$_2$ 'прыбірацца, аглядваць сябе' (Бяльк.). Дакладная адпаведнасць ёсць у рус. гаворках: *бодри́ться* 'прыбірацца, прыгожа апранацца і г. д.' Бясспрэчна, семантычным развіццём ад дзеяслова *бадры́цца* (гл.) 'бадзёрыцца'. Параўн. розныя значэнні слова *бодри́ться, бодрó, бóдрость* у рус. гаворках (СРНГ, 3, 56—57).

**Бады́ль** 'сцябло расліны' (Сцяшк., Мат. Гродз., 1960), *бады́лле* 'сцяблы, сцяблы і лісце гуркоў' (БРС; ДАБМ, 863), *бадыллё* (Сцяшк., Сцяшк. МГ, Бяльк.). Укр. *бади́лля, баді́лля, бадилó* 'сцябло, сцяблы раслін', рус. дыял. *бады́ль* 'сухое сцябло', *боды́ль, буды́ль*. У аснове ляжыць **badylь* (утварэнне суф. *-*ylь* ад **badati* 'калоць', ітэратыўнай формы да **bosti* **bodǫ*). Параўн. яшчэ рус. *бадылёк* 'расліна Galeopsis tetrahit' (іншая яе назва *колю́тик*), польск. *badyl, badel* 'сцяблы раслін', серб.-харв. *бадиљ* і (з іншым суфіксам) *бȁдаљ*, род. скл. *бадља* 'калючая расліна' (іначай *сјекавац*) і г. д. Брукнер, 10; Слаўскі, 1, 25; параўн. Фасмер, 1, 104; БЕР, 1, 62. Гл. таксама Трубачоў, Праспект, 40—41 (дзе праформа **bodylь* з вакалізмам «*о*» не пераконвае).

**Ба́ер** 'сажалка, ставок, рыбнік' (Нас., Яшкін). Запазычанне з польск. дыял. *bajor* 'тс' (таксама *bajoro, bajura* і да т. п.), паходжанне якога вельмі спрэчнае (або з ням. *Weiher* 'тс', або з **banior* да прасл. **ban'a,* гл. Слаўскі, 1, 26).

**Бае́ц.** Рус. *боéц,* укр. *боéць*. Ёсць і ў іншых слав. мовах. *Nom. agentis* з суфіксам *-*ьсь* ад слав. **bojь* 'бой, барацьба' (аблаутная форма да **biti* **bьjǫ*). Гл. Бернекер, 68. Іначай,

але неперакана̄ўча Шанскі, 1, Б, 152: ад *бои* 'баец, воін' (тады *баёц* было б памяншальнай формай!). Таго ж паходжання і *баёц* 'бітка' (Нас.).

**Баёвік** 'жакет ці кофта, пашытая з байкі' (Янк. Мат., маладзечн.). Можна думаць, што гэта запазычанне з польск. Параўн. польск. *baja* 'байка', *bajowy* 'байкавы'. Параўн. палес. *баёўка, баюўка* 'хустка з байкі' (Сакал.), бясспрэчна, з польск. *bajówka* 'спадніца з байкі ці іншай тканіны'. Параўн. *байка$_2$*.

**Бажаво́ліць** 'непамерна многа хацець' (Нас., Бяльк.), *бажаво́льны* 'пераборлівы, вычварны' (Нас.), *бажаво́лле* 'непамернае жаданне' (Нас., Бяльк., Др.-Падб., Гарэц.). Параўн. рус. *божево́литься* 'шалець, вар'яцець', *божево́льный* 'звар'яцелы; злосны, наравісты', укр. *боже́вілля* 'вар'яцтва', *боже́вільний* 'звар'яцелы', *божево́літи* 'вар'яцець'. У аснове гэтай табуістычнай назвы (розныя хваробы, вар'яцтва часта эўфемістычна называюцца божымі) ляжыць выраз *божая воля* (вар'яцтва—гэта тое, што бывае па божай волі). У бел. мове першапачатковая семантыка некалькі змянілася ('вар'яцтва'→'непамернае жаданне').

**Бажа́н** 'фазан' (Нас., Інстр. II), *базан* (Нас.); да гэтага апошняга параўн. *базано́вец*. Рус. дыял. *бажа́нт*, укр. *бажа́нт, бажа́нка* 'тс'. Запазычанне з зах.-слав. моў: польск. *bażant* (параўн. і чэш. *bažant*) <с.-в.-ням. *fasant* (<с.-лац. *phasanus, phasianus,* ад назвы рэчкі на Каўказе). Бернекер, 47; Рыхардт, Poln., 34; Брукнер, 18; Махэк$_2$, 49; Фасмер, 1, 104. Параўн. яшчэ Шварц, ZfslPh, 5, 125; Попавіч, ZfslPh, 24, 37; Клюге, 185.

**Бажа́ць** 'моцна жадаць, прасіць' (Нас.), *бажа́ць (быжа́ць)* 'хацець, жадаць' (Бяльк.). Ст.-бел. *бажати* 'прасіць' (Нас. гіст.: *бажати о помочь*). Рус. *бажа́ть, бажи́ть, бажа́нить, баже́нить,* укр. *бажа́ти, бажи́ти, бага́ти, багну́ти, багти, багчи,* польск. *zabagać,* чэш. *bažiti se, zabahnouti.* Вельмі няяснае слова. Знаходзяць сувязь з грэч. φώγω 'пяку, смажу', ст.-в.-ням. *bahhan* 'пячы'. Семантычная паралель: польск. *prażyć* 'абпальваць, смажыць, сушыць', *pragnienie* 'моцнае жаданне'; літ. *garas* 'выпарэнне, пара; моцнае жаданне'. Бернекер, 38; Фасмер, 1, 104—105. Іншыя версіі: 1) **bažati* — каузатыў да **běžati* (Остэн — Закен, IF, 22, 312 і наст.; супраць Бернекер, 38 і наст.; Ільінскі, ИОРЯС, 23, I, 127 і наст.); 2) сувязь з *бог* і грэч. φαγεῖν 'есці' (Ільінскі, там жа; супраць, Фасмер, 1, 105); 3) запазычанне з цюрк. (уйгур. *bakarmak* 'жадаць') неверагодна; 4) *bag-* 'жадаць' — метатэза з **gab-*

(параўн. літ. *gobėti* 'жадаць, вымагаць', *gobùs* 'прагны, скнара'); Петарсан, 5 і наст.; Махэк₁, 28; 5) сувязь з **bogatъ* (**bažati* 'хацець багацця', Голуб — Копечны, 67); 6) сувязь з **bag-* 'чырвоны, багровы' (**bažati* 'чырванецъ ад жадання', Голуб — Копечны, 67; параўн. таксама Брукнер, 19). Этымалогія застаецца няяснай.

**Бажні'ца** 'ўсякі нехрысціянскі храм, акрамя яўрэйскага' (Шат.); 'паліца або шафка пад абразамі' (Касп.). Рус. *божница* 'царква; язычаскі храм', укр. *божни́ця*. Параўн. польск. *bożnica* (раней кожная царква; сёння толькі яўрэйская; Брукнер, 34), ст.-чэш. *božnicě* 'язычаскі храм'. Ад *бог* (гл.). Фасмер, 1, 184 (там і некаторая літ-ра), прыводзіць паралелі, якія тлумачаць значэнне 'язычаскі, яўрэйскі храм': гоц. *gudhûs* іюдзейскі храм', ст.-ісл. *godahûs* 'язычаскі храм' Трубачоў (Этимология, 1965, 30) хоча бачыць сувязь паміж слав. *božьnica* і іран. **bagina-* 'храм', што, аднак, досыць праблематычна.

**Бажо'на** 'ханжа' (Гарэц., Др.-Падб.). Параўн. рус. дыял. *бажёна* 'наравістая; дарагая; ханжа'. Вытворнае ад *бажа́ць* 'жадаць' (гл.), рус. *бажа́ть, божи́ть* і г. д., укр. *бажа́ти* 'тс' *Бажо́на* — значыць 'выбраная, адзначаная богам'.

**Бажы'цца**. Рус. *божи́ться,* укр. *божи́тися.* Параўн. і чэш. дыял. *božit' sa.* Утварэнне ад **bogъ* (гл.). Першапачаткова 'прысягацца богам'. Параўн. і ўкр. *богми́тися* 'бажыцца' (<*біг, бог ме* ('няхай мяне бог!').

**Баз** 'ферма'. Гл. *ба́за₂*.

**Ба'за₁** 'база'. Рус., укр. *ба́за.* Запазычанне з зах.-еўрап. моў (ням. *Base* або франц. *base* <лац. *basis* <грэч. βάσις). Фасмер, 1, 105; Шанскі, 1, Б, 9 (апошні не ўлічвае магчымасць запазычання рус. мовай гэтага слова ў розныя часы). Параўн. таксама Кохман, Kontakty, 36, які прымае польскае пасрэдніцтва пры запазычанні ўсх.-слав. мовамі, і Гютль-Ворт, For. Words, 51.

**Ба'за₂** 'зборачны пункт для жывёлы і г. д.' (Яшкін), 'калгаснае памяшканне для збожжа; калгасны двор' (Лысенка ССП). Можна думаць, што падабенства з *ба́за₁* (гл.) толькі выпадковае. Зыходзячы з семантыкі слова, можна прыцягваць для параўнання бел. *баз* 'жывёлагадоўчая калгасная ферма' (Яшкін), рус. дыял. *баз, базо́к* 'загарадзь, скацінны двор; месца, дзе робяцца кізякі; двор', укр. *баз* 'загарадзь для жывёлы', *база* 'хлеў', якія, відавочна, запазычаны з цюрк. моў (каз.-тат., караім. *baz* 'яма, склеп' >калм. *bas*

'скацінны двор'). Гл. Фасмер, 1, 105. Параўн. таксама Будагаў, I, 225. Агляд іншых версій гл. Фасмер, там жа. Трубачоў (Этимология 1965, 41) не пераканаўча выводзіць гэтыя словы з гіпатэтычнага іранскага **baza.*

**Базано'вец** 'расліна Lysimachia nummularia L., лазаніца' (Кіс.). Рус. *бажа́новец, база́новец,* ст.-укр. *базановець,* укр. дыял. *зановець* (усечаная форма). Запазычанне з польск. *bazanowiec* 'тс' (да *bażant* 'фазан', параўн. семантычную паралель назвы расліны — ням. *Fasanenkraut).* Гук *-z-* замест *-ż-* тлумачаць польскім мазурэннем. Фасмер, 1, 104; Карловіч, Wyr. obce, 40 і наст.

**База'р**$_1$ 'рынак, базар' (БРС, Бяльк.). Рус. *база́р*, укр. *база́р.* Запазычанне з цюрк. моў (з цюрк. дыял. *bazar,* параўн. тур. і г. д. *pazar*<перс. *bāzār*). Гл. Праабражэнскі, 1, 12; Локач, 23; Фасмер, 1, 106. Параўн. таксама Шанскі, 1, Б, 10, дзе ўказваецца на тат. мову як на крыніцу запазычання.

**База'р**$_2$ 'плошча, пляц' (Яшкін, Лысенка ССП). Таго ж паходжання, што і *база́р*$_1$ (гл.). Семантычны зрух такі ж, як і ў рус. дыял. *база́р* 'вуліца'. У правінцыі базары раней заўсёды былі і цэнтрам «грамадскага» жыцця.

**Базары'нка,** *базары́нак* 'падарунак, куплены на базары' (Нас.), *базары́нкі* 'тс' (Гарэц.). Укр. *базари́нка, басаври́нок, басари́нок, басари́нка, басари́мок* 'хабар, падарунак', *басару́нок* 'сена або трава, якую даюць карове ў час даення'. Рус. дыял. *баса́ри́нка* 'праца для гаспадара за арэнду зямлі'. Запазычанне з польск. *basarunek* 'кампенсацыя' (<с.-в.-ням. *bezzerunge* 'паляпшэнне, выпраўленне'; параўн. ням. *Besserung).* Карловіч, Wyr. obce, 37; Корбут, PF, 4, 402, 496; Брукнер, 17; Фасмер, 1, 130. Формы з *-з-* другасныя (па народнаэтымалагічнаму асэнсаванню ў сувязі з *база́р).*

**База'рыць** 'лаяць' (Бір. Дзярж.). Параўн. рус. дыял. *база́рить* 'голасна размаўляць, крычаць, шумець, лаяцца'. Мабыць, вытворнае ад *база́р*$_1$ (першапачаткова 'лаяцца, крычаць, як на базары'). Наўрад ці ёсць сувязь з *базла́ць, базы́каць, базі́каць* (гл.), рус. *база́нить, базла́нить* 'шумець, крычаць'.

**Базграні'на** 'ўсялякая ўсячына, мешаніна', 'лухта, бязглуздзіца' (Нас.). Запазычанне з польск. *bazgranina* 'каракулі, мазня' *(bazgrać* 'незразумела пісаць, пэцкаць паперу'; у польск. мове гэта наватвор з XVIII ст., паходжанне яго няяснае, гл. Брукнер, 18; Слаўскі, 1, 29; вельмі няпэўна Махэк$_2$, 49: пераробка слова *skrabać).*

**Базі′каць** 'гаварыць тое-сёе; плясці глупства, пустасловіць' (Нас.), *базы́каць* 'гаварыць абы-што' (Бяльк.). Слова не вельмі яснага паходжання. Параўн. рус. дыял. *базли́ть, базла́нить, база́нить* 'крычаць', *бази́кать, базю́кать* 'плявузгаць, гаварыць і г. д.', укр. *базікати* 'плявузгаць', *базувать* 'гаварыць', *ба́зі* 'гутарка, базіканне'. Версій вельмі многа (агляд гл. Фасмер, 1, 106, параўн. і Бернекер, 47), але найбольш верагоднае, відаць, гукапераймальнае паходжанне гэтых слоў, як і грэч. βάζω 'базікаю, гавару' (аб грэч. слове. гл. Фрыск, 1, 206—208, таксама Покарны, 91—92). З *базікаць,* магчыма, звязана і *базла́ць* 'моцна крычаць' (гл.).

**Базіліка** 'расліна Acinos Moench. arvensis, душыца палявая' (Кіс.). Параўн. рус. *базилик* 'Ocimum basilicum', *базилика* 'Clinopodium', укр. *базилик* 'Calamintha Clinopodium', чэш. (ст.) *bazylika* 'Ocimum basilicum' і г. д. Крыніцай гэтых назваў з'яўляецца лац. *basilicum* (<грэч. βασιλικόν 'каралеўскі', гл. Махэк$_2$, 49). Параўн. яшчэ Мяркулава, Очерки, 138, 140.

**Базла′ць** 'моцна крычаць' (Сцяшк. МГ). Параўн. рус. дыял. *базла́ть* 'ілгаць', *базли́ть, базла́нить, база́нить* 'крычаць', *базло́* 'горла'. Слова няяснага паходжання. Агляд розных версій гл. Бернекер, 47; Фасмер, 1, 106. Магчыма, гукапераймальнага паходжання, як і грэч. βάζω 'гавару, базікаю' (аб грэч. слове гл. Фрыск, 1, 206—208). Сюды ж можа адносіцца і *базікаць* 'гаварыць' (гл.).

**Базу′манка,** *безў́менка* (палес.) 'дошка таўшчынёй 50 мм' (Лысенка Жыт.); *бязў́мінка* 'тонкая дошка, менш цалі' (Бяльк.). Параўн. укр. *безименка* 'дошка таўшчынёй менш вяршка, але таўсцейшая за шалёўку' (Грынч.), рус. *безыме́нка, безымя́нка* 'тс', *безымя́нники* 'бярвенні, якія кладуцца замест фундамента'. Першапачаткова назва дошкі «без імя, без назвы» (параўн. яе вызначэнне: «менш..., але таўсцей...»), дошка без пэўнай назвы. Параўн. Даль.

**Базу′рны** (палес.; Маш. 281: *«пра маладых хлопцаў і дзяўчат кажуць: базурные або потвурные»*). Відавочна, тое ж самае, што і дзеясловы *абазурыць, абазырыць* і пад. (гл.).

**Ба′іць** 'гаварыць, пускаць чуткі; малоць глупства, пустасловіць; расказваць казкі' (Нас., Бяльк.), *ба́яць* (Шат., Касп.). Рус. *ба́ить, ба́ять,* укр. *ба́яти* 'апавядаць; вядзьмарыць', польск. *bajać,* чэш. *bájiti* 'гаварыць', балг. *ба́я* 'вядзьмару', серб.-харв. *ба̏јати* 'тс' і г. д. Прасл. *bajati bają* да і.-е. **bhā-* (:**bhō-*) 'гаварыць': ст.-грэч. φημί, φᾱμί 'гавару' φήμη,

φᾶμα 'голас, чуткі', φωνή 'голас', лац. *fāri* 'казаць', *fāma* 'слава, чуткі, апавяданне і г. д.' Бернекер, 39; Фасмер, 1, 140; Кюнэ (Poln., 42) лічыць паланізмам (польск. *bajanie*) і аддзеяслоўнае *ба́енне* (Касп., Нас.). Няпэўна.

**Бай** 'багацей'. Рус., укр. *бай.* Запазычанне з цюрк. моў (*bai* 'багаты'). Гл. Фасмер, 1, 106. Шанскі (1, Б, 11) лічыць, што крыніцай запазычання была татарская мова. Параўн. яшчэ Дзмітрыеў, Тюрк. эл., 18.

**Байба'к** (Нас.), *баба́к* 'сурок; гультай, лежань'. Рус., укр. *байба́к, баба́к* 'тс'. Лічыцца запазычаннем з цюрк. моў, але крыніца дакладна невядомая (параўн. караім. *baibaχ, baidbaχ* 'паганы', тур.-перс. *bedbaht* 'няшчасны чалавек', тат. *bajbak* 'сурок'). Агляд праблематык гл. Праабражэнскі, 1, 12; Фасмер, 1, 107; Локач, 16; Заянчкоўскі, JP, 19, 37; Заянчкоўскі, Stud. orient., 42—43; Дзмітрыеў, Тюрк. эл., 43.

**Ба'йбас** 'вялізны чалавек, гультай' (Касп.), *байбо́с* 'вялізны, нязграбны мужчына' (Нас.), *ба́йбус* 'вялізны, нязграбны чалавек, гультай' (Шат., Гарэц., Янк. БП, Др.-Падб., Бяльк., Сцяц.), 'дурань' (Сцяц.). Рус. *ба́йбус, бе́йбус* 'ляніві', *бе́йбас* 'дурань', укр. *бе́йбас* 'дурань, вялікі нехлямяжы чалавек' (таксама *бе́льбас, бе́лбас*). Паводле Фасмера, 1, 145, запазычанне (у другой частцы выразу дыял. форма тур. *baš* 'галава'). Але зыходзячы з укр. паралельных форм *бе́льбас, бе́лбас,* можна думаць і пра сувязь з рус. *балбе́с* (да гэтага гл. Фасмер, 1, 114): параўн. змену ва ўкр. дыялектах: *л'→й.*

**Ба'йда**$_1$ 'барка, лайба' (Гарэц.), рус. *ба́йда* 'баржа', укр. *ба́йда* (паўдн.) 'від пласкадоннай лодкі'. Паводле Фасмера, 1, 107, сюды ж рус. *байда́к* 'баржа; брус', *байда́ра* 'рачное судна'. Усе гэтыя словы лічацца запазычаннямі з усх. моў. Паводле Шанскага, 1, Б, 12, усе гэтыя словы ўтвораны ад *ба́йда* рознымі суфіксамі, а *ба́йда*<*бадья* 'пасудзіна' (цюрк., параўн. *бадзе́йка, бадзя́га*). Параўн. *ба́йда*$_2$ і *байда́к.*

**Ба'йда**$_2$ 'паля' (Нас., Гарэц.). Параўн. ст.-укр. (XVII ст.) *байда* 'паля, вялікае завостранае бервяно', якое Цімчанка (50) лічыць запазычаннем з ням. *Beute* 'карыта; вулей' (>польск. *bajda* 'начоўкі'). Гл. таксама Клюге, 71—72 (дзе прыводзяцца роднасныя герм. формы; між іншым са значэннем 'дошка; край лодкі, чаўна'). Усё ж такі паходжанне слова застаецца няясным. Параўн. яшчэ рус. дыял. *байда́к* 'тоўстая дошка для падлогі або столі', якое Фасмер, 1, 107, звязвае з *байда́к* 'лодка' (гл.).

**Байдак** 'рачное судна' (Інстр. лекс.; ужо ст.-бел., гл. Нас.

гіст.; Гіст. лекс., 139). Рус. *байда́к,* укр. *байда́к.* Мабыць, як думае Фасмер, 1, 107 і Шанскі, 1, Б, 12, звязана з *ба́йда*$_1$ (гл.). Заянчкоўскі, Stud. orient., 97, відаць, лічыць, што *байда́к,* магчыма, кыпчацкае слова.

**Байда′н** 'зямля, пакінутая для пашы' (Нас.), 'адкрытае месца' (Касп.), 'месца на сенажаці, дзе расце толькі маленькі густы сівец, а іншая трава не расце' (докш., Янк. Мат.), 'будан, выган'. Рус. дыял. *байда́н* 'пустэча, незабудаванае месца; узвышша; карагод, вясёлая гульня на паветры'. Ужо Даль лічыў, што гэта, магчыма, змена слова *майда́н.* Гэта версія пераконвае. Гук *б-* на месцы *м-* можа быць вытлумачаны фанетыкай цюркскіх моў (у некаторых мовах пачатковае *м-* пераходзіць у *б-*). Адносна значэння параўн. шырокую семантыку слова *майда́н,* якая амаль поўнасцю супадае ў гэтых словах. Параўн. і рус. дыял. *буйда́н* (тульск.), *буя́н* 'адкрытае з усіх бакоў, узвышанае месца, базарная плошча; амбар', якое Трубачоў, Дополн., 1, 257 (пад *буя́н*), таксама лічыць цюрк. варыянтам слова *майда́н.* Параўн. *буда́н.*

**Байда′рка** 'від лодкі'. Рус. *байда́рка,* укр. *байда́рка* і г. д. Слова не вельмі яснага паходжання. Магчыма, як і *байда́к* (гл.), адносіцца да *ба́йда* 'барка' (ад якога ўтворана суфіксам *-ар(к)а).* Такую магчымасць дапускаюць Фасмер, 1, 107, і Шанскі, 1, Б, 12 (апошні *ба́йда* выводзіць з *бадья* <цюрк.).

**Байдарынка** 'месца, зарослае ядлоўцам' (Булг.). Вельмі цёмнае слова, без дакладных адпаведнасцей у іншых мовах. Можна толькі ўказаць на рус. дыял. (варонеж.) *ба́дар* 'буйное пустазелле, што расце на лугах і тлустых землях' і *бадары́жина* 'палка, дубец, уваткнуты ў зямлю', але гэта параўнанне вельмі ненадзейнае, бо і рус. словы не маюць этымалогіі.

**Байдо′сіць** 'біць' (Нас.). Да *ба́йда* 'паля'. Параўн. *байдо́саваць* 'біць байды' (Нас.).

**Ба′йды біць** 'займацца не справай, а глупствам; плявузгаць' (Нас., Гарэц., Др.-Падб.). Рус. дыял. *ба́йды бить,* укр. *би́ти ба́йди.* Магчыма, скарачэннем на аснове ўкр. *би́ти ба́йдики,* рус. дыял. *бить ба́йдики* 'тс' (аб гэтым Краўчук, УМШ, 1960, № 6, 60). Параўн. рус. *байди́к, байти́к, ба́дик, бадо́к, бати́к* і г. д. 'палка, дубец, жардзіна' (*бить ба́йдики* = рус. *бить баклу́ши,* да апошняга гл. Праабражэнскі, 1, 13; Фасмер, 1, 110). Слаўскі (1, 25) хоча тут бачыць *bajda* (ад *bajati* 'гаварыць') 'пустаслоў'. Неверагодна Парасунька, НЗКіеўПІ, XXXIII, 1963, 105—109 (запазычанне з фін.-уг. моў; параўн.

комі *байдöг* 'курапатка'; выраз азначаў 'лавіць курапатак'). Нас. адносіў да *бáйда* 'паля'.

**Ба́йка**$_1$ 'казка, басня, небыль' (Нас., Шат., Касп., Бяльк.), 'гаворка, мова' (Хрэст. дыял., 333). Рус. *бáйка,* укр. *бáйка* і г. д. (гл. Шанскі, 1, Б, 12—13). Слав. *bajьka,* вытворнае з суфіксам *-ьka* ад **bajati* 'гаварыць; вядзьмарыць'. Махэк$_1$, 22; Слаўскі, 1, 25. Ужо ў ст.-бел. мове: 'казка, басня, выдумка' (Нас. гіст.), 'выдумка' (Бярында, 5).

**Ба́йка**$_2$ 'саматканая спадніца' (Бяльк.), 'спадніца, сатканая з ільну і сукна' (ДАБМ, 934), *бáйка* 'від тканіны', рус., укр. *бáйка.* Запазычанне з польск. *baja, bajka* 'тс' (<гал., ням. *baai, Boi*<лац. *badius* 'светла-карычневы'). Гл. Фасмер, 1, 107; Шанскі, 1, Б, 12. Параўн. *баёвік (баёўка, баюўка).*

**Байкатава́ць.** Запазычанне з польск. мовы (польск. *bojkotować* да *bojkot,* гл. *байкóт).* Гл. Крамко, Гіст. мовы, 2, 143. Аб запазычанні сведчыць суфіксацыя дзеяслова (параўн. рус. *бойкоти́ровать).*

**Ба́йкаць**$_1$ 'укалыхваць, люляць' (Нас., Гарэц., Др.-Падб.), 'пагаворваць' (Нас.). Рус. *бáйкать* 'тс'. Утварэнне ад выклічніка *бай-бай,* што азначае «ўкалыхванне дзяцей», і вядомага ва ўсіх усх.-слав. мовах (з тыповым у адвыклічнікавых утварэннях суфіксам *-к*). Ёль (IF, 57, 11) лічыць *бай-бай* (як і англ. *bye, bye* 'тс') гукапераймальным. Аднак не выключаецца сувязь з слав. **bajati* 'гаварыць' (гл. *бáіць),* параўн. Брандт, РФВ, 18, 28. Фасмер (1, 106, 140) дапускае абедзве магчымасці.

**Ба́йкаць**$_2$ 'гаварыць што-н., плявузгаць' (Юрч.), 'пагаворваць' (Гарэц., Нас.). Рус. *бáйкать* 'тс'. Утварэнне суфіксам *-к-* (частым у эмацыянальных дзеясловах) ад **bajati* 'гаварыць' (гл. *бáіць*). Суфікс *-к-* у слав. мовах меў значэнне фарманта дэмінутыўнасці ў дзеясловах (захаваўся як прадуктыўны, напр., у зах. гаворках укр. мовы, у зах. і паўд.-слав. мовах). З апошняй літ-ры гл. Чарнецкі, Мовознавство, 1970, 5, 42—48.

**Ба́йкі** (прым.) 'прыгожы, харошы' (Інстр. лекс., Сцяшк. МГ). Дакладная адпаведнасць ва ўкр. (бойк.) *бáйки (бáйка)* 'нядрэнны' і польск. *bajki* 'тс'. Цяжка сказаць, адкуль паходзіць гэта слова. Зыходзячы з геаграфіі (зах.), магчыма, запазычанне з польск. мовы, дзе гэты выраз вельмі пашыраны ў гаворках. Карловіч (1, 38) адносіць польск. *bajki* да *bajka* 'дробязь, глупства, лухта' (параўн. *бáйка*$_1$).

**Ба'йкі** (прысл.) 'многа' (Сцяшк. МГ), 'надта многа, вельмі' (Інстр. лекс.), 'нішто сабе' (Бесар.). Гэтаму прыслоўю, бясспрэчна, звязанаму з *байкі* (прым.), ёсць дакладная адпаведнасць ва ўкр. (бойк.) *байки, байка* (прысл.) 'нядрэнна, нічога сабе, не бяда' і ў польск. мове (*bajki*). Зыходзячы з геаграфіі слова ва ўсх.-слав. мовах (толькі зах. гаворкі) і з пашырэння яго ў польск. мове, можна думаць пра запазычанне (з польск.).

**Байко'т** (БРС). Рус. *бойкот,* укр. *бойкот.* З англ. *boycott* або ням. *Boykott* (<англ.). Назва ўзнікла ў англ. мове па імені капітана Байкота, якога «байкаціравалі» фермеры. Гл. Фасмер, 1, 185; Клюге, 94. Параўн. яшчэ Шанскі, 1, Б, 152—153.

**Баймана** 'расліна Cardamine L., буйміна' (Кіс., Інстр. II). Іншая назва *буйміна.* Няма ў рус. і ўкр. мовах. Назва невядомага паходжання (у іншых мовах таксама няма ніякіх верагодных адпаведнасцей).

**Байра'к₁** 'сухое рэчышча ў яры' (Яшкін), таксама *буйрак* (ст.-бел. *байрак* 'сухое рэчышча', з XVII ст.; Булыка, Запазыч.). Рус. *баерак, буерак, байрак, боерак, барак* 'яр, роў і г. д.', укр. *байрак, байрака* 'лясок у яру і г. д.' Відаць, запазычанне з цюрк. моў: тур. *bayır* 'узгорак, грудок, схіл гары (парослы дрэвамі)', карач. *bajrak* 'гара, узгорак'. Гл. Фасмер, 1, 104, 231 (там і агляд літ-ры). Аб далейшым развіцці значэння гэтага слова гл. пад *байрак₂*.

**Байра'к₂** 'месца, зарослае бур'янам' (Булг.). Мабыць, вынік дэградацыі геаграфічнага тэрміна *байрак* (гл. *байрак₁*) на беларускай тэрыторыі (аб магчымых прычынах гл. пад *байрак₃*). Але параўн. і польск. дыял. *baraki* 'густыя заraснікі'.

**Байра'к₃** 'дрэннае, пустое' (Мат. конф. МГПИ, 1966, 10: *Адна хвоя добра, смаліста, другая — байрак*). Як відаць з кантэксту, справа ідзе аб дрэнным дрэве. Параўн. польск. *bajrak* 'кручкаватая сасна'. Відаць, рэзультат дэградацыі слова *байрак* 'яр' (гл. *байрак₁*). Развіццё семантыкі: яр, яр з лесам, борам'→'лес, бор'→'дрэвы пэўнага выгляду' (адносна хістання значэння ў слове *байрак* гл. Талстой, Геогр., 101). Паколькі Беларусь і Польшча знаходзяцца на перыферыі пашырэння геаграфічнага тэрміна *байрак,* то там лёгка развіваюцца другасныя, пераносныя значэнні.

**Байра'к₄** 'склеп' (Мат. конф. МГПИ, 1966, 10). Відавочна,

трансфармацыя слова *бара́к* 'барак' (да фанетыкі параўн. рус. дыял. *байрак* 'бальнічны барак').

**Байрак**$_5$ 'благі чалавек' (Булг.). Няяснае слова. Можна думаць пра запазычанне з цюрк. моў. Параўн. укр. дыял. *байра́к* 'сабака-аўчарка' (<тур.), балг. *бара́к* 'лахматы сабака або чалавек; брудны чалавек' (<тур. *barak*, гл. Макарушка, Словар, 4; БЕР, 1, 33). Аднак, магчыма, ёсць сувязь і з *байра́к*$_3$ ('дрэннае дрэва'→'дрэннае, пустое'→'дрэнны чалавек').

**Байра́м** 'магаметанскае свята — Новы год' (ужо ст.-бел.; Нас. гіст., Гіст. лекс., 140; Булыка, Запазыч.), рус. *байра́м* (ст.-рус. *баграмъ, багримъ, байрамъ*), укр. *байра́м*. Запазычанне з цюрк. моў. Параўн. тур. *bayram* 'тс' і г. д. Фасмер, 1, 108; Локач, 16; параўн. таксама Шанскі, 1, Б, 13.

**Байстру́к**$_1$, *бастру́к* 'пазашлюбнае дзіця' (Бяльк., Нас., Касп., Шат., Маш., Сцяшк. МГ, БРС); *байструкі* 'кураняты, якіх курыца выседзела тайком' (Інстр. III). Рус. *бастрю́к, бастры́к, бастро́к, байстрю́к, байстры́к*, укр. *байстрю́к, байстру́к, ба́йстер, бастрю́к*. Запазычанне з польск. *bajstruk* (<с.-в.-ням. *bastard* <лац. *bastardus* 'тс'). Фасмер, 1, 139; Рыхардт, Poln., 32; Кюнэ, Poln., 42.

**Байстру́к**$_2$, *бастру́к* 'кароткае бервяно, якое кладзецца ў прасценак паміж вокнамі; кавалак бервяна, якім нарошчваюць бярвенне ў сцяне; адлегласць паміж бэлькамі' (Шушк.). Метафарычнае ўжыванне слова *байстру́к*$_1$. Да семантычнага пераходу параўн. укр. *копи́л* 'байструк; бэлька, слупок', рус. *байстры́к* 'байструк; жардзіна, якой прыціскаюць сена'.

**Байсялі́ць** 'гаварыць недарэчнае' (Арашонкава і інш., Весці АН БССР, 1969 (4), 131; карэліц.). Паводле аўтараў артыкула, звязваецца з літ. *báisioti* 'палохаць'. Вельмі няпэўная этымалогія. Хутчэй можна думаць пра кантамінацыю дзеяслова *ба́іць, ба́яць* (гл.) з нейкім іншым словам. Адносна суфікса *-с-* параўн. укр. *байса́* 'пустая размова, плявузганне'.

**Байч** (ж. р.) 'пуга' (Сцяц.). Відаць, запазычанне з ням. (з нейкай дыялектнай формы) *Peitsche* 'тс' (узятае ў XIV ст. з слав. моў, параўн. слав. *bičь*; аб гісторыі ням. слова падрабязна гл. Клюге, 537).

**Бак** 'пасудзіна' (БРС). Рус. *бак*, укр. *бак*. Паводле Фасмера, 1, 108, запазычанне з герм. моў (параўн. гал. *bak* 'рэзервуар, таз, балея', ням. *Back* 'глыбокая драўляная міска для матроскага стала', англ. *back* 'пасудзіна, чан'). Параўн. Клю-

ге, 43. Шанскі, 1, Б, 13, спасылаючыся на Ушакова, хоча бачыць тут запазычанне з франц. *bac*. Больш пераконвае тлумачэнне Фасмера, таму што рус. слова мела значэнне і марскога і ваеннага тэрмінаў.

**Ба′ка** 'бакенбарда' (БРС, КЭС). Рус. *баки* (мн.), укр. *бака* 'тс'. Слова ўзнікла скарачэннем з *бакенбарды* 'тс'. Гл. Праабражэнскі, 1, 12; Фасмер, 1, 110.

**Бакай** 'рачная пратока; глыбокае месца ў рацэ; яма ў балоце' (Інстр. лекс.). Рус. дыял. *бакай* 'ручай', укр. *бакай* 'глыбокая яма ў рацэ, сажалцы; выбоіна (з вадой) на дарозе' (ці сюды ж укр. *бакаль* 'возера'?). Слова няяснага паходжання. Магчыма, запазычанне з усх. моў. Параўн. Фасмер, 1, 109; Юркоўскі, SOr., 13, 69. Не пераконвае прыняцце роднаснасці з гальск. *beccus* 'заглыбленне, упадзіна' (так Гараеў, 9) або параўнанне (Сабалеўскі, Slavia, 5, 441) з *бак*. Рудніцкі (57) прапануе вывядзенне ад *бак* 'рэзервуар'. Наўрад ці гэта так (супраць Юркоўскі, там жа). Не пераконвае таксама версія пра запазычанне з італ. *bocca* 'рот, вусце, заліў і т. п.'

**Бака′л** (БРС). Рус. *бокал*, укр. *бокал*. Запазычанне з раманскіх моў. Параўн. франц. *bocal*, італ. *boccale*. Гл. Праабражэнскі, 1, 34; Брукнер, 35; параўн. яшчэ Клюге, 557; Шанскі, 1, Б, 153; Гютль—Ворт, For. Words, 63.

**Ба′кала** 'разява' (Нас.). Паводле Нас., ад *бачыць* 'глядзець'. Няпэўна.

**Бакала′ўр.** Гл. *бакаляр*.

**Бакале′я** (БРС). Рус. *бакалея*, укр. *бакалія* (з XVIII ст.), *бакалія, бакала*. Першапачатковае значэнне было 'сушаныя паўднёвыя фрукты і да т. п.' Запазычанне з тур.-араб. *baķķāl* 'гандляр харчовымі прадуктамі, дробным таварам'. Цімчанка, 51; Локач, 16; Фасмер, 1, 109. Зыходзячы з укр. націску, можна думаць пра пасрэдніцтва польскай мовы (наўрад ці прамое запазычанне з тур.-араб., параўн. Краўчук, ВЯ, 1968, 4, 125).

**Бакаля′р** 'дзяк, дзячок; школьны настаўнік' (Нас.); ст.-бел. *бакаляр, бакалар, бокалар* (з XVI ст.; Нас. гіст.; Гіст. лекс., 107, 222—223), гл. яшчэ Булыка, Запазыч. Укр. *бакаляр* 'вучань, шкаляр, дзячок, бакалаўр' (з XVI ст.). Відавочна, з польск. *bakalarz, bakałarz* (апошнюю форму адлюстроўвае ст.-бел. *бакалар*, ст.-укр. *бакалар*) <лац. *baccalaureus* (<*baccā laureatus* 'увенчаны лаўрам'). Гл. Цімчанка, 51; Брукнер, 12; Фасмер, 1, 109; Рыхардт, Poln., 32; Булыка, За-

пазыч., 35. Бел. *бакала́ўр,* рус., укр. *бакала́вр* з лац. *baccalaureus* (гл. Фасмер, 1, 109; Шанскі, 1, Б, 13—14).

**Бака́н** 'від чырвонай фарбы' (БРС). Рус., укр. *бака́н.* Запазычанне з тур.-араб. *baḳḳam* 'дрэва, з якога рабілі такую фарбу'. Праабражэнскі, 1, 12; Локач, 16—17; Фасмер, 1, 109. Адносна храналогіі параўн. Краўчук, ВЯ, 1968, 4, 125.

**Бака́с** (БРС, Сцяшк. МГ, Маш., Інстр. II). Рус. *бека́с,* укр. *бе́кас* (Грынч.). Першакрыніца — франц. *bécasse* (ад *bec* 'дзюба'). Фасмер, 1, 146, параўн. Шанскі, 1, Б, 83. Бел. форма адлюстроўвае польскае пасрэдніцтва (іначай было б *бяка́с).* Укр. націск таксама сведчыць аб запазычанні праз польскую мову. Параўн. *бэ́кас.*

**Ба́каць** 'мнагасловіць, базікаць, балбатаць; марудна гаварыць; няцвёрда чытаць' (Нас.). У ст.-бел. мове і з іншым значэннем. Гл. Бярында, 148: *обличаю*: *строфую, фукаю, бакаю, слословлю, преконываю;* Бярында, 42: *запрѣщеніе*: *загрожене, бакане, фукане, лаѧне.* Рус. (зах.) *ба́кать* 'гаварыць, размаўляць', укр. *ба́кати* 'гаварыць *ба;* абвінавачваць, скардзіцца' (да гэтага другога значэння параўн. у Бярынды). Або ад *ба*!, або ад **bajati* (гл. Рудніцкі, 57).

**Ба́кі** 'вочы', *забіва́ць ба́кі* 'абдурваць' (Нас., Касп., Гарэц., Др.-Падб.). Укр. *ба́ки, заби́ти ба́ки.* Запазычанне з польск. *baka* 'вока' (а гэта ўтварэнне ад *baczyć* 'бачыць'). Параўн. Слаўскі, 1, 24. Не лічаць запазычаннем Ільінскі, PF, 11, 183; Фасмер, 1, 138. Франко (Приповідки, 1, 20) лічыць, што ва ўкр. мове *баки* не азначаюць 'вочы', і прапануе выводзіць слова з ням. *Backe* 'шчака'.

**Ба́кір:** *на-ба́кір* (Нас.), укр. *наба́кир.* Запазычанне з польск. *nabakier* 'тс' (<ням., з мовы маракоў, параўн. *Back* у слове *Backbord* 'левы борт' і *kehr*! 'павяртай!'). Гл. Бернекер, 39—40; Брукнер, 12; Карловіч, Wyr. obce, 25; Фасмер, 1, 146—147; Рыхардт, Poln., 32; Кюнэ, Poln., 43. Рус. *набекре́нь,* магчыма, не сюды (гл. Фасмер, 1, 147).

**Бакла́га**. Ст.-бел. *боклаг, боклага, баклага, биклахи* (Гіст. лекс., 139; Булыка, Запазыч.). Рус. *бакла́га, бакла́жка* і інш., укр. *бакла́г, бакла́га, бакло́, боклаг, боклага* (дзве апошнія формы з XVI ст.) і г. д. Запазычанне з цюрк. моў (параўн. каз.-тат., тур. *baklak* 'від пасудзіны для вады'). Міклашыч, Türk. El. Nachtr., I, 9; Карловіч, Wyr. obce, 73; Брукнер, KZ, 48, 161; Фасмер, 1, 110. Для ўкр. мовы, магчыма, некаторыя формы праз польск. *(бо́кло, бо́кла, бо́клак,* параўн.

польск. *buklak, boklak*). Адносна рум. версіі гл. Шалудзька, Rum., 126 і Крынжалэ, 216. Параўн. яшчэ *біклáга.*

**Баклажа'н.** Рус. *баклажáн, бадаржáн, бадражáн, бадижáн* і г. д., укр. *баклажáн* 'баклажан, памідор', *покламáн.* Запазычанне з цюрк. моў: тур. *patlıcan,* усх.-цюрк. *patingän* 'тс' <араб.-перс. *bādinǰān.* Локач, 14; Фасмер, 1, 110. Параўн. яшчэ Шанскі, 1, Б, 15.

**Бако'нка** 'балонка, шыба ў акне; аканіца' (Бяльк.), 'фортачка' (Гарэц., Нас.), *бакóнайка* 'дзверцы ў печцы, дзе закрываецца юшка' (Касп.). Відавочна, сінкопай з *абакóнка (абакон-ка, *ob-+okъno).*

**Ба'крых** 'два' (бел. арго; Рам. 9). Параўн. з укр. арго: *бáкрих* 'два' (чарніг., Нікалайчык). В. Д. Бандалетаў (вусна) лічыць, што гэта, магчыма, цюркізм і прыводзіць яшчэ рус. арго *збакры* 'два'. Параўн. таксама аргатычнае *бакырмар* 'дзве грыўні' (гл. Бандалетаў, Усл. яз., 15).

**Бактэ'рыя.** Рус. *бактéрия,* укр. *бактéрія* і г. д. Новае запазычанне з зах.-еўрап. моў (ням. *Bakterie,* франц. *bactérie*< лац. *bacterium* 'палачка'). Падрабязней гл. Шанскі, 1, Б, 17.

**Баку'лы** 'вочы', *бакýла* 'абманшчык', *бакýліць* 'дурыць, абманваць' (Нас.). Хутчэй за ўсё да рус. *бакýлить* 'гаварыць, базікаць' (<*бáкаць, бáять,* гл. Гараеў, 9; Фасмер, 1, 111). Значэнне 'вочы', магчыма, другаснае. Параўн. *абакýліць.*

**Бакціха:** «*Калі хто видзив, як Бакциха Нямецка пива задаець...*» («Энеіда навыварат»). Як думае Шаўцоў, Спрадвечнае, 32—46, *бакціха* па паходжанню не асабістае імя, а назва прафесіі. Яно звязана з словам *Бахус* 'Вакх' або з *бакшта* 'вялікі куфаль для піва'.

**Ба'кшта** 'гаўптвахта, турма; вежа' (Нас.). Ст.-бел. *бакшта* з XVI ст. (Нас. гіст.; Булыка, Запазыч.), ст.-укр. *бакшта* 'тс'. Запазычанне з літ. *bakšta, bókštas* 'вежа' (<польск. *baszta*; у літ. мове вельмі частае спалучэнне *-kšt-*). Гл. Эндзелін, ИОРЯС, 17, 111; Фрэнкель, 30, 52; Непакупны, Мовазнаўство, 1970 (6), 32—33, Baltistica, 1972, 7 (1), 105. Параўн. *бáшня, бáшта. Бакшта* 'вялікі куфаль для піва' (Шаўцоў, Спрадвечнае, 45), мусіць, метафарызацыя слова *бакшта* 'вежа'.

**Бал** 'ацэнка і да т. п.' Рус. *балл,* укр. *бал.* Запазычанне з ням. *Ball* (<франц.) або франц. *balle* 'шар'. Фасмер, 1, 116—117. Падрабязна гл. Шанскі, 1, Б, 25.

**Балаба** 'вялікі тоўсты мянтуз, Loto lota L.' (3 жыцця),

'мянтуз' (Інстр. лекс.). Бясспрэчна, да асновы *балаб-*, што ўжываецца для абазначэння розных вырабаў з цеста ('штосьці круглае'). Параўн. *бала́буха, бала́буш(к)а* (далей: *балабо́н* і да т. п.).

**Балаба'йка** 'балалайка' (Нас., Касп., Шат., Інстр. III, Гарэц.). Рус. дыял. *балаба́йка, балабо́йка,* укр. *балаба́йка.* Мабыць, гукапераймальнае; да *балабо́ліць, балабо́ніць* (гл.). Так лічыць Бернекер, 40 (параўн. Фасмер, 1, 113). Гараеў (10) думае пра запазычанне з цюрк. моў (але крыніцу не ўказвае).

**Балаба'н** 'сокал, Falco sacer' (КЭС), ст.-бел. *болобан* (з XVI ст., Булыка, Запазыч.), рус. *балаба́н* 'сокал, Falco lunarius, Falco nobilis', укр. *балаба́н* 'сокал, Falco nobilis'. Запазычанне з цюрк. моў (параўн. тур., крым.-тат. *balaban* 'від драпежнай птушкі', кыпч. *balaban* 'сокал'). Меліаранскі, ИОРЯС, 7, 2, 279 і наст., ИОРЯС, 10, 2, 75; Міклашыч, 6; Бернекер, 40; Фасмер, 1, 111.

**Балаба'ніць** 'барабаніць; стукаць; гаварыць голасна; гаварыць глупства' (Нас., Шат.), *балаба́н* 'пустамеля, балбатун' (Нас.). Такога ж гукапераймальнага паходжання, як і *балабо́ніць* (гл.). Падрабязней гл. пад *бала́каць.*

**Балабойка** 'бубенчык, які прывязваюць на шыю каню' (Др.-Падб.). Параўн. укр. *балабо́лька* 'званочак' (змена *й*⟷*ль*?). Гукапераймальнае, да асновы *бала-*, што, магчыма, у *бала́каць* (гл.).

**Балабо'лка** 'званочак на бубне' (Інстр. III), укр. *балабо́лька* і г. д. Гукапераймальнае; да *балабо́ліць, балабо́ніць, бала́каць* (гл.).

**Балабо'н**$_1$ 'званочак' (Касп., Юрч., Янк. Мат., Гарэц.). Укр. *балабо́н* 'званок, бразготка', рус. *балабо́н* 'пустаслоў'. Гукапераймальнае; да *балабо́ніць* (гл.), *балабо́ліць* і г. д.; аснова *бала(б)-,* якая, магчыма, выступае ў *бала́каць* (гл.). Параўн. і чэш. *blaboniti.*

**Балабо'н**$_2$ 'балбатун, пустаслоў' (Янк. Мат., Юрч.). Рус. *балабо́н* 'тс', *балабо́нить,* укр. *балабо́н* 'званок', *балабо́нити* 'званіць', чэш. *blaboniti.* Гукапераймальнае; да вялікай групы слоў тыпу *балабо́н* 'званочак', *балабо́ніць, бала́каць* і г. д. Параўн. *бало́бан* 'балбатун' (Бяльк.).

**Балабо'ніць.** Рус. *балабо́нить* 'балбатаць', *балабо́н* 'пустаслоў', укр. *балабо́нити* 'званіць', *балабо́н* 'званок', чэш. *blaboniti* і да т. п. Слав. гукапераймальнае ўтварэнне: **bolbon-*, **balabon-*. Што ўсх.-слав. формы не абавязкова выводзяцца з

**bolbon-* (як чэш. *blaboniti)*, сведчыць укр. мова, дзе маем *балаб-* (а не *болоб-)*. У праформах *bolb-on-, *balab-on-* *-on-* дзеяслоўны суфікс, што часта выступае паралельна *-ъt-, -ot-* (параўн. укр. *стукотіти* 'стукаць', *стуконіти* 'тс'; *балабо́ніць—балбата́ць)*. Параўн. Бернекер, 69; Праабражэнскі, I, 13; Пагодзін, РФВ, 39, 2; Махэк$_1$, 33; Фасмер, 1, 111—112.

**Балабо'с$_1$** 'яўрэй — гаспадар дома' (Нас.). Укр. дыял. (зах.) *балабо́с, балабу́с, балабу́ц* 'тс'. Запазычанне з ідыш *balabos* 'тс'. Гл. Вярхрацкі, ЗНТШ, 12, 42; Рудніцкі, 60; Вінер, ЖСт, 1895, № 1, 59. Гл. таксама Локач, 13.

**Балабо'с$_2$** 'гаварун, балбатун' (Касп.). Бясспрэчна, да групы гукапераймальных слоў з асновай *балаб-* (гл. *балаба́йка, балабо́йка, балабо́лка, балабо́ніць* і да т. п.). Дзеяслоўны суфікс *-os-*; дакладная адпаведнасць у рус. дыял. *балабо́сить* 'балабоніць, балбатаць', славац. *blabosit'* (аб *-os-* гл. Махэк$_2$, 250, пад *klábositi*). Параўн. яшчэ серб.-харв. (Бернекер, 69) *бла̀босити* 'заікацца'. Магчыма трэба рэканструяваць прасл. **bolb-os-iti* 'балбатаць і г. д.' Параўн. яшчэ Буга, Rinkt., I, 434 і Траўтман, 24 (апошні прымае балта-слав. праформу). Параўн. яшчэ *балабо́ст.*

**Балабо'ст** 'балбатун' (Бір. Дзярж.). Запазычанне з польск. мовы. Параўн. польск. дыял. (з бел. тэрыторыі; Карловіч, 1, 41) *bałaboste* 'гаспадар або гаспадыня карчмы' (а гэта з той жа крыніцы; што і *балабо́с$_1$* (гл.); Варш. сл., 1, 89). На семантыку запазычанага слова, мабыць, аказала ўплыў падобнае да яго *балабо́с* 'балбатун'.

**Бала'буха** 'булачка з начынкай' (Жд.), *балабу́ш(к)а, балайбу́шка* 'хлеб з аржанога або пшанічнага цеста' (Нас.), *бала́бушка* 'булачка з пшанічнай або ржаной мукі' (Вешт.). Укр. *бала́буха, бала́бух* 'булачка' (таксама 'гуз; камяк'), рус. *бала́буш(к)а, бала́бышка* і г. д. Магчыма, да асновы **bal-, *bala-*, якая часта ўжываецца ў слав. мовах для абазначэння круглых прадметаў. Паходжанне гэтай асновы няяснае. Можа, гукапераймальнае (як у **bala-*, гл. *бала́каць*). Другая частка слова, магчыма, да *бух-* (=слав. *bux-nǫti* 'пухнуць, павялічвацца'). Параўн. і польск. дыял. *bałabuch*. Рудніцкі (60) таксама лічыць усю групу слоў цёмнай па паходжанню.

**Ба'лава'ць,** *ба́лава́цца* (Нас., Касп., Сержп.). Рус. *ба́лова́ть*, укр. *балува́ти*. Здаецца, можна звязаць з ст.-слав. **баловати** 'лячыць', **балии** 'лекар', **бальство** 'медыцына'. Бернекер, 42; Праабражэнскі, 1, 15. Аснова **bal-* (што ў **балии** 'лекар'), магчыма, да **bajati* 'гаварыць' (→'чараваць,

лячыць'). Іншыя шукаюць сувязь з ст.-інд. *bālás* 'малады, дзіцячы', *bālás* 'дзіця, хлопчык'. Уленбек, 189. Гл. таксама Фасмер, 1, 117, параўн. яшчэ Шанскі, 1, Б, 27.

**Балага'н** (БРС) 'будова для хавання бульбы' (Шушк.), *балага́нчык* (Касп.). Рус. *балага́н,* укр. *балага́н.* Запазычанне (праз цюрк. мовы) з перс. *balaχanä* 'верхні пакой, пакой над галоўным уваходам'. Локач, 17; Фасмер, 1, 112. Параўн. яшчэ Шанскі, 1, Б, 18—19.

**Бала'ган** 'беспарадак' (тураў., Г. А. Цыхун, вусн. паведамл.). Націск і выбухное *г* сведчаць аб запазычанні з польск. дыял. *bałagan.* Але (паводле Варш. сл.) у польск. няма такога значэння. Таму лепш лічыць запазычаннем з рус. мовы. Аб паходжанні слова гл. *балага́н* (якое таксама мае пераноснае значэнне 'беспарадак').

**Балаго'л**$_1$, *балагу́ла, балагула* 'ламавы рамізнік, возчык, рамізнік; яўрэй-рамізнік на фуры; паштальён' (БРС, Гарэц., Нік. Очерки, Выг. Дыс., Сцяшк. МГ). Рус. *балагу́ла* 'рамізнік на крытай яўрэйскай павозцы', укр. *балагу́ла* 'тс'. Параўн. і польск. *bałaguła.* Запазычанне з ідыш *balagole* 'фурман' (а гэта з ст.-яўр. *ba'al 'aγālā* 'пан павозкі'). Локач, 13; Фасмер, 1, 112; Вінер, ЖСт., 1895, 1, 59; Вярхрацкі, ЗНТШ, 12, 42; Альтбаўэр, JP, 17, 47—49. Параўн. яшчэ Кіш, SSlav., 6, 267. Неверагодна Якабсон, Word, 7, 189, які лічыў, што *балагу́р* звязана з *балагу́ла* (так меркаваў ужо Брукнер, 12, пад *bałakać).*

**Балаго'л**$_2$, *балагу́ла* 'дыліжанс, фура, будка' (Касп., Гарэц.). Рус. *балаго́л,* укр. *балагу́ла, балагула.* Таго ж паходжання, што і *балаго́л*$_1$ (<ідыш *balagole* 'фурман', потым метафарычна 'павозка'). Фасмер, 1, 112.

**Балагу'р**, *балагу́рыць, балагу́рлівы* (Касп., Нас.). Рус. *балагу́р, балагу́рить,* укр. *балагу́р, балагу́рити, балагу́ркати.* Мабыць, складанае слова. Першая частка да *бала-* (параўн. *бала́каць, балабо́ліць, балабо́ніць)* або **bajati,* другая — да *гавары́ць* (параўн. рус. дыял. *гу́ркать* 'гаварыць'). Бернекер, 40; Фасмер, 1, 112; Рудніцкі, 61. Іначай, але не зусім абгрунтавана, Шанскі, 1, Б, 19. Неверагодна Якабсон, Word, 7, 189, які выводзіў *балагу́р* з *балагу́ла* (гл. *балаго́л*$_1$). Кноблах (JČ, 1969 (2), 141) бачыць тут (як і ў слове *баламу́т*) экспрэсіўны прэфікс *bala-.*

**Бала'да.** Рус. *балла́да,* укр. *бала́да.* Запазычанне з франц. *ballade* (параўн. і архаічнае рус. *балад).* Гл. Фасмер, 1, 117

і падрабязна MESz, 1, 231; Клюге, 46; Шанскі, 1, Б, 25. Параўн. таксама італ. *ballata* (паўн.-італ. *-ada*).

**Балазе'** (Нас., Шат., Касп., Сцяшк. МГ, БРС), *балазёй, блазё*. Рус. *бóлозе* 'добра', *бóлого* 'блага; добра', укр. *бóлого;* польск. *błogi,* чэш. *blahý,* ст.-слав. **благъ**, балг. *благó,* серб.-харв. *блâг* і г. д. Прасл. *bolgъ* 'добры і да т. п.' *bolzě* 'добра'. І.-е. сувязі не вельмі ясныя. Параўн. Бернекер, 69; Фасмер, 1, 188 (там і падрабязна агляд версій).

**Бала'каць** (Нас., БРС, Бір. Дзярж., ДАБМ, 915). Рус. *балáкать*, укр. *балáкати,* польск. *bałakać.* Аснова **bal-*, мабыць, расшыраны і.-е. корань **bhā-* 'гаварыць' (гл. *бáіць, бáяць*). Але не выключаецца і гукапераймальнае яе паходжанне (параўн. *балабóніць, балабóліць*). Гл. Праабражэнскі, I, 13; Махэк₁, 33. Вельмі няпэўная этымалогія «Смаль-Стоцкага (<**ba-kati,* ад выклічніка *ба*!), Slavia, 5, 10. Сюды і *балáка* 'гаварун' (Нас.).

**Балала'йка** (БРС). Рус. *балалáйка,* укр. *балалáйка.* Як і *балабáйка* (гл.), гукапераймальнага паходжання. Параўн. Фасмер, 1, 113.

**Баламу'т** 'прайдоха, ашуканец і да т. п.' (Шат., Касп., Нас., Інстр. III, Мал., БРС), *баламýціць.* Ст.-бел. *баламут, баломут, боламут, баламутити* і г. д. (гл. Булыка, Запазыч.). Рус. *баламýт, баламýтить,* укр. *баламýт* 'баламут; знахар', польск. *bałamącić, bałamucić,* чэш. *balamutiti.* Здаецца, прасл. *bala-mǫtiti*, *bala-mǫtъ* (гл. Махэк₁, 23), дзе другая частка складанага слова да *mǫtiti* 'муціць'. Першая частка *(bala-)* тлумачыцца па-рознаму. Агляд версій гл. Бернекер, 40; Фасмер, 1, 113; Слаўскі, 1, 26. Ідэя запазычання з манг. мовы, здаецца, зусім неабгрунтаваная. Кноблах (JČ, 1969 (2), 141) бачыць тут (як і ў слове *балагýр*) экспрэсіўны прэфікс *bala-*.

**Баланда'** 'вельмі рэдкая, няўдалая яда' (Вешт.), 'яда з мятай бульбы' (Лысенка ССП), 'суп з бульбы і мукі, забелены малаком, зацірка' (Мат. Гродз.). Параўн. рус. *балáндá* 'від яды, баланда; бацвінне; зацірка; бульба з цыбуляй і г. д.; від лебяды, бацвінне; абрызглае малако'; 'балбатун, пустаслоў'. Усё да дзеяслова. Параўн. рус. *балáндать, балáндить* 'баўтаць; рашчыняць на вадзе муку; баўтаць нагамі; займацца пустымі размовамі', укр. *баландіти* 'балбатаць, гаварыць', *баланда* 'марудны, нехлямяжы чалавек; балбатун, пустамеля.' Параўн. і чэш. *blandat* (Махэк₁, 33) 'балбатаць, гаварыць'. Выходнае **balandati* (гукапераймальнае?) 'баўтаць, размешваць'→1) 'рабіць яду наспех' (адсюль і 'дрэнная яда,

зацірка'); 2) 'балбатаць, гаварыць'. Няма падстаў гаварыць аб запазычанні ўсёй групы слоў з літ. мовы (надта многа значэнняў, якія не выводзяцца з літ. 'лебяда'). Запазычанае, мабыць, толькі *баланда* (<літ. *balánda* 'Chenopodium'). Аб запазычанні гл. Фасмер, 1, 113 (там і ранейшая літ-ра); Шанскі, 1, Б, 21; Урбуціс, Baltistica, 1969, V (I), 49.

**Баланды'чыты** 'біць лынды, каніцеліцца' (Клім.). Аналагічныя ўтварэнні і ў іншых усх.-слав. мовах (рус., укр.). Бясспрэчна, адносіцца да групы: рус. *баландать, баландить* 'вазіцца, займацца балбатнёй', укр. *баланда* 'марудны, нехлямяжы чалавек; балбатун'. Гл. *баланда́.*

**Бала'нс.** Рус. *бала́нс,* укр. *бала́нс.* Новае запазычанне з франц. *balance* (падрабязней гл. Шанскі, 1, Б, 21).

**Баланнё** 'маладыя пасадкі дрэў'(Сцяшк. МГ). Бясспрэчна, таго ж паходжання, што і *бало́нне, балона* (гл.). У зах.-бел. гаворках устанавілася адно з шматлікіх значэнняў (да таго ж не асноўнае) гэтага слав. геаграфічнага тэрміна.

**Бала'ст.** Рус. *балла́ст,* укр. *бала́ст.* Запазычанне з зах.-еўрап. моў. Першакрыніца — гал. *ballast* або н.-ням. *ballast.* Гл. Фасмер, 1, 117. Крыху іначай Шанскі, 1, Б, 21 (<гал.).

**Балахо'н** (Касп., Шат., Сцяц. Нар., Сцяшк. МГ, БРС), 'няўмела сшытая шырокая і доўгая вопратка; бальнічны халат (Янк. II), 'палатняны плашч' (Гарэц.), 'верхняя доўгая мужчынская вопратка з даматканага сукна' (Інстр. I), 'верхняе адзенне' (Др.-Падб.). Звычайна лічыцца запазычаннем (як і рус. *балахо́н, балахна́, балахня́,* укр. *балахо́н)* з перс. *bālājāme* (Праабражэнскі, 1, 14; Фасмер, 1, 114), але фанетыка застаецца незразумелай. Шанскі (1, Б, 22) хоча бачыць тут непасрэднае запазычанне з тат. мовы (але без аргументацыі).

**Балаці'раваць.** Рус. *баллоти́ровать.* Запазычанне з ням. *ballotieren* (<франц. *balloter* <італ. *ballotare).* Наўрад ці (насуперак Фасмеру, 1, 117) непасрэднай крыніцай можа быць і франц. слова (супраць гэтага сведчыць суфіксацыя). Параўн. Шанскі, 1, Б, 26—27.

**Бала'чка** 'размовы, пустаслоўе'. Укр. *бала́чка, балачкі́* (мн.) 'тс'. У рус. мове ў гэтым значэнні няма. Бел.-укр. утварэнне (суфіксам *-ка*) ад дзеяслова *бала́каць* 'размаўляць' (гл.).

**Балачы'на** 'невялікае воблака, хмарка' (Нас., Юрч.), *балачы́нка* 'воблака' (Гарэц.). Параўн. і паралельныя формы

*аблачына* (Юрч.), *аблачынка* (Гарэц.). Зыходным з'яўляецца **оболочина* (да ўсх.-слав. **obolokъ*, **oboloko* <прасл. **obolkъ*<**ob-volkъ*, да **ob-* і **volk-* : **velk-* 'валачыць, цягнуць').

**Балбата'ць** 'гаварыць, балбатаць; крычаць, як індыйскі певень' (Сцяшк. МГ, Нас., Касп., Шат.). Параўн. укр. (валын.) *балбута* 'балбатун, пустаслоў, балагур', укр. *болботати, бовботати*, польск. *balbotać, bałbotać, bełbotać*, рус. дыял. (зах.) *болботать*, славац. *blbotat'* (і далей чэш. *bláboliti, blaboniti* 'балбатаць'). Слав. *bъlb-* 'балбатаць'. Параўн. і літ. *balbėti, blabėti, blebėti* і г. д. (гл. Фрэнкель, 31; там і паралелі да іншых слав. падобных слоў). Але бел. форма не можа фанетычна паходзіць з **bъlb-* (было б **баўбатаць*). Рэдукцыяй (сінкопа) з **балабатаць* (да **bolb-*>*болоб-*)? Не выключаецца, паколькі словы гукапераймальныя, што тут спецыфічная фанетыка (захавалася *л*). Можна таксама думаць пра пранікненне форм з *-л-* (замест *-ў-*) з усх.-бел. гаворак, дзе магчымы ўплывы рускай фанетыкі. Літ-ру гл. пад *балабоніць*. Сюды і *балбатухі* 'грыбы, прыгодныя для ежы, рыжыкі' (да семантыкі параўн. *гаварушкі*, гл.).

Некаторыя вытворныя маюць дакладныя паралелі ў літ. мове: бел. *балбатун*, рус. (зах.) *балбатун, балботун*: літ. *balbatūnas* (гл. Фрэнкель, там жа).

**Балберка** 'паплавок' (З жыцця). Рус. *балбера, балберка, балбирка*, укр. *балбера, балбира, балберка, барбера* 'тс'. Слова цёмнага паходжання. Кузеля—Чайкоўскі (Словар, 34) лічыць, што гэта запазычанне з усх. моў. Вельмі няпэўна. Хутчэй да асновы **балаб-*, **балб-* 'штосьці круглае, круглячок'.

**Балбе'с** 'дурны' (Нас., Касп.). Рус. *балбес*. Запазычанне з цюрк. моў (параўн. казах. *bilbes*, тур., тат. *bilmäs* 'ён не ведае'). Бернекер, 40; Праабражэнскі, 1, 14; Фасмер, 1, 114. Параўн. яшчэ Дзмітрыеў, Тюрк. эл., 18; Шанскі, 1, Б, 22 (тут удакладненні). Бел. слова, відавочна, запазычана праз пасрэдніцтва рус. мовы.

**Балбо'с** 'лаянкавае слова' (Нас.). Відавочна, кантамінаванае ўтварэнне. Параўн. *балбес, байбос, балабос* ('балбатун'). Аднак не выключаецца, што гэта проста *балабос* (з рэдукцыяй ненаціскнога галоснага) 'яўрэй — гаспадар дома' (гл.).

**Балбу'ка** 'падскурная нарасць на целе або на кары дрэва' (Нас.). Рус. дыял. (зах.) *балбука* 'тс'. Утварэнне (з аугмен-

татыўным суфіксам *-ука)* ад асновы *балб-* (не вельмі яснага паходжання, параўн. *балбéрка)*, якая служыць для абазначэння круглых прадметаў.

**Балвака** 'дурань' (Інстр. лекс.). Трансфармацыя першапачатковага *балвáн* 'дурань' (гл.), якое, відавочна, успрымалася як суфіксальнае (*-ан*), далучэннем аугментатыўнага (пейаратыўнага) суфікса *-ака*.

**Балва́н**$_1$ 'балван' (Касп., Шат., Сержп.), ст.-бел. *болван* (Гіст. лекс., 140), *болван, балван* (Бярында). Параўн. яшчэ *балвáн* 'драўляны слуп пры печы; слуп наогул' (Нас.). Рус. *болвáн*, укр. *боввáн*, серб.-харв. *бȁлван* і г. д. Прасл. *bъlvanъ, bal(ъ)vanъ*. Слова няяснага паходжання. Падрабязны агляд шматлікіх версій гл. Фасмер, 1, 186—187. Не пераконвае Шанскі, 1, Б, 154—155. Не выключаецца, што ёсць сувязь з ням. дыял. (альпійскім) *Balwe, Balme* 'скала' (так Мацэнаўэр, Cizí sl., 18). Бел. форма не можа паходзіць непасрэдна ад **bъlvanъ* (іначай было б **баўван*, параўн. укр. *боввáн)*. Гэта запазычанне з рус. або хутчэй польск. (*bałwan;* параўн. і ст.-бел. *балван*). Гл. яшчэ Мартынаў, Зб. Крапіве, 211.

**Балва́н**$_2$ 'дурань' (Нас., Касп., Шат., Сцяц.). Рус. *болвáн*, укр. *боввáн*. Старая метафара 'балван, статуй'→'дурань', што мае месца, як здаецца, толькі ва ўсх.-слав. мовах. Форма *бáлван* (Нас.), мабыць, адлюстроўвае польск. *bałwan*.

**Балва́н**$_3$ 'снежная баба' (Сцяц.). Запазычанне з польск. *bałwan* 'тс'. Акрамя геаграфіі слова (зах. бел. гаворкі), да гэтага меркавання вядзе і тое, што прасл. слова ў зах. (і паўд.) слав. мовах азначае 'скала, камень, глыба, снежная баба, воблака і да т. п.'

**Балва́н**$_4$ 'воблака' (Янук.). Запазычанне з польск. *bałwan* 'тс' (да аргументацыі гл. *балвáн*$_3$).

**Балванець** 'ледзь віднецца' (Інстр. лекс.). Рус. дыял. (дан. і зах.) *балванéть, болванéть* 'світаць; ледзь віднецца', укр. *бовваніти* 'ледзь віднецца'. Усх.-слав. утварэнне ад **bъlvanъ* 'балван, грамада і да т. п.' Беларуская форма выклікае сумненне, бо яўна нефанетычная. Запазычанне? Гл. яшчэ Мартынаў, Зб. Крапіве, 211.

**Балва́нка** 'балванка' (БРС), 'бервяно для шпал' (Шат.). Рус. *болвáнка*. У бел. мове бясспрэчнае (параўн. фанетыку!) запазычанне з рус. мовы (дзе яно з'яўляецца вытворным ад *болвáн*, гл. *балвáн*$_1$).

**Балвохва́льство** 'ідаласлужэнне' (Нас.). Ст.-бел. *балво-*

*хвалство, балвофалство* (Нас. гіст., Булыка, Запазыч.), Бярында, 208: *болвохва́лство.* Ст.-укр. *балвохвалство, балвофалство* 'тс'. Запазычанне з польск. *bałwochwalstwo* 'тс'. Параўн. таксама ст.-бел. (Бярында, 208) *болвохвалца* 'ідалапаклоннік', таксама *балвохвалца* (Булыка, Запазыч.), ст.-укр. *балвохвалца, балвофалца* <польск. *bałwochwalca* (а гэта з *bałwanochwalca,* Брукнер, 12—13). Цімчанка, 53.

**Балда′** 'дурны' (Касп.). Рус. *балда́,* укр. *балда́* 'тс'. Звычайна лічаць метафарычным ужываннем слова *балда́* 'сякера, дубіна, палка' (а гэта з цюрк. моў, гл. Фасмер, 1, 114). Не выключаецца, аднак, што *балда́* ва ўсіх значэннях з'яўляецца спрадвечна славянскім (усх.-слав.) словам (аргументацыю гл. Шанскі, 1, Б, 22—23).

**Балдаве′шка**$_1$ 'патаўшчэнне на канцы палкі' (Бір. Дзярж.). Параўн. рус. дыял. *балдаве́шка* 'тс', *балдава́шка* 'дубінка'. Утварэнне ад *балдава́* 'паліца, булава, дубіна', вядомага, напр., у рус. гаворках (бясспрэчная сувязь з *балда́* 'дубіна'). Гл. яшчэ *булдава́* 'булава'.

**Балдаве′шка**$_2$ 'дурань, дурная галава' (Шат., Бір. Дзярж.). Метафарычнае ўжыванне слова *балдаве́шка* 'дубіна' (гл.). Параўн. такое ж ужыванне слоў *балда́, дубі́на, стоўб.*

**Балдахі′н.** Рус. *балдахи́н,* укр. *балдахі́н.* Запазычанне з польск. *bałdachin, bałdachim* (супраць Шанскі, 1, Б, 23, але без аргументацыі) або ням. *Baldachin* <франц. *baldaquin* <с.-лац. *baldacinus*, італ. *baldacchino* (першапачаткова 'дарагая тканіна з Багдада': сярэдневяковая назва Багдада — *Baldac*). Локач, 15; Фасмер, 1, 114—115.

**Балдзі′ць** 'казаць, расказваць' (Бяльк.). Параўн. рус. *балди́ть* 'часта паўтараць тое ж самае', *ба́лда́* 'балбатлівая жанчына', укр. *балди́кати* 'гаварыць'. Бясспрэчна, гукапераймальнага паходжання. Параўн. аснову *бал* — у дзеясловах гаварэння. У гукапераймальных словах развіццё можа ісці сваім шляхам (параўн. і захаванне *-л-* ва ўкр. слове; чыста фанетычная форма была б **баўдзіць, *бавди́кати).*

**Балдэ′с** 'дурны, нерастаропны чалавек; вісус, гультай' (Бяльк.), 'аболтус' (Гарэц., Касп.). Бясспрэчна, кантамінаванае слова, параўн. *балда́* і *балбе́с.*

**Балебу′шачкі** 'варэнікі з мясам' (Мат. Гродз.), *балэбу́шачка* 'варэнік з мясам' (Сцяшк. МГ). Таго ж паходжання, што і *бала́буха, бала́бу́шка* (гл.), г. зн. ад асновы *балаб-,*

якая часта выступае ў назвах круглых прадметаў і яды з цеста. Змена формы *балаб->балеб-*, мабыць, з'яўляецца вынікам дысіміляцыі *(а—а>а—е)*.

**Бале'й** 'больш' (Др.-Падб.). Дыялектная форма ўсх.-слав. *bol'e* 'больш' або *bol'eje*. Падрабязней гл. пад *бóльшы*.

**Бале'сць** 'хвароба' (Касп., Шат.). Рус. *бóлéсть,* укр. *бóлість* 'тс', польск. *boleść,* чэш. *bolest* і г. д. Слав. *bolestь* 'хвароба, боль' (ад *bolěti, bolь*). Сюды і *балéсны* (БРС), *балéсці* (мн.) 'хвароба, хваравітасць' (Сцяц.). Параўн. Слаўскі, 1, 40.

**Бале'т.** Рус. *балéт,* укр. *балéт.* Першакрыніца запазычання — італ. *balletto* (ад *ballo* 'баль'). Мовы-пасрэднікі: франц. *ballet* або ням. *Ballett.* Гл. Фасмер, 1, 115 (іначай Шанскі, 1, Б, 23).

**Бале'ць.** Рус. *болéть,* укр. *болíти,* польск. *boleć,* чэш. *boleti,* серб.-харв. *бòљети* і г. д. Прасл. *bolěti, bolějǫ* 'хварэць, балець'. Словы без пэўнай этымалогіі. Знаходзяць роднаснасць з ст.-в.-ням. *balo* 'зло', ст.-ісл. *bǫl,* ст.-англ. *bealu,* гоц. *balwjan* 'мучыць'. Фасмер, 1, 191; Файст., 79. Агляд іншых версій гл. Фасмер, 1, 191; Слаўскі, 1, 40.

**Ба'лечка** 'бэлька' (Нас.), 'брусок рамкі ў вулеі' (Анох.). Бясспрэчнае вытворнае ад *бáлька, бáлка* 'бэлька, брус' (гл.), але лексікалізаванае і тэрміналагізаванае.

**Бале'я** 'балея, вядро і г. д.' (Нас., Шат., Касп., БРС, Мат. Гродз., Янк. Мат., Сцяшк., Др.-Падб.), *балíя* (зах.-палес., Бесар., Сцяшк. МГ). Рус. дыял. *бáлья, балéя,* укр. *бáлія.* Праз польск. *balja, balija, baleja* 'тс' з ням. дыял. *Balje* (ням. літаратурнае *Balge)* <гал.<франц. *baille* 'бак, чан'. Гл. Пауль, Wörterb., 66; Брукнер, 12; Бернекер, 41; Рыхардт, Poln., 32; Кюнэ, Poln., 43; параўн. і Мацэнаўэр, Cizí sl., 103. *Балея* таксама 'яма круглай формы, у якой здабывалі жалеза, соль' (Яшкін, 20).

**Ба'лё** (дзіцяч.) 'абаранак' (палес., Клім.), *бáля* (дзіцяч.) 'тс' (Бяльк., Шат.). Як і ўсе дзіцячыя словы, магчыма, гукапераймальнага характару. Параўн., аднак, і аснову *бал- (балаб-)*, што сустракаецца ў назвах розных вырабаў з цеста. Але хутчэй за ўсё звязана з рус. *бáля* 'ягня, авечка'. Як семантычную паралель параўн. бел. *барáнік* 'абаранак, крэндзель', рус. *барáнок* 'тс', *барáн* 'печыва', *барáнка* 'булка'. Гэта, можа, сведчыць у пэўным сэнсе супраць агульнапрынятай (гл. Фасмер, 1, 124) этымалогіі рус. *барáнка,* бел. *абарáнак,* укр. *обáрінок* *(<ob-variti).* Параўн. і ўкр. *бáльо* (дзіцяч.) 'падарунак, гасцінец'.

**Балёва'ць,** *балявáць* 'банкетаваць'. Гл. *баль.*

**Балё'н** 'шар' (Жд.). Запазычанне з польск. *balon* 'тс' (а гэта з франц. *ballon* 'тс').

**Ба'лі** (мн.) 'некалькі плытоў сплаўленага лесу, звязаных разам' (Маслен.). Параўн. рус. *бáля* 'паля'. Ад *бáля* 'паля, бервяно', якое ўзнікла дэкампазіцыяй з *бáлька, бáлка* 'бэлька, паля' (<ням.; *-ка* ўспрымалася як суфікс і было ўтворана новае слова *бáля).*

**Балігало'ў** 'расліна'. Рус. *болиголóв,* укр. *болиголóв.* Параўн. чэш. *bolehlav,* харв. *boleglav, baliglav.* Прасл. *boligolvъ, bolegolvъ* — назва розных атрутных раслін (напр., Conium), якія выклікаюць боль галавы. Падрабязней гл. Махэк, Jména rostl., 169.

**Баліна** 'саланчак' (ст.-бел., Нас. гіст.). Бясспрэчна, да бел. *бáлка* 'роў; гразкая яма на дарозе; гразкая дарога' (Яшкін), рус. *бáлка,* укр. *бáлка, бáвка* 'стэпавы яр', *бáлище* 'тс' і 'вузкая, доўгая даліна'. Польск. *bałka* 'маленькае возера; яр' (мабыць, з укр.). Словы вельмі цёмнага паходжання. Думаюць аб: 1) роднаснасці з слав. *bolto* 'багна', літ. *balà* 'тс', ст.-в.-ням. *pfuol* 'лужына, багнішча' і г. д. Бернекер, 40; Мюленбах—Эндзелін, 1, 253; 2) роднаснасці з тапанімічнай назвай *Балкáн* (Сабалеўскі, РФВ, 71, 439); 3) запазычанні з цюрк. моў (тур. *bulak* 'крыніца' і г. д.; Развадоўскі, RS, 2, 103; кірг. *balkaš* 'багністае месца', Фасмер, RS, 3, 255 і наст.). Параўн. яшчэ Мацэнаўэр, Cizí sl., 103; Фасмер, 1, 115—116. Шпэхт (Ursprung, 318, 116, 120) выстаўляе і.-е корань **bhel-*, **bher-* 'шэры'. Няпэўна. Цікавай з'яўляецца думка пра сувязь з такімі словамі, як *обвал, провал* і г. д. (так ужо Нас. гіст.). Адносна гэтай магчымасці параўн. і серб.-харв. *ȍбала* 'бераг' (<**обвала;* упершыню Брандт, РФВ, 18, 7).

**Балі'стыка.** Рус. *баллúстика,* укр. *балíстыка.* Запазычанне з зах.-еўрап. моў: франц. *balistique*, ням. *Ballistik.* Шанскі (1, Б, 25—26) лічыць, што запазычанне было іменна з франц. мовы.

**Балі'ўкі** 'сцяблы і лісце бульбы' (ДАБМ, 867). Відавочна, дыялектная форма ад **bylь* 'былінка, расліна'. Параўн. іншыя назвы: *бынльнік, бы́лле, былíннік, булённік, булéшнік, булéўнік* (там жа). Не выключаецца і сувязь з *бýльба (бýля?).*

**Балі'я'** 'балея'. Гл. *балéя.*

**Ба'лка**$_1$ 'бэлька' (Сцяшк. МГ), ужо ў ст.-бел. (Гіст. лекс.,

115), *балкі* 'бярвенні, якія кладуцца ўпоперак зруба ў верхнім вянку' (Інстр. I), *ба́лка* 'перакладзіна, якою замацоўваюць кроквы' (Лысенка ССП). Рус. *ба́лка* (з XV ст.), укр. ба́лка (з XVIII ст.; <рус.). Запазычанне з с.-н.-ням. *balke* 'тс'. Фасмер, 1, 115. Можна лічыць, што бел. і ўкр. формы з рус. мовы (параўн. Шанскі, 1, Б, 24). Параўн. *бэ́лька, ба́лька.*

**Ба́лка₂** 'роў, яма'. Гл. *баліна.*

**Балко́н.** Рус. *балко́н,* укр. *балко́н.* Запазычанне з ням. *Balkon* або франц. *balcon* (а гэта з італ. *balcone* <лангаб., ст.-в.-ням. *balko* 'бэлька'). Фасмер, 1, 116; Шанскі, 1, Б, 24—25.

**Ба́лмашны** 'ўзбаламучаны' (Нас.). Відавочна, запазычанне з рус. *ба́лмошный* 'тс' (а гэта звязана з *ба́лмошь, ба́ломошь* 'баламуцтва', этымалогія якога не вельмі ясная, гл. Фасмер, 1, 117; можа, цюркскае, гл. Шанскі, 1, В, 86).

**Ба́ло** 'даўней, раней' (Сцяшк. МГ, Сцяц.). Скарачэнне слова *быва́ло.* Параўн. яшчэ форму *ба̄а̄ло* (пераходная ступень у працэсе скарачэння).

**Бало́н**. Рус. *балло́н,* укр. *бало́н.* Запазычанне з франц. *ballon* <італ. *ballone.* Фасмер, 1, 117; Шанскі, 1, Б, 26. Параўн. *балён.*

**Бало́на₁** 'шкло ў раме', *бало́нка* (Гарэц., Др.-Падб., БРС, Касп., Бяльк.). Рус. дыял. *боло́на, боло́нка* 'тс', укр. *боло́на* 'шкло ў акне', *болонка́рь* 'шкляр', польск. *błona* 'тс', чэш. *blána* 'прамасленая папера ў акне (замест шкла)' і г. д. Словa, ідэнтычнае па паходжанню з прасл. *bólna, bolnь* 'перапонка, плеўка, верхні слой, мяккая кара, скурка і да т. п.' (рус. *болона́, бо́лонь,* укр. *боло́на,* польск. *błona,* чэш. *blána* і г. д., гл. *балонкі* 'перапонкі'). У некаторых славянскіх мовах гэтае слова азначае і 'аконнае шкло'. Мабыць, зыходзіць трэба ад значэння 'плеўка' (замест шкла раней ужываліся плеўкі з пузыроў жывёлін і пергаментная папера). Параўн. *блона* і *абалонка₁* (гл.).

**Бало́на₂**, *бало́нка* 'палянка на нізкай лугавой мясціне' (Гарэц.), *бало́нне* 'ўскраіна лесу' (Інстр. III), 'багна, нізіна' (Касп.), *бало́ння* 'заліўны луг, вельмі нізкі' (Янк. Мат.), *балу́онне* 'плёс' (Лысенка ССП). Рус. *болонь, боло́нье* 'поймавы луг, нізіна', укр. *боло́ня, боло́нє* і да т. п. 'раўніна, паша, выган і г. д.', польск. *błoń, błonie, błonia,* чэш. *blana,* балг. *блана́* 'роўнае месца, поплаў' і г. д. Прасл. *bolnь, bolna, bolnьje.* Далейшыя сувязі слова не вельмі ясныя. Паводле

Фартунатава, AfslPh, 4, 579, ёсць сувязь з прасл. *bolto* 'багна' (гл. *бало́та*), літ. *báltas* 'белы', *balà* 'тарфянік' (гл. і Слаўскі, 1, 37), а таксама з прасл. *bólna* 'плеўка і г. д.' (гл. *бало́на*$_1$ і *бало́нкі* 'перапонкі'): усё гэта далей да **bělъ* 'белы'. Гэту версію падтрымліваў Траўтман, 25 (які зыходзіў з балта- слав. праформы **bālna-* 'белы'). Гл. яшчэ Фасмер, 1, 189. Падрабязна пра форму, семантыку і магчымую гісторыю слав. форм гл. Талстой, Геагр., 74—76.

**Бало'нка**$_1$ 'прамавугольная клетка на матэрыі' (Касп.), 'кратачка, квадрацік' (Бяльк.: *буду ў балонкі ткаць*). Метафарычнае ўжыванне слова *бало́нка* '(прамавугольнае) шкло ў акне' (гл. *бало́на*$_1$).

**Бало'нка**$_2$ 'парода сабак'. Рус. *боло́нка*, укр. *боло́нка*. Новае запазычанне з зах.-еўрап. моў: ням. *Bologneser Hündlein*, франц. *bolonais* 'балонскі з Балоньі'. Фасмер, 1, 189; Шанскі, 1, Б, 157. Бел. і ўкр. словы з рус. мовы.

**Балонкі** 'перапонкі на нагах вадаплаўных птушак' (Інстр. II). Гэта слова адносіцца да прасл. *bólna, bolnь,* якое мела шмат значэнняў: 'перапонка, плеўка, верхні слой, мяккая кара, скурка і да т. п.' (рус. *болона́, бо́лонь,* укр. *боло́на,* польск. *błona,* чэш. *blána,* славен. *blána* і г. д.). Слав. слова лічыцца ідэнтычным па паходжанню з прасл. *bolna* і г. д. 'паляна, луг' (гл. *бало́на*$_2$) і з'яўляецца роднасным з літ. *bálnas* 'белы', грэч. φολίς 'луска'. Бернекер, 69; Фасмер, 1, 189; Траўтман, 25; Слаўскі, 1, 37. Параўн. *блонка*. Гл. яшчэ *абалонка*.

**Бало'нь** 'абалонь, верхнія слаі драўніны' (Бяльк.), *боло́на* (Нас.), *болона́* 'абза, верхні слой дрэва' (Мядзв.), *болонь* 'не смалістая частка сасны' (палес.). Рус. *болона́* 'нарасць на дрэве', *бо́лонь* 'верхні слой, мяккая кара дрэва'. У іншых слав. мовах формы з іншай семантыкай. Параўн. *бало́на*$_1$, *бало́на*$_2$, *бало́нкі* 'перапонкі' (там і формы). Да прасл. *bolna, bolnь,* якое мае шмат значэнняў — 'перапонка, плеўка, верхні слой, мяккая кара, скурка і г. д.' і, мабыць, ідэнтычнае з **bolna* 'паляна, луг'. Адпавядае літ. *bálnas* 'белы', грэч. φολίς 'луска'. Гл. Бернекер, 69; Фасмер, 1, 189; Траўтман, 25; Слаўскі, 1, 37; Шанскі, 1, Б, 157. Гл. *абалонь*.

**Бало'сь** 'балазе' (Янк. Мат., 152). Мабыць, з **бало́зь,* якое з'яўляецца дыялектным скарачэннем ад *балазе́* (гл.). Перамяшчэнне націску, аднак, вытлумачыць цяжка.

**Бало'та** 'багна; гразь, балота' (БРС, Шат., Нас., Чуд., Яшкін, Бяльк.), 'месца, дзе заўсёды стаіць вада' (Інстр. I, 15), 'сенажаць, луг' (Сцяц., Сцяшк.), 'лес, галоўным чынам балот-

ны' (Касп.). Рус. *болóто,* укр. *болóто,* польск. *błoto,* чэш. *blá-to,* ст.-слав. **блато,** балг. *блáто,* серб.-харв. *блȁто* і г. д. Прасл. *bólto.* Бліжэй усіх стаіць да слав. слова алб. *baltë* 'ціна, твань, багна, гліна, зямля' (ілір. паходжання: параўн. паўн.-італ. *palta,* ламбард. *palta,* п'емонт. *pauta*). Далей параўноўваюць літ. *báltas* 'белы' (выходзіць, **bolto* — спачатку 'белае, светлая багна, балота'). Балта-слав. **bālta-* 'белы'; 'балота' (гл. Траўтман, 25) далей звязваюць з **bēla-* 'белы' (слав. *bělъ;* Траўтман, там жа). Гл. яшчэ Бернекер, 70; Фартунатаў, AfslPh, 4, 579; Буга, РФВ, 67, 232; Фрэнкель, 30 (пад *balà*), 32 (пад *bálti*); Махэк₂, 55; Слаўскі, 1, 37; Фасмер, 1, 190. Падрабязна аб слав. *bolto* ў слав. мовах гл. Талстой, Геогр., 144—150 і наст. Сюды і *балóцвіна* 'невялікае балота' (Яшкін).

**Балта** 'сякера' (Нас.). Відавочна, запазычанне з польск. *bałta* 'тс' (а гэта з венг. *balta* <цюрк.; Брукнер, 12). Параўн. яшчэ Фасмер, 1, 118.

**Балтало′гія.** Новае запазычанне з рус. *болтолóгия* 'тс' (жартаўлівае ўтварэннé: параўн. *болтáть* 'балбатаць, блюзніць' і словы на *-лóгия*).

**Балта′ць.** Гл. *бóўтаць.*

**Балхва′,** *болхвá, больхвá* 'баваўняная немерсерызаваная каляровая фабрычная пража, што выкарыстоўваецца ў якасці ўтку пры ўзорным тканні' (Влад.), *балхвá (баўхвá)* 'каляровыя ніткі для вышывання' (Касп.). Слова няяснага паходжання; здаецца, няма яго і ў суседніх мовах. Можна толькі выказаць няпэўную здагадку: *балхвá* і г. д. узнікла (метатэзай і заменай *ф*>*хв*) з **фальба,* **фалба.* Апошняе можа быць запазычаннем з польск. (тэрмін шчотачнай вытворчасці) *falba* 'шчацінне, светлы волас' (<ням. *falb* 'бляклы, бялявы, буланы', Варш. сл., 1, 714). Немерсерызаваная пража звычайна даволі цвёрдая (параўн. значэнне ў польск.: 'шчацінне, волас').

**Балы′к.** Рус. *балы́к,* укр. *балúк* (з XVIII ст.). Запазычанне з цюрк. моў (тур., крым.-тат., азерб. і г. д. *balyk* 'рыба'). Локач, 18; Фасмер, 1, 119; параўн. яшчэ Шанскі, 1, Б, 27. Гл. таксама Заянчкоўскі, Stud. orient., 37.

**Баль** 'бал, танцы' (БРС, Касп., Шат., Нас.). Укр. дыял. (зах.) *баль* 'тс'. Запазычанне з польск. *bal* 'тс' (з зах.-еўрап. моў: франц. *bal*; Варш. сл., 1, 86; Брукнер, 12). Параўн. *бал.* Сюды *балёвáць* 'банкетаваць і г. д.' (Нас.), *балявáць*: гэта

або ўтварэнне ад *баль* (гл.), або непасрэднае запазычанне з польск. *balować*.

**Бальза'м** (параўн. ст.-бел. *балсам*; Булыка, Запазыч.). Рус. *бальза́м,* укр. *бальза́м.* Новае запазычанне з зах.-еўрап. моў: ням. *Balsam* (<лац. *balsamum* <грэч. βάλσαμον, а гэта з семіцкіх моў, гл. Клюге, 47). Гук -*з*- сведчыць толькі аб зах. мовах як непасрэднай крыніцы ўсх.-слав. слоў. Фасмер, 1, 119. Не пераконваюць меркаванні: Шанскі, 1, Б, 28 (супраць Фасмера; за грэч. крыніцу); Трубачоў, Дополн., 1, 119 (указвае на ст.-рус. *валсамъ* <грэч., але гэта не адносіцца непасрэдна да формы *бальза́м*). Гл. яшчэ MESz, 1, 234—235 (там і іншая літ-ра); Гютль-Ворт, For. Words, 61. Форма *бальса́м* (Нас.), мабыць, адлюстроўвае напісанне слова ў еўрапейскіх мовах (параўн. Брукнер, 12).

**Бальзамі'н,** *бальзаміна* 'расліна бальзамін'. Рус. *бальзами́н* (з XVIII ст.), укр. *бальзамін.* Крыніцай запазычання з'яўляецца навалац. *balsamina* (<грэч. βαλσαμίνη), з якога запазычаны таксама ням. *Balsamine* (ж. р.), франц. *balsamine.* Параўн. Клюге, 47. Тып *бальзамін* праз франц. мову; бел. *бальзаміна*, мабыць, праз польск. Не вельмі пераконваюць меркаванні Шанскага, 1, Б, 28. Параўн. і форму *бальсаміна* (Сцяшк. МГ, Нас.).

**Бальзамі'раваць.** Рус. *бальзами́ровать* (з XVIII ст.). Лічыцца запазычаннем з ням. мовы *balsamieren;* аб запазычанні сведчыць суф. *-ір-* <ням. *-ier(en)*. Гл. Шанскі, 1, Б, 28—29. Параўн. яшчэ Гютль-Ворт, For. Words, 61—62. Але ўкр. *бальзамува́ти,* польск. *balsamować* з'яўляюцца або самастойнымі ўтварэннямі (ад *бальза́м*) або запазычаннем з іншай крыніцы.

**Ба'лька** 'бэлька' (Юрч., Сцяшк. МГ, Інстр. I, ДАБМ, 883, Бяльк., Шат., Касп., Нас.). Ст.-бел. *балька* 'тс' (з XVI ст.; Булыка, Запазыч.). Укр. дыял. *ба́лька* (у помніках з XVI ст.). Запазычанне з польск. *balka* 'тс' (<ням.). Рыхардт, Poln., 32; Рудніцкі, 66 (супраць польскага пасрэдніцтва). Параўн. *ба́лка*$_1$, *бэ́лька.*

**Балькл'івы** 'карослівы, шурпаты (пра бульбу)' (Жд.). Утварэнне ад *бо́лька* 'болька, ранка' (Бяльк.). Параўн. і рус. дыял. *бо́лька* 'балючае месца, рана, балячка; кароста, фурункул' (заходняе).

**Бальса'м.** Гл. *бальза́м.*

**Бальство'** 'перавага' (Гарэц.). Утварэнне на аснове слоў тыпу *бале́й* (слав. *bol'ьjь* 'большы і г. д.'); суфікс *-ство.*

**Бальша′к** 'дарога'. Гл. *бо́льшы.*

**Бальшы′** 'вялікі'. Гл. *бо́льшы.*

**Ба′ля** 'абаранак'. Гл. *ба́лё.*

**Баля′са** 'слупок для невысокай агароджы; шчыкеты' (Шат.), 'точаны слупок у поручнях' (Нас.), *баля́сы* 'агароджа, тын з слупікаў' (Касп.), *баля́с* 'слупікі для агароджы' (Касп.). Ст.-бел. *баляс* 'балюстрада' (Булыка, Запазыч., гл. і Гіст. лекс., 98). Рус. *баля́сы,* укр. *баля́си* (ст.-укр. *баляса* і *баляс* з XVI ст.). Запазычанне праз польск. *balas, balasa* з італ. *balaustro* (Варш. сл., 1, 26; Брукнер, 12; Фасмер, 1, 119; Рыхардт, Poln., 32; Кюнэ, Poln., 43; Рудніцкі, 68). Гл. яшчэ Шанскі, 1, Б, 29—30.

**Баля′ска** 'драбіны' (Булг.). Вытворнае ад *баля́са* (гл.). Першапачаткова меліся на ўвазе перакладзіны (балясы) драбін.

**Баля′скі** 'зубы' (Сцяц.). Метафара да *баля́са* 'слупок для агароджы і г. д.' Першапачаткова, мабыць, ужывалася ў сэнсе 'рэдкія зубы' (падобныя агароджы).

**Баля′сы тачы′ць** 'балагурыць і да т. п.' (Нас., Шат.). Рус. *точи́ть баля́сы,* укр. *точи́ти баля́си.* У аснове фразеалагізма ляжыць *баля́са* 'драўляны вытачаны слупок' (гл.). *Тачы́ць баля́сы* <'займацца непатрэбнай, ужо зробленай працай'. Гл. Фасмер, 1, 119; Шанскі, 1, Б, 29—30; Праабражэнскі, 1, 15; падрабязна Вінаградаў, РЯШ, 1941, 2, 18.

**Баля′чка.** Рус. *боля́чка,* укр. *боля́чка,* польск. *bolączka* (можа, і чэш. дыял. *bolačka,* але гэта няпэўна). Утварэнне суфіксам *-ка (*-ька)* ад старога дзеепрыметніка цяперашняга часу дзеяслова **bolěti* (гл. *бале́ць*): **bolętį->*bolęč-* (усх.-слав., параўн. укр. *болячий*). Параўн. ст.-слав. **болѧшт-**, Шанскі (1, Б, 161) памылкова выводзіць гэтыя формы ад **болякъ (?).*

**Бамбанье′рка** 'каробка для цукерак'. Рус. *бонбонье́рка* (з XIX ст.), укр. *бонбонье́рка.* Запазычанне з франц. *bonbonnière* 'тс' (утварэнне ад *bonbon* 'цукерка'). Запазычанае слова (параўн. яшчэ польск. *bombonierka*) аформлена суфіксам *-к(а).* Гл. Шанскі, 1, Б, 163.

**Бамбардзірава′ць.** Рус. *бомбардирова́ть* (з Пятроўскай эпохі). Запазычанне з ням. *bombardieren* 'тс'. Гл. Смірноў, Западн., 62; Фасмер, 1, 191; Шанскі, 1, Б, 162. Ням. дзеяслоў з франц. мовы (*bombarder*); да гісторыі слоў гл. Клюге, 90—91.

**Бамбі'за** 'вялікі, няўклюжы' (БРС, Гарэц., Бір. Дзярж., Нас.), 'гультай, абібок, някемны' (Бяльк.), таксама *бамбіс* (Бір. Дзярж.), *банбізіна* (Шат.). Рус. дыял. (смал.) *бамбйза.* польск. *bombiza* 'няўклюжы, тоўсты, брухач', *bambiza* 'пратэстанцкі свяшчэннік'. Лічыцца запазычаннем з літ. *bambizà, bambìzas (bambỹzas)* 'тс'. Урбуціс, Baltistica, V (1), 1969, 49—50 (да этымалогіі літ. слова гл. Фрэнкель, 1, 33). З іншага боку польск. словы (*resp.* бел.) хочуць растлумачыць запазычаннем з с.-лац. *bombizare* 'быць надутым, гаварыць пагардліва' (Варш. сл., 1, 189, параўн. Брукнер, 35).

**Бамбо'шы** 'галёшы, зробленыя з аўтамабільнай шыны, якія адзяюцца на валёнкі, буркі' (Выг. дыс.), 'лапці, пашытыя з скуры' (Сакал.). Відавочна, нейкае жартоўнае ўтварэнне. Другая частка слова яўна нагадвае слова *галёшы.*

**Бамбу'к.** Рус. *бамбу́к,* укр. *бамбу́к.* Слова, вядомае ў многіх мовах (англ. *bamboo,* франц. *bambou,* гал. *bamboe,* ісп. *bambú,* ням. *Bambus* і г. д.). Першакрыніца — інданезійская мова. Фасмер, 1, 120; Локач, 18; Клюге, 47; падрабязна MESz, 1, 235. Паводле Шанскага, 1, Б, 30, непасрэднае запазычанне з новалац. *Bambuc* (там і іншае тлумачэнне некаторых дэталей запазычання).

**Бамбу'ла** 'вялікі, рослы і тоўсты чалавек' (Ніканч.). Укр. *бамбу́ла* 'непаваротлівы, нехлямяжы чалавек або жывёла', польск. *bambuła* 'тс', чэш. *bambula* 'дурань'. Махэк$_2$ (44) бачыць крыніцу ў венг. *bamba* 'дурны' (гукапераймальнае, гл. MESz, 1, 235). Тады бел. і ўкр. словы (націск!) праз польск. мову. Для ўкр. слова (без матэрыялу іншых слав. моў) Рудніцкі (70) прыводзіць франц. *bamboula* 'сенегальскі негр' (са спасылкай на О. Горбача). Вельмі няпэўна.

**Бамбэ'лак** 'невялікі барабан з бразготкамі'; пераносна 'жывот' (Янк. Мат.). Запазычанне з польск. *bąbel, bębel* 'пухір, бурбалка', памянш. *bąbelek,* кантамінаванага з польскім *bębenek* 'бубен, барабан' (першае — да слав. асновы *bǫb-,* другое — таксама да *bǫb-*; экспрэсіўна-гукапераймальныя асновы, гл. Слаўскі, 1, 29, 31). Кантамінацыя мела месца, мабыць, ужо ў бел. мове. Але не выключаецца, што *бамбэ́лак* проста з польск. *bąbelek* 'бразготка'. Параўн. значэнне бел. слова: 'невялікі барабан з бразготкамі' (!). Параўн. укр. *бамбу́лька* 'круглая ягада (бульбы)' <польск. Да фанетыкі такіх запазычанняў гл. Зілынскі, PF, 12, 376. Пра магчымасць захоўвання групы *-ом-* (<прасл. *-ǫ-*) у слав. мовах гл. Махэк$_2$, 44 (але непераканаўча).

**Бамбэ'нак** 'бубен'. Запазычанне з польск. *bębenek* 'тс' (памяншальная форма да *bęben* 'бубен', слав. *bǫbъnъ, bǫbьnъ,* гл. *бу́бен).* Аб польскім слове гл. Слаўскі, 1, 31.

**Бана'льны.** Рус. *банáльный,* укр. *банáльний.* Запазычанне з франц. мовы: франц. *banal* (<франк. *ban* 'выгнанне і г. д.'; падрабязна гл. Клюге, 47). Гл. Фасмер, 1, 120; Шанскі, 1, Б, 30—31; таксама MESz, 1, 236. Няясна, ці трэба думаць пра пасрэдніцтва рус. мовы.

**Бана'н.** Рус. *банáн,* укр. *банáн.* Новае запазычанне з зах.-еўрап. моў (мабыць, праз рус. мову, дзе гэта слова было ўжо ў XVIII ст., гл. Шанскі, 1, Б, 31), дакладней, з франц. *banane* (а гэта з *banam* у мове баконго). Ням. (таксама ісп.) мова як пасрэднік дала б форму **банана* (ж. р.; Фасмер, 1, 120). Да гісторыі слова гл. яшчэ Локач, 18; Клюге, 48; MESz, 1, 236—237 (там і іншая літ-ра).

**Бана'тка** 'гатунак пшаніцы' (БРС). Рус. *банáтка,* укр. *банáтка.* Ад назвы румынскай вобласці Банат, дзе вырошчваюць гэты гатунак. Параўн. рум. *grîu de Banát* 'пшаніца банатка'. Да семантыкі параўн. і назву іншых гатункаў: *арнаўтка.* Параўн. назвы, якія прыводзіць Макавецкі, Sł. botan., 380—381, для пшаніцы ва ўкр. мове: *арнаутка, кубанка, татарка, сандомірка, угорка, банатка, донка, полтавка* і г. д.

**Банбе'нак** 'бубен, барабан; чалавек, што гучна гаворыць' (мазыр., Г. А. Цыхун, вусн. паведамл.). Польск. *bębenek* (*bęben* 'бубен'; прасл. аснова *bǫb-*). Параўн. *бамбэ́нак.*

**Ба'нда.** Рус. *бáнда,* укр. *бáнда.* Запазычанне з зах.-еўрап. моў: ням. *Bande,* франц. *bande,* італ. *banda* (<с.-лац. *banda;* першакрыніца — гоц. *bandwa, bandwō* 'знак, сцяг'). Фасмер, 1, 120; Клюге, 48; гл. яшчэ Шанскі, 1, Б, 31. Вельмі падрабязна MESz, 1, 237. Няясна Кюнэ, Poln., 43 (думае пра польскае пасрэдніцтва?).

**Банда'ж.** Рус. *бандáж* (з XVIII ст.), укр. *бандáж.* Запазычанне з франц. *bandage* 'павязка, бінт, бандаж' (да *bander* 'перавязваць'; франц. дзеяслоў, запазычаны з герм.; аб гісторыі слова гл. Клюге, 48; MESz, 1, 237). Фасмер, 1, 120; Шанскі, 1, Б, 31—32.

**Бандале'т** 'скураны пояс, да якога прымацоўваецца шабля; перавязь паляўнічай стрэльбы' (Нас.). Запазычанне з польск. *bandolet* 'тс' (а гэта з раманскіх моў, гл. Брукнер, 14). Кюнэ, Poln., 43.

**Бандзе'ля** 'галаўная павязка дзяўчыны; апаяска з стужкі'

(Гарэц.), *бандéля* 'тс' (Нас.). Запазычанне з польск. *bandela* 'тс' (а гэта з італ. *bandella*; Варш. сл., 1, 93).

**Бандзе'ра** 'флюгер' (Байк.—Некр.), *бандéра, бандéрка,* 'флаг; флюгер' (Нас.). Запазычанне з польск. *bandera* 'флаг; флюгер' (а гэта з італ. *bandiera* 'флаг, сцяг'; Брукнер, 14). Кюнэ, Poln., 43.

**Банду'ра₁.** Рус. *бандýра,* укр. *бандýра* (з XVIII ст.). Запазычанне з польск. *bandura* 'тс' <італ. *pandura* <лац. *pandūra*<грэч. πανδοῦρα 'цытра, кіфара'. Фасмер, 1, 120; Брукнер, 14; Бернекер, 42; Міклашыч, 7; Рыхардт, Poln., 33; Кюнэ, Poln., 43; Рудніцкі, 72. Параўн. яшчэ Шанскі, 1, Б, 33.

**Бандура₂** 'занадта вялікая рэч' (Яўс.). Мабыць, метафарычнае ўжыванне слова *бандýра* 'музычны інструмент' (гл.). Рус. *бандýра* 'тс' і 'тоўстая нехлямяжая жанчына высокага росту'. Параўн. значэнні слова *басэ́тля* 'музычны інструмент', 'вялікая дзяжа', 'мажная жанчына'.

**Банды'т.** Рус. *бандúт,* укр. *бандúт.* Паводле Фасмера, 1, 120, запазычанне з ням. *Bandit* або прама з італ. *bandito* 'бандыт' (спачатку 'выгнаны', ад дзеяслова *bandire* 'выганяць'). Шанскі (1, Б, 32) лічыць, што запазычанне адбылося праз польск. мову. Гл. яшчэ MESz, 1, 237—238. Рудніцкі (71) і БЕР (1, 31) памылкова лічаць *бандúт* вытворным ад *бáнда.* Форма *бандзíт* 'тс' (Бяльк., Шат., Касп.), мабыць, адлюстроўвае рус. уплыў.

**Ба'ндыш** 'калун, сякера' (лельч., Арх. ГУ). Відавочна, з **бындаш, *біндаш,* а гэта нейкая дыял. форма да *біндас* 'сякера' (гл.; <ням. *Bindaxt*). Канчатковае *-аш, -ыш* у гэтым слове можа адлюстроўваць ням. дыял. формы (аб ням. дыял. формах для 'сякеры' параўн. Непакупны, Мовознавство, 1970, 6, 38).

**Бандэро'ль.** Рус. *бандерóль* (з XVIII ст.), укр. *бандерóль.* Запазычанне (бел. і ўкр. праз рус. мову) з франц. *banderole* 'вымпел, перавязь' (<італ.). Шанскі, 1, Б, 32. Бел. слова запазычана з рус. яшчэ ў дакастрычніцкі перыяд (гл. Крамко, Гіст. мовы, II, 144—145, там і абгрунтаванне).

**Банк,** дыял. *бáнак* (Гарэц., Др.-Падб., Шат.). Рус. *банк* (з XVIII ст.), укр. *банк* і г. д. Запазычанне праз ням. *Bank* (або франц. *banque*) з італ. *banco* (якое спачатку мела значэнне 'стол мянялы'; <ням.; аб гісторыі слова гл. Клюге, 49; MESz, 1, 239). Фасмер, I, 120; Шанскі, 1, Б, 33.

**Ба'нка** 'пасудзіна'. Гл. *бáнька₂.*

**Банка́рт** 'байструк, пазашлюбнае дзіця' (Шат., Касп., БРС, Інстр. I, Шн., 3), *бэнка́рт* 'тс' (Нас.). Ст.-бел. *бенкарт, букарт* (Гіст. лекс., 114; Булыка, Запазыч.). Укр. *бе́н(ь)карт* 'тс' (з XVI). Запазычанне з польск. *bękart* 'тс' (Рыхардт, Poln., 34; Кюнэ, Poln., 44), дзе з ням. *Bank(h)art, Bankert* (ад *Bank* 'лаўка'). Гл. яшчэ Шалудзька, Нім., 21; Брукнер, 23—24; Корбут, PF, 4, 402, 512; Варш. сл., 1, 141; Махэк$_1$, 352; Рудніцкі, 104.

**Банке́т**. Ст.-бел. *банкет,* з канца XVI — пачатку XVII ст. (Булыка, Запазыч.). Рус. *банке́т*, укр. *банке́т* (ужо з XVI ст.). Запазычанне з зах.-еўрап. моў. Параўн. ням. *Bankett* (<італ. *banchetto),* франц. *banquet* (да гісторыі слова гл. Клюге, 49; MESz, 1, 240; Фасмер, 1, 121). Улічваючы націск у слове, Фасмер адхіляе пасрэдніцтва польскай мовы, але націск ні аб чым у дадзеным выпадку не сведчыць. Няясная фанетычна бел. дыял. форма *банкот* (Булг.).

**Банкоцэтлі** 'папяровыя грошы' (Бесар.). З польск. *bankocetel* 'тс' (а гэта з устарэлага ням. *Bancozettel* 'банкавае пасведчанне, чэк', гл. Варш. сл., 1, 95).

**Банкрат** 'дамкрат' (Бір. Дзярж.). Дыялектная трансфармацыя слова *дамкра́т* (гл.), мабыць, пад уплывам *банка́рт* 'байструк'. Жартаўлівае ўтварэнне?

**Банкру́т**. Рус. *банкро́т* (з XVIII ст.), *банкру́т* (з часоў Пятра I), укр. *банкро́т, банкру́т. Банкру́т* (больш даўняя форма) — запазычанне з франц. *banqueroute* або гал. *bankroet.* Больш новае *банкро́т* узята з ням. *Bankrott.* Першакрыніцай усіх гэтых слоў з'яўляецца італ. *bancarotta* 'зламаная лаўка'. Гл. Смірноў, Западн., 55; Фасмер, 1, 121; Шанскі, 1, Б, 35. Аб гісторыі слова гл. Клюге, 49.

**Бансю́к** 'байструк' (Некр.). Відаць, з *бэнсю́к* (вытворнае ад *бэнсь* 'тс' польскага паходжання, гл.).

**Бант$_1$** 'бант'. Рус., укр. *бант.* Лічыцца запазычаннем з польск. мовы (польск. *bant, banta* <ням. *Band;* да ням. слова гл. Клюге, 48). Фасмер, 1, 121; Шанскі, 1, Б, 35.

**Бант$_2$** 'жэрдзе, якое прыбіваецца паміж кроквамі' (Тарнацкі, Studia, Сцяшк. МГ). Паводле Тарнацкага, непасрэднае запазычанне з ням. *Band.* Параўн. яшчэ ст.-бел. *бант* 'бэлька', бел. дыял. 'бэлька ў гумне' (Чартко, Бел. лінгв. зб., 1966, 147). Параўн. *бант$_1$, ба́нта.* Гл. і Фасмер, ZfslPh, 28, 116.

**Бант$_3$**, дыял. 'абруч на бочцы' (ст.-бел. *бант* 'абруч', Чарт-

ко, Бел. лінгв. зб., 1966, 147). Паводле Чартка, там жа, з с.-в.-ням. *bant* 'тс'. Параўн. яшчэ Шалудзька, Нім., 21.

**Ба'нта** 'папярочная планка ў кроквах' (Шушк.). Укр. *ба́нта, ба́нтина* 'тс'. Запазычанне з ням. *Band* (дакладней, з с.-в.-ням. *bant*) 'звязка, спалучэнне, папярочная бэлька' праз пасрэдніцтва польск. *banta, bant* 'тс'. Фасмер, ZfslPh, 28, 116; Шалудзька, Нім., 21; Рудніцкі, 74.

**Ба'нька₁** 'медычная пасудзіна' (гл. Нас.). Рус. *ба́нка* 'тс'. Лічыцца запазычаннем з польск. мовы (Брукнер, KZ, 45, 26; Кохман, Kontakty, 103, асабліва 48—49). Аргументы супраць (Бернекер, 43; Фасмер, 1, 121; Шанскі, 1, Б, 34) не пераконваюць. У польск. мове *bańka* засведчана значна раней, чым ва ўсх.-слав. мовах (Кохман, там жа). Польск. слова ад *bania* 'пузатая пасудзіна' (значэнне 'пасудзіна ў слав. *ban'a* з'явілася ўпершыню, здаецца, у зах. славян. гл. Трубачоў, Ремесл. терм., 292—293).

**Ба'нька₂** 'пасудзіна з вузкім горлам' (Дразд., Вярэн.), *ба́нка* 'бляшанка для адстойвання смятаны' (Сцяц.). Ст.-бел. *банка* (гл. Булыка, Запазыч.). Укр. *ба́нька* 'гліняная або шкляная вузкагорлая пасудзіна', рус. *ба́нка.* Як і назва медычнай пасудзіны, запазычанне з польск. мовы (гл. *банька₁*, там і літ-ра). Гл. яшчэ Трубачоў, Ремесл. терм., 289—293.

**Ба'нька₃** '(цыліндрычнае) кольца, якім замацоўваецца каса на касільне' (Шат., Касп., Нас., Бяльк., Янк. I, Янк. Мат., Юрч., Лысенка ССП), таксама *ба́нка* (Лысенка ССП), *ба́начка, ба́нічка, ба́нечка* (ДАБМ, 832). Далей сюды належыць *ба́нька* 'вялікае металічнае кольца (у дзвярах або сцяне); шпора' (Гарэц.), *ба́нька* 'жалезная частка рэменя, пражка' (Сакал., КЭС). Відавочна, усё да *банька₁, ₂* 'пасудзіна, бурбалка і г. д.' (так ужо ў Даля). Развіццё значэнняў: 'штосьці круглае'→'(круглае, цыліндрычнае) кольца', 'круглая пражка (пражка-кольца)'. Значэнне 'жалезнае кольца на касільне' мае і рус. дыял. (заходняе) *ба́нька.*

**Ба'нька₄** 'расліна Nuphar luteum Sm., гарлачык жоўты' (Бейл.). Ад *банька* 'пасудзіна'. Назва дадзена расліне па форме кветак. Параўн. яе рус. назву *кубышка желтая,* укр. *глечики, кубишка, кувшинчик, збанок* (Макавецкі, Sł. botan., 243). Іншыя бел. назвы: *глечыкі, кушынкі, гарлачыкі, жбанкі* (Кіс., 87—88).

**Банька₅** 'яма на сухім месцы, напоўненая вадой, дзе расце лотаць' (Яшкін). Мабыць, метафара да *банька* 'пасудзіна'. У слав. і іншых мовах даволі частая з'ява, калі назвы рознага

посуду ўжываюцца для абазначэння глыбокіх месц, ям, выбоін. Параўн. бел. *балёя* (гл.), укр. *казано́к, ми́ска, яндила́, яндола́, баде́ня* (**bъdьnь* 'бодня', гл. Балецкі, SSlav., 4, 399—400), славен. *bédenj*, *čebĕr* (Безлай, SR, 5—7, 125, 141, 143). Гл. і геаграфічныя значэнні слав. слоў *kadъlbъ, kazanъ, kotьlъ, krina, makotьra, lonьcь, bъdьnь* (Талстой, Геогр.). Але, магчыма, звязана і з *ба́ня*$_2$ (гл.).

**Ба́нька**$_6$ 'бэлька' (Шат., Янк. I). Значэнне слова развілося ў бел. мове (у суседніх мовах, здаецца, такой семантыкі няма) на аснове **ban'a, *ban'ьka* 'купал; скляпенне; столь' (гл. *баня*$_1$). Першапачатковае значэнне, відаць, было *'столевая бэлька', *'бэлька скляпення'. Але можна ставіць пытанне аб паходжанні слова ад *ба́нта, бант* 'жэрдка, перакладзіна і да т. п.' (гл.). Памяншальнае **бантка* (>**банка*) магло потым зазнаць уплыў (фанетычны!) слова *ба́нька* 'пасудзіна і да т. п.' Гл. Краўчук, БЛ, 1975, 65.

**Ба́нькі** 'вочы' (Нас.). Укр. *ба́ньки* 'выпучаныя вочы', *ба́нька* 'бялок вока; крышталік вока', *банька́тий* 'з выпучанымі вачыма', *банька́ч* 'тс'. У рус. мове *ба́нька* 'вочы' толькі ў зах. і паўд. гаворках. Бясспрэчна, ад *ба́нька* 'шкляная пасудзіна; бурбалка, пузыр і г. д.' (так ужо меркаваў Даль).

**Баня**$_1$ 'лазня' (Юрч., Сцяшк. МГ, Сцяшк., Сцяц., Бяльк.). У гэтым значэнні толькі ўсх.-слав. (рус., укр. *ба́ня*) і паўд.-слав. (серб.-харв. *ба̏ња*, балг. *ба́ням* 'мыць'). У значэнні 'купал, скляпенне', 'банка, пасудзіна' і г. д. *ban'a* вядомае ў многіх слав. мовах. Лічыцца запазычаннем з нар.-лац. **baneum*, мн. **banea* (<лац. *balneum* 'баня'). Агляд літ-ры гл. Фасмер, 1, 121—122. Падрабязна аб гісторыі слова Мерынгер, WuS, 3, 196—197. Пра **ban'a* як абазначэнне пасудзін гл. асабліва Губшмід, Schläuche, 23—24. Магчыма, што значэнне 'купал, скляпенне'>'пузатая пасудзіна' з'явілася спачатку ў зах.-слав. мовах. Дэталёвую рэканструкцыю гісторыі праслав. слова гл. Трубачоў, Ремесл. терм., 289—293. Гл. яшчэ MESz, 1, 241.

**Ба́ня**$_2$ 'яма круглай формы, у якой здабывалі жалеза, соль' (Бярында, гл. Яшкін). Укр. *ба́ня* 'руднік'. Праз польск. *bania* 'тс' з венг. *bánya* 'тс' (а гэта з слав. моў). Гл. Брукнер, 14; Кніежа, 76; Саднік—Айцэтмюлер, 86; Тамаш, 88; Махэк$_2$, 45; MESz, 1, 241. Параўн. *ба́нька*$_5$.

**Бапіне́нка** 'валеная хустка' (ДАБМ, 946). Дыял. форма, замест **абапіне́нка* (да **абапінаць, абапнуць* 'нацягваць, абкручваць і г. д.'), што ясна з наступных назваў пераважна

вялікай, зімняй, цёплай хусткі, якія прыводзяцца ў ДАБМ: *апянáльнік* (945), *хустка-опына, хýстка-гопынка, хýстка-опінáнка, апінáха, апінянка, вóпінка, опінáка, апіненкі* (мн.) (946), *хустка апіністая, напінка, апінáтка, абапінáха, хýстка-опынóчка, опінінка* (947). Параўн. яшчэ *апінáлка* 'вялікая хустка' (Бяльк.). Назвы хусткі, утвораныя ад дзеяслова **pęti*, **pьnǫ*, вядомыя ў асноўным на поўдні і на паўд. усходзе Беларусі. Параўн. укр. *обпинáти* 'надзяваць, нацягваць', *обпúнка, опúнка* 'род адзення'.

**Бар** 'рэстаран, бар' (БРС). Рус. *бар*, укр. *бар*. Запазычанне з англ. *bar* 'стойка' (<франц.). Гл. Шанскі, 1, Б, 37. Падрабязна (з літ-рай) аб гісторыі і распаўсюджанні ў еўрапейскіх мовах гл. MESz, 1, 242.

**Бар!** (*бар-бар!*) 'падзыўное слова для авечак' (гл. ДАБМ, № 305, Лысенка ССП). Рус. *бар-бар-бар, барь-барь-барь, бáрька, бáря-бáря* 'тс', *бáрька* 'авечка', *бáря* 'баран'. Звязана з *баран* (гл.). Адкрытым застаецца пытанне аб першапачатковасці выклічніка ці назоўніка. Фасмер (1, 123), Махэк₂ (54) лічаць, што спачатку быў выклічнік (Коржынэк, LF, 58, 430). Параўн. яшчэ альпійскія (паўн.-італ.) словы для абазначэння авечкі, барана: *bera, bar* і г. д. Трубачоў (Происх., 76) мяркуе, што выклічнікі — вытворныя ад назоўнікаў (так і MESz, 1, 249, дзе венг. *bari!* — падзыўное слова для авечак<*báràny* 'баран'). Параўн. *барýсік!* Гл. таксама паралелі пад *бiркóвы*.

**Бараба'н.** Рус. *барабáн*. Паходжанне слова не вельмі яснае. Лічыцца запазычаннем з цюрк. моў. Крыніцай можа быць: 1) тат. *daraban* (адсюль польск. *taraban*, укр. *тарабан*); 2) цюрк.: тур., крым.-тат. *balaban* 'вялікі барабан'. Праабражэнскі, 1, 16; Фасмер, 1, 122—123; Дзмітрыеў, Тюрк. эл., 44. Гл. яшчэ Шанскі, 1, Б, 37.

**Бараба'ншчык.** Рус. *барабáнщик*. Натуральна гэта слова можна лічыць вытворным ад *барабáн* (гл.). Але ёсць думка, што гэта запазычанне з цюрк. **darabančy* (ад *daraban* 'барабан'). Так Залеман (аб гэтым гл. ИОРЯС, 10, 2, 76). Сумняваецца Шанскі, 1, Б, 37 (лічыць, што тут утварэнне суфіксам *-щик* ад *барабáн*). Цюрк. версію можа падтрымліваць укр. *барабáнчик* 'барабаншчык'.

**Барабаны** 'рукавы сарочкі з папярочнымі на іх зверху чырвонымі палосамі' (Шн., 3). Не вельмі ясна. Магчыма, першапачаткова 'шырокія надуўныя рукавы' (як барабаны). Па-

раўн. таксама стракатую фарбу барабанаў. Цікава, што рус. (разан.) *барабáн* — гэта 'папяровы карункавы ўзор'.

**Барава'я:** *б. зямля* 'ўрадлівая зямля' (Шчарб.). Прыметнік *баравы́* (ад **borъ* 'бор', гл.). У розных слав. мовах у залежнасці ад характару рэльефу гэты прыметнік азначае або дрэнную, або ўрадлівую зямлю. Рознае значэнне можа быць нават у блізкіх дыялектах. Падрабязна пра гэтую сітуацыю гл. Талстой, Геогр., 41.

**Бараві'нка** 'гатунак яблыкаў' (БРС). Відаць, з рус. *боровúнка* 'тс' (лічыцца, што назва ўзнікла ад імя тульскага садавода Бравіна, які вывеў гэты сорт). Гл. Фасмер, 1, 195; Шанскі, 1, Б, 170.

**Барада'.** Рус., укр. *бородá,* польск. *broda,* каш. *barda, broda*, чэш. *brada*, ст.-слав. **брада,** балг. *брадá,* серб.-харв. *брȁда*, в.-луж., н.-луж. *broda*. Прасл. *borda*, і.-е. **bhardhā* 'тс' (вядомае толькі ў частцы і.-е. моў): прус. *bordus,* лат. *bàrda, bârzda*, літ. *barzdà* (з іншай суфіксацыяй), лац. *barba,* ст.-в.-ням. *bart* і г. д. Лічыцца ўтварэннем ад **bhar-* 'быць вострым, рэзаць'. Бернекер, 72—73; Праабражэнскі, 1, 37; Фасмер, 1, 196; Брукнер, 40—41; Слаўскі, 1, 43; Траўтман, 27; Махэк$_2$, 62. Не абгрунтаваны версіі пра запазычанне слав. слова з герм. моў (так Педарсан, IF, 5, 72). БЕР, 1, 72, выстаўляе і.-е. праформу **bhor-dhā* (ад **bher-dh-* 'рэзаць, калоць').

**Баразна'** (адносна семантыкі гл. Яшкін.). Рус. *бороздá* (дыял. зах. *борознá),* укр. *борознá* (дыял. зах. *бороздá),* польск. *brózda,* чэш. *brázda,* в.-луж. *brózda,* н.-луж. *brozda,* ст.-слав. **бразда,** балг. *браздá* (дыял. *бразнá, брезнá*, гл. БЕР, 1, 73), серб.-харв. *брȁзда,* славен. *brázda.* Прасл. *borzda* (суф. *-zda,* параўн. Слаўскі, 1, 45); тып **borzna* другасны, вытворны ад **borzda* (гл. Рудніцкі, 175). Аснова **bor-* тая ж, што і ў **bor-na* (гл. *баранá*). Параўноўваюць з ст.-інд. *bhr̥ṣṭíṣ* 'вастрыё, зубец, край', ірл. *barr* 'верхавіна', ст.-в.-ням. *burst* 'шчаціна' (гл. Бернекер, 75; Фасмер, 1, 196); далей з лац. *forāre* і г. д. Корань **bor-* (і.-е. **bhor-*) у спецыяльным тэрміналагічным значэнні 'рабіць баразны і да т. п.' толькі ў слав. мовах і ў грэч. (Машынскі, Pierw., 74). Параўн. грэч. φαρᾶν 'араць', φάρος 'саха'.

Няпэўнымі з'яўляюцца версіі: Махэк$_2$, 65 (роднаснасць з літ. *bir̃žis*, лат. *birze* 'баразна і г. д.'; слав. *borz-* (<**bhorĝ-*) пад уплывам *gręda* зрабілася **borzda*); Голуб—Копечны, 76 (**borzda*<**bord-da,* роднаснае з ст.-в.-ням. *bart* 'край'); Ат-

купшчыкоў, ЭИРЯ, IV, 87—96 (<*borĝ(i)da,* да лац. *frangere* 'ламаць, разбіваць' і г. д.).

**Баразні'ць** 'блюзніць, вярзці' (Др.-Падб.), таксама 'баранаваць'. Першае значэнне, бясспрэчна, звязана з другім. Усё да *баразна́.* Як семантычную паралель гл. *баруздзіць*.

**Ба'рак** 'ворчык' (БРС). Укр. *ба́рок* 'дручок у возе, на які прымацоўваюцца пастронкі' (з XVIII ст.), рус. дыял. *ба́ро́к* 'тс'. Запазычанне з польск. *bark* 'тс' (таксама 'пляче'), а гэта да прасл. *bъrkъ* (аб польск. слове гл. Брукнер, 17; Слаўскі, 1, 27). Параўн. Рудніцкі, 82. Да слав. *bъrkъ* гл. яшчэ Бернекер, 108. Параўн. *абарак* (гл.).

**Бара'к.** Рус. *бара́к,* укр. *бара́к.* Запазычанне з франц. *baraque* 'тс' (<італ. *baracca*), падрабязна гл. Шанскі, 1, Б, 38—39.

**Бара'н$_1$** 'баран'. Рус. *бара́н* (ст. таксама *бора́н*), укр. *бара́н,* польск. *baran,* чэш. *beran* (дыял. *baran),* славац. *baran,* в.-луж. *boran,* н.-луж. *baran.* Прасл. форма няясная *(*boranъ, *beranъ, *baranъ?)*. Старое еўрапейскае слова цёмнага паходжання. Звычайна лічыцца альпійскім словам, звязаным з выклічнікам *ber-*. Гл. Бернекер, 43; Мейе, RS, 2, 69—70; Фасмер, RS, 3, 256; гл. яшчэ Слаўскі, 1, 27; Махэк$_2$, 51. Параўн. грэч. βάριον 'авечка', алб. *berr* 'тс', італ. *bero* 'баран', *bera* 'авечка', франц. *berri* 'баран'. Параўн. і выклічнікі для падзывання (укр. *бирь*, рус. *бар, бырбыр*; Коржынэк, LF, 58, 430; Фасмер, 1, 123—124).

Няпэўна Машынскі, JP, 33, 365—366 (ад і.-е. **u̯er-* 'авечка, шэрсць'; сюды параўн. і Трубачоў, Происх., 74—75). Таксама няпэўная версія пра запазычанне з цюрк. (тат.) *bärän* (Міклашыч, Türk. El. Nachtr., 2, 83; Дзмітрыеў, Тюрк. эл., 18—19). Брукнер (15) думаў пра сувязь з **borvъ* 'вяпрук і г. д.' (гэту версію падтрымлівае Шанскі, 1, Б, 39). Няпэўна таксама Трубачоў, Происх., 73—76, які, зыходзячы з словаўтваральнай няяснасці слова і адсутнасці яго ў паўд.-слав. мовах, думае пра запазычанне з цюрк. **baran* 'той, які ідзе'. Гл. яшчэ Губшмід, Этимология, 1967, 245—246.

**Бара'н$_2$** *баранок* (Інстр. II), *бара́нчык, баранэ́ць* 'птушка бакас' (КЭС, Лысенка ССП). Параўн. рус. *бара́шек,* укр. *бара́не́ць, баранчик, бара́нок* (апошняе з польск. *baranek* 'тс'), польск. *baranek* 'бакас'. Гл. Фасмер, 1, 125. Параўн. яго назвы ў іншых мовах: франц. *chevrelle, chèvre céleste,* ням. *Himmelsgeiß, Himmelsziege.*

**Бара'н$_3$** 'вялікая рыбацкая лодка' (палес., Маслен.). Бяс-

спрэчна, да *бара́н*$_1$. Вельмі вялікія прадметы, прылады часта носяць назву *бара́н* (параўн. Ісерлін, РЯШ, 1940, 4, 20—23).

**Бара́н**$_4$ 'прылада для сушкі сена' (Влад.). Да *бара́н*$_1$. Розныя драўляныя збудаванні, прылады, асабліва вялікія, часта называюць імёнамі жывёлін: часцей *бара́н* (так і ў іншых слав. мовах). Параўн. яшчэ *казёл* (у розных значэннях). Адносна ўжывання слова *бара́н* як тэхнічнага тэрміна ('рычаг, брус і г. д.', падрабязна гл. Ісерлін, РЯШ, 1940, 4, 20—23. Параўн. яшчэ *бара́н* 'баба для забівання паляў' (Нас.).

**Бара́н**$_5$ 'рубанак з дзвюма ручкамі' (Сцяшк. МГ, Інстр. II, Касп.), 'фуганак' (Янк. Мат.). Рус. *бара́нок,* укр. *баранок* 'тс'. З слова *руба́нок* (<ням. *Rauhbank*) перастаноўкай гукаў спачатку атрымалася *бара́нок* (Фасмер, 1, 124). Гэта форма ўспрымалася як памяншальная і было створана новае слова («непамяншальная» форма) *бара́н.*

**Бара́н**$_6$ 'грыб ваўнянка' (Сцяшк. МГ). Параўн. укр. *баранячка* 'ваўнянка'. Мабыць, па знешняму падабенству ад *бара́н*$_1$ (шапка грыба пакрыта валаскамі). Параўн. і франц. назву ваўнянкі — *mouton-zonê* (да *mouton* 'баран'). Да матывацыі гл. яшчэ Мяркулава, Очерки, 172—173.

**Барана́.** Рус., укр. *борона́,* польск. *brona*, чэш. *brána (brány)*, в.-луж. *bróna,* н.-луж. *brona,* балг. *бра́на́,* серб.-харв. *бра̏на,* славен. *brána* і г. д. Прасл. *borna (bor-na)* ад асновы **bor-* (параўн. *bor-zda* 'баразна'). Параўноўваюць з лац. *forāre* 'свярліць', ст.-в.-ням. *borōn* 'тс', грэч. φαρόω 'ару', φάρω 'расколваю', лат. *beȓzt* 'церці, чысціць' і да т. п. Гл. Бернекер, 74; Праабражэнскі, 1, 38; Фасмер, 1, 196—197; Брукнер, 41; Слаўскі, 1, 43; Махэк$_2$, 64; БЕР, 1, 74. Параўн. яшчэ Машынскі, Pierw., 74 (спецыфічная сувязь слав. і ст.-грэч. моў).

Вельмі няпэўнай (з пункту погляду фанетыкі) з'яўляецца версія Аткупшчыкова, ЭИРЯ, IV, 87—96 (**borna*<**bhorgná* або **bhorgsná,* да лац. *frangere* 'разбіваць').

**Бара́нак.** Гл. *абара́нак.*

**Баранец** 'расліна дзераза, Lycopodium selago L.' (Кіс.). Рус. *бара́не́ц,* укр. *баране́ць* 'Lycopodium complanatum'(«воўча лапа»). Ад *бара́н* 'баран'. Лісце гэтай расліны пакрытае нібы авечым руном, шэрсцю. Ад *баранец*, магчыма, утварылася назва *бронец (бране́ц)*, гл.

**Барані́ць** (БРС, Шат., Касп., Гарэц., Мал., Нас.). Рус. (ст.) *(о)борони́ть,* укр. *борони́ти,* польск. *bronić,* чэш. *brániti,* ст.-слав. **бранити**, балг. *бра́ня,* серб.-харв. *бра̏нити.* Прасл.

*borniti born'ǫ* 'бараніць'. Вытворнае ад прасл. *bornь* 'вайна, барацьба, абарона; зброя' (рус. *бо́ронь* 'барацьба, перашкода', ст.-слав. **брань** 'бітва, бой', балг. (ст.) *бран,* серб.-харв. *бра̑н* (ж.) 'бой', славен. *brȃn* (ж.) 'абарона', чэш. *braň* 'зброя', польск. *broń* 'зброя' і г. д.), якое паходзіць ад **borti*, **bor'ǫ* 'змагацца' (гл. *баро́цца*). Фармальна бліжэй да слав. *bornь* стаіць літ. *barnìs* 'сварка, лаянка' (балта-слав. **barni-* 'сварка, барацьба'; Траўтман, 27). Літ-ру далей гл. пад *баро́цца.* Параўн. яшчэ Махэк₂, 64 (дэталёва марфалогія), які, аднак, (там жа, 61) знаходзіць роднаснасць з ірл. *fó-bairim* 'нападаць'.

**Баранкі,** *барашкі* 'кучаравыя воблакі' (Інстр. I), *бара́нчыкі* (БРС). Параўн. укр. *баранці́* 'лёгкія хмаркі', польск. *baranki,* чэш. *beránky* 'тс'. Метафарычнае ўжыванне адной з форм слова *бара́н*₁. Першапачаткова 'кучаравыя хмаркі' (нагадваюць шэрсць барана).

**Барано'ва** 'баранеса'. Запазычанне з польск. *baronowa* (да *baron* 'барон').

**Бара'нчыкі** 'ўключыны ў лодцы' (Маслен.). Бясспрэчна, вытворнае (семантычна) да *бара́н* 'баран'. *Бараном* называюць розныя драўляныя прылады, не толькі вялікія, але пэўнай формы (калодкі і г. д.). Гл. падрабязна Ісерлін, РЯШ, 1940, 4, 20—23.

**Баранюхі** 'брусніцы' (Бесар.). Параўн. польск. *baraniucha* 'талакнянка, мядзведжая ягада, Arctostaphylos L.' Ад *бара́н*₁ (гл.), але матывіроўка назвы няясная. Для брусніц падобнае слова, здаецца, не сустракаецца ў іншых мовах. Таму можна меркаваць, што назва выпадковая і перанесеная з нейкай іншай расліны.

**Барахло'** (БРС, Нас., Сакал., Сцяшк. МГ, Шат.). Рус. *бара́хло́,* укр. *барахло́.* Бел. і ўкр. словы, мабыць, запазычаныя з рус. мовы. Слова не вельмі яснага паходжання. Старая версія пра запазычанне з манг. мовы (ССРЛЯ, I, 275; Рудніцкі, 78; Аткупшчыкоў, ЭИРЯ, V, 73—79) не вельмі пераконвае. Шахматаў (ИОРЯС, 7 (2), 352 і наст.) прапанаваў звязаць з ст.-рус. і дыял. *бо́рошень* 'дарожныя пажыткі, запасы; скарб і г. д.' Далей звязваюць з чэш. *brašna* 'сумка'. Гл. Шанскі, 1, Б, 41. Шавялоў. Prehistory (414) лічыць, што ў слове *барахло́* — «а- паўнагалоссе» і параўноўвае з укр. *бо́рошно* 'мука'. Вельмі няпэўна.

**Барахма'цца** 'дужацца'. Гл. *баро́хтацца.*

**Барахо′лка.** Запазычанне з рус. *барахолка* (дзе з'яўляецца вытворным ад *барахло́*, гл.).

**Барацьба′** (БРС, Касп.), укр. *боротьба́.* Крамко (Гіст. мовы, II, 141) лічыць, што прынамсі бел. слова з'яўляецца няпоўнай калькай (у дакастрычніцкі перыяд развіцця бел. літаратурнай мовы) з рус. (*борьба́*), якая ад рускага слова адрозніваецца словаўтваральным элементам. Вывад вельмі няпэўны. Хутчэй *барацьба́, боротьба́* — бел.-укр. утварэнне (з новым суфіксам *-тьба,* які ўзнік на базе дэкампазіцыі такіх слоў, як *малацьба́*). Бел. *барадзьба́* 'баранаванне' (Касп.) <*барацьба* (кантамінацыя з словам *бараньба* 'баранаванне'). Да ўтварэнняў тыпу бел. *барацьбіт* гл. Кіш, SSlav., 2, 365—371.

**Ба′рбар** 'варвар', *ба́рбарскі* 'варварскі'. Укр. (ст.) *барбарскый.* Запазычанне (мабыць, праз польск. *barbar* 'варвар'; да польск. слова гл. Брукнер, 15) з лац. *barbarus* (<грэч. βάρβαρος), якое распаўсюджана і ў зах.-еўрап. мовах (ням. *Barbar* і г. д.). Да гісторыі слова гл. Клюге, 51 і асабліва падрабязна MESz, 1, 247—248. Таксама з польск. мовы ўзята *барбары́нства* 'варварства', *барбары́нскі* (Нас.). Гл. Кюнэ, Poln., 43.

**Ба′рбара** 'рэвень' (Жд.). Скарачэнне запазычанага з польск. мовы **рэбарбара, *рабарбара* (<польск. *rabarbara, rebarbara*), якое паходзіць з лац. *rhabarbarum, reubarbarum* (падрабязней гл. Брукнер, 456; Махэк, Jména rostl., 86). Польск. *barbara* азначае зусім іншую расліну (Barbaraea) і не можа быць крыніцай бел. слова, нягледзячы на фанетычную блізкасць.

**Барбара**$_1$ (ст.-бел.) 'прылада катавання' (Чартко, Дасл. (Гродна), 1967, 54). Чартко, там жа, бачыць тут запазычанне з ням. *Barbarei* 'варварства, дзікасць'. Этымалогія вельмі няпэўная. Хутчэй ст.-бел. слова трэба параўноўваць з укр. *барба́ра, байба́ра́* 'бізун, пуга і г. д.' Усё гэта запазычанні з польск. *barbara* 'тс' <уласн. імя *Barbara* (матывацыю гл. Брукнер, 15). Параўн. Краўчук, ВЯ, 1968, 4, 126 (параўн. яшчэ ўкр. *ванда́* 'арапнік, доўгі бізун' <*Wanda*). Аб называнні прадметаў уласнымі імёнамі людзей гл. падрабязна Банфантэ, RL, IV, 19—28. Параўн. *барба́ра*$_2$.

**Барба′ра**$_2$ 'кол у плытагонаў' (нёманск., гродз., Г. А. Цыхун, вусн. паведамл.). Відаць, таго ж паходжання, што і *барба́ра*$_1$ (гл.), г. зн. запазычанне з польск. Параўн. *barbara* 'доўгі, тоўсты канат' (<уласн. імя *Barbara*); параўн. яшчэ

польск. дыял. *barbara, jadwiga* 'драўляны крук для падвешвання катла над агнём'. Гл. яшчэ Махэк2, 46 (пад *barbora,* дзе прыводзяцца розныя назвы прадметаў ад жаночага імя).

**Барбары́с** 'расліна Berberis L.' (Кіс.). Рус. *барбари́с* (ст. *берберис),* укр. *байбари́с* (дысіміляцыя *р-р>й-р), барбари́с.* Запазычанне з новалац. *berberis* (а гэта, магчыма, з араб. *barbāris<ambar bāris<amīr bāris* 'Berberis vulgaris'; Локач, 20). Фасмер, 1, 125; Праабражэнскі, 1, 16—17; Шанскі, 1, Б, 42.

**Барбо́с** (БРС). Рус. *барбо́с,* укр. *барбо́с.* Не вельмі яснае слова. Праўдападобнай з'яўляецца думка, што яно было занесена ў Расію праз прыгодніцкія раманы (у якіх, у прыватнасці, выступае ісп. разбойнік *Barbosa,* літаральна 'барадаты': *Борбос, Барбосс, Барбос; Фран Барбоса, разбойник гишпанский* > 'злосны чалавек'> 'злосны сабака'). Аб такой магчымасці сведчыць і іншая назва сабакі — рус. *Полка́н* (<італ. *Pulicane,* пачвара ў прыгодніцкім рамане «Buovo d'Antona»). Кіпарскі, ZfslPh, 27, 32—34; Штрыдтэр, ZfslPh, 28, 72—75; Унбегаун, ZfslPh, 28, 58—72. Іншая версія: запазычанне з цюрк. моў. Раней аб гэтай магчымасці Кузеля—Чайкоўскі, Словар, 37 (<тат.); цяпер падрабязна Райзензон (пісьм.). Не пераконвае Шанскі, 1, Б, 42, які бачыць тут утварэнне ад дзеяслова тыпу ўкр. *барабо́сити* 'балбатаць і да т. п.'

**Барбуха** 'божая кароўка' (Інстр. лекс.). Мабыць, да той самай асновы *babr-, bobr-* (>*барб-*), што і ў слове *бобер* 'божая кароўка' (гл.; там і меркаванні аб паходжанні асновы).

**Ба́рва**1 'колер' (БРС), ст.-бел. *барва* (Гіст. лекс., 116; Булыка, Запазыч., з XV ст.). Укр. *ба́рва* 'колер' (з XVI ст.). З польск. *barwa* 'тс' <с.-в.-ням. *varwe* (магчыма, праз чэш. *barva;* Брукнер, 17). Бернекер, 44; Слаўскі, 1, 28; Рыхардт, Poln., 33; Кюнэ, Poln., 43. Іншая версія: непасрэднае запазычанне з ням. мовы (Рудніцкі, 79; там і літ-ра), што, аднак, не вельмі пераконвае.

**Ба́рва**2 'верхняе адзенне яркага колеру' (Нас.). Ст.-бел. XVII ст.: 'верхняе адзенне, кафтан, святочная вопратка' (Нас. гіст.; Булыка, Запазыч.). Укр. *ба́рва* 'форменнае адзенне; ліўрэя' (з XVII ст.). Запазычанне з польск. *barwa* 'тс' (па паходжанню тое ж самае, што і *barwa* 'колер', гл. Брукнер, 17).

**Барве́нак,** *барвінак, барвінец, барвінок* 'кветка Vinca minor L.' (Кіс., Сцяц., Бесар., Булг., Бейл.). Рус. *барви́нок, барвено́к,* укр. *барві́нок, берві́нок* і г. д. З польск. *barwinek*

<чэш. *barvinek* <ням. *Bärwinkel, Beerwinck* <лац. *pervinca* 'тс'. Бел. *барвінец*, укр. *барвінець* — асацыяцыя да *вянéц, вінéць; барвінок* і да т. п. — асацыяцыя да *вянóк.* Бернекер, 44; Корбут, PF, 4, 428; Фасмер, 125; Брукнер, 17; Махэк$_1$, 26.

**Барвя'к** 'брод' (Касп.). Відавочна, з *бэ́рва* 'кладка, жэрдачка праз раку' (гл.).

**Барда'$_1$** 'брага' (Сцяшк., Сцяшк. МГ). Рус. *бардá,* укр. *бардá.* Лічыцца запазычаннем з цюрк. моў: тое ж самае, што і *бурдá* (гл.). Фасмер (1, 126) указвае на паралелі *салтáн‖султáн.* Гл. яшчэ Шанскі, 1, Б, 43; Рудніцкі, 80. Сюды і бел. *бардахлы́ст* 'п'яніца' (Нас.) да *бардá* і *хлыстáць.* Параўн. рус. *бурдохлы́ст* 'вельмі дрэнная ежа, дрэнны напітак' (гл. Фасмер, 1, 207, пад *брандахлы́ст*).

**Барда$_2$** 'тупая сякера' (Касп.). Гл. *барта.*

**Бардады'м** 'бамбіза' (Гарэц.), 'высокі і нехлямяжы чалавек' (Др.-Падб.). Рус. дыял. *бардады́м* 'нехлямяжы або высокі чалавек', укр. *бардади́м* 'вялікі па камплекцыі чалавек, высокі чалавек'. У аснове ляжыць дэфармаваная назва манаха-бернардынца (параўн. бел. *бардады́н* 'манах ордэна св. Бернарда', Нас.), фігура якога ў народзе выклікала насмешкі і жарты. Параўн. у польск. мове: *Bernardyński kark.— Palnał bernardyński (=duży) kieliszek starki.— Zaczął zajadać z bernardyńskim apetytem* (Варш. сл., 1, 116). Адсюль 'здаровы, мажны чалавек, бамбіза і г. д.' Падрабязна гл. Краўчук, ЛБ, 8, 73.

У рус. мове *бардады́м (бардадáшка, бардáшка)* таксама 'картачны кароль чорнай масці' (аб гэтым Папоў, Лекс., 50; Трубачоў, ЭИРЯ, 3, 42—44; памылкова Праабражэнскі, I, 17 і Фасмер, I, 126).

**Бардзю'р** 'абрамленне, кайма і г. д.' Рус. *бордю́р* (з XVIII ст.), укр. *бордю́р.* Новае запазычанне (напэўна, праз рус. мову) з франц. *bordure* 'тс' (а гэта вытворнае ад *bord* 'край'). Фасмер, 1, 193; Шанскі, 1, Б, 167.

**Бардо'** 'бардовы колер; віно'. Рус., укр. *бордó.* Запазычанне з франц. мовы (бел., укр. праз рус.): франц. *bordeaux* 'віно з Бардо' (ад назвы мясцовасці *Bordeaux*). Адсюль пазней утварылася назва колеру. Фасмер, 1, 193; Шанскі, 1, Б, 166—167. Франц. слова вядомае і ў іншых еўрап. мовах (і як назва колеру): ням. *bordeaux,* ісп. *bordó,*італ. *bordò,* венг. *bordó.* Гл. яшчэ MESz, 1, 344.

**Бар'е'р.** Рус. *барьéр*, укр. *бар'é р.* Запазычанне з франц.

*barrière* 'тс'. Фасмер, 1, 129. Некаторыя ўдакладненні гл. Шанскі, 1, Б, 50—51.

**Ба́ржа.** Рус. *ба́ржа* (з XVII ст.), укр. *ба́ржа.* Запазычанне з англ. мовы (<англ. *barge* <франц. *barge* <італ. *barca* і г. д.). Падрабязна Шанскі, 1, Б, 43—44. (Фасмер, 1, 126, недакладна тлумачыў як запазычанне з франц. або с.-н.-ням.).

**Барздэ́** (прысл.) 'няўцям' (Клім.: *Мыні й барздэ́, що Ко́ля там міг бы бу́ты*). Не вельмі яснае слова. Мабыць, першапачаткова абазначала 'хутчэй' і звязана з *бардзе́й, барздзе́й, барджэ́й, барждж́эй* 'хутчэй' (ад *бо́рзды* 'хуткі', *бо́рзда* 'хутка'). Значэнне 'няўцям' магло развіцца, напр., з такіх сказаў: *Яму няўцям, а мне барзджэ́й (няўцям).* Але паколькі ў гэтай палескай гаворцы оканне, то зыходзіць трэба з **барздэ(й)* ад польск. *барзо, бардзо* 'вельмі' (*bardzo, barzo,* гл. пад *ба́рзо).*

**Ба́рзо** 'вельмі' (Бесар.), *бардзо* (пінск., Бяс.), ст.-бел. *барзо* (Гіст. лекс., 97; Нас. гіст.: XVI ст., Булыка, Запазыч.), укр. *ба́рдзо, барзо, барз* і г. д. (з XVI ст.). Запазычанне з польск. *bardzo, barzo, barz* і г. д. 'вельмі' (а гэта да прасл. **bъrzъ* 'хуткі', гл. падрабязна Слаўскі, 1, 27). Рыхардт, Poln., 33; Рудніцкі, 80; Гіст. лекс., 97. Сюды ж і *ба́рзы* 'добры, ветлівы' (Нас.).

**Ба́рка** 'барка' (БРС), 'невялікая дашчаная лодка' (Маслен.). Рус. *ба́рка,* укр. *ба́рка* 'тс'. Запазычанне з зах.-еўрап. моў: ням. *Barke* або франц. *barque,* італ. *barca.* Фасмер, 1, 127 (там і падрабязней аб першакрыніцы слова). Іначай Шанскі, 1, Б, 45 (<ням.).

**Барка́н$_1$,** *парка́н* 'плот, агароджа' (Касп., Шушк., Шн., Маш., Інстр. II). Укр. *барка́н, парка́н* 'тс'. Запазычанне з польск. *parkan* 'тс' (а гэта з венг. *párkány,* параўн. Брукнер, 396). Гл. яшчэ Булыка, Запазыч., 237.

**Барка́н$_2$,** *барканчу́к* 'дзіця незамужняй жанчыны' (Маш.). Метафарычнае ўжыванне слова *барка́н* 'агароджа'? Першапачаткова, відаць, пейаратыўная назва ('дзіця, што нарадзілася пад плотам'). Але хутчэй зыходнай формай, зразумела, з'яўляецца *барканчу́к* (вытворнае суфіксам *-чук* ад *барка́н* 'агароджа'), адсюль скарачэнне *барка́н.*

**Барка́н$_3$** 'від тканіны' (Нас.). Рус. *барака́н, барка́н.* Першакрыніца — араб.-перс. *barrakan.* Форма *барка́н,* як лічыць Фасмер, 1, 123, зыходзіць да гал. *barkaan.* Гл. яшчэ Брукнер, 15.

**Барка'на'** 'морква' (Касп.). Рус. *боркáн, баркáн, буркáн* 'тс'. Слова няяснага паходжання. Некаторыя версіі (напр., прыбалт.-ням. крыніцу: *Burkan, Burkane* і г. д.) прыводзіць Фасмер, 1, 194. Іначай Буга, Rinkt., III, 771, які лічыць, што **bъrk-anъ* і **mъrky* 'морква' аднаго паходжання (з невядомай сёння прыбалтыйскай мовы, у якой была змена $m \rightleftarrows b$).

**Барканчу'к** 'дзіця незамужняй жанчыны'. Гл. *баркáн₂*.

**Барка'с.** Рус. *баркáс,* укр. *баркáс.* Запазычанне з франц. *barcasse* 'тс'. Падрабязней гл. Шанскі, 1, Б, 45—46.

**Баркі** 'віціны' (Шн.). Бясспрэчна, таго ж паходжання, што і рус. *бáрок,* укр. *бáрок* (мн. *бáрки*) 'дручок у возе, ворчык' (а гэта запазычанне з польск. *bark* 'ворчык; пляча'; аб паходжанні польск. слова гл. Брукнер, 17; Слаўскі, 1, 27). Параўн. яшчэ Булыка, Запазыч., 37.

**Барку'н** 'палявая трава' (Сцяшк. МГ), 'баркун белы, Melilotus albus L.' (Кіс.), 'люцэрна серпападобная, Medicago falcata L.' (Кіс.). Таксама *беркун, беркін* (гл.). Рус. *буркун,* укр. *буркун, боркун, борконь, буркунчик, бурундук, бурунчук, борончук* і г. д. (гл. Макавецкі, Sł. botan., 226—227, 229; Мяркулава, Очерки, 86—87). Паводле Мяркулавай, Очерки, 87, ва ўкр. мове запазычанне з цюрк. моў (спроба цюрк. этымалогіі Мяркулава, Очерки, там жа), а адтуль у рус. У бел. мову таксама, мабыць ,узята непасрэдна з укр.

**Барлёчы** 'грубыя жаночыя чаравікі' (Касп.), *барлячы* (Шат.), *бáрлеч* 'чаравік'. Укр. дыял. *берлячі* 'зімовыя чаравікі', польск. *berlacze* 'зімовыя боты, пантофлі'. Першакрыніца — ням. *Bärenlatschen* (да *Bär* 'мядзведзь', *Latsche* 'пантофля', гл. Брукнер, 21). Бел. і ўкр. формы, магчыма, праз польск. мову.

**Барліна** 'барка, вялікая лодка, баржа, вялікі рачны човен' (БРС, Янк. I, Маслен., КЭС, лаг.), *бэрліна* (Бесар., 153). Рус. *берлинка* 'від рачнога судна на Дняпры і Сожы', укр. *берлина, берліна* 'від чаўна, баржы на Днястры'. Паводле Брукнера, 21; Клюге, Seemannsspr., 88; Корбута, PF, 4, 482, ад назвы месца *Berlin* (як і назва карэты рус. *берлин*). З іншага боку, Гараеў, а за ім і Безлай, Novejše, 10—11, вылучаюць іншую версію (Гараеў: сувязь з польск. *berło,* укр. *берло* 'палка, жэзл'; Безлай прыводзіць слав. адпаведнасці: славен. *brlä* 'агароджа, частакол у рацэ' і да т. п.). Гл. яшчэ Фасмер, 1, 158.

**Барля'ць** 'пераліваць, узбоўтваць; працаваць без толку' (Касп.). Параўн. рус. дыял. (пск., вяц., ноўгарад.) *бур-*

*ліць* 'муціць, мяшаць ваду, пераліваць вадкасць'. Гл. *бурліць, бурыць*$_2$.

**Бармата'ць** 'мармытаць, бурчаць пад нос, бурчаць' (Нас., Касп., Шат.). Рус. *бормотáть*, укр. *бормотáти, бормотíти, бурмотíти*. Гукапераймальнага паходжання. Гл. Бернекер, 107; Траўтман, 39; Праабражэнскі, I, 37; Фасмер, 1, 195; падрабязна Шанскі, 1, Б, 169. Не абавязкова прымаць першасную форму *борботати* (якая быццам пасля дысіміляцыі дала *борм-*).

**Барні'цы** 'каноплі без семя'. Гл. *браніцы*.

**Баро'даўка** (БРС, Шат., Мал., Сцяшк. МГ). Рус. *бородáвка*, укр. *борóдáвка*, польск. *brodawka*, чэш. *bradavice, bradavka*, балг. *брадáвица*, серб.-харв. *брàдавица* і г. д. Прасл. **bordavъka*, **bordavica*. Утварэнне ад слав. **borda* 'барада' (гл.). Бернекер, 73; Праабражэнскі, 1, 37; Фасмер, 1, 196. Параўн. таксама Шанскі, 1, Б, 171. Махэк$_2$ (63) лічыць, што прасл. форма была **vorda*, **vordavъka*, **vordavica*, роднасная ням. *Warze* 'тс', якая потым трапіла пад уплыў слав. *borda* 'барада' (гэтую версію падтрымлівае Трубачоў, Дополн., 1, 196).

**Баро'даўнік** (БРС), *барадáўнік* 'расліна randaўнік, Lapsana L.' (Кіс.). Рус. *бородáвник* 'назвы раслін: Cerinthe major, Chelidonium majus, Psilonema calycinum', *бородáвочник, бородáвница* 'расліна Lapsana communis'. Укр. *борóдавник* 'назвы раслін: Clematis Vitalba L., Psilonema calycinum, Scleranthus annuus'. Назвы ўжываюцца для многіх раслін і не вельмі ясна, якая была першапачатковая матывацыя. Прынамсі Cerinthe мае на лісцях сасочкі. Усё да *барóдаўка* (гл.).

**Баро'к** 'могілкі' (ДАБМ, 914). Відавочна, сюды ж *барóк* 'назва ўчастка лесу' (Янк. Мат.). Гл. яшчэ Яшкін. Памяншальнае ад *бор* (першапачаткова 'могілкі ў бары'; могілкі нярэдка бываюць сярод хвойных дрэў). Параўн. рус. дыял. (ноўгарад.) *борóк* 'могілкі' (гл. СРНГ, 3, 114, там і меркаванні наконт этымалогіі).

**Баро'метр**. Рус. *барóметр* (з XVIII ст., стары націск: *барометр)*, укр. *барóметр* (з XVIII ст.; таксама ў форме *барометрум)*. Запазычанне з зах.-еўрап. моў (франц. *baromètre*, ням. *Barometer*). Фасмер (1, 128) мяркуе, што, зыходзячы з націску, трэба прымаць пасрэдніцтва польскай мовы (супраць гэтага Шанскі, 1, Б, 46, дзе і аргументы).

**Баро'н.** Рус. *барóн*, укр. *барóн*. Запазычанне з франц. *baron* або ням. *Baron* (першакрыніца ст.-в.-ням. *baro*). Прааб-

ражэнскі, 1, 17; Фасмер, 1, 128; Шанскі, 1, Б, 47; Клюге, 53; MESz, 1, 253.

**Бароўка** 'божая кароўка' (Інстр. лекс.). Паколькі параўнанне з *бор* 'лес' не мае сэнсу, то хутчэй за ўсё можна бачыць тут аснову *бар-*, якая служыць для падзывання авечак. Параўн. бел. *бар-бар* (ДАБМ, № 305), рус. *бар-бар, барь-барь, баря-баря; бáрька* 'авечка', *бáря* 'баран'. Божая кароўка часта называецца (божым) баранчыкам, (божай) авечкай. Параўн. чэш. *berunka, beruška*, ням. *Herrgottschäfchen*. Літ-ру гл. пад *бéдрык*. Параўн. і *буроўка*.

**Баро'хтацца** 'барацца, вазіцца' (Нас.). Рус. *барáхтаться*. Гараеў (12) і Шахматаў (ИОРЯС, 7, (2), 353—354) звязвалі гэтыя словы з *борóться, барóцца*. Фасмер (1, 124) сумняваецца. Іншыя лічаць, што гэта ўтварэнне ад гукапераймальнага *барах* (гл. Шанскі, 1, Б, 41; Лапацін, ЭИРЯ, II, 139—149). Сюды, магчыма, адносіцца і *барахмáцца* 'дужацца' (Касп.), з іншым «суфіксам» рус. (пск.) *барыхмáться*.

**Баро'цца** 'барацца'. Рус. *борóться*, укр. *борóтися*, ст.-польск. (дыял.) *bróć się*, в.-луж. *wobróćso*, н.-луж. *wobrojś* 'абараняцца', ст.-слав. **брати борѭ**, балг. *бóря се*. Параўн. далей серб.-харв. *бòрити се*, славац. *borit' sa* 'змагацца'. Прасл. *borti, bor'ǫ (sę)* 'тс'. Параўн. літ. *bárti* 'лаяць, сварыцца', лат. *bar̃t* (да балта-слав. формы гл. Траўтман, 27), ст.-ісл. *beria* 'біць', *beriask* 'змагацца', ст.-в.-ням. *berjan* 'біць', лац. *ferīre* 'біць, сячы, калоць'. І.-е. **bher-: *bhor-* 'біць, калоць, змагацца і да т. п.' Бернекер, 76; Праабражэнскі, 1, 38; Фасмер, 1, 197; Брукнер, 36; БЕР, 1, 69. Сюды і бел. *барóцца* 'бадацца' (Сцяц., Клім., Інстр. III, Арх. Бяльк., слонім.).

**Барс**$_1$ 'барс'. Рус. *барс* (з XVI ст.), укр. *барс* (з XVIII ст.). Запазычанне з цюрк. *bars, pars* 'тыгр, пантэра, рысь'. Фасмер, 1, 128 (там і літ.); Шанскі, 1, Б, 48.

**Барс**$_2$ 'барсук' (Інстр. II). Відавочна, форма, што ўзнікла скарачэннем з *барсýк* (гл.). Такая ж самая з'ява і ў літ. мове, дзе *barsas* 'тс' < *bars(i)ùkas* (гл. Фрэнкель, 1, 35).

**Барса'ць** 'працягваць аборы ў лапці' (Гарэц., Касп.; *барсáць* || *варсáць* — Шат.), 'кідаць' (Гарэц.). Сюды ж з іншым вакалізмам: *бэ́рсаць* 'блытаць (ніткі), блытаць, разматваць у беспарадку, рабіць неакуратна; пароць ежу і не есці; пісаць; нячыста жаць' (Шат., БРС, Бір. Дзярж., Сцяшк. МГ, Сцяц., Янк. Мат.). Укр. *бóрсáти* (часцей з прэфіксамі) 'працягваць вяроўку ў вушка лапця; кідаць'; *бóрсатися* 'кідацца ў розныя бакі, вазіцца, валтузіцца'. Слова цёмнага паходжання. Януў

(Зб. Развадоўскаму, 2, 277) выводзіў з *ob-vors-ati* (пры гэтым корань **vors-* не тлумачыўся). Райхэнкрон, ZfslPh, 17, 148—149 (без бел. матэрыялу) выводзіў з рум. мовы (няпэўна). Параўн. яшчэ Рудніцкі, 178 (няма бел. слоў). Магчыма, ёсць сувязь з групай слоў тыпу рус. *бросáть* (аб гэтых словах Фасмер, 1, 218; Шанскі, 1, Б, 201—202): параўн. значэнне 'кідаць' у бел. і ўкр. слоў. Так Трубачоў, Этимология, 1965, 383. Гл. яшчэ *барсні́*. Львоў (Зб. Петравічу, 315—318) лічыць, што ўкр. *бóрсатися* і рус. *барáхтаться* неяк звязаны. Гл. *бэ́рсаць, варсáць, абарсаць.*

**Барсні′** 'лапці, сплеценыя з пяньковых вяровачак' (Янк. Мат.), 'скураныя лапці' (Касп.). Рус. дыял. (смал.) *борсни́* 'скураныя лапці'. Утварэнне ад дзеяслова *барсáць* (гл.) 'працягваць аборы ў лапці'. Гл. Краўчук, Бел.-укр. ізал., 37.

**Барсу′к** (БРС, Яруш., Сцяшк. МГ). Рус. *барсýк, борсýк,* укр. *бóрсук*, польск. *borsuk* і г. д. Запазычанне з цюрк. моў (тур. і г. д. *borsuk,* тат. *bursyk, barsyk;* літаральна 'шэры'). Фасмер, 1, 128; Слаўскі, 1, 39. Параўн. яшчэ Шанскі, 1, Б, 48—49.

**Барта** 'тапор', таксама *барда* (ст.-бел., гл. Гіст. лекс., 115; Чартко, Дасл. (Гродна), 54; Булыка, Запазыч., 38). Ст.-укр. *барта* (XVI ст.) 'від шырокай сякеры'. З польск. *barta* (таксама *barda*) 'тс'<с.-в.-ням. *barte* (гл. Фасмер, ZfslPh, 28, 117). Але, магчыма, запазычанне і непасрэдна з ням. мовы (гл. Чартко, там жа). Сюды адносіцца і бел. *бардá* 'тупая сякера' (Касп.) з другасным націскам.

**Бартыха′цца** 'боўтацца' (Касп.). Мабыць, гукапераймальнае, як і іншыя словы гэтага тыпу: бел. *барóхтацца,* рус. *барáхтаться, бургі́хтаться* 'вазіцца', *бургі́хтать* 'боўтаць'.

**Барть** 'борць' (Кіркор). Запазычанне з польск. *barć* 'тс' (прасл. *bъrtь*). Беларуская форма — *борць* (гл.). Параўн. яшчэ ст.-бел. (XVI ст., Нас. гіст.) *бартны* 'борцевы' <польск. *bartny* 'тс' (да *barć*).

**Баруздзі′ць** 'трызніць; блюзніць, вярзці' (Касп.). Рус. дыял. *барýздить* 'шумець', *баруздúть* 'быць неспакойным (аб вадзе)', *барýздить* 'трызніць; блюзніць', *бороздá* 'сварлівы чалавек, які выклікае беспарадак', *бороздúть* 'муціць ваду; перашкаджаць; блюзніць, вярзці; гаварыць незразумела' (акрамя асноўных значэнняў: 'араць, баранаваць і да т. п.'). Гл. СРНГ. Калі гэта не нейкае гукапераймальнае ўтварэнне, то, відаць, звязана з слав. *borzda, borzditi* (усх.-слав. *бороздá* і г. д.). Як семантычную паралель параўн. *баразні́ць* 'ба-

ранаваць; блюзніць, вярзці' (Др.-Падб., 21) <*баразна́*. Параўн. яшчэ ўкр. (зах.) *бороздити* 'перашкаджаць каму-небудзь'.

**Барука́цца** 'дужацца', 'барацца, змагацца', 'вазіцца' (БРС, Шат., Бір. Дзярж., Янк. Мат., Жд., Сцяц., Федар., I), *баро́кацца* 'дужацца', *бару́ка* 'ахвотнік дужацца' (КЭС, лаг.). Укр. *борюка́ти, борюка́тися, борiка́ти, борика́ти*, рус. дыял. *борюка́ться, боруха́ться* 'тс'. Польск. *borykać się* (<укр., Слаўскі, 1, 39). Экспрэсіўныя формы ад дзеяслова (усх.-слав.) **boroti sę* (параўн. *баро́цца*). Гл. Рудніцкі, 180.

**Барунка** 'расл. боцікі, Aconitum' (Крывіч, IV, 1923). Відаць, утварэнне суфіксам *-ун-ка* ад **borti (sę)*, гл. *баро́цца*. Параўн. іншую назву гэтай расліны — *барэц* (гл. *барэ́ц₃*, там і матывацыя).

**Бару́сік!** (*бару́сік! бару́сік!*) 'падзыўное слова для барана' (Маш.). Бясспрэчна, звязана з *бар!* (гл.). У аснове ляжыць выклічнік *бар-*, расшыраны суфіксамі. Можна думаць таксама аб паходжанні ад не зафіксаванага **барусь, *баруся* 'баран'.

**Баруўка** 'ягаднік брусніцы, Vaccinium vitis-idaea L.' (Кіс.). Зыходзячы з геаграфіі і формы слова, бясспрэчна, запазычанне з польск. *borówka* 'тс' (ад *bór* 'лес, бор'). Параўн. і ўкр. *борiвка* 'тс'. Да геаграфіі польскіх назваў тыпу *borówka* гл. Бельчарова, JP, 40 (4), 1960, 284 і наст.

**Барха́н**. Рус. *барха́н*, укр. *барха́н*. Запазычанне з казах. *barχan* (гл. Фасмер, 1, 129, там і літ-ра). Гл. яшчэ Шанскі, 1, Б, 49.

**Ба́рхатавы** 'аксамітавы' (Нас.). Утварэнне ад *ба́рхат* 'аксаміт' (параўн. ст.-бел. *бархат* 'тс', рус. *ба́рхат*, гл. Фасмер, 1, 129).

**Барчак** 'расліна боцікі, Aconitum L. stoerkianum' (Кіс.), 'Aconitum napellus' (Крывіч, IV, 1923). Не вельмі яснае слова. Параўн. іншую назву гэтай расліны — *барэц*. Магчыма, *барчак* вытворнае ад *барэц* (суф. *-'ак*)?

**Баршч** 'расліна баршчэўнік сібірскі, Heracleum sibiricum L.' (Кіс., Нас.). Запазычанне з польск. *barszcz* 'тс' (прасл. *bъrščь*); Кюнэ, Poln., 43. Бел. форма гэтага слова — *боршч* (гл.; там і літ-ра).

**Баршчо́вы** 'бурачковы (аб колеры)' (Нас.). У ст.-бел. з XVII ст. (Нас. гіст., Булыка, Запазыч.). Ст.-укр. (з XVII ст.) *барщевый, барщовый* 'ярка-чырвоны'. Запазычанне з польск. *barszczowy* (ад *barszcz*, прасл. *bъrščь*, гл. *боршч*).

**Барыка′да.** Рус. *баррикáда,* укр. *барикáда.* Запазычанне з франц. мовы: франц. *barricade* 'тс'. Фасмер, 1, 128; Шанскі, 1, Б, 48 (там і храналагічныя даныя).

**Бары′ла₁** 'бачонак, невялікая бочка; вялікая, шырокая бочка', таксама *барылачка, барылца, барэлочка, барылка, барэлка, барэлко* (Касп., Нас., Гарэц., Бяльк., Інстр. III, Др-Падб., Дзмітр., Шн., Бесар., КЭС, лаг., Булг., Федар., 4, Сцяц., Сцяшк. МГ, Арх. Бяльк. слонім.). Рус. дыял. *барúло* і г. д. (<укр. або бел.), укр. *барúло* (з XVI ст.) і г. д. Запазычанне з польск. *baryła* <італ. *barile.* Гл. Міклашыч, 7; Бернекер, 44; Фасмер, 1, 126—127; Брукнер, 17; Слаўскі, 1, 28; Кюнэ, Poln., 43. Гл. яшчэ Булыка, Запазыч., 37.

**Бары′ла₂** 'здаровы мажны мужчына; таўсцяк; тоўсты, нехлямяжы чалавек' (Касп., Нас., Гарэц., Сцяшк. МГ). Метафарычнае ўжыванне слова *барыла* 'бачонак' (гл.). Параўн. укр. *барилькувáтий* 'тоўсты, брухаты'.

**Бары′лка** 'драўляныя ці металічныя часткі падсядзёлка, дзе нацягваецца церассядзёлак' (КЭС, лаг.), *барілцо, барілца* 'вушка ў падсядзёлку, праз якое праходзіць церассядзёлак' (Маслен.). Да *барыла₁* (гл.), па некаторай падобнасці драўлянай часткі падсядзёлка з часткай барыла (два вухі і г. д.).

**Ба′рынь** 'пан' (Шат., Янк. III), *бáрінь* 'тс' (Бяльк.). Запазычанне з рус. *бáрин* 'тс' (а гэта з *боярин,* гл. Фасмер, 1, 127; Шанскі, 1, Б, 44). Форма *бáрынь* (замест *бáрын*) узнікла пад уплывам слова *бáрыня,* таксама запазычанага з рус. мовы (параўн. *бáрыня* 'пані', Янк. III, Шат.; *бáріня,* Бяльк.; гэта слова азначае і 'танец', што таксама ўзята з рус.).

**Барыто′н.** Рус. *баритóн,* укр. *баритóн.* Запазычанне з франц. *baryton* 'тс' (італ. *baritono* не вельмі падыходзіць як крыніца з сваім націскам). Параўн. Шанскі, 1, Б, 45.

**Бары′цца** 'марудзіць' (Нас., Гарэц., Кос.), *барíцца* (Бяльк.), *барыць* 'затрымліваць' (Нас.). Ст.-бел. *барити* 'тс' (Нас. гіст.). Укр. *барúтися,* рус. дыял. (арл., кур., варонеж.) *барúться* 'тс', *барúть* 'затрымліваць'. Цёмнае слова. Ільінскі (РФВ, 62, 251) бачыў тут аблаутную форму да і.-е. **bheu̯ā-* 'быць'+суф. *-r-* (**bhu̯ar->*bar-*) і знаходзіў сувязь з серб.-харв. *бòравити* 'знаходзіцца' (але аб серб.-харв. слове параўн. Чоп, SR, 12, 170—176, там і літ-ра). Іншая версія: сувязь з дзеясловам **variti* (з часовым значэннем). Так, ужо Насовіч (Нас. гіст., пад *барити*), пазней Трубачоў (ZfSl, 3, 671). Але з семантычнага погляду гэта не пераконвае. Магчыма, таго ж паходжання, што і рус. дыял. *бáриться* 'важнічаць;

лодарнічаць, ляніцца' (параўн. і ноўгарад. *барйться* 'важнічаць'; усё ад *бáр(ин)*); так ужо Даль (гл. Краўчук, БЛ, 1973, 4, 68). Параўн. яшчэ Рудніцкі, 81.

**Бары'ш** 'магарыч; прыбытак' (Касп., Шат., Нас., Выг. дыс., Бір. Дзярж., Федар., 4, Інстр. III, *барышы́* — Гарэц.). Ст.-бел. *барыш* (з XVI ст., Гіст. лекс., 139; Булыка, Запазыч.). Рус. *бары́ш*, укр. *бари́ш*. Запазычанне з цюрк. моў (параўн. тур., крым.-тат. *baryš* 'мір, прымірэнне'. Бернекер, 45; Праабражэнскі, 1, 18; Фасмер, 1, 129). Ёсць і іншая версія: запазычанне іменна з тат. мовы, гл. Шанскі, 1, Б, 50, там і літ-ра). Няяснае ўтварэнне *бары́шнае* 'агародніна' (Касп.).

**Барэ'лка** 'бачонак'. Гл. *бары́ла*$_1$.

**Барэ'ткі** 'жаночыя туфлі' (Касп.). Рус. дыял. *барéтки* 'розныя віды жаночага абутку' (смал., тул., свярдл., яросл. і г. д.), *барéты* 'модныя чаравікі' (данское). Паводле Шанскага, 1, Б, 43, магчыма, запазычанне з ісп. мовы (ісп. *barreta* 'скураная сцілка'). Няпэўна. Параўн. рус. дыял. *барéтовый* 'скураны' (?): *Надевал перчаточки баретовые* (з песні). Зыходзячы з рус. дыял. варыянта *бурéтки* 'жаночы абутак', можна лічыць, што слова таго ж паходжання, што і рус. *бурéт*, польск. *burat, buret, boradek, boratek* 'гатунак баваўнянай ці шарсцяной або шаўкова-шарсцяной матэрыі, якая мела ўзоры і ўжывалася на парцьеры і для пакрыцця мэблі' (а гэта з франц. *burat*, італ. *buratto*; Варш. сл., 1, 190, 235, 236). Тады значэнне 'скураны абутак' другаснае, а першаснае 'абутак з матэрыі' (гэта значэнне яшчэ вядома ў рус. гаворках). Таксама рус. *перчаточки баретовые* хутчэй за ўсё 'пальчаткі з матэрыі барету' (гл. Краўчук, БЛ, 1973, 4, 69).

**Барэ'ц**$_1$ (спарт.). Мабыць, запазычанне з рус. *борéц* (гэта слова, відаць, праславянскае — nom. agentis з суф. -*-ьсь ад **borti (sę)* 'змагацца', гл. *барóцца*; вельмі няпэўна Шанскі, 1, Б, 167: утварэнне ад **borъ* 'барацьбіт').

**Барэ'ц**$_2$ 'расліна баршчэўнік сібірскі, Heracleum sibiricum L.' (Кіс.). Укр. *борец* 'Heracleum Sphondylium L.' (Макавецкі, Sł. botan., 178). Ад слав. **borьсь* (<**borti* (*sę*), гл. *барóцца*). Матывацыя не зусім ясная. Магчыма, таму, што сцябло расліны пакрыта цвёрдымі валаскамі. Але не выключаецца, што назва дадзена ад моцнасці расліны (вышыня яе 90—200 см). Нарэшце, можна думаць і пра іншую матывацыю: расліна мае вострае лісце (адсюль і яе назвы ад асновы **bъrščь*, Фасмер, 1, 198, гл. *боршч, баршч;* супраць такой этымалогіі Мяркулава, Очерки, 61—62). Цікава, што наву-

ковая назва расліны — Heracleum узнікла ад імя антычнага героя Геракла (як думаюць, таму, што расліна вельмі моцная, высокая і мае лячэбныя ўласцівасці; Сімановіч, 229; Нейштадт, Определитель, 422).

**Барэ́ц₃** 'расліна мардоўнік, Aconitum L.' (Інстр. II). Рус. *боре́ц,* укр. *боре́ць, боре́ц.* Бяспрэчна, ад **borti (sę)* (гл. *баро́цца).* Расліна Aconitum вельмі ядавітая і з яе рабілі атруту для ваўкоў. Нейштадт, Определитель, 254—255; Сімановіч, 8; Махэк, Jména rostl.,46. Параўн. яшчэ іншыя назвы для Aconitum: рус. *волкобой,* чэш. *vlčí mor, psí mor,* славен. *pasja smrt,* лац. *aconitum lycoctonum, cynoctonum* і г. д.

**Бас₁** 'бас; чацвёртая струна ў скрыпцы, самая тоўстая' (БРС, Маш., Бяльк.). Рус. *бас,* укр. *бас* і г. д. Запазычанне з франц. *basse* або італ. *basso* (літаральна 'нізкі'). Праабражэнскі, 1, 19; Фасмер, 1, 129. Іначай Шанскі, 1, Б, 51, які на аснове гістарычных крыніц (рус. мовы) лічыць, што *бас,* прынамсі ў рус. мове, запазычана праз польск. *bas* (<італ.). Гл. яшчэ Клюге, 54 (тут і тлумачэнне слова як назвы інструмента); MESz, 1, 257. Сюды і *бас* (Браім, Весці АН БССР, 1973 (I), 128) 'кавалак дроту'. Параўн. *бас₂.*

**Бас₂** 'пас, шнур у самапрадцы' (Бяльк.). Слова не вельмі яснага паходжання. Можна меркаваць, што яно ўзнікла азванчэннем з *пас* (гл.). Але не выключаецца, што яно таго ж паходжання, што і *бас* 'чацвёртая струна ў скрыпцы, самая тоўстая' (гл. *бас₁).*

**Ба́са** 'вялікая кадушка' (Сцяшк. МГ, Сцяц.). Мяркуем, што гэта можа быць скарачэннем слова *басэ́тля* (гл.), якое ў значэнні 'вялікая бочка' ўжываецца якраз у зэльвенскіх гаворках. Іншая магчымая этымалогія: запазычанне з польск. *fasa* 'бочка' (<ням. *Faß*), з субстытуцыяй *f*>*b*. З гэтага апошняга ўзята і бел. *фаска* (гл. Слаўскі, 1, 221).

**Баса́к** 'бусак' (Сцяшк. МГ). Запазычанне з польск. *bosak* 'тс' (а гэта з ням. *Bootshacken,* гл. Варш. сл., 1, 193; Брукнер, 37, зыходнай ням. формай лічыў *Bootshacke*). Параўн. *буса́к.*

**Басала́й** 'нягоднік, нахабнік' (Гарэц., Нас., Яруш.), *бысыла́й* 'нягоднік, абібок, гультай' (Бяльк.). Рус. *басала́й.* Гэта апошняе Фасмер (1, 130) лічыць магчымым выводзіць ад рус. *бас, бась* 'аздабленне' і *ла́ять.* Няпэўна. Параўн. яшчэ Львоў, Зб. Петравічу, 318—320, дзе прыводзяцца некаторыя меркаванні адносна паходжання слова.

**Басалы́га** 'басяк' (Арх. Бяльк., слонім.). Параўн. рус. дыял. *басалы́га* 'ветраны, легкадумны чалавек, балаболка і г. д.' Можна меркаваць пра сувязь з *басала́й* (гл.); тады «экспрэсіўны» суфікс *-ыга?* Але параўн. і польск. *basałyk* 'пуга; басяк'; *basałyga* 'тс'. Форму *basałyga* (экспрэсіўную!) Брукнер (17) лічыць вытворнай ад *basałyk*. Выходзіць, не выключаецца магчымасць і сувязі з ст.-бел. *басалык* 'пуга', рус. *басалы́к*, укр. *басалик* (з XVII ст.), польск. *basałyk*, запазычанымі з цюрк. моў. Фасмер, ZfslPh, 16, 68; Фасмер (1, 130) тлумачыць іх з тур., тат. *bašakly*. Але ёсць і тур. форма *basalık, basılık*! Невядома, якую ролю пры запазычанні іграла тут польск. мова (Булыка, Запазыч., 38: праз польск. *basałyk*).

**Басано́жкі** 'род абутку'. У гаворкі слова прыйшло з літаратурнай мовы (гл. Сцяц. Нар., 152), у якую яно трапіла з рус.

**Басаць** 'рэзаць', арго (Рам., IX, 5). Паводле Раманава (там жа), запазычанне з тат. мовы (дакладная крыніца не прыводзіцца).

**Басе́йн.** Рус. *бассе́йн*, укр. *басе́йн*. Запазычанне з франц. *bassin* 'тс'. Фасмер, 1, 132; падрабязна Шанскі, 1, Б, 53.

**Басі́ла** 'здаравяка-лайдак' (Яўс.). Параўн. рус. дыял. *баси́ла* 'франт; бяспутны чалавек, хуліган', *баси́ло* 'горды чалавек; франт'. Мабыць, звязана з дзеясловам тыпу рус. дыял. *ба́сить* 'выстройвацца, франціць', 'трымацца горда, важнічаць' (паходжанне яго не вельмі яснае). Гл. *баской.*

**Басі́лы** 'абутак з шыны' (Жд.). Гэта слова вельмі нагадвае іншую назву абутку — *бахі́лы* 'абутак, галёшы, зробленыя з шын, абутак з гумы і г. д.' (гл.). Што гэта варыянты аднаго і таго ж слова, здаецца, сведчыць паралелізм *бахі́лы*|| *басі́лы* (КЭС, бых.). Фанетычная змена не вельмі зразумелая, аднак у гаворках часам сустракаецца чаргаванне *х* : *с*. Не выключаецца і ўплыў нейкага іншага сямейства слоў. Параўн., напр., рус. дыял. *баси́ла* (мн.) 'убранне', *ба́сить* 'прыбірацца, выстройвацца'. Гл. *бахі́лы* (там і літ-ра да этымалогіі).

**Басі́ста** 'музыкант, які грае на басах' (Нас.). Запазычанне з польск. *basista*. Кюнэ, Poln., 44.

**Баскак,** *байскак, бойскак, боскак* 'баскак, прадстаўнік ханскай улады, зборшчык даніны' (ужо ст.-бел.; Булыка, Запазыч.). Рус. *баска́к*, укр. *баска́к*, польск. *baskak*. Запазычанне з цюрк. моў. Параўн. чагат. *baskak*. Праабражэнскі, 1, 18;

Фасмер, 1, 131. Больш верагоднай здаецца версія пра запазычанне з тат. моў (ст.-тат. *баскак*). Гл. Дзмітрыеў, Тюрк. эл., 19; Шанскі, 1, Б, 51—52.

**Баскетбо'л.** Рус. *баскетбо́л,* укр. *баскетбо́л* і г. д. Новае запазычанне (здаецца, бел. і ўкр. праз рус. мову) з англ. *basket-ball* 'тс' *(basket* 'кошык, кош', *ball* 'мяч'). Шанскі, 1, Б, 52.

**Баско'й** 'прыгожы' (калінк., Архіў ГУ, Г. А. Цыхун, вусн. паведамл.). Рус. дыял. *ба́сый, баский, ба́ско́й* 'добры; прыгожы; хуткі і г. д.' Фасмер (1, 129—130) звязвае гэтыя словы з рус. дыял. *бас, бась* 'прыкраса, прыгажосць і да т. п.' (паходжанне іх не вельмі яснае: лічыцца запазычаннем з сканд. моў або з комі; ставіцца пытанне аб сувязі з санскр. *bhās-* 'святло, бляск і г. д.'; але ўсе значэнні добра выводзяцца з рус. дыял. *басить, басовать*). Магчыма, сюды і ўкр. *баский* 'хуткі (пра каня)'. Але параўн. укр. *басува́ти* 'стаць на дыбы, ісці галопам', рус. *басова́ть* 'бадзёрыцца, іржаць, таптаць і г. д.'

**Баславі'ць** 'зычыць дабра, шчасця', *баславе́ння, баслаўлёны* (КЭС, лаг.). Скарачэнне (гаплалогія, алегра-форма) з *благаславіць*. Таксама скарачэннем з'яўляецца і форма *благаслаўля́ць* 'благаслаўляць' (Гарэц.).

**Ба'сма** 'фарба басма'. Рус. *ба́сма.* Лічыцца запазычаннем з цюрк. моў *(basma)*. Так Сл. ін. слов, 96. Але націск сведчыць аб пасрэдніцтве іншых моў (дакладна невядома якіх).

**Басма'** 'пячатка, знак і да т. п.' Ст.-рус., рус. *басма́,* укр. *басма́* (<рус.). Запазычанне з цюрк. моў (цюрк. *basma* 'набіўное палатно, тканіна', ад *basmak* 'ціснуць, друкаваць'). Параўн. яшчэ ўкр. *ба́сма* 'чорная шаўковая хустка', балг. *басма́* 'набіўное палатно', серб.-харв. *ба̀сма* 'тс'. Бернекер, 45; Фасмер, 1, 131; БЕР, 1, 35; Дзмітрыеў, Тюрк. эл., 19; Рудніцкі, 85.

**Басма'ч,** рус., укр. *басма́ч.* Запазычанне (праз рус. мову) з узб. мовы (у час грамадзянскай вайны): узб. *басмачи* (*-чи* — агентыўны суфікс), да *басма* 'налёт'. Падрабязней гл. Дзмітрыеў, Тюрк. эл., 19; Шанскі, 1, Б, 52; Супрун, УЗ Кирг.У, 3 (1957), 91.

**Ба'сня** *'байка'* (Касп.), ст.-бел. *баснь* 'выдумка, забабонная выдумка' (XVII ст.; Нас. гіст). Рус. *ба́сня,* укр. (ст., з XVII ст.) *ба́сня,* польск. *baśń,* чэш. *báseň,* ц.-слав. *баснь* і г. д. Прасл. *basnь* 'тс' (ад **ba-* 'гаварыць', што ў дзеяслове

**bajati*; гл. *бáяць, бáіць;* суфікс *-*snь*). Бернекер, 45; Брукнер, 18; Слаўскі, 1, 28; Фасмер, 1, 131. Параўн. яшчэ Шанскі, 1, Б, 53.

**Басо'к** 'лёска вудачкі; кручок, прымацаваны да лёскі' (Маш.). Бясспрэчна, да *бас* 'струна' (гл.), параўн. і ўкр. *басóк* 'басавая струна'. Значэнне 'лёска вудачкі' зразумелае (перанос), а 'кручок, прымацаваны да лёскі'— рэзультат забыцця ўнутранай формы слова.

**Басо'ль**$_1$, *басóля* 'віяланчэль, бас, кантрабас' (БРС, Касп., Янк. БП, Шн.), укр. *басóля.* Бясспрэчна, да *бас*$_1$, але словаўтварэнне не вельмі яснае. Смаль-Стоцкі (Abriss, 37—38) лічыць, што тут павелічальны суфікс *-оля.*

**Басо'ль**$_2$ 'фасоля' (Касп.). Магчыма, трансфармацыя слова *фасóля, фасóль* (гл.) з субстытуцыяй *ф*>*б.* Не выключаецца і што гэта жартаўлівая ад'ідэацыя да *басóль*$_1$ (*вялікая, круглая фасоля, як *басóль*).

**Басо'н** 'пазумент, кант, галун і г. д.', рус. *басóн,* укр. *басóн.* Слова не вельмі яснага паходжання. Праабражэнскі (1, 18) лічыў, што рус. *басóн*<ням. *Posament* 'пазумент' (<франц. *passement*). Мацэнаўэр (Cizi sl., 105—106) сумняваецца (з фанетычных меркаванняў) і ставіць пытанне аб франц. *façon* як аб першакрыніцы. Фасмер (1, 131) падтрымлівае версію Праабражэнскага, але думае пра пасрэдніцтва ням. дыялектаў.

**Бастава'ць.** Рус. *бастовáть,* укр. *бастувáти,* польск. *bastować.* Утварэнне ад *бáста*! 'хопіць!' (<італ. *basta*!). Яшчэ ў Даля *бастовáть* значыць 'канчаць, перастаць іграць'. Сучаснае значэнне з'явілася пазней. Гл. Шанскі, 1, Б, 54. Няясныя адносіны (запазычанне з рус. ці паралельныя ўтварэнні) між рус. і іншымі мовамі, дзе ёсць гэта слова.

**Басто'ліць** 'біць няшчадна' (Нас., Яруш). Слова невядомага паходжання. Магчыма, ёсць сувязь з рус. дыял. *бусгать* 'біць' (тады *-ол-* — нейкі «экспрэсіўны» суфікс). Параўн. таксама літ. *bàstelėti* 'тыкнуць; кальнуць' (да *basnóti* 'тыкаць; калоць'). Няясна.

**Басто'н** 'назва тканіны; назва танца'. Рус., укр. *бостóн.* Запазычанне (у XX ст.) з англ. мовы. Слова паходзіць ад назвы мясцовасці *Boston* (у ЗША), дзе першапачаткова з'явіўся гэты танец і дзе першапачаткова рабілі тканіну бастон. Але *бастóн* 'гульня ў карты', рус., укр. *бостóн* <франц. *boston* (рус. мовай запазычанае ўжо ў XVIII ст.), а гэта ад

назвы той жа амерыканскай мясцовасці. Фасмер, 1, 199; Шанскі, 1, Б, 176.

**Бастру́к.** Гл. *байстру́к.*

**Бастыён.** Рус. *бастио́н,* укр. *бастíо́н.* Запазычанне, мабыць, з франц. *bastion* 'тс' (ёсць версія і пра ням. пасрэдніцтва). Шанскі, 1, Б, 54; Фасмер, 1, 132; Рудніцкі, 86. Гл. яшчэ Клюге, 55.

**Басты́сь** 'здаровы, ні на што няздатны хлопец, бадзяга' (Касп.). Няяснае слова (як і большасць экспрэсіўных слоў наогул). Можна меркаваць, што гэта нейкае ўтварэнне («экспрэсіўны» суфікс *-с-*), звязанае з *басця́цца* (з літ. мовы) 'бадзяцца' (гл.), *басця́ка* 'бадзяга' і з *байстру́к, бастру́к.* Параўн. яшчэ літ. *bastūnas* 'бадзяга'.

**Басурма́н₁** 'басурман', ст.-бел. *бесурман, бесурмянин, бусурмянин* (Булыка, Запазыч.), рус. *басурма́н, бусурма́н,* ст.-рус. *бесерменин, бесурменин,* укр. *басурма́н, бусурма́н.* Запазычанне з цюрк. моў, дзе адпаведнае слова азначае 'мусульманін'. Параўн. тат., казах. *musulman,* тур. *müslim, müslüman, müsürman,* кірг., кумык., балкар. *busurman* (цюрк. словы з перс.). Меліаранскі, ИОРЯС, 10, 4, 113—116; Шэльд, Slavia, 2, 290; Фасмер, 1, 132; Дзмітрыеў, Тюрк. эл., 19 (<тат.); Шанскі, 1, Б, 54 (падтрымлівае тат. версію); Рудніцкі, 270—271, гл. яшчэ Сольмсен, KZ, 37, 590. Варыянт тыпу *бесурман* і пад. лічыцца запазычаннем з цюрк. дыял. варыянта (гл. Фасмер, 1, 160). Параўн. *басурма́н₂.*

**Басурма́н₂** 'заняпалы чалавек' (Касп.). Ужыванне ў якасці экспрэсіўнага слова *басурма́н₁* (гл.) 'мусульманін'. Таксама і ў іншых мовах. Параўн. рус. дыял. *бусурма́н* 'разбойнік'.

**Басці́.** Гл. *бада́ць.*

**Басця́цца** 'бадзяцца, швэндацца' (Касп., Янк. Мат., Др.-Падб., А. А. Крывіцкі, вусн. паведамл., мсцісл.; В. Н. Чэкман, вусн. паведамл., полац., мін.). *ба́сця́цца* (Гарэц.), *бысьця́цца* (Бяльк.), *басця́ка* 'той, хто бадзяецца, валацуга' (Янк. Мат., КЭС, лаг.). Запазычанне з літ. *bastýtis* 'тс' (Г. А. Цыхун і В. Н. Чэкман, вусн. паведамл.).

**Басця́ць** 'знеслаўляць каго-небудзь' (докш., Янк. Мат.). Марфалагічнае новаўтварэнне да *бэ́сціць* 'тс' (гл.; там і літ-ра), запазычанага з польскай мовы.

**Басы́й** 'рыбалоўная пастка ў выглядзе скрынкі ці рэшата

з дзіркай у дне для заходу рыбы (ставіцца зімой у палонках)' (Крыв.). Няяснае слова.

**Бась-бась-бась.** Гл. *башка.*

**Басэ'тля**$_1$ 'кантрабас, віяланчэль' (Нас., Касп., Шат., БРС, Бяльк., Арх. Бяльк., слонім., Яруш., Гарэц., Мядзв.). Запазычанне з польск. *basetla* 'тс' (<ням. *Basset(t)el*). Гл. Брукнер, 17; Кюнэ, Poln., 44.

**Басэ'тля**$_2$ жарт. 'вялікая бочка' (Сцяц.). Пераноснае ўжыванне слова *басэтля* 'кантрабас' (адсюль, магчыма, скарачэннем *баса* 'бочка', гл.).

**Басэ'тля**$_3$ жарт., 'мажная жанчына' (Сцяц.). Метафарычнае ўжыванне слова *басэтля* 'кантрабас' (пераносна таксама 'вялікая бочка').

**Басэ'тля**$_4$ 'басота, басяк' (Бяльк.). Магчыма, пераноснае ўжыванне слова *басэтля* 'кантрабас, віяланчэль', якое метафарычна ўжываецца і як 'вялікая бочка', і як 'мажная жанчына'. Такі перанос тым больш верагодны, што фанетычна пачатак слова вельмі блізкі да *басота* 'басякі'.

**Басю'ры** 'гулянка жней за кошт гаспадара' (Хрэст. дыял., 333). Няяснае слова. Магчыма, ёсць сувязь з словамі тыпу рус. дыял. *бýсáть* 'піць, напівацца', *бусóй* 'п'яны'.

**Бася'дла** 'сабака' (*Не хадзі, сынок, да басядлы, укусіць* — Жд.). Няяснае слова. Зыходзячы з канчатка (*-дла*), можа, нейкае запазычанне з польскай мовы (параўн. суфікс *-dło*).

**Бат** 'бізун' (Касп., Сцяшк. МГ). Параўн. рус. *бат* 'дубінка, дручок', укр. *бат* 'дручок', польск. *bat* 'бізун', серб.-харв. *бȁт* 'дубіна, дручок', славен. *bat* 'тс'. Паходжанне слова няяснае. Агляд шматлікіх версій гл. Слаўскі, 1, 28; Фасмер, 1, 133; Рудніцкі, 86; Махэк$_2$, 41, 48. Параўн. *батог.*

**Батава'ць** 'гаварыць; без злосці дакараць за які-небудзь учынак' (ДАБМ, 921; карта № 320), 'наракаць' (Янк. I). Здаецца, зыходзіць трэба з семантыкі 'дакараць'. Тады можна думаць пра метафарычнае паходжанне ад **батаваць* 'біць, караць' (*бат* 'бізун'; параўн. рус. *батовáть* 'біць')→'дакараць'→'гаварыць'.

**Бата'лія.** Рус. *батáлия,* укр. *батáлія.* Запазычанне з раманскіх моў (франц. *bataille,* італ. *battaglia),* магчыма, праз польскую мову (польск. *batalja*). Гл. Фасмер, 1, 133; Шанскі, 1, Б, 55. Сюды ж дыял. *батáля* (Шат.) 'звалка, бойка, крык у вялікай спрэчцы'.

**Батальён** 'птушка турухтан, Philomachus' (Інстр. II). Бясспрэчна, запазычанне. Параўн. польскую назву птушкі Machetes pugnax — *bataljon, bitny ptak, kaplonek, bojownik* (а гэта па паходжанню ідэнтычна слову *bataljon* <франц. *bataillon*, італ. *battaglione*, гл. Варш. сл., 1, 104, 186). Турухтаны вясной (самцы) вельмі ваяўнічыя (апісанне птушкі гл. Флінт, Птицы, 248—249). У польскай мове гэта, відаць, жартаўлівая назва.

**Бата'ніка.** Рус. *ботáника,* укр. *ботáніка.* Запазычанне з ням. *Botanik* (<лац. *botanica* <грэч., параўн. βοτάνη 'расліна'). Фасмер, 1, 200; Шанскі, 1, Б, 177.

**Батарэ'я.** Рус. *батарéя,* укр. *батарéя* (ст.-укр. *батарія, баттерія,* XVIII ст., непасрэдна з зах.-еўрап. форм, можа, праз польск. *bateria*). Запазычанне з ням. *Batterie* або франц. *batterie* (да *battre* 'біць'). Праабражэнскі, 1, 19; Фасмер, 1, 134; Шанскі, 1, Б, 55. Укр. *батарéя* яўна з рус. мовы.

**Батва'** 'расліна Beta cicla; зяленіва наогул' (Нас.), 'сцяблы і лісце гуркоў' (ДАБМ, 863), 'лісце і сцяблы бульбы' (Лысенка, Жыт.), *батвіна* 'сцябло буракоў' (Нас.), *батоўе* 'бацвінне' (Нас., Касп.), 'сцяблы і лісце гарбузоў, бульбы' (ДАБМ, 864, 866), *батáўе* 'сцяблы і лісце гуркоў' (ДАБМ, 863), *батóўкі* 'сцяблы і лісце буракоў' (ДАБМ, 868), *бацвінне* 'сцяблы буракоў; вараная капуста; боршч' (Нас., БРС), 'лісце буракоў' (Сцяшк. МГ), 'сцяблы і лісце гуркоў' (ДАБМ, 863), 'бацвінне, бураковае лісце' (Бяльк.), 'бацвінне; халаднік' (Касп.), 'бацвінне' (Шат.). Рус. *ботвá, бóтовь, ботвúнья,* укр. *ботвá, ботвúна, ботвúнє,* польск. *boćwina, botwina* і г. д. (гл. Фасмер, 1, 200).

Ад і.-е. **bheu̯ā-*'расці' ўтворана **bhu̯ət* (>прасл. *bvot-*> *bot-*), што дае рус. *ботéть,* славен. *naboteti* 'таўсцець, тлусцець і г. д.' Чаргаваннем вакалізму атрымліваюцца далей розныя асновы *(bat-, but-, bъt-)*, ад якіх ёсць шмат вытворных (рус. *бутéть* 'таўсцець' і да т. п.), параўн. далей грэч. φυτόν 'расліна', слав. *byti* 'быць', *bylije.* Бел. *буцвéць* 'гнісці, чарнецъ ад вільгаці' (Інстр. II, Бір. Дзярж. КЭС, лаг.), таксама *бутнéць* (КЭС, лаг.) адносіцца да гэтага вялікага гнязда слоў. Гл. Фасмер, 1, 200—201, 253; падрабязна Айцэтмюлер, ZfslPh, 22, 363—372. Да беларускай праблематыкі параўн. яшчэ Сцяц. Нар., 41—42.

**Батлажка** 'біклага' (Сцяшк. МГ). Параўн. *баклáга* і *біклáга.* Незразумела, адкуль тут *-т-* (замест *-к-*). Ці не лепш думаць пра рум. крыніцу слова (параўн. тлумачэнне *-і-* ў

*бікла́га)*? Тады *батла́жка*<**батла́га*<**бутла́га.* Параўн. рум. *butlagă* 'бачонак', *bâtlag, bîtloagă, bătlag* 'тс'. Як вядома, пра ўплыў рум. мовы на ўкр. формы тыпу *баклаг(а), боклаг* думаў Шалудзька, Rum., 126. Некаторае пацвярджэнне ўплыву рум. мовы на бел. ёсць: параўн. *-і-* ў форме *біклага* (гл.) і спалучэнне *-тл-* (замест *-кл-*) у слове *батла́жка.* Але незразумелы шлях румынскіх уплываў. Гл. Краўчук, БЛ, 1975, 7, 65.

**Батланчык.** Гл. *батла́чык.*

**Батла́чык,** *батланчык* 'расліна батлачык, Alopecurus L.' (Кіс., 13). Рус. *батлачи́к* 'Alopecurus; Sagittaria sagittifolia; Trapa natans (таксама *батла́чик, мадлачи́к, батманцу́к, батманчук, батлан, батланцук* і г. д., гл. Мяркулава, Очерки, 134), укр. *батлачик, батлачок* 'Alopecurus'. Мяркулава, там жа, лічыць, што ўсё гэта запазычанне з тат. мовы (тат. назва для вадзяных арэхаў Trapa natans — *batmancьq*<*batman* 'гаршчок'). Для варыянта *батланчык* параўн. укр. і паўд.-рус. *батланцук,* якія адлюстроўваюць, відаць, адпаведную цюрк. форму. Не выключаецца, што *батланчык* — кантамінацыя форм тыпу *батлачык* і *батланцук.*

Назва, відавочна, сапраўды з цюрк. моў. Але можна даць і іншую этымалогію. Усё гэта расліны, што растуць у вадзе, каля вады і наогул там, дзе ёсць вільгаць. Параўн. яшчэ ўкр. назвы для балотных траў: *батлау́к, батлаву́к, батлау́ка.* Таму як крыніцу можна лічыць і тур. *batak, bataklık* 'балота, багна'. *Батлау́к* (>*батлак, батлачик*) можа паходзіць ад тур. *bataklık otu* 'балотная расліна'.

**Батле́йка** (БРС, Др.-Падб.), рус. дыял. (зах.) *бетле́йка.* Паводле Фасмера, 1, 162, з польск. *betlejka* 'тс' (а гэта ад мясцовай назвы *Bethlehem,* гл. Брукнер, 22). Да гісторыі бел. батлейкі гл. Г. І. Барышаў, А. К. Саннікаў, Беларускі народны тэатр батлейка, Мінск, 1962.

**Бато́г** 'бізун' (Тарн.), *батўог* (Бесар.). Укр. *батíг* 'тс', рус. *бато́г,* польск. *batog,* чэш. *batoh.* Лічыцца вытворным ад *бат* (гл.). Фасмер, 1, 134; Шанскі, 1, Б, 56—57; Слаўскі, 1, 28. Але ёсць думкі аб запазычанні гэтага слова з усходніх моў, што не пераконвае (Фасмер, там жа).

**Бато́н.** Бел. *бато́н,* укр. *бато́н,* мабыць, з рус. *бато́н* (а гэта з франц. *bâton* 'палка, жазло', гл. Шанскі, 1, Б, 57).

**Батра́к** (БРС, Шат., Касп., Нас., Бяльк.). Запазычанне з рус. мовы (параўн. Чуд.), таксама і ўкр. *батра́к.* Паходжанне рус. слова не вельмі яснае. Па версіі Гараева,13; Праабражэн-

скага, 1, 19; Шанскага, 1, Б, 57, з тат. *batrak*. Другая версія (Сабалеўскі, РФВ, LXX, 77; Фасмер, 1, 134—135)—суфіксальнае ўтварэнне ад рус. *батырь* 'падрадчык і г. д.' (<цюрк.).

**Батрама.** Гл. *бутрама*.

**Бату'ра** 'балака, пустамеля', *батўрыць* 'балакаць' (Нас.). Няяснае слова. Можа, звязана з рус. *батўрить, батўриться* 'наравіцца, манежыцца'. Параўн. Фасмер, 1, 135.

**Батфо'рт,** *батфорты*. Рус. *ботфо́рты, ботфо́рт*, укр. *ботфо́рт* 'боты з высокімі халявамі'. Запазычанне з франц. *bottes fortes* 'вялікія, моцныя боты'. Праабражэнскі, 1, 39; Фасмер, 1, 201; Шанскі, 1, Б, 179.

**Баты'ст** (БРС), укр. *батúст*, рус. *батúст*. Першакрыніца запазычання франц. *batiste* (гл. Фасмер, 1, 134; Шанскі, 1, Б, 56). Бел. і ўкр. формы, можа, праз польск. *batyst*. Прама з рус. узята бел. *ба́цiст* (Сцяшк. МГ), але націск адлюстроўвае польскі ўплыў. Ад *бацiст* утворана *бацiсто́ўка* 'хустка з батысту' (Сцяшк. МГ).

**Баўдзі'ла** 'лаянкавае слова' (Янк. БП), 'дурань' (Янк. Мат., Бір. Дзярж., БРС), *бо́ўдзiла* 'дурань' (Янк. Мат.), *бо́ўдзiло* (Арх. Бяльк., слонім.), *бо́ўдзiла* 'вярзіла' (Шат.), 'чалавек, які ў гутарцы ўжывае недарэчныя ці лаянкавыя словы' (КЭС, лаг.), *бо́ўцiла* 'лаянкавае слова' (КЭС). Можна меркаваць, што ёсць сувязь з словам *боўдзiла* 'жэрдка, якой заганяюць рыбу ў сетку' (гл.). Перанос значэння 'палка, дубіна, жэрдка'→'дурань' добра вядомы амаль ва ўсіх мовах.

**Баўды'р**$_1$ 'гэтак лаюць тоўстых непаваротлівых людзей' (КЭС, лаг.), 'лаянкавае слова' (Бір. Дзярж.). Бліжэй іншых слоў да бел. назвы стаіць укр. *бо́вдур* 'дурань' (іншыя значэнні 'комін; густы дым, хмара; жэрдка (у рыбаловаў)'). Рудніцкі (157) хоча ўсе значэнні ўкр. слова вывесці з 'комін' (а гэта запазычанне з чув. мовы, гл. *боўдур* 'комін'). Наўрад ці гэта правільна. Трэба, мусіць, думаць пра слав. аснову *bъld-*, якая мае прыкладна тое ж значэнне, што і *балд-, булд-* (гл.). *Bъld-yrь, bъld-urъ* маглі б быць самастойнымі слав. (усх.-слав.?) утварэннямі (незалежнымі і ад цюрк. уплыву; аб гэтым гл. Краўчук, Тюрк. лекс. элем., 29).

**Баўды'р**$_2$ 'вадзяная бурбалка; прышч' (Нас.). Параўн. рус. *ба́лдырь* 'пухір', *булды́рь* 'нарыў, шышка'. Звычайна зыходную форму асноў, якія азначаюць 'штосьці круглае, бурбалка і пад.' вызначыць вельмі цяжка. Можна думаць і пра *балд-*, і пра *bъld-* (>*боўд-*), і пра *булд-* (гл.). Прынамсі

для значэння 'бурбалка' можна прыняць гукапераймальнае *bъld-,* якое сустракаецца (праўда, рэдка) у некаторых укр. гідраграфічных назвах (параўн., напр., *бóвдур* 'яма ў вадзе') і да якога зводзіць бел. слова Юркоўскі, Ukr. hydrogr., 90. Цікава, што для абазначэння круглых прадметаў аснова *бáўд-* сустракаецца ў некаторых паўд.-зах. укр. гаворках (*бáўда* 'некалькі стручкоў фасолі разам і пад.').

**Ба′ўкаць** 'званіць' (Др.- Падб., Гарэц., Бяльк., гл. і Касп.), 'гаварыць, распускаць нядобрыя чуткі' (Бяльк.). Параўн. рус. дыял. (яросл., пск.) *бáвкать* 'лаяць; званіць; нагаворваць на каго-н.' Укр. *бéвкати, бóвкати* і г. д. Гукапераймальнае слова. Параўн. Рудніцкі, 156.

**Баўку′н** 'ярмо для запрагання аднаго вала' (КЭС, лаг.), 'частка ярма' (Сцяц.). Укр. *бовкýн* 'ярмо для аднаго вала; вол, якога запрэглі ў адзіночку; вялікі сноп чароту', рус. дыял. *болкýн* 'вупраж валоў'. Шаравольскі (Рум., 55) выводзіў укр. слова (без бел. і рус. матэрыялу) з рум. *boй* 'бык, вол'+суф. *-ун;* так і Рудніцкі, 157. Фасмер, 1, 188 (без бел. і укр. матэрыялу), выводзіў з *об-* і валоку. Гэту этымалогію можна прыняць. Дзеяслоўны вакалізм быў у ступені рэдукцыі (**vъlk-*<**vьlk-*). Такая этымалогія робіць зразумелым, чаму, напр., ва ўкр. гаворках *бовкýн* азначае і 'сноп чароту' (*'тое, што цягнуць, нясуць, ахапка'). Гл. Краўчук, ВЯ, 1968, № 4, 127.

**Ба′ўна**$_1$ 'вата'. Гл. *бáваўна.*

**Ба′ўна**$_2$ 'марудна', *бáўны.* Гл. *бáвіцца*$_1$.

**Баўтало** 'жэрдка, якой заганяюць рыбу ў сетку' (З жыцця). Утварэнне да *баўтáць, бóўтаць, боўт* (гл.).

**Баўта′ць.** Гл. *бóўтаць.*

**Баўто′нка** 'баўтушка, пойла' (Касп.), 'корм для коней' (Інстр. III). Параўн. *бóўтанка* 'корм для цялят' (Інстр. III). Форма *баўтóнка* — яўна гібрыдная. Калі ад *боўтаць* рэгулярна ўтвараецца *боўтанка,* то ад *баўтáць* павінна быць *баўтáнка. Баўтóнка,* мабыць, узнікла метатэзай з *боўтанка* пад уплывам *баўтаць* або ж гэта гіперкарэктная форма (*-о-* замест этымалагічнага *-а-*) пры перанясенні націску (*бóўтанка*→ (*баўтáнка*)→*баўтóнка*). Усё да *баўтáць, боўтаць* (гл.). Таксама гібрыдным здаецца і рус. дыял. (пск.) *болтонка* 'тс'.

**Баўтру′к** 'абжора, дармаед' (Касп.), *Баўтрамей* (уласн. імя) (Нас.), 'непаваротлівы хлопчык, які толькі капрызіць'

(Нас.), *баўтрю́к* 'нехлямяжы, таўстапузы чалавек' (Нас.), *баўтру́с* 'непаваротлівы, свавольны хлопчык' (Нас.). Рус. дыял. *бавтрю́к* 'вялізны чалавек; гультай, дармаед' (смал.). Параўн. і ўкр. прозвішча *Бовтру́к*. Ад уласнага імя *Баўтрамей* (так Нас.), скарочаныя формы якога давалі розныя пейаратыўныя назвы (параўн. Брукнер, 15).

**Баўця′к** 'рыбная сець'. Гл. *бо́ўтаць*.

**Баха′нка.** Гл. *бо́хан*.

**Баханы′**. Гл. *бахаты́*.

**Бахаты′** 'ямы, дзе дабываюць гліну' (Яшкін), *баханы́* 'ямы' (Яшкін). Прынамсі *бахаты́*, здаецца, таго ж паходжання, што і *бо́хат (bochъt-)*, гл. Магчыма, таксама гукапераймальным па паходжанню з'яўляецца і слова *баханы́*, але з іншым дзеяслоўным суфіксам *(boch-on-)*.

**Ба′хаць**$_1$, *бах!* 'бахаць, падаць і г. д.', рус. *ба́хать, ба́хнуть, бах*, укр. *бах, ба́хати, ба́хкати*, польск. *bachnąć*, славац. *bach, báchať* і г. д. Гукапераймальнага паходжання, параўн. *баба́х, бух*. Гл. Шанскі, 1, Б, 59.

**Ба′хаць**$_2$ (дзіцячая лексіка) 'спаць' (Бяльк., Янк. III), *бах* 'тс' (Янк. III: *Хадзі́, до́чачка, у люлю бах; хадзі́, до́нька, ба́хаць, ляж бах)*. Звязана з *ба́хаць*$_1$ (гл.). Першапачатковае значэнне: 'падаць (бахаць) у ложак, калыску'.

**Бахвал** 'хвалько' (Інстр. II). Слаба пашыранае ў бел. мове, таму можна лічыць запазычаннем з рус. *бахва́л* 'тс' (параўн. і *бахва́литься* 'хваліцца'), якое можа быць кантамінацыяй *ба́ять* і *хвали́ть* (версія Ільінскага, якую падтрымлівае Фасмер, 1, 136); іначай аб рус. слове Шанскі, 1, Б, 59.

**Ба′хі забіва′ць** 'зракацца сваіх слоў ці ўчынкаў' (КЭС, лаг.). Здаецца, таго ж паходжання, што і *ба́кі забіва́ць* 'дурыць' (гл. пад *ба́кі*), але фанетыка слова незразумелая (дыялектная дэфармацыя ці ўплыў слоў тыпу *ба́харь*, 'краснабай'?).

**Бахі′лы** 'абутак, галёшы, зробленыя з шын, абутак з гумы' (Янк. Мат., Інстр. I, Сцяшк. МГ), *ба́хілкі* 'скураныя лапці' (Гарэц.), *бахлы́* 'вялікія галёшы' (віц., Г. А. Цыхун, вусн. паведамл.), *ба́хілы, ба́хілкі* (Нас.). Параўн. яшчэ форму *басі́лы* (паралельна з *бахі́лы*) 'бахілы' (Жд.); палес. *бахы́лы* 'вялікія гумавыя галёшы для валёнак' (Лысенка ССП). Гл. яшчэ Сакал. *(бахі́лы, баху́лі)*. Рус. (з XVII ст.) *бахилы* 'від абутку' (шмат форм, гл. Даль; Вахрас, Наим. об., 63—66), укр. *бахи́ли* 'скураныя штаны', *бахли* 'глыбокія самаробныя

галёшы на валёнкі'. Не вельмі яснае слова. Агляд старых этымалогій Фасмер, 1, 136; Вахрас, Наим. об., 63—66. Вахрас, там жа, прапануе звязваць з цюрк. *baγ-* 'звязваць', *baγly* 'звязаны' (гэту этымалогію падтрымлівае Мюлер, ZfSl, 9 (1), 1964, 157; сумняваюцца Лапацін—Улуханаў, ИАН ОЛЯ XX (2), 172; Шанскі, 1, Б, 60). Шанскі (там жа, 59—60) прымае тлумачэнне Праабражэнскага (вытворнае ад *бáхать, бýхать*), а бел. словы лічыць запазычаннем з рус. мовы. Гл. *басілы.*

**Бахмат** (ст.-бел.), *бохмат* 'нізкарослы конь' (Гіст. лекс., 139; Булыка, Запазыч.), 'татарскі, асабліва нагайскі конь' (XVI ст., Нас. гіст.). Рус. дыял. *бахмáт* 'маленькі, моцны конь', укр. *бахмáт* 'верхавы конь' (з XVI ст.), польск. *bachmat* 'нізкі, моцны конь татарскай пароды'. Старая этымалогія (Міклашыч, 414; Локач, 11—12; аб крыніцах гэтай версіі гл. Заянчкоўскі, Stud. orient., 46) — запазычанне з цюрк. **pahn at*, **pehn at* 'вялікі конь' (<перс. *pähn* 'вялікі, шырокі'+цюрк. *at* 'конь') — вельмі няпэўная (Фасмер, 1, 136—137; Заянчкоўскі, там жа, 46—47; Менгес, Зб. Чыжэўскаму, 187 і наст.). Заянчкоўскі, там жа, прапануе зыходзіць з цюрк. **bahimat, *bahmat* (араб. *bahim* 'чыстай масці'+цюрк. *at* 'конь'). Менгес, там жа, зыходзіць з мусульманскага імя *Mähmäd, Mähmät* (з заменай *m*>*b* праз пасрэдніцтва пэўных цюрк. дыялектаў; сумненні адносна гэтай этымалогіі Дзікенман, RS, 19, 13). Параўн. яшчэ Трубачоў, Происх., 57—58. Булыка (Запазыч., 39) прыводзіць як крыніцу запазычання тур. *bachmat* (!). Вельмі няпэўна; адкуль гэта форма? Ст.-бел. слова дае рад вытворных, вядомых у сучаснай бел. мове (гл. ніжэй). Гл. яшчэ Адзінцоў, Этимология, 1971, 195—201.

**Бахма́ты** 'касматы, пушысты' (Гарэц.), *бахмáтый* (Бяльк.); адносіцца таксама і да раслін, параўн. *бахмáты* 'пышны' (букет) (Др.-Падб.), *бахматая мята* (Кіс.). Укр. *бахмáтий* 'мешкаваты (аб адзенні)'. Відавочна, вытворнае ад *бахмáт* 'конь татарскай пароды' ('касматы конь'→'касматы'). Параўн. рус. *бахмéт* 'той, што касматы, махнаты, з доўгай шэрсцю'. Гл. яшчэ *бухмáты.*

**Бахмачы́** 'бахілы, скураныя лапці' (Нас., Гарэц.). Відавочна, вытворнае ад *бахмáты* (гл.). Параўн. значэнне гэтага апошняга ва ўкр. мове: 'мешкаваты (аб адзенні)'. Параўн. яшчэ рус. *бахмéт* 'касматы, махнаты і г. д.', 'непаваротлівы'. Першапачаткова *бахмачы́* — 'дрэнны, мешкаваты абутак'. Аб магчымасці *j*-форм ад *бахмáт-* гл. Трубачоў, Происх., 57—58, (дзе прыводзяцца тапанімічныя назвы тыпу *Бахмач*).

**Бахму'тка** 'соль, якую здабывалі ў крымскіх азёрах' (Нас.), укр. *бахму́тка* 'тс'. Назва, утвораная на месцы здабычы солі *(бахмутский уезд)*.

**Бахо'р** (травы і г. д.), *бахо́р* 'кветка васілёк сіні', *бахрі́е* 'кветкі' (Бесар.). Цёмнае слова. Ці няма сувязі з *ба́хур* (гл.), параўн. асабліва польскую форму *bachor* 'бахур' (яна ўжываецца і ў назвах прадметаў, напр., 'дручок з жалезным кручком'). Прынамсі для спалучэння *бахо́р травы* 'ахапка травы' метафарычнае ўжыванне слова **бахор* 'бахур' зразумелае. З іншага боку, можа, ёсць сувязь з такімі словамі, як чэш., славац. *bachor,* серб.-харв. *ба̏хор* 'бруха' і пад. ('бруха'→'штосьці выпуклае'→'ахапка'). Аб слав. групе слоў *bachorъ, bachorь, bachurъ* гл. Ляскоўскі, RS, 26, 51—56.

**Бахрама'** 'махры' (Бяльк.), *бахрома́* (Сакал.), *бахрыма́* (Бяльк.). Рус. *бахрома́,* укр. *бахрома́.* Запазычанне з цюрк. моў: параўн. тур., крым.-тат. *maχrama* 'вуаль для жанчын' (<араб.), Фасмер, 1, 137; Дзмітрыеў (Тюрк. эл., 19—20) удакладняе, што запазычанне з кыпч. цюрк. моў (дзе ёсць чаргаванне *m* : *b*). Параўн. яшчэ Шанскі, 1, Б, 60. Бел. і ўкр. словы, відавочна, узяты з рус. мовы.

**Ба'хта** 'гаўптвахта' (Нас.), рус. дыял. *ба́хта* 'турма', укр. дыял. *ба́хта* 'вежа'. Рудніцкі (89) лічыць, што гэта слова паходзіць ад *ба́шта* (гл.). Але хутчэй *ба́хта*<*аба́хта.* Параўн. укр. (вядомае з XVII ст.) *аба́хта* 'гаўптвахта', *оба́хта* (<ням. *Hauptwacht*).

**Бахту'рыць** (*набахтурыў ему голаву* 'забіў яму галаву лухтой'; Чач., Нас.). Магчыма, звязана з групай слоў рус. *ба́харь* 'балбатун і г. д.', славен *báhati* 'хваліцца'. Суфіксацыя не зусім ясная (здаецца, *-t-ur-*<*-ъt-ur-*), як звычайна ў многіх экспрэсіўных словах. Параўн. рус. *бахте́ть, бахти́ть* 'хваліцца, важнічаць', *бахту́рить* 'перагружаць думкі чым-н.' (пры *ба́хать* 'ілгаць, хлусіць').

Не выключаецца, аднак, што *бахтурыць*<*бухто́рыць.* Параўн. польск. *buchtorzyć* 'дурыць, баламуціць'. У Насовіча пад *бахту́рыць* прыводзяцца два значэнні — 'наліваць у пасудзіну' і 'забіваць галаву лухтой', параўн. *бухто́рыць* (Нас.) 'празмерна ліць вадкасць, празмерна піць'. Гэта можа сведчыць, што 'забіваць галаву лухтой, дурыць'←'наліваць'.

**Бахун** 'расліна багун, Ledum palustre L.' (Кіс.; былая Вільн. губ.). Фанетыка слова (*-х-* замест *-г-*) сведчыць, што гэта слова ўзята з мовы беларуска-літоўскіх палякаў (у польск. мове звычайнае вымаўленне *-ch-* замест *-h-*). Гл. Краўчук, БЛ, 1975, 7, 65. Параўн. *багу́н*$_1$.

**Ба′хур**$_1$ ’распуснік, любоўнік’ (Нас., Мядзв., Яруш., Гарэц.), ’яўрэйскі хлопчык’ (Гарэц.), *бахýр* ’любоўнік’ (Федар., Др.-Падб.), ’байструк, пазашлюбнае дзіця’ (Жд., Сцяшк. МГ, Др.-Падб.), ’яўрэйскі хлопчык’ (Др.-Падб., Бесар.), *бахýр* (пра малых дзяцей; Сцяц.). Рус. *бáхур* ’любоўнік, франт, малады яўрэй; таўсцяк’, укр. *бáхур, бáхурь* ’распуснік, лавелас; байструк; яўрэйскае дзіця; дзіця, хлопчык’, польск. *bachur, bachor.* Запазычанне з ст.-яўр. *bāchūr* (яўр.-ням. *Bacher*) ’малады чалавек; настаўнік’. Гл. Вінер, ЖСт, 1895, 1, 59; Брукнер, 10; Фасмер, 1, 137. Запазычанне праз польск. мову (параўн. ст.-бел. *бохур* ’франт, малады яўрэй’, XVI ст.; Булыка, Запазыч.).

**Ба′хур**$_2$ ’непакладзены кабан’ (Нас.). Відавочна, метафара да *бáхур*$_1$ (гл.).

**Ба′хус** ’п’яніца; высокі, мажны мужчына’ (Нас.); *Бахус* ’Вакх’. Укр. *бахусувáтий* ’той, што мае сляды п’янства’. Запазычанне з польск. *Bachus* ’Вакх’ (<лац. *Bacchus* <грэч. *Βάκχος*).

**Бахча′.** Рус. *бахчá, бакчá, бакшá.* Запазычанне з цюрк. моў (параўн. тур. *bahçe, bahça* ’сад’<перс.; Бернекер, 39; Фасмер, 1, 111; Локач, 15). Іншая версія: запазычанне з крым.-тат. мовы (гл. Шанскі, 1, Б, 60—61, там і літ-ра).

**Бац**$_1$ ’пацук’ (Касп., Сцяшк. МГ, Янк. Мат., Інстр. II). Параўн. і *бацýк* ’вадзяны пацук’ (Лысенка ССП). Усё гэта формы з азванчэннем да *пацук, пац* ’тс’ (гл.).

**Бац**$_2$ ’малое дзіця, вельмі рухавае’ (Янк. Мат.). Гэта пераноснае ўжыванне слова *бац* ’пацук’. Магчыма, далей сюды адносяцца таксама (спачатку як пераносныя назвы) *бацю́к, бацю́та* ’хлопчык’ (Касп.), *бацю́та* ’перарослы гарэза’ (Нас.). Але не выключаецца, што апошнія словы — утварэнне ад *бáця, бáцька.* Параўн. *бацю́та, бацю́ля* ’сын, які падобны да бацькі тварам ці ўчынкамі’ (Яўс.).

**Бацві′нне.** Гл. *батвá.*

**Бацёха** ’зацірка’ (Жд.). Няясна.

**Ба′цца** ’напэўна, відаць што, здаецца’ (Нас., Бяльк., Шпіл., Мядзв.). Скарачэнне з *бáчыцца.*

**Бацю′та** ’хлопчык’, *бацю́ля, бацю́к.* Гл. *бац*$_2$.

**Ба′цька,** таксама *бáця.* Рус. *бáтя, бáтько, бáтька,* укр. *бáтько, бáтя;* чэш. *bát’a* ’брат, родзіч, сябар’, дыял. ’дзядзька’; балг. *бащá,* серб.-харв. *bȁћa* ’брат’. Прасл. *bat’a, batę* (гл.

Бернекер, 46; але праформа *batę* няпэўная, гл. Полак, RS, 18, 28—29; Трубачоў, История терм., 21). Параўн. далей Голуб—Копечны, 66, 76; Махэк₁, 26; Трубачоў, там жа. Вельмі загадкавае слова. Большасць даследчыкаў лічыць, што прасл. *bat'a* (*batę*) з'яўляюцца гіпакарыстычнымі формамі ад прасл. *brat(r)ъ* 'брат'. Але з фанетычнага пункту погляду гэта тлумачэнне не вельмі надзейнае (надта складаная дысіміляцыя плаўных). Геаргіеў (ВЯ, 1952, № 6, 52—53) лічыў, што прасл. формы разам з грэч. (мінойск.) βάττος 'цар' паходзяць ад і.-е. *bhatįa*, якое не захавалася ў іншых мовах (ад гэтай этымалогіі адмовіліся ў БЕР, 1, 37). Полак (RS, 18, 29) думаў пра субстратнае слова. Лаўроўскі (Назв. родства, 13) лічыў (вельмі няпэўна!), што слав. слова адлюстроўвае і.-е. **pəter-* 'бацька'. Таксама не пераконваюць спробы лічыць *bat'a* запазычаннем: з цюрк. моў (Міклашыч, 8), іранскай (Сабалеўскі, РФВ, 64, 149), венгерскай (Міклашыч, Fremdw., 5; супраць гэтага Мацэнаўэр, Cizí sl., 18—19). Гл. яшчэ Фасмер, 1, 135. Адносіны паміж слав. *bat'a* і венг. *bátya* 'старэйшы брат' вельмі складаныя (параўн. Кёвешы, SSlav., 8, 409—419; Кніежа, SSlav., 8, 421—435; Кніежа, 794). Але хутчэй за ўсё венг. слова ўзнікла самастойна і паходзіць з дзіцячай мовы (гл. MESz, 1, 259—260, там і іншая літ-ра). Можна паставіць пытанне, ці не такога ж паходжання і слав. слова *bat'a*.

**Бацькі'₁** 'parentes' (Нас., Касп., Шат., Сцяшк. МГ, Бяльк., БРС, Гарэц.), укр. *батькú* 'тс' (да геаграфіі ўкр. слова гл. Бурачок, Назви, 24—25, карта). У рус. мове няма (параўн. толькі *батькú* 'бацькі' з гаворак у Літве). Ужыванне мн. ліку ад *бáцька* (гл.) з новай семантыкай ('бацька і маці'). Такое словаўжыванне вядома і ў іншых і.-е. мовах (параўн. Гуер, LF, 42, 421—433, Přispěvky, 63—74). Крымскі (Тюрки, II, 208—209) вылучыў неверагодную ідэю растлумачыць значэнне слова *бацькí* калькіраваннем з араб. мовы (праз цюрк. пасрэдніцтва). Крытыку гл. Бялецкі, Принципы, 214—219.

**Бацькі₂** 'расліна спарыння, Claviceps purpurea L.' (цэнтр.-палес.; Выгонная, Лекс. Палесся). Выгонная, там жа, мяркуе, што гэта назва, як і іншыя назвы раслін, herba sacra, дзе выкарыстоўваюцца тэрміны роднасці, абумоўлена яе папераджаючай зло функцыяй.

**Ба'цюшка** 'поп' (Сцяшк. МГ). Запазычанне з рус. *бáтюшка* 'тс' (да *бáтя* 'бацька').

**Баця'н,** таксама *боця́н, буця́н, буйця́н, бóцюн* і г. д. Ст.-бел. *ботьян, боцян, боциян* (Булыка, Запазыч.). Укр. *боця́н, боцю́н* і г. д., рус. *ботья́н, ботя́н, батя́н, бача́н, бадья́н.* У зах.-

слав. мовах: польск. *bocian, bocan, bociuń, bocek, bociek, bociąg, bocoń*, в.-луж. *bačon*, н.-луж. *bośon*, палаб. *büöt'an* (гл. Бернекер, 78, які лічыць, што польск. формы, магчыма, узніклі ў дзіцячай мове з жартаўлівай назвы бацяна — *Wojciech*). Усе ўсх.-слав. формы лічацца запазычаннем з польск. мовы (Бернекер, 78; Хрысціані, AfslPh, 34, 311; Слаўскі, 1, 38; Рудніцкі, 184—185; Рыхардт, Poln., 36). Агляд форм і версій гл. яшчэ Фасмер, 1, 201; Клепікава, ВСЯ, 5, 153—158, Клімчук, Бел.-польск. ізал., 57—61. Паходжанне польскага слова невытлумачана (Слаўскі, там жа). Гл., аднак, Мартынаў, SlW, 180—181, згодна з якім яно балтыйскага паходжання. Некаторыя версіі (Сабалеўскі, РФВ, 65, 418: сувязь з рус. *забóта;* Ільінскі, PF, 13, 498: сувязь з *бóтькать* 'стукаць') не пераконваюць. Нідэрман (Balto-Sl., 29) лічыць, што блізкасць слав. форм аснавана не на роднасці, а на запазычанні з нейкай крыніцы.

**Бача'жына** 'азярцо сярод грудка' (Яшкін). Можна параўнаць з рус. дыял. *бачáга* 'лужына' (алан.), *бочага* (СРНГ), *бачáг, бачáк* 'вір, глыбокае месца ў рацэ, ручаі' (ярасл.). Але паходжанне гэтай групы слоў няяснае (гл. Фасмер, 1, 138). Фасмер (1, 202), Шанскі (1, Б, 179) тлумачаць рус. форму *бочáг(а)* ад *мочáг, мóкрый* (гл.; там і літ-ра).

**Бачо'нак.** Гл. *бóчка.*

**Ба'чыць** (з XVI ст.; Нас. гіст.), укр. *бáчити* (з XVI ст.; Цімчанка), рус. дыял. *бáчить* (рус. слова засведчана з пач. XVII ст. і запазычана з укр. мовы; Праабражэнскі, 1, 20; Шанскі, 1, Б, 61). Запазычанне з польск. *baczyć* 'тс' (а гэта перараразлажэннем з **obačiti*: **ob-ačiti*→**o-bačiti*>*bačiti*, дзе *ač-, ak-* да і.-е. кораня, што і ў слове **oko* 'вока'). Гл. Ільінскі, PF, 11, 183; Бернекер, Зб. Ягічу, 598—599; Бернекер, 24; Траўтман, 4; Ваян, RÉS, 22, 7; Слаўскі, 1, 24; Фасмер, 1, 138. Іначай, але непераканаўча, Брукнер, 10 (ад польск. *baka* 'вока'). Неверагодна Мацэнаўэр, LF, 7, 4 (запазычанне з тур. *bakmak* 'бачыць'); Махэк, SP (Brno), 2, 1953; 135; SP (Brno), 4, 1955, 32 (сувязь з польскім *opatrzyć*, славац. *páčit'*). Таксама вельмі няпэўнай з'яўляецца этымалогія Лера-Сплавінскага, JP, 26, 166—170 (=Studia, 195—198) аб паходжанні польск. слова ад выклічніка *ба!* Памыляўся Лорэнц, Pomor., 1, 13, які лічыў *bačiti* прасл. словам. Факт усх.-слав. запазычання з польскай мовы на аснове дадзеных помнікаў добра асвятліў Лер-Сплавінскі (там жа). Гл. яшчэ Кюнэ, Poln., 42; Трубачоў, Этимология 1965, 44—47. Сюды, мабыць, адносіцца і *бачыць* 'не дагаджаць' (Яўс.: *Чым я табе бачу, што ты ны*

*мяне так узьеўся?*), але развіццё семантыкі растлумачыць цяжка. Да *бачыць* адносяцца і *бачны, бачлівы* і г. д.

**Башка'** *(бышка)* 'галава' (Бяльк.). Укр. *башка* (адкуль такі націск?), рус. *башка*. Запазычанне з цюрк. *baš* 'галава'. Праабражэнскі, 1, 20; Фасмер, 1, 139 (там і літ-ра); падрабязна Шанскі, 1, Б, 62—63. Зыходзячы з геаграфіі слова, можна думаць пра пасрэдніцтва рус. мовы.

**Ба'шка** 'авечка' (Касп.), *баша-баша-баша, баше-баше-баше* 'падзыўныя словы для авечак' (ДАБМ, 896), таксама *бась-бась-бась* (Сцяшк. МГ). Рус. дыял. *баша* 'авечка, ягня', *баш, баша* 'падзыўное слова для авечак'. Паводле Фасмера, 1, 138, памяншальная форма ад *баран*. Падзыўное слова тлумачыцца як другаснае па паходжанню (гл. Трубачоў, Происх., 76).

**Башлы'к** 'башлык; тое, што надзяваюць на галаву паверх шапкі' (БРС, Сцяшк. МГ, Сакал., Інстр. I, Сцяц. Нар., Шат.). Рус. *башлык*, укр. *башлик* (з XVIII ст.). Запазычанне з цюрк. моў (параўн. цюрк. *bašlyk*, да *baš* 'галава'), Фасмер, 1, 139. Некаторыя новыя дэталі дадае Шанскі, 1, Б, 63.

**Башма'к$_1$** 'чаравік' (Шат., Касп., Сакал.). Рус. *башмак*, укр. *башмак*. Запазычанне з цюрк. моў (тур., чагат. *bašmak*). Міклашыч, 8, 415; Бернекер, 45; Фасмер, 1, 139, параўн. яшчэ Заянчкоўскі, Stud. orient., 37; Рудніцкі, 92; Шанскі, 1, Б, 63—64.

**Башма'к$_2$** (тэхн.) (БРС). Укр. *башмак* 'тс'. Запазычанне з рус. *башмак* 'тс' (а гэта да *башмак* 'чаравік' <цюрк., гл. вышэй). Рус. *башмак* як тэхнічны тэрмін — калька з зах.-еўрап. моў (параўн., напр., ням. *Schuh* 'чаравік; башмак').

**Башня** 'чатырохвугольны стог пад страхой' (ДАБМ, 879). Укр. *башня* (у XVII ст.) 'вежа'. Запазычанне з рус. *башня* 'вежа', якое з'явілася ў XVI ст. як пераафармленне старога *башта* (гл.). Да рус. слова параўн. Фасмер, 1, 139; Шанскі, 1, Б, 64. Параўн. *бакшта* і *башта*.

**Башта** 'гаўптвахта, турма; вежа' (Нас.); у ст.-бел. з XV ст. (Булыка, Запазыч.; Нас. гіст.; Гіст. лекс., 115). Рус. (XVI ст.) *башта*, укр. *башта* (з XVI ст.). Запазычанне з зах.-слав. моў: польск. *baszta*, чэш. *bašta*<італ. *bastia*. Бернекер, 45; Брукнер, 18; Фасмер, 1, 139; Шанскі, 1, Б, 64; Махэк$_2$, 47—48; Рыхардт, Poln., 33; Рудніцкі, 92. Да еўрапейскіх форм гл. яшчэ MESz, 1, 256 (венг. *bástya*, там і літ-ра); Клюге, 55.

Гіст. лекс., 115, і Булыка, Запазыч., 39, тлумачаць гэта сло-

ва як германскае па паходжанню. Першакрыніцай запазычання ням. *Bastéi* (!) з фанетычных меркаванняў ва ўсякім выпадку быць не можа.

**Башта′** 'агарод у полі'. Гл. *баштáн*.

**Башта′н** 'агарод у полі' (Яшкін), 'калгасны агарод' (Лысенка ССП). Рус. *баштáн* 'бахча' (<укр.), укр. *баштáн* 'тс'. З тур.-перс. *bostan* 'агарод'. Бернекер, 77; Фасмер, 1, 139. Параўн. Шанскі, 1, Б, 64; Рудніцкі, 92. Форма *баштá* 'бахча' (Яшкін) узнікла кантамінацыяй слоў *баштáн* і *бахчá*.

**Башыбузу′к.** Укр. *башибузýк*. Запазычанне з рус. *башибузýк* (раней 'салдат нерэгулярнага турэцкага войска') <тур. *başıbozuk* 'атрады нерэгулярнага войска' (*baş* 'галава', *bozuk, buzuk* 'шалёны, сапсаваны'). Адносна рус. слова гл. Фасмер, 1, 138; Шанскі, 1, Б, 62.

**Баю′р** 'гурба снегу' (зах.-палес., Талстой, Геогр., 233). Асцярожна можна параўнаць з укр. (праўда, не вельмі добра дакументаваным словам) *баю́ра* 'пагорак' (Піскуноў, Словарь). Слова няяснага паходжання. Талстой, там жа, з запытаннем, вылучае дзве магчымасці тлумачэння: 1) энантыёсемія па прынцыпу 'верх'↔'ніз' (параўн. зах.-палес. *баю́ра* 'штучная яма'); 2) нейкая сувязь (запазычанне) з тур. *bayır* 'узгорак, пагорак' (што дало, дарэчы, *байрáк*, гл.).

**Бaю′ра** 'лужына' (Сцяшк. МГ), *баю́рына* 'кар'ер, запоўнены вадой' (Жд.), гл. яшчэ Яшкін. Укр. *баю́ра, балю́ра, баню́ра, банюр, байóро* 'вялікая, глыбокая лужа; ямка ў земляной падлозе'. Польск. *bajor* 'сажалка', *bajoro* 'тс', *bajura, bejura* 'лужына', *bániory* 'глыбокія месцы ў вадзе', *bonior, banior* 'глыбіня ў рэчцы, вір'. Сувязь з ням. *Weiher* 'сажалка' (г. зн. запазычанне з ням.) вельмі няпэўная. Слаўскі (1, 26) думае пра **bańor(o)*<*bańa* (з дыялектным *n'*>*j*>*l'*). З геаграфічных меркаванняў (у бел. і ўкр. мовах, галоўным чынам у заходніх гаворках) выходзіць, што бел. і ўкр. словы ўзяты з польскай мовы.

**Баю′ўка** 'хустка з байкі'. Гл. *баёвік*.

**Бая′знь.** Гл. *бая́цца*.

**Бая′н** 'музыкальны інструмент', укр. *бая́н*. Запазычанне з рус. *бая́н* 'тс' (а гэта па імені легендарнага Баяна ў «Слове о полку Игореве»). Назва была дадзена рускім гарманістам А. Ф. Арланскім-Цітарэнкам (1877—1941) першаму ў свеце храматычнаму гармоніку, які сканструяваў тульскі майстар М. І. Белабародаў (1827—1912). Гл. БСЭ; Шанскі 1, Б, 65.

**Бая́рын.** Рус. *боярин* (ст.-рус. *бояринъ*), укр. *боярин,* ст.-слав. **болꙗринъ** (мн. **болꙗрє**), балг. *болярин, боляр*, серб.-харв. *бо̀љарин, бо̀љар*, славен. *boljár*. Слова, якое выступае толькі ў паўд. і ўсх. славян. Найбольш верагоднай з'яўляецца версія пра запазычанне з адной з старых цюркскіх моў. Параўн. пратабулг. тытулы, запісаныя грэчаскім пісьмом: βωυλε, βοιλα, βοηλα, βουληα і г. д. Першапачаткова **(л)ꙗр(є)** было канчаткам мн. ліку ў пратабулг. мове (параўн. цюрк. *-lar*). З ст.-слав. мовы слова папала да ўсх. славян. Геаргіеў, ИИБЕ, 1952 (2), 89; БЕР 1, 66. Шматлікія іншыя тлумачэнні і версіі (у тым ліку і фанетычныя) гл. у Фасмера, 1, 203—204. Вельмі няпэўным з'яўляецца вывядзенне (гл. Шанскі, 1, Б, 182) слова з слав. крыніцы (<*bojь* 'бітва'). Няпэўная таксама кельтская этымалогія Шахматава (AfslPh, 33, 86). Агляд версій гл. таксама ў Шанскага, 1, Б, 181—182. Форма *баярынь* (Шат.) пад уплывам *баярыня* (рус.), як *бárынь* (гл.) пад уплывам *бárыня.* У песнях і да т. п. сустракаюцца формы *баярка* 'пані' (Нас.), 'шаферка' (Касп.), *баяр'е, бояре* (Нас.), *быяря* (Бяльк.), *баярыя* 'панства' (Сцяшк. МГ).

**Бая́цца.** Рус. *бояться,* укр. *боятися,* польск. *bać się,* чэш. *báti se*, ст.-слав. **боꙗтисѧ**, балг. *бóя се*, серб.-харв. *бо̀јати се* і г. д. Прасл. *bojati sę* 'баяцца'. Параўн. літ. *bajùs* 'страшны', *bijótis* 'баяцца', ст.-інд. *bháyatē* 'баіцца' і да т. п. Траўтман, 24; Бернекер, 68; Слаўскі, 1, 25; БЕР, 1, 71; Фасмер, I, 204; Праабражэнскі, I, 41. Няпэўнай з'яўляецца думка (Зубаты, Studie, 1, 1, 79—90; падтрымліваюць Трубачоў, Дополн., 1, 204; Шанскі, 1, Б, 183) пра сувязь з *biti* 'біць'.

Сюды і прасл. *bojaznь* (суф. *-znь*): бел. *баязнь, бóязь,* рус. *боязнь,* укр. *боязнь,* польск. *bojaźń,* чэш. *bázeň,* ст.-слав. **боꙗзнь** і г. д. Параўн. падобнае ўтварэнне: ст.-прус. *biās-nan* 'страх'.

**Ба́яць.** Гл. *бáіць*.

**Бгаць** 'гнуць, мяць, камячыць'. Рус. *бгать*, укр. *бгáти.* Цёмнае слова. Паводле адной версіі, усх.-слав. **бъгати* <*гъбати* (да слав. *gъb-* 'гнуць'). Бернекер, 366; Міклашыч, 82; Праабражэнскі, I, 192. Патабня (РФВ, 4, 125) і Ільінскі (РФВ, 62, 254) параўноўваюць *бгати* з ст.-інд. *bhujáti* 'гне', гоц. *biugan,* ням. *biegen* 'гнуць' (параўн. яшчэ Траўтман, 39). Некаторыя заўвагі Фасмер, 1, 140.

**Бег,** *бéгаць, бéгчы.* Рус. *бежáть, бéгать, бег,* укр. *біг, бігти,* польск. *bieżeć,* чэш. *běžeti,* ст.-слав. **бѣжати,** серб.-харв.

*бјѐжати* і г. д. Прасл. *běg-ti, běžati, běgъ*. Дакладная адпаведнасць у літ. *bëgti* 'бегчы', грэч. φέβομαι 'бягу', φόβος 'бегства; страх'. Праабражэнскі, 1, 59; Фасмер, 1, 141, 143; Траўтман, 29. Да гісторыі семантыкі бел. *бег* гл. Жураўскі, БЛ, 1972, 1, 65—66.

**Бегемот.** Рус. *бегемо́т,* укр. *бегемо́т.* Запазычанне з ням. мовы (ням. *Behemoth* <ст.-яўр. *behemoth*). Гл. Фасмер, 1, 142; Шанскі, 1, Б, 67.

**Бегун,** *бегун* 'завеса' (ст.-бел.; Булыка, Запазыч.): *двери на бегунах (бегунах).* Запазычанне з польск. *biegun* (ад *biegać*) 'тс' (Булыка, Запазыч., 39). Трэба дадаць, што факт запазычання сведчыцца толькі гукам *г,* бо гэта слова ёсць і ў рус. мове *(бегуны́* з падобным значэннем), і ва ўкр. *(бігун).* Таму можна лічыць, што бел. *бегу́н* 'бягун, слупок, на якім трымаюцца вароты ў шуле' (Бяльк.) і *бягу́н* 'завеса' з'яўляюцца самастойнымі ўсх.-слав. утварэннямі.

**Беда′** 'ручны вазок на двух колах' (Маслен.), *бі͡едка* 'двуколка' (Бесар.). Укр. *бідá, бєдка, бідка* і да т. п., польск. *bida, biga, bieda.* Запазычанне з лац. *biga*, дакладней, з формы мн. *bigae* 'тс' (<*bi-iugae*), якое, па народнай этымалогіі, было ператворана ў *bida, bieda* і да т. п. (уплыў славянскага *běda* 'бяда'). Варш. сл., 1, 147; Брукнер, 25; Рудніцкі, 131. У бел. і ўкр. мовах запазычанне праз польск. пасрэдніцтва.

**Бе′дны,** *бядá.* Рус. *бедá,* укр. *бідá,* польск. *biada* (ст.), чэш. *bída,* ст.-слав. **бѣда**, балг. *бедá*, серб.-харв. *бијѐда* і г. д. Прасл. *běda* (з рознымі вытворнымі — *běd̆ьnъ* і г. д.). Параўн. літ. *bėdà*, лат. *bę̀da* 'клопаты, гора'; далей гоц. *baidjan* 'прымусіць', грэч. πείθω 'пераконваю, угаварваю'. Бернекер, 54; Развадоўскі, RS, 2, 105; Траўтман, 23. Прасл. **běda,* гоц. *baidjan,* магчыма, далей звязаны з кельт. мовамі. Параўн. ст.-ірл. *bibdu* 'вінаваты' (<пракельт. **bibid(u̯)ūs* <і.-е. **bhibhidh-u̯ōt-s,* корань **bhei̯dh-*). Гл. Зомер, 36. Стоўксу, 25.

**Бедронка** 'божая кароўка' (Інстр. лекс.). Паколькі такі тып утварэння (на *-онка*) не характэрны для ўсх.-слав. моў (дакладней, для бел. і ўкр.), дзе выступае *бедрык* (гл.), то трэба меркаваць, што гэта запазычанне з польскай мовы (параўн. польск. *biedronka,* таксама *biedrunka,* параўн. і чэш. *bedruňka).* Польск. слова звязана з назвамі кароў *biedrona, biedrawa, biedrula,* гл. Слаўскі, 1, 32; Саднік—Айцэтмюлер, 4, 262—263 (параўн. *бóжая карóўка,* ням. *Herrgottkühlein* і г. д.). Іначай аб паходжанні польск. слова Лант, Language, 29, 128—133. Гл. *бедрык.*

**Бедрык** 'божая кароўка' (Інстр. лекс., 3 жыцця). Укр. *бе́дрик*. Параўн. польск. *biedronka, biedrunka, biedrzonka,* чэш. *bedruňka* 'тс'. У славян і іншых народаў ёсць павер'е, што Coccinella — гэта 'божая жывёліна' (параўн. бел. *бо́жая каро́ўка,* рус. *бо́жья коро́вка,* польск. *krówka Matki Boskiej,* ням. *Herrgottkühlein, Herrgottschäfchen* і г. д.). Таму *бедрык,* відавочна, звязана семантычна з такімі назвамі, як польск. *biedroń* 'стракаты вол', *biedrona* 'стракатая карова' і г. д. (аб польскіх назвах гл. Слаўскі, 1, 32; Саднік—Айцэтмюлер, 4, 262—263). Першапачаткова *бедрык* — гэта 'стракатая жывёліна'.

Тып *bedr-*: *petr-* (параўн. яшчэ бел. *пе́трык,* укр. *пе́трик* 'божая кароўка') у карпацкай зоне займае «паўночны арэал», а на поўдні выступае *babr-, bobr-, papar-* і г. д. (параўн. укр. *бабру́н, папару́за* 'божая кароўка'; з неслав. моў — рум. *buburúză* і г. д.). Параўн. Краўчук, ВЯ, 1968, № 4, 124. Змешваць абодва тыпы (як гэта робіць Махэк$_2$, 50; Каламіец, Мовазнавство, 1967, № 3, 50—51) наўрад ці можна. Не выключаецца, што наогул мы тут маем справу з старым субстратным словам (з пазнейшай ад'ідэацыяй да *bedr-* 'сцягно'). Лант (Language, 29, 128—133) зыходзіў з і.-е. **bhed-r-* (параўн. санскр. *bhadraḥ* 'удача, шчасце; спрыяльны'). Сюды і *бедру́нка* 'Scarabeus auratus' (Нас.).

**Бе́жанец** (БРС, Бяльк.). Запазычанне з рус. *беженец* 'тс' (аб рус. слове гл. Шанскі, 1, Б, 70).

**Без** (прыназоўнік і прэфікс). Рус. *без,* укр. *без,* польск. *bez,* чэш. *bez,* ст.-слав. **без,** балг., серб.-харв. *без.* Прасл. *bez* (не *bězъ*; іначай было б укр. *біз,* гл. Фасмер, 1, 144). Роднасныя формы: літ. *bè,* лат. *bez,* ст.-прус. *bhe,* ст.-інд. *bahíṣ.* І.-е. **bhe(ĝh)-*. Бернекер, 54; Траўтман, 28; Фасмер, 1, 144; Слаўскі, 1, 30 (там і іншая літ-ра).

**Бе́заўе** 'бузіннік'. Гл. *бэз.*

**Бе́здань,** *бяздо́нне.* Аналагічныя ўтварэнні і ў іншых слав. мовах. Параўн. рус. *бе́здна, бездо́нный,* укр. *безодня,* польск. *bezdeń,* чэш. *bezdna,* ст.-слав. **бездъна,** балг. *бе́здна,* серб.-харв. *бѐздан* і г. д. (да *bez+dъno*). Гл. Фасмер, 1, 144; Шанскі, 1, Б, 75.

**Безецный** 'нізкі, подлы' (ст.-бел.; Булыка, Запазыч.). Укр. (з XVI ст. і ў дыялектах) *безецний* 'тс'. Запазычанне з польск. *bezecny* 'тс' (да прасл. *čьstь* 'гонар'; Слаўскі, 1, 120). Цімчанка, 70; Булыка, Запазыч., 40. Сюды адносіцца і *беззэ́цны цмок* 'міфічны змей у беларускіх казках' (Мядзв.).

**Безік** 'вока' (Яўс.). Мабыць, звязана з *бізюкі* 'падслепаватыя вочы' (Бяльк.). Параўн. рус. дыял. *бизо́й* 'сляпы'. Гэта апошняе Фасмер (1, 164) лічыць цёмным словам.

**Бе́зма** 'гразкае, непрыкметнае месца, дзе загразае ці топіцца жывёла' (Яшкін). З **бе́зна* (**bez(ъ)dъna*), параўн. *ба́гма* 'багна' (Касп.) <*ба́гна* (невядома, ці пераход *н*>*м* фанетычны). Семантыка слова выказвае працэс дэградацыі, мікранізацыі гэтага тэрміна ('вялікая глыбіня'→'лужына і да т. п.'). Параўн. Талстой, Геогр., 235—236.

**Бе́зна** 'багністае, вадзяное месца, якое зарасло чаротам; дрыгва; глыбіня, бездань' (Бяльк., Яшкін). З *бе́здна* (да *бе́здань,* гл.).

**Бе́знік** 'малады бярозавы лес' (Яшкін). Гаплалогіяй з *бярэзнік.*

**Бей.** Рус. *бей,* укр. *бей* і г. д. (у многіх еўрапейскіх мовах: ням. *Bei, Bey,* франц. *bey,* рум. *bei,* венг. *bej* і да т. п.). Запазычанне з тур. мовы (тур. *bey,* роднаснае іншаму цюрк. слову, гл. *бек*). Дзмітрыеў, Тюрк. эл., 20; Шанскі, 1, Б, 82; Локач, 24; параўн. далей MESz, 1, 269.

**Бек** 'князь'. Рус. *бек,* укр. *бек* і г. д. (балг. *бег*, серб.-харв. *бѐг*, алб. *beg*, венг. *bég*). Запазычанне з цюрк. моў. Цюрк. слова — роднаснае тур. *bey.* Дзмітрыеў, Тюрк. эл., 20; Шанскі, 1, Б, 82. Параўн. тур. (старое) *beg,* уйг. *bäg,* чагат. *bäk* і г. д. Гл. яшчэ Локач, 24; MESz, 1, 267.

**Беке́ша** (Нас.), таксама *беке́ш* (Сцяшк. МГ, Сакал.), *бікеш* (Янк. Мат., Інстр. I), *бікеша* (Інстр. I). Запазычанне з польск. *bekiesza* (а гэта з *bekieszka;* ад прозвішча *Bekesz* венгерскага караля С. Баторыя, гл. Кіш, ЭИРЯ, IV, 48 і далей). Варыянт *беке́ш, біке́ш* адлюстроўвае венг. форму *bekes* (<польск.). Гл. Фасмер, 1, 146; Кіш, там жа; Шанскі, 1, Б, 83. Аб гісторыі слова падрабязна (з літ-рай) гл. таксама MESz, 1, 271. Параўн. ст.-бел. *бекешка* (XVI ст., Булыка, Запазыч.).

**Белабры́сы** 'бландзін' (БРС, Касп.). Рус. *белобры́сый.* Відаць, складанае слова: да *bělъ* 'белы' і *bry (brъve)* 'брыво'. Гл. Фасмер, 1, 148; Шанскі, 1, Б, 87.

**Белаглова** 'жанчына наогул' (Нас.). Запазычанне з польск. *białogłowa* 'тс' (да польск. слова гл. Зяленін, Табу, 1, 131; Фасмер, 1, 148). Параўн. яшчэ рус. *белоголо́вка* 'баба, жанчына'. Гэтыя словы, магчыма, табуістычныя ўтварэнні (Зяленін, Фасмер, там жа).

**Белетрысты′чны.** Запазычанне ў дакастрычніцкі перыяд з польскай мовы (польск. *beletrystyczny*). Аб запазычанні сведчыць марфалагічны тып прыметніка (на *-н-*, у параўнанні з рус. тыпам на *-еск-*). Гл. Крамко, Гіст. мовы, 2, 144.

**Бе′лка₁** 'вавёрка' (БРС, Шат.). Рус. *бéлка,* укр. *білка.* Ст.-рус. формы былі *бѣла, бѣла вѣверица* 'белая белка'. Гэта даводзіць, што *бѣлъка* — утварэнне ад *bělъ* 'белы'. Першапачаткова назва адносілася, відаць, толькі да рэдкіх і вельмі каштоўных белых белак. Гл. Сабалеўскі, РФВ, 67, 214 і наст.; Фасмер, ZfslPh, 1, 152; Фасмер, 1, 148; Бернекер, 56; Шанскі, 1, Б, 86.

**Бе′лка₂** 'нягразкае балота, якое зарасло травой' (Яшкін). Як і *бель* (гл.), вытворнае ад *bělъ* 'белы'.

**Бе′лы.** Рус. *бéлый,* укр. *білий,* польск. *biały,* чэш. *bílý,* ст.-слав. **бѣлъ**, балг. *бял*, серб.-харв. *бȅо, бȅли* і г. д. Прасл. *bělъ* 'белы'. Роднасныя і.-е. формы: ст.-інд. *bhālam* 'бляск', *bhāti* 'свеціць, ззяе', літ. *báltas* 'белы' і інш. І.-е. корань **bhā-* 'свяціць, ззяць'. Бернекер, 55; Праабражэнскі, 1, 59—60; Фасмер, 1, 149; Траўтман, 29; Брукнер, 24; Слаўскі, 1, 31. Да стылістычнай семантыкі слав. *bělъ* 'белы' гл. Мастрэлі, RicS, 2, 92—100. Як экспрэсіўнае ўтварэнне са складанай суфіксацыяй сюды адносіцца *белехкацéць* 'бялецца' (Сцяц.) <**běl-exъ-k-ot-ěti* (або **běl-exъ-k-ъt-ěti*). Далей сюды адносіцца *бельё, белё, бяллё* 'бялізна' (гл. *бялізна*).

**Бель** 'балоцісты луг, поплаў, нягразкае балота, забалочанае нізкае месца і г. д.' (усх.-палес., паўн.-зах. бел., гл. Яшкін, Талстой, Геогр., 189—190), таксама *бéлька,* польск. *biel, biela, bielnik.* Лічыцца, што гэта вытворнае ад *bělъ* 'белы' (г. зн. першапачаткова 'балота, луг белаватага колеру'). Гл. Машынскі, Uwagi, 2—3; Талстой, Геогр., 189 (там і іншая літ-ра). Параўн. *бéлка₂*.

**Бе′льма,** *бéльмы* 'вочы'. Гл. *бяльмó.*

**Бенефі′цыя** (БРС), *бенефиция* 'даходная царкоўная пасада' (ст.-бел.; Булыка, Запазыч.). Запазычанне з польск. *beneficjum* (<лац. *beneficium*); Булыка, Запазыч. 41. Дакладней: запазычанне з формы мн. ліку *beneficja,* якая магла ўспрымацца як слова ж. роду. Праз польск. мову запазычаны таксама ст.-укр. *бенефициум,* укр. *бенефіція*, рус. *бенефиция* (гл. Шанскі, 1, Б, 91).

**Бензі′н.** Рус. *бензúн*, укр. *бензúн.* Запазычанне з франц. *benzine* (а гэта з с.-лац. *benzoe* <араб.). Локач, 106; Фасмер, 1, 151; Шанскі, 1, Б, 91.

**Бе́раг** (агляд значэнняў слова гл. ў Яшкіна). Рус. *бéрег,* укр. *бéріг,* польск. *brzeg,* чэш. *břeh,* ст.-слав. **брѣгъ**, балг. *бряг,* серб.-харв. *брêг* і г. д. Прасл. *bergъ* 'бераг; узгорак, гара'. Гэта слова звязана з ст.-в.-ням. *berg* 'гара', авест. *barəzah-* 'гара, вышыня', ст.-інд. *bṛhant-* 'высокі', авест. *bərəzant* 'высокі', ірл. *brí* 'гара' і г. д. Паколькі некаторыя і.-е. мовы сведчаць пра *-ĝh-* у гэтым слове (гэта дало б слав. **berzъ*), то ёсць версія пра запазычанне слав. слова з герм. моў, але ёсць аргументы і супраць. Гл. Мейе, RS, 2, 69; Траўтман, 30; Ягіч, AfslPh, 30, 457; Бернекер, 49; Машынскі, Pierw., 157; Брукнер, 44; Слаўскі, 1, 46; Фасмер, 1, 153. Параўн. яшчэ *бéраг,* 'каляровая палоска на краі хусткі' (Сцяц. Нар.), 'край пасудзіны, тканіны' (БРС, Сцяшк. МГ), 'узлесак' (Жд.).

**Берагчы́**. Рус. *берéчь,* укр. *берегти́,* ст.-слав. **брѣшти брѣгѫ** 'клапаціцца', ст.-серб. *бриjѐħи бржем* 'ахоўваць'. Прасл. *bergti bergǫ, bergti bьrgǫ.* І.-е. **bhergh-* 'берагчы, ахоўваць, клапаціцца'. Параўн. гоц. *baírgan* 'хаваць', ням. *bergen,* літ. *bir̃ginti* 'берагчы'. Фасмер, 1, 153; Траўтман, 31; Бернекер, 49; Слаўскі, 1, 44; Праабражэнскі, 1, 24.

**Берало́г**. Гл. *бярлóг.*

**Берало́з** 'ракіта, Salix fragilis L.' (Яшкін). Назвы для Salix часта маюць у другой частцы **-loza, *-loz.* Параўн. бел. *вербалоз,* укр. *верболіз, верболоз, верболоза, краснолоз, чернолоза, чорнолоз* і г. д. Мяркуем, што бел. *бералóз* — гэта скажонае *вербалоз* (*вербалóз>*бервалоз>бералóз*), у якім адбыліся метатэзы зычных.

**Бе́раст**. Гл. *бярóза.*

**Берасце́нь** 'гаршчок, абцягнуты бярозавай карой' (Бяльк., Касп., Нас.), 'гліняны гаршчок, аплецены дротам' (Сцяшк. МГ). Рус. *бéрестень.* Вытворнае ад *бéраст* (гл.), прасл. *berstъ.* Параўн. Трубачоў, Ремесл. терм., 234.

**Бе́рба** 'кладка'. Гл. *бэ́рва.*

**Бе́рва** 'кладка'. Гл. *бэ́рва.*

**Бервяно́**, таксама *бервянё, браўно* (Сцяшк. МГ). Рус. *бревнó,* укр. *бервено,* ст.-польск. *bierzwno, bierwiono,* чэш. *břevno,* ст.-слав. **брьвьно, бръвьно,** серб.-харв. *бр̏вно* і г. д. Параўн. яшчэ *бэ́рва.* Дакладна рэканструяваць прасл. форму цяжка (гл. Развадоўскі, RS, 1, 251). Таксама цяжка знайсці роднасныя неславянскія формы. Агляд версій гл. Фасмер, 1, 209—210, параўн. Праабражэнскі, 1, 43; Слаўскі, 1, 33; Бернекер, 92.

**Бе′рка₁** 'бярозавы лес, гай, зараснік' (Яшкін). Няяснае слова. Магчыма, скарачэнне слоў тыпу *беразня́к, беразу́га, беразу́ха, беразя́ка, беразня́*. Ці ёсць сувязь з *бе́рка₂*?

**Бе′рка₂** 'бярозавы сок' (Касп.), *берка, бірка* 'бярозавы квас' (Малчанава, Мат. культ.) Рус. дыял. *бе́рька, бе́рика* 'тс'. Цёмнае слова. Трубачоў (Эт. сл., 1, 201) думае пра сувязь з *bьrati berǫ*'браць'.

**Бе′ркавец** 'дзесяць пудоў' (БРС). Рус. *бе́рковец*, укр. *бе́рковець*. Скарачэнне з **бьрковьскъ пѫдъ* (ст.-рус. *бьрковьскъ, берковьскъ*). Ад назвы шведскага горада *Björkö*. Падрабязна Фасмер, 1, 156—157; Шанскі, 1, Б, 98.

**Беркін** 'назва расліны Meliotus albus L. і інш.' Гл. *барку́н*. Варыянт *беркін* запазычаны з адной з цюрк. форм. З цюрк. слоў, якія прыводзіць Мяркулава, Очерки, 87, бліжэй ад іншых да бел. формы стаіць караім. *біркін* 'быць запырсканым'.

**Беркун** 'назва расліны баркун белы, Meliotus albus L.' Гл. *барку́н*. Варыянт *беркун* адлюстроўвае адну з цюрк. форм. Бліжэй усіх стаіць да гэтай формы цюрк. *бу́рку́н* 'быць запырсканым'.

**Бе′ркут** 'птушка арол.' Рус. *бе́ркут*, укр. *бе́рку́т*. Запазычанне з цюрк. моў. Параўн. чагат. *börküt*, усх.-цюрк., казах. *bürküt*, тат. *birkut* і г. д. Фасмер, 1, 157; Праабражэнскі, 1, 24; Дзмітрыеў, Тюрк. эл., 21 (параўн. і Шанскі, 1, Б, 98). Польск. *berkut* (праз усх.-слав. мовы; Брукнер, 21). Няясным, аднак, застаецца націск на першым складзе.

**Берлаво′кі** 'вірлавокі, з вялікімі вачыма' (Сцяшк. МГ), *берлаокі* 'вірлавокі; бяльматы' (Лысенка ССП). Параўн. польск. дыял. *barlooki* (Махэк₂, 67; адкуль? Няма ў Варш. сл. і ў Карловіча), ст.-чэш. *brlooký* 'той, хто бегае туды-сюды вачыма', чэш. *brlooký* 'косы, касавокі', *brlavý* 'косы' (ст.-чэш.), 'крывы' (пра верацяно, трубку), 'кульгавы', славац. *brlavý* 'косы', *brloočný*. Далей параўноўваюць з славен. *brlja* 'ваўчок' (цацка), гл. Махэк₂, там жа. Можна думаць пра слав. дзеяслоўную аснову **bьrl-* 'круціць, круціцца'. Але зыходзячы з геаграфіі ўсх.-слав. слоў, можна, мабыць, меркаваць і пра запазычанне з зах.-слав. Параўн. яшчэ *вірлаво́кі*.

**Берэ′т.** Рус. *бере́т* (даўней і *барет*), укр. *бере́т*. Запазычанне (мабыць, праз рус. мову) з франц. *béret* 'шапачка баскаў'. Фасмер, 1, 156; Шанскі, 1, Б, 96—97; Рудніцкі, 112. Да гісторыі слова ў еўрап. мовах гл. Клюге, 52; MESz, 1, 304. Ст.-бел. *бирет* (XVI ст.) <польск. *biret* <франц. (гл. Булыка, Запазыч.).

**Бес** 'чорт'. Гэта слова зафіксавана толькі ў Інстр., II, 115. Нас., Касп., Шат. і іншыя слоўнікі яго не знаюць. Таму можна меркаваць, што на беларускай тэрыторыі яго няма. Таксама не прыводзіць беларускага слова і Трубачоў, Эт. сл., 1, 88—91. Паколькі прасл. *běsъ* (і вытворныя) вельмі архаічная лексема, адсутнасць яе ў бел. мове сведчыць аб даволі ранняй яе замене лексемай *čьrtъ*. Да складанай праблематыкі, звязанай з *běsъ*, гл. Трубачоў, там жа.

**Бето'н.** Рус. *бетóн* (з першай палавіны XIX ст.), укр. *бетóн*. Запазычанне з ням. *Beton* (або прама з франц. *béton*, якое з'яўляецца крыніцай і для ням., гл. Клюге, 71). Фасмер, 1, 162; Шанскі, 1, Б, 112, гл. яшчэ MESz, 1, 290—291. Франц. *béton* <лац. *bitumen* 'бітум'. Бел. слова запазычана, відаць, праз рус. мову.

**Бе'чка** 'павека' (Бяльк.). Слова, роднаснае *абечáйка* (гл.), *бічáйка* (гл.). Зыходнае **ob-věko* (і яго вытворныя). Агляд форм і значэнняў гл. яшчэ Краўчук, УМШ, 1960, № 6, 61—62. Параўн. значэнне слав. **věko* 'накрыўка, абечак; павека'.

**Бёрда** 'дэталь ткацкага станка'; таксама *бéрда*. Рус. *бёрдо*, укр. *бéрдо*, польск. *bardo*, чэш. *brdo*, балг. *бъ̀рдо*, серб.-харв. *бр̏до* і г. д. Прасл. *bьrdo*. Роднаснае: лат. *birde* 'ткацкі стан', ст.-в.-ням. *bort* 'край' і г. д. Траўтман, 33; Бернекер, 118, Фасмер, 1, 152. Падрабязна Трубачоў, Ремесл. терм., 26—31, 130—131.

**Бзік,** *бзікавáты*. Гл. *бзы́каць*.

**Бзы'каць** 'гудзець', таксама *бзычáць, бзыя́ць* (БРС, Сцяшк. МГ, Сцяц.). Гукапераймальнае ўтварэнне. Параўн. укр. *бзичáти*, польск. *bzikać*, чэш. *bzikati, bzučeti* і г. д. Гл. Фасмер, 1, 164; Слаўскі, 53; падрабязна Махэк$_2$, 79. Сюды з іншай семантыкай *бзы́каць* 'злавацца, хваляваццa і бегаць' (Шат.), *бзды́каць* 'бегаць з месца на месца' (Бяльк.). Але бел. *бзік* (БРС), *бзікавáты* 'з норавам, з дзівацтвамі' (БРС, Бяльк.), рус. *бзик* 'дзівацтва' запазычаны прама з польск. *bzik, bzikowaty*. Гл. Шанскі, 1, Б, 113.

**Бі'блія.** Рус. *бúблия*, укр. *бíблія, бúблія*. Старое запазычанне з лац. *biblia* 'тс' <грэч. βιβλία (мн. ад βιβλίον 'кніга', па назве. г. Біблос, адкуль грэкі імпартавалі папірус). Фасмер, 1, 164; Шанскі, 1, Б, 116. Ст.-бел. *библия, библея* (Булыка, Запазыч.).

**Бібліятэ'ка.** Рус. *библиотéка*, укр. *бібліотéка*. З лац. (магчыма, праз польск.) *bibliotheca* <грэч. βιβλιοθήκη (да

βιβλίον 'кніга' і θήκη 'склад, сховішча'). Фасмер, 1, 164; Шанскі, 1, Б, 115; Кузняцоў, ЭИРЯ, 1, 39—45. Ст.-бел. *библиотека, быблиотека* (Булыка, Запазыч.).

**Бі'бул** 'картон' (Арх. Бяльк., слонім.), *бібу́ла* 'прамакальная папера' (Сцяц.). Укр. *бібу́ла* 'абгортачная папера'. З польск. *bibuła* 'від грубай паперы, якая ўцягвае ў сябе вільгаць' (а гэта з лац. *bibula* да *bibere* 'піць', гл. Варш. сл., 1, 145; Брукнер, 25). Ст.-бел. *бибула* 'тонкая абгортачная папера' (XVII ст., Булыка, Запазыч.).

**Біва'к.** Рус. *бива́к, бивуа́к,* укр. *біва́к, бівуа́к.* Запазычанне з зах.-еўрап. моў. Форма *біва́к* з ням. *Biwack* (або франц. *bivac* <ням.); тып *бівуа́к* — з франц. *bivouac* (<н.-ням. *bîwake* 'дадатковы патруль'). Фасмер, 1, 164. Некалькі іначай, але не пераканаўча Шанскі, 1, Б, 116.

**Бі'вень.** Відаць, запазычанне (як і ўкр. *би́вень*) з рус. *би́вень* 'тс' (утварэнне суфіксам *-ень*<*-ьнь* ад *бить,* параўн. Шанскі, 1, Б, 116).

**Бі'гус** 'бігус, сечанае мяса' (Нас., Гарэц., Др.-Падб.); пераносна 'ханжа, крывадушнік' (Гарэц., Др.-Падб.). Укр. *бі́гос* 'смажаная капуста з салам', рус. *би́гус.* З польск. *bigos* 'тс' (а гэта з ням. *Beguß;* Патабня, РФВ, 1, 262; Міклашыч, 13; Фасмер, 1, 164, або з ням. *Beiguß;* Шалудзька, Нім., 22). Гл. Кюнэ, Poln., 44; Шалудзька, Нім., там жа, і прыведзеную вышэй літ-ру (няпэўна Брукнер, 27, які першакрыніцай лічыць ням. *Bleiguß* 'кавалачкі волава'). Параўн. ст.-бел. *бигос* 'рагу' (XVII ст., Булыка, Запазыч.).

**Бі'знес.** Рус. *би́знес,* укр. *бі́знес.* Запазычанне новага часу з англ. *business* 'справа, заняткі' (*busy* 'заняты'). Параўн. Шанскі, 1, Б, 117.

**Бізо'н.** Рус. *бизо́н,* укр. *бізо́н.* Запазычанне з франц. *bison* (<с.-лац. *bison* <грэч. βίσων або ст.-в.-ням. *wisent*). Фасмер, 1, 165; Шанскі, 1, Б, 117.

**Бізу'н**$_1$ 'бізун'. Укр. *бізу́н,* рус. дыял. *бізу́н.* Запазычанне з польск. *bizun, bizon* 'тс' (а гэта, як лічыць Брукнер, 28, з венг. *bizonyi* 'праўда, сапраўды', гл. Брукнер, там жа, там і матывацыя). Сюды, мабыць, адносіцца і *бізуннік* 'зараснік сітняку, Scirpus lacustris L.' (Яшкін).

**Бізу'н**$_2$ 'вельмі бедны чалавек' (Сцяц., Нас.). Пераноснае ўжыванне слова *бізу́н*$_1$, запазычанага з польскай мовы. Параўн. польск. *goły jak bizun.*

**Бізюкі'** 'вочы'. Гл. *безік.*

**Бікла'га** 'баклага' (БРС, Нас., Маш., Бяльк., Янк. I.), *біклáжка* (Бір. Дзярж., Бяльк.). Можа, таго ж паходжання, што і *баклáга* (гл.). Але фанетыку слова вытлумачыць цяжка (дысіміляцыя *а-а*>*і-а* наўрад ці можа быць прынятай). Хутчэй за ўсё *біклáга* мае іншую крыніцу. Шалудзька (Rum., 126) калісьці ўказаў на рум. крыніцу для ўкр. *баклаг(а), боклаг.* У рум. мове ёсць формы *bîtloagă, bâtlag* 'бачонак'. Ці не маглі яны мець уплыў на форму *баклáга* (>*біклага*)? Але як? Параўн. ст.-бел. *биклаха* (XVI ст., Булыка, Запазыч.).

**Біку'р** 'бізун' (Бяльк.). Няяснае слова. Можа, таго ж паходжання, што і ўкр. *бокýри* 'скураны пояс', *букурíя* 'вузкі рамень, пояс' (а гэта з рум. мовы, гл. Рудніцкі, 1,164). Але параўн. польск. арго *bichur* 'бізун', чэш. арго *bikor* і г. д., якія Будзішэўска (Żarg., 69) звязвае з *біць*.

**Біле'т.** Рус. *билéт,* укр. *білéт.* Запазычанне з франц. *billet* (магчыма, праз польск. *bilet* або ням. *Billett*). Праабражэнскі, 1, 25; Фасмер, 1, 165; Шанскі, 1, Б, 118.

**Білецёр.** Рус. *билетёр,* укр. *білетéр.* Новае запазычанне з франц. *billetier* (ад *billet* 'білет'). Шанскі, 1, Б, 118.

**Біліндрасы** 'балбатня, жарты', *біліндрáсіць* 'вярзці лухту' (Нас.). Параўн. рус. дыял. *балендрясы, балиндрясы* 'жарты' і да т. п. Няясныя словы. Звязваюць з *баля́сы,* але гэта не вельмі надзейна. Гл. Фасмер, 1, 115.

**Біль.** Рус. *билль,* укр. *білль.* Запазычанне (бел. і ўкр. праз рус. мову) з англ. *bill* (<франц. *bille*). Падрабязней гл. Шанскі, 1, Б, 118—119.

**Більяр'д.** Рус. *бильярд,* укр. *більярд.* Запазычанне з італ. *bigliardo* 'тс' (параўн. італ. *biglia* 'більярдны шар') або з франц. *billard.* Першую версію адстойвае Фасмер, 1, 165; другую — Рудніцкі, 1, 136; Шанскі, 1, Б, 119.

**Білябе'ніць** 'балабоніць, гаварыць абы-што' (Бяльк.). Укр. *белебéнити,* рус. *белебéнить.* Гукапераймальнае. Гл. Фасмер, 1, 147. Параўн. *балабóніць.*

**Бімбо'р** 'самагонка' (Сцяшк. МГ). Запазычанне з польск. *bimber* 'тс' (але адкуль польскае слова?).

**Бі'нда**$_1$ 'доўгая стужка' (Др.-Падб.). Укр. *бúнда* 'тс'. З ням. *Binde* 'тс' (можа, праз польск. *binda*). Параўн. Брукнер, 27; Шалудзька, Нім., 21 (слова гэта ўжо ў Бярынды, гл. Шалудзька, там жа).

**Бі'нда**$_2$ 'чалавек, у якога тоўстыя губы; бамбіза' (Нас.).

Аткупшчыкоў (Лекс. балтызмы, 34) лічыць гэта слова запазычаннем з літ. мовы (параўн. літ. *biñdė* 'гультай').

**Біндаво'кі** 'аднавокі, сляпы на адно вока' (Бяльк.), 'бяльматы' (Нас.). Укр. *биндо́кий* (//*блиндоокий*). Цёмнае слова. Ва ўсякім выпадку першая частка слова (*бінд-*) па сваёй фанетыцы яўнае запазычанне. Паняцце 'аднавокі, вірлавокі, касавокі і пад.' можа выражацца складанымі словамі з словам 'жэрдка, падважнік і г. д.' Параўн. чэш. *bidlooký, pidlooký* (*bidlo* 'жэрдка'), укр. *вирло́кий* 'вірлавокі, лупаты', *вирла́тий* (пра вочы) 'лупаты', *ви́рла* (мн.) 'лупатыя вочы' (*ви́рло* 'доўгі падважнік, якім павяртаюць ветраны млын'; іначай пра ўкр. *вирлатий, вирлоокий,* бел. *верлавокі* Куркіна, Этимология 1970, 101—102). Семантычная матывацыя: 'падважнікі, якія «глядзяць» у розныя бакі'→'косыя вочы'. Можна меркаваць, што і ў слове *біндаво́кі* першая частка азначае 'жэрдка і г. д.'. Параўн. укр. *бенд́юга, бинд́юга* 'падважнік', рус. *бинд́юг, бинд́юга, бенд́юг, бенд́юга* 'тс' (<ням.; Фасмер, 1, 166).

**Бінда'лік$_1$** 'медаль' (Нас.). Таго ж паходжання, што і *біндалікі$_1$*: <польск. *bindalik* 'пояс, стужка і г. д.'

**Бінда'лік$_2$** 'чалавек з бяльмом' (Нас.). Няясна. Магчыма, звязана з *біндаво́кі* 'бяльматы' (гл.).

**Бінда'лікі$_1$** 'найніжэйшы гатунак карунак' (Шн.). Мабыць, з польск. *bindalik* 'шалік, пояс, стужка і г. д.' (а гэта да ням. *Bändel,* с.-лац. *bendellum,* гл. Варш. сл., 1, 156; Брукнер, 27). Параўн. яшчэ Шалудзька, Нім., 21 (які прыводзіць бярындаўскае *бѣндаликъ* <польск. *bindalik*).

**Бінда'лікі$_2$** 'думкі; патаемныя жаданні' (Бяльк.). Магчыма, як метафара, звязана з *біндалікі$_1$* (гл.): 'карункі'→'заблытаныя, хітрыя думкі'.

**Бінда'с** 'сякера, якой адколваюць тоўстыя трэскі' (Касп., Інстр. II, Мядзв.). Укр. *биндас.* Праз польск. *bindas* (да польскага слова гл. Брукнер, 27) з ням. *Bindaxt;* гл. Шалудзька, Нім., 21. Гл. яшчэ *біндус.* Ст.-бел. *биндас* 'кірка' (XVI ст., Булыка, Запазыч.).

**Бі'ндус** 'гультай' (Сцяц., Нас.). Аткупшчыкоў (Лекс. балтызмы, 34—35) хоча бачыць тут літуанізм (з меншай пэўнасцю аб гэтым Лаўчутэ, там жа, 22). Брукнер (27) дапускае, здаецца, магчымасць сувязі з *bindas* 'сякера' (<ням. *Bindaxt;* так прынамсі Варш. сл., 1, 156). Параўн. *біндáс* 'сякера', 'дурань' (Касп.), *бíндас* 'бамбіза' (Нас.). Аткупшчыкоў, там жа,

лічыць літуанізмам і бел. *біндзю́к* 'хлапчук гультай і гарэза' (Нас.). Ці не сюды адносіцца *біндзюга́йла* 'гультай' (Нас.)?

**Біндзю′г** 'драбіны, воз, калёсы' (Бяльк.), *біндзю́к* (Касп.). Рус. *биндю́г, биндю́га* і г. д. Лічыцца запазычаннем з с.-н.-ням. *bindinge*. Гл. Фасмер, 1, 150, 166; Шанскі, 1, Б, 120.

**Біндзю′га** 'край зямлі непасрэдна над возерам ці над рэчкай' (Мат. Гродз., Сцяшк. МГ). Здаецца (параўн. і геаграфію слова), запазычанне з польск. *binduga* 'месца каля ракі, дзе кладуць лес на сплаў' (а гэта, як мяркуе Брукнер, 27, можа быць звязана з рус. *бендюга, биндюга, бендюжник*). Параўн. ст.-бел. *бендюга* 'месца сплаву лесу' (Булыка, Запазыч.).

**Біндзюга′йла** 'гультай'. Гл. *біндус*.

**Біньдю′ра** 'пазалочаная папера' (Мядзв.). Мядзв. (там жа) лічыць, што гэта скажонае слова *бордюра* (параўн. рус. *бордю́р, бордю́рка* 'шляк', гл. Шанскі, 1, Б, 167).

**Біно′кль.** Рус. *біно́кль*, укр. *біно́кль*. Запазычанне з франц. *binocle* (параўн. лац. *bini* 'двое, пара', *oculus* 'вока'). Фасмер, 1, 166; Шанскі, 1, Б, 120.

**Бінт.** Рус. *бинт*, укр. *бинт*. Запазычанне з ням. мовы (ням. *Binde* 'павязка, бінт'). Праабражэнскі, 1, 26; Фасмер, 1, 166; Шанскі, 1, Б, 120.

**Бі′ржа$_1$** 'біржа'. Рус. *би́ржа* (раней і *бирж*), укр. *бі́ржа*. Крыніцай гэтых слоў з'яўляецца гал. *beurs* або ням. *Börse* 'тс' <франц. *bourse* 'кашалёк; біржа' (а гэта ад фаміліі купцоў *van der Burse*). Гл. Фасмер, 1, 166; Шанскі, 1, Б, 122.

**Бі′ржа$_2$** 'высокая жанчына'. Гл. *біржа́к*.

**Біржа′к** 'той, хто займаецца лёгкім возніцтвам' (Шат.). Параўн. рус. *биржа́к* 'тс', *биржо́вщик, би́ржешник*. Ад *би́ржа$_1$* (гл. Даль). Адсюль пераносна *біржа́к* 'высокі, сухарлявы чалавек' (Бяльк.), ад якога ўтворана *бі́ржа* 'худая, высокая' (Бяльк.).

**Бі′рка.** Рус. *би́рка*, укр. *би́рка* 'тс'. Этымалогія слова не вельмі ясная. Выводзяць з ст.-рус. *биръ* 'подаць, налог' (Праабражэнскі, 1, 26; Бернекер, 57). Іншыя думаюць пра запазычанне з дац., нарв. *birk* 'бяроза' (Зяленін, ZfslPh, 2, 207 і інш.). Корш (AfslPh, 9, 491) і Міклашыч (Türk. El. Nachtr., 1, 15) лічылі запазычаннем з цюрк. *bir* 'адзін' і *iki* 'два'. Параўн. ст.-бел. *бирка* 'бірка, жэрабя' (XVII ст.), якое Булыка (Запазыч.) выводзіць з ст.-польск. *birka*. Сюды адносіцца і *бірка* 'палачка, ужытая замест гузіка' (Юрч.).

**Бірко́вы** ’танкарунны (аб авечках)’ (Влад.). Бясспрэчна, звязана з укр. *бирка, бирька* ’авечка’ і выклічнікамі, якімі завуць або адганяюць авечак: укр. *бир, бирь-бирь,* рус. *бырка* ’авечка; авечая шкура’, *быр-быр, бырь-бырь* (выклічнік). Слова гэта не зусім яснага паходжання, ёсць у многіх мовах. Параўн. рум. *bircă, bîrcă, bercă* і г. д. ’парода авечак’, *bîrcă-bîrcă* (выклічнік), венг. *birka* ’авечка’, чэш. *birka, burka, bira* ’парода авечак’. Таксама выклічнік вядомы ў многіх мовах. Да этымалогіі і магчымай гісторыі слова гл. Махэк$_2$, 54 (у аснове ляжыць выклічнік); Рудніцкі, 124; Кніежа, 92; Тамаш, 117—118; MESz, 1, 304—305. Врабіе (RomSl., XIV, 136) непераканаўча бачыць крыніцу ўсх.-слав. выклічніка ў рум. *bîr, bîrr* (супраць гэтага геаграфія слова). Да праблематыкі пытання параўн. яшчэ Клепікава, Паст. терм., 54—59; Губшмід, Этимология, 1967, 245—246.

**Біруза́**. Рус. *бирюза́,* укр. *бірюза́.* Лічыцца запазычаннем з тур. мовы (тур. *piruzä, fīrūza* <перс. *pīrōze;* Локач, 49; Дзмітрыеў, Тюрк. эл., 38; Фасмер, 1, 167—168).

**Бірук** ’воўк’ (Інстр. II, Нас.). Рус. *бирю́к.* Запазычанне з цюрк.моў (параўн. тат. *büri,* ст.-цюрк. *böri,* казах. *börü* і г. д.); першакрыніца — іран. мовы. Праабражэнскі, 1, 26; Фасмер, 1, 168; Шанскі, 1, Б, 123 (там і іншая літ-ра і некаторыя новыя меркаванні). Пераносна ’сугней, нелюдзім’ (Касп.), ’злодзей’ (Нас.).

**Біру́лька.** Рус. *бирю́лька,* укр. *бирю́лька.* У бел. мове *біру́лька* азначае розныя драўляныя вырабы (напр., ’невялікая палачка, якая ўжывалася замест гузіка’; ’драўляная частка ў плузе’ і г. д.). Слова цёмнага паходжання. Гараеў (17) лічыў, што яно ўтворана ад дзеяслова *браць* (таксама Шанскі, 1, Б, 123—124). Фасмер (1, 168) сумняваецца. Вельмі цікавую версію аб запазычанні з цюрк. моў вылучыла Мяркулава, Этимология, 1971, 185—190.

**Біру́ля** ’костка з абрэзанага свінога кумпяка’ (Сцяшк. МГ). Таго ж паходжання, што і *біру́лька* (гл.). Параўн. рус. *бирю́лька* ’частка нагі’. Матывацыю гл. у Мяркулавай, Этимология, 1971, 185—190.

**Біс,** *вызываць на біс.* Рус. *бис,* укр. *біс.* Запазычанне з франц. *bis* (<лац. *bis* ’двойчы’). Фогарашы, SSlav., 3, 413—416. Гл. яшчэ Трубачоў, Дополн., 1, 168; Шанскі, 1, Б, 124.

**Бі́сер.** Рус. *би́сер,* укр. *бі́сер, би́сер.* Ва ўсх.-слав. мовах — запазычанне з ц.-слав. *бисьръ,* якое ўзята з цюрк. *büsrä*<

<араб. *busra* 'фальшывы жэмчуг'. Бернекер, 58; Праабражэнскі, 1, 26; Локач, 30; Слаўскі, 1, 34.

**Біскві'т.** Рус. *бисквит,* **укр.** *бісквіт.* Запазычанне з франц. *biscuit* (або ням. *Bisquit*<франц.), якое з лац. *bis coctus (bis coctum)* 'двойчы печанае'. Фасмер, 1, 168; Шанскі, 1, Б, 124—125.

**Бі'скуп** 'каталіцкі епіскап' (Нас., Шат., БРС, Гарэц.). Ст.-бел. *бискуп* (Булыка, Запазыч.). Рус. *бúскуп,* укр. *бúскуп, біскуп.* З польск. *biskup* 'тс' (а гэта з ст.-в.-ням. *biscof,* можа, праз чэш. мову, гл. Шалудзька, Нім., 22; Брукнер, 27; Слаўскі, 1, 34 і інш.; першакрыніца — грэч. ἐπίσκοπος). Шалудзька, Нім., там жа; Кюнэ, Poln., 44; Рыхардт, Poln., 38. Параўн. яшчэ Бернекер, 58; Фасмер, 1, 168.

**Бісю'ркі** 'бісер' (Нас., Яруш.). Запазычанне з польск. *bisiórka, bisiorka* 'тс' (здаецца, таго ж паходжання, што і *бісер,* гл.; Варш. сл., 1, 157—158). Параўн. яшчэ Слаўскі, 1, 34.

**Біто'к** 'бітае мяса'. Відаць (як і ўкр. *биток*), запазычанне з рус. *биток* 'тс' (параўн. польск. *bitki* 'сечаныя катлеты, зразы'). Да рус. слова параўн. Шанскі, 1, Б, 125. Словаўтваральная мадэль гэтага слова агульнаславянская (параўн. бел. словы гэтага тыпу, але з іншым значэннем), але як кулінарны тэрмін яно пашырылася праз рускую мову.

**Біто'н**. Рус. *бидóн,* укр. *бідóн.* Запазычанне з франц. *bidon* 'тс' (а гэта з сканд. *bida* 'ваза' або грэч. **bithôn* 'бочка'; Шанскі, 1, Б, 116; БЕР, 1, 46, прыводзіць і візант. πίθον як магчымую крыніцу франц. слова).

**Біфштэ'кс.** Рус. *бифштéкс,* укр. *біфштéкс.* Зыходным з'яўляецца англ. *beefsteaks* (мн.) ад *beefsteak* 'ялавічына'. Падрабязна гл. Шанскі, 1, Б, 126—127. Бел. і ўкр. словы, відавочна, запазычаны праз рус. мову.

**Біць.** Рус. *бить,* укр. *бúти,* ст.-рус., ст.-слав. **бити,** польск. *bić,* чэш. *bíti,* балг. *бúя,* серб.-харв. *бûти* і г. д. Прасл. *biti biįǫ.* Корань дыфтангічны **bheį-.* Параўн. грэч. φιτρός 'ствол дрэва, кол, калода', ст.-в.-ням. *bīhal* 'сякера' (ням. *Beil*), ірл. *benim (*bhināmi)* 'рэжу, б'ю і г. д.' Бернекер, 117; Траўтман, 33; Фасмер, 1, 169; Слаўскі, 1, 31. Махэк$_2$ (54—55) рэканструюе *biti bьjǫ.* Ад слав. *biti* ўтворана шмат розных вытворных: *bidlo* (параўн. бел. *біла* 'спінка ложка; язык у звоне і г. д.', *біліцы* 'набіліцы'), *bi-čь* 'біч', *bi-tva* 'бітва'; асабліва многа форм ад **bi-t- (бітá; бітка* 'падбітае яйцо; снапы, раскладзеныя на таку для малацьбы; ахапак сухога лёну; вялікая суконная

хустка' <'бітая хустка'; *бігу́к* 'коўдра, палавік'; *біту́н* 'задзірысты чалавек' і г. д.).

**Бі'цэпс.** Рус. *бицепс,* укр. *біцепс.* Вучонае запазычанне з лац. мовы для абазначэння двухгаловай мышцы (лац. *biceps* 'двухгаловы'). Параўн. Шанскі, 1, Б, 127.

**Біцю'г.** Паводле Шанскага, 1, Б, 126, запазычанне (як і ўкр. *битю́г*) з рус. *битю́г* 'тс' (якое тлумачыцца як «конь з ракі *Битю́г*» у Варонежскай вобласці, дзе быццам была выведзена гэта парода, гл. Праабражэнскі, 1, 27; Фасмер, 1, 169; Шанскі, 1, Б, 126; іншая версія — запазычанне рускага *битю́г* з цюрк. моў, літ-ру гл. Фасмер, там жа; Трубачоў, Дополн., 1, 169; Шанскі, там жа). Некалькі іначай аб цюрк. паходжанні слова Оцін, Этимология, 1970, 230—241.

**Біч.** Рус. *бич,* укр. *бич,* польск. *bicz,* чэш. *bič,* ст.-слав. **бичь,** балг. *бич,* серб.-харв. *би̏ч* і г. д. Прасл. *bičь* 'тс'. Утварэнне суфіксам *-č- ад дзеяслова *biti* 'біць'. Бернекер, 56; Фасмер, 1, 169; Слаўскі, 1, 31; Махэк₂, 53. Ад *біч* вытворныя: *бічу́г, бічу́к* 'біч, пуга' (Бяльк.), *бічу́к* 'частка цэпа, якой б'юць па снапах' (Нас.).

**Бічаві'к,** *бічавіна.* Гл. *біча́ўнік.*

**Біча'й** 'дзірка'. Гл. *біча́йка*₁.

**Біча'й** 'край'. Гл. *біча́йка*₂.

**Біча'йка**₁ 'накрыўка дзежкі' (Юрч.), 'абячайка, лубок у рэшаце' (Нас., Касп., Бяльк.), 'вобад у бубне' (Бяльк.). Таго ж паходжання, што і *абе́чак* (гл.). Фанетыка слова палеская (*ě>і, параўн. Краўчук, УМШ, 1960, 6, 61—62). Сюды адносіцца і *біча́й* 'круглая дзірка ў верхнім ручным камені жорнаў' (Касп.).

**Біча'йка**₂ 'вузкая незасеяная палоска каля палявой дарогі', *біча́й* 'бераг лужка, аборка' (Юрч.). Метафарычнае ўжыванне слова *біча́йка*₁ (гл.), якое ў гаворках значыць і 'вобад' (>'край').

**Біча'ўнік,** *бічо́ўнік* 'луг наўсцяж ракі' (Яшкін), параўн. *бічаўнік* 'бераг, берагавая паласа; паласа адчужэння паабапал дарогі, шашы, шляху' (Яшкін), *бічаві́к* 'паласа адчужэння паабапал дарогі' (Юрч.), *бічаві́на, бічава́я* 'тс', параўн. яшчэ *біча́й* 'бераг лужка, аборка', *біча́йка* 'вузкая незасеяная палоска каля палявой дарогі' (Юрч.). Усё да *абеча́йка* (гл.) і яе форм (гл. пад *біча́йка,* там і літ-ра). Такія значэнні, як 'луг наўсцяж ракі',— яўна другасныя (праз 'паласа...паабапал...'). Параўн. яшчэ *бычовнык.*

**Бічо′ўка** 'вяроўка' (Бяльк.), 'частка цэпа, якой б'юць па снапах' (Касп.), *бічэйка* 'тонкая вяровачка' (Бяльк., Нас.). Рус. *бечёвка, бечевá, бичевá, бичёвка* і г. д., укр. *бечівка.* Няяснае слова. Агляд версій гл. Фасмер, 1, 162; Шанскі, 1, Б, 112.

**Бішко′кт** 'бісквіты' (Нас.). Запазычанне з польск. *biszkokt* 'тс' (<лац., гл. Брукнер, 28).

**Біягра′фія.** Рус. *биогрáфия,* укр. *біогрáфія.* Паводле Фасмера, 1, 166, запазычанне з лац. *biographia* праз польск. *biografia.* Супраць гэтага Шанскі, 1, Б, 121, які хоча бачыць тут (разам з Гальдзі, гл. у Шанскага, там жа) запазычанне з франц. *biographie.* Першакрыніцай з'яўляецца грэч. βίος 'жыццё' і γράφω 'пішу'.

**Благі′сночка** «ритуальный хлебец, величиной с яйцо, который пекли на благовещенье из 'первого' теста, святили и сохраняли в течение года» (Клім.). З **благовістн-очка* (да ўкр. *благовісний, благовіст).*

**Благаслаўля′ць.** Рус. *благословлять,* укр. *благословляти* і г. д. Усё запазычана з ст.-слав. **благословити,** якое з'яўляецца калькай з грэч. εὐλογεῖν. Фасмер, 1, 171; Шанскі, 1, Б, 133; Брукнер, 31; параўн. яшчэ Махэк$_2$, 55. У народнай мове розныя скарачэнні (параўн. *баславіць, бласлаўляць*). Але Машынскі (Pierw., 85, 316) бачыць у праславянскім (!) **bolgosloviti* самастойнае ўтварэнне (не кальку з грэч.!) з іранскімі сувязямі. Вельмі няпэўна.

**Блага′ць** 'прасіць, угаворваць' (ст.-бел *благати*). Укр. *благáти,* польск. *błagać* (польск. слова з чэш. мовы; Слаўскі, 1, 35). Лічыцца запазычаннем з польск. *błagać* 'тс'. Параўн. Машынскі, Pierw., 85; Булыка, Запазыч. Паводле іншай версіі, усх.-слав. словы — гэта новаўтварэнне, якое ўзнікла на базе запазычання з ст.-слав. **благо, блажити.** Так Рудніцкі, 140 (услед за Агіенкам).

**Благі′** 'дрэнны, худы'. Рус. *благóй* 'дрэнны', укр. *благий* 'дрэнны, стары, бедны, слабы', польск. *błahy* 'малы, нязначны' (запазычанае з укр.; Слаўскі, 1 ,35). Ёсць некалькі этымалогій: 1) усх.-слав. *благъ* 'дрэнны' — запазычанне з ст.-слав. (ц.-слав.) **благъ** 'добры'. Значэнне 'дрэнны, бедны і г. д.' развілося як вынік табуістычнага словаўжывання (Праабражэнскі, 1, 27—28; Фасмер, RS, 5, 125; Слаўскі, там жа, Зяленін, Табу, 2, 155); 2) усх.-слав. *благъ* 'дрэнны' да прасл. *blagъ* 'дрэнны, слабы', якое быццам роднаснае з лац. *flaccus* 'слабенькі', грэч. βλάξ 'вялы, расслаблены' (трэба адрозні-

ваць прасл. *bolgъ* 'добры' і *blagъ* 'дрэнны'). Так Бернекер, 58; Міклашыч, 13 і інш. Першая версія, здаецца, больш абгрунтаваная (паколькі значэнне 'дрэнны' можа быць секундарным). Слаўскі, 1, 36; Фасмер, 1, 171; Рудніцкі, 140. Да *благі* адносіцца і дзеяслоў *блажэ́ць* 'худзець'. Фрэнкель (45—46) лічыць, што для *благі* 'дрэнны' дакладная адпаведнасць—літ. *blagnas.*

**Блажэ́нны** (БРС). Як і рус. *блаже́нный*, запазычанне з ц.-слав. *(блаженъ)*. Бел. слова запазычана, магчыма, праз рус. Параўн. Фасмер, 1, 171; Шанскі, 1, Б, 134.

**Бла́зан.** Рус. дыял. *бла́зень* 'прастафіля; дурнаваты; жартаўнік', укр. *бла́зень* 'дурань', польск. *błazen,* чэш. *blázen* 'вар'ят; дурны і г. д.' Сюды ж дзеяслоў **blazniti* 'абдурыць, дурыць, вар'яцець'. Ст.-рус., ст.-слав. **блазнъ** 'памылка'. Усё да праслав. *blazniti* 'памыляцца; дурыць', *blaznъ* 'памылка, спакушэнне і г. д.' З першапачатковага абстрактнага значэння развілося потым больш канкрэтнае 'дурань, вар'ят, звар'яцелы' (параўн. развіццё значэння ў *blędь*: ст.-слав. яшчэ 'памылка і да т. п.', а ва ўсх.-слав. мовах і 'meretrix'). Этымалогія прасл. *blazniti, blaznъ* не вельмі ясная. Можа, да лат. *blāzt* 'мігаць', *blāzma* 'міганне, бліск, водбліск'. Гл. Фасмер, 1, 171—172 (там і агляд іншых версій); Брукнер, 30; Бернекер, 59; Слаўскі, 1, 36; Махэк$_2$, 55; Рудніцкі, 142. Ст.-бел. *блазен, блазэн* Булыка (Запазыч.) лічыць паланізмам. Сюды далей адносяцца: *бла́зан* 'свавольнік' (Сцяшк. МГ), *бла́зен* 'малакасос' (Нас., Касп.), *бла́зян* 'падлетак' (Сцяшк. МГ), 'малакасос' (Шат.), *бла́зні* 'малеча' (Бяльк.), *блазню́к* 'малалетак' (Бяльк.), *блазно́та* 'малады, малы' (Бяльк.), 'дзетвара' (Нас., Касп.).

**Блака́да.** Рус. *блока́да,* укр. *блока́да.* Запазычанне з ням. *Blockade* (польская крыніца не пераконвае), а гэта з раманскіх моў (параўн. ісп. *blocquada,* італ. *bloccata*). Фасмер, 1, 176; Шанскі, 1, Б, 142—143. Параўн. таксама застарэлае ням. *Blocquada* (>венг. *blokád*). Да гісторыі слова ў еўр. мовах гл. яшчэ MESz, 1, 313. Да ням. слова гл. Клюге, 85.

**Блакірава́ць** (БРС). Рус. *блоки́ровать,* укр. *блокува́ти* (апошняе, відавочна, з польск. *blokować;* суф. *-ирув-ати* ва ўкр. мове няма). Запазычанне з ням. *blockieren* (а гэта, можа, з франц. *bloquer*). Фасмер, 1, 176; Шанскі, 1, Б, 142. Да гісторыі ням. слова гл. Клюге, 85.

**Блакі́тніца** 'птушка Parus coeruleus' (БРС). Мабыць, калька з рус. *лазо́ревка* 'птушка блакітніца' (з роду сініц), якое звязана з рус. *лазу́рь, лазо́ревый* 'блакітны'.

**Блакі'тны.** Ст.-бел. *блакитный, блекитный, бленкитный* і г. д. (з XVI ст., Булыка, Запазыч). Укр. *блакúтний* (з XVI ст.). Запазычанне з польск. *błękitny* 'тс' (а гэта з чэш. *blankytný;* першакрыніцай лічаць с.-в.-ням. *blancheit* 'белы, сталёваблїскучы колер'; Слаўскі, 1, 36; Зарэмба, JP, XXX, 21—22; дакладней, першакрыніцай з'яўляецца с.-лац. *blanketus, blanchetus, blanquetus,* гл. Гебаўэр, Sl. stč., 1, 60; Махэк$_2$, 55, гл. далей Бернекер, 58; Рыхардт, Poln., 34; Кюнэ, Poln., 45; Шалудзька, Нім., 22; Рудніцкі, 142—143; Брукнер, 31).

**Блакно'т.** Рус. *блокнóт,* укр. *блокнóт.* Запазычанне з франц. мовы (франц. *bloc-notes* <англ.). Гл. Шанскі, 1, Б, 143.

**Блакуня'цца** 'бадзяцца'. Гл. *блукáць.*

**Бландзі'н,** *бландзінка* (БРС). Рус. *блондúн, блондúнка,* укр. *блондúн, -ка.* Паводле Фасмера, 1, 176, першаснай формай быў назоўнік ж. р. (тыпу *бландзінка*), які запазычаны з ням. *Blondine* (а гэта з франц.) або франц. *blondine* 'бландзінка'. Назоўнік м. р. з франц. *blondin* або ж другаснае ўтварэнне ад *бландзінка.* Фасмер, 1, 176; Шанскі, 1, Б, 143. У аснове ўсяго ляжыць франц. *blond(e)* 'бялявы, -ая'. Да гісторыі гэтага слова і магчымай сувязі з герм. мовамі гл. Клюге, 86.

**Бланк.** Рус. *бланк,* укр. *бланк.* Запазычанне з франц. *blanc* або ням. *Blanko.* Франц. слова <*blanc* 'белы' (>'чысты, незапоўнены'). Гл. Фасмер, 1, 172; Праабражэнскі, 1, 28; Шанскі, 1, Б, 135—136.

**Бла'нка** 'жэрдка, якая прымацоўваецца ўпоперак паміж кроквамі' (палес., Тарнацкі, Studia). Бясспрэчна, дыялектная форма (азванчэнне *п*>*б* перад санорным) да *плáнка* (гл.), якое запазычана з ням. *Planke.*

**Блат,** *па блáту* (БРС), *блатны́.* Рус. *блат, блатнóй,* укр. *блатнúй.* Слова, якое пранікла са зладзейскага арго. Мабыць, з польск. *blat* 'той, хто захоўвае па знаёмству і да т. п.' <яўр.-ням. *blat.* Гл. Фасмер, 1, 172; Хрысціані, AfslPh, 32, 265; Трахтэнберг, Блат. муз., 182 і далей; Шанскі, 1, Б, 136. Некаторыя іншыя версіі гл. Фасмер, там жа. Параўн. яшчэ ўкр. дыял. *блят* (аб гэтым Рудніцкі, 153). Гл. таксама *блатаваць.*

**Блатаваць** 'валацужнічаць', *блатны* 'валацужны' (Яўс.). Бясспрэчна, звязана з *блат* (гл.). Развіццё значэння: 'блатны, зладзейскі' — 'зладзейскі, валацужны' — 'валацужны'; 'валацужнічаць'. Параўн. яшчэ *блот.*

**Блаха′.** Гл. *блыха́.*

**Блашчынец,** *блашчычнік* 'расліна звычайны лянок, Linaria vulgaris Mill.' (Кіс.). Бясспрэчна, да *блашчы́ца* 'клоп; блыха' (гл.). Магчыма, як сродак супраць блох або клапоў (расліна досыць ядавітая, гл. Нейштадт, Определитель, 492). Параўн. яе назвы ў іншых мовах, напр., славац. *svinský chreň* (для абмывання парасят); чэш. дыял. *morová zelina* (гл. Махэк, Jména rostl., 211).

**Блашчы′ца**$_1$ 'клоп' (Жд., Янк. БП, Сцяц., Сцяшк. МГ, Янк. І, Інстр. ІІ, Выг. дыс., Арх. Бяльк., слонім.). Параўн. яшчэ *блашы́ца* 'клоп' (Сцяшк.) і *блашчы́ца* 'блыха' (Янк. ІІ). Рус. дыял. *блощи́ца* 'клоп', укр. *блощи́ця* 'клоп; блыха'. Ёсць два тлумачэнні: 1) выходнае **bloščica,* слова, утворанае ад асновы **blosk-,* роднаснай з балт. **blaska* 'плоскі' (параўн. літ. *blãkė* 'клоп', лат. *blakts* 'тс'). Так Бернекер, 62; 2) выходнае **ploščica* ад **plosk-* 'плоскі' (параўн. ст.-рус. *площица* 'вош', рус. дыял. *площи́ца* 'тс', польск. *płoszczyca* 'клоп'), а пачатковае *б-* з'явілася пад уплывам слова **blъcha* 'блыха'. Так Брандт, РФВ, 21, 209; Развадоўскі, RS, 2, 108. Гл. яшчэ Брукнер, 419; Фасмер, 1, 177; Рудніцкі, 149 (услед за Аганоўскім), лічыць, што *bloščica* — утварэнне суфіксам *-ica* ад *blъšьka* (памяншальнае ад **blъcha*: *bloščica*<**blъch-ьk-ica*).

**Блашчы′ца**$_2$ 'блыха' (Янк. ІІ). Відавочна, семантычная кантамінацыя першаснага *блашчы́ца* 'клоп' і *блыха́ (блаха́?).* Параўн. і *блашы́ца* 'клоп'. Ва ўкр. мове *блощи́ця* 'клоп', але і 'блыха'. Не выключаецца (паколькі этымалогія слова **bloščica* 'клоп' няясная), што мае рацыю Рудніцкі, 149, які думаў пра паходжанне **bloščica* 'клоп' <**blošьčica* (<*blъš-ьka*+суф.*-ica*; усё ад **blъcha*), г. зн., што першасным значэннем было 'блыха'?

**Блашы′ца** 'клоп' (Сцяшк). Магчыма, фанетычнае ўпрашчэнне слова *блашчы́ца* 'клоп' (гл.). Але хутчэй за ўсё кантамінацыя з словам *блыха́* (дыял. *блаха́*?).

**Блегуза′ць,** *бляву́згаць* 'плявузгаць'. Гл. *пляву́згаць.*

**Бле′дны** (БРС, Касп.). Параўн. *бляды́* (там і пра паходжанне). Укр. дыял. *блі́дний,* рус. *блё́дный* (дыял. *бледо́й*), балг. *блё́ден* (але і *блед, бляд,* гл. БЕР, 1, 54—55). Прасл. форма хутчэй за ўсё была *blědъ.* Калі існавала і паралельнае прасл. *blědьnъ,* то гэта была, відаць, прасл. дыялектная інавацыя. Магчыма, сюды і *блё́ды* 'бледны' (Нас.).

**Блеката′ць** 'бляяць' (Нас.), рус. *блекота́ть,* укр. *блекота́ти,* польск. *blekotać,* чэш. *blekotati,* славен. *bleketáti.* Гукапе-

раймальнае ўтварэнне. Падрабязней гл. Фасмер, 1, 173; Шанскі, 1, Б, 137; Махэк₂, 56.

**Блех** ’луг ля рэчкі, дзе беляць палотны’ (Нас.); ’адбельваючы парашок’ (Влад.); ’хлорка’ (Інстр. I), *блехаваць* ’хлараваць’ (Інстр. I); укр. *бліх, бліхувáти* (ст.-укр. *блéхи*, XVII ст.). Запазычанне з польск. мовы: польск. *blech, blich* ’месца, дзе беляць воск або палатно; бяленне’ (<ням. *Bleiche, bleichen;* параўн. *bleich* ’бледны, белы, светлы’; Варш. сл., 1, 164; Брукнер, 28); Рыхардт, Poln., 35; Кюнэ, Poln., 45; Шалудзька, Нім., 22. Рудніцкі, 148 (услед за Р. Смаль-Стоцкім), прымае непасрэднае запазычанне з ням. мовы. Сюды таксама *блех* ’роўнае месца’ (Касп.).

**Бле́ха** ’лямеш у плузе’ (Тарнацкі, Studia). Запазычанне з польск. дыял. *blecha (blacha)* ’тс’ (<ням. *Blech*). Тарнацкі, там жа. Адносна спрэчных момантаў гл. *бля́ха.* Параўн. яшчэ *блешка ’бляха’* (Сцяшк. МГ).

**Блехаваць** ’хлараваць’ (Інстр. I), укр. *бліхувáти* ’адбельваць (лён, палатно)’. Як і *блех* (гл.), запазычанне з польск. *blechować, blichować* (ням. *bleichen*). Шалудзька, Нім., 22; Рыхардт, Poln., 35. Наўрад ці ўсх.-слав. утварэнне ад *блех* (гл.). Няпэўна Рудніцкі, 148, які бачыць тут непасрэднае запазычанне з ням. мовы.

**Бле́шня** ’блясна’ (БРС). Рус. дыял. *блéсня́, блешня́, блёшка,* укр. *блéшня.* Фанетычнай трансфармацыяй з **блéсня*: група *сн’* нярэдка пераходзіць у *шн’* (параўн. *апóшні, палéшня*). Параўн. Шанскі, 1, Б, 138. Гл. *блясна́.*

**Блёкат** ’расліна блёкат чорны, Hyoscyamus niger L.’ (Кіс., Шат., Касп., Нас., Бяльк., Шн., Бейл., Сцяшк. МГ, БРС, Янк. БП, Гарэц.), *блёкот*, ’тс’ (Маш., 135), *блёкат* ’высокі бур’ян’ (Мядзв.); таксама ’дуднік лясны, Angelica silvestris L.’ (Кіс.). Укр. *блéкіт, блéкот, блекотá* ’тс’, таксама ’Aethusa; Cicuta’. Рус. *блёкот, блекотá,* польск. *blekot,* чэш. дыял. *blekot* ’Aethusa’, славац. *bl’akot.* Паводле Махэка (Махэк, Jména rostl., 160; Махэк₂, 56), звязана з гукапераймальным дзеясловам тыпу *blekotati* (расліна вельмі ядавітая і выклікае галюцынацыі з бяссэнсавым балбатаннем). Іншая версія (Праабражэнскі, 1, 28—29; Рудніцкі, 144): да і.-е. **bhleik-* і да т. п. ’ззяць’.

**Блёхаць** ’пляскаць, плюхаць’ (Янк. II), *блёхаты* ’тс’ (Клім.). Параўн. ст.-польск. *blochać* ’выкідваць, выліваць’. Можна думаць, што гэта гукапераймальныя ўтварэнні. Па-

раўн. і *плёхаць*. Таксама гукапераймальным з'яўляецца *блёўтаць* 'плёхаць' (Шат., Янк. III).

**Блізару'кі** (БРС, Сцяшк. МГ), рус. *близору́кий*. З *близозоръкъ, близозорокий>близорокий*. Гэта апошняе падверглася ўплыву слова *рука́*. Падрабязней Фасмер, 1, 175; Шанскі, 1, Б, 140.

**Блі'зкі**. Рус. *бли́зкий*, укр. *бли́зький*, польск. *bliski*, чэш. *blízký*, ст.-слав. **близъкъ**, балг. *бли́зък*, серб.-харв. *бли̏зак* і г. д. Праслав. *blizъkъ* 'тс'. Слав. аснова *bliz-* лічыцца роднаснай лат. *blaîzît* 'давіць, сціскаць, жаць', лац. *flīgere* 'біць' і г. д. Як семантычныя паралелі параўн. грэч. ἄγχι 'блізка' (ἄγχω 'завязваю'), франц. *près*, італ. *presso* 'блізка, ля' (лац. *pressus* 'сціснуты'). Бернекер, 61; Слаўскі, 1, 34; Праабражэнскі, 1, 29—30; Фасмер, 1, 174. Неверагодна Махэк$_2$, 57 (да грэч. πλησίος, πλᾱτίος 'блізкі').

**Блізна'** 'блюзна' (Бяльк., Шат., Сцяц., Сцяшк. МГ), *блюзна́* (Нас.), *блюзня́* (Бяльк.). Рус. *близна́* 'шрам, рубец, рана, разрыў ніткі', *блюзна́*, укр. *близна́* 'рана, рубец', балг. *близна́*, серб.-харв. *бли̏зна* 'брак у тканіне', в.-луж. *błuzna* 'рубец', н.-луж. *bluzna*. Лічыцца ўтвораным ад таго ж кораня, што ў слав. *bliz-* 'блізкі' (гл.). Фасмер, 1, 175; Бернекер, 61; Праабражэнскі, 1, 29, параўн. і Слаўскі, 1, 34—35.

**Блік** (БРС). Рус. *блик*, укр. *блік*. Новае запазычанне (у рус. мове з XVIII ст.) з ням. мовы (ням. *Blick*). Гл. Шанскі, 1, Б, 140.

**Блін$_1$** 'блін'. Рус. *блин*, укр. *блине́ць*. Слова ў гэтай форме пераважна ўсх.-слав. Зыходзячы з такіх форм, як ст.-рус. *млинъ*, укр. *млине́ць*, балг. *млин*, серб.-харв. *мли̏нац*, в.-луж. *blinc//mlinc*, н.-луж. *młync* і да т. п., звычайна лічаць, што першапачаткова было *mlinъ* (да прасл. *melti* 'малоць'), якое дысімілявалася *(m-n>b-n)*. Так Сольмсен, KZ, 37, 589 і наст.; Міклашыч, 186; Праабражэнскі, 1, 30; Фасмер, 1, 175; Рудніцкі, 146. Ільінскі (РФВ, 61, 239 і наст.) разглядае форму *блін* асобна (яго рэканструкцыя: **бълинъ*, якое быццам роднаснае ням. *Beule* 'шышка'), але гэта не пераконвае. Не пераконваюць таксама версіі пра запазычанне (аб гэтым Фасмер, 1, 175).

**Блін$_2$** 'млын' (Сцяц.). Мабыць, дысіміляцыяй *(м-н>б-н)* з *млін* (гл. *млын*).

**Блінда'ж** (БРС). Рус. *блинда́ж*, укр. *бліндáж*. Запазычанне з франц. *blindage* (<*blinder* 'рабіць незаметным'). Фасмер, 1, 175; Праабражэнскі, 1, 30; Шанскі, 1, Б, 141.

**Бліндзя** 'вярба, іва, Salix caprea' (Маш., Урбуціс, Baltistica, V (1), 1969, 50). Польск. дыял. *blindzia* 'тс'. Запазычанне з літ. *bliñdė, blindìs* і да т. п. (Варш. сл., 1, 166; Урбуціс, там жа). Да літ. слова гл. Фрэнкель, 1, 49.

**Бліські́** 'мочкі ў вушах' (Сцяшк. МГ). Здаецца, ад *блін₁*: *блін* 'блін'>'штосьці круглае'>'мочка'. Параўн. бел. *блінчык* 'юшка' (Касп.), рус. *блин, блинóк* 'тс'. Дакладней, бел. *блінькі* ўтворана ад памяншальнага **блінóк.*

**Блі́скаць** (БРС, Нас., Шат., Касп., Сцяшк. МГ), *бліск* (Касп.), *блішчáць* (Шат., Касп.), *блішчэ́ць* (Бяльк., Нас., Касп.). Сюды далей *бліскавіца* 'маланка' (Шат., Сцяшк. МГ), *бліскавіца* (Бяльк., Касп., Нас.), *бліскаўка* (БРС), *блыскавіца* (Сцяшк. МГ). Укр. *блúскати, блúскавка* 'маланка', *блестíти, блищáти,* рус. *блестéть, блистáть, блúскать* і г. д. Прасл. *bliskati, blistati, bliskavica,*blьščati* і г. д. Шмат вытворных і ў іншых слав. мовах. Падрабязны агляд гл. Трубачоў, Эт. сл., 2, 116—118, 130—132. Кюнэ (Poln., 45) бел. *бліскавíца, бліскаць* і да т. п. лічыць паланізмамі. Няпэўна. Да фанетыкі параўн. яшчэ Юркоўскі, JP, XLI (2), 1961, 118.

**Бло́га** 'аблога, поле, якое не засяваецца год, два і болей' (Яшкін). Дэкампазіцыяй марфалагічных элементаў з *аблóга* (гл.). Слова *аблога* (**ob(ъ)-loga,* прэфікс і аснова *log-*: *leg-* 'ляжаць') трансфармавалася ў выніку этымалагічнай непразрыстасці і змены марфалагічных меж (*аблóга→а-блóга> >блóга).*

**Бло́нне** 'адкрытае месца, поле' (Нас.), 'роўная нізіна, заліўны луг' (Яшкін). Запазычанне з польск. *błonie* 'луг, паша, выган'. Параўн. *балóна₂* (там і літ-ра).

**Блонь** 'брушная плява' (Нас.). Рус. *блона* 'абалонка, паслед'. Параўн. ст.-бел. *блонка* 'абалонка, плеўка'. Запазычанне з польск. *błona* 'абалонка, плява, плеўка'. Фасмер, 1, 176. Гл. яшчэ *балóнкі* (там і іншая літ-ра).

**Блот** 'валацуга' (Яўс.). Параўн. *блатаваць* 'валацужнічаць', *блатны* 'валацужны' (Яўс.). *Блот* — гіперкарэктнае ўтварэнне ад *блатаваць* ці *блатны.* Пад націскам аднаўляецца нэтымалагічнае *о* (параўн. *знайсці — знойдзем;* параўн. яшчэ: *барсáць<борсáть, *бърс-,* але з новым націскам *бэ́рсаць,* дзе неэтымалагічнае *э).*

**Бло́тнік** 'металічны абруч над колам веласіпеда ад гразі' (Сцяц.). З польск. *błotnik* 'тс' (да *błoto* 'гразь').

**Бло́ціць** 'травіць пасевы, сенажаці' (Янк. Мат.). Здаецца,

запазычанне з польск. *błocić* 'пэцкаць' (ад *błoto* 'балота, багна'). Параўн. кантэкст: «*Ня столькі зьелі тае канюшыны, кольні зблоцілі'*».

**Блудзі'ць.** Рус. *блудить,* укр. *блудити,* польск. *błądzić* 'блукаць, блудзіць; грашыць, памыляцца', чэш. *blouditi,* ст.-слав. **блѫдити**, балг. *блъдя,* серб.-харв. *блу́дити* і г. д. Прасл. *blǫditi* (ітэратыўная форма да *blęsti blędǫ* 'памыляцца': ст.-слав. **блѧсти блѧдѫ**, ст.-рус. *блясти бляду* і г. д. І.-е. **bhlendh-*: **bhlondh-* 'цямнець; вечарэць; змяркацца; бянтэжыць, памыляцца'. Параўн. літ. *blandùs* 'хмуры', *blañdas* 'хмурасць; пацямненне розуму'; *blandýtis* 'хмурыцца; блукаць', гоц. *blandan* 'перашкаджаць, мяшаць', ст.-в.-ням. *blentan* 'асляпляць' і г. д. Слаўскі, 1, 36; Траўтман, 34; Буга, РФВ, 70, 100; Бернекер, 61; Махэк$_2$, 56—57; Фасмер, 1, 177. Параўн. яшчэ *блудзя́га* 'хітрун; уцякач', *блу́дны* 'бадзяжны (пра скаціну)' (Нас.).

**Блу'зка.** Гл. *блюзка.*

**Блу'зніць** 'трызніць'. Гл. *блюзніць.*

**Блука'ць.** Рус. *блука́ть,* укр. *блука́ти,* польск. *błąkać się,* чэш. *blúkat (se)* і г. д. Славянскае новаўтварэнне да *blǫdili* (гл. *блудзіць*). Адносіны *blǫditi*: *blǫkati* такія ж, як, напр., у польск. *brudzić* : *brukać* 'пэцкаць'. Іншая версія: дэкампазіцыя з слав. **ob-lǫkati* (да **lǫk-* 'дуга, крывізна'). Параўноўваюць таксама з лат. *blañkstît* 'пайсці ўбок', *blañkstîtiês* 'бадзяцца, бяздзельнічаць'. Фасмер, 1, 178; Бернекер, 62; Буга, РФВ, 70, 101; Слаўскі, 1, 36; Рудніцкі, 150; Махэк$_2$, 58. Параўн. яшчэ *блука́цца* 'блукаць, бадзяцца' (Бяльк., Нас., Касп.), *блукня́цца* (Нас.), *блакуня́цца* (Касп.).

**Блу'тацца** 'бадзяцца' (Жд.), *блута́цца* 'блытацца, заблытвацца' (Бяльк., Влад.), *блутаніна* (Касп.). У рус. гаворках, здаецца, няма (гл. СРНГ), таксама і ва ўкр. мове. Гэтае слова можна лічыць бел. новаўтварэннем з дзеяслова *плутацца, плутаць*, вядомага ва ўсх.-слав. мовах. *Блу́тацца, блу́таць* узнікла экспрэсіўным азванчэннем *п*>*б* (перад *л*). Але не выключаецца і ўплыў (кантамінацыя) дзеяслова *блудзіць, блука́ць*. На аснове *блу́тацца, блу́таць* далей утварыўся дзеяслоў *блытаць, блытацца* (гл.).

**Блу'таць.** Гл. *блу́тацца, блы́таць.*

**Блы'ндаць** 'бадзяцца' (Касп., Арх. ГУ, Янк. І, Сцяшк. МГ, Янк. Мат.), *блы́ндзець* 'тс' (Сцяшк. МГ), *блэ́ндаць* 'тс' (Янк. Мат.), *блы́нда, блэ́нда* 'бадзяга' (Янк. Мат.). Лічыцца запазычаннем з балт. моў. Параўн. лат. *blìndêtiês* 'бадзяц-

ца', *blinda* 'бадзяга, валацуга', літ. *blañdotis, blandýtis* 'бадзяцца'. Падрабязна Урбуціс, Baltistica, V (1), 1969, 50 (там жа літ-ра і ўказанне на некаторыя этымалагічныя цяжкасці). Не выключаецца, што некаторыя формы маглі быць запазычаны з польск. Гл. *блэ́ндаць*.

**Блы'таць.** Сюды адносіцца і *блу́таць* 'тс' (Бяльк., Шат.). Можна меркаваць, што зыходным з'яўляецца *блу́таць*, якое ўзнікла з *плу́таць* азванчэннем *п*>*б* (перад *л*). Адносна чаргавання галосных *у* : *ы* ў экспрэсіўных словах — гэта не рэдкасць. Параўн., напр., у рус. гаворках: *блука́ться, блука́ть*~*блы́ка́ться* 'бадзяцца, валачыцца'.

**Блыха'**, таксама *блаха́* (Сцяшк. МГ). Рус. *блоха́,* укр. *блоха́, блиха́,* ст.-рус. *блъха,* чэш. *blecha,* ст.-чэш. *blcha,* польск. *pchła* (**płcha*<**błcha*), серб.-харв. *бу̏ха,* балг. *бълха́* і г. д. Прасл. *blъcha* <і.-е. **bhlusā*. Параўн. літ. *blusà,* ст.-іран. **brušā* (>афг. *vraža* 'блыха'), грэч. ψύλλα, ψύλλος (**bhsulla* <**bhlusa,* метатэза), лац. *pūlex,* ням. *Floh* (да герм. форм. гл. Клюге, 207—208). Бернекер, 62; Траўтман, 35; Фасмер, 1, 176—177; Махэк$_2$, 56; БЕР, 1, 99; Праабражэнскі, 1, 30.

**Блышы'ць** 'малоць лухту; ілгаць, жартаваць' (Нас.). Рус. дыял. (зах.) *блыши́ть* 'ілгаць, хлусіць'. Да *блыха́, блаха́*. Параўн. рус. *блоши́ть* 'кусаць, кусацца; рабіць прыкрасці', *блоши́ться* 'імкнуцца атрымаць што-небудзь, выслужвацца перад кім-небудзь'.

**Блэнд** 'памылка' (Сцяшк. МГ). Запазычанне з польск. *błąd* (род. *błędu* 'тс'), прасл. *blǫdъ;* падрабязней гл. пад *блудзі́ць*.

**Блэ'ндаць** 'бадзяцца', *блэ́нда* 'валацуга'. Гл. *блы́ндаць* 'тс'. Лічыцца запазычаннем з балт. моў. Урбуціс (Baltistica, V (1), 1969, 50 і V (2), 1969, 160), праўда, указаў адначасова і на няпэўнасць балтыйскай этымалогіі. Сапраўды, мы маем для бел. мовы дакладную адпаведнасць ва ўкр. дыял. *бле́ндати, пле́ндати* 'бадзяцца', якое Рыхардт (Poln., 35) лічыць запазычаннем з польск. *błędzieć, błądzić*.

**Блю'ваць,** таксама *блява́ць*. Ст.-рус. *бльвати,* рус.-ц.-слав. *бльвати, блювати,* рус. *блева́ть,* укр. *блюва́ти,* польск. *bluć,* чэш. *blíti,* балг. *блю́вам,* серб.-харв. *бљу̀вати* і г. д. Прасл. *blьvati bl'u̯ǫ*. І.-е. **bhleu̯-* 'выдаваць гукі пры выцяканні нейкай вадкасці, цячы, раўці'. Параўн. літ. *bliáuti* 'рыкаць, бляяць', грэч. φλύω 'цяку цераз край; б'ю крыніцай', 'балбачу'. Бернекер, 64; Траўтман, 35; Праабражэнскі, 1, 28; Фасмер, 1, 173; Махэк$_2$, 57 (там і меркаванні адносна марфалогіі).

**Блю′да** (БРС, Бяльк.). Ст.-рус. *блюдо* (памянш. *блюдьце*), таксама *блюды* (род. *блюдъве*), рус. *блю́до,* укр. *блю́до,* польск. *bluda,* ст-.слав. **блюдо, блюдъ,** серб.-харв. *бљу̏до, бљу̏да,* параўн. і луж. *blido* 'стол'. Слав. *bl'udo* (<**bi̯udo*). Старое запазычанне з гоц. *biuþs* 'блюда, міска'. Бернекер, 64; Майе, RS, 7, 29; Брукнер, AfslPh, 42, 142; Праабражэнскі, 1, 31; Фасмер, 1, 178. Не пераконваюць спробы даць славянскую этымалогію (напр., Абнорскі, РФВ, 73, 82 і наст.). Параўн. яшчэ *блю́дка* (Шат.), *блю́дачка, блю́дца* (Касп.), *блю́дко, блю́дца* (Сцяшк. МГ), *блю́дзька* (Бяльк.), 'сподак'. Некаторыя з гэтых слоў русізмы (напр., *блю́дка,* так лічыць Шат.).

**Блю′зка** 'блузка' (Сцяш. МГ, Шат., Жд., Сакал., Інстр. I, Тарнацкі, Studia). Укр. *блю́за, блю́зка.* Запазычанне з польск. *bluza, bluzka* (параўн.: *«blúzka... przyszła z Mazowsza...»* — Тарнацкі, Studia, 21), а гэта з франц. *blouse* (Варш. сл., 1, 169). Рудніцкі (151) выводзіць прама з ням. *Bluse,* што вельмі няпэўна. Бел. *блу́зка,* рус. *блу́зка, блу́за* з франц. або ням. (гл. Фасмер, 1, 177; Шанскі, 1, Б, 145).

**Блюзна′** 'блізна'. Гл. *блізна́.*

**Блюзні′ць** 'хлусіць, гаварыць дрэннае, блюзнерыць' (Нас.), *блю́зніць* (Бяльк., БРС); з іншым вакалізмам *блу́зніць* 'трызніць' (Шат.). Ст.-бел. *блюзнити, блузнити* 'ганьбіць', *блюзнерца, блузнерца* 'блюзнер, богазневажальнік' (Булыка, Запазыч.). Паводле Булыкі, там жа, запазычанне з польск. *bluźnić* (аб польскім слове Брукнер, 30; Слаўскі, 1, 34). Гл. яшчэ Рыхардт, Poln., 36; Рудніцкі, 151.

**Блюсць** 'берагчы'. Гл. *будзіць.*

**Бляваць.** Гл. *блюва́ць.*

**Бляды′** 'бледны' (БРС, Шат.), *бляды* 'тс' (Яўс.; без націску). Укр. *блі́дий,* рус. дыял. *бледо́й* (звычайна *бле́дный*), польск. *blady,* чэш. *bledý,* ст.-слав. **блѣдъ,** балг. *бле́ден,* серб.-харв. *бле̑д* і г. д. Прасл. *blědъ* і, магчыма, *blědьnъ.* І.-е. форма, мабыць, **bhləid-os.* Параўн. ст.-англ. *blât* 'бледны,' ням. *blaß* 'тс', ст.-в.-ням. *bleiȝa* 'бледнасць' і г. д. Гл. Бернекер, 60; Траўтман, 34; Праабражэнскі, 1, 31; Фасмер, 1, 173; Слаўскі, 1, 34; Брукнер, 28; Шанскі, 1, Б, 136—137; Рудніцкі, 147; БЕР, 1, 54—55. Гл. яшчэ *бледны.* Параўн. яшчэ ст.-бел. *блядый* (<польск. *blady,* гл. Булыка, Запазыч.). Можна думаць, што *бля́ды* 'бледны' (Нас.) таксама паланізм (націск!).

**Бля′кнуць** (БРС, Нас.), укр. *бля́кнути*. Запазычанне з польск. *blaknąć* 'тс' (гл. Рудніцкі, 143—144). Спакон вякоў усх.-слав. формы, рус. *блёкнуть*, укр. дыял. *бле́кнути* (паходжанне іх не вельмі яснае; Бернекер, 63, рэканструюе аснову **blьk-*, супраць чаго Фасмер, 1, 173; іншая магчымасць: **blěk-*, гл. Шанскі, 1, Б, 137, там і літ-ра).

**Бляск** (БРС, Шат., Сцяшк. МГ). Укр. *бляск* 'тс'. Падобныя формы ёсць і ў некаторых рус. гаворках (зах.): *бля́скать, бля́скнуть*. Бясспрэчнае запазычанне з польск. *blask* 'тс' (<*blěsk;* Брукнер, 29; Слаўскі, 1, 34). У бел. мове была б адпаведнасць *блеск*. Параўн. і ст.-бел. *бляск* (Булыка, Запазыч.).

**Блясна′** (БРС). Рус. *блесна́* 'тс'. Фасмер, 1, 174 (а перад ім Буга, РФВ, 70, 101), указвае на сувязь з літ. *blìzgė* 'тс'. Няпэўна. Хутчэй, як лічыць Шанскі, 1, Б, 138, ад *blěskъ* 'бляск'.

**Бля′ты** 'від кузава воза; частка яго' (Маслен.). Бясспрэчна запазычанне з польск. *blat* 'дошка і г. д.' (вельмі многа значэнняў), а гэта з ням. *Blatt* (таксама шмат значэнняў; Варш. сл., 1, 163). Укр. *блят* (часткі розных прылад). Польскае пасрэдніцтва прымае Шалудзька, Нім., 22, супраць чаго Рудніцкі, 153 (прама з ням.).

**Бля′ха.** Рус. *бля́ха* (з XVII ст.), укр. *бля́ха*, дыял. *блє́ха* (укр. слова вядома з XV ст.). Запазычанне з польск. *blacha* 'тс' <ст.-в.-ням. *blëh*, с.-в.-ням. *blëch*. Патабня, РФВ, 1, 262; Міклашыч, 14; Бернекер, 59; Праабражэнскі, 1, 32; Корбут, PF, 4, 427; Фасмер, 1, 180; Брукнер, 28; Шалудзька, Нім., 22; Рыхардт, Poln., 35; Кюнэ, Poln., 45. Памылкова Рудніцкі, 153 (непасрэдна з ням.; аб гэтым Краўчук, ВЯ, 1968, (4), 127). У бел. мове *бля́ха* засведчана з XV ст. (Булыка, Запазыч.). Вытворныя: *бля́хар* (Бяльк., Нас., Шат., Касп.), *бляха́р* (БРС), *бляшаны́* (БРС, Шат.), *бляша́ны* (Нас., Касп.), *бля́шанка* (Шат.), *бляша́нка* (БРС, Нас., Касп.).

**Бляя′ць** (БРС, Бяльк., Шат., Касп., Сцяшк. МГ). Рус. *бле́ять*, укр. *блі́яти, бле́яти*, балг. *бле́я*, серб.-харв. *бле́jати* і г. д. Параўн. лат. *blêt* 'бляяць', с.-в.-ням. *blæjen*. Дзеяслоў гукапераймальнага характару. Гл. Фасмер, 1, 174; Шанскі, 1, Б, 139.

**Бо** 'таму што'. Ст.-рус. *бо*, рус. *бо*, укр. *бо*, чэш. (ст.) *bo*, славац. *bo*, польск. *bo*, серб.-харв. *бо*. Прасл. *bo* першапачаткова частка ўзмацняльная і пацвярджальная. Параўн. літ. *bà* 'тс', гоц. *ba*, авест. *bā* і г. д. Славянскае *bo*, як лічаць, чар-

гуецца з *ba* (гл. *ба₂*). Бернекер, 36; Траўтман, 22 і наст.; Фасмер, 1, 99; Махэк₂, 39; Слаўскі, 1, 24, 37—38; Брукнер, 9. Гл. яшчэ Шэвялоў, Prehistory, 117. Да сінтаксіса і гісторыі *бо* ў бел. мове гл. Баханькоў, Зб. Крапіве.

**Боб.** Рус. *боб,* укр. *біб,* польск. *bób,* чэш. *bob,* серб.-харв. *бȍб* і г. д. Прасл. *bobъ.* Роднасныя формы: прус. *babo,* лац. *faba.* І.-е. **bhab-*. Астатнія і.-е. формы стаяць фармальна значна далей (і тут няма пэўнасці): параўн. яшчэ грэч. *φαχός* 'чачавіца', ням. *Bohne* 'боб'. Думаюць таксама, што *боб* — слова «праеўрапейскай» культуры. Бернекер, 65; Траўтман, 23; Махэк, LP, II, 158; Махэк₂, 58; Слаўскі, 1, 40; Фасмер, 1, 180; Курыловіч, L'apophonie, 194 (тут адносна вакалізму).

Ці сюды *бóбка* 'зерне; гарошынка; шарык і да т. п.'?

**Бо́бер** 'божая кароўка' (Інстр. лекс.). Параўн. укр. назвы: *бабрýн, бабрýна, бабарýнка, бабрíська, бобрýнка, боборýнка, бобрунúця* і г. д., якія звычайна звязваюць з укр. дзеясловам *бáбрати (ся)* 'пэцкаць; вазіцца' (Рудніцкі, 46; перад тым як паляцець, божая кароўка нібы доўга вазіцца). Фанетычна немагчымая сувязь з *бедр-* 'божая кароўка' (насуперак Махэк₂, 50, і Каламіец, Мовознавство, 1967 (3), 50—51). Паколькі сувязь з дзеясловам *бабрати (ся)* няпэўная (гл. Краўчук, ВЯ, 1968 (4), 124), то, магчыма, трэба зыходзіць з шырока вядомай асновы *babr-, bobr-* і да т. п. (параўн. нават рум. *buburúză* 'божая кароўка'; падрабязней Краўчук, там жа). Параўн. яшчэ *барбуха.*

**Бо́бік** 'расліна Menyanthes trifoliata L.' Гл. *бабóк.*

**Бо́брык₁.** Рус. *бóбрик,* укр. *бóбрик.* Гэты тэкстыльны тэрмін — вытворнае ад *бабёр.*

**Бо́брык₂** 'расліна Menyanthes trifoliata L.' Гл. *бабрóўнік.*

**Бог.** Рус. *бог,* укр. *біг,* польск. *bóg,* чэш. *bůh,* ст.-слав. **богъ,** балг. *бог,* серб.-харв. *бȏг* і г. д. Прасл. **bogъ.* Роднасныя словы перш за ўсё ў інда-іран. мовах: ст.-інд. *bhágas* 'той, хто абдорвае, дае даброты, уладыка', ст.-іран. *baγa* 'бог', ст.-перс. *baga-* (ст.-інд. *bhájati* 'дае, дзеліць', грэч. *φαγεῖν* 'есці'). Першапачатковае значэнне 'той, што надзяляе'. Параўн. ст.-інд. *bhágaḥ* 'багацце; шчасце', ст.-іран. *baγa-, baga-* 'доля'. Версію аб запазычанні прасл. слова з іран. моў фанетычна давесці немагчыма (а толькі з культ.-гіст. меркаванняў). Бернекер, 67; Траўтман, 23; Праабражэнскі, 1, 33; Слаўскі, 1, 40; Машынскі, Pierw., 92; Фасмер, 1, 181—182. Гл. яшчэ Meriggi, ЗФЛ, VIII (1965), 43; Бенвяніст, Зб. Якабсону, 1, 202;

Жукуа, Sprache, 11, 131 і наст. Падрабязна Трубачоў, Этимология, 1965, 25—31, які мяркуе, што пакуль няма даных, каб адказаць на пытанні, ці запазычана слав. *bogъ* з іранскага.

**Бо́дзер** 'храбры, бойкі' (Нас.). Да прасл. *bъdrъ*. Гл. *бадзёры*.

**Бо́дня** 'бочачка з векам і замком' (Шн., Выг. дыс.). Рус. *бо́дня*, укр. *бо́дня*, польск. *bednia*, чэш. *bedna*, серб.-харв. *ба̏дањ, ба̏дња* і г. д. Слав. **bъdьnь* <герм. моў (с.-н.-ням. *bodene*, ст.-в.-ням. *butîn*, ням. *Bütte*, а гэта з лац. *butina*, грэч. *βυτίνη*). Бернекер, 106; Фасмер, 1, 184; Слаўскі, 1, 29. Параўн. *бэ́дня*.

**Бо́дры** 'горды, жвавы' (Бяльк.). Да прасл. *bъdrъ*. Гл. *бадзёры*.

**Бо́жы по́яс** 'вясёлка' (брасл., ДАБМ, 901—902, карта № 312). Гэта назва, бясспрэчна, калька адпаведных балтыйскіх слоў. Параўн. літ. *diẽvo júosta*, лат. *dieva josta* 'вясёлка' (літаральна 'божы пояс'). Гл. Непакупны, Baltistica, V (1), 1969, 69—76 (там і карты, і этнаграфічны каментарый).

**Бой** у розных значэннях 'бітва і г. д.' Рус. *бой*, укр. *бій*, польск. *bój*, чэш. *boj*, балг. *бой*, серб.-харв. *бо̑ј* і г. д. Прасл. *bojь*. Аблаутная форма да прасл. дзеяслова **biti* 'біць' (гл.; там і літ-ра).

**Бок**$_1$ 'бок'. Рус. *бок*, укр. *бік*, польск. *bok*, серб.-харв. *бо̏к* і г. д. Прасл. *bokъ* 'тс'. Надзейнай этымалогіі няма. Найбольш верагодным з'яўляецца параўнанне з герм. мовамі: англ. *back* 'спіна' (Махэк$_2$, 60, лічыць слав. і герм. слова «праеўрапейскім»). Іншыя версіі не пераконваюць. Бернекер, 68; Фасмер, 1, 185; Махэк$_2$, 60; Слаўскі, 1, 39.

**Бок**$_2$ 'маўляў': *Што, бок, ты ляжыш цэлае ранне?* (Некр., 218); *Ці твая, бок, шапка знашлася?* (Янк. I, 43). Частка гэта, мабыць, тая самая, што і ўкр. *бак, пак*, польск. *bak*.

**Бо́лакі** 'воблакі' (Нас., Інстр. I), *бо́лка* 'хмарка' (<*бо́лака*)—Гарэц. Рус. дыял. *бо́локи*, 'воблакі'. З **ob-volk-* (параўн. *о́блако, волоку́*). Ільінскі, PF, 11, 192 і наст.; Праабражэнскі, 1, 629; Ваян, RES, 2, 9; Фасмер, 1, 189. Параўн. і *була́к* 'воблака'.

**Бо́лбатка** 'цецярук'. Утварэнне ад *балбата́ць* (гл.). Птушка так названая па «балбатанню», якое характэрна для яе ў перыяд такавання. Гл. Флінт, Птицы, 174.

**Бо́лка** 'хмарка'. Гл. *бо́лакі.*

**Бо́лмат** 'балбатун, пустамеля' (Нас., Гарэц., Др.-Падб., Яруш., Бяльк.), *балмату́н* (Нас.), *былмату́н* 'тс' (Бяльк.), *балмата́ць* 'балбатаць' (Нас.). Рус. дыял. (смал.) *бо́лмат* 'тс', (цвяр., пск.) *болмота́ть* 'балбатаць' Фасмер (1, 188) звязвае з *болта́ть.* Хутчэй трэба выходзіць ад *болмота́ть,* якое можа быць пераафармленнем дзеяслова *болбота́ть* (дысіміляцыя *б-б*>*б-м* і, магчыма, уплыў *бормота́ть).*

**Болт.** Запазычанне з ням. Гл. пад *боўт.*

**Бо́львар** 'фальварак' (Яшкін). Відавочна, з **фольварк* (<польск. *folwark* <ням., гл. Варш. сл., 1, 759; Брукнер, 124). Праўда, непасрэдны пераход *ф*>*б* не вельмі засведчаны (прыклады тыпу *ба́са* 'кадушка', *басоля* 'фасоля' (гл.) можна тлумачыць і інача й), але іншай магчымасці этымалагізавання, здаецца, няма.

**Бо́лька** 'болька, рана' (Бяльк., Шат., Касп., Нас. і інш.). Утварэнне ад *bolěti* (гл. *бале́ць*). Гэта слова, відавочна, праславянскае і мае адпаведнасці ў кашуб., балг., серб.-харв., мак. мовах. Падрабязна Мартынаў, Бел.-польск. ізал., 92—93.

**Бо́льшасць.** Паводле Крэмкі (Гіст. мовы, 2, 124), гэта няпоўная калька (яшчэ дакастрычніцкага перыяду) з рус. мовы (*большинство́).* Параўн. і ўкр. *більшість.*

**Большы,** *больш, бале́й.* Прасл. **bolьjь* (м. р.), **bolьši* (ж. р.), **bol'e* (н. р.) роднаснае ст.-інд. *bálīyan* 'мацнейшы', *bálam* 'сіла', лац. *dē-bilis* 'слабы' і г. д. Падрабязна гл. Фасмер, 1, 191. Адсюль узнікае самастойны ўсх.-слав. прыметнік са значэннем 'вялікі'; бел. *бальшы́,* рус. *большо́й* (гл. Шанскі, 1, Б, 160). Ад гэтага апошняга ўтворана лексема бел. *бальша́к* (БРС, Сцяшк. МГ, Касп.), рус. *большáк* 'дарога' (спачатку 'вялікая дарога').

**Бом** 'глыбокая яма'. Гл. *бон.*

**Бо́ма**$_1$ 'рычаг' (БРС), 'доўгая жэрдка з тоўстым канцом пры плытах' (Сцяшк. МГ, Янк. Мат., Бір. Дзярж.). Рус. дыял. (у Літве) *бо́мка* 'тс'. Параўн. рус. *бом* 'шлагбаум', запазычанае з гал. *boom* 'брус, бэлька' (Фасмер, 1, 191; Шанскі, 1, Б, 161). Але, магчыма, што бел. слова запазычана з той жа крыніцы, што і літ. *búomas* 'рычаг': з усх.-пруск. *bōm* 'тс' (а лат. *buõmis* 'рычаг' і г. д. — з с.-н.-ням. *bom*). Да балт. форм гл. Фрэнкель, 64—65.

**Бо́ма**$_2$ 'званочак'. Новае ўтварэнне з *бо́мка* 'тс' (гл.), якое,

мабыць, успрымалася як памяншальная форма. Гл. Краўчук, БЛ, 1975, 7, 65.

**Бо'мба.** Рус. *бóмба,* укр. *бóмба.* Запазычанне, магчыма, праз польск. *bomba* або ням. *Bombe* з італ. *bomba,* франц. *bombe* 'тс' (усё да лац. *bombus;* першапачатковае значэнне 'снарад, які гудзе'). Гл. Фасмер, 1, 191; Шанскі, 1, Б, 161; Клюге, 90—91; Вельмі падрабязна (з літ-рай) MESz, 1, 336—337.

**Бомк** 'насякомае' (Бесар.). Укр. *бомок* 'тс'. Запазычанне з польск. *bąk* (ад гукапераймальнага *bąkać,* гл. Слаўскі, 1, 29).

**Бо'мка** 'званочак'. Утварэнне ад дзеяслова *бóмкаць* (гл.). Ад *бóмка* далей утвараецца новае слова *бóма* 'тс' (гл.).

**Бо'мкаць** 'звінець, бразгаць'. Рус. *бóмкать* 'званіць', укр. *бóмкати.* Дзеяслоў, які ўтварыўся на базе выклічніка гукапераймальнага характару *бом!* (ад такіх выклічнікаў звычайна дзеясловы ўтвараюцца суфіксам *-к-).* Адсюль вытворнае *бóмка* і далей *бóма* 'званочак' (гл.). Пераносна *бóмкаць* 'мармытаць' (Сцяц., Шат.).

**Бон,** *бом* 'выгаралая глыбокая яма ў тарфяным балоце, якая запоўнена вадой, глыбокая яма ў рацэ' (усх.-палес.; Талстой, Геогр., 202). Талстой (там жа) параўноўвае з укр. (закарп.) *бóня, бóнище* 'глыбокая яма ў балоце, запоўненая вадой', укр. (бойк.) *бóня* 'стаячая вада', кашуб. *bonawa, bonawka* 'дзёран, трава', н.-луж. *bon, bonk* 'вільготны, мокры дзёран; луг, паляна'. Усё гэта, быццам, старое запазычанне з герм. (ням. *Bonn* 'мокрая лугавая трава'). Але зыходзячы з таго, што *бон* — гэта і 'месца, дзе рыбакі выцягваюць з вады сетку' (Яшкін), магчыма, лепш лічыць, што *бон, бом* як тэрмін рэльефу звязаны з такімі словамі, як рус. *бом, бон* 'плавучы насціл у гавані' <герм. (аб гэтых словах гл. Фасмер, 1, 191, 192).

**Бо'нда$_1$** 'бочка' (Касп., Нас., Гарэц., Др.-Падб.). Наўрад ці ёсць нейкая сувязь з *бóнда$_2$* (гл.). Хутчэй таго ж паходжання, што і *бóндар, бóдня* (гл.), *бóнда,* мабыць, з *бóдня.* Гл. Краўчук, БЛ, 1975(7), 65.

**Бо'нда$_2$** 'бохан хлеба; круг каўбасы; булка, печаны хлеб; скаціна; скавароднік, перапечак; пасаг; закваска ў дзяжы і г. д.' (шмат значэнняў, гл. Нас., Чач., Бяльк., Гарэц., Др.-Падб., Інстр. II, Сцяшк., Сцяшк. МГ, Сцяц., Некр.). Падрабязна гл. Крывіч, 1923, 3, 51—52. Укр. *бóнда,* польск. *bon-*

*da.* Запазычанне з літ. *bandà* (таксама шмат значэнняў). Гл. Урбуціс, Baltistica, V (1), 1969, 50—51. Падрабязна Непакупны, Мовознавство, 1969, (3); Сцяц., Нар. 22. У ст.-бел. мове *бонда* засведчана з XV ст. (Булыка, Запазыч.).

**Бо'ндар.** Рус. *бóндарь,* укр. *бóндар, бóднар,* польск. *bednarz,* чэш. *bednář.* Утварэнне ад **bъdn'a, *bъdьnь* 'бочка' (<герм. моў), усх.-слав. *бóдня.* Першапачаткова *боднарь.* Праабражэнскі, 1, 36; Фасмер, 1, 192 (там і іншыя, менш пераканаўчыя версіі). Гл. яшчэ Шанскі, 1, Б, 163.

**Бонк,** *бóнка* 'авадзень' (Сцяшк. МГ). Таго ж паходжання, што і *бомк* (гл.), г. зн. запазычанне з польск. *bąk* 'тс' (гукапераймальнае, ад *bąkać,* гл. Слаўскі, 1, 29; Брукнер, 19).

**Бо'нна** 'нянька, якая вучыла дзяцей замежным мовам' (БРС). Рус. *бóнна,* укр. *бóнна.* Запазычанне з франц. (можа, і праз ням. *Bonne* <франц.; Фасмер, 1, 192) *bonne* 'няня' (а гэта ад франц. *bonne* 'добрая'). Гл. Шанскі, 1, Б, 164. Ці не сюды *бóнка* 'палюбоўніца' (Нас.)?

**Бонова'ты** 'буяніць' (палес., Клім., 22). Мяркуем, што гэта слова (праўда, крыху з іншай фанетыкай) таго ж паходжання, што і *бунавáць* 'сварыцца, лаяць, шумець і г. д.' (гл.), якое мае адпаведнасці ва ўсх.-слав. і паўд.-слав. мовах. Гукапераймальнае (Бернекер, 101; Фасмер, 1, 241; Рудніцкі, 255—256).

**Бо'нчка** 'кольца, якім замацоўваецца каса на касільне' (ДАБМ, 832). Запазычанне з польск. *bączek* 'кольца' (паходжанне польск. слова, мабыць, гукапераймальнае, гл. Брукнер, 19).

**Бор**$_1$ 'хваёвы лес'. Рус, *бор,* укр. *бір,* польск. *bór,* чэш. *bor,* балг. *бор* 'сасна', серб.-харв. *бȏр* 'тс'. Прасл. *borъ* 'хваёвы лес; сасна'. Лічыцца роднасным з герм. словамі: ст.-ісл. *bǫrr,* ст.-англ. *bearu* 'лес', ст.-ісл. *barr* 'шыпулька елкі', далей ст.-інд. *bhr̥ṣṭíṣ* 'вастрыё'. І.-е. **bher-*: **bhor-* 'быць вострым'. Першапачатковае значэнне **borъ-* 'хваёвае дрэва, дрэва з іголкамі'. Траўтман, 26; Брукнер, AfslPh, 39, 4, 42, 139; Бернекер, 76; Праабражэнскі, 1, 39; Фасмер, 1, 193; Слаўскі, 1, 40. Наўрад ці слав. *borъ*—запазычанне з герм. **baru* (гл. вышэй); аб магчымасці адваротнага запазычання гл. Мартынаў, Лекс. взаим., 108—112. Брукнер (там жа), а таксама Махэк$_2$ (60—61) (услед за А. Матлам) хочуць бачыць сувязь з слав. **bara* 'багна'. Падрабязна пра *borъ* у слав. мовах Талстой, Геогр., 22—41.

**Бор**$_2$ 'свердзел'. Рус. *бор*. Запазычанне з ням. *Bohr* 'тс' (а гэта да *bohren* 'свідраваць'). З той жа ням. крыніцы паходзіць і *бур* 'свердзел' (гл.). Розніца ў вакалізме можа тлумачыцца дыялектным нямецкім вымаўленнем.

**Бо́раў** 'непакладзены кабан' (ДАБМ, 884), 'парсюк' (Жд.). Рус. *бо́ров,* польск. *browek* 'адкормлены кабан', чэш. *brav* 'дробная жывёла', балг. *брав,* серб.-харв. *бра̑в* 'авечкі' і г. д. Слав. **borvъ*. Роднаснае: ст.-в.-ням. *barug, barh,* ст.-ісл. *bǫrgr;* Траўтман, 27; Бернекер, 75; Праабражэнскі, 1, 37; Фасмер, 1, 195. Слав. *borvъ* лічыцца зборным назоўнікам да і.-е. **bharu-* (**bhoru-*?). Гл. Траўтман, 27. Далей, магчыма, да і.-е. **bher-*: **bhor-* 'рэзаць'. БЕР, 1, 71—72; Бернекер, 75; падрабязна Трубачоў, Происх., 64—65. Таксама параўноўваюць з ст.-інд. *bhárvati* 'жуе, есць' (Махэк, KZ, 64, 263; Махэк$_2$, 65). Ондруш (JČ, 14, 107) выводзіць *borvъ* ад **bhrū-* 'брыво' (*'шчаціна'); першапачаткова 'шчаціністая жывёла' (параўн. паралель венг. *serte, sertés* 'шчаціна, шэрсць', *sertés* 'свіння'). Вельмі няпэўнай з'яўляецца версія пра запазычанне з герм. моў (супраць гэтага Бернекер, 75; Фасмер, 1, 195).

**Бо́рацца** 'бароцца' (Касп.), 'бадацца' (Сцяшк. МГ), *бо́рыцца* (Нас.), *бо́ріцца* (Бяльк.). Гл. *баро́цца.* Формы тыпу *бо́рацца* маюць секундарны націск.

**Борг** 'доўг' (Федар. VI). Ст.-бел. *борг, борг* (гл. Булыка, Запазыч.). Укр. *борг*. Запазычанне з польск. *borg* 'тс' (<ням. <*borgen*). Шалудзька, Нім., 22; Рудніцкі, 171—172; Брукнер, 36.

**Бо́ргыцца** 'бароцца' (Бяльк.). Узнікла з *бо́рацца (бо́рыцца)*. Зычны *-г-* неарганічны, устаўны.

**Бо́рзды** 'быстры, спрытны'. Траўтман (40) лічыў, што бел. слова прадстаўляе прасл. варыянт да *bъrzъ* 'тс' і рэканструяваў прасл. *bъrzъ* (ва ўсіх слав. мовах, акрамя бел.) і *bъrzdъ* (бел. мова). Гэта апошняе стаіць вельмі блізка да літ. *burzdùs, bruzdùs* 'рухавы', што дае магчымасць аднавіць балтаслав. праформу **burzdu-*. Форма *bъrzdъ* захоўваецца яшчэ ў серб.-харв. *брзди̑ца* 'быстрына ў ручая'. Параўн. таксама Трубачоў, Слав. языкозн., V, 176—177. Форму *bъrzъ* адлюстроўваюць, напр., рус. *бо́рзый,* бел. *бо́рза,* польск. *bardzo* 'вельмі', *barzy* (ст.) 'хуткі', чэш. *brzý,* серб.-харв. *бр̑з* 'хуткі'. Параўн. яшчэ Скок, 1, 222.

**Борт** (карабля). Рус. *борт,* укр. *борт*. Запазычанне з ням. *Bord* (або гал. *boord)*. Фасмер, 1, 198; Шанскі, 1, Б, 173. Падрабязна аб ням. слове гл. Клюге, 92.

**Борць.** Рус. *борть,* укр. *борть,* польск. *barć,* чэш. *brt'*. Прасл. (дыял., бо няма ў паўдн. славян) *bъrtь* 'борць'; да і.-е. **bher-* 'рэзаць' (першапачаткова *bъrtь* 'дзюрка, выраз'). Параўн. лац. *forāre* 'свідраваць', ст.-в.-ням. *borōn* (ням. *bohren*). Няпэўным застаецца параўнанне з літ. *bùrtas* 'жэрабя', Бернекер, 109; Праабражэнскі, 1, 38; Фасмер, 1, 198; Слаўскі, 1, 28; Брукнер, 15—16.

**Боршч** 'ежа, суп'; таксама назва раслін. Рус. *борщ,* укр. *борщ,* польск. *barszcz,* чэш. *bršt',* славен. *bršč.* Прасл. *bъrščь* 'расліна Heracleum' (<**bъrstįo-*). Параўн. ст.-інд. *bhṛṣṭi-* 'вастрыё' і некаторыя іншыя і.-е. формы (першапачаткова 'расліна з вострымі лісцямі'). Іншыя версіі не пераконваюць. Бернекер, 109; Фасмер, 1, 198 (там і агляд літ-ры); Слаўскі, 1, 27—28. Махэк$_2$ (69) выводзіць з асновы **bṛsk-* 'быць кіслым' (а таксама думае пра «праеўрапейскае» слова). Версію Махэка падтрымлівае Мяркулава, Очерки, 60—62 (там і агляд форм і праблематыкі).

**Бос** 'гаспадар, патрон'. Рус. *босс,* укр. *босс.* Новае запазычанне з англ. *boss* 'тс' (а гэта з гал. *baas* 'тс'). Гл. Шанскі, 1, Б, 176.

**Бо'скі** 'боскі; божы' (БРС, Шат.). Зыходзячы з формы, запазычанне з польск. *boski* 'тс' (<*bożski*).

**Бо'сці.** Гл. *бадáць.*

**Бо'сы.** Рус. *босóй,* укр. *бóсий,* ст.-рус. *босъ,* польск. *bosy,* чэш. *bosý,* балг. *бос,* серб.-харв. *бо̑с* і г. д. Прасл. *bosъ* '*босы*', і.-е. **bhosos* 'голы, босы'. Параўн. літ. *bãsas,* лат. *bass,* ст.-в.-ням. *bar* 'голы' (<**baza-* <**basa-*), ням. *barfuß* 'басаногі', арм. *bok'* 'босы'. Праабражэнскі, 1, 39; Фасмер, 1, 199; Слаўскі, 1, 39; Траўтман, 28.

**Бот** 'від абутку'. Рус. *бóты* (з XV ст.) 'боты, від абутку', укр. *бот.* Запазычанне з ст.-польск. *bot* (польск. *but*). Брукнер, KZ, 48, 175 і наст.; Брукнер, 50; Слаўскі, 1, 51; Рудніцкі, 183 (польск. слова <франц. *botte,* Слаўскі, там жа, або лац. *botta,* Брукнер, 50). Гл. таксама Кюнэ, Poln., 45; Вахрас, Наим. об., 73; Сцяц., Нар., 147—148; Булыка, Запазыч., 47.

**Бо'тка** 'палка з увагнаным у канец вострым цвічком (ужывалася як паганялка для валоў)' (Арх. Бяльк., слонім.). Бясспрэчна, з **бод-ка* (да *bod-* 'басці, калоць'). Іншага паходжання ст.-бел. *ботка* 'рыбалоўная прылада' (<польск. *botka;* Булыка, Запазыч.).

**Боўдзіла$_1$** 'жэрдка, якой заганяюць рыбу ў сетку' (З жыц-

ця). Не вельмі ясны шлях утварэння гэтага слова. Няясна нават, ад якой асновы можна вывесці гэту назву. Паколькі *-іла* ўказвае на аддзеяслоўнае паходжанне слова, а адпаведнага дзеяслова няма, то, можа, трэба думаць пра зыходнае **боўціла* (да *боўт* 'рыбалоўная прылада', гл.). Але і ў гэтым выпадку марфалогія слова астаецца няяснай. Можна, праўда, думаць пра нейкі зыходны дзеяслоў тыпу **боўдзець, *баўдзець, *баўдзіць,* які меў бы гукапераймальны характар. Параўн. рус. дыял. *балдить* 'гультайнічаць; часта паўтараць адно і тое ж'. Але параўн. і ўкр. *бовдур* 'комін; густы дым, хмара; жэрдка ў рыбаловаў (!); дурань'. Параўн. яшчэ літ. дзеяслоў *báldyti* 'стукаць' (інтэнсіўная форма ад *bélsti* 'тс', гл. Фрэнкель, 39). Версія пра зыходнае **боўціла,* здаецца, падтрымліваецца словам *бо́ўціла* 'лаянкавае слова'. Параўн. *баўдзіла.*

**Бо'ўдзіла**₂ 'дурань'. Гл. *баўдзіла.*

**Боўдур** 'комін' (зах.-палес.; Бел.-укр. ізал.). Укр. *бо́вдур* 'тс'. Рудніцкі (157) лічыць, што ёсць сувязь з рус. дыял. словамі *бо́лдырь, булды́рь* 'тс', якія Фасмер, 1, 187, 238 (услед за Расяненам, FUF, 26, 136), выводзіць з чув. *pəl* 'комін', *pəldər* 'прыбудова, навес на двух слупах, летняя кухня'.

**Бо'ўкаць** 'гаварыць адрывіста, незразумела' (Шат.), 'боўтнуць' (Нас.). Гукапераймальнае, як і *ба́ўкаць* (гл.).

**Боўт** 'рыбацкая прылада боўтаць ваду' (КЭС, лаг., Нас., Янк. I), таксама *бо́ўтка* (Касп., Мядзв.), *бо́ўтала* (Нас.). Рус. *болт,* укр. *бовт* 'тс'. Бернекер (118) лічыць, што слова звязана з *bьlt-* (гл. *бо́ўтаць*). Фасмер (1, 190) памылкова хоча бачыць тут сувязь з рус. і г. д. *болт* 'болт', польск. *bełt* (<н.-ням. *(bolt(e),* гал. *bout)*. Параўн. *бо́ўтаць.*

**Бо'ўтанка.** Гл. *баўто́нка.*

**Бо'ўтаць** (у розных значэннях; БРС, Янк. II, Бір. Дзярж., Шат.). Рус. *болта́ть,* укр. *бо́вта́ти,* польск. *bełtać*. Слав. *bъlt-* або *bьlt-*. Сюды таксама адносяцца *баўта́ць* 'боўтаць' (Нас., Касп.), *баўця́к* 'рыбная сець' (Касп.), а таксама *балта́ць* (Шат.), *балты́ш* 'палка, якою заганяюць рыбу ў сець' (Шат.). Гэтыя апошнія формы маюць *-л-* (замест *-ў-*), якое сустракаецца на ўсходзе Беларусі. Лічыцца гукапераймальным словам. Параўн. ням. *poltern* 'стукаць', літ. *bildė́ti* 'шумець, грымець' і г. д. Бернекер, 118; Праабражэнскі, 1, 35; Брукнер, 20; Слаўскі, 1, 30; Фасмер, 1, 190.

**Бо'ўціла.** Гл. *баўдзіла.*

**Бо′хан,** *бахáнка, бухáнка.* Рус. *бóханец, бухáнка, бóхон,* укр. *бóхон,* польск. *bochen,* ст.-чэш. *bochnec.* Здаецца, запазычанне з с.-в.-ням. *vochenze, fochenze* 'від пірага або белы хлеб' (<лац. крыніцы). Запазычанне праз польск. і чэш. мовы. Некаторыя формы Праабражэнскі (1, 56), Ільінскі (ИОРЯС, 20, 3, 80) звязваюць з дзеясловам *бýхнуть,* але гэта хутчэй за ўсё народная этымалогія (але параўн. Талстой, Зб. Крапіве, 274). Гл. Фасмер, 1 (пад *бóханец, буханец, бухон);* Бернекер, 67 і далей; Слаўскі, 1, 38. Гл. яшчэ Шанскі, 1, Б, 240; Сцяц., Нар., 24 (дзе тлумачыцца *бахáнка).* Ст.-бел. *бохон, бохан, бохен* (Булыка, Запазыч.).

**Бо′хат** 'самае глыбокае месца ў ручаі або ў невялікай рэчцы' (Яшкін). Параўн. рус. *бухотóк* 'шум ад падводнай крыніцы ў завадзі'. Утварэнне (мадэль **boch-ъtъ,-ъtъ-* — суфікс аддзеяслоўных імён) ад *бох-, бух-* (параўн. *бóхаць, бýхаць* і да т. п.). Да назваў глыбокіх месц у вадзе гл. Безлай, SR, 5—7, 125 і наст.; Балецкі, SSlav, 5, 183—184 (аб гукапераймальных словах). Магчыма, сюды ж і рус. дыял. *бóхоть* 'вада на паверхні лёду' (аб рус. слове Куркіна, Этимология 1966, 106: сувязь з славен. *bohôt* 'дастатак, лішак' і далей (з іншым вакалізмам) *бýхта* 'вада са снегам на паверхні лёду'), падрабязней гл. пад *бýхта*$_2$ і Краўчук, БЛ, 1975, 7, 68.

**Бохто′рыць.** Гл. *бухтóрыць, бухцéць.*

**Боці** (мн.) 'рабро ў лодкі' (КЭС, бых.). Можна параўнаць з укр. *бóтя* 'частка борта лодкі' (да геаграфіі параўн. Краўчук, ВЯ, 1968, 4, 128). Але этымалогія слова застаецца цёмнай. Рудніцкі (184) лічыць яго няясным і мяркуе пра дэфармацыю слова *борт.* Няпэўна. Можа, ёсць сувязь з рус. *бóтник, ботня́, бот* 'выдаўбаная з дрэва лодка'?

**Бо′цікі** 'расліна боцікі, Aconitum L.' (Кіс.). Ад назвы абутку — *бот.* Параўн. падобнае ў іншых мовах: укр. *зозуліни черевички, черевички* (Макавецкі, Sł. botan., 5—6), славац. *pančušky* (літаральна 'чаравічкі'; Махэк, Jména rostl., 47), ням. *Schühlein* 'Aconitum' (літаральна 'чаравічак'; Марцэль, Pflanzennam., 5 (5), 506). Расліна названа так, таму што чашалісцік нагадвае шлем або боты з шпорамі (апісанне гл. Нейштадт, Определитель, 254). Краўчук, БЛ, 1975, 7, 66.

**Бо′цян.** Гл. *баця́н.*

**Бо′чка.** Рус. *бóчка,* укр. *бóчка,* чэш. *bečka, bečva,* польск. *beczka,* серб.-харв. *бáчва,* славен. *bečvà, bečkà, bâčva* і г. д. Слав. *bъči* (род. скл. *bъčьve*), аснова на *-ū.* Слова яўна запазычанае, але дакладная крыніца невядомая (вельмі многа

версій). Падрабязны агляд літ-ры гл. Фасмер, 1, 202; Шанскі, 1, Б, 179—180. Паводле Слаўскага, 1, 29, трэба зыходзіць з *bъčьka* (памяншальнае ад *bъča,* якое не захавалася), а гэта запазычанне з герм. моў (параўн. бавар. *die Butschen, Bütschen*). Вельмі падрабязна слав. словы разглядае Губшмід, Schläuche, 47, 51—53, які лічыць, што крыніцай іх (як і паўдн.-ням. форм: бавар. *bütschen* і да т. п.) з'яўляецца раманскае **bŭtša, *bŭtšu* (<**buttia*, параўн. *buttis*). Зыходнымі славянскімі формамі Губшмід лічыць **bŭčy* (род. скл. **bŭčŭve), *bŭči* (род. скл. **bŭčive)* і **bŭča.* Сюды і бел. *бачо́нак,* рус. *бочо́нок,* укр. *бочо́нок,* якое, як лічыць Шанскі, 1, Б, 180—181, з'яўляецца ўсх.-слав. утварэннем (суф. *-enъkъ*).

**Бо'язь,** *баязнь.* Гл. *баяцца.*

**Бра.** Рус. *бра,* укр. *бра.* Запазычанне з франц. мовы (франц. *bras* 'тс', літаральна 'рука'). Фасмер, 1, 204; Шанскі, 1, Б, 183.

**Бра'вы** 'бравы' (Нас. Сб., Шат., БРС), 'прыгожы' (Лысенка ССП). Рус. *бра́вый,* укр. *бра́вий.* Запазычанне з франц. *brave* (можа, праз ням. *brav)* або з італ. *bravo* 'тс'. Гл. Фасмер, 1, 205; Шанскі, 1, Б, 184—185. Да гісторыі і распаўсюджання слова ў еўрапейскіх мовах гл. яшчэ Клюге, 98; MESz, 1, 367 (там і літ-ра). Шатэрнік лічыць гэта слова русізмам.

**Бравэ'рка,** *браве́рка* 'світка, якая апранаецца на кажушок; безрукаўка; каўнер; паўпальто з даматканага сукна; армяк' (БРС, Інстр. I, Сцяшк. МГ, Касп., Шат.); таксама *брава́рка* (Шат., БРС). Няяснае слова. Адсутнічае ў суседніх мовах. Падобнае на запазычанне, але адкуль. Параўн. лац. *brevis (breve)* 'кароткі'; але праз пасрэдніцтва якой мовы адбылося запазычанне?

**Бра'га** (у розных значэннях) (БРС, Янк. I, Касп., Нас., Шат., Бяльк.). Рус. *бра́га,* укр. *брага,* польск. *braha* (<усх.-слав. моў). Лічылася запазычанне з кельт. моў (параўн. ірл. *braich* 'солад', кімр. *brag* 'тс'). Бернекер, 80; Шахматаў, AfslPh, 33, 87; Брукнер, 38; Лер-Сплавінскі, RS, 18, 6; Машынскі, Pierw., 68. Але хутчэй за ўсё гэта запазычанне з цюрк. моў (**бърага*<чуваш. *pεraGa*). Гл. Фасмер, 1, 205 (там іншая літ-ра і іншыя малапраўдападобныя версіі). Параўн. яшчэ MESz, 1, 366 (венг. *bráha*), дзе ёсць меркаванні да этымалогіі слав. слова.

**Брага'ць** 'прасіць' (*«Будзем господа бога брага́ць»,* Маш.). Машынскі (Pierw., 85) дапускае магчымасць запазычання з польск. *błagać* і з'яўленне *-р-* (замест *-л-*) пад уплывам слова

*прасіць*. Незалежна ад пытання пра запазычанне лепш тут бачыць уплыў іншай формы дзеяслова *прасіць* — **прахáць* (параўн. укр. *прохáти* 'прасіць'). Гл. Краўчук, БЛ, 1975 (7), 66.

**Брадзі́ніна.** Гл. *брэд₂*.

**Брадзі́ць.** Рус. *бродúть*, укр. *бродúти*, польск. *brodzić*, балг. *брóдя* і г. д. Слав. **broditi* — ітэратыўная форма да **bresti* **bredǫ*. Параўн. літ. *bradýti*, лат. *bradît*, літ. *brìsti bredù* (рус. *брестù бредý*, укр. *брестú*, чэш. *břisti*; ц.-слав. *брести бредѫ*). Бернекер, 87, 83; Брукнер, 40; Праабражэнскі, 1, 45; Фасмер, 1, 210, 216; Траўтман, 38.

**Брадні́к** 'від рыбалоўнай сеткі' (БРС, Касп., Бір. Дзярж., Бяльк.), *брадньік* 'тс' (Лысенка ССП). З *брэдні́к* (да асновы *брэд-*; слав. **bred-* 'брадзіць', гл. *брадзíць*). Націск у *брáдньік* яўна другасны. Параўн. рус. *бреднúк, брéдник* 'тс', *брéдень*, укр. *брéдень*. Параўн. яшчэ Рудніцкі, 202. *Брадні́к* можа паходзіць і з *бродні́к* 'тс' (параўн. палес. *бродні́к* 'тс' — Крыв.).

**Бражка** (*брашка*) 'радня, сваяцтва; талака' (Яўс.). Рус. *брáжка* 'дрэнная кампанія; п'яная кампанія'. Няяснае слова. Ёсць дзве магчымасці тлумачэння: 1) ад *брáжка*<*брáга* (гл.) 'брага' метафарызацыяй; 2) нейкая сувязь з *брат*, дакладней, з гіпакарыстычнымі формамі гэтага слова: бел. *брахна, брахнéйка* і да т. п. На карысць гэтай другой магчымасці сведчыць значэнне ў бел. слова 'радня, сваяцтва'. Але параўн. польск., чэш. арго *braška* 'брат' (гл. Будзішэўска, Żarg., 70).

**Бра́згаць**, *брáзгаць* 'стукаць, брынчаць', таксама *брáзкаць*. Рус. *бря́згаць*, укр. *бря́скати*. Паводле Рудніцкага, 227, утварэнне ад выклічніка *брязь!* (гукапераймальнае). Фасмер (1, 225) лічыць роднасным з літ. *breñgsti*, *brenzgiù* 'загучаць, застукаць'. Параўн. Буга, РФВ, 70, 102. Траўтман (37) слав. *bręzgъ* і літ. формы выводзіць з балт.-слав. **brenzg-*. Сюды ж бел. *брáзнуць* 'стукнуць', *брáзнуцца* 'ўпасці' (*bręzg-nǫ-ti*).

**Бразгу́ль** 'дзеравяны гаплік' (Сцяшк. МГ). Мабыць, таго ж паходжання (літ.), што і *брызгуль, брэзгуль* (гл.).

**Брак₁** 'нястача' (Сцяшк. МГ, БРС, Яруш., Сцяшк., Шат.). Укр. *брак* 'тс'. Запазычанне з польск. *brak* 'тс' (а гэта з с.-н.-ням. *brak* 'тс'); гл. Бернекер, 80; Брукнер, 38; Фасмер, 1, 206; Слаўскі, 1, 41; Рудніцкі, 191; Шалудзька, Нім., 22. Таксама бел. *бракавáць* 'не хапаць', укр. *бракувáти* <польск. *brako-*

*wać;* Рыхардт, Poln., 36; Кюнэ, Poln., 46. Параўн. яшчэ Булыка, Запазыч., 48.

**Брак**$_2$ 'дэфект', *бракавáць*. Рус. *брак, браковáть,* укр. *брак, бракувáти.* Праз польск. *brak, brakować* з с.-н.-ням. *brak* 'дэфект, недахоп' (параўн. ням. *brechen* 'ламаць'). Бернекер, 80; Фасмер, 1, 206; Рудніцкі, 191; Рыхардт, Poln., 36; Кюнэ, Poln., 46; Брукнер, 38; Слаўскі, 1, 41. Выходзіць, што гэта слова таго ж паходжання, што і *брак*$_1$, але развіццё семантыкі ішло markознымі шляхамі.

**Браканье'р.** Рус. *браконьéр,* укр. *браконьéр.* Запазычанне з франц. *braconnier* 'тс' (<*braconner* 'палявацьз сабакамі'). Падрабязна Шанскі, 1, Б, 187.

**Бра'каць** 'бразгаць, падаць, валіць' (Юрч., Гарэц.). Рус. *брякать,* укр. *брякати,* польск. *brzęk! brząkać,* ц.-слав. *брѧцати* і г. д. Слав. *bręk-* —аснова гукапераймальнага характару (**bren-k-*). Параўн. літ. *brìnkt* 'бах!' Бернекер, 84; Слаўскі, 1, 46; Праабражэнскі, 1, 44—45; Фасмер, 1, 225.

**Бра'кнуць** 'набухаць'. Рус. *бря́кнуть,* укр. *бря́кнути,* польск. *-brzękać* 'тс', славен. *-brękniti.* Слав. *bręk-* 'бракнуць, набухаць'. Роднаснае з літ. *brìnkti* 'тс', *brankà* 'набраканне' і г. д. Бернекер, 84; Траўтман, 36 (лічыць надзейным толькі параўнанне славянскіх і балтыйскіх моў); Фасмер, 1, 225.

**Бра'ма** 'вароты', укр. *брáма,* рус. дыял. *брáма.* Запазычанне з польск. *brama* 'тс' (ст.-польск. *brana, brama, brona, broma),* якое запазычана з чэш. *brána* 'тс' (а гэта да дзеяслова **borniti* 'абараняць'). Бернекер, 74; Брукнер, 38; Фасмер, 1, 206; Слаўскі, 1, 41; Рыхардт, Poln., 36; Рудніцкі, 192; Кюнэ, Poln., 46. Ст.-бел. *брама, брана, брона* < польск. *brama, brana, brona* (Булыка, Запазыч.).

**Бра'мка** 'штыфтык у стрэльбе, на які надзяецца пістон' (Некр., Арх. Бяльк., слонім.). Бясспрэчна, дээтымалагізаванае слова (асацыяцыя да *брáма, брáмка* 'вароты, фортка'). Па паходжанню тое ж самае, што і *брáнтка* (гл.) <польск. Краўчук, БЛ, 1975, 7, 66.

**Брандзо'вы** 'бурачковы (пра колер)' (Жд.). Запазычанне з польск. *brązowy* 'бронзавы колер'. Аб запазычанні сведчыць націск.

**Брандспо'йт.** Рус. *брандспóйт,* укр. *брандспóйт.* Запазычанне з гал. мовы (гал. *brandspuit*). Гл. Фасмер, 1, 207; Шанскі, 1, Б, 188.

**Бранзале'т,** таксама *бранзалéтка* (БРС, Касп., Інстр. 1.,

Сцяшк. МГ). Укр. *бранзолета, бранзоля.* З польск. *branzoleta, branzoletka* (якое Варш. сл., 1, 201 і Брукнер, 38, выводзяць прама з франц. *bracelet* 'тс'; няпэўна!), а гэта, паводле Рудніцкага, 194, з ням. *Branzolette* (дакладней, Рудніцкі лічыць, што было прамое запазычанне ўкр. слова з ням.). Сюды ж і *браслётка* 'бранзалет' (Сцяшк. МГ).

**Бра́ні'цы** 'каноплі без семя' (Мат. Гродз., ДАБМ, 869), *бра́ніцы* 'тс' (Сцяшк. МГ). Сюды, з метатэзай гукаў, *барніцы* 'тс' (Жд., Шчарб.). Да *браць* (тлумачэнне гл. у Даля).

**Брані'ць** 'лаяць', *браніцца* 'сварыцца, лаяцца' (Нас.). Відаць, з рус. *бранить, браниться.*

**Бра'нтка** 'брамка ў стрэльбе', 'штыфтык, на які надзяецца пістон' (БРС). Сюды ж і *бра́мка* (гл.) 'тс'. Запазычанне з польск. *brandka, brantka* 'тс' (<ням. *Brandröhre* або *Brandruthe,* Варш. сл. 1, 200). Укр. *бра́нтка* 'тс' <польск.<ням., Шалудзька, Нім, 22.

**Бранч'эць** 'брынкаць' (Касп.). Рус. *бренчать,* чэш. *brnčeti* і г. д. Да слав. *bręk-*. Гл. Фасмер, 1, 212. Але параўн. і польск. *brzęczeć.*

**Браня'.** Ст.-рус. *брънꙗ,* рус. *бро́ня́, бронь,* укр. *бро́ня,* **ст.-**польск. *brnia,* чэш. *brně,* ст.-слав. **брънꙗ** і г. д. Лічыцца славянскім запазычаннем з герм. моў: гоц. *brunjō,* ст.-в.-н. *brunnja* 'браня, панцыр'. Міклашыч, 23; Бренекер, 90; Праабражэнскі, 1, 46; Фасмер, 1, 217—218; Махэк$_2$, 67; Траўтман, 38.

**Брас** 'стыль плавання'. Рус. *брасс,* укр. *брас.* Запазычанне з франц. *brasse* 'тс' (а гэта да *bras* 'рука'). Падрабязна гл. Шанскі, 1, Б, 189.

**Браск** 'досвітак' (Мар. дыс.). Марозаў, там жа, лічыць, што гэта паланізм. Параўн. польск. *brzask* 'тс'. Хоць тэарэтычна *браск* можа быць і бел. словам (параўн. рус. *брезг* 'тс', *бре́зжит* 'світае', чэш. *břesk,* ст.-слав. **пробрѣзгъ** і г. д.— слав. **brězg-*; аб слав. словах гл. Фасмер, 1, 211), усё ж на бел. глебе яно ізаляванае (акрамя таго, у бел. мове было б *брэск*). Укр. дыял. *бряск* 'бляск' таксама з польск. (гл. Рыхардт, Poln., 37).

**Брат.** Ст.-рус. *братъ,* рус. *брат,* укр. *брат,* польск. *brat* (ст.-польск. *bratr*), чэш. *bratr,* ст.-слав. **братръ, братъ,** балг. *брат,* серб.-харв. *бра̏т* і г. д. Прасл. **bratrъ* (форма **bratъ* узнікла дысіміляцыяй двух *r*), старая аснова на *-er.* І.-е. **bhrāter-*: ст.-прус. *brāti,* літ. *brotẽrelis,* гоц. *broþar* (ням. *Bruder*), лац. *frāter,* грэч. φρᾱ́τηρ, ст.-інд. *bhrā́tar-* і г. д. Бер-

некер, 82; Траўтман, 36; Фасмер, 1, 207—208; Слаўскі, 1, 41; Трубачоў, История терм., 58 і наст.; Шанскі, 1, Б, 189—190.

**Братэ'рскі** 'брацкі', укр. *братéрський.* Запазычанне з польск. *braterski* 'тс' (*-r-* тут захоўваецца ў сувязі з ст.-польск. формай *bratr,* параўн. Слаўскі, 1, 41; ва ўсх.-слав. мовах форма з *-r-* тыпу *bratr* не існавала, гл. *брат).*

**Бра'ўнінг.** Рус. *брáунинг,* укр. *брáунінг.* Запазычанне з англ. мовы (англ. *browning* 'тс', ад імя яго канструктара *Browning'a*). Параўн. Шанскі, 1, Б, 191.

**Браха'ць** 'гаварыць няпраўду; гаўкаць'. Ст.-рус., ст.-слав. **брєхати** 'гаўкаць', рус. *брехáть,* укр. *брехáти,* польск. *brzechać* 'тс', славац. *brechat'* 'тс', балг. *брехам* 'сапці; рассмяяцца', серб.-харв. *брѐхати,* 'сапці, кашляць' і г. д. Слав. *brechati* (можа, гукапераймальнае). Лічаць роднасным з лат. *brèkt* 'крычаць, плакаць', ст.-в.-ням. *braht* 'шум', англ. *(to) bark* 'гаўкаць' і г. д. Бернекер, 83—84; Праабражэнскі, 1, 45; Фасмер, 1, 213; БЕР, 1, 78; Махэк$_2$, 66.

**Браці'шэк** 'паслушнік каталіцкага ордэна' (Нас.). З польск. *braciszek* 'тс'.

**Браць.** Ст.-слав. **бьрати берѫ,** рус. *брать,* укр. *брáти.* Польск. *brać,* чэш. *bráti,* балг. *берá,* серб.-харв. *брȁти* і г. д. Прасл. *bьrati berǫ* 'браць'; больш старажытнае значэнне 'несці, збіраць і да т. п.'. І.-е. **bhere-, *bherā-.* Роднасныя формы: ст.-інд. *bhárati* 'нясе', грэч. φέρω 'нясу', лац. *fero,* гоц. *baíra* 'тс' і г. д. Сюды ж слав. **ber-men* 'ноша' (>усх.-слав. **беремя).* Іншыя ступені вакалізму: *-bor (sъ-borъ* і да т. п.); **-birati (sъ-birati* і да т. п.). Бернекер, 51; Траўтман, 31; Праабражэнскі, 1, 42—43; Фасмер, 1, 159; Слаўскі, 1, 41 і інш.

**Бро'вар** 'вінакурня'. Укр. *брóвар.* Запазычанне з польск. *browar* 'тс' (параўн. *browarz* 'півавар') <ням. *Brauer.* Гл. Брукнер, 42; Фасмер, 1, 215; Бернекер, 88; Рыхардт, Poln., 37; Кюнэ, Poln., 46; Шалудзька, Нім., 23; Рудніцкі, 213 (указваюць таксама на с.-в.-ням. і н.-ням. крыніцу). Ст.-бел. *бровар* 'бровар, піваварня' вядома з XVI ст. (Булыка, Запазыч.). Бел. *брóвар* 'півавар' (Нас.) запазычана з польск. *browarz* 'тс'.

**Брог** 'стог сена на чатырох слупах і са страхой', таксама *брок* (Інстр. І, Бір. Дзярж., Жд.), ст.-бел. *брог, брок* 'стог, сцірта' (Булыка, Запазыч.). Запазычанне з польск. *bróg* 'тс' (а гэта ад прасл. **borgъ* 'тс' — аблаутнай формы да **bergti *bergǫ,* гл. *берагчы,* параўн. Слаўскі, 1, 44). Гл. Бернекер, 73. Бел. форма *абарóг* (укр. *оборіг).* Гл. яшчэ *брэх.* Таксама з польск. мовы ўкр. дыял. *брог* 'тс'. Параўн. далей Фасмер, 1,

216; Рыхардт, Poln., 36. Карскі, РФВ, 49, 10 (Труды, 389), памылкова тлумачыў *брог* з літ. *brãgas* (гэта з польск.).

**Брод** 'брод; забалочаная лагчына і г. д.' Рус. *брод,* укр. *брід*, польск. *bród,* чэш. *brod,* балг. *брод,* серб.-харв. *брôд* і г. д. Прасл. *brodъ* 'тс'. Аблаутная форма (як і дзеяслоў **broditi* 'брадзіць', гл.) да прасл. *bresti, bredǫ* (гл. пад *брадзіць).* Дакладныя адпаведнасці ў балт. мовах: літ. *brãdas* 'топкае месца, брод; лоўля рыбы', *bradà* 'водмель'. Бернекер, 88; Траўтман, 37; Фасмер, 1, 216; Слаўскі, 1, 44.

**Бро'днік** 'вярба' (Касп.). Рус. дыял. *бро́дни́к* 'вербавы хмызняк', 'кара вярбы'. Калі гэта не нейкія другасныя формы (параўн. бел. *брэд, брэднік,* рус. *бред, бреди́на* 'вярба'), то пацвярджаецца этымалогія Бернекера, 83, і Фасмера, 1, 210, пра сувязь назв. вярбы *(bred-)* з дзеясловам *bresti bredǫ* 'брадзіць'. Гл. *брэд₂*.

**Бро'іць** 'сваволіць, забаўляцца сваवольствам; дрэнна паступаць' (Нас., Гарэц.). Укр. *бро́їти* 'тс', польск. *broić,* чэш. *brojiti* 'неспакойна сябе весці, падбухторваць'. Слав. *brojiti* (у паўд. славян толькі ў значэнні 'лічыць'). Ітэратыўная форма да **briti* (гл. *брыць*) і старое значэнне 'рэзаць'. Слаўскі, 1, 43; Брукнер, 41; Махэк₂, 68. Ст.-бел. *броити* 'бясчынстваваць, сваволіць' Булыка (Запазыч.) лічыць паланізмам. Няпэўна. Параўн. Слаўскі, 43.

**Бро'мы** 'будынкі гандлёвых радоў' (Касп.). Запазычанне з польск. (ст.) *broma (brama)* 'вароты, уезд' (да паходжання польск. слова гл. *бра́ма).*

**Бро'нец** (дакладней *брани́ц,* параўн. рус. смал. *броне́ц*) 'дзераза гадавая, Lycopodium annotinum L.' (Кіс.). Рус. *броне́ц* 'тс'. Наўрад ці ёсць сувязь з дзеясловам *броне́ть* 'паспяваць, рабіцца колеру спеласці'. Ва ўкр. мове толькі форма *барене́ць;* таксама ў бел. мове *баране́ц* 'Lycopodium selago L.' (Кіс., 78). Можна лічыць, што рус. *броне́ц* (праўдзівей было б *бране́ц*) і бел. слова паходзяць з *б(а)ране́ц* (да *бара́н*). Расліна так названа за яе касматыя, кучаравыя галінкі.

**Бро'нза.** Запазычанне з ням. *Bronze* (або з франц. *bronze;* Фасмер, 1, 217), якое быццам з італ. *bronzo* (паходжанне яго не вельмі яснае). Гл. Фасмер, 1, 217; Праабражэнскі, 1, 46; Брукнер, 41. Падрабязна Клюге, 102; MESz, 1, 371.

**Бро'ніць** 'бараніць, забараняць і г. д.' (Нас.). Паланізм. Параўн. ст.-бел. *бронити* 'бараніць, абараняць' <польск. *bronić* (Булыка, Запазыч.).

**Бронь** ’зброя’ (Нас., Яруш.), ст.-бел. *бронь* (Булыка, Запазыч.). Запазычанне з польск. *broń* ’тс’ (да прасл. *bornь,* гл. Слаўскі, 1, 43—44). Таксама з польск. укр. *бронь.* Параўн. Рудніцкі, 216.

**Бро′сіць** ’кінуць’ (Бяльк., з песні). Русізм? Параўн. і Фасмер, 1, 218.

**Бро′сня** ’цвіль на вадзе’ (БРС, Бір. Дзярж., Сцяшк. МГ), *бросньʼ* (Нас., Чач.), *бро́снецьʼ* ’пакрывацца цвіллю’, таксама *браснéць* (Нас., Гарэц.). Дакладная адпаведнасць ва ўкр. мове (*бро́сня* ’Sporengehäuse’, і гэта слова Рудніцкі (218) лічыць вытворным ад *брость* ’пупышка на дрэве; зелень на дрэве’ <слав. *brъstь* ’пупышка, парастак’; да апошняга гл. Бернекер, 90; Фасмер, 1, 219) і польскай *(brośń;* гэта слова Брукнер (41) з няпэўнасцю параўноўвае з слав. *bronъ* ’светлы колер’, *broněti* ’паспяваць (аб збожжавых)’). Тлумачэнне Рудніцкага пераконвае, і можна толькі ўдакладніць, што бел. *броснь* — утварэнне ад *бро́снець* (<*бростнѣти*<**brъstь*). Развіццё значэння: *бро́снець*<**бростнѣти* (**brъstьněti*) ’пускаць парасткі, пупышкі, зелянець’→’зелянець’→’пакрывацца зеленню’→’броснець’. Тады польск. *brośń*—запазычанне з усх.-слав. (бел. або ўкр.), як і *brość* (з укр. *брость*). Параўн. яшчэ Міхневіч, БЛ, 1972, 1, 72.

**Бро′ўка** ’край’ (БРС, Шушк., Выг. дыс., Інстр. I). Рус. *бро́вка.* Лічыцца ўтварэннем ад *brъvь* ’брыво’. Параўн. Фасмер, 1, 215; падрабязней Шанскі, 1, Б, 199.

**Бро′хнуцца** ’кінуцца, паваліцца’ (Жд.), *бро́хаты* ’пляскаць, пляскацца; шлёпаць’ (палес., Клім.). Укр. *брьо́хати, брьо́хатися* ’тс’, таксама *бро́хати, -ся.* Паводле Рудніцкага, 228—229, гукапераймальнага паходжання, але яго параўнанне з *брйз(ь)кати* вельмі няпэўнае.

**Бро′шка.** Рус. *брошь, бро́шка,* укр. *бро́шка.* Запазычанне з франц. *broche* (можа, праз ням. *Brosche* <франц.; Фасмер, 1, 219). Падрабязна Шанскі, 1, Б, 202.

**Бруд** (Нас., Байк.-Некр.), *бру́дны.* Рус. *бруд,* укр. *бруд,* польск. *brud,* славац. *brud* і г. д. Слав. *brudъ.* Слова няяснага паходжання. Некаторыя параўноўваюць з славен. *brjûzga, brûzga* ’снег, змешаны з граззю’.Фасмер, 1, 219. Няпэўна. Параўн. яшчэ Бернекер, 88. Слаўскі (1, 44) думае, што ёсць сувязь з **bridъ* (гл. *брыдкі). Bridъ* і *brudъ* ад і.-е. **bher-* ’рэзаць’ (>’быць непрыемным’). Кюнэ (Poln., 46) лічыць, што ўсх.-слав. словы запазычаны з польскай мовы. Бернекер (88)

адносіць па паходжанню да *бруд* (<слав. **brudъ)* бел. *бруды* ’цёмна-русы’ (Нас.).

**Бруды** ’цёмна-русы’. Гл. *бруд*.

**Бру́дэр** ’няпэўны чалавек’, *бру́дэрка* ’сатаварышка; жанчына дрэнных паводзін’ (Нас.). З ням. *Bruder* ’брат’ (аргатычнае слова?). Таго ж паходжання і *бру́дэр* ’брудны, неахайны’, *бру́дэрка* ’брудная, неахайная’, якія асацыіраваліся з *бруд*.

**Бружме́ль** ’расліна Lonicera L.’ (Кіс.). Назва няяснага паходжання. *Бружме́ль* — гэта таксама ’брызгліна’. Відавочна, назва была перанесена з брызгліны на бружмель. Этымалогія слова *бружме́ль* няясная, ёсць шмат варыянтаў (гл. пад *брызгліна*). Вопыт этымалагізавання (няпэўны!), Махэк$_2$, 69 (пад *brslen* ’брызгліна’).

**Бружэліна** ’бружмель, сухадрэўка, Lonicera Xylosteum’ (КЭС). Адна з шматлікіх назваў бружмелі (гл.). Паколькі, магчыма, назва брызгліны пераносілася на бружмель, то *бружэліна,* відаць, кантамінацыя слоў *бружме́ль* і *брызгліна.*

**Брузда́цца** ’абліваццa ў час яды, неахайна есці’ (Бяльк.). Мабыць, гукапераймальнае. Параўн. рус. *бру́здить* ’бурчаць’ (да апошняга гл. Фасмер, 1, 219, які прыводзіць і літ. *bruzdu-liúoti)*. Да семантыкі параўн. *бурбо́ліць* ’булькаць; старанна есці, спяшацца’.

**Брузды́ль** ’пухір на целе’ (Бяльк.). Мабыць, гукаперай-мальнае, як і *брузда́цца* (гл.).

**Бру́знуць** ’шмат спаць; таўсцець, паўнець’ (Юрч.), *бру́зла* ’той, хто многа спіць; распаўнелы чалавек’ (Юрч.). Рус. *брю́згнуть* ’апухаць, набракаць’. Фасмер (1, 224) з няпэўнасцю параўноўвае з славен. *brjûzga* ’снег, як растае’. Бернекер (96), Праабражэнскі (1, 48), Шанскі (1, Б, 206) думаюць, што рус. словы *брюзга́*, *брюзжа́ть, брюзга́ть* маглі даць вытворнае са значэннем ’напухаць’ (параўн. слав. **bręk-* ’гучаць’; ’набухаць, набракаць’). Параўн. і *брусяне́ць* ’успухаць’ (гл.). Бел. *бру́знуць*<**бру́згнуць (*брузкнуць).*

**Бруі́цца** ’цячы, ліцца’; *бруі́ць* ’хутка цячы, пераліваццa’, *бруя́* ’хваля, цячэнне’ (Сцяшк. МГ); *бру́іць, бру́іцца* ’мачыцца’, *бруй* ’той, хто мочыцца’ (Нас.). Рус. дыял. *бруи́ть* ’хутка цячы; гучаць’; *бруя́* ’струмень’, укр. *бру́я* ’хуткае цячэнне ў рацэ; скразняк’. Польск. дыял. *bruić*. Польскае слова Варш. сл. (1, 212) лічыць запазычаннем з бел. мовы, а Бернекер, 88; Траўтман, 37; Фасмер, 1, 221; Брукнер, 42, **brujь, *brujati* па-

раўноўваюць з літ. *briáutis* 'напіраць сілай, лезці'. Параўн. яшчэ рус. дыял. *брýя* 'рабізна на вадзе', *бруя́ть* 'гучаць'. Можа, гукапераймальнае. Далей сюды належаць бел. *бруль* (=*бруй*), *брýліць* (=*брýіць*), *брулí* 'мача', гл. Нас. (Фасмер, 1, 221; Бернекер, 88), *бруя́к* 'водмель' (Касп.).

**Брук**$_1$ 'каменная маставая' (ст.-бел. *брук* з XVI ст.; Булыка, Запазыч). Укр. *брук* 'тс'. Запазычанне з польск. *bruk* 'тс' (дзе з ням. *Brücke* 'мост; брук'). Гл. Рудніцкі, 220; Бернекер, 89; Шалудзька, Нім., 23; Рыхардт, Poln., 37; Кюнэ, Poln., 46; Брукнер, 42.

**Брук**$_2$ 'самая быстрыня ракі' (Нас.). Рус. дыял. (смал.) *брук* 'пясчаная водмель у рацэ'. Мабыць, таго ж паходжання, што і *брук*$_1$ (гл.). Развіццё семантыкі: 'каменне'→'месца ў рацэ, дзе каменне'→'быстрыня'. Параўн. *брук* 'каменне' (Сцяшк.). Але не выключаецца, што *брук*$_2$ звязана з дзеясловам тыпу рус. дыял. *брýкать* 'гаварыць незразумела' (гукапераймальнае). Параўн. укр. *белебéнити* 'балбатаць', *бéлебечь* 'глыбокае месца ў рацэ'.

**Брукаць,** *брукавáць* 'буркаваць (аб галубах)' (Дзмітр., Шат., Сцяшк. МГ, Яруш., Сцяц.), *бруку-бруку* (так перадаюць буркаванне галубоў — Сцяц.). Параўн. рус. *брýкать* 'незразумела гаварыць', укр. *брýкати* 'буркаваць (аб галубах)', *брýкý*! (выклічнік, што перадае буркаванне галубоў). Словы гукапераймальнага, выклічнікавага паходжання. Параўн. яшчэ укр. *аврýкати* 'буркаваць'. Тыповае спалучэнне губных (*б, в*) з санантам (*-р-*). Гл. яшчэ *бурчáць, бурчэ́ць, бýркаць, буркавáць* і г. д. (усё пад *бурчáць*).

**Бру′ква.** Гл. *брýчка.*

**Бру′кі** 'верхнія мужчынскія штаны' (ДАБМ, 930). Мабыць, запазычанне з рус. мовы (а там з н.-ням. *brôk* або гал. *broek;* усё з лац.—гальск. *brāca*). Фасмер, 1, 224; Праабражэнскі, 1, 49; Шанскі, 1, Б, 206.

**Бру′ліць** 'мачыцца', *бруль, брулí.* Гл. *бруíцца.*

**Бруне′т.** Рус. *брюнéт,* укр. *брюнéт.* Запазычанне (бел. і ўкр., можа, праз рус. мову) з франц. *brunet* (< *brun* 'карычневы'). Падрабязней гл. Шанскі, 1, Б, 207.

**Брунта** 'частка збруі'. Запазычанне з літ. *brañ(k)tas* 'тс' (дакладней, з дыял. аукштайтскай формы, дзе *-an->-un-*). Гл. Урбуціс, Baltistica, V (1), 51.

**Бру′нькі** 'шэрсць дрэннай якасці, знятая з ног і галавы авечкі' (Улад.). Відаць, укр. паходжання. Параўн. укр. *брýнь-*

*ка* 'пупышка на дрэве' (мае дакладную адпаведнасць у балг. мове: балг. *бру́нка* 'пупышка на дрэве', параўн. Краўчук, ВЯ, 1968, № 4, 129). Развіццё семантыкі 'пупышка'→'катылёк' (першапачаткова 'шэрсць у катыльках, зваляная').

**Брунэ'лька** 'расліна чарнагалоў, Prunella L.' (Кіс.). Запазычанне з польск. *brunelka* 'тс' (а гэта з лац. яе назвы *Prunella,* раней *Brunella,* параўн. Нейштадт, Определитель, 467). Варш. сл., 1, 213, дае для польск. слова крыніцу ням. *Braunelle* 'тс' (але ням. слова, бясспрэчна, з лац., параўн. ням. *braun*<*brūn* 'фіялетавы' <лац. *prūnum,* гл. Клюге, 97). Параўн. *бурнэлька.*

**Брус,** *брусо́к*. Рус. *брус, -ок,* укр. *брус* і да т. п., польск. *brus*, чэш. *brus*, балг. *брус*, серб.-харв. *бру̑с* і г. д. Слав. **brusъ* 'брус; тачыльны камень'. Аблаутная форма да **brъs-* (параўн. ц.-слав. *бръснѫти* 'скрэбці, брыць'). Далей параўноўваюць літ. *braũkti* 'выціраць і да т. п.'; ст.-ісл. *brýna* 'тачыць' і інш. Бернекер, 91; Праабражэнскі, 1, 42; Брукнер, 42; Фасмер, 1, 220; Слаўскі, 1, 45 (**bhrou-k̑-* 'церці, здзіраць'); Махэк₂, 68 (іншая версія). Булыка (Запазыч.) лічыць ст.-бел. *брус* паланізмам. Няпэўна.

**Брусі'ць** 'трызніць' (Касп.). Няясна. Параўн. рус. *бруси́ть* 'гаварыць незразумела; трызніць; ілгаць; балбатаць; п'янстваваць; гарэзнічаць'.

**Брусле'т** 'бранзалет' (Бяльк., Сцяшк. МГ, Бел. казкі). Таго ж паходжання, што і рус. *брасле́т,* польск. (архаічнае) *braselet* і да т. п. Запазычанне з франц. *bracelet* (<*bras* 'рука'). У бел. народную мову слова папала праз рус. або польск. крыніцу. Параўн. *бранзалёт.*

**Брусне'ць** 'чырванець; загараць', *брусне́лы*. Гл. *брусні́ца.*

**Бруснікі'** 'дружкі жаніха' (Інстр. II), *бру́снік* 'тс' (Шат., Дзмітр.). Як думае Дзмітрыеў (там жа), ад *брус, брусок*: *«острящий хорошо, так и брусник отлично умеет острить языком и устранять препятствия».*

**Брусні'ца.** Рус. *брусни́ка,* укр. *брусни́ця,* польск. *brusnica,* чэш. *brusnice* і г. д. Слав. **brus-* 'брусніца' тлумачыцца як этымалагічна звязанае з *брус* (гл.), **brъs-nǫti* 'здзіраць', **brusiti* 'гладзіць, тачыць' (ягады брусніцы быццам лёгка зрываюцца). Як семантычную паралель параўн. ням. *Streichbeere* (да *streichen* 'гладзіць'). Бернекер, 90; Траўтман, 36; Праабражэнскі, 1, 47; Фасмер, 1, 221; Махэк₂, 70 (апошні лічыць назву «праеўрапейскім» словам). Форму *брушні́ца*

**'брусніца'** (Сяшк. МГ., Нас., Бяльк.) Кюнэ (Poln., 46) лічыць запазычаннем з польск. *bruszniса*. Да слав. **brusьnica* 'брусніца' Бернекер (90) адносіць па паходжанню і бел. *бруснéць* 'чырванець; загараць', *бруснéлы* 'чырванаваты; загарэлы' (Нас.). Гл. яшчэ Лучыц-Федарэц. Бел.-рус. ізал., 64.

**Брусяне́ць** 'успухаць' (Юрч.). Рус. *брюзг-*, бел. *брузг-* 'апухаць, набракаць' (гл. бел. *брýзнуць*). На бел. глебе *брузг-* пераходзіць (фанетычная з'ява) у *брузк-* і далей у *бруск-*. Адсюль нейкім чынам (напр., з **бруснуць*<**брускнуць*) стварылася новая аснова *брус-* 'бракнуць', якая і дала дзеяслоў *брусянéць*.

**Брух** 'жывот, страўнік' (Др.-Падб., Сцяшк. МГ). Зыходзячы з формы слова, запазычанне з польск. *brzuch* 'тс'. Параўн. *брýха* (там і літ-ра). Параўн. таксама і ст.-рус. *брюхъ* (паралельна да *брюхо*), якое можа сведчыць супраць версіі пра запазычанне.

**Бру́ха** 'жывот' (Шат., Сцяшк. МГ). Ст.-рус. *брюхо, брюхъ*, рус. *брю́хо*, укр. *брýхо*, польск. *brzuch*, чэш. *břicho*, *břich* (ст.-чэш. *břucho, břuch*) і г. д. Слав. **br'ucho* (**br'uchъ*) 'жывот'. Этымалогія не вельмі надзейная: лічаць, што першапачатковае значэнне 'выпукласць', і параўноўваюць з с.-в.-ням. *brûsche*, ням. *Brausche* 'шышка', гоц. *brusts* 'грудзі', ст.-ірл. *brú* 'жывот' і г. д. Слав. **br'ucho*<*bhreu̯-s-*. Бернекер, 95; Праабражэнскі, 1, 49; Фасмер, 1, 225; Слаўскі, 1, 47.

**Брухе́ль** 'празмерна тоўсты чалавек' (Янк. Мат.). Параўн. *брухмель*. Аднак суфіксацыя ў слове *брухéль* не зусім звычайная, таму не выключаецца, што яно можа быць іншага паходжання — запазычаннем, якое было фармальна адаптавана праз асацыяцыю з *брухам*. Параўн. польск. *burchel, burchla, purchel, purchla* 'гуз, пухір на целе'; 'мяккая скурка яйца'; 'яйцо, знесенае без цвёрдай шкарлупіны' (гэта слова Варш. сл., 1, 236, параўноўвае з *purchawka*).

**Брухіта́ць** 'таптаць' (Сцяц.). Параўн. рус. *бруха́ть* 'біць, таптаць, пэцкаць', этымалогія якога не вельмі ясная. Гл. Фасмер, 1, 221.

**Брухме́ль** 'чалавек з тоўстым жыватом' (КЭС, лаг.), *брухéль* 'празмерна тоўсты чалавек' (Янк. Мат.). Бясспрэчна, экспрэсіўныя формы да *брýха* 'жывот'. Прынамсі *брухмéль* сустракаецца, напр., у рус. гаворках (таксама ў форме *брюхмель*!) як назва брызгліны. Можна меркаваць, што назва расліны (ягад) тыпу *брухмéль* нейкім чынам асацыіравалася з *брýха* 'жывот' (аб гэтым сведчыць форма *брюхмель* у рус.

гаворках) і была перанесена на тоўстага, брухатага чалавека. Гл. яшчэ *брухе́ль*.

**Бру'чка** (шмат іншых назв., гл. ДАБМ, № 276), *бру́ква*. Рус. *брю́ква, бру́ква,* укр. *бру́ква,* польск. *brukiew,* чэш. *brukev.* Зыходнае, магчыма, **bruky* (род. **brukъve*). Запазычанне з н.-ням. *wrûke (Wrûke, Brucke)*. Брукнер, 42; Праабражэнскі, 1, 48—49; Фасмер, 1, 224; Махэк$_2$, 69.

**Брушні'ца.** Гл. *брусніца*.

**Брушты'н.** Гл. *бурштын*. Фанетычна варыянт *брыштын* узнік з *бурштын* як вынік дыялектнага спрашчэння групы *-ршт-* (якая была цяжкай для вымаўлення).

**Брыво',** *брыва́* (Касп., Бяльк., Бір. Дзярж.). Рус. *бровь,* укр. *брова́,* польск. *brew,* чэш. *brva,* ст.-слав. **бръвь,** серб.-харв. *о̏брва.* Прасл. **bry* (родн. скл. **brъve*). І.-е. **bhrū-s* 'брыво' (:**bhreu̯-*). Параўн. літ. *bruvìs,* грэч. ὀφρῦς, ст.-інд. *bhrū́ṣ,* ст.-англ. *brú,* ст.-в.-ням. *brāwa* (ням. *Braue, Augenbraue*). Бернекер, 91; Траўтман, 38; Слаўскі, 1, 42; Фасмер, 1, 215.

**Брыг** 'від судна'. Рус. *бриг,* укр. *бриг.* Запазычанне з ням. *Brigg* або англ. *brig* (<італ. *brigantino*). Праабражэнскі, 1, 45; Фасмер, 1, 213; Клюге, 100. Гл. яшчэ Шанскі, 1, Б, 195.

**Брыга'да.** Рус. *брига́да,* укр. *брига́да.* З польск. *brygada* (або ням. *Brigade*) <франц. *brigade* <італ. *brigata* 'тс'. Праабражэнскі, 1, 45; Фасмер, 1, 213; Шанскі, 1, Б, 196.

**Брыгва'** 'непраходнае балота' (Яшкін). Няясна. Хутчэй за ўсё (параўн. значэнне слова) з *дрыгва́* 'тс', на якое аказала ўплыў нейкая іншая назва.

**Брыд$_1$** 'чад' (Сцяшк. МГ), 'дым у лазні, чад' (Бяльк.). Рус. дыял. (зах.) *брид* 'дым', *брида* 'едкі дым'. Гл. *брыдкі*. Аснова гэта абазначала розныя непрыемныя з'явы (у тым ліку халодны, рэзкі вецер, паветра і г. д.). У дадзеным выпадку адбылася лексікалізацыя ў адным пэўным значэнні.

**Брыд$_2$** 'рабро дошкі'. Гл. *брыж$_1$*.

**Бры'дкі.** Рус. (зах.) *бридко́й* 'рэзкі вецер', укр. *бридкий* 'дрэнны, агідны, брыдкі', польск. *brzydki,* чэш. *břidký* (ст.) 'рэзкі; агідны', ст.-слав. **бридъкъ,** серб.-харв. *бри̏дак* 'вострры, рэзкі' і г. д. Прасл. **bridъkъ*<**bridъ* (а гэта ўтварэнне суфіксам *-d-* ад **bri-* 'брыць, рэзаць', гл. *брыць;* і.-е. **bher-* 'рэзаць вострым'); Бернекер, 86; Мейе, Études, 325; Слаўскі, 1, 47; Брукнер, 46; БЕР, 1, 78. Іншая версія (услед за Нідэр-

манам, IF, 37, 145 і наст.; Гуерам, LF, 44; 226) у Махэка$_2$, 73: роднаснасць з ням. *bitter* 'горкі' *(*bhid-ró-s);* у славян розныя метатэзы (непераканаўча).

**Брыды́** 'канцы клёпак ля дна кадушкі і да т. п.' (Касп.). Таго ж паходжання, што і *брыд*$_2$ 'рабро дошкі' (гл.). Да слав. **bridъ* (гл. *бры́дкі*) у яго першасным значэнні 'востры'. Параўн. яшчэ *брыж*$_1$, *брыд*$_2$, *брэд. Брыды́* — семантычны архаізм, як і іншыя словы гэтага рада.

**Брыж**$_1$ 'рабро дошкі' (Інстр. II, таксама *брыд),* 'востры край, вугал граняў' (Нас., Бяльк., Гарэц.). Лаўчутэ (Лекс. балтызмы, 18—19) лічыць, што гэта словы (толькі беларускае) на слав. глебе не этымалагізуецца і таму з'яўляецца запазычаннем з балт. моў (літ. *brỹžis* 'рыса, лінія'; да літ. слова гл. Фрэнкель, 1, 56). Этымалогія, бясспрэчна, няправільная. У гэтым жа значэнні ўжываецца і *брыд*. Як вядома, слав. **bridъ* (утворанае суфіксам *-d-* ад **bri-ti)* азначала і 'вострыʼ. Параўн. рус. дыял. *бри́дкий, бри́ткий* 'вострыʼ (пра інструменты), ст.-чэш. *břidký* 'вострыʼ (*břidký meč),* чэш. *břitký* 'тс', серб.-харв. *бри̏дак* 'вострыʼ (*бритка сабља*) і г. д. (прыклады гл. Бернекер, 86; Гебаўэр, Sl. stč., 103; Махэк$_2$, 73; Слаўскі, 1, 47). *Брыж* з'яўляецца *j*-вым варыянтам да *брыд* 'тс' (адносна форм на *-j-* параўн. славен. *brîja (*bridja)* 'горкасць'). Параўн. яшчэ *брыды́* 'канцы клёпак' (гл.), *брэд* 'вастрыё нажа' (гл.). Сюды ж, напэўна, і *брыж* 'венца посуду' (Лысенка СПГ). Гл. Краўчук, Бел.-рус. ізал., 60.

**Брыж**$_2$ (род. *брыжа́*) 'спінка ў ложку' (КЭС). Відавочна, таго ж паходжання, што і *брыж*$_1$ (гл.): 'вострыкрай'→'рабро'→'спінка'.

**Брыж**$_3$ 'выступ у коміне, на які што-небудзь кладуць' (Інстр. I). Не вельмі лёгка рашыць, куды адносіцца гэта слова: да *брыд* 'вострыкрай дошкі' (гл. *брыж*$_{1, 2}$) ці да *брыж* 'складка' (гл. *брыжы*$_1$). Хутчэй за ўсё *брыж*$_3$ адносіцца да *брыжы* 'складкі, бардзюр' (<польск.), таму што і ў польск. мове *bryże* азначаюць розныя выступаючыя прадметы (гл. Варш. сл., 1, 216).

**Бры́жчык** 'самае буйное зерне'. Гл. *бры́зак*.

**Бры́жы** 'рабізна на вадзе' (палес., Клім.). Укр. *бри́жі* 'тс'. Метафарычнае ўжыванне слова *брыжы́* 'складкі, карункі' (гл.), якое дало шмат семантычных вытворных. Параўн. *брыжы́*$_2$.

**Брыжы́**$_1$ 'жабо, бардзюр; зубчаты ніз жаночай адзежы, карункі і г. д.'; 'край тканіны'; таксама *брыж* (БРС, КЭС,

лаг., Бяльк., Бір. Дзярж., Касп.), *брыжыкі* (Гарэц., Жд., Нас.). Рус. *брыжи*, укр. *брижі* 'тс'. Запазычанне з польск. *bryże* 'тс' (а гэта з ням. *Fries* 'фрыз'; Брукнер, 43; Праабражэнскі, 1, 47). Мацэнаўэр (Cizí sl., 121) выводзіць з ням. *Breis(e)* 'аздабленне на рукаве'. Гл. Фасмер, 1, 221—222.

**Брыжы́₂** 'свіны кішэчны тлушч' (Вешт.). Укр. *брижі* 'аборачкі каля тонкіх кішак'. Усё да *брыжы* 'складкі, карункі' (гл.); метафарызацыя. Ва ўкр. мове першая ступень метафары. Палес. *брыжы* 'свіны кішэчны тлушч' — далейшае развіццё семантыкі.

**Бры́зак** 'адборныя зярняты; самы дробны дождж' (Нас.), *брызачка* 'кропелька, зярнятка, самая дробная частачка' (Нас.). Бел. *брызак*<*брызг* (гл. *брызкаць*). Параўн. рус. *брызг* 'найлепшыя зярняты', *кафтан з брызгу* 'новы, прыгожы кафтан'. Сюды і іншая форма слова — *брыжчык* 'самае буйное і важкае зерне' (Бяльк.) <*брызчык*.

**Брызглі́на** 'расліна Evonymus L.', *бразгуліна, брызгуліна, брызгеліна* (Кіс., Інстр. II, 68), *бружмель, бружмень, бруслён, бружэль* і г. д. (Кіс.). Рус. *бересклет, бересдрень, брусклён, брусклет, бружмель, бруслина* і г. д., укр. *бересклет, бруселина, бруслина, брузлелина, бружмель, бересклен, бружлевина* і г. д. Чэш. *brsniel, brslen,* польск. *przmiel, przmielina,* харв. *bršlenka* і г. д. Вельмі цёмнае слова. Відавочна, былі кантамінаваныя этымалагічна розныя назвы (напр., *бяроза, бераст, брусніка*). Няясная і праформа: **bersk-*, **bьrsk-?* Гл. Фасмер, 1, 156. Няпэўны вопыт этымалагізавання Махэк, Jména rostl., 141—142.

**Брызгу́ль** 'палачка для вязкі снапоў'. Запазычана з літ. мовы. Параўн. літ. *bruzgùlis* 'дубінка'. Гл. Смулкова, Лекс. балтызмы, 40; аб літ. слове гл. Фрэнкель, 1, 60. Сюды ж *брызгуль* 'дзеравяны гаплік' (Сцяшк. МГ).

**Брызе́нт.** Рус. *брезент*, укр. *брезент*. Бел. і ўкр. словы з рус. мовы (дзе з гал. *presenning* <франц.; параўн. ням. *Present*). Падрабязна Фасмер, 1, 211.

**Бры́зкаць** 'пырскаць' (Шат., Гарэц.). Рус. *брызгать*, укр. *бризкати*, польск. *bryzgać*, балг. *бръзгам* і г. д. Прасл. **bryzg-* 'пырскаць'. Параўн. лат. *brūzgat, brùzgât* 'пырскаць', *brùzgas* 'бурбалкі пены', літ. *bruzgė́ti* 'шумець, клекатаць' і г. д. Першапачаткова гукапераймальнае. Гл. Бернекер, 93—94; Праабражэнскі, 1, 48; Брукнер, 43; Фасмер, 1, 222; Фрэнкель, 1, 57; Слаўскі, 1, 45. Сюды ж *брызкуль* 'халодны дожджык' (Янк. II).

**Брызку'ль** 'халодны дожджык'. Гл. *брызкаць*.

**Бры'зы.** Відавочна, тое ж самае, што і *брыжы*₁ 'карункі і да т. п.' (гл.): *«Oj zahrájcie, muzýki, U minié brýzy wieliki! Bo mnie tátko kupíu, Kab dwarák palubíu»* (Федар. VI). Запазычанне з польск. *bryzy, bryz* (а гэта паралельная форма да *bryże* 'карункі і г. д.' <ням., гл. Варш. сл., 1, 216).

**Бры'ка** 'воз для сена і снапоў' (Арх. Бяльк., слонім., Бяльк.), 'від воза' (Касп.). Рус. дыял. *брика, брыка*, укр. *брика*. З польск. *bryka* 'тс' (дзе новаўтварэнне ад *bryczka*). Гл. Фасмер, 1, 214, 215, і *брычка*₁.

**Брыка'ць**, *брыкацца*. Рус. *брыкать, -ся* (дыял. *брыкать* 'кідаць'), укр. *брикати, -ся*, польск. *brykać*. Слав. (дыял.) **brykati* 'тс' (таксама, можа, 'кідаць'). Слаўскі (1, 45) лічыць, што гэта, магчыма, ітэратыў да **brъkati* 'брыкаць, кідаць і да т. п.' (параўн. славен. *bŕkati*, серб.-харв. *бркати*). Іншыя версіі не вельмі пэўныя. Бернекер, 93; Брукнер, 43; Праабражэнскі, 1, 48; Фасмер, 1, 222; Слаўскі, 1, 45.

**Брыке'т.** Рус. *брикет*, укр. *брикет*. Новае запазычанне з франц. *briquette* 'тс' (<*brique* 'цэгла'). Шанскі, 1, Б, 197.

**Бры'ла** 'глыба'; *брыля* 'валік зямлі' (Жд.). Укр. *брила* 'глыба, вялікі кусок; скала і г. д.', польск. *bryła*. Цёмнае слова. Смешак (MPKJ, IV, 391—393) зыходзіць з і.-е. **bher-* 'біць, рэзаць': **bhrū-lā*. Параўн. яшчэ Слаўскі, 1, 45 (падтрымлівае гэту версію); Рудніцкі, 207 (сумняваецца). Паводле Бернекера, 93, няяснае слова. Адносна магчымай роднаснасці з літ. *brilà* 'вялікі кусок і г. д.' гл. Фрэнкель, 1, 58.

**Брылёк** '1/100 вядра' (Інстр. III), «особого рода рюмка, вроде небольшого стакана с разогнутыми вверху краями, вместимостью 1/100 ведра; служит меркою водки» (Мядзв.). Рус. (Дон) *брылик* 'від пасудзіны'. Ад *брыль* 'галаўны ўбор' (па падабенству, гл. СРНГ, 3, 217 пад *брыль*: этымалогія Папова, 1855 год).

**Брыль**₁ 'казырок летняй шапкі; шляпа' (Касп., Бяльк., Бір. Дзярж., Шн., Гарэц., Інстр. I, Тарн., Маш., БРС, КЭС, лаг., Мядзв.). Укр. *бриль*. Запазычанне з польск *bryl* 'тс' (якое лічыцца запазычаннем з італ. *ombrello* 'парасон'; Варш. сл., 1, 215). Рыхардт, Poln., 37; Фасмер, 1, 214; Рудніцкі, 208 (лічыць, што польск. *bryl*<укр.<італ.?); Бернекер, 93.

**Брыль**₂, *брылёк* 'невялікі выступ над жаралом печы' (Янк. Мат., Шушк., Інстр. I), 'карніз' (Шат.). Відавочна, ме-

тафарызацыя да *брылы*₁ (гл.): 'брыль, казырок'→'казырок, навес'→'навес, выступ'.

**Брылья́нт**. Рус. *бриллиа́нт, брилья́нт,* укр. *брилья́нт*. Запазычанне (магчыма, праз ням. *Brillant*) з франц. *brillant* (літаральна 'бліскучы'). Праабражэнскі, 1, 45; Фасмер, 1, 214; Шанскі, 1, Б, 197—198.

**Бры́на** 'вільгаць, вада' (*У склепе адна бры́на* — Сцяшк. МГ). Цёмнае слова. Можа, мае нейкія адносіны да рус.-ц.-слав. *брение* 'гліна, гразь', ст.-серб.-харв. *брна* 'гразь', славен. *bȓn* 'рачны іл' (аб гэтых словах гл. Фасмер, 1, 212). Але хутчэй за ўсё да слав. **brьněti* 'налівацца, паспяваць' (гл. *брыня́ць*), асабліва параўн. яго значэнне 'разбухаць'. З гэтага апошняга, відаць, і трэба зыходзіць: 'разбухаць (ад вільгаці)'→'рабіцца вільготным'→'вільгаць'. Пра сувязь дзеяслова *набрыня́ць* 'набухнуць' з *бры́на* думаюць Арашонкава і інш., Весці АН БССР, 1972, № 1, 80.

**Бры́ндаць** 'хадзіць, шлёпаць' (БРС), 'бадзяцца' (Яўс., Нас., Бяльк.), *брындацца* 'боўтацца, таўчыся без толку' (КЭС), параўн. яшчэ *бры́нда* 'валацуга' (Нас., Бяльк., Янк. Мат.), 'гультай' (Касп., Нас.), *бры́нды біць* 'хадзіць без справы, лодарнічаць' (Янк. БП). Карскі (Труды, 394) *бры́нда* 'валацуга' і *бры́ндаць* 'бадзяцца' выводзіў з няпэўнай літ. крыніцы (адносна гэтага гл. Урбуціс, Baltistica, V (1), 1969, 50). Параўн. яшчэ ўкр. дыял. *бре́ндати, брендо́лити* 'бадзяцца'. Брукнер (43) зыходзіў з ст.-польск. *bryndy* 'дарагая жаночая вопратка', *bryndować się* 'прыгожа апранацца' (адсюль быццам бел. *брынды біць,* укр. *бринди бити,* далей *бры́нда* 'валацуга'). Фасмер (1, 222—223) прыводзіць рус. дыял. *бры́нды* 'шырокія рукавы', *бры́ндик* 'гультай', *бринжиба́й* 'тс' і параўноўвае гэта з польск. *brynda* 'жарт, балаўство', *bryndzić się* 'манернічаць'. Няясна. Укр. *бре́ндати* (resp. бел.?) Рудніцкі, 201 (услед за Шэрэхам, ZfslPh, 23, 146 і іншымі), выводзіць з *брести́* з арго-суфіксам *-н-* (і пад уплывам *пле́нтатися* 'валачыцца, цягнуцца').

**Бры́нды** 'аборкі ў шырокіх рукавах' (Гарэц.), 'абрыўкі на абрубцы, аблямоўцы вопраткі, на падоле' (КЭС), *бры́нда, бры́нджа* 'аборка' (Касп.), *бры́нды* 'шырокія фалды, складкі', *бры́нджы, бры́нжы, брындзю́лька* (Бяльк.). Рус. дыял. (зах.) *бры́нды* 'шырокія рукавы сялянскага святочнага адзення'. Этымалогія Фасмера, 1, 222—223 (услед за Бернекерам, 93), зусім не пераконвае (гл. *бры́ндаць*). Лепш Брукнер, 43, які зыходзіў з ст.-польск. *bryndy* 'дарагая жаночая вопратка',

*bryndować się* 'прыгожа апранацца', але першакрыніца слоў застаецца невядомай.

**Бры'нза,** таксама *брындза* (Маш., Вешт.). Рус. *брынза, брындза* 'сыр з авечага малака', укр. *бринза, бриндза,* польск. *bryndza,* чэш. *brynza* і г. д. Першакрыніцай з'яўляецца рум. *brînză* 'тс'. У бел. мову слова папала, відаць, праз укр. або польск. мову. Рум. слова распаўсюдзілася ў многіх еўрапейскіх мовах, але яго паходжанне застаецца невядомым. Брукнер, 43; Бернекер, 93; Шалудзька, Rum., 128; Рудніцкі, 208; Чаранэску, 105; Крынжалэ, 221 і наст. Гл. яшчэ Кніежа, 109. Вельмі падрабязна і з вялікай літ-рай MESz, 1, 370. Параўн. яшчэ (спецыяльна пра бел. слова) Врабіе, Зб. Расэці, 993 і наст.; ён жа, RomSl., XIV, 134.

**Брынзялі'** 'лахманы, ніткі'. Гл. *брэндзал.*

**Брыні'ты** 'свярбець (аб ране)' (палес., Клім.). Таго ж паходжання, што і *брыняць* 'набухаць' (гл.). Па сваёй форме *брыніты* дакладна адлюстроўвае **brьněti,* а па значэнню вельмі блізкае да *брыняць.* Гэта даказвае, што і *брыняць* таксама можа паходзіць ад **brьněti.*

**Бры'нкаць.** Укр. *бриньчати, бренькати,* рус. *бренчать,* чэш. *brnčeti,* польск. *brzęczeć,* серб.-харв. *бренкати* і г. д. Гукапераймальнага паходжання. Параўн. Бернекер, 84; Слаўскі, 1, 46. Гл. яшчэ *бракаць.* Вельмі падрабязна Брукнер, 44—45.

**Брыня'ць** 'набухаць'. Здаецца, беларускае новаўтварэнне да слав. **brьněti*: укр. *бреніти, бриніти* 'гучаць; цвісці, красавацца', ст.-польск. *brznieć* (польск. *brzmieć*), чэш. *brněti* і г. д. 'гучаць'. Як заўважыў Брукнер, 45, словы, якія азначаюць гучанне, гук, часта азначаюць і набуханне. Параўн. слав. **bręk-* (гукапераймальная аснова) і **bręk-* 'набухаць' (гл. *бракнуць*), польск. *brzmieć* 'тс', але *nabrzmiały* 'набухлы'. Бел. *брыняць* <**brьněti* (развівалася, можа, пад польск. уплывам?). Адсюль і *брына* 'цвіль' (гл.).

Сюды адносіцца і *абрыняць* (гл.) 'напухнуць, азызнуць' (гл. Мартынаў, БЛ, 1972, 2, 74).

**Брыско'тлівы** 'золкі' (Сцяц.). Можа, да слав. **brězg-* 'кіснуць, быць горкім, пакрывацца цвіллю і да т. п.' (рус. *брезгать,* укр. *збрезкнути* 'скіснуць', польск. *brzazg* 'непрыемны смак', чэш. *břesk*; аб гэтай групе слоў гл. Бернекер, 85; Праабражэнскі, 1, 44; Фасмер, 1, 211). Але можна думаць і пра сувязь з *брызкуль* 'халодны дожджык', *брызак* 'самы дробны дождж' (гл.).

**Брысці′**. Рус. *брестú,* укр. *брестú,* чэш. *břísti,* польск. *brnąć (*brьdnǫti),* славен. *brésti* і г. д. Прасл. **bresti *bredǫ* 'тс' мае дакладную адпаведнасць у літ. *brìsti bredù*. Іншая аблаутная форма — **brod-* (гл. *брод* і *брадзíць,* там і літ-ра). Але ст.-бел. *бринути* 'брысці' запазычана з польск. *brnąć* (гл. Булыка, Запазыч., 43).

**Брысь**$_1$ 'выклічнік для адгону ката', *брысюга* 'тоўсты кот' (Гарэц.). Рус. *брысь* 'тс'. Гукапераймальнае ўтварэнне (гл. Праабражэнскі, 1, 48; Фасмер, 1, 223). З іншага боку, думаюць пра паходжанне ад дзеяслова рус. *брыснуть* 'адагнаць кошку' (Шанскі, 1, Б, 205; <*бросать, брыкать, брызгать*). *Брысюга* 'тоўсты кот', можа, адносіцца і да *брысь*$_2$ (гл.).

**Брысь**$_2$ 'здаравяка-лайдак' (Яўс.), 'здаровы, але гультаяваты чалавек' (Юрч.), 'здаравяка; моцны, мажны мужчына' (Гарэц.), 'здаровы, чырванатвары чалавек' (Сцяц.), 'чырвоны, як брысь' (Др.-Падб.). Запазычанне з польск. *bryś* (памяншальнай формы да *brytan* 'сабака англійскай пароды', гл. Брукнер, 43). Да семантыкі параўн. *брытáн.*

**Брысю′га** 'тоўсты кот'. Гл. *брысь*$_1$.

**Брыта′н** 'сабака англійскай пароды', 'таўсцяк' (Нас.), 'чалавек моцнага складу' (Клім.). Параўн. укр. *бритáн* 'бульдог, парода вялікіх сабак'. Усё гэта запазычанне з польск. *brytan* 'сабака' (першапачаткова 'брытанскі, англійскі сабака', гл. Брукнер, 43). Адсюль пераносна 'таўсцяк, моцны чалавек', гл. Кюнэ, Poln., 46. Параўн. *брысь*$_2$.

**Брыта′ць**$_1$ 'закілзаць' (Шпіл., Нас.). Рус. *бротáть, забротáть,* укр. *бротáти* 'тс'. З **брътати* (<**о-брътати* <**об-рътати* да прэфікса *об-* і *ротъ* 'рот'). Бернекер, 92; Ільінскі, РФВ, 70, 274; Ваян, RÉS, 22, 9; Фасмер, 1, 219. Параўн. *аброць.*

**Брыта′ць**$_2$ 'заблытваць (ніткі)' (Сцяц.). Відавочна, таго ж паходжання, што і *брытáць*$_1$ (гл.). Магчыма, не без уплыву дзеяслова *блытаць* (гл.). Але не выключаецца, што *брытáць* 'блытаць, заблытваць' <*блытаць* (з нерэгулярным *-р-* замест *-л-*: параўн. *брагáць* <*благáць*).

**Бры′тва** (БРС, Бяльк., Сцяшк. МГ). Укр. *брúтва,* рус. *брúтва,* польск. *brzytwa,* чэш. *břitva,* ст.-слав. **бритва**, балг. *брúтва,* серб.-харв. *бр̏итва* і г. д. Прасл. **britva* 'тс' (утварэнне суфіксам *-tva* ад дзеяслова **briti,* гл. *брыць*). Гл. Слаўскі, 1, 47; Брукнер, 46; Фасмер, 1, 214; БЕР, 1, 79; асабліва Махэк$_2$, 74.

**Брытва́н** 'бляшаны посуд для выпечкі мяса ці цеста' (Сцяшк. МГ). Запазычанне з польск. мовы (параўн. польск. *brytwana, brytfana, brutfana, brotfana* <ням. *Bratpfanne* 'скаварада, патэльня', гл. Брукнер, 43). Слова запазычана ў XVI ст. (гл. Булыка, Запазыч., 49).

**Бры́ца** 'расліна Echinochloa L.' (Кіс.), 'пустазелле з чорнымі зярнятамі' (палес.; Выг. дыс.), 'пырнік' (Яўс.). Рус. *бри́ца* 'Panicum Crus Galli, курынае проса', укр. *бри́ця* 'Setaria glauca', балг. дыял. *бри́ца* 'від белай пшаніцы'. З слав. **bъrica* (вытворнае ад **bъrъ* 'проса'). Фасмер, 1, 215; падрабязна БЕР, 1, 79; Геаргіеў, Въпроси, 27.

**Брыць** 'брыць' (БРС, Юрч.). Рус. *брить,* укр. *бри́ти,* чэш. *břiti,* серб.-харв. *бри̏јати,* балг. дыял. *бри̏я,* славен. *bríti.* Аснова **bhrē̥i-*. Параўн. ст.-інд. *bhrīṇā́ti* 'раніць', ст.-іран. *pairibrīnaiti* 'разрэзвае' і г. д. Бернекер, 94; Праабражэнскі, 1, 45—46; Фасмер, 1, 213; БЕР, 1, 79.

**Бры́чка**$_1$ 'павозка, выязная павозка, экіпаж' (БРС, Сцяшк. МГ, Інстр. I, Бесар.). Рус. *бри́чка* 'тс' (з укр. мовы; Шанскі, I, Б, 198), укр. *бри́чка, бри́ка.* З польск. *bryczka* <ням. *Birutsche* 'лёгкая павозка' <італ. *biroccio, baroccio* 'двухколка'. Праабражэнскі, 1, 46; Бернекер, 93; Фасмер, 1, 215; Слаўскі, 1, 45. Іншыя (менш пераканаўчыя) версіі гл. Фасмер, там жа.

**Бры́чка**$_2$ 'бручка' (ДАБМ, 859), *бры́ква, бры́кса, брыку́ха* (аб распаўсюджанні гл. ДАБМ, № 276). Усе гэтыя назвы (з *-ы-* замест *-у-*) сустракаюцца галоўным чынам на поўдзень ад Бабруйска. Відавочна, нейкая нерэгулярная фанетычная змена (замест *бру́чка, бру́ква, бру́кса* і г. д.). Экспрэсіўная? Параўн., напр., *блутаць — блытаць* у дзеясловах. Таксама і ў рус. гаворках (смал.) *бры́кса* 'бручка'.

**Бры́ючы** *(б. палёт).* Відавочнае запазычанне з рус. тэрміналагічнага словазлучэння *бре́ющий полёт.* Таксама ўкр. *бри́ючий,* гл. Рудніцкі, 211.

**Брэд**$_1$ 'вастрыё нажа' (Касп.). Мабыць, з *брыд.* Тое ж самае, што і *брыд* 'рабро дошкі', *брыды́* 'канцы клёпак' (гл.). Да слав. **bridъ* (гл. *бры́дкі)* у яго першасным значэнні 'востры'. Але параўн. у рус. гаворках *бре́дко* 'праціўна' (перм., валаг.), *бре́дкий* 'востры' (алан., перм.): *сабля бредкая, нож бредкий.* Разам з бел. *брэд,* відаць, нейкія гіперкарэктныя формы (да **bridъ).*

**Брэд**$_2$, *брэднік* 'вярба, Salix L.' (Кіс., Інстр. II, КЭС, лаг.), *брадзі́ніна* 'тс' (Касп.). Рус. *бред, бреди́на* 'тс'. Укр. дыял. (аколіцы Адэсы) *бредина* 'Salix Caprea L.' (Макавецкі, Sł.

botan., 323; няпэўна, бо ў іншых месцах, здаецца, няма). Фасмер, 1, 210 (услед за Бернекерам, 83), бачыць сувязь з **bresti* **bredǫ* 'брадзіць', таму што вярба расце на вільготных месцах (Фасмер прыводзіць і паралель: укр. *бредулéць* 'багульнік, багна, Ledum palustre L.'; але гэта памылка: укр. слова з рум. *brădulet̹,* гл. падрабязна Краўчук, ВЯ, 1968, № 4, 128; раней аб гэтым і Крынжалэ). Іншыя версіі: 1) роднаснасць з алб. *breth, bredhi* 'ель'; 2) **brědъ* (такая праформа ў Сабалеўскага, Slavia, 5, 440) мае сувязь з чэш. *jabřadek,* польск. *jabrząd* (параўн. да гэтага Траўтман, 36); 3) Машынскі (Pierw., 240) выходзіць з назвы колеру прасл. **bred-*: **brod-* (**bronъ* 'бялявы, светлы', параўн. ст.-інд. *bradhnáḥ*). Параўн. яшчэ *брóднік* 'вярба' (гл.).

**Брэ'дзень** 'браднік' (Нас., Бяльк., Сцяшк. МГ). Рус. *брéдень,* укр. *брéдень.* Утварэнне ад дзеяслова **bresti* **bredǫ* 'ісці' (гл. *брадзíць*). Параўн. *браднíк* (гл.).

**Брэ'дзіць** 'хлусіць, узводзіць паклёп' (Нас.), *брэдня́* 'хлусня, брахня, лухта' (Нас.), *брэ́дзіць* 'трызніць', *брэд* 'трызненне' (Сцяшк. МГ). Рус. *брéдить, бред,* укр. *бредня́* 'лухта, хлусня'. Этымалогія гэтай групы слоў не вельмі ясная. Параўноўваюць з дзеясловам **bresti* **bredǫ* 'ісці', а таксама з с.-н.-ням. *praten* 'балбатаць', ст.-англ. *breodian* 'крычаць, клікаць'. Гл. Фасмер, 1, 210. Ст.-бел. *брэ́дня* 'глупства'. Булыка (Запазыч.) лічыць паланізмам (польск. *brednia*). Няпэўна. Параўн. Слаўскі, 1, 41—42.

**Брэзгуль** 'прыпрэжка ці ворчык' (Дразд.). Як і *брызгýль* 'палачка для вязкі снапоў' (гл.), запазычанне з літ. *bruzgùlis* 'дубінка' (ці іншага літ. слова гэтай групы; да літ. сямейства слоў гл. Фрэнкель, 1, 60).

**Брэк** 'спакой' (Шат.). Няясна.

**Брэ'каць** 'грэбаваць' (КЭС). Параўн. рус. *брéзговать,* дыял. *брéгать, брéговать,* смал. *брéкать.* Усё гэта, магчыма, нейкія варыянты да слав. **brězg-* 'грэбаваць' (аб гэтай групе слоў гл. Фасмер, 1, 211). Не выключаецца, аднак, зусім, што тут былі нейкія метатэзы, таму можна думаць пра сувязь з дзеясловам тыпу бел. *грэ́баваць,* укр. *грéбувати, грéбати* 'тс' (метатэза *грэбаць* ~ *брэгаць?*).

**Брэ'нгаць** 'бразгаць' (Сцяц.). Запазычанне (праз **брэ́нкаць*) з польск. *brzękać* 'тс' (дзе да слав. гукаперайманьнай асновы **bręk-,* гл. Слаўскі, 1, 46). Параўн. ст.-бел. *бренк, брянк* 'звон', *брянкати* (<польск.), гл. Булыка, Запазыч., 48.

**Брэ′ндаць** 'бадзяцца, валачыцца' (Шат.). Калі гэта не варыянт да *бры́ндаць* 'бадзяцца' (гл.), слова няяснага паходжання, то, магчыма, трэба параўноўваць з укр. дыял. *бре́ндати* (таксама *брендо́лити*) 'бадзяцца', якое Шэрэх (ZfslPh, 23, 146) і Рудніцкі (1, 201) выводзяць з *брести́* (з арго-суфіксам *-н-* і пад уплывам *пле́нтатися* 'валачыцца, цягнуцца').

**Брэ′ндзал** 'ручнік з доўгімі махрамі, якім выціраюць посуд' (Жд.), *брэ́ндзлі* 'ніткі і шмаццё ў падоле адзежыны' (КЭС, лаг.), *брынзялі́* 'лахманы, ніткі' (Сцяшк. МГ). Запазычанне з польск. *frędzel, frenzel* і г. д. 'кайма з нітак, шнуркоў і да т. п.' (а гэта з ням. *Franse, Fransel;* Варш. сл., 1, 775; некалькі іначай Брукнер, 128).

**Брэ′ндзала** 'чалавек, які рэдка сутыкаецца дома, валацуга' (Янк. Мат.). Бясспрэчна, звязана з *брэ́ндаць* 'бадзяцца, валачыцца' (гл.) і *бры́ндаць* 'бадзяцца'. Параўн. і *бры́нда* 'валацуга', рус. *бры́ндик* 'гультай'. Усё ж паходжанне гэтай групы слоў застаецца не вельмі ясным. Версіі параўн. пад *брэ́ндаць* і *бры́ндаць*.

**Брэ′ндзлі.** Гл. *брэ́ндзал*.

**Брэт** 'пакаленне' («*у етум брэ́ці...*»; Буз.). Магчыма, пераклад слова не зусім дакладны. Параўн. польск. *bret, bryt* 'тэрыторыя, прастора, зямля, поле, ніва' (з ням. *Breite* 'шырыня', Варш. сл., 1, 216; Брукнер, 43).

**Брэ′та** 'палотнішча' (Шпіл.). Укр. *бри́та* 'тс'. Запазычанне з польск. *bryta, breta* 'шырыня матэрыі' (*Spódnica we trzy bryty*), а гэта з ням. *Breite* 'шырыня'. Гл. Варш. сл., 1, 216; Брукнер, 43; Шалудзька, Нім., 22. Параўн. *брэт*.

**Брэх** 'прыстасаванне з чатырох слупоў са стрэшкай для ўкладкі снапоў' (Жд.). Запазычанне з польск. *bróg* 'тс'. Падрабязней гл. пад *брог*.

**Брэ′шкі,** *брэ́шка* 'карункі' (Сцяшк., Сцяшк. МГ). Магчыма, тое ж самае, што і *брыж, брыжы* (розныя часткі адзежы), гл. *Брэ́шкі* — фанетычны варыянт да *бры́жкі?* Параўн. *брыж* 'карункавы край' (Касп.), *брыжы́* 'карункі'.

**Буб-.** Аснова праславянскага паходжання (**bǫb-*). Попавіч (ЈФ, 19, 159 —171) лічыць, што для абазначэння розных круглых прадметаў у прасл. мове існавалі тры паралельныя асновы: **bǫb-*‖**bob-*‖**bab-* (гл. яшчэ *баб-*). Прасл. аснова **bǫb-* для абазначэння круглых прадметаў выстаўляецца і іншымі. Бернекер, 78—79 (пад *bǫbъlь* і *bǫbьnъ*), думае, што яна ўзыходзіць да і.-е. **b(h)aˣmb(h)-* гукапераймальнага пахо-

джання. Гл. яшчэ Траўтман, 26, 39; Махэк$_2$, 74 (пад *bublina*) Балецкі, SSlav., 5, 185—186. Але, як сведчаць балг. формы тыпу *буба*, у некаторых выпадках трэба лічыцца з зыходным і-е. **b(h)oub(h)-* без назалізацыі (гл. БЕР, 1, 85). Выпадкі з прасл. **bǫb-* і з прасл. **bub-* нялёгка адмежаваць.

**Бу'ба** (дзіцячае) 'зярняты' (Нас.), 'гарошына' (Сцяц.), 'гарох' (Бяльк.), 'ягада' (Шат., Яўс.), *бу́бка* 'бубачка' (Нас., БРС, Сцяшк. МГ), 'бубка, ягады' (Бяльк.), *бу́бачка* (БРС), *буба́шкі* 'галачкі з цеста' (Касп.), 'пячэнне' (Бяльк.), *бу́бка* 'страва з падпражаных, цеставых галачак' (КЭС, лаг.), *бу́бехі* 'маладыя плады' (Сцяц.), *бубу́шка* 'жоўты гарлачык', *бубы́шка* 'пупышка' (Касп.). Не вельмі лёгка рашыць, адкуль паходзіць тут аснова *буб-*: з прасл. **bǫb-* ці **bub-* (гл. пад *буб-*). Некаторыя прыведзеныя словы могуць паходзіць і з **bob-* (параўн. палес. *буб* 'боб'), а ў укаючых гаворках ненаціскное «*о*» наогул дае «*у*». Складанасць пытання можна зразумець і з таго факта, што некаторыя прыведзеныя вышэй словы сустракаюцца і з іншым вакалізмам. Так *бу́бехі* 'маладыя плады' можна параўнаць з палескім *бабе́х* 'невялікі пучок бруднай і зліплай воўны на авечцы', а *буба́шкі* 'галачкі з цеста' маюць паралельную форму *бабу́шкі* (гл.). Літ-ру гл. у артыкуле на *буб-*, а таксама Фасмер, 1, 225, дзе тлумачыцца рус. *бу́ба*.

**Бу'бен**$_1$ 'бубен'. Рус. *бу́бен*, укр. *бу́бен, бу́бон*, чэш. *buben*, польск. *bęben*, серб.-харв. *бу̏бањ* і г. д. Прасл. **bǫbьnъ, *bǫbьniti*. Словы гукапераймальнага паходжання, якія маюць паралелі ў іншых мовах (літ. *bambė́ti, bam̃bti*, грэч. βομβέω 'глуха гучаць' і г. д.). Фасмер, 1, 226. Параўн. *бу́бен*$_2$. Сюды *бубніць, бубне́ць*.

**Бу'бен**$_2$ 'месца, высокае і беднае травастоем; балота, якое можна перайсці' (Яшкін), *бубён* 'высокае месца; высокая і бедная травастоем паша' (Яшкін), *бу́б'ён* 'голая прастора, без раслліннасці' (Клім.), *бубен* 'неўрадлівая, голая мясцовасць' (Прышч.). Гэтага слова, здаецца, няма ў суседніх мовах. Параўн. толькі *Бу́бен* 'назва гары ў гуцулаў' (Грабец, Nazwy, 133). Можна меркаваць, што гэта метафарычнае ўжыванне ў якасці геаграфічнага тэрміна слова *бу́бен* 'бубен' (слав. **bǫbьnъ*). Першапачаткова 'месца, выпуклае, як бубен'. Але не выключаецца і іншае тлумачэнне. Слав. **bǫbьnъ* (гл. *бу́бен*$_1$) звязана з асновай, якая азначае глухое гучанне. Таму можна думаць, што *бу́бен* 'высокае і голае ўзвышша' ад **bǫbьnъ* 'глухі гук', **bǫbьniti* 'глуха гучаць і да т. п.' Адносна магчымасці такіх утварэнняў параўн. бел. *буко́та* 'ўзгорак',

'глыбокае месца ў рацэ' (гл.; там і слав. паралелі). Гл. Краўчук, БЛ, 1975, 7, 66.

**Бу'блік** 'маленькі абаранак, абаранак' (Бяльк., Нас., Сцяшк. МГ, Гарэц., Інстр. I). Рус. *бу́блик*, укр. *бу́блик*. Да слав. асновы **bǫbъl-*, што ў серб.-харв. *бубу̏љица* 'пузыр', чэш. *boubel* 'бурбалка', польск. *bąbel* і г. д. Гл. Фасмер, 1, 226. Сюды адносіцца і *бу́бліца* 'буйная плотка' (Крыв.).

**Бубначы'** 'малыя дзеці' (Сцяц.). Параўн. *бубна́ч* 'музыкант, што грае на бубне' (Інстр. III), 'той, хто дакучае' (КЭС). З гэтага апошняга развіваецца значэнне 'малыя дзеці'. Наўрад ці *бубначы́* можна непасрэдна параўноўваць з *бу́бны* 'дзеці' (гл.).

**Бубні'ць**, *бубнéць*. Да *бу́бен*₁ (гл.).

**Бу'бны** 'дзеці' (Клім.). Укр. дыял. (зах.) *бу́бен* 'непаслухмяны хлопчык'. Запазычанне з польск. *bęben* 'хлопчык, бутуз' (ад *bęben* 'бубен', можа, пад уплывам італ. *bambino* 'дзіця'). Брукнер, PF, 7, 171; Рудніцкі, 230.

**Бу'бня** 'бубновая масць у картах' (Нас.), *бу́бы, бу́бна, бубня́* (Бяльк.). Рус. *бу́бны*, укр. *бу́бна*. Лічыцца запазычаннем з чэш. *bubny* 'тс' (літаральна 'званочкі', таму што на картах адпаведнай масці былі намаляваныя іменна званочкі). Унбегаун, BSL, 48 (2), 95—96; Шанскі, 1, Б, 209. Але Рудніцкі, 229 (услед за Агіенкам і іншымі), лічыць гэта не запазычаннем, а ўтварэннем прама ад *бу́бен* (матывацыя назвы тая ж).

**Бубыр** 'ёрш' (Інстр. II). Няяснае слова. Невядома, ці *-у-* тут першапачатковае. Параўн. бел. *бабур* 'малады акунь', *бабка* 'ёрш', *бабыр* 'рыба каленік' (гл.).

**Бубэ'нчыкі** 'расліна гарлачык жоўты, Nuphar luteum Sm.' (Бейл.), рус. *бубéнчики* 'тс'. Ад *бубéнчык* (памяншальнае ад *бу́бен*, гл.). Назва дадзена расліне па форме кветак. Параўн. яе іншыя назвы: бел. *ба́нька, булдо́ўка, глечыкі, кушынкі, гарлачыкі, жбанкі*, рус. *кубы́шка*, укр. *глéчики, кубі́шка, кувши́нчик, збанок.* Параўн. Мяркулава, Очерки, 32—33.

**Бувальні'ца** 'палатно з прымессю або поўнасцю з куплёных ці бавоўняных нітак' (Касп.), *бува́льніца* 'бавоўняныя ніткі ў матках' (Жд.). Праз «стадыю» **бовальніца* метатэзай з **бавольніца*, а гэта да *ба́волна, ба́ваўна, баво́ўна* (гл.). Краўчук, БЛ, 1975, 7, 66.

**Бугаі'** 'ягады буякі, Vaccinium uliginosum L.' (Кіс.). Паколькі сувязь з *буга́й* 'бык', як і з *буя́к* 'бык' (параўн. *буякі*

'Vacc. ulig.'), вельмі няпэўная (гл. падрабязна пад *буякі*), то можна меркаваць з пэўнай верагоднасцю аб другасным паходжанні назвы. *Буякі* пры запазычанні ў іншыя дыялекты асэнсавалася як слова, звязанае з *буяк* 'бык', і яго «пераклалі» іншым словам для абазначэння «быка» — *бугай*.

**Буга'й**$_1$. Рус. *бугай*, укр. *бугай* (>польск. *buhaj*). Запазычанне з цюрк. моў (тур. *buγa* 'бык', чагат. *boγa* і г. д.). Праабражэнскі, 1, 50; Фасмер, 1, 228; Дзмітрыеў, Цюрк. эл., 21; Брукнер, 47; Локач, 28; гл. таксама Шанскі, 1, Б, 209. Ст.-бел. *бугай* 'кастрыраваны бык' Булыка (Запазыч., 50) лічыць запазычаннем з польскай мовы. Вельмі няпэўна.

**Буга'й**$_2$ 'птушка бугай, Botaurus stellaris', рус. *бугай*, укр. *бугай* 'тс'. Да *бугай*$_1$ (гл.): птушка выдае гукі, падобныя да рову бугая. Будзішэўска (Słown., 314) лічыць, што гэта ўсх.-слав. назва птушкі старажытная. Аб магчымых цюрк. уплывах на ўтварэнне гэтых назваў гл. Пальцаў, Тюрк. лекс. элем., 37—38.

**Буглёўнік**, *буглёк* 'месца, дзе багата дробных, адшліфаваных вадой каменьчыкаў' (гродз., Яшкін). Няяснае слова. Можна толькі выказаць няпэўную дагадку пра нейкую сувязь з дзеясловам тыпу **аб-угліць* (да *вугал*). Параўн. яшчэ ўкр. (закарп.) *бугол* 'вялікі камень у рацэ'. Гл. Краўчук, БЛ, 1974, 5, 64.

**Буго'ня** 'ралля ці від ворыва, калі пасярэдзіне ўчастка ўзвышаецца пачатковая двайная баразна; ворыва ўроскідку' (Яшкін), *бугонь* 'загон, вузкая палоска завоpанай зямлі' (Бяльк.). З *абугоня* (гл.); параўн. *абигоня* 'тс' (Лысенка ССП), якое складаецца з **обы-* 'абодва' і *гон-* (*гнаць, ганяць*). Адпадзенне пачатковага *а-* ў выніку сцёртасці ўнутранай матывацыі слова і дэкампазіцыі яго марфалагічных элементаў (*абу-гоня→а-бугоня>бугоня*).

**Буго'р** 'узгорак, пагорак, невялікая гара, высокае месца' (Яшкін, Бір. Дзярж.), 'пясчаны ўзгорак' (Сцяшк. МГ), 'узгорак' (Касп.), *бугорынне* 'нагрувашчванне' (Нас.). Рус. *бугор*, укр. *бугор*. Лічыцца роднасным з лат. *baũgurs* 'узвышша, узгорак'. Гл. Фасмер, 1, 228 (там агляд і іншых версій).

**Бу'да** 'кібітка, верх павозкі; буда, пакрыццё ад дажджу над возам; будан, канура і да т. п.; крыты вазок' (Нас., Касп., Шат., Бесар., Бяльк., Янк. II, БРС, Яшкін). Вядомае з XVI ст. (Булыка, Запазыч.) у значэнні 'лясная смалакурня; будка'. З іншым націскам *буда* 'тс' (Др.-Падб.), 'будка для сабакі' (Сцяшк. МГ), 'будка над ямай, дзе ляжыць бульба'

(Сцяшк.), 'будан; дрэнны жылы будынак' (слаўг., Яшкін). Вытворнае: *бу́дка*. Рус. *бу́да, бу́дка,* укр. *бу́да, бу́дка*. Запазычанне з польск. *buda* 'тс', а гэта з с.-в.-ням. *būde (buode)*. Аб польскім слове падрабязна Лер-Сплавінскі, JP, 22, 111 і наст. Гл. таксама Слаўскі, 1, 48; Кохман, Kontakty, 104; Фасмер, 1, 230; Бернекер, 96; Праабражэнскі, 1, 50; Шанскі, 1, Б, 211; Шалудзька, Нім., 23; Рыхардт, Poln., 37; Кюнэ, Poln., 47. Рудніцкі, 234 (услед за Р. Смаль-Стоцкім), думае пра непасрэднае запазычанне з с.-в.-ням. Вельмі няпэўнай з'яўляецца версія (Махэк$_2$, 61—62) пра паходжанне слав. **buda* ад слав. (!) **budovati (<*oborudovati)*. Да с.-в.-ням. *buode* і яго герм. сувязей гл. Клюге, 108 (пад *Bude*).

**Будава́ць** (з XV ст., Булыка, Запазыч; БРС, Інстр. III, Гарэц., Бяльк., Інстр. I), *будова́ты* (Бесар., Булг.). Укр. *будува́ти,* рус. (ст., XVII ст.) *будова́ть*. Запазычанне з польск. *budować* (якое з с.-в.-ням. *būden,* гл. Лер-Сплавінскі, JP, 22, 111—117 (=Studia, 181—183); Слаўскі, 1, 48; Фасмер, 1, 230; Агіенка, РФВ, 66, 361; Рыхардт, Poln., 37; Шалудзька, Нім., 23. Але Рудніцкі (1, 238) лічыць дзеяслоў *будава́ць* (укр. *будува́ти*) вытворным ад *бу́да́*. Неверагодна Махэк$_2$, 61—62: *budovati* — гэта зах.-слав. скарачэнне старога дзеяслова тыпу **oborudovati* (рус. *обору́довать*). Простыя фармальна *будо́ва* (БРС, Касп.; здавалася б, ад *будава́ць*), укр. *будо́ва*, польск. *budowa* не маюць, аднак, словаўтваральнай матывацыі (бо тып *будо́ва<будава́ць* не існуе ў слав. мовах). Як думае Лер-Сплавінскі, Studia, 184—185, зыходным быў (польскі) тып *dobudówka, przybudówka,* адкуль другаснае *dobudowa*... і, нарэшце, *budowa*. Таму *будо́ва,* мабыць, таксама з польскай мовы.

**Буда́н** 'будан' (БРС, Янк. II), 'будынак, жыллё, хата і да т. п.' (слаўг., Яшкін). Паколькі ўтварэнне ад *бу́да́* 'жыллё, будан і да т. п.' вельмі няпэўнае (па якой мадэлі?), то трэба *буда́н* лічыць ідэнтычным па паходжанню з *байда́н* (гл.) 'будан, выган, адкрытае месца і да т. п.', рус. *байда́н, буйда́н* 'адкрытае месца, узвышша і да т. п.'. Усё з *майда́н* (са зменай *м*||*б* у цюрк. мовах; падрабязней гл. пад *байда́н,* там і некаторая літ-ра). На запазычанае слова, мабыць, аказала ўплыў слова *бу́да́* 'жыллё і да т. п.' Ад *буда́н* утвораны (суф. *-аш*) *буда́ш, буда́ч* 'будка, будан' і *будала́ш* 'тс' (Яшкін). Словаўтварэнне апошняга не вельмі яснае.

**Будара́жыць** 'бударажыць' (БРС), *будура́жыць* (Нас.), *будура́жыць, бутара́жыць* 'тс' (Касп.), *бутара́ж* 'скандал' (Касп.). Рус. *будора́жить, бутара́жить* 'тс', *будара́га* 'ўзбу-

джэнне; неспакойны чалавек', укр. *будоражити, бударажити.* Няяснае слова. Шахматаў (ИОРЯС, 7 (2), 354) думаў пра сувязь з рус. дыял. *буторгá* 'неспакой, шум', *торгáть* 'рваць'. Трубачоў (ЭИРЯ, 3, 1961, 44) зыходзіць з укр. *бударáжити* 'рыхтаваць будары, лодкі' (<*будара* 'лодка') і лічыць, што слова запазычана з укр. мовы. Але ўкр. *бударáжити* 'рыхтаваць будары' сустракаецца ў фальсіфікаванай думе (так Грынч.!). Шанскі (1, Б, 212—213) зыходзіць з рус. дыял. *будорага* 'неспакойны чалавек' (ад *будор* 'шум', рус. дыял. *бутор* 'тс'). Версія Шанскага, мабыць, найбольш верагодная, бо тлумачыць і бел. варыянт *бутарáжыць* (як і рус. *бутарáжить*).

**Буда'ч,** *будáш, будалáш.* Гл. *будáн.*

**Будво'рыца** 'выган за вёскай' (Касп.). Параўн. рус. дыял. *будвóрицы* 'месца, дзе канчаецца сяло, вёска і пачынаецца поле, луг, лес'. Можна меркаваць, што слова таго ж тыпу, што і *бугóня* (гл.), г. зн. паходзіць ад **абудвóрыца*, якое складаецца з **обы-* 'абодва' і *двор* (суф. *-іца*). Першапачаткова *'месца абапал двароў'. Таксама можна думаць і пра зыходнае **абадвóрыца,* дзе **аба-* (>*бу-*) — прэфікс **ob(ъ).* Тады першапачаткова *'месца навокал двароў'. Краўчук, БЛ, 1974, 5, 64.

**Бу'дзень.** Гл. *бýдні.*

**Будзі'льнік** (БРС, Сцяшк. МГ). Мабыць, запазычанне з рус. *будúльник* 'тс' (утварэнне ад *будúть;* падрабязней гл. Шанскі, 1, Б, 210).

**Будзі'ць** (БРС, Касп., Бяльк.). Рус. *будúть,* укр. *будúти,* польск. *budzić,* чэш. *buditi,* ст.-слав. **боудити**, балг. *бýдя,* серб.-харв. *бýдити* і г. д. Прасл. **buditi* **budjǫ* — каузатыўная форма да **bъděti.* І.-е. **bheu̯dh-* 'назіраць, сачыць, заўважаць, не спаць і г. д.' дае наступныя аблаутныя ўтварэнні: 1) **bheu̯dh-;* адсюль слав. **bl'ud-* (<**bi̯ud-*): **bl'usti* **bl'udǫ* — бел. *блюсць* (Нас., Бяльк.), *блюдкі, блюдóк* 'ашчадны' (Нас.), рус. *блюсти́,* ст.-слав. **блюсти блюдѫ**, ст.-серб.-харв. *блусти,* параўн. ст.-інд. *bṓdhati* 'прачынаецца, заўважае', грэч. πεύθομαι 'пазнаю, не сплю'; 2) **bhou̯dh-;* адсюль слав. **buditi* **budjǫ;* 3) **bhudh-;* адсюль слав. **bъděti* **bъdjǫ* — рус. *бдеть,* чэш. *bdíti,* ст.-слав. **бъдѣти**, балг. *бдя* і слав. **bъdrъ* 'бадзёры, жвавы' (бел. *бадзёры, бóдзер,* рус. *бóдрый,* укр. *бóдрий,* ст.-слав. **бъдръ** і г. д.). Фасмер, 1, 178, 184, 230; Бернекер, 64, 96, 105; Траўтман, 32.

**Будзя'к.** Гл. *бадзя́к.*

**Бу́дні**, *бу́дзень, будзённы*. Рус. *бу́дни, бу́день, бу́ддень, бу́дний*, укр. *бу́ддень, буде́нний*. З *будьнъ дьнь* (параўн. польск. *budny dzień*) да **budьnъ* : **buditi*. Гл. Фасмер, 1, 229 (там і агляд іншых версій);Шанскі, 1, Б, 212.

**Будо́ва**. Гл. *будава́ць*.

**Будо́ўля** 'будынкі; будаванне' (БРС, Др.-Падб., Бяльк., Гарэц., Інстр. I, Нас.). Укр. *будівля*, польск. *budowla*. Няяснае слова. Сувязь з *бу́да́, будава́ць, буды́нак* бясспрэчная, але якая? Няясныя таксама адносіны паміж усх.-слав. і польскім словам. Брукнер, 46, лічыў, што польск. *budowla* (як і *torgowla*) з усх.-слав. моў. Лер-Сплавінскі, JP, 22, 111—117 (Studia, 184), думае, што *budowla* (суф. *-owla*) з'яўляецца польскім, не запазычаным словам.

**Будуле́ц** 'страявы лес' (Сцяшк. МГ). Запазычанне з польск. *budulec* (а гэта з ням. *Bauholz;* Брукнер, 46).

**Бу́дучыня**. Крамко (Гіст. мовы, II, 140, 141) мяркуе, што гэта неалагізм яшчэ дакастрычніцкага перыяду, няпоўная калька з рус. мовы (рус. *будущее*). Няясна. Параўн. і ўкр. *будучина́* 'тс'.

**Буды́нак** 'будоўля, будыніна, хата і да т. п.' (БРС, Бяльк., Др.-Падб., Гарэц., Мядзв., Інстр. I, Янк. I, Янк. Мат., Тарн., Нас., Шат., Касп.), *буды́нок* (Бесар.), *будынек* (Чуд.). Сюды ж і *буды́ніна* 'будынак' (Янк. I). Агляд бел. форм гл. Лучыц-Федарэц, Лекс. Палесся, 146—147. Укр. *буди́нок*. Запазычанне з польск. *budynek* 'тс', якое паходзіць з с.-в.-ням. **būding* 'будаванне'. Рыхардт, Poln., 37; Кюнэ, Poln., 47; Слаўскі, 1, 48. Падрабязна аб польскім слове і ням. крыніцы Лер-Сплавінскі, JP, 22, 111—117 (Studia, 180—185). Памылкова ўтварэннем ад *буда* (польск. *buda*) лічыць словы *буды́нак, budynek* Рудніцкі, 236.

**Бужані́на**. Рус. *бужени́на*, укр. *бужени́на, бужани́на*. Усх.-слав. утварэнне (суф. *-ина*) ад *буженый* 'вялены' (параўн. у Бярынды: *сушани́ца: мя́со вендзо́ное* (1627 г.), але таксама ў іншых экземплярах гэтага ж выдання: *мя́со бужеоное*, гл. Німчук, Бер., XIV). Дзеяслоў *буди́ти* 'вяліць, вэндзіць' (<**ob-ǫditi;* слав. **ǫditi* 'вэндзіць': польск. *wędzić*, чэш. *uditi* і г. д.) вядомы і сёння ва ўкр. гаворках (параўн. Краўчук, ВЯ, 1968, № 4, 129). Іншыя тлумачэнні: *бужени́на*<*вуженина* (Рудніцкі, 240; Шанскі, 1, Б, 214; Фасмер, 1, 232, там і літ-ра) не прымаюць да ўвагі рэальнае існаванне дзеяслова *буди́ти* ва ўсходніх славян і надта ўскладняюць рэканструкцыю. Не выключаецца, што форма *бужани́на, бужени́на* пранікла ў рус.

і бел. мовы з укр. Падрабязна аб слове *бужаніна* гл. таксама Кіш., Hatv., 20—21.

**Буз**, *бузок* 'бэз'. Гл. *бузіна́*.

**Буза′**$_1$ 'падонкі, мут, асадак; азаддзе' (БРС, Нас., Касп., Яруш., Бяльк.), 'бруд, мут на вадзе' (КЭС, лаг.), 'пустазелле сярод зярнят' (Шат.). Укр. *буза́* 'татарскі напітак з проса; бруд у нямытай авечай шэрсці; асадак у вадкасці'. Рус. *буза́* 'напітак; мутная вадкасць; дрэнны суп; мутная вада ў рацэ; іл, гразь і г. д.'. Запазычанне з цюрк. моў (параўн. тат. *buza* 'напітак з проса і да т. п.' <перс.; Локач, 31). Міклашыч, 25; Бернекер, 105; Фасмер, 1, 232; Дзмітрыеў, Тюрк. эл., 21; Шанскі, 1, Б, 214—215. Шмат значэнняў у выніку метафарызацыі. Параўн. *буза́*$_2$.

**Буза′**$_2$ 'рачны і азёрны іл; гразь; разведзеная гліна; твань з травой на дне вадаёма, гразкае балота' (Яшкін), *буза́, бузяна́е бало́та* (полац., гл. Талстой, Геогр., 192), рус. (пск.) *буза́*. Перанос назвы ежы, напіткаў на геаграфічныя аб'екты. Параўн. *буза́* 'астаткі вадкасці; напітак буза; адходы'. Падрабязней Талстой, Геогр., 192 (там і некаторыя семантычныя паралелі). Гл. таксама Макіенка, Зб. Ларыну, 102. Паводле Нік., Очерки, 103, адсюль паходзіць *бузава́ць*, 'пэцкаць, муціць, тусkліць; мяць, псаваць адзенне' (БРС, Бір. Дзярж., Бяльк., Касп., Шат.), *бузя́ніць*. Але параўн. і *бузава́ць* 'біць'.

**Буза′**$_3$ 'скандал' (БРС). Рус. *буза́* 'тс', укр. *буза́* (з рус.?). Не вельмі яснае слова. Па адной версіі, метафарызацыяй з *буза́* 'напітак' (так Трубачоў, Дополн., 1, 233; супраць Шанскі, 1, Б, 215). Шанскі, там жа, мяркуе, што *буза́* 'скандал' <польск. *buza* 'лаянка, вымова' (падрабязней гл. пад *бузава́ць* 'біць'). Ад *буза́* 'скандал' утворана *бузі́ць*, рус. *бузи́ть* (гл. Трубачоў, Дополн., 1, 233; наўрад ці ёсць сувязь з англ. арго *boose* 'моцны напітак', *boosy* 'п'яны', аб гэтым Трубачоў, там жа).

**Бузава′ць** 'біць, лупцаваць' (Бяльк.), *бузя́ніць* 'біць'. Рус. *бузова́ть* 'тс', укр. *бузува́ти* 'тс'; 'рабіць вымову'. Запазычанне з польск. *buzować* 'тс' (параўн. і *buza* 'лаянка, вымова'). Рыхардт, Poln., 38; Кюнэ, Poln., 47; Шанскі, 1, Б, 216. Польскае слова ўзята з італ. *far buzzo* 'злавацца' (Брукнер, 51). Вельмі няпэўная сувязь усёй групы слоў з *бузіна́* і да т. п., як і сувязь (Мацэнаўэр, Cizí sl., 127) з літ. *baũsti* 'прымушаць, караць' (Фасмер, 1, 233; яшчэ Шанскі, там жа). Надта няпэўным з'яўляецца вывядзенне ўсх.-слав. (укр.) слоў прама з італ. мовы

(так Рудніцкі, 241). Аб *бузавáць* 'пэцкаць і да т. п.' гл. пад *бузá*$_2$.

**Бузго'р,** таксама *бузгóрак, бузгарóк* 'горка, узвышша' (Яшкін). Рус. дыял. (пск.) *бузгорок* 'частка поля'. Кантамінацыя слоў *бугóр* (гл.) і *ўзгóр(ак)*. Здаецца, беларуска-руская сумесная інавацыя. Краўчук, БЛ, 1974, 5, 64.

**Бузіна'** 'Sambucus nigra L.' (Кіс., БРС, Шат.), *бузíна* (Сцяшк. МГ). Рус. *бузинá, буз, боз,* укр. *бузинá, боз;* у значэнні 'бэз, Syringa' — бел., укр. *буз, бузóк,* польск. *bez*, чэш. *bez,* балг. *бъз,* серб.-харв. *баз, бáза* і г. д. Слав. **buzina,* **buzъ,* **bъzъ* 'бузіна, Sambucus; бэз, Syringa' лічыцца роднасным з і.-е. словамі, якія азначаюць 'дуб' і 'бук': лац. *fāgus* 'бук', грэч. φηγός, φᾱγός 'дуб', ст.-ісл. *bók*, ст.-в.-ням. *buohha* 'бук' і г. д. Гл. Фасмер, 1, 233; Бернекер, 111.

**Бузі'ць.** Гл *бузá*$_3$.

**Буй** 'моцны, халодны вецер' (Сцяшк. МГ, Яшкін), 'халадэча з ветрам' (Юрч.), 'высокае, адкрытае для ветру месца, узгорак' (Бяльк., Яшкін, Нас., Шат., Гарэц.), 'хуткі, востры' (Нас.), 'схіл гары, узгорка' (Яшкін), 'няўступчывы, буян' (Нас.). Укр. *буй* 'адкрытае для ветру ўзвышша', рус. *буй* 'высокае, адкрытае месца; магільнік'. Першапачаткова, мабыць, 'высокае адкрытае месца'. Так Філін, Происх., 524—525. Гл. яшчэ Ларын, Слово гов. Севера, 6. Фасмер (1, 234) значэнне 'магільнік' звязвае з швед. уплывам. Калі першая версія правільная, то ўсё да слав. **bujь,* **bujьnъ* (гл. пад *буяць*). Параўн. Барысава, Бел.-рус. ізал., 9.

**Бу'йвал** 'буйвал' (БРС, Бяльк.), таксама 'непакладзены бык' (ДАБМ, 883). Рус. *бýйвол*, укр. *бýйвіл*. Старое запазычанне (параўн. ст.-рус. *быволъ* і г. д.) з лац. **būvalus* з ад'ідэацыяй да **bujь* 'дзікі' і **volъ*. Гл. Фасмер, 1, 234. *Бýйвал* азначае і 'птушка бугай' (Інстр. II), параўн. *бугáй*$_2$.

**Буймі'стр** 'бурмістр' (Нас.). Як думае Апель, РФВ, 3, 87 (за ім і Фасмер, 1, 246), гэта беларускае слова ўзнікла з *бурмістр* (гл.) пад уплывам слова *бýйны* (параўн. *бурмíшча*). Але, магчыма, гэта не так. Хутчэй можна думаць пра дысіміляцыю *р-р*>*й-р*.

**Буйні'цы.** Гл. *буякí*.

**Бу'йны** 'непакорны, неўгамонны' (Бяльк.), 'моцны, бурлівы' (Нас.), 'вялікі, буйны' (БРС, Нас., Бяльк., Касп., Сцяшк. МГ, Яруш.). Укр. *бýйний* 'моцны, бурлівы', дыял. таксама 'вялікі, буйны'. Гэта апошняе значэнне, мабыць, другаснае і

развілося ў бел. і ўкр. мовах незалежна, на базе зыходнага 'моцны'. Гл. *буяць*.

**Буйра'к** 'сухое рэчышча'. Гл. *байрак*$_1$.

**Буйстра'** 'быстрыня; месца хуткага цячэння ў рацэ' (Яшкін). Бясспрэчна, з **быстра́*. Параўн. рус. дыял. (калуж.) *быстра́* 'сярэдзіна цячэння ракі'. У бел. слове фанетычная дыялектная змена (*ы*>*у* пасля губных) і, мабыць, уплыў слова *буй-ны*. Параўн. яшчэ *быйстра́* 'паласа хуткага цячэння ў рацэ' (Яшкін).

**Бук**$_1$ 'дрэва Fagus'. Рус. *бук*, укр. *бук*, польск. *buk*, чэш. *buk*, балг. *бук*, серб.-харв. *бу̏к*. Параўн. таксама ц.-слав. *боукы*, серб.-харв. *бу̏ква*, славен. *búkev*, *bȗkva*, ст.-чэш. *bukev* 'бук' і г. д. Старое славянскае запазычанне з германскіх моў. Параўн. гоц. *bōka*, ст.-ісл. *bók*, ст.-в.-ням. *buohha*, якія родныя лац. *fāgus*, грэч. φηγός (гл. пад *бузіна́*). Падрабязней гл. Фасмер, 1, 234—235 (там і літ-ра).

**Бук**$_2$ 'месца, куды падае вада з млынавага кола, ад чаго дно робіцца глыбокім' (Яшкін), 'назва шырокіх і глыбокіх месцаў на рацэ, глыбокае месца на возеры, яма' (КЭС), *бу́ка* 'глыбокае месца ў рацэ' (Яшкін). Параўн. рус. дыял. *бук* 'глыбокае месца пад колам млына; глыбокае месца ў рацэ, вір', *бу́ко́вище* 'тс', *бу́ковище* 'абвал, абрыў'. Бясспрэчна, ад гукапераймальнага дзеяслова **bukati*. Параўн. *бу́кта, бу́хта*$_2$*, буко́та*$_2$*, бу́чаё*.

**Бу'ка**$_1$ 'кузурка' (Нас.). Параўн. рус. *бука́шка* 'тс', якое Фасмер (1, 236) звязвае з *бу́кать, буча́ть*, а Трубачоў (Дополн., 1, 236) з польскім *bąk* 'жук'.

**Бу'ка**$_2$ 'глыбокае месца ў рацэ'. Гл. *бук*$_2$.

**Бука'та** 'булка хлеба' (Касп., Гарэц., Др.-Падб., Інстр. I), *бука́тка* (Нас.). Запазычанне з рум. мовы (праз укр. *бука́та* або польск. *bukata* 'тс'). Рум. *bucătă* 'кусок' (паходзіць з лац. *buccata*). Спецыяльна аб бел. слове гл. Врабіе, Зб. Расэці, 994; ён жа, RomSl., 14, 134 (лічыць, што пасрэднікам была ўкр. мова).

**Бу'кацца** 'біцца лбамі' (Нас., Шат.). Гукапераймальнае. Параўн. *бу́кіш, бу́кта*.

**Бу'ква**$_1$ 'бручка' (Кіс.). Няясна.

**Бу'ква**$_2$ 'літара' (Бяльк., Шат.). Шат. лічыць, што гэта русізм (аб рус. *буква* гл. Фасмер, 1, 236).

**Буква′р** (БРС, Шат.), *букварь* (Бяльк.). Шат. лічыць, што гэта запазычанне з рус. *букварь.*

**Бу′квіца** 'расліна Betonica L.' (Кіс.), таксама 'першацвет, Primula veris L., арніка, Arnica montana L.' (Кіс.). Для Betonica officinalis гэта агульнаслав. назва: рус. *буквица, буковица, буковина,* укр. *буквиця,* польск. *bukwica, bukwa,* ст.-чэш. *bukva, bukvice, bukovice,* славац. *bukvica,* харв. *bukvica* (Мяркулава, Очерки, 137; Махэк, Jména rostl., 198—199). Як думаў Растафінскі, Symbola, 283, ёсць сувязь з назвай дрэва — **bukъ* (Betonica мае лісце, якое зраслося на канцы, як у бука).

**Буке′нніца** 'аканіца' (Нас.). З **аб-акен-ніца* (да *акно́;* параўн. *бако́нка, буко́нка, буко́нніца).*

**Буке′т.** Рус. *буке́т,* укр. *буке́т.* Запазычанне з ням. *Bukett* або франц. *bouquet* 'тс'. Фасмер, 1, 236; Шанскі, 1, Б, 219.

**Бу′кіш** 'удар ілбом' (Нас., Сцяц.), 'стукнуцца лбамі ў бойцы (пра бараноў)' (Янк. III); *букіш: (чорт) даў мне букіш пад ногі, што аж я перакінуўся* (Федар., 1). Параўн. польск. дыял. *bukisz* 'тс'. Бясспрэчна, ад **bukati* (параўн. бел. *бу́кацца* 'біцца лбамі', рус. *бу́каться*). *Бу́кіш*<**buk-yšь* (суфікс **-yšь*). Зыходзячы з геаграфіі слова, можна думаць і пра запазычанне з польск. *bukisz* (якое па паходжанню гукапераймальнае, гл. Варш. сл., 1, 230).

**Бу′кнуць** 'набракаць' (Нас.). Мабыць, з *бу́хнуць* (параўн. слав. **buxnǫti,* рус. *бу́хнуть, набуха́ть* 'набракаць').

**Буко′нка,** *буко́нніца* 'аканіца' (Бяльк., Нас., Касп., Мядзв.). З **аб-акон-ка, *аб-акон-ніца* (да *акно́;* параўн. *бако́нка, буке́нніца).*

**Буко′та**$_1$ 'ўзгорак на лузе, на якім расце вяз' (слаўг., Яшкін). Утварэнне ад гукапераймальнага дзеяслова **bukati,* дакладней ад яго «ўзмоцненай» формы **buk-ot-ěti* 'гучаць, шумець і г. д.'. Да семантыкі параўн. *бу́чаё* (гл.), там і паралелі з іншых слав. моў. Параўн. яшчэ *бу́хта, буко́та*$_2$, *бу́кта.* Цікава, што ў бел. мове *буко́та* мае два значэнні: 'узгорак' і 'глыбокае месца ў рацэ'. Дакладная семантычная паралель да гэтага — укр. *бе́лебень* 'узвышша'; 'глыбокае месца ў вадзе' (аб матывацыі гл. пад *бу́чаё*).

**Буко′та**$_2$ 'глыбокае месца'. Гл. *бу́кта.*

**Бу′кса**$_1$ 'бязрогая карова' (Сцяшк. МГ). Няяснае слова. Ёсць дзве магчымасці тлумачэння: 1) метафара да *бу́кса* 'букса' (гл.); першапачаткова 'карова з кароткімі, нібы аб-

рубленымі (як «букса») рагамі'; 2) утварэнне (суфікс -*s*-) ад дзеяслова **bukati* (*sę*) 'букацца, біцца лбамі' (гл. *бу́кацца*); першапачаткова 'карова, якая букаецца, б'ецца лбом, а не рагамі'. Польск. дыял. *buksa* 'тс' (паводле Варш. сл., 1, 231, няяснага паходжання). У літ. мове ёсць *buksà* 'бязрогая карова; чалавек без пальцаў'. У бел. мове запазычанне з літ.? Але ў Фрэнкеля гэтага слова няма наогул.

**Бу́кса**$_2$ 'бручка' (Бяльк., Кіс., Інстр. II, ДАБМ, 858—859, № 276). Слова, як і *буксінка* 'тс' (гл.), усх.-бел. Бяспрэчна, мясцовае новаўтварэнне. Паколькі гэтая назва ізаляваная, то застаецца толькі адна магчымасць этымалагізавання: *бу́кса* 'бручка' ўзнікла скарачэннем з *буксінка* 'тс'. Гл. Краўчук, БЛ, 1973, 3, 56.

**Бу́кса**$_3$ 'букса' (БРС), 'жалезная ўстаўка ў коле' (Арх. Бяльк., слонім., Маш., Маслен., Бяльк.). Рус. *бу́кса*, укр. *бу́кса* (як тэхнічны тэрмін), польск. *buksa, buks*. З ням. *Büchse* 'тс' (да ням. слова гл. Клюге, 107). Варш. сл., 1, 231; Шанскі, 1, Б, 220—221. Параўн. ст.-бел. *букса* (XVII ст.; Булыка, Запазыч., лічыць яго паланізмам).

**Буксінка** 'бручка, Brassica napus L.' (маг., Кіс.). Бяспрэчна, мясцовае ўтварэнне (няма ў іншых мовах і суседніх дыялектах). Паколькі бручка часта носіць розныя, яўна новыя назвы (параўн., напр., *немка, чыгірынка*), у тым ліку і па колеру (*сінюха*), то можна меркаваць пра сувязь з прыметнікам тыпу рус. дыял. *буксиновый* 'чырвона-жоўты або цёмна-аранжавы' (<*фуксин* <ням.). Адсюль *буксінка* 'бручка'. Параўн. *бу́кса*$_2$ 'бручка'. Гл. Краўчук, БЛ, 1973, 3, 56.

**Бу́кта** 'глыбокае вірыстае месца ў рацэ на самым яе павароце, якое крыху ўдаецца ў сушу' (Яшкін), *буко́та* 'тс' (Яшкін), *бу́кта* 'глыбокае месца ў рацэ' (Мат. Гродз.), 'шырокае і глыбокае месца на рацэ' (Сцяшк. МГ). Як і *бу́хта*$_2$ (гл.), утварэнне ад гукапераймальнага дзеяслова **bukati*, дакладней, ад яго экспрэсіўнай суфіксальнай формы **bukъtěti*. Форма *буко́та* — ад **buk-ot-ěti* (параўн. *буко́та* 'ўзгорак'). Форма *бу́кча* 'глыбокае месца ў рацэ; затока' (жыт., Яшкін) утворана па мадэлі **bukъti̯a*. Параўн. *бу́хта*$_2$, *буко́та*$_1$, *бу́чаё, бук*$_2$, *бу́ка*$_2$.

**Бу́кча** 'глыбокае месца ў рацэ'. Гл. *бу́кта*.

**Булава́** 'булава' (БРС), 'булдавешка' (Сцяшк. МГ). Рус. *булава́*, укр. *булава́*, польск. *buława*. Фасмер (1, 237) лічыць, што гэта вытворнае ад слав. **bula* 'гуз, шышка, булдавеш-

ка'. Слаўскі (50) думае пра запазычанне. Гл. яшчэ Шанскі, 1, Б, 221. Сюды і *булáўка* 'біч у цэпе' (ДАБМ, 828).

**Була'вы** 'буланы' (Нас.). Кантамінацыя слоў *булáны* і *палавы́.*

**Була'к** 'воблака' (Касп.). Бясспрэчна, з **бoлáк* да *бóлакі* 'воблакі', *бóлка* 'хмарка' (гл. пад *бóлакі*).

**Була'ны** 'буланы, шэра-жоўты, палавы' (БРС, Шат., Бяльк.). Рус. *булáный,* укр. *булáний,* польск. *bułany.* Запазычанне з цюрк. *bulan.* Гл. Фасмер, 1, 238. Параўн. Шанскі, 1, Б, 222. Ст.-бел. *буланый* сустракаецца ўжо ў помніках XVI ст. (Булыка, Запазыч.). Гл. яшчэ Адзінцоў, Этимология, 1971, 201—204.

**Була'т** (БРС). Рус. *булáт*, укр. *булáт.* Запазычанне з цюрк. *bulat* <перс. *pūlād* 'сталь'. Фасмер, 1, 238. Параўн. Шанскі, 1, Б, 222.

**Булд-.** Аснова, якая выступае ў шматлікіх утварэннях (параўн., напр., *булдавá, булды́р, булдóўка, булды́га* і г. д.). Паколькі гукаспалучэнне *булд-* не можа быць спрадвечна славянскім (бо **buld-* для прасл. мовы немагчымая рэч, а штосьці тыпу **bulьd-,* **bulъd-* давесці таксама немагчыма; іначай, але непераканаўча, аб аснове *булд-* гл. Праабражэнскі, 1, 52—53; Фасмер, 1, 238: пад *булды́га, булы́га),* то, зыходзячы з паралеляў тыпу *булдавá*||*булавá,* трэба думаць пра яго другаснае паходжанне шляхам кантамінацыі: *балд-а* ×*бул-ава*>*булд-ава* і г. д. (дарэчы, пытанне аб слав. паходжанні асновы *балд-* ставіць Шанскі, 1, Б, 22—23).

Варыянт *бульд-* (параўн., напр., *бульды́р)* узнік ужо на аснове *булд-* пад уплывам такіх слоў, як *бýлькаць* і да т. п. *(бульды́р* 'бурбалка').

**Булдава'** 'булава', *булдавéшка* (Бяльк., Шат., Касп.). Параўн. рус. дыял. *булдавёха* 'вялікі абрубак дрэва', *булдáвка* *'вялікая палка (пастуха)'. Бясспрэчна, кантамінацыя двух асноў: *балд-á* і *бул-авá.* Гэта кантамінаваная новая аснова *булд-* дае шмат іншых вытворных са значэннем 'штосьці круглае, вялікае, пузатае і да т. п.' Параўн., напр., назвы раслін на *булд-*. Краўчук, БЛ, 1975, 7, 66—67.

**Бу'лдаўка** 'бурбалка' (Сцяшк. МГ). Параўн. аснову *булд-* і *булды́р*$_2$.

**Булдоўка** 'расліна Nuphar luteum Sm., гарлачык жоўты' (Інстр. II, Кіс., там і крыніцы). Паколькі расліна мае «пу-

затыя» кветкі, то яна часта носіць назвы тыпу *ба́нька* (<*ба́нька* 'пузатая пасудзіна'), *глечыкі, кушынкі, жбанкі* (гл. пад *банька* і іншыя падобныя назвы). У дадзеным выпадку выступае аснова *булд-*, якой часта называюць пузатыя, круглыя, выпуклыя прадметы (гл. *булд-, булдава́, булды́га, булды́р, бульды́р*). Параўн. яшчэ назвы кветак тыпу *булдоўнік*.

**Булдоўнік**$_1$ 'расліна Cirsium arvense, бадзяк палявы' (гл. Кіс.). Напэўна, расліна так названа паводле сваіх круглых кветак-галовак. Параўн., напр., яе назвы ва ўкр. мове, якія адлюстроўваюць гэту прыкмету: *головатник, наголоватень, наголоватка* (Макавецкі, Sł. botan., 99). У бел. мове тут выступае тая ж аснова *булд-*, што азначае круглыя, пузатыя прадметы (гл. *булд-, булдава́, булды́р, булды́га* і г. д.) і сустракаецца ў іншых назвах раслін (гл. *булдоўка*). Менш верагоднай здаецца здагадка, што *булд-(оўнік)*<**будл-(оўнік)* <**бодл-(оўнік)*; параўн. укр. назвы для Cirsium arvense тыпу *бодлак* (ад *бод-* 'калоць').

**Булдоўнік**$_2$ 'расліна Pulsatilla patens L., сон раскрыты' (Кіс.). Назва (аснова *булд-* 'штосьці круглае, збанкаватае, выпуклае'; гл. *булд-, булдава́, булды́р, булды́га,* а таксама іншыя назвы раслін: *булдоўка* 'гарлачык жоўты' і *булдоўнік* 'бадзяк палявы') паводле збанкападобнай, як у цюльпана, кветкі.

**Булды́га** 'цвёрдая няроўнасць на разбітай дарозе, замёрзлая гразь у выглядзе розных выступаў; скіба дзярністай зямлі на раллі, вялікія кавалкі сухой зямлі на заскароджаным полі' (Яшкін). Параўн. рус. дыял. *булды́га* 'костка; шышкаватая палка, дубіна'. Утварэнне ад асновы *булд-* 'штосьці круглае, шышкаватае і г. д.', кантамінаванай па паходжанню (гл. *булдава́, булд-*). Іначай аб аснове *булд-* Праабражэнскі, 1, 52—53, і Фасмер, 1, 238 (пад *булды́га, булы́га*).

**Булды́р**$_1$, *булдырок* 'бясплодны ўзгорак; высокае адкрытае месца, пакатая горка' (Яшкін), *бульды́р* 'бясплодны ўзгорак' (Касп.), *булды́рь* 'высокае, адкрытае месца' (Нас.). Параўн. рус. дыял. *булды́р* 'месца, беднае травой' (ноўг.), *булдырь* 'няроўнае месца, узгорак у полі' (пск.), 'няроўнае, дрэннае месца ў полі, беднае расліннасцю' (наўг.). Вытворнае (суф. *-ыр*, з слав. **-угь*) ад асновы *булд-*, якой называюць круглыя, шышкаватыя прадметы (гл. *булдава́, булд-*). Параўн. *булды́р, бульды́р* 'пузыр (вадзяны)'.

**Булды́р**$_2$ 'бурбалка', *бульды́р* 'пузыр' (Касп.), *булды́рь* (Нас., Бяльк.). Параўн. рус. дыял. *булды́рь* 'пухір, пузыр,

бурбалка' (ярасл., пск., наўг., арханг., смал., валаг. і да т. п.). Думаюць пра аснову *бул-,* якая, напр., у рус. словах *булыга, булдыга* і г. д. (Праабражэнскі, 1, 52—53; і.-е. **bol-, *bul-* і г. д.). Таксама ёсць версія пра роднаснасць з літ. *bulìs* 'ягадзіца', лац. *bulla* 'пузыр, почка' і г. д. (гл. Фасмер, 1, 238). Юркоўскі (Ukr. hydrogr., 90) бачыць тут нейкую гукапераймальную аснову. Мяркуем, што лепш выходзіць з асновы *булд-,* другаснай па паходжанню (гл. *булд-, булдавá*); суфікс *-ыр* (слав. **-угь*). Параўн. *булдыр*₁ 'узгорак'.

**Булён** 'булён, суп з бульбы' (Сцяшк. МГ, БРС, Шат., Касп., Сцяц. Нар.). Сцяц. (Нар., 48) лічыць, што слова запазычана праз польскую мову. Гл. яшчэ Фасмер, 1, 240. Параўн. укр. *бульóн* 'від бульбы'.

**Буліна'** 'расліна палын звычайны, чарнобыль, Artemisia vulgaris L.' (Арх. Бяльк., слонім.), *бульняк* 'тс' (Кіс.). Гэта расліна часта носіць назвы, вытворныя ад прасл. **bylь, *bylina* і да т. п. 'расліна'. Параўн. *чарнобыль, быліца, быльнік, быльняк* і г. д. (гл. і Мяркулава, Очерки, 122). Формы *булінá, бульня́к*<*быліна, быльняк* з тых дыялектаў, дзе пасля губных вядомы пераход *ы*>*у.*

**Бу'лка** 'белы хлеб' (Карскі, 1, Сцяшк.), 'пшанічны хлеб' (Сцяц. Нар., Вешт.), 'жытні хлеб' (Касп., Нас., Шн.), 'бохан хлеба' (Бяльк.). Гл. яшчэ Бесар., Федар., 2. Падрабязна агляд значэнняў Сцяц. Нар., 25 (які лічыць, што найбольш пашыранае і даўняе значэнне 'пшанічнае печыва дзецям'). Рус. *бýлка,* укр. *бýлка.* Лічыцца запазычаннем з польск. *bułka* 'тс' (вядомае з XV ст.). Праабражэнскі, 1, 52; Брукнер, 48; Слаўскі, 1, 50; Бернекер, 100; Рудніцкі, 251; Шанскі, 1, Б, 222. Аб запазычанні сведчыць тое, што ва ўсх.-слав. мовах слова з'явілася вельмі позна: у рус. і ўкр. з XVIII ст., у бел., мабыць, таксама (няма ў Булыкі). Крыніца польскага слова не вельмі пэўная (італ.; франц. *boule* 'круглы хлеб', с.-в.-ням. *biule* 'шышка і г. д.', швед. *bulle* 'хлеб, булка і да т. п.'; Слаўскі, 1, 50). Вельмі няпэўныя версіі пра роднаснасць усх.-слав. *бýлка* з *булавá, булды́рь* і г. д. (так Фасмер, 1, 239; там і агляд іншых параўнанняў). Да слова *бýлка* параўн. яшчэ Вештарт, Лекс. Палесся, 107—110.

**Булты'х** 'бултых' (Бяльк.). Параўн. рус. *бултыx,* якое Фасмер (1, 239) лічыць гукапераймальным. Іначай Шанскі, 1, Б, 223.

**Бу'лыўка** 'вежа на царкве, купал' (Бяльк.). Няясна. Мо-

жа, звязана з *булава́* і да т. п.? Да націску параўн. *бу́лава* 'булдавешка' (Бесар.).

**Булы́шка** 'лугавое ўзвышша' (Касп.). Параўн. рус. дыял. *булы́га* 'дзікі камень, валун; палка, дубіна; пустэча'. Краўчук, БЛ, 1975, 7, 67. Аснова *бул-* лічыцца роднаснай з рус. і інш. *булава́*, ням. *Beule* 'шышка'. Гл. Ільінскі, РФВ, 61, 240; Праабражэнскі, 1, 52—53; Фасмер, 1, 239. Гл. яшчэ Шанскі, 1, Б, 223.

**Бу́льба,** таксама *бу́льма* (Шат., Жд.), *бу́льва* (Федар., 1). Рус. дыял. *бу́льба, бу́ньба,* укр. *бу́льба, бу́льва.* Запазычанне з зах.-слав. моў: польск. *bulba, bulwa,* чэш. *bulva* (а гэта з ням. *Bolle* 'клубень, цыбуліна' або з лац. *bulbus*). Бернекер, 100; Рыхардт, Poln., 38; Кюнэ, Poln., 47; Рудніцкі, 252; Фасмер, 1, 240; Маеўскі, PF, 4, 646. Параўн. і Шанскі, 1, Б, 223.

**Бу́льбатка** 'бурбалка' (Сцяшк. МГ), *бу́лбатка* 'тс' (Янк. II). Укр. *бу́льба* 'бурбалка', *бу́льбашка.* Гукапераймальнае.

**Бульды́р** 'пузыр'. Гл. *булд-* і *булды́р₂.*

**Бульката́ць.** Гл. *бу́лькаць.*

**Бу́лькаць** (Шат., БРС), *булькатáць* 'булькаць'. Рус. *бу́лькать,* укр. *бу́лькати, булькотáти, булькотíти,* польск. *bulgotać, bulkotać, bełkotać,* чэш. *blkotati,* ням. дыял. *bulken* і да т. п. Гукапераймальнае. Слаўскі, 1, 30, 50; Брукнер, 20; Фасмер, 1, 240; Праабражэнскі, 1, 53; Шанскі, 1, Б, 225; Рудніцкі, 251. Сюды ж *бу́лька* (Клім.), *бу́льхаўка* (Сцяшк.), укр. *бу́лька* 'бурбалка'.

**Бунава́ць** 'сварыцца, лаяцца, шумець' (Шат.), 'сварыцца' (Жд.), 'гаварыць з самім сабой' (Бір. Дзярж.). Параўн. рус. *бунéть, бунúть* 'гусці', укр. *бунíти* 'тс', серб.-харв. *бу̏нити* 'шумець, балбатаць; падбухторваць', балг. *бу́ня* 'падбухторваю' і да т. п. Бернекер (101) лічыць, што ўсё гэта гукапераймальныя словы, якія не маюць непасрэдных паралеляў у іншых мовах; так і Фасмер, 1, 241; Рудніцкі, 1, 255—256. Балг. словы БЕР (1, 90) адносіць да**bujati*, што вельмі няпэўна (Рудніцкі, там жа). Параўн. *боновáты.* Гл. Краўчук, БЛ, 1975, 7, 67.

**Бу́нда** 'старажытная жаночая вопратка; дзіцячая вопратка' (Сакал.), 'сарафан' (КЭС), 'доўгае, пераважна дзіцячае адзенне' (Лысенка Жыт.), укр. *бу́нда* 'верхняя вопратка (род суконнага паліто)', польск. *bunda,* чэш. *bunda* і г. д. Першакрыніцай з'яўляецца венг. *bunda* 'футра, кажух'. Брукнер, 49; Дэжэ, SSlav., 7, 161; Чаранэску, 116; Тамаш, 154; MESz,

1, 389; Рудніцкі, 255. Венг. слова не мае пэўнай этымалогіі (MESz, там жа). Ва ўсх.-слав. мовах *бўнда* запазычана, мабыць, праз польскую мову.

**Бундор** 'комін' (зах.-палес.; Бел.-укр. ізал., 43), *бўндур* 'частка печы' (Бесар., 149). Параўн. польск. дыял. *bondur* 'тс' (гл. Варш. сл., 1, 189, пад *bołdur*). Бясспрэчна, звязана з *боўдур* 'комін' (гл.). Форма ўзнікла (дысіміляцыяй плаўных *л-р*>*н-р*) з **булдор*, **булдур*. Польскае слова, здаецца, запазычана з беларускай мовы. Гл. Краўчук, БЛ, 1974, 5, 64.

**Бу'нкер.** Рус. *бўнкер,* укр. *бўнкер* і г. д. Першакрыніцай з'яўляецца англ. (*coal*-) *bunker* 'вугальны бункер'. Але для еўрапейскіх моў трэба думаць пра ням. пасрэдніцтва (ням. *Bunker* ужо вядомае ў XIX ст., гл. Клюге, 111). Так БЕР, 1, 90; Рудніцкі, 256; MESz, 1, 389. Непасрэднае запазычанне з англ. (так Шанскі, 1, Б, 227) давесці цяжка.

**Бунт**$_1$ 'мяцеж'. Рус. *бунт* (з пачатку XV ст.), укр. *бунт.* Запазычанне з польск. *bunt*<ням. *Bund* 'саюз' ('саюз'>'змова'>'бунт'). Дзеясловы *бунтавáць,* рус. *бунтовáть,* укр. *бунтувáти* таксама лічацца запазычаннем з польск. *buntować* 'тс'. Бернекер, 101; Фасмер, 1, 241, 242; Брукнер, 49; Фасмер, RS, 6, 169; Шалудзька, Нім., 23; Рыхардт, Poln., 38; Кюнэ, Poln., 47. Гл. яшчэ Булыка, Запазыч., 51—52. Версія пра непасрэднае запазычанне з ням. не пераконвае (так Чарных, РЯШ, 1961, № 4, 97; Рудніцкі, 256). Да *бунт* <ням. *Bund* 'саюз' семантычную паралель з іранскіх моў прыводзіць Абаеў, Зб. Баркоўскаму, 14.

**Бунт**$_2$ 'вязка, звязак' (Арх. Бяльк., слонім., Інстр. III, Касп.), 'вязка, мяшок' (Нас.), *бўнцік* (Гарэц.). Укр. *бунт* 'тс'. Рус. *бунт* 'кладка; мяшкі з мукой', *бунт пеньки.* Запазычанне з польск. *bunt* 'тс' (а гэта з ням. *Bund* 'тс', да *binden* 'звязваць'). Магчыма і непасрэднае запазычанне з ням. Параўн. Брукнер, 49; Фасмер, 1, 241; Шанскі, 1, Б, 227; Рудніцкі, 256; Шалудзька, Нім., 23.

**Бунтава'ць.** Гл. *бунт*$_1$.

**Бунчу'к** 'бунчук' (вядомае ўжо з XVI ст.; Булыка, Запазыч.), рус. *бунчўк,* укр. *бунчўк,* польск. *buńczuk, bończuk* 'турэцкі сцяг' і г. д. Запазычанне з цюрк. моў (крым.-тат. *bunčuk* 'ракавіны, бусы на шыі каня', тур *bundžuk* і да т. п.). Корш, AfslPh, 9, 493; Праабражэнскі, 1, 53; Локач, 29; Фасмер, 1, 242; Дзмітрыеў, Тюрк. эл., 22; Цімчанка, 155; Рудніцкі, 1, 256—257.

**Бу'нька** 'бочачка' (Яруш.), 'збанок' (ДАБМ, 822), 'гліняная пасудзіна без вушка' (Інстр. I), гл. яшчэ Клім. Укр. *бýнька* 'гліняны посуд, збан з вузкім горлам', польск. *bunia, buńka*. Слова няяснага паходжання. Варш. сл. (1, 234) лічыць, што гэта трансфармацыя слоў *bania, bańka*. Рудніцкі, 257 (толькі ўкр. матэрыял), таксама думае пра дэфармацыю слова *бáнка*. Няясныя і адносіны (у сэнсе магчымасці запазычання) паміж мовамі, дзе зафіксавана *бýнька*. Параўн. яшчэ чэш. *buňka* 'ячэйка пчаліных сотаў', якое таксама не мае этымалогіі (аб гэтым Махэк$_2$, 77), а таксама назвы пасудзін: чэш. *obuň, obuňka*, славац. *oboňa, obôn(k)a, obonija* і да т. п., якія Махэк$_2$ (408) лічыць няяснымі.

**Буня'к** 'пухір на целе' (Арашонкава і інш., Весці АН БССР, 1972, № 1, 85). Арашонкава і інш., там жа, з няпэўнасцю параўноўваюць з укр. *буня́к* 'чмель', *бýнька* 'пасудзіна з гліны', літ. *bùngti* 'павялічвацца, рабіцца моцным'. Параўнанне з *буня́к* 'чмель' магчымае, і *буня́к* 'пухір' можа быць гукапераймальным (гл. *бунавáць;* як паралель параўн. *бульбатáць* — *бýльбатка* 'бурбалка'). Але не выключаецца і паходжанне ад *бýнька* (гл.) 'бочачка, збанок'. Параўн. розныя значэнні слова *бáнька* 'пасудзіна'. Гл. Краўчук, БЛ, 1975, 7, 67.

**Бур** 'свідравальная прылада'. Рус., укр. *бур*. Запазычанне з ням. *Bohr* (параўн. *bohren* 'свідраваць') ці гал. *boor*, швед. *borr*. Бернекер, 102; Фасмер, 1, 242; Шанскі, 1, Б, 228; памылкова Рудніцкі, 257 (<ням. *Bohrer)*.

**Бу'ра** (Сцяшк. МГ, Інстр. I, Бесар., БРС), *бýря* (Бяльк.). Рус. *бýря*, укр. *бýря*, польск. *burza*, чэш. *bouře*, ст.-слав. **боурꙗ**, серб.-харв. *бȳра*, балг. *бýра, бýря* і г. д. Прасл. **bur'a* 'бура'. Сюды ж, відаць, прасл. **buriti* (гл. *бурыць*). Спрэчным з'яўляецца пытанне, ці **bur'a* — аддзеяслоўнае ўтварэнне ці не. У аснове гэтай групы слоў ляжыць, мабыць, і.-е. гукапераймальнае **bhour-*, **bhur-*. Параўноўваюць з лат. *baũruôt*, нарв. *būra* 'рыкаць', ст.-ісл. *byrr* 'спадарожны вецер', лац. *furō* 'шалею', грэч. φυρμός 'беспарадак', ст.-інд. *bhuráti* 'рухаецца, валтузіцца' і г. д. Траўтман, 28; Мейе, RS, 2, 65; Слаўскі, 1, 51; Фасмер, 1, 250; Праабражэнскі, 1, 55; Брукнер, 50. Параўн. яшчэ Махэк$_2$, 62. Няпэўна Шанскі, 1, Б, 236—237. Параўн. *бýрыць*.

**Бурава'л**. Гл. пад *бурвáлак*$_1$.

**Бура'к** (БРС, Шат., Нас., Сцяшк., Кіс., Гарэц., Бесар.). Рус. *бурáк*, укр. *буря́к, бурáк*, чэш. *burák*, польск. *burak* (*bo-*

*rak*). Відавочна, ад назвы колеру *бу́ры* (гл.). Так Слаўскі, 50. Іншая версія выводзіць назву бурака з с.-лац. *borāgo*, італ. *borragine* (але гэтыя словы маюць іншае значэнне; Бернекер, 72; Брукнер, 49; Фасмер, 1, 243; Рудніцкі, 268). Магчымы ўплыў польскай мовы на ўсх.-слав. (Слаўскі, там жа; Булыка, Запазыч., 52). Зусім іначай Махэк$_2$, 77 (<*buryňa, burgyňa* 'бургундскі бурак').

**Буракі′$_1$** (мн.) 'страва, прыгатаваная з буракоў' (Інстр. I, Жд., Шат., Сцяц., Сцяц. Нар.), *бура́кі* 'тс' (Касп.). Спецыяльнае ўжыванне мн. ліку ад *бура́к* (гл.) для абазначэння стравы (суп з накрышаных буракоў). Падрабязна гл. Сцяц. Нар., 42—43. Чэкман (Baltistica, VIII (2), 1972, 153) лічыць, што бел. слова ўтворана па літоўскай мадэлі (параўн. літ. *burõkai* 'боршч', *kopũstai* 'капусняк').

**Буракі$_2$** 'складкі ў халявах ботаў' (Шн.). Рус. дыял. *бура́к* 'халявы; кошык з бяросты'. Словы, якія не маюць пэўнай этымалогіі. Фасмер (1, 243), як відаць, лічыць значэнне 'кошык з бяросты' першасным (у гэтым значэнні рус. *бура́к,* мабыць, запазычанне, але дакладная яго крыніца невядомая; указвалі на швед., італ. і чув. мовы; агляд версій гл. Фасмер, там жа).

**Бура′н** 'моцны вецер; надвор'е, калі дзьме вецер і ідзе снег' (БРС, Інстр. I). Рус. *бура́н,* укр. *бура́н.* Запазычанне з цюрк. моў (тур., тат. *buran* 'мяцеліца, пурга'). Праабражэнскі, 1, 53; Фасмер, 1, 243—244; Дзмітрыеў, Цюрк. эл., 22; Шанскі, 1, Б, 229; Рудніцкі, 258; Локач, 29. Паводле Шанскага, там жа, бел., укр. *бура́н* запазычаны непасрэдна з рус. мовы.

**Бурандульнік** 'расліна варыўнік, Bulbocodium ruthenicum' (КЭС). Рус. *брундышка, бурундышка* (Даль; але ў СРНГ няма), *брандушка* (Сіманавіч), укр. *брандушка, брундишка.* Не вельмі яснае слова. Паколькі Bulbocodium — гэта таксама Romulea, Crocus, Ixia, Trichonema, то можна лічыць, што паходжанне гэтага слова звязана з поўднем. Параўн. рум. *brîndúșă* 'расліна Crocus'. Назва магла пранікнуць праз укр. мову.

**Бураў** 'свердзел' (Інстр. II). Рус. *бура́в,* укр. *бура́в.* Лічыцца запазычаннем (у рус. мове з XVI ст.) з цюрк. моў (тат. *buraŭ*-<цюрк. *bur-* 'свідраваць', *bura-*, *buraγy* і г. д.). Корш, AfslPh, 9, 494; Бернекер, 102; Дзмітрыеў, Цюрк. эл., 22; Фасмер, 1, 242—243; Шанскі, 1, Б, 228—229. Версія пра запазычанне з герм. моў (гл. *бур*) не пераконвае (яна ў Гараева, 33; Праабражэнскі, 1, 53; Рудніцкі, 257).

**Бура′ць** 'шпурляць'. Гл. *бурыць*$_1$.

**Бу′рбалка**$_1$ 'пузыр, баўдыр на вадзе' (БРС, Бір. Дзярж., Некр., Сцяшк. МГ, Янк. II, Мядзв., Шат., Нас., Касп.), *бурбо́лка* (Бяльк.), *бу́рбаліць* 'дзьмуць у ваду, каб з яе выходзілі бурбалкі' (Бір. Дзярж.), 'пускаць праз ваду бурбалкі' (КЭС), *бурбуле́ць* 'моцна кіпець' (Юрч.), *бурбо́ліць* 'булькаць' (Касп., Нас.), *бурба́ліць* 'пузырыцца' (Шат.). Рус. дыял. *бу́рболка, бурбы́лка,* польск. *burbulka, burbułka.* Лічыцца запазычаннем з літ. *burbuliúoti, burbuolẽ, bur̃bulas* (да этымалогіі балт. слоў гл. Фрэнкель, 1, 44—45 пад *bir̃bti*: усё гукапераймальнае). Варш. сл. 1, 235; Блесэ, SB, V, 11; Кіпарскі, Лекс. балтызмы, 13 (<лат. *bur̃bulis*); Лаучутэ, Лекс. балтызмы, 22. Але праблема больш складаная, чым думаюць, таму што ўся група слоў гукапераймальнага паходжання, і могуць існаваць незалежныя славянскія ўтварэнні (аб складанасці пытання гл. Урбуціс, Baltistica, V (1), 1969, 51; V (2), 1969, 160, 161).

**Бу′рбалка**$_2$ 'жоўтая вадзяная лілія' (Шат.). Таго ж паходжання, што і *бу́рбалка*$_1$ (гл.). Назва гэтай кветкі часта ўтвараецца ад слоў са значэннем 'пузыр, баўдыр, глечык і да т. п.'. Параўн. *глечыкі, кушынкі, гарлачыкі, булдоўка, жбанкі* і г. д.

**Бурбо′ліць** 'старанна есці, спяшацца' (Бір. Дзярж.). Мабыць, да *бу́рбалка, бурбо́лка, бу́рбаліць* (гл.). Першапачаткова 'есці паспешна, пускаючы бурбалкі, захлынаючыся'. Параўн. яшчэ Урбуціс, Baltistica, V (1), 1969, 51.

**Бурбуле′ць** 'моцна кіпець'. Гл. *бу́рбалка*$_1$.

**Бу′рбылка** 'дзіцячая цацка' (Бяльк.): «у костцы свідруецца дзірка, у якую зацягваюць нітку..., костка круціцца, гудзе, бурчыць». Бясспрэчна, звязана з *бу́рбалка* 'пухір, бурбалка', запазычанага з літ. мовы (або ж самастойнага, гукапераймальнага паходжання).

**Бурва′лак**$_1$ 'невялікі ўзгорак, сухое месца на нізіне' (Янк. Мат.). Відаць, памяншальнае ад **бурва́л*, параўн. рус. *бурева́л* (Даль) 'лес паломаны і звалены бурай', бел. *бурава́л* (да *буря, бура* і *валіць, валить*). Невядома ці ёсць нейкая сувязь з літ. *bùrvalkis* 'сцежка, пратаптаная статкам жывёлы' ці ст.-літ. *burvalkas* 'прадмесце' (прус. *burwalkan* 'двор'). Аб літ. словах гл. Фрэнкель, 1, 533.

**Бурва′лак**$_2$, *бушва́лак* (жарт.) 'кавалак бервяна; моцны, прысадзісты (камлюкаваты) чалавек' (Сцяц.). Няясна. Магчыма, таго ж паходжання, што і *бурвалак*$_1$, г. зн. <**бурва́л*< *бурава́л.* Ускосна аб гэтым сведчыць і другая форма — *буш-*

*валак,* якая (з лінгвагеаграфічных меркаванняў: зах.), здаецца, з'яўляецца паланізаванай формай ад *бурвáлак* (параўн. польск. *burza* 'бура'). Непакупны (Latv. Vest., 1973, № 2, 81) лічыць гэта слова магчымым балтызмам (прус. *burwalkan* 'двор і г. д.'). Няпэўна.

**Бургамі'стр.** Рус. *бургомúстр,* укр. *бургомістр.* У полац. граматах: *бургкимистръ* (1399 г.), *бергаместер* (1521 г.). Запазычанне з гал. *burgemeester* або с.-н.-ням. *borgemester.* Фасмер, 1, 244. Іначай Шанскі, 1, Б, 229—230 (<с.-в.-ням. *burgemeister, bürgemeister,* што, аднак, наўрад ці правільна). Параўн. *бурмістр.*

**Бурга'н** 'узгорак, курган' (Нас.). Нейкая кантамінаваная форма *(бугóр+кургáн?).* Але не выключаецца вывядзенне з **бугрáн (бугóр*+суф. *-ан?*). Параўн. *бургýн.*

**Бургану'ць** 'кінуць'. Мабыць, дыялектная форма (азванчэнне *-к->-г-* па суседству з *-р-*) ад **бурканýць, *бýркáць* 'кідаць' (параўн. рус. *бýркáть* 'кідаць', укр. *бýркати* 'трасці'; да этымалогіі гл. Фасмер, 1, 245).

**Бургу'н** 'курган, узгорак; купіна, грудок' (Юрч. Сін.). Магчыма, метатэза з **бугрýн* (утварэнне ад *бугóр;* да суфіксацыі параўн. рус. дыял. *бугрýнь* 'горка, узгорак', калуж.). Параўн. *бурган.*

**Бурда'$_1$** 'бурда, нясмачная яда' (БРС, Бяльк., Нас., Шат., Касп.). Рус. *бурдá,* укр. *бурдá.* Лічыцца запазычаннем з цюрк. моў: тат. *burda* 'мутны напітак'. Міклашыч, Türk. El., Nachtr, 1, 18; Праабражэнскі, 1, 53; Фасмер, 1, 244; Рудніцкі, 259. Старая версія (ад народнага *бурдá* 'чырвонае віно' <франц. *Bordeaux*) не пераконвае (гл. Фасмер, 1, 244; Рудніцкі, 259). Шанскі (1, Б, 230) памылкова адносіць да гэтай групы слоў і польск., чэш. *burda* 'скандал, сварка' (гэтыя словы зусім іншага паходжання, гл. Махэк$_2$, 77; Рудніцкі, 258).

**Бурда'$_2$** 'грыжа, пухліна' (Нас.). Слова не вельмі яснага паходжання. Магчыма, трэба параўноўваць з рус. дыял. (кур., арл., разан.) *бýрды* 'мясісты нарост у птушак пад ніжняй чэлюсцю; хахалкі ў курэй; другі падбародак'. Усё, магчыма, звязана з асновай *бурд-* (гл. *бурдыль*). Першапачаткова 'пухір, бурбалка'?

**Бу'рдавы** 'цёмна-чырвоны' (Касп.). Гл. *бурдóвы.* Націск у форме *бýрдавы* не вельмі зразумелы. Няма ніякай роднаснай формы ці слова, якія б маглі вытлумачыць яго ўзнікненне

(зыходнае толькі *бурда́*). Застаецца меркаваць, што ў *бу́рдавы* — націск «экспрэсіўнага» паходжання.

**Бурдзі́ла** 'высокі тоўсты чалавек' (Бяльк.). Відавочна, утварэнне з суфіксам *-(і)ла* (<**-(i)dlo*) ад дзеяслова тыпу *бурдзе́ць* (параўн. рус. *бурде́ть* 'бурчаць'), гукапераймальнага паходжання, аснова якога *бурд-* дала шмат вытворных. Гл. *бурды́к!, бурды́ц!, бурды́хнуцца, бурды́ль* і г. д. Не выключаецца, аднак, і сувязь з *бу́рды* (рус. дыял.) 'другі падбародак' (гл. *бурда́₂*).

**Бурдзю́к.** Рус. *бурдю́к*, укр. *бордю́г, бурдю́г, бурдю́к, бордю́х*, польск. *burdziuk* і г. д. Лічыцца запазычаннем з цюрк. моў. Параўн. азерб. *burduk* 'тс'. Для ўкр. мовы магло быць некалькі крыніц (у тым ліку і рум.). Гл. Праабражэнскі, 1, 53; Стоцкі, AfslPh, 35, 350; Фасмер, 1, 244; Рудніцкі, 259—260; Вінцэнц, Éléments, 10. Супраць рум. крыніцы Губшмід, Schläuche, 111.

**Бурдо́вы** 'бардовы' (Жд.), 'цёмна-чырвоны' (Арх. Бяльк., слонім.), *бу́рдавы* (гл.) 'цёмна-чырвоны' (Касп.). Рус. дыял. *бурдо́вый* 'тс'. Вытворнае ад *бурда́* 'чырвонае віно' (вядомае ў рус. гаворках) <*бордо́* 'тс' <франц. *Bordeaux*. Фасмер, 1, 244.

**Бурду́ль** 'бурбалка'. Гл. *бурды́ль*. Калі *-ыль* па паходжанню суфікс (слав. **-ylь?*), то варыянт *бурду́ль* можна тлумачыць і чыста фанетычна (асіміляцыяй *бурды́ль*>*бурду́ль*).

**Бурды́к!** 'бух, шась', *бурды́хнуцца* 'ўпасці' (Бяльк.). Параўн. рус. *бурды́чить* 'дабрадушна бурчаць', *бурдыха́ться* 'барацца, дужацца', *бурде́ть* 'быць незадаволеным; бурчаць'; 'шумець (пра камароў)'. Параўн. яшчэ бел. *бурды́ль, бурды́ц!* Можна вылучыць гукапераймальную аснову *бурд-*, якая дала шмат утварэнняў з рознымі суфіксамі. Параўн. з іншых моў: чэш. *burda* 'чалавек, што вельмі шуміць', *brduc!* 'бух!', польск. дыял. *brduc!* (гл. Махэк₂, 66, 77).

**Бурды́ль** 'бурбалка, пухір' (Нас., Інстр. I, Юрч., Бяльк., Яўс.). Сюды ж *бурду́ль* 'вадыр, пухір' (Бяльк.), *бурдулёк* 'бурбалка' (Бяльк.), *бурдулі́* 'бурбалкі на лужынах, калі ідзе дождж' (КЭС). Рус. *бурды́ль* 'бурбалка', *бипду́ль* 'бурбалка, пухір'. Не вельмі яснае слова. Можа, метатэза з *булды́рь* (гл.). Такая магчымасць тлумачэння ў СРНГ, 3, 285. Але не выключаецца і гукапераймальнае паходжанне (параўн. *бурды́р, бурды́к!, бурды́хнуцца*).

**Бурды́р** 'пухір, вадыр; бурбалка'. Відавочна, асіміляцыяй з *бурды́ль* (гл.). Але, паколькі паходжанне *бурды́ль* не вель-

мі яснае, не выключаецца, што ўсё ад нейкай гукапераймальнай асновы *бурд-* (параўн. рус. дыял. *бурдéть* 'шумець (пра камароў)', але з іншым суфіксам *(-ыр<*-ygь)*.

**Бурды́хнуцца** 'ўпасці'. Гл. *бурды́к*! Абодва словы, мабыць, гукапераймальнага паходжання. У словах гэтага тыпу часта сустракаюцца «суфіксальныя» элементы велярныя, якія чаргуюцца (*k~g~cx,* а нават з «палаталізацыяй»: *бурды́ц*!).

**Бурды́ц!** 'бух, шась' (КЭС, лаг.), *бурды́нц* (Нас.). Бясспрэчна, гукапераймальнага паходжання. Параўн. аснову *бурд-* (гл. *бурды́ль, бурды́к!*). Адносна суфіксацыі *-ыц* параўн., напр., укр. *беркúць!,* чэш. *brdúc!* 'тс' і мараўскія валашскія выклічнікі тыпу *hopýc!, šv'ihýc!* (адносна апошніх гл. Вашэк, Vlivy, 99).

**Бурждэ́нк!** 'бразь, хлоп, бух!', *бурждэ́нкнуць* 'кінуць, бразнуць' (Арх. Бяльк., слонім.). Бясспрэчна, гукапераймальнае, але, зыходзячы з формы, можна думаць пра запазычанне з польск. мовы. Параўн. польск. гукапераймальныя ўтварэнні: *brzdęk!, brzdęknąć, brzdąkać* і г. д. (гл. Варш. сл., 1, 217). Да польск. слова гл. яшчэ Слаўскі, 1, 46.

**Бу́рка** 'верхняя жаночая або мужчынская вопратка' (Жд., Шат.), 'сярмяга' (КЭС), 'мужчынская вопратка з брызенту' (Інстр. I), 'розныя віды вопраткі' (Сцяшк. МГ, Янк. Мат., Мат. Гродз., Сакал., Бесар.). Рус. *бýрка,* укр. *бýрка.* Тлумачыцца як вытворнае ад *бýры* ('бурая вопратка'). Брукнер, 49; Мацэнаўэр, Cizí sl., 124; Рудніцкі, 261; Фасмер, 1, 245. Іншыя думаюць пра запазычанне з усх. моў (Міклашыч, Türk. El., Nachtr., 1, 14; Гараеў, 34; Локач, 19: <перс. *bärk* 'плячо') або з венг. мовы ці цюрк. моў (Дзмітрыеў, Тюрк. эл., 39: з венг. *burok*). Булыка (Запазыч., 52) лічыць, што бел. *бурка* < польск. *burka* (а гэта з тур.). Няпэўна. Параўн. Брукнер, 49.

**Буркалы** 'вочы' (КЭС). Відаць, запазычанне з рус. *бýркалы* 'выпучаныя вочы'. Параўн. рус. *бýркалки* 'мыльныя бурбалкі'; гл. яшчэ Бернекер, 102; Праабражэнскі, 1, 54; Фасмер, 1, 245. Не пераконвае Шанскі, 1, Б, 232: рус. *бýркалы<бýркать* 'кідаць' *(буркать взгляд — кидать взор).* Хутчэй проста ад рус. дыял. *бýркать* 'глядзець' *(бýркать глазами).*

**Бу́ркаць,** *буркавáць, буркатáць.* Гл. *бурчáць.*

**Бу́ркі** 'цёплы абутак' (БРС), 'абутак з тканіны' (Яўс.), 'шытыя валёнкі' (Сакал.). Мабыць, запазычанне з рус. *бýрки* 'тс' (якое Шанскі, 1, Б, 233, лічыць звязаным з *бýрка* 'войлачны плашч').

**Бурку́н** 'месца, дзе шуміць вада'. Гл. *бурча́к*$_2$, *бурча́ць*.

**Бурла́к** 'бурлак' (БРС, Нас.), 'парабак, батрак' (КЭС), 'здаравенны чалавек' (Нас.), 'лайдак, гультай' (КЭС). Укр. *бурла́к, бурла́ка* 'бабыль, бяздомны чалавек, халасцяк'. Рус. *бурла́к* 'работнік на рачных судах; селянін на заработках; здаравенны хлопец; халасцяк; валацуга'. Польск. *burłak* (<укр.). Вельмі цёмнае слова. Версіі пра запазычанне (з тат. мовы або з с.-в.-ням.; агляд іх гл. Фасмер, 1, 245—246; Шанскі, 1, Б, 233) пераконваюць слаба. Шанскі, там жа, хоча выводзіць яго з рус. **бурло* 'крыкун' (<*бурло* 'найбольшы звон на званіцы'). Але гэта вельмі няпэўна. Рудніцкі (1, 263) бачыць сувязь з дзеясловам слав. **burliti* 'бурліць' (параўн. укр. *бурли́-голова* 'неспакойны чалавек', *бурлі́й* 'крыкун, баламут').

Вельмі няпэўным з'яўляецца вывядзенне Шанскім (там жа) бел. і ўкр. слова з рус. мовы.

**Бурлі́ць** 'бурліць'. Рус. *бурли́ть*, укр. *бурли́ти*. Усх.-слав. слова, спрэчнае па паходжанню. Праабражэнскі (1, 54) лічыў яго гукапераймальным. Фасмер (1, 246), Рудніцкі (263—264) думаюць пра сувязь з **bur'a* (гл. *бу́ра*). Шанскі (1, Б, 234) выводзіць ад **бурло* 'крыкун, шумны чалавек' (параўн. рус. *бурло* 'самы вялікі звон на званіцы', *бурлан* 'крыкун, забіяка' і г. д.).

**Бурме́ль** (арго) 'ячмень' (Рам.). Раманаў (там жа) параўноўвае з польск. *burwień* 'авёс' (адкуль?). Няясна. Параўн. яшчэ рус. дыял. *бурмиться* 'каласіцца' (аб аўсе).

**Бурмі́стр** (гіст.). Рус. *бурми́стр*, укр. *бурми́стер*. У значэнні 'стараста' запазычанне з польск. *burmistrz, burgmistrz* (<ням. *Burgmister*, *Bürgermetster*, гл. Брукнер, 50). Фасмер, 1, 246. У значэнні 'бургамістр', магчыма, непасрэдна з с.-в.-ням. *burmēster;* Праабражэнскі, 1, 54; Фасмер, 1, 246. Параўн. *бургамі́стр*. Гл. яшчэ Булыка, Запазыч., 53.

**Бурмі́шча** 'ўдалец, весялун, гуляка' (КЭС). Відаць, да дзеяслова *бурмава́ць* 'бушаваць, шумець' (Нас.). Але Фасмер (1, 246) рус. (смал.) *бурми́ще* 'тс' хоча вывесці з *бурмістр* (гл.). Наўрад ці гэта так.

**Бу́рнас.** Гл. *бурно́с*. Можна меркаваць, што націск у слове *бу́рнас* сведчыць аб паходжанні ўласна гэтай формы слова з польскай мовы (параўн. польск. *burnos, burnus*). Аб гэтым сведчыць і геаграфія слова *бу́рнас* (зах., Сцяшк. МГ).

**Бурно́с** 'плашч, бурнус' (БРС, Касп.), 'мужчынская доў-

гая вопратка' (Інстр. I, Сцяшк. МГ), 'армяк, бурка' (Янк. Мат.), 'вялікі мужчынскі кажух; доўгая вопратка з даматканага сукна і г. д.' (Сакал.), *бу́рнас* 'доўгае суконнае адзенне' (Сцяшк. МГ), *бу́рнôс* 'зімовая жаночая вопратка' (Лысенка ССП). Рус. *бурну́с* 'плашч з капюшонам', укр. *бурну́с, бу́рмус*, польск. *burnus, bornus, burnos, burmus, burno, burdus,* чэш., славац. *burnus* 'від зімовай вопраткі'. Усюды слова зрабілася народным. Запазычанне з араб. *burnus* 'шырокі плашч' або праз франц. *bournus,* або праз тур. *burnus, burnuz* 'лёгкі шарсцяны плашч'. Міклашыч, Türk. El., Nachtr., 1, 19; Фасмер, 1, 247; Рудніцкі, 264; Махэк$_2$, 77; Варш. сл., 1, 238. Бел. *бурно́с*, можа, з польск. *burnos*. Параўн. і форму *бу́рнас* (націск!).

**Бурну'ць** 'шпурнуць'. Гл. *бу́рыць*$_1$.

**Бурнэлька** 'расліна чорнагалоў, Prunella L.' (Кіс.). Параўн. *брунэ́лька*. Варыянт *бурнэлька* таксама запазычаны з польскай мовы (польск. *burnelka*||*brunelka;* аб паходжанні польск. слова гл. пад *брунэ́лька)*.

**Буро'іць** 'гаварыць без толку' (Бяльк.). Параўн. рус. *буро́вить* 'гаварыць; балбатаць; вярзці лухту', *буро́бить* 'гаварыць няпраўду, ілгаць'. Рус. дзеясловы азначаюць таксама 'варушыць, узрыхляць; хваляваць; перамешваць; застаўляць цячы, біць крыніцай; многа наліваць з шумам і да т. п.', таму можна меркаваць, што ўсе гэтыя словы адносяцца да *бу́рыць*$_{1,2}$. Гл. Фасмер, 1, 247, які рус. *буро́бить* 'хлусіць' адносіць да *буро́вить* 'біць крыніцай'.

**Буроўка** 'божая кароўка' (З жыцця). Гл., акрамя таго, *баро́ўка* 'тс'. Відавочна, утварэнне ад асновы *бар-* для абазначэння авечак (гл. падрабязней пад *баро́ўка)*. Форма *буро́ўка* (калі гэта не фанетычная змена), магчыма, узнікла пад уплывам *бу́ры*?

**Бу'рса**$_1$ (гіст.) 'бурса'. Рус. *бу́рса,* укр. *бу́рса* і г. д. Запазычанне з польск. *bursa* (або ням. *Burse*) <с.-лац. *bursa* 'казённы кошт'<'кашалёк' (<грэч. βύρσᾱ 'мяшок'). У пераносным значэнні 'таварыства'. Брукнер, 50; Праабражэнскі, 1, 54; Фасмер, 1, 247; Шанскі, 1, Б, 234—235; Рудніцкі, 265; Булыка, Запазыч., 53.

**Бу'рса**$_2$ 'група, пэўная колькасць людзей' (Жд.). Укр. *бу́рса* 'тс'. З *бу́рса*$_1$ (гл.). Параўн. Рудніцкі, 265; Махэк$_2$, 77; Булыка, Запазыч., 53.

**Бу'рса**$_3$ 'сварка, лаянка' (Сцяц.). Укр. *бу́рса* 'тс' (гл. Рудніцкі, 265). Такія ж значэнні і ў іншых мовах, напр., славац.

*bursa* 'танец, гульня з музыкай; сварка, лаянка'. Бясспрэчна, звязана з *бýрса*₁ (гл.) і *бýрса*₂. Першапачаткова меліся на ўвазе шумныя забавы бурсакоў (іншая магчымасць тлумачэння: 'група людзей'→'шум, лаянка'). Гл. Рудніцкі, 265; Махэк₂, 77 (там крыху інакай: першапачаткова 'скандал сярод купцоў').

**Бурт** 'капец' (Бяльк., Сцяшк. МГ), 'вялікая куча бульбы прадаўгаватай формы' (Выг. дыс.). Укр. *бýрта*, рус. *бурт*. Усё запазычанне з польск. *burta, burt* 'кайма; борт; край насыпу' (<ням. *Bord* 'край, борт'). Праабражэнскі, 1, 54; Брукнер, 50; Фасмер, 1, 247; Шанскі, 1, Б, 235. Укр. *бýрта* <польск. *burta* <ням. *Borte* (Брукнер, 50; Рудніцкі, 266). Параўн. *борт*₂.

**Буртэ́ль** 'цурбан' (Касп.). Мабыць, запазычанне з польск. *burtyl* 'дрэва, прыдатнае на бэлькі для аббіцця карабля' (Варш. сл., 1, 237). Параўн. яшчэ *бурцалёк* 'цурбан' (гл.).

**Бурузьдзі́ць** 'вярзці лухту, парушаць парадак, каламуціць' (Касп.). Гл. *баруздзіць*.

**Бурук** 'нелюдзімы чалавек' (Яўс.). Як і шмат іншых экспрэсіўных слоў, не вельмі яснага паходжання. Магчыма, да *бурыць* (гл.). Параўн. рус. дыял. *бури́ть* 'лаяць'. Не выключаецца таксама сувязь з *бірýк* 'воўк' (гл.), рус. *бирю́к* 'тс', якое пераносна ўжываецца і ў значэнні 'нелюдзімы чалавек'.

**Бурцалёк** 'цурбан' (=буртэ́ль) (Касп.). Няяснае слова. З **бýрцаль*<польск. **burtel* (параўн. *burtyl*, гл. пад *буртэль*)?

**Бурча́** 'топкае месца'. Гл. *бýрчак*₂.

**Бурча́к**₁ 'гатунак гароху' (Сцяц., Жд., Касп.), 'гарох буйнога гатунку' (КЭС, лаг.), *бýрчак* 'буры гарох' (Др.-Падб.). Польск. *burczak* 'звычайны або буры гарох'. Фасмер (1, 249) (без польскага матэрыялу) лічыць, што гэта запазычанне з цюрк. моў (тур., туркм., чагат. *burčak* 'гарох'). Наводзіць сумненне адсутнасць гэтага слова ва ўсходніх гаворках, рус. і ўкр. мовах. Можа, запазычанне з польск. *burczak* (якое, здаецца, Варш. сл., 1, 236, выводзіць ад *bury*): параўн. націск у *бýрчак*.

**Бурча́к**₂ 'ручай з хуткім цячэннем вады' (Арх. ГУ), 'адрэзак ракі, дзе хуткае цячэнне' (Янк. I), *бурчá* 'топкае месца' (Яшкін). Укр. *бурчáк* 'тс'. Да *бурчáць* (гл.). Параўн. і *буркýн* 'месца, дзе шуміць вада ў рацэ' (Сцяшк. МГ).

**Бурча́ць** (БРС, Нас., Яруш., Касп., Бяльк., Шат.), *бурчэ́ць* (Гарэц.). Таксама *бýркаць, бýркнуць, буркатáць*. Гэтыя

дзеясловы азначаюць розныя гукі (шум вады, голас чалавека і да т. п.). Параўн. яшчэ *буркава́ць (голубы буркуюць)*. Укр. *бу́ркати, бурча́ти, буркоті́ти, буркота́ти, буркý ку́!* (выклічнік, які перадае голас голуба), рус. *бу́ркать, бурча́ть,* польск. *burknąć, burczeć,* славен. *búrkati* і г. д. Гукапераймальнае. Бернекер, 102; Праабражэнскі, 1, 54; Рудніцкі, 262; Шанскі, 1, Б, 233. Параўн. яшчэ Фасмер, 1, 245, 249. Няпэўна Бецэнбергер, BB, 26, 188 (сувязь з **bur'a* 'бура').

**Бурштыʹн** (БРС, Гарэц., Нас.), таксама *бруштын* (Касп., Нас.); *бурштынавы, бруштыно́вы, бруштынавы* 'колер з адценнем жоўтага' (Інстр. II, БРС). Слова гэтае ўжо ў Барынды. Укр. *бурштúн, бру́штин* 'тс'. Запазычанне з польск. *bursztyn* 'тс' <н.-ням. *bornstēn* (ням. *Bernstein,* літаральна 'палаючы камень'). Бернекер, 102; Рыхардт, Poln., 38; Кюнэ, Poln., 46; Булыка, Запазыч., 53; Шалудзька, Нім., 24; параўн. Брукнер, 50. Рудніцкі (267—268), зыходзячы з націску, выводзіць слова непасрэдна з ням. мовы.

**Буʹры.** Засведчана з XVI ст. (гл. Булыка, Запазыч., 53). Рус. *бу́рый* (з XII ст.), укр. *бу́рий,* польск. *bury* 'цёмна-шэры', славац. *burý.* Зыходзячы з геаграфіі слова, лічаць, што гэта запазычанне з усх. моў (як і многія іншыя назвы колеру): з цюрк. (тур.) *bur* 'рыжай масці'<перс. *bōr* 'гняды, рыжай масці'. Міклашыч, Türk. El., 1, 269; Nachtr., 1, 18; 2, 90; Міклашыч, 24; Корш, AfslPh, 9, 493 і наст.; Праабражэнскі, 1, 54. Але і тут ёсць няпэўнасці (гл. Слаўскі, 1, 51; Курыловіч, PF, 10, 335—336). Іншая версія: запазычанне з лац. *burrus* 'багровы' (Бернекер, 102; Мацэнаўэр, LF, 7,17 і наст.; Брукнер, 50). Махэк$_1$ (51—52) лічыў, што славац. *burý* (аб масці валоў) <рум. *bur(ă)* 'вол' (а гэта з лац. *burrus*) і пасля пашырылася і ў іншых слав. мовах.

**Буры́ць**$_1$ 'руйнаваць' (БРС, Шат., Нас., Бяльк., Касп.), 'распускаць вязанае' (Жд.), *бу́рыць* 'разрываць, руйнаваць' (КЭС, лаг.). Рус. *бури́ть* 'руйнаваць, кідаць і г. д.', укр. *бу́рити* 'руйнаваць; моцна ліць, ліцца і г. д.' У розных, але падобных значэннях і ў іншых славян: польск. *burzyć,* чэш. *bouřiti,* серб.-харв. *бу́рити се* і г. д. Звязана з слав. **bur'a* (гл. *бу́ра*). Слаўскі, 1, 51; Мейе, RS, 2, 65; Махэк$_2$, 62 (лічыць **bur'a* аддзеяслоўным утварэннем); Фасмер, 1, 244—245. Іначай (але паводле Фасмера, там жа, неправаканаўча) Праабражэнскі, 1, 658 (рус. і ўсх.-слав. *buriti*<*oboriti* кантамінацыяй з *бу́ря*). Сюды ж адносіцца і бел. *бу́рыцца* 'абвальвацца' (Нас., Касп., Жд.), *бу́рнуць* 'шпурнуць' (Арх. Бяльк., слонім.), *бурну́ць* 'тс' (Янк. III), *бура́ць* 'шпурляць, кідаць'

(Янк. III). Параўн. рус. *бурну́ть* 'шпурнуць, кінуць', *буря́ть* 'кідаць, шпурляць, руйнаваць'.

**Буры́ць₂** 'мачыцца' (Гарэц.), *бу́рыць* (Нас.), *бурэ́ніць* 'тс' (Бяльк.), *бурь́іць* 'моцна ліць ваду' (Шат.). Рус. дыял. *бури́ть, бу́риться* 'тс', *бу́рила* 'дзіця, якое ноччу мочыцца'. Развіццё значэння зразумелае з рус. дыял. лексікі: *бу́ри́ть* 'біць крыніцай, бурліць'; 'наліваць багата, праз край' (→'мачыцца'). Усё да *бу́ра, бу́рыць* (гл.). Параўн. і ўкр. *бу́рити* 'моцна ліць, ліцца'.

**Бурэ́ніць.** Гл. *буры́ць₂*. Дзеяслоў *бурэ́ніць* узнік з формы *буры́ць* далучэннем «экспрэсіўнага» дзеяслоўнага суфікса *-эн-*, вядомага амаль ва ўсіх славянскіх дыялектах.

**Бур'я́н₁** 'бур'ян' (БРС). Рус. *бурья́н*, укр. *бур'я́н*. Падобныя формы ёсць і ў іншых славян: балг. *бу́рен* 'тс', серб.-харв. *бу̏рјан* 'Sambucus ebulus', славац. *burina*, польск. *burzan* (<укр.; Слаўскі, 1, 51) і г. д. Этымалогія слова вельмі няпэўная (чэш. *buřina, buřeň* з славац. *burina;* чэш. *buřan* з рус. *бурьян*; Махэк₂, 77); яно лічыцца няясным па паходжанню (Слаўскі, 1, 51; Махэк₂, 77). Старыя версіі (сувязь з *пырей*: Патабня, РФВ, 4, 189, праформа **purjanъ;* сувязь з ням. *Baldrian,* лац. *valeriana*: Праабражэнскі, 1, 55; роднаснасць з **былие**: Младэнаў, 50) не пераконваюць (Рудніцкі, 1, 269, лічыць, што тлумачэнне Патабні ўсё ж найбольш падыходзіць). Фасмер (1, 249—250) думае пра сувязь з рус. *бури́ть* 'раскідваць' (*бурьян,* 'тое, што пышна разраслося'). БЕР, 1, 91: сувязь з **bujьnъ* 'буйны' (там і агляд слав. форм). Незразумела Шанскі, 1, Б, 236 (ад асновы *бур-*||*был-*: *былинка*). Параўн. і Прыцак, IJSLP, 8 (1964), 41—45. Гл. яшчэ Кніежа, 113; MESz, 1, 391—392 (венг. *burján* <слав.).

**Бур'я́н₂** 'навальніца з вялікім ветрам; бура' (Яшкін). Мабыць, кантамінаванае слова: *буран, бура+буяць, буян*?

**Бусава́ць** 'п'янстваваць, дэбашырыць', *буса́ць* 'бурна весяліцца, п'янстваваць' (Бяльк., Нас.). Сюды ж і *буса́йла* 'дзёрзкі гарэза; гуляка' (Гарэц., Нас.). Рус. *бу́са́ть* 'піць, п'янстваваць', *бусо́й, бу́сый* 'п'яны'; слова з мовы афеней (СРНГ, 3, 301). Лічыцца запазычаннем з с.-н.-ням. *būsen* 'тс', с.-в.-ням. *bûsen*. Фасмер, 1, 251.

**Буса́йла.** Гл. *бусава́ць*.

**Буса́к** 'бугор' (Касп., БРС), 'пажарны крук' (КЭС, лаг.). З **босак*. Запазычанне з польск. мовы (*bosak* 'тс'<ням. *Bootshacken, Bootshacke;* Варш. сл., 1, 193; Брукнер, 37). Па-

раўн. і *басák* 'тс'. Гл. і літ. *bùsokas,* якое запазычана з ням. (усх.-прус.) *bôshaken* (Фрэнкель, 67). З фанетычных меркаванняў не пераконвае вывядзенне (Міхневіч, БЛ, 1972, 1, 72) бел. *бусák* з ст.-цюрк. *bašag* 'наканечнік, вастрыё стралы ці кап'я'.

**Бу́сел.** Рус. *бýсел, бýсель, бýсол,* укр. *бýсел, бýсол, бýсько, бусь* і г. д., польск. *busiel, buśko, buś, busek* 'тс'. Лічаць, што гэтыя назвы звязаны з рус. прыметнікам *бýсый* 'шэры' (аб гэтым слове гл. Фасмер, 1, 252). Брукнер, 33 (польск. словы з усх.-слав.); Бернекер, 104; Корш, AfslPh, 9, 492; Фасмер, 1, 251; Рудніцкі, 1, 269—270. Вельмі падрабязна пра геаграфію слова і дыялектныя формы Клепікава, ВСЯ, 5, 158—160. Неверагодна. Якабсон, Word, 7, 190. Гл. яшчэ Нідэрман, Balto-Sl., 29.

**Бу́сельнік** 'расліна Erodium' (Кіс.). Рус. *áистник,* укр. *бузьочник, бусьочник, буськи, журавлініє носики* (Макавецкі, Sł. botan., 141—142), чэш. *čapí nos, čápínůsek* (Махэк, Jména rostl., 135), серб.-харв. *ча̏пља, чапљика, чапљина,* англ. *stork's bill,* ням. *Reiherschnabel,* франц. *bec de grue, bec de cigogne* (Сіманавіч, 186). Ад *бýсел:* плады расліны вельмі падобныя да галавы з дзюбай бусла, параўн. апісанне расліны: «Іншы раз бусельнік росце по полю, з такімі дзюбамі зелле» (Арх. ГУ). Гл. Нейштадт, Определитель, 363—364; Сіманавіч, там жа.

**Бусе́ць:** *жыта бусée* 'псуецца, пакрываецца іржой' (Запіскі, т. 2, кн. 9, 112). Параўн. рус. дыял. *бýсéть* 'плеснець, цвісці'. Усё ад **busъ* 'шэры', слова, пашыранага на рускай моўнай тэрыторыі, але ад якога ў бел. мове ёсць вытворнае — *бýсел* (гл.).

**Бу́сі,** *бýські* 'пацалуначкі', *бýся.* Гл. *бýсяць.*

**Бусла́й** (Нас.), тое ж, што *бусáйла* (гл. пад *бусавáць).* Але не выключаецца, што бел. *буслáй,* як і рус. *буслáй,* іншага паходжання (Фасмер, 1, 251). Гл. яшчэ *буслік.*

**Буслік** 'сто грамаў гарэлкі' (Інстр. III). Няясна. Можа, ёсць сувязь з *бусавáць, бусáць* 'п'янстваваць' (гл.). Параўн. яшчэ рус. *буслáй* 'чалавек, які любіць пагуляць, павесяліцца, гуляка' (гэта, аднак, можа быць і іншага паходжання, гл. Фасмер, 1, 251). Не выключаецца і сувязь з *бýсел,* але якая тут матывацыя?

**Бу́снява жы́та** 'расліна спарынння, Claviceps purpurea L.' (зах.-палес., Выгонная, Лекс. Палесся). Выгонная, там жа,

мяркуе, што назва абумоўлена тым, што, як і Claviceps purpurea, буслу ў народных паданнях адводзіцца значнае месца (бусел ведае, які будзе ўраджай і г. д.) і прыводзіць серб.-харв. назву расліны — *ро́дац*. Але серб.-харв. *ро́дац* — гэта і 'бусел' і 'тутавае дрэва' (плады якога фіялетавыя, як і рожкі спарынні). Сувязь з буслам (што такая можа быць, сведчыць ням. назва для Claviceps purp. — Storchkorn, літаральна 'буслава зерне'; гл. Марцэль, Pflanzennam., 5 (4), 551) можа быць і іншай: па колеру дзюбы або ног бусла. Краўчук, БЛ, 1975, 7, 67.

**Бусурма́н.** Гл. *басурма́н*₁.

**Бу́сы** 'пацеркі' (Інстр. I, Сакал., Бяльк.). Рус. *бу́сы*, укр. *бу́си*. Слова, пашыранае пераважна на рускай моўнай тэрыторыі. У бел. мове, здаецца, з рус. Паходжанне слова няяснае. Ёсць версія пра сувязь з **biserъ* 'бісер' (гл.); так Праабражэнскі, 1, 55; Шанскі, 1, Б, 237; Гараеў, 17. Супраць Фасмер, 1, 252; Бернекер, 58; Рудніцкі, 270. Сабалеўскі (РФВ, 67, 214) звязаў слова з *бу́са* 'лодка, карабель' (<сканд. моў), па падабенству ракавін, з якіх рабіліся пацеркі, з лодкамі.

**Бу́сяць** 'цалаваць' (Касп.), *бу́сіць* 'тс' (Гарэц., Нас.), *бусява́цца* 'цалавацца' (Сцяшк. МГ); *бу́ся, бу́сі* 'пацалуначкі' (дзіцячае; Шат., Гарэц., Нас., Бесар.), *бу́ські (даць буські)* 'пацалаваць (дзіця)' (Сцяц.), *бу́ськы* 'пацалунак' (Клім.), *бу́ські*, *бу́сенькі* 'тс' (Бяльк., Касп., Нас.). Укр. *бу́зя* 'рот, твар', *да́ти бу́зі* 'пацалаваць'. Параўн. далей польск. *buzia* 'роцік; пацалунчык', балг. *бу́за* 'шчака', рум. *buză* 'губа', алб. *buzë* 'тс', лац. *bucca* 'рот', ням. *Buß* 'пацалунак', *bussen* 'цалаваць', літ. *bučiúoti* 'цалаваць', *bùč, bùčiu* (выклічнік) і г. д. Лічыцца гукапераймальным словам, вядомым (у розных фанетычных варыянтах) у многіх мовах. Гл. Слаўскі, 1, 52; Коржынэк, Studie, 194; Фрэнкель, ZfslPh, 13, 234; Фрэнкель, 61. Але Рудніцкі (242) думае пра памяншальнае ўтварэнне ад *губа́*: *губа́*>*губу́ся*>*бу́ся*>*бу́зя*. Кюнэ (Poln., 47) мяркуе, што бел. слова запазычана з польск. *buzia*.

**Бут** 'яма, траншэя з каменнем; каменны падмурак печы ў хаце' (Яшкін). Параўн. рус. *бут* 'дробнае каменне, шчэбень', *бути́ть* 'напаўняць яму цэментным растворам і шчэбнем'. Паходжанне слоў няяснае. Гл. Фасмер, 1, 252 (там некаторыя меркаванні).

**Бу́таль.** Гл. *бу́тля, бутэ̀лька*.

**Бутара́ж**, *бутара́жыць*. Гл. *будара́жыць*.

**Бутары′сіца** 'завіруха' (Касп.). Бясспрэчна, звязана з рус. дыял. *бутóра* 'тс', *буторúть* 'месці (аб мяцеліцы)'; далей з *бутарáжыць, бýдарáжыць* (гл.). Параўн. яшчэ Шанскі, 1, Б, 212—213.

**Бу′тлы.** Гл. *батвá.*

**Бу′тля,** *бýталь.* Укр. *бýтля, бóтля, бýтель.* Запазычанне з польск. *butla, butel* 'тс' (<франц. *bouteille,* с.-лац. *buticula,* гл. Варш. сл., 1, 241; Брукнер, 51). Рыхардт, Poln., 38; Рудніцкі, 274. Параўн. *бутэ́лька.* Рус. *бутылка, бутыль* таксама з польскай мовы (гл. Праабражэнскі, 1, 56; Фасмер, 1, 254; Шанскі, 1, Б, 238—239). Губшмід (Schläuche, 42) думае пра запазычанне рус. *бутыль* прама з франц. мовы (падрабязна аб гісторыі ўсёй групы слоў там жа, 38 і далей). Гл. яшчэ Гарабец, Мовознавство, 1972, № 4, 82—83.

**Буто′н.** Рус. *бутóн,* укр. *бутóн.* Запазычанне з франц. мовы: франц. *bouton* 'тс' (да *bouter* 'расці, набракаць'). Фасмер, 1, 253; Шанскі, 1, Б, 238.

**Буту′з.** Відавочна, запазычанне з рус. *бутýз, бутýс* 'тоўсты малы чалавек, карапуз', якое лічаць вытворным ад дзеяслова *бутéть* 'таўсцець' (Гараеў, 25; Сабалеўскі, РФВ, 66, 333; Фасмер, 1, 253; Шанскі, 1, Б, 238). Іншыя думаюць, што рус. слова — цюркізм (так Дзмітрыеў, Тюрк. эл., 44; супраць Шанскі, там жа).

**Буты′лка** 'бутэлька' (Бяльк., Сцяшк. МГ). Мабыць, з рус. *бутылка* 'тс'.

**Бутэ′лька,** таксама *бутэ́ль* (Нас.), *бутэ́лка* (Бяльк.). Укр. *бутéлька.* Запазычанне з польск. *butelka* 'тс' (а гэта з франц. *bouteille).* Гл. Варш. сл., 1, 241; Брукнер, 51; Рыхардт, Poln., 38; Кюнэ, Poln., 47; Рудніцкі, 1, 274. Гл. яшчэ *бýтля.* Падрабязна аб усёй групе слоў гл. Губшмід, Schläuche, 38 і наст.

**Бутэрбро′д.** Рус. *бутербрóд,* укр. *бутербрóд.* Запазычанне з ням. *Butterbrod (Butterbrot)* 'хлеб з маслам'. Брандт, РФВ, 18, 33; Фасмер, 1, 252; Шанскі, 1, Б, 238.

**Бу′фер.** Рус. *бýфер,* укр. *бýфер.* Запазычанне (можа, праз рус. мову) з англ. *buffer.* Гл. Шанскі, 1, Б, 239.

**Буфе′т.** Рус. *буфéт,* укр. *буфéт.* Фасмер (1, 254) лічыць, што слова запазычана праз ням. *Büfett* з франц. *buffet* або італ. *buffetto.* Шанскі (1, Б, 239) думае пра франц. крыніцу.

**Буха′й** 'бугай' (Сцяшк. МГ). Запазычанне з польск. *buhaj* (у польск. мове звычайнае вымаўленне *-ch-* замест *h-).* Гл. яшчэ *бугáй*$_1$. Параўн. *бахун.*

**Бу′хал** ’бусел’ (палес., КЭС). Магчыма, змена першапачатковага *бусел* пад уплывам дзеяслова *бухаць.* Але больш верагодным здаецца ўтварэнне непасрэдна ад *бухаць* (параўн. характэрны для бусла шум, стук, які ён робіць дзюбай). Параўн. ням. *Klapperstorch* ’бусел’ (*klappern* ’стукаць; ляскаць’). Параўн. яшчэ назву птушкі, таксама ўтвораную ад *бухаць — бухала* ’бугай’ (па крыку; Інстр. II), рус. *бýхала, бухало* ’бугай’, *бухало* ’пугач’ (да гэтага параўн. Булахоўскі, ИАН ОЛЯ, VII, 99; Фасмер, 1, 254; Шанскі, 1, Б, 240). Бел. слову па марфалогіі дакладна адпавядае балг. *бýхал* ’пугач’ (Strix bubo), таксама гукапераймальнае, гл. БЕР, II, 93; Будзішэўска, Słown., 121. Краўчук, БЛ, 1975, 7, 67—68.

**Буха′нка.** Гл. *бóхан.*

**Бу′хаць** ’ударыць; кідаць; стукаць; падаць; крычаць (пра птушак) і г. д.’ Рус. *бýхать,* укр. *бýхати,* польск. *buchać,* чэш. *bouchati,* серб.-харв. *бухнути,* балг. *бýхам* і г. д. Прасл. **buxati* (ад выклічніка **bux!*; гукапераймальнае). Гл. Бернекер, 97; Праабражэнскі, 1, 56; Фасмер, 1, 255; Слаўскі, 1, 48; Рудніцкі, 276; БЕР, II, 93; падрабязна Смаль-Стоцкі, Приміт., 142—143. Наўрад ці трэба лічыць самастойнымі ўтварэннямі (як гэта ў Бернекера, 97) **buxati* ’крычаць’ і **buxati* ’біць, ударыць’. Таксама, паколькі тут гукапераймальныя асновы, не трэба шукаць і.-е. роднасныя сувязі (як гэта ў Фасмера, 1, 255). Няпэўна Махэк$_2$, 62, які зыходным лічыць **bukati,* а **buxati* — гэта «інтэнсіўная» форма (**buk-s-ati*). Параўн. *бухцець, бухтóрыць* (гл. пад *бухцець*).

**Бухі′каць** ’кашляць’ (Сцяц.). Параўн. рус. дыял. *бухúкать* ’тс’, укр. *бухúкати* ’тс’, *бухú-бухú!* ’тс’. Экспрэсіўная форма да дзеяслова *бýхаць* (гл.), слав. **buxati,* якое, мабыць, мела значэнне і ’кашляць’ (параўн. рус. дыял. *бýхать* ’кашляць’). Суфіксацыя: *-*yk*-. Але можна думаць і пра паходжанне ад выклічніка тыпу укр. *бухú!* (аб кашлянні): **buxy-k-ati* (параўн. яшчэ укр. *кахú!*: *кахúкати* ’кашляць’, рус. *хихú*: *хихúкать* і г. д.). Гл. Краўчук, БЛ, 1975, 7, 68.

**Бухма′ты** ’пухлы’ (БРС), ’тоўсты ў твары’ (КЭС, лаг.), ’раскідзісты, шырокі’ (*кóпы зрабілісі бухмáтыя;* Сцяшк. МГ). Здаецца, таго ж паходжання, што і *бахмáты* ’касматы, пушысты’ (гл.), укр. *бахмáтий* ’мешкаваты (аб адзенні)’, г. зн. вытворнае ад *бахмáт* ’конь татарскай пароды’ (гл.). Гэта апошняе выводзяць і ад мусульманскага імя Mähmäd, Mähmät. Гэту версію, здаецца, падтрымліваюць такія рус. дыял. формы, як *бахмéт* ’непаваротлівы; касматы, махнаты’, *бухмéт*

'тоўсты, здаровы чалавек або жывёла' (параўн. варыянтнасць вакалізму ва ўсх.-слав. мовах: *бахмáт—бухмáт—бахмéт—бухмéт)*. Рус. *бухмéт* 'тоўсты, здаровы чалавек' пацвярджае вывядзенне бел. слова ад *бахмáт*.

**Бу'хта₁** 'заліў'. Рус. *бýхта*, укр. *бýхта*. Запазычанне (у рус. мове з Пятроўскай эпохі) з ням. *Bucht* 'тс' (а гэта вытворнае ад *biegen* 'гнуць, выгібаць', гл. падрабязна Клюге, 107). Фасмер, 1, 256; Рудніцкі, 277; Шанскі, 1, Б, 241—242. З даўнейшай літ-ры параўн. Корбут, PF, 4, 501.

**Бу'хта₂** 'глыбокае месца ў рацэ на самым яе павароце, вір' (Яшкін); 'выкручаная вадой яма на дарозе, на лузе ў час разводдзя' (Яшкін), 'шырокае і глыбокае месца на рацэ' (Сцяшк. МГ). Наўрад ці ад *бýхта* 'бухта' (<ням. *Bucht*). Хутчэй трэба думаць пра сувязь з слав. дзеясловам гукапераймальнага паходжання **buxъtěti* (гл. *бухцець)*.

Мабыць, таго ж паходжання і рус. дыял. (паўн.) *бýхта* 'вада са снегам на паверхні лёду', якое Фасмер, 1, 256 (услед за Калімам) няўпэўнена выводзіць з фін. *uhku*. Параўн. *бýкта, бýкча, бóхат*. Гл. Краўчук, БЛ, 1975, 7, 68.

**Бу'хта₃** 'круг складзенага каната'. Рус. *бýхта*, укр. *бýхта*. Запазычанне з гал. мовы (параўн. гал. *bogt* 'тс'; ССРЛЯ, 1, 712; Рудніцкі, 278; Сл. ин. сл. прыводзіць *bocht*). Але магчыма і запазычанне з ням. *Bucht* 'тс'.

**Бухта₄** 'буркун'. Гл. *бухцець*.

**Бу'хтавіца** 'гразкае месца на балоце' (пруж., Яшкін), *бýхтовыца* 'тс' (пруж., Талстой, Геогр., 184), *бýхтавыця* 'рэдкая гразь' (Клім.). Талстой, там жа, звязвае з бел. *бухтóрыць* 'непамерна ліць вадкасць'. Аднак можна прама звязаць з *бухцець* 'буркатаць' (як і *бýхта* 'глыбокае месца ў рацэ'). Гл. Краўчук, БЛ, 1975, 7, 68.

**Бухто'рыць.** Гл. *бухцець*.

**Бухцець** 'бурчаць', *бухта* 'буркун, буркуха', *бухціла* 'буркун, сварлівы мужчына' (Яўс.). Рус. *бухтéть* 'стукаць; бурчаць; гаварыць пустое, балбатаць', *бýхта* 'ілгун', *бухтúло* 'тс', укр. *бухтíти* 'гарэць; глуха гучаць', польск. *buchcić*, балг. *бýхтя* 'глуха шумець; кашляць' і г. д. Прасл. **buxъtěti*. Утварэнне ад **bux!*, **buxati* (гл. *бýхаць)* з суфіксам **-ъt-*, вельмі тыповым для гукапераймальных дзеясловаў. Гл. БЕР, II, 94; Рудніцкі, 278.

Далейшым утварэннем ад **buxъt-* з'яўляецца славянскі тып **buxъt-or-iti* (дзе суфікс **-or-* выконвае ўзмацняльную функцыю). Параўн. бел. *бухтóрыць* 'праз меру ліць вадкасць;

звыш меры піць, ліць' (Нас.), 'наліваць шмат, без патрэбы, звыш меры' (Юрч.), *бохто́рыць* 'наліваць' (тураў., Выг. дыс.), польск. *buchtorzyć* 'дурыць, баламуціць'.

**Бу́цве́ць.** Гл. *батва́.*

**Бу́цы** 'спартыўны абутак'. Рус. *бу́тсы.* Запазычанне з англ. *boots* 'тс' (мн. лік да *boot* 'чаравік').

**Буч**$_1$ 'верша' (БРС, Сцяшк. МГ), 'сець' (Маш., 36), 'прылада, зробленая з дубцоў для лоўлі рыбы' (КЭС, лаг.), 'сажалка, дзе можна лавіць рыбу'. Рус. дыял. (зах.) *буч* 'тс', польск. дыял. *bucz* 'тс'. Звычайна лічыцца запазычаннем з літ. мовы (літ. *bùčias, bùčius* 'тс' <лат. *bucis* 'кошык, сплецены з вербавых пруцікаў'; уласна літ. форма *bukìs* 'род рыбацкай сеці', гл. Фрэнкель, 61), параўн. яшчэ Варш. сл., 1, 225. Падрабязна аб усёй праблематыцы Урбуціс, Baltistica, V (1), 51—52.

**Буч**$_2$ 'пасудзіна з саломы, шытая дубцамі, для мукі' (КЭС, лаг., Янк. Мат.). Можна меркаваць, што слова таго ж паходжання, што і *буч*$_1$ 'верша (плеценая карзіна)'. Так Урбуціс, Baltistica, V (1), 51—52.

Наўрад ці можна думаць пра іншае паходжанне слова (напр., пра запазычанне з с.-в.-ням. *butschen* 'бочка для засолкі' або пра сувязь з укр. *бу́ша* 'цыліндрычная пасудзіна для салення рыбы '<ням.).

**Бу́чаё** 'месца, пакрытае каменнем, некалькі ўзвышанае' (Янк. Мат., Яшкін). Зборны назоўнік да **бу́чай* 'тс', які, мабыць, з'яўляецца ўтварэннем да **bukati, *bučati* 'гучаць, шумець і да т. п.' (суф. *-ай*<**-ějь*?, параўн. слав. **ručajь*, **ob(v)y-čajь*). Назвы ўзвышаных месц нярэдка ўтвараюцца ад гукапераймальных дзеясловаў. Параўн., напр., укр. *бе́лебень* 'узвышанае адкрытае месца; глыбокае месца ў вадзе' < *белебе́нити* 'балбатаць'. Матывацыя: *'адкрытае месца, дзе шуміць вецер' (гл. Балецкі, SSlav., V, 183—184). Параўн. яшчэ *бук*$_2$, *бу́ка*$_2$, *буко́та, бо́хат.* Краўчук, БЛ, 1975, 7, 68—69.

**Бу́чны** 'буйны' (Нас.; *б. пшаніца*). Укр. *бучний.* Мабыць, запазычанне з польск. *buczny* (падрабязна аб польскім слове Слаўскі, 1, 48). Рудніцкі (279—280) адносіць укр. *бучний* да *бу́ча* 'трывога, мітусня' (да апошняга параўн. Фасмер, 1, 256). Параўн. ст.-бел. *бучный* 'ганарысты, надзьмуты' (<польск.; Булыка, Запазыч.).

**Бу́чыць** 'заліваць бялізну лугам' (Бяльк.), *бук* 'бочка, у якой заліваюць бялізну лугам' (Бяльк.). Рус. *бу́чить* 'тс'. Запазычанне з с.-н.-ням. *bûken* 'тс' (ням. *bauchen*; да герм. сувя-

зей ням. слова і этымалогіі гл. Клюге, 56). Мацэнаўэр, Cizí sl., 121 (але памылкова аб паходжанні ням. слова); Бернекер, 99; Фасмер, 1, 256. Шанскі (1, Б, 242) хоча бачыць тут славянскае гукапераймальнае слова.

**Бушава′ць,** у розных значэннях (БРС, Шат., Касп.). Рус. *бушевать,* укр. *бушувати,* польск. *buszować* (лічыцца запазычаннем з укр., гл. Брукнер, 50; Слаўскі, 1, 51), балг. *бушувам.* Параўн. далей серб.-харв. *бушити* 'ўпасці з шумам', славен. *búšiti* (аб агні) і да т. п. Як дзеяслоў, які азначае 'шумець і да т. п.', звязана з **bux!, *buxati* (Слаўскі, 1, 51; БЕР, II, 95; параўн. і Брукнер, 50). У значэнні 'буйна расці, разрастацца', можа, звязана з слав. **buxnǫti* 'набухаць, набракаць', **bujьnъ* 'буйны' (гл. Праабражэнскі, 1, 57; Брукнер, 50; Фасмер, 1, 256; Шанскі, 1, Б, 242).

**Бушва′лак.** Гл. *бурвалак*$_2$. Форма *бушвалак* носіць сляды нейкай кантамінацыі. Параўн. яшчэ польск. *bęcwał, bencwał, bucefał* «grubas, kloc, bałwan, pień». (Варш. сл., 1, 141, 224).

**Бушла′т.** Рус. *бушлат,* укр. *бушлат.* Слова няяснага паходжання. Гінцэ (ZfSl, 5, 524) выводзіў з ням. *Buschurunk* 'матроская куртка, блуза і г. д.' (з кантамінацыяй са словам *халат).* Кіпарскі зыходзіў з ням. *Brustlatz* 'нагруднік' (гэту версію прымае Рудніцкі, 281).

**Буя′к** 'непакладзены бык' (ДАБМ, 883); ужо ст.-бел. (Булыка, Запазыч.). Булыка (Запазыч., 54) лічыць ст.-бел. слова запазычаннем з польск. *bujak* 'тс' (ад *bujać;* але параўн. і славац. *bujak* 'бык', якое Махэк$_1$ (50) лічыць вытворным, метатэзай, з **buhaj,* з ад'ідэацыяй да *bujný*). Слова гэта, аднак, ёсць у зах.-рус. гаворках і ў зах.-украінскіх. Таму не выключаецца, што яно ўтворана ад *буяць* (гл.) 'рыкаць, гудзець' або *буяніць* 'шалець'. Параўн. *буян* 'бык'. Гл. яшчэ Лабко, Бел.-польск. ізал., 70—72 (і карту 1).

**Буякі′** 'ягады Vaccinium uliginosum L.' (Кіс.). Укр. *буяк* 'тс'. Будзішэўска (Słown., 315), якая наогул запярэчвае існаванне супольных бел.-укр. архаізмаў, лічыць гэта слова пазнейшай бел.-укр. інавацыяй. Этымалогія слова не вельмі ясная. Сувязь з дзеясловам тыпу *буяць* 'буйна расці' вельмі няпэўная і не знаходзіць абгрунтаванне ў апісанні расліны (гл. Мяркулава, Очерки, 223—225; Нейштадт, Определитель, 434—435). Хутчэй за ўсё трэба зыходзіць з дзеяслова тыпу бел. *буяць* 'буяніць, шалець', укр. *буяти* 'тс'. Ягады буякоў выклікаюць ап'яненне, боль галавы і да т. п. Параўн. іншыя назвы буякоў: бел. *п'яніца, галаваболь, дурнічнік, дурніцы* і

да т. п. (Кіс.), укр. *болиголов, дурнопян, дурниця, дурнина, пияки* і інш. (Макавецкі, Sł. botan., 389—390), рус. *пьяница*, серб.-харв. *веселика* (Сіманавіч, 488), ням. *Rauschbeere, Trunkelbeere*. Параўн. яшчэ *бугаі* 'тс' (гл.). Сувязь з *буяк* 'бык' (гл.), калі такая ёсць (параўн. паралельную назву *бугаі*), вытлумачыць цяжка. У іншых мовах *бык* выступае тут толькі ў складаных словах: ням. *Ochsenklaiwern, Ochsentieke* 'Vaccinium uliginosum' (Марцэль, Pflanzennam., 5(3), 395). Гл. яшчэ *бықі* 'буякі'.

Іншая версія (Л. А. Малаш, вусн. паведамл.): параўн. дыял. назву буякоў—*буйніцы* (ад *буйны* 'вялікі'), якая даецца гэтай ягадзе для адрознівання яе ад падобнай, але меншай чарніцы. Тады можна думаць пра паходжанне ад *буяць* 'буйна расці; станавіцца буйнейшым'.

**Буя́н₁**, *буён* 'непакладзены бык' (ДАБМ, 883), *буя́н* 'бык' (Дразд.). Бясспрэчна, звязана з *буя́ць* 'бушаваць, шалець, буяніць і да т. п.' Форма *буя́н* вельмі падмацоўвае вывядзенне *буя́к* 'бык' таксама ад *буя́ць*. Гл. яшчэ Лабко, Бел.-польск. ізал., 70—72.

**Буя́н₂** 'птушка бык' (Дразд.). Ад *буя́н* 'бык'. Параўн. іншыя назвы гэтай птушкі: *бугай, бык*.

**Буя́н₃** 'дэбашыр', *буя́ніць*. Рус. *буя́н, буя́нить* і г. д. Шанскі (1, Б, 243) лічыць *буян* уласна рускім словам, вытворным ад *буй* 'смелы і да т. п.' Але хутчэй *буян, буяніць* — утварэнні ад *буяць* 'бушаваць, шалець і г. д.' прынамсі на бел.-рус. моўнай тэрыторыі.

**Буя́ніць.** Гл. *буян₃*.

**Буяра́к** 'сухі дол' (Яшкін). Таго ж паходжання, што і *байрак₁* (гл.).

**Буя́ць** 'буйна расці; расці ў лісце, бацвінне, на націну, салому' (БРС, Арх. Бяльк., слонім., КЭС, лаг., Інстр. I, Сцяшк. МГ, Гарэц., Жд., Інстр. III, Мат. Гродз., Янк. II, Янк. III), 'рыкаць (пра вала)' (Арх. Бяльк., слонім.), 'гудзець; лётаць з гудзеннем' (Сцяшк. МГ, Сцяц.), 'ярка гарэць' (Гарэц.), 'лятаць, парыць' (Гарэц.), 'буяніць, шалець' (Сцяц., Бяльк., Булг.). Рус. *буя́ть* 'разрастацца', укр. *буя́ти* 'буйна расці, разрастацца і г. д.', польск. *bujać*, чэш. *bujeti* 'хутка, буйна расці', серб.-харв. *бу́јати* 'буйна расці', балг. *буя́, буя́я* 'тс' і г. д. Прасл. **bujati* 'тс'. Старая этымалогія (Міклашыч, Türk. El., 1, 268): запазычанне з цюрк. *bujumak* 'расці' вельмі няпэўная. Звычайна лічыцца вытворным ад і.-е. кораня (базы)

**bheu̯ā-* 'быць, расці' (гл. *быць*). Параўн. і такія і.-е. формы, як ст.-інд. *bhūyān* 'большы, мацнейшы і да т. п.' Сюды ж і вытворнае **bujьnъ* 'бурны, буйны, пышны і г. д.' Гл. Мейе, Études, 378, Траўтман, 40; Фасмер, 1, 234; Бернекер, 98; БЕР, 2, 96; Слаўскі, 1, 49.

**Бы,** *б.* Рус. *бы, б,* укр. *би, б,* польск. *by,* чэш. *by* (1-я ас. *bych,* 2-я ас. *bys*) і г. д. Па паходжанню гэта 3-я ас. адз. л. аорыстнай формы ад **byti* (гл. *быць*). Бернекер, 115; Фасмер, 1, 257; Слаўскі, 1, 52; параўн. яшчэ Шанскі, 1, Б, 243.

**Быга́нка** 'панос' (палес., Клім.). Палеская фанетычная форма з зыходнага **бѣганъка* (да *бегаць*). У параўнанні з ст.-бел. *бегунка,* укр. *бігунка,* рус. *бегунка* 'тс' (да апошняга гл. Кохман, Kontakty, 103), якія, здаецца, з'яўляюцца запазычаннем з польскай мовы, палескае слова — утварэнне на беларускай глебе (адпаведнасці ў польск. мове няма: польск. *bieganka* азначае 'род дзіцячай гульні', гл. Варш. сл., 1, 149).

**Бы́дла** (засведчана з XV ст.; Булыка, Запазыч.). Укр. *би́дло* (з XV ст.), рус. дыял. *бы́дло.* Запазычанне з польск. *bydło* 'тс' (**by-dlo,* да **byti* 'быць', гл. Слаўскі, 1, 52). Слаўскі, там жа; Рыхардт, Poln., 38; Кюнэ, Poln., 47; Рудніцкі, 121; Фасмер, 1, 258. Параўн. яшчэ Шанскі, 1, Б, 243.

**Бык.** Рус. *бык,* укр. *бик,* польск. *byk,* чэш. *býk,* в.-луж., н.-луж. *byk,* ст.-слав. **быкъ,** балг. *бик,* серб.-харв. *би̑к,* славен. *bìk.* Прасл. **bykъ* (форма **bъkъ,* якая заснавана на серб.-харв. *ба̏к* 'бык' і якую вылучаюць Бернекер, 112; Машынскі, Pierw., 227, здаецца, памылковая, бо серб.-харв. *би̑к,* мабыць, запазычанне з далм. *bu̯ák* < лац. *vacca* 'карова' і з **bykъ* сувязі не мае, гл. Фасмер, RS, 4, 169; Фасмер, 1, 258). Звязана з слав. **bukati, *bučati* 'мукаць, раўці, шумець і г. д.' (параўн. ст.-рус. *бучати,* рус. *бучать,* чэш. *býkati, boukati, bučeti,* польск. *bykać, buczeć* і да т. п.). У аснове ляжыць і.-е. гукапераймальнае **b(e)u̯-, *bh(e)u̯-.* Параўн. літ. *bukti* 'мукаць', лат. *bucêt* і г. д. Міклашыч, 27; Бернекер, 112; Праабражэнскі, 1, 57; Слаўскі, 1, 52; Махэк$_2$, 78; Фасмер, 1, 258; Рудніцкі, 1, 121—122; БЕР, 1, 47; падрабязна Трубачоў, Происх., 41—42. Вельмі няпэўнай з'яўляецца версія пра запазычанне з цюрк. *buka* 'тс' (так Корш, AfslPh, 9, 493; Фасмер, RS, 3, 263 і інш.; гл. Фасмер, 1, 258). Вельмі няпэўна Шахматаў, AfslPh, 33, 87 і наст. (запазычанне з кельт. *boukkô* 'карова'). Гл. яшчэ Шанскі, 1, Б, 243—244. Параўн. яшчэ Грыбл, Linguistics, 1973, № 113, 53—61 (сувязь з **by-ti*).

**Быкі′** 'буякі, Vaccinium uliginosum' (карэліц., Арашонкава і інш., Весці АН БССР, 1972, 1, 82: дыял. форма *быкé*). Як думае Арашонкава і інш., там жа, гэта вытворнае ад *буякí* 'тс'. Няпэўна. Ёсць і іншыя назвы з падобнай семантыкай. Параўн. *бугаí* 'буякі', *буякí* (там і матывацыя). Не выключаецца, што і *быкі* 'буякі', як і *бугаі* 'тс', толькі «пераклад» слова *буякі,* якое пры пашырэнні з дыялекту ў дыялект «асэнсавалася» як вытворнае ад *буяк* 'бык'.

**Бы′кус** 'перарослы' (Нас.). Жартаўлівае ўтварэнне (паводле лацінскіх слоў на *-ус)* ад *бык.*

**Быллё,** *бы́лле, былі́на, бы́льнік* і г. д. Усё да прасл. *byľь 'расліна', *byľьje, якое звязана з дзеясловам *byti (першапачаткова 'расці'). Гл. Айцэтмюлер, ZfslPh, 22, 363—372; Мяркулава, Очерки, 122; Фасмер, 1, 259. Параўн. яшчэ *булінá.*

**Бы′ля** 'абы (бы́ля-што)' (Сцяшк. МГ, Сцяц.). Ст.-бел. *быле* 'абы' (Булыка, Запазыч.). Запазычанне з польск. *byle* 'тс' (<**by-le*, да дзеяслова **byti* і частка *-le,* гл. Брукнер, 51; Слаўскі, 1, 53). Сюды і *былí б* 'толькі б' (Нас.). Арашонкава (Бел.-польск. ізал., 11) лічыць, што бел. *быле-штó* запазычана прама з польск. *byle co.*

**Бына′ймней,** *бынáмней* 'калі б; ледзь' (Нас.). Запазычанне з польск. *bynajmniej.* Кюнэ, Poln., 47.

**Бы′стры** (БРС, Бяльк., Сцяшк. МГ). Рус. *бы́стрый*, укр. *би́стрий,* польск. *bystry,* чэш. *bystrý,* ст.-слав. **быстръ** і г. д. Прасл. **bystrъ* 'хуткі, быстры, ясны, бадзёры і да т. п.' Этымалогія слова няясная, ёсць шмат версій. Хутчэй за ўсё слав. **bystrъ* звязана з герм. словамі: ст.-ісл. *bysia* 'імкліва выцякаць', швед. *busa* 'кідацца ўперад', фрыз. *bûsen* 'бушаваць, шумець', *būsterig* 'бурны і г. д.' Агляд гл. у Фасмера, 1, 259—260.

**Быт,** *быццё.* Гл. *быць.*

**Бытапі′сец.** Запазычанне ў дакастрычніцкі перыяд з рус. *бытопи́сец.* Гл. Крамко, Гіст. мовы, II, 142.

**Бы′ццам,** таксама *бýццым, бýцца, бы́дта, бы́дтам, бы́тта* і інш. Укр. *буцíм, будьсíм* і г. д., рус. *будто* і да т. п. У бел. мове шмат розных форм. Усе яны тлумачацца вытворнымі ад дзеяслова *быць* у камбінацыі з рознымі часткамі. Падрабязна агляд бел. і ўсх.-слав. форм і магчымыя этымалогіі гл. Копечны, Slavia, 39 (3), 1970, 330—333.

**Быць.** Рус. *быть,* укр. *бýти* (дыял. зах. *би́ти),* польск. *być,* чэш. *být́i,* в.-луж. *być,* н.-луж. *byś,* ст.-слав. **быти,** серб.

харв. *бйти,* славен. *biti.* Прасл. **byti* 'быць'. Параўн. літ. *bũti* 'быць', лац. *fuī* 'я быў', ст.-інд. *bhūtíṣ* 'быццё', грэч. φύομαι 'раблюся', гоц. *bauan* 'жыць' і г. д. (агляд і.-е. форм і слав. вытворных гл. Траўтман, 41—42). Бернекер, 114; Праабражэнскі, 1, 58—59; Фасмер, 1, 260; Слаўскі, 1, 52; Махэк$_2$, 78—79; Брукнер, 51—52. І.-е. **bheu̯ā-* (цяжкая двухскладовая база, гл. Гірт, Gram., 2, 135—136; Гірт, Ablaut, 105; Бругман, 139 і наст.). Параўн. аблаутную форму **baviti* (гл. *бáвіцца*$_1$). Лічаць, што першапачатковае значэнне дзеяслова 'расці, узнікаць'. Параўн. яшчэ Айцэтмюлер, AfslPh, 22, 363—372. Іначай Ондруш (JČ, 14, 107), які зыходзіць з першапачатковага 'рухацца, бегчы' (параўн. грэч. φεύγω 'бягу'). Сюды прасл. **bytъ,* **bytьje* 'быццё' (агляд форм гл. Бернекер, 113—115).

**Бычкі′**, *бэ́чке, бічайкі* 'завязкі ў адзежы' (Сакал.). Мабыць, да *бічóўка, бічэ́йка* 'вяровачка' (гл.).

**Бычовны′к** 'бераг (канавы, сажалкі і інш.)' (Клім.). Відавочна, палеская форма (з фанетычным развіццём **ě*>*ы* пасля губных) слова *бічаўнік* 'бераг, берагавая паласа' (Яшкін), гл.

**Бэ′бахі** 'ўнутранасці, жывот, вантробы, кішкі', пераносна 'markрознае адзенне, бялізна, падушкі і г. д.' (БРС, Байк.-Некр., Бір. Дзярж., Янк. БП, Мат. Гродз., Інстр. І, Сцяшк. МГ, Бесар.). Таксама ў форме *бэ́бухі* (Нас., Касп., Бяльк.) і ў адз. ліку *бэ́бах, бэбух.* Мабыць, гукапераймальнае, як і *бабухí* (гл.). Параўн. укр. *бéбехи* 'тс', рус. дыял. *бéбехи,* польск. *bebechy*, укр. *бебéхнути* 'ўпасці (з шумам)' і г. д. Гл. Ільінскі, РФВ, 62, 237; Слаўскі, 1, 29; Рудніцкі, 95. Сюды ж, здаецца, і дзеяслоў *бэ́бушыць* (Нас.) 'моцна біць'. Кюнэ (Poln., 44) думае пра запазычанне ўсх.-слав. слоў з польскай мовы.

**Бэ′блах** 'недаразвіты плод'; перан. 'дзіця' (Клім.). Мабыць, з польск. (параўн. *będełuch*, *bąbel, bębel, bąbelek* і г. д. 'бурбалка; бубен; дзіця'; Варш. сл., 1, 108, 140).

**Бэ′бухі** 'ўнутранасці і да т. п.' Гл. *бэ́бахі.*

**Бэ′бушыць** 'моцна біць'. Гл. *бэ́бахі.*

**Бэ′гна** 'багна' (Шат., Яшкін). Другасная форма слова *багнó* (гл. *бáгна*$_1$). Адносіны вакалізму, як у *барсáць: бэ́рсаць* (гл.). Няма ніякай сувязі з чэш. *behno* (да чэш. змены *bahno*>*behno,* гл. Цуржын, Studie, 51—52, карта IV).

**Бэ′да** 'аднаколка; двухколка' (Нас.). Як і *бедá* (гл.; там і літ-ра), з польск. *bieda* 'тс' (<лац. *biga*). Але *бэ́да,* здаецца, адлюстроўвае палескую фанетыку (калі мець на ўвазе народна-этымалагічную сувязь з **běda* 'бяда').

**Бэдня** 'бочка' (Кольб.). Запазычанне з польск. *bednia* 'тс' (прасл. **bъdьnь*). Усх.-слав. форма *бо́дня* (гл.; там і літ-ра).

**Бэж,** *бэ́жавы.* Рус. *беж, бе́жевый.* Новае запазычанне з франц. мовы (франц. *beige* 'тс'). Гл. Шанскі, 1, Б, 70.

**Бэз** 'бэз, Syringa vulgaris' (Нас., Касп., Шат., БРС, Сцяшк. МГ, Гарэц., Янк. I, Кіс., Лысенка ССП, Бесар., Бяльк.); *бэз* 'бузіна, Sambucus (nigra, racemosa) L.' (Кіс., Яруш.), *бэ́за* (Нас., Гарэц., Кіс.), *бе́заўе* 'месца, якое зарасло бузіннікам' (Яшкін). Укр. *без, бе́зя* 'тс', рус. дыял. *бе́за.* З польск. *bez* 'тс' (<прасл. **bъzъ;* гл. Бернекер, 111; Слаўскі, 1, 30—31). Кюнэ, Poln., 44. Усх.-слав. форма — *боз.* Гл. яшчэ *бэзг, бэзд, бэст.* Можа, сюды і *бэж* 'язмін' (Бяльк.).

**Бэ́збаш** 'вэрхал, гармідар' (палес., КЭС). Ст.-укр. *безбашный, безбаш* (з XVII ст., Цімчанка), укр. *бе́збеш* 'без мэты, без парадку'. Здаецца, запазычанне з тур. мовы (магчыма, калька): да тур. *baş* 'галава' (параўн. яшчэ *başsiz* 'безгаловы, безначальны, без кіраўніцтва, неабмеркаваны'). Гл. Краўчук, ЛБ, 8, 71—72 (там і прыклады з помнікаў).

**Бэзг** 'бэз' (Мурашка, Лінгв. даследв., БДУ, Мінск, 1971, 153—154). Прасл. **bъzgъ* (ст.-чэш. *bezh,* славен. *bezg,* серб.-харв. *базаг;* гл. Махэк, Jména rostl., 221—222; Махэк$_2$, 52—53) няма ў польскай мове (якая толькі адна можа быць крыніцай запазычання бел. слова). Мяркуем, што бел. *бэзг* — марфалагічна-фанетычная трансфармацыя польск. *bezd* 'тс' (гл. *бэзд*), новаўтварэнне з *бэзд,* заснаванае на ўскосных склонавых формах (фанетычных).

**Бэзд,** *бэст* 'бэз' (Мурашка, Лінгв. даследв., БДУ, Мінск, 1971, 153—154). З польск. дыял. *bezd, best* 'тс' (аб гэтых формах гл. Брукнер, 22; параўн. яшчэ балг. *бъздовина*).

**Бэ́йбас** 'нехлямяжы чалавек, гультай' (Касп.). Укр. *бе́йбас* 'дурань, вялікі нехлямяжы чалавек', рус. дыял. *бейбас* 'дурань'. Таго ж паходжання, што і *ба́йбас* (гл.).

**Бэйзехалэ́ймус** 'бяда' (Нас.). Рус. дыял. (зах.; адкуль?) *бейзехалеймус.* Запазычанне з яўр.-ням. *bejse chalejmes* 'паганыя сны'. Вінер, ЖСт., 1895, 1, 60; Фасмер, 1, 146.

**Бэ́йла:** *п'яны, як бэ́йла* (Клім.). Запазычанне з польск. *pijany jak bela* (дзе *bela* 'пакунак' <ням. *Ballen;* аб польск. слове гл. Брукнер, 20). Сюды ж, мабыць, і ўкр. дыял. *бейла* 'дурань, асталоп'. Польск. *bela* можа быць скарачэннем і ад *belka* 'бэлька' (параўн. укр. *напивсь, як бэлька*).

**Бэ'кас** 'бакас' (палес., КЭС, Бесар.). Укр. *бéкас*. З польск. *bekas* 'тс' (<франц. *bécasse*). Параўн. *бакáс*. Аб польскім паходжанні бел. слова сведчыць націск.

**Бэ'каць** 'чытаць па складах' (Сцяц., Шат.) (аб авечках; Янк. II, ДАБМ, 894), *бэ́чыць* (аб казе, баране; Бесар.); 'плакаць, капрызіць' (Сцяшк. МГ., Янк. Мат.). Рус. *бéкать*, укр. *бéкати*, польск. *bekać, beczeć,* чэш. *bekati, bečeti,* серб.-харв. *бéчати* 'бэкаць'. Ад гукапераймальнага выклічніка *бэ* (рус. *бе*, укр. *бе*; таксама і ў іншых мовах: лат. *bę̄*, грэч. βῆ, ням. *bäh* і г. д.). Бернекер, 48; Слаўскі, 1, 29; Фасмер, 1, 146.

**Бэ'лька** (БРС, Мядзв., Яруш., Шат.; Касп., Бяльк., Бесар., Сцяшк. МГ, Лысенка ССП, Інстр. I). Укр. дыял. *бéлька*. Запазычанне з польск. *belka* 'тс' (<ням., гл. Брукнер, 20).

**Бэ'мбаль** 'пухір' (Жд.), *бэ́мблі* 'пухіры' (Сцяц.). Запазычанне з польск. *bębel, bąbel* 'тс' (а гэта да слав. экспрэсіўнай асновы **bǫb-* 'пухір і да т. п.'; гл. Бернекер, 78; Фасмер, 1, 226, над *бублик;* Слаўскі, 1, 29).

**Бэ'нбан** 'частка малатарні, дзе круцяцца цапы ды абіваюцца снапы' (КЭС, лаг.). З польск. *bęben* 'барабан; барабан у малатарні' (аб польскім слове гл. Слаўскі, 1, 31).

**Бэнка'рт** 'байструк' (Нас.). Гл. *банкáрт*.

**Бэнсь** 'пазашлюбнае дзіця' (Сцяшк. МГ, Бяльк., Жд.), *бэ́нься* 'тс' (Шат.). З польск. *bęś* 'тс' (а гэта вытворнае ад *bękart* 'тс', гл. Варш. сл., 1, 141). Да словаўтварэння параўн. польск. *brytan*: *bryś* >бел. *брытáн, брысь* (гл.). Параўн. *бансю́к*. Падрабязна аб польскім слове гл. Брукнер, 23—24.

**Бэнцаль** 'байструк' (Некр.). Бясспрэчна, з польск. *bęcwał, bencwał* 'дурань, пень, нехлямяжы' (а гэта, магчыма, ад назвы каня *Bucefał,* гл. Варш. сл., 1, 141; Брукнер, 24).

**Бэ'нцнуць** 'ударыць рэзка, з сілай' (Касп., Сцяц.), 'выцяць' (Сцяшк. МГ), *бэнц!* 'выклічнік, які выражае хуткае падзенне або ўдар з гукам' (Нас., Бяльк.); 'гук ад пляску, калі выцяць па мяккай рэчы' (КЭС, лаг.). З польск. *bęcnąć, bęc* (гукапераймальнае ўтварэнне, гл. Слаўскі, 1, 31).

**Бэр хадзіць** 'слова для адгону кароў на пашы' (Інстр. III). Можа, запазычанне з польск. мовы. Параўн. польск. (паляўнічы выраз) *iść berem* 'асцярожна, хаваючыся, падыходзіць да звера' (Варш. сл., 1, 115, лічыць, што *ber* < укр. *бер* 'кладка, малы мосцік; сцежка'). Але хутчэй за ўсё звязана з выклічнікамі тыпу ўкр. *бир, бирь,* якія ўжываюцца як падзыўныя і адгонныя словы (падрабязней гл. пад *біркóвы*).

**Бэ́ра** 'гатунак грушы'. Рус. *бе́ре,* польск. *bera* і г. д. Запазычанне з зах.-еўрап. моў (паводле Варш. сл., 1, 115, з франц. *beurré*). Бел. слова непасрэдна з польск.

**Бэ́рва** 'кладка, жэрдачка праз рэчку ці праз канаву' (Сцяшк. МГ), *бе́рва* 'кладка з бярвенняў ці тоўстых жардзін на гразкім месцы' (Яшкін). Ст.-рус. *бервь* 'плыт', укр. *бе́рва* 'кладка', чэш. *břev* 'перакладзіна, мосцік', балг. *бръв* 'перакладзіна; мосцік; брод' і г. д. Прасл. **bьrvь, *brьvь, *bьrьvь.* Бясспрэчна, звязана з *бервяно́* (гл.). Параўн. яшчэ *барвя́к* 'брод' (гл.). Сюды адносіцца і *бе́рба* 'кладка' (Яшкін). Гэта апошняя форма — вынік асіміляцыі *(бе́рва>бе́рба).*

**Бэ́рсаць** 'блытаць' (Сцяшк. МГ), 'пісаць; нячыста жаць' (Сцяц., Шат.). Варыянт *бэ́рсаць* (**бърс-*) замест **борсаць,* магчыма, экспрэсіўнага паходжання. Але хутчэй за ўсё гэта гіперкарэктная форма (у бел. мове ненацiскное *э>а*): тут было «адноўлена» неэтымалагічнае э. Гл. *барса́ць.*

**Бэст** 'бэз'. Гл. *бэзд.*

**Бэ́стынь** 'бессаромны, нахабны' (Сцяшк. МГ). Утварэнне ад польскага дзеяслова *bestwieć, bestwić się* 'дзічэць, рабіцца бессаромным і г. д.' Параўн. *бэ́сціць.* Не выключаецца, што *бэ́стынь* (суф. *-ынь*?) можа быць утварэннем ад *bestia.*

**Бэ́сціць** 'лаяць, ганьбіць, зневажаць; мазаць адзежу' (Шат., КЭС, лаг., БРС, Бір. Дзярж.), *бэ́сціцца* 'прыпадабняцца жывёле' (Гарэц.). Параўн. ст.-укр. *беcтвитися* (з XVI ст.). Запазычанне з польск. *bestwić* 'тс' (аб польскім слове гл. Брукнер, 22: да *bestja* <лац. *bestia* 'звер'). Параўн. *бэ́штать.* Форма *бэ́сціцца* адлюстроўвае польск. *bestwić się.* Непасрэдна з польск. *bestja* запазычана бел. *бэ́стыя* (Нас.).

**Бэ́та** 'нячыстая, ганебная справа, звязаная з махлярствам, круцельніцтвам' (КЭС, лаг.). Можа, таго ж паходжання, што і ўкр. *бета* 'ўмельства' (а гэта, відаць, скарачэнне з *кебе́та* 'ўмельства, здольнасць' <тур.-араб., гл. Крымскі, Др.-киев. говор, 12). Іншая этымалогія: сувязь з карцёжным тэрмінам польск. *bet, labet* (<франц. *bête, la bête*), укр. *лабе́ти* (*пі́йматися в лабети*), рус. *попасть в лабе́т* 'трапіць у няёмкае становішча'. Гл. падрабязна Балецкі, SSlav., 9, 358.

**Бэ́тка** 'грыб' (Сцяшк. МГ). Укр. дыял. *бе́тка* 'тс'. З польск. *betka (bedłka, bedła,* мн. *bdły;* да польскіх форм гл. Бартніцка-Дамбкоўска, Nazwy grzyb., 26—27) 'тс' (зах.-слав. **bъdъla;* параўн. і чэш. *bedla;* гл. Слаўскі, 1, 29; Брукнер, 19; Махэк$_2$, 50; магчыма, сюды ж і рус. дыял. *бли́цы* 'грыбы', гл. Фасмер, 1, 176; Мяркулава, Очерки, 173—174).

**Бэ'штать** 'лаяць, ганьбіць' (КЭС, палес.). Укр. *бéштати* 'тс'. З польск. *besztać* 'тс', якое непасрэдна звязана з лац. *bestia* (польск. *bestja, bestia*). Гл. Бернекер, 53. Але Брукнер (22) лічыў, што *besztać* з венг. *beste* 'звер; лаянкавае слова' (<лац. *bestia*; MESz, 1, 288—289). Гл. яшчэ Рудніцкі, 119; Тамаш, 108—109. Параўн. *бэ́сціць*.

**Бяда'**. Гл. *бéдны*.

**Бядзёлы** 'моцны' (Шат.). Метатэза з *дзябёлы* (гл.).

**Бядро'** 'сцягно'. Рус. *бедрó,* укр. *бедрó,* польск. *biodro,* чэш. *bedro,* балг. *бедрó,* серб.-харв. *бѐдро* і г. д. Прасл. **bedro*. Найбольш верагодным з'яўляецца параўнанне з лац. *femen, femur* 'тс'; Бернекер, 48; Слаўскі, 1, 33—34; Фасмер, 1, 143.

**Бядры'нец** 'расліна Pimpinella saxifraga L.', рус. *бедренéц,* укр. *бедринець, бедрець, бедренець* і інш. (Макавецкі, Sł. botan., 269), польск. *biedrzeniec,* чэш. *bedrník, bederník, bedernica* (дыял.), серб.-харв. *бѐдринац.* Прасл., мабыць, **bedrьnьcь,* да **bedro* 'сцягно' (расліна ўжываецца ў народнай медыцыне — павівальнай справе). Махэк$_2$, 50. Іншыя версіі ў Фасмера, 1, 142—143. Параўн. яшчэ Балецкі, SSlav., 5, 182—183. Лант (Language, 28, 128—133), спасылаючыся на ст.-слав. **бедръно,** зыходзіць з **bedrьnъ* 'багаты', якое адпавядае санскр. *bhadraḥ* 'удача, шчасце; спрыяльны' (<і.-е. **bhed-r-*).

**Бязме'н**. Рус. *безмéн,* укр. *бéзмін,* польск. *bezmian.* Няяснае слова. Хутчэй за ўсё запазычанне (з чув. або араб.-тур.). Агляд шматлікіх версій у Фасмера, 1, 144—145.

**Бязо'дня** 'бездань', укр. *безóдня* і г. д. Да *бéздань* (гл.).

**Бязу'ла** 'гультай' (Касп.), *бязýльны* 'сваволны, гарэзлівы' (БРС). Няяснае слова. Можа, да *без* і *ул-* (*вул-іца*)? Параўн. рус. *безýла* і г. д.

**Бязу'мінка** 'тонкая дошка'. Гл. *базýманка.*

**Бязу'рны** 'гарэзлівы' (Касп.). Як і *базýрны* (гл.), звязана з *абазýрыць.*

**Бязэ'нніца** 'бездань' (Сцяц.), *бязэ́ніца* 'тс', *бязэ́нны* 'бяздонны' (Сцяшк. МГ). Утварэнне ад *бéзна* (<*бéздна*).

**Бязь** 'гатунак тканіны'. Рус. *бязь,* укр. *бязь.* Запазычанне з тур.-араб. *bäzz,* азерб. *bäz.* Міклашыч, Türk. El., 1, 263, Nachtr, 1, 14; Міклашыч, 415; Фасмер, 1, 261; Шанскі, 1, Б, 248.

**Бяле'йкі** 'кросны для кужалю, тонкага палатна' (Бяльк.). Да *біла* (<**bi-dlo*).

**Бялі'зна.** Укр. *білйзна* 'тс'. Слав. **bělizna* (ад **bělъ* 'белы') — гэта спачатку 'белы колер' (параўн. рус. *белизнá*). Такія словы лёгка паддаюцца канкрэтызацыі («рэчы, звязаныя з белым»). Адсюль і перанясенне націску. Можна ставіць пытанне і аб запазычанні з польск. *bielizna* 'тс', але для гэтага не хапае даных. Параўн. Слаўскі, 1, 33.

**Бялу'га,** рус. *белýга,* укр. *білýга.* Ад **bělъ* 'белы'+суфікс *-*ǫga*. Гл. Трубачоў, Дополн., 1, 149.

**Бяльмо'.** Рус. *бельмó,* укр. *більмó,* польск. *bielmo,* чэш. *bělmo* і г. д. Прасл. **bělьmo,* утварэнне суфіксам *-ьmo* ад **běl-* 'белы'. Слаўскі, 1, 33. Сюды як метафара *бéльма* 'вочы' (Сцяц., Сцяшк. МГ), таксама *бéльмы* (Нас., Сцяшк. МГ, Бяльк., Шат.), *бельмачы́* (Сцяц.), *більмакí* (Бяльк.).

**Бяля'сы** 'белаваты, з белымі плямамі' (Нас.). Вытворнае ад *бéлы.* Параўн. рус. *белёсый,* польск. *białasy,* славац. *belasý*. Гл. Трубачоў, Дополн., 1, 148.

**Бянёха** 'нянька, якая балуе дзіця; дзіця, якое любіць сядзець на руках' (Нас.). Рус. *бенёха* 'любімчык'. З яўр.-ням. *benjochid*. Вінэр, ЖСт., 1895, № 1, 59; Фасмер, 1, 150.

**Бянтэ'жыць.** Укр. *бентéжити* 'тс'. Слова вельмі няяснага паходжання. Рудніцкі (104) хоча бачыць сувязь з укр. *бентéг* 'паслушнік' (слова, якое таксама не мае этымалогіі). Шэрэх (ZfslPh, 23(1), 1954, 160) бачыў тут вытворнае ад зах.-укр. *бетéг(а)* 'хвароба; ні на што няздатны чалавек' (<венг.) з арго-інфіксам *-н-*. Вельмі няпэўна.

**Бярда'нка** 'від стрэльбы'. Рус. *бердáнка,* укр. *бердáнка.* Бел. і ўкр. словы, мабыць, з рус. Ад імя канструктара гэтай стрэльбы — *Бярдана.* Фасмер, 1, 152; Шанскі, 1, Б, 92.

**Бяржу'н** 'высокі чалавек' (Бяльк.). Гл. *біржáк.*

**Бярло'г,** таксама *бярлóга* (Шат., Сцяшк. МГ, Яшкін), *бералóг* (Яшкін). Рус. *берлóга,* укр. дыял. *берлíг, берлóга,* польск. *barłóg,* чэш. *brloh,* серб.-харв. *бр̏ъог,* славен. *brlòg* і г. д. Славянскія словы маюць значэнне 'бярлог, логава, хаціна; пячора; саламяны подсціл, смецце і да т. п.' Лічыцца, што слав. **bьrlogъ,* **bьrloga* звязаны з серб.-харв. *бр̏љати* 'блытаць, пэцкаць', *бр̀љага* 'лужына', балг. *бърлóк* 'лужына' і далей з літ. *bur̃las* 'гразь, бруд'. Гл. Фасмер, 1, 158—159.

**Бярно'** 'бервяно'. З **бьрвьно*. Гл. *бервянó.*

**Бяро́за.** Рус. *берёза,* укр. *бере́за,* польск. *brzoza,* чэш. *bříza,* балг. *бре́за,* серб.-харв. *брѐза* і г. д. Прасл. **berza* 'бяроза'. І.-е. **bherāxĝ-*. Параўн. літ. *béržas,* лат. *bęr̃zs*, ст.-інд. *bhūrjáḥ* ст.-ісл. *bjǫrk,* ст.-в.-ням. *birihha* 'бяроза'. І.-е. корань, як думаюць, азначаў 'белы, светлы': бяроза — *'светлае дрэва'. Сюды ж адносіцца і **berstъ* 'бераст'. Праабражэнскі, 1, 24; Бернекер, 52; Фасмер, 1, 154; Брукнер, 45; Слаўскі, 1, 47; Махэк₂, 74 (апошні некалькі іначай). Да выразу *бяро́завая каша,* гл. Скрыпнік, Мовознавство, 1967, № 2, 83.

**Бяро́зка** 'расліна бярозка палявая, Convolvulus arvensis L.' (Кіс.). Рус. *берёзка,* укр. *бере́зка, бері́зка* 'тс'. Да *бяро́за* (гл.): лісточкі бярозкі могуць нагадваць лісточкі некаторых відаў маладой бярозы. Але не выключаецца, што тут маем назву ад кораня са значэннем 'плясці, аплятаць': **berezъka* (усх.-слав.) <**berz-* 'аплятаць'<**ob-verz-* (дэкампазіцыя). да слав. **verz-*: **vьrz-* 'вязаць, плясці'. Так Краўчук, Белар. лекс., 85. З фанетычных меркаванняў не пераконвае Мельнічук, Мовознавство, 1962, № 2, 21 (дэфармацыя назваў тыпу *берлозга́*).

**Бяро́ста.** Рус. *берёста,* польск. *brzesta, brzosta,* чэш. *břesta.* Прасл. **bersta.* Звязана з *бе́раст, бяро́за* (гл.). Падрабязней гл. Трубачоў, Эт. сл., 1, 197—200.

**Бярэ́ма,** *бярэ́мя.* Рус. *бере́мя,* ст.-слав. **брѣмѧ**, польск. *brzemię,* чэш. *břímě,* балг. *бре́ме,* серб.-харв. *брѐме* і г. д. Прасл. **ber-mę* 'бярэмя'. Адносіцца да дзеяслова **bьrati* **berǫ* ў яго старажытным значэнні 'несці' (гл. *браць*). Траўтман, 31; Мейе, RS, 2, 62; Слаўскі, 1, 46; Фасмер, 1, 155. Гл. яшчэ Порцыг, IF, 42, 221 і наст.; Ісачанка, Зб. Гаўранку, 1, 114—130 (асабліва 121—122); Матл, там жа, 131—151.

**Бясе́да.** Рус. *бесе́да,* укр. *бе́сіда,* польск. *biesiada,* чэш. *beseda,* ст.-слав. **бесѣда**, балг. *бесе́да,* серб.-харв. *бѐседа* і г. д. Прасл. **besěda.* Звычайна тлумачыцца як **bez-*+**sěda* 'сядзенне знадворку' (дзе **bez-* мае яшчэ старое значэнне 'знадворку, звонку', параўн. ст.-інд. *bahíṣ* 'звонку'). Бернекер, 52—53; Праабражэнскі, 1, 25—26; Фасмер, 1, 160; Слаўскі, 1, 33.

**Бяспе́ка,** *бяспе́чны.* Укр. *безпе́ка, безпе́чний,* рус. *беспе́чный,* польск. *bezpieczny,* чэш. *bezpečný* і г. д. Да **bez-* 'без' і **pek-* 'клапаціцца'. Гл. Шанскі, 1, Б, 104.

**Бячэ́йка** 'абечак'. Гл. *біча́йка*₁, *абе́чак.*